АЛЕСЬ МАСАРЭНКА

# БАРГУЗІНСКАЕ ЛЕТА



АЛЕСЬ МАСАРЭНКА

# БАРГУЗІНСКАЕ ЛЕТА



РАМАН

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1982



---

# *АКТ*

па вініках праверкі гатоўнасці брыгады тэхніка-будаўніка Сінёва Івана Сцяпанавіча на права вядзення тапографа-геадэзічных работ у раёне ракі Баргузін і яе прытокаў.

Гэты акт складзены 29 красавіка 1974 года на галаўной базе Экспедыцыі № 7 камісіяй у складзе галоўнага інжынера Каралькова І. В., намесніка галоўнага інжынера па тэхніцы бяспекі Шмаціна Я. І., старшыні мясцкома Курчавага А. Л., грамадскага інспектара па ахове працы Есіпёнка А. Ю. у прысутнасці кіраўніка партыі брыгадзіра Сінёва і членаў брыгады: Кружліка Ф. М., Шумка В. А., Вуцёхі М. Д., Міхалёва А. Р., Корнева У. Т., Бокуша А. М., Гардуноўскага П. Т., Шчыгла А. Я.

Праверкай устаноўлена:

1. Брыгада тав. Сінёва І. С. у складзе дзевяці чалавек гатова працаваць у таежных умовах.

2. Па даных санэпідстанцыі, участак работы брыгады мае ачагі заражэння клешчавым энцэфалітам.

3. Кіраўнік брыгады тав. Сінёў І. С. і яго памочнік тав. Кружлік Ф. М. паспяхова вытрымалі праверачныя экзамены па правілах тэхнікі бяспекі, абаранілі праект арганізацыі палявых работ і маюць на гэта адпаведныя пасведчанні, а ўсе члены брыгады прайшлі ўводны інструктаж на месцы найма, абучаны неабходным практычным навыкам.

4. Кіраўнік і ўсе члены брыгады па медыцынскіх паказаннях дапушчаны да работы ў вышэйназваных умовах мясцовасці.

5. Зроблены прышчэпкі ад заражэння клешчавым энцэфалітам Міхалёву А. Р., Корневу В. Т., Бокушу А. М., Гардуноўскаму П. Т., Шчыглу А. Я.

6. Брыгада мае ў наяўнасці наступныя сродкі па тэхніцы бяспекі:

— карты тапаграфічныя, 2 камплекты;

— радыёстанцыі «Нетра» з запасам сілкавання на ўвесь тэрмін работ, 3 шт.;

— індывідуальны непарушны запас харчавання ў колькасці 18 камплектаў;

— зброя агнястрэльная (стрэльба «тулка», дубальтовая, замацавана за памочнікам кіраўніка брыгады Кружлікам Ф. М.; малакаліберная вінтоўка — за кіраўніком брыгады Сінёвым І. С.);

— запалкі ў непрамакаемай упакоўцы, 18 карабкоў;

— компасы наручныя, 9 шт.;

— ракеты сігнальныя, 20 шт.;

— аптэчкі медыцынскія, 3 шт.;

— рукавіцы брызентавыя, 36 пар;

— палаткі брызентавыя, 2 шт.;

— мяшкі спальныя, 9 шт.;

— кошмы юртавыя, 9 шт.;

— біклажкі індывідуальныя, паходныя, 9 шт.;

— бітоны для пітной вады, 3 шт.;

— полагі марлевыя, 9 шт.;

— накамарнікі звычайныя, 9 шт.;

— касцюмы абаронныя (энцэфаліткі), 9 шт.;

— лодка гумовая, 1 шт.;

— вяроўка страховачная, 20 м.;

— матрацы надзімныя, 9 шт.;

— камізэлькі выратавальныя, 9 шт.;

— паясы верхалазныя, 4 шт.;

— каскі засцерагальныя, 9 шт.;

— кіпці верхалазныя, 2 пары.

7. Для перамяшчэння ў раёне работ брыгадзе прыдана грузавая аўтамашына з двума вядучымі мастамі і абсталяваным кузавам для перавозкі людзей, а таксама забяспечана неабходным супрацьпажарным інвентаром; вадзіцель другога класа Шумок Веніямін Арнольдавіч прайшоў падрыхтоўку па правілах бяспекі ў час работы ў палявых умовах і паспяхова здаў праверачныя экзамены.

Заключэнне.

Брыгада тав. Сінёва І. С. поўнасцю падрыхтавана да тапаграфа-геадэзічных работ тэрмінам на шэсць месяцаў, забяспечана ўсімі сродкамі па тэхніцы бяспекі, на аснове чаго выезд на палявыя работы дазваляем.

Галоўны інжынер Экспедыцыі № 7
— Каралькоў І. В.

Нам. галоўнага інжынера
па тэхніцы бяспекі — Шмацін Я. І.

Старшыня мясцкома — Курчавы А. Л.

Грамадскі інспектар
па ахове працы — Есіпёнак А. Ю.

Правільнасць акта пацвярджаем і з вывадамі камісіі згадзіліся:

кіраўнік брыгады Сінёў І. С.,

члены брыгады: Кружлік, Шумок, Вуцёха, Міхалёў, Корнеў, Бокуш, Гардуноўскі, Шчыгол.

Акт зацвярджаю:

начальнік Экспедыцыі № 7 —

6 мая 1974 г. Сумарокаў А. Б.

## *1*

Пры лёсаванні мне, як правіла, не шанцуе. І гэты раз, трэба ж, запалку-аскепак выцягнуў менавіта я, хаця ўсіх нас, рабочых, у брыгадзе шасцёра. Зрэшты, роўна столькі ж і запалак было ў пракураных шчопцях Кружліка, адно пяць нармальных, а шостая — укарочаная.

Хлопцы радыя, параготваюць з таго, што мне першаму выпала па прыезду ў тайгу, у зону работ, заступаць дзяжурыць па кухні. Прызнацца, я таксама не ў крыўдзе. Падумаеш — кухня. Часовы занятак, добраахвотны абавязак на тыдзень. Дзякуй богу, што ўсяго на тыдзень — не вельмі які тэрмін, вытрываю. Толькі ж, прызнацца, кашавары-кухары з нас — упэўнены ў гэтым! — такія, што адарві ды кінь, няўмекі, і ў палявых умовах кухня ой як дасца ў знакі, бо кухару трэба будзе і ўсё астатняе рабіць — ад вытворчых абавязкаў ён не аслабаняецца, толькі перад абедам

ды вячэрай мае права пакінуць аб'ект на гадзіну-паўтары раней. І ўсё, больш ніякіх аддушын — гэта адна-адзіная паблажка, якой, відаць, і задаволімся. І я, і ўсе астатнія. Дакладней, шасцёрка наша, рабочыя.

Але ж і прадбачлівы Кружлік. Усё да драбніц прадугледзеў, спланаваў і разлічыў — дакладна, так, што камар носа не падточыць. Магчыма, на гэтым бы ўсё і скончылася, пра лёсаванне больш і не ўспомнілі б, каб не зайшла на наступны дзень у сталярку, дзе мы часова атабарыліся, асоба, якая пажадала быць у нас за кухарку. Ах, каб яна, гэтая мілая асоба, ды завітала на дзень-два раней, то наўрад ці пагадзіліся б мы ўзвальваць на сябе такі штодзённы клопат — кухню. Хутчэй за ўсё — не, і тады займелі б сабе штатную кухарку, брыгадную. І не якую-небудзь выпадкова прышлую кабету, чужачку, а маладую дзяўчыну, добра знаёмую нам харашуху Дуню Асаўцову...

Так, Дуня зусім яшчэ дзяўчо. Ёй васемнаццаць. А гэта значыць, што за Сінёва, брыгадзіра нашага, Івана Сцяпанавіча, яна маладзейшая на дваццаць тры гады, за Кружліка — на дзесяць. Як відаць, узроставы перапад тут даволі прыкметны. Затое з намі — яна бадай што равесніца. Я — на пяць гадоў старэйшы за Дуню, Шчыгол — на шэсць, Міхалёў — на тры. Корнеў — на два з паловай, а Гардуноўскі — усяго толькі на адзін год. Якога веку Міша Вуцёха, дакладна не ведаю, але недзе за трыццаць ужо і яму ёсць.

Карацей, усе мы тут не дзяды, а Дуня хоць яшчэ і дзяўчо цыбатае, ды ўжо не дзіця, а нявеста. Так, нявеста. Любы з нас можа — а чаму ж не? — закахацца ў яе, зрэшты, як і яна ў любога з нас. Нават у Сінёва. А што? Кавалер ён на ўсе сто — самавіты, прыгожы, да таго ж адзінокі. Сівізна на скронях? Дык яна цяпер, сівізна, якраз у пашане — гэта, прынамсі, адна з яркіх адзнак, знешніх вядома, сталасці мужчыны, яго прыстойнасці, і маладыя дзяўчаткі, сэрцы якіх поўняцца жаданнем кахаць, больш даверліва ставяцца менавіта да такіх вось *усталых* мужчын, чым да сваіх аднагодкаў.

Дуня, між тым, не сказаць каб красуня. Не

вельмі якая яна і модніца, але ўсё роўна прыкметная, абаяльная. Светлай душы дзяўчына. Прайсці міма яе раўнадушна — не пройдзеш: хвалюе, збівае з тропу. Не ведаю, як Сінёва ці там яшчэ каго з хлопцаў, а мяне — збівае, так.

Пазнаёміўшыся з ёю, я, можна сказаць, упершыню адчуў сябе акрыленым, не лішнім на зямлі. Гучна? Нікольк. Гэта чыстая праўда: для мяне стаў святочным той звычайны будзённы майскі дзень, калі мы, рабочыя, прыйшлі на склад атрымліваць абмундзіроўку... Убачыўшы Дуню, я адразу іншы нейкі стаў, спакойны і ўпэўнены, рашучы. Адвёў Вуцёху ўбок, спытаў пра Дуню: «Хто яна такая, ведаеш?» А ён мне з ухмылкаю: «Як бачыш, падсобніца...— і не без іроніі, насмешліва: — Не ў той бок, Лёха, глядзіш, не пра тое думаеш». Праўда, я таксама не маўчаў: «Не, Міша, гляджу я менавіта ў той бок, куды мне хочацца глядзець».

Дуня памылілася тады — выдала мне ажно дзве энцэфаліткі, і я мусіў адну вярнуць. Калі зайшоў у склад, загадчыцы склада, Марыны Адамаўны, ужо не было, Дуня таксама збіралася дахаты. Я сказаў ёй, што мяне зноў прывяло ў склад, і яна ўзрадавалася, стала дзякаваць, прызналася, што гэта яе памылка, бадай, ад нявопытнасці... Слова за слова — разгаварыліся. Неўзабаве я ўжо ведаў, што Дуня паўгода назад скончыла школу радыстаў, што пры размеркаванні яе спачатку накіравалі былі на сухагруз Чарнаморскага флоту, але яна адмовілася, прызналася, што вады баіцца, вялікай вады. З яе пасмяяліся — не чайка, маўляў, зямная птушка, і выпісалі новае накіраванне — сюды, у Сібір.

Дуня і сапраўды зямная. І зусім не птушка. Лесавічанка яна. Ёсць на Браншчыне гарадок Локаць. Ціхі, непрыкметны. Паблізу ад яго і нарадзілася Дуня ў адной з прылесных вёсачак. Маці яе доўгі час, пакуль і не выйшла на пенсію, леснічыхай была. Бацька — у калгасе бухгалтарам, пасля перайшоў у лясніцтва, дзе і сёння робіць, бухгалтарам, хоць ужо таксама пенсіянер. Дуня позняя ў іх, адна. Яна помніць лес з чатырохгадовага ўзросту — маці брала яе з сабою на абход, і было,

што ўвесь дзень на веласіпедзе катала... Такое не забываецца.

Яшчэ ў школе Дуня марыла стаць радысткай. Дзеля таго стаць, каб пасля з навукоўцамі якімі, геолагамі — пра геадэзістаў нічога тады не ведала, нават не чула пра іх — хоць раз трапіць у такі глухі куток зямлі-матухны нашай, дзе аж сам Макар цялят не пасвіў...

Во, нават дзявочая душа рвецца на волю, на прастор, а мая — і пагатоў: да чорцікаў абрыдла мне гэтая база, дальбог. Здавалася б, ну што яшчэ трэба — горад наўкол, усе радасці побач. Аж не — нішто ўжо не радуе: мірсціцца тайга, кліча... Тайга!

Горад — ён і ёсць горад: тлум, гул, едкі смурод выхлапных газаў, удушлівыя дымы заводскіх каміноў... А зрэшты, мяне горад ніколі не вабіў, і я з нявераю і без захаплення слухаю ўсялякія байкі пра тое, што нібыта прыйдзе такі «шчаслівы» час, калі на зямлі паўсюль будуць толькі гарады, вялікія і малыя, чыстыя і светлыя, а сённяшняя вёска, маўляў, кане ў нябыт, знікне. Упэўнены, народзяцца новыя людзі, і яны, трэба спадзявацца, выправяць шматлікія памылкі сваіх непразорлівых продкаў. Чалавеку зноў захочацца наблізіцца да зямлі-карміцелькі, ён выбавіць яе, пакутную, з-пад залішне шырокага асфальтавага панцыра, развее атрутныя смогі над сабой... А пакуль — мы шчыра вітаем прагрэс, любім грымлівыя джазы і доўгія прамовы, носім максі і міні з шоўку і нейлону, празмерна ядзім і памногу п'ём, мала ходзім і шмат часу аддаём сну... І ўсяму гэтаму спрыяе Ён, дарагі нам горад, па-сучаснаму ўтульны, зваблівa-шыкоўны, прывычны, дарма што і падчас аднастайны — з кварталамі, падобнымі адзін на адзін, з гмахамі-блізнятамі.

І тут вось, у гэтым, усяму свету вядомым горадзе, багатым на гісторыю і падзеі, мяне больш за ўсё вабяць ціхія старыя вуліцы і завулкі, дзе часам можна ўбачыць ацалелыя, непадуладныя часу дамы-камяніцы, асабнякі, гаспадарамі якіх, пэўна ж, былі некалі мясцовыя верхаводы, усялякія там багацеі і багацейчыкі, гандляры-махляры, жандарскія чыноўнікі, саветнікі і іншая сацыяль-

ная драбяза. Вось адна такая будыніна, своеасаблівы помнік старыны. Над фасадным акном, па цэнтры,— галава каровы. Вароты ў двор — жалезныя, з кавaнымі карункамі. На падворку — пагорбіна падземнага склепа-халадзільніка. Я завітаў у двор. Пахілы дзядуля ў доўгім кажусе спачываў на драўлянай лаўцы, і я мусіў патурбаваць яго, спытаў, хто даўней, да рэвалюцыі, тут жыў, у гэтым доме. І пачуў адказ: «Вядомы на ўсю губерню мяснік жыў, капіталіст...»

Дуня слухала мяне ўважліва, засяроджана, а калі пачула пра мясніка-капіталіста, ажывілася, сказала:

— Яны і цяпер каралямі ходзяць, мяснікі.

— Ездзяць на «Ладах»,— удакладніў я.

Дуня махнула рукой:

— Ат, ну іх да д'ябла, мяснікоў. Будзем замыкаць склад... Сёння ў мяне цяжкі быў дзень.

— Цяжкі?.. Чаму, калі не сакрэт?

— Палаялася з Каральковым... Гэта праўда, што ваша брыгада адмовілася ад кухаркі?

— Праўда, бо не ведалі, што вы хочаце з намі ехаць.

— Называй мяне на «ты» — не люблю, калі мне «выкаюць».— І далей: — А ведаеш, я хацела заяву падаваць, гатова была звольніцца... Мая сяброўка па школе радысткаў у Тындзе зараз, да сябе запрашае — хоць сёння магу ехаць. На БАМе радысткі трэба... Словам, ад Каралькова пайшла да Сумарокава, сказала, што ў Тынду паеду, што на складзе больш не магу, што хачу па спецыяльнасці рабіць... А ён і слухаць не стаў пра звальненне, сказаў, што не пазней як увосень буду на пасадзе штатнай радысткі.

Дуня замкнула склад, апячатала. У наш бок ішоў прадстаўнік ваенізаванай аховы, у картузе, чорным паліто з жоўтымі металічнымі гузікамі, з карабінам на плячы.

— Да заўтра,— прыязна сказала Дуня.

— Шчасліва... А можа, здасі склад і мы сустрэнемся, а?

— Да заўтра,— зноў кінула Дуня, і на гэты раз — як адчапное.

Мы развіталіся. Калі я вярнуўся ў сталярку, да

хлопцаў, Вуцёхі ўжо не было — паехаў дахаты. Знайшоўся другі псіхолаг, Корнеў. Ён і стаў мяне даймаць тым, што я такі і сякі, што занадта ўлюбчывы і слабавольны — безразважна клеюся да любой чувіхі, абы спадніца. Шчыгол жартам паправіў яго, сказаў, што якраз трэба перш за ўсё тых чувіх заўважаць, каторыя не ў спадніцах, а ў джынсах ды штроксах — модніцы, маўляў, больш пакладзістыя для нашага брата, валацугі. Ды Корнеў як і не пачуў яго жарту, не змоўк і ўсё гундосіў пра тое, што я, хоць і еўрапеец, а зусім не маю густу на дзяўчат. Падумаеш, нейкі Корнеў будзе ганьбаваць мяне, ды хоць бы мяне аднаго, а то ж і Дуню няславіць. І я назнарок груба сказаў яму:

— Ну во, няма Рымшы — знайшоўся чорт іншы. Думаеш, калі я Вуцёху ўважыў, не паслаў на хутар да камарыхі, дык і з табой перасміхацца буду?.. Дуню не чапай!

— Ах-ах, які абаронца!.. Трэба ты ёй, як зайцу тормаз. Прадзяры вочы, цвяроза на ўсё глянь: яна ж да Сінёва хінецца... А Сінёў, знаеш, можа ўмэнт збавіцца ад цябе — ён прычэпку знойдзе.

— Сінёў, але не ты.— Я дзёрзка глядзеў на Корнева.

— Дурань, Вуцёха ж ясна табе сказаў: не ў той бок глядзіш. Не дайшло?

— Дайшло, але што з гэтага?

— Як сабе хочаш, толькі б я на тваім месцы...

— Не турбуйся, на сваё месца я не пушчу цябе. І прашу, калі ласка, мяне больш не вучыць: я сам сабе настаўнік.

І ўсё. Корнеў у гэты вечар са мной ужо не пачынаў размовы. І дзякуй богу.

Раніцою, калі ўсе мы былі ў зборы (Сінёва, праўда, не дачакаліся: як выявілася, ён адразу з дому паехаў на гарадскую канферэнцыю рацыяналізатараў), я зноў выказаўся быў за тое, каб адмяніць лёсаванне — уступіўся за Дуню, нагадаў, што радыстаў у школе вучаць таксама і кулінарнай справе, таму, бясспрэчна, кухарка з Дуні была б што трэба — сама што для нас, таежнікаў. І заключыў тым, што страву на вогнішчы няпро-

ста гатаваць і што адначасова кухарыць і на аб'екце рабіць можна хіба толькі ў кінакамедыі.

Падтрымаў мяне Толя Міхалёў, як заўсёды скупы на слова, спакойны і разважлівы. Ён сказаў:

— Я таксама за Дуню!.. Абедзвюма рукамі галасую.

— Прасцякі! Наіўныя балванчыкі,— здалёк пачаў Кружлік, спакваля. Ён не хоча, каб Дуня была ў складзе нашай брыгады.— Мы ўсе такія розныя, такія дзікуны першабытныя... Дзікуны — і яна сярод нас?.. Не, хлопцы, гэтага не будзе. Кадук адзін ведае, хто з нас чым дыхае, у каго што ў галаве: чужая душа — пацёмкі, так, а? Тайга — не горад. У тайзе, мушу заўважыць, чалавек часам вар'яцее, збіваецца з самакантролю... Усякае, словам, можа здарыцца, чым чорт не жартуе. А так — грэх у мех і зла не відаць. Без жаночых слёз прасцей жыць. А ў тайзе тым больш.

— Не цямні, начальнік — не стрымаўся Шчыгол.— Гавары проста і ясна, не разумнічай. За нас баішся ці за сябе не ручаешся?.. Правільна, пакуль што мы ўразнабой тэпаем, не ў нагу. А от пажывём супольна, папрацуем, воля наша загартуецца, светапогляды праясняцца — і пабачыш, замаршыруем зладжана. Калектыўная праца, кажуць, спрыяе гарманічнаму развіццю такіх вахлакоў, як мы, стабілізуе іх характары, волю,— чуць пахіліўся да Кружліка і незалежна, з пачуццём уласнай годнасці паўтарыў: — Стабілізуе, ясна, начальнік? — Падміргнуў Міхалёву, цепнуў плячыма. І зноў да Кружліка: — Даводжу да ведама, начальнік, што з самакантролю мы зусім не думаем збівацца. Як, хлопцы, згодны са мной? І вар'яцець таксама не збіраемся — нам падабаецца ўвесь час нармальнымі быць, пры розуме.

— А ўсё ж, хлопцы, на які вам ляд кухарка? — Як відаць, лёс нейкай дзяўчыны менш за ўсё хваляваў Кружліка — галава яго іншым забіта: — Па штату — так, палатачны рабочы трэба. А толькі ж ці не лепей агулам сэканомленыя грошы на прапой пусціць?

— На прапой?..— ускалыхнуўся Шчыгол.— А хіба так можна?

— Чаму ж не — можна! — фанабэрыста запэўніў Кружлік.

Валодзька Корнеў, высокі, недзе Кружлікавага росту, з твару худы, як і яго аднадумец Шчыгол, падхапіўся з месца і, стаіўшы дыханне, нейкі час няўцямна талопіў вочы на Кружліка, затым асцярожна, з няверай спытаў:

— А вы не надурыце нас, Філат Мацвеевіч? — Бач, адкуль і ветлівасць з'явілася ў хлопца — да гэтага я не чуў, каб ён звяртаўся вось так да Кружліка: на «вы» ды яшчэ і па бацьку.

— Трэба мне дурыць вас,— нечаканая ветлівасць з боку Корнева, відаць, збіла-такі Кружліка з панталыку.— Не дзеля гэтага вас на работу прымалі, каб дурыць...

Міша Вуцёха, асадзісты, крутаплечы мацак з буйной галавой і шырокім тварам, з носам-бульбінай на ім і пульхнымі, як аладкі, шчокамі, не навічок ужо, гэта яго трэція зборы на палявыя работы. Дык вось, нават ён, Вуцёха, не можа нарадавацца:

— Хм, забаўненька, ёлкі-мяцёлкі, арыгінальненька... Ставачку палатачнага рабочага, значыць, на прапой? Зусім нешта новае.

— Новае ці старое — не так важна,— Кружлік на дзіва стрыманы, згодліва-пакладзісты.— Нічога асаблівага ў маёй прапанове няма — усё тут, хлопцы, проста: табар будзем разбіваць пры адным з аб'ектаў.

— Як гэта? — не зразумеў Шчыгол.

— Тлумачу,— яшчэ больш заахвоціўся Кружлік.— Скажам, ты сёння кухар, так? — звярнуўся непасрэдна да Шчыгла.— Значыць, і табар пры тваім звяне. Ты варыш абед, а заадно і напарніку свайму памагаеш. Усёк? А там і я калі прылучуся, і Сінёў, а часам і вадзіцель.

Корнеў:

— Толькі ж, каб усё так і было, Мацвеевіч...— Але ж і ветлівы, чорт, нічым не выдае сваёй, бадай, хранічнай непавагі да Кружліка.

Шчыгол:

— Ды што тут рассусольваць? Будзем самі варыць!

— І я за гэта,— не доўга вагаўся Пятро Гар-

дуноўскі, маладзёнак наш. Здаецца, яго прынцып просты: заўсёды быць на баку тых, каго большасць.

Вуцёха:

— А што — лепш самім варыць, правільна.— У голасе яго бязгрэшная ўпэўненасць.— Рукі ад гэтага не пакрываяцца... Ну яе, Асаўцову. Бунтавань толькі кроў будзе сваёй прысутнасцю, чаго добрага — чубы пачнём часаць адзін аднаму,— усміхнуўся, кальнуў мяне сваімі бялкастымі, заўсёды насцярожанымі вачышчамі.— Бокуш вока на яе паклаў, утрэскаўся па вушы, от і дамагаецца, каб ехала з намі. А я — супраць. Лішні клопат, і ўсё такое...

— Пахвальна,— здаволена рэзюмуе Кружлік і нечага старанна, засяроджана-доўга мэнчыць двума пальцамі, вялікім і ўказальным, усё роўна як плюшчыць, кончык і без таго шылаватага носа.— Дык, значыць, не забыліся, што кіраўніцтва і вадзіцель ад кухарскіх абавязкаў аслабаняюцца? Пярэчанні ёсць? — спытаў, пэўна ж, знарок, каб пасля ніякіх крыватолкаў на гэты конт не было.

Гэта ўжо залішне з яго боку: якія могуць быць пярэчанні? Мы ж не чокнутыя — разумеем, што каму-каму, а начальству, ці, як Кружлік кажа, кіраўніцтву, не з рукі кухняй займацца. А што да шафёра, дык хто ж гэта дапусціць прапахлага бензінам мурзаціка да катла? Не-е, шафёр няхай хоць з машынай як след упраўляецца, глядзіць яе, бо не новая ўжо і важданіны з ёй, трэба чакаць, на ўсіх хопіць.

Пагаварылі так, пажартавалі — дый супакоіліся. Лёгка адмовілі Дуні. Шкада, канечне, што яна не едзе з намі. Лесавічанка вымушана будзе ўсё лета рабіць на складзе — парадкаваць паўкажушкі, спальнікі, валёнкі, уцепленыя палаткі, вязанкі энцэфалітак, геалагічных касцюмаў і ўсякага іншага дабра, раскладваючы яго на стэлажы строга па росту і памерах. І нехта з нас у наступным сезоне, рыхтуючыся куды-небудзь на Таймыр ці яшчэ ў які акрайны куток айчыны, таксама атрымае, як і сёлета, з гэтых запасаў новенькую абмундзіроўку...

Першую палову дня мы правялі на пілараме — пілавалі шалёўку для патрэб экспедыцыі. Пасля абеду аб'явіўся Сінёў. Не пазнаць шэфа — пад гальштукам, у новым палітончыку, японскім, з гузікамі ў два рады, металічнымі, бліскучымі, шалік яркі, квяцісты, шапка — коцікавая, з казырком, туфлі — на платформе, пры высокіх абцасах, звужаных на конус. Прычапурыўся — акурат на шпацыр. Зрэшты, і настрой у яго адпаведны, гуліва-святочны, узнёслы. Расказаў нам, як на канферэнцыі падышоў да яго нейкі дзівак і перадаў чарцёж перпетуум-мобіле, так званага вечнага рухавіка. Гэта быў невялікі ліст ватмана з кругам у цэнтры, левая палова круга зафарбавана чорным, правая — сінім... І больш нідзе ні рыскі, ні кропкі, адно справа ў кутку, унізе, подпіс: «Чарцёж перпетуум-мобіле. Аўтар — Я. Лобікаў». Было з чаго пасмяяцца, і мы, вядома ж, пасмяяліся ў ахвоту. А тут Сінёў яшчэ падліў масла ў агонь, сказаў, што хацеў бы гэтага Лобікава захамутаць да сябе ў брыгаду, дык рашуча адмовіўся, прызнаўся, што з вялікай цяжкасцю пралез у прадуктовы магазін прадаўцом. Яму б камяні варочаць, зямлю мёрзлую дзяўбці, а ён, здаровы малады бамбіза,— прадавец... Жанчыну замяніў.

— Ё-маё, Сцяпанавіч!..— нечага раптам усклікнуў Шчыгол.— Дык вы наўмысна падбіраеце сабе ў брыгаду трохі звіхнутых, а? Гэта ж лоб-Лобікаў, па-мойму, рэхнуты.

— Магчыма,— весела сказаў Сінёў.— Працэнтаў на сорак, як і ты.

— Ды не... Я пакуль нармальны, а той-сёй з нашых — таго, думаю,— паказаў на Гардуноўскага.— От ён, маладзёнак наш, з прыдурам — у яго куламеса ў мазгах ад музыкі. У Міхалёва — не меншая трасянка, свой комплекс: ён на пісьмах звіхнуўся — усё строчыць і строчыць... Спачатку на чарнавічок, а тады на чыставічок. Ні яму дня, ні яму ночы — гарбее чалавек, слепіцца.— Пасля невялікай паўзы — да Корнева звярнуўся: — І ты, Валодзька, з пункцікам — чыстаплюй і задавака.

— А ты — бабнік,— спакойна, без эмоцый сказаў Корнеў.— І пустабрэх.

— Правільна,— не стаў пярэчыць Шчыгол.— Я не святы, але ж і ты не бог. Абое рабое, абое адзін аднаго вартыя.

Якраз Вуцёха падышоў. За плячыма ў яго рукзак, пусты. Хадзіў Міша ў буфет, але там зараз сангадзіна, на дзвярах замок.

— Дык мо паехалі, Сцяпанавіч? — запыніўся ля Сінёва Вуцёха.— На вакзале зазірнём у гастраном.

— Так і зробім.— Сінёў падаў Шчыглу руку на развітанне, сказаў: — Застаешся тут за старшага. Просьба адна: пастарайся ўсё ж не спаліць сталярку.

— Ды што вы, Сцяпанавіч? — Шчыгол пакрыўджана шмыгнуў носам.— Мы зараз вось як завалімся на бакавую — да раніцы будзем спаць, яй-бо.

— Калі не сакрэт, Сцяпанавіч, куды далёка сабраліся? — пацікавіўся Корнеў.— Можа, і мне з вамі махануць?

— А гэта — як Міша скажа,— Сінёў запытальна кіўнуў на Вуцёху.

— Бокуша мог бы ўзяць...— няпэўна сказаў Вуцёха.

— Бокуша? — ажывіўся Сінёў. І да мяне: — Апранайся ў чыстае, паедзеш з намі,— тут жа распарадзіўся ён.

— Куды ехаць і чаго? — Я, вядома ж, не кінуўся пераапранацца ў чыстае.— І чаму так: я — магу ехаць, а Корневу — няможна?

— У Мішы сын нарадзіўся, ужо месяц яму...— Сінёў па-ранейшаму вясёлы, бесклапотны.— Віталік Вуцёха. Гучыць?.. І я, значыць, за хроснага бацьку — па народнаму звычаю так.

Ну во, у Вуцёхі сын, а мы і не ведалі. Які ўсё ж ён чалавек, Вуцёха,— скрытнюга той яшчэ, умее хаваць ад людзей сваю радасць. А мо проста пагрэбаваў намі: скажы, то і на гулянку запрасіць трэба... Пэўна, з гэтай прычыны і не схацеў прызнавацца. З гэтай.

— Ты, Лёха, нікуды не едзь,— Шчыгол глянуў угору, на неба.— У такое круцялюшнае надвор'е трэба спаць, а не па гасцях бадзяцца. Бачыш, хмары якія? Зараз снег паваліць.— І закла-

почана, па-таварыску: — Ды ў цябе ж і грошай няма на падарунак.

— І грошай няма, і жадання ехаць у свет няма.— Можа, і не трэба было так, але ж мне і сапраўды не хацелася трапляць да Вуцёхі на гулянку.

— Ну і кісні тут,— ухмыльнуўся Вуцёха,— падумаеш!..— і, як сыч, лыпнуў вялікімі вачыма.— Хадземце, Сцяпанавіч, а то і праўда скора снег пойдзе.

Аўтобусны прыпынак быў якраз насупраць, за трохметровым цагляным плотам, што абступаў усю тэрыторыю базы, і яны падаліся на аўтобус, а мы вясёлым незалежным гуртам рушылі на спачын — у сталярку.

Толькі ступілі на парог, як наш котка — прыблудзіўся знекуль, жыве каторы ўжо дзень у сталярцы — выбег мне насустрач і стаў патрабавальна мяўкаць — есці прасіў, небарака, а я нічога не прынёс, забыўся. Вочы яго выпраменьвалі дакорна-ўмольны гнеў, гарэлі адчаем. Праўду кажуць, голад перш за ўсё даецца ў вочы — і жывёле, і чалавеку аднолькава.

Я мусіў ісці ў сталоўку, каб чаго купіць і залагодзіць котку. Сталовай загадвае жонка Каралькова, і якраз, калі сказаў раздатчыцы, што мне з сабой трэба дзве порцыі смажанай рыбы, без гарніра, загадчыца пачула гэту маю просьбу, падышла, рухавая, баявая-ўдалая, і гыркнула мне проста ў твар — аж напалохала:

— Мы на дом стравы не адпускаем!

Я стрымаўся, аднак не ўзбурыўся і спакойна, ветліва сказаў:

— Нічога з вамі не стане, калі для малога коціка адпусціце... Ён жыве з намі ў сталярцы, галодны зараз.

Тут яна яшчэ больш узвіхрылася — падумала, відаць, што жартую:

— Не мані толькі — знаю я вас, п'яніц.

Я пасміхнуўся і зноў спакойна спытаў:

— У мяне нос вельмі чырвоны?

— Хочаш паесці — сядай, вунь, за стол... А не — ідзі туды, адкуль прынесла нячыстая...

Я цябе не бачыла ў нас, ты чужы. Не забывай, што гэта ведамасная сталовая.

— А ветлівасці вам, бачу, не стае...— тут ужо і мне падпёрла пад рабро.— Дык вось, таварыш Каралькова, я не чужы. Я з брыгады Сінёва. Маё прозвішча Бокуш... Можаце далажыць мужу. Дайце кнігу скаргаў!

Каралькова знерухомела раптам, вочы яе пашырэлі, шчокі ў момант пакрыліся бела-ружовымі, як лішаі, плямамі.

— З брыгады Івана Сцяпанавіча? — ветліва заўсміхалася яна, ускінула нафарбаваныя і, па ўсім відаць, не свае, а наклееныя вейкі, доўгія, густыя: і раз вачыма лыпнула, і другі.— Даруйце, я памылілася... Калі з брыгады Сінёва, то ў яго, казаў, хлопцы ўсе як на падбор, добрыя,— і да раздатчыцы: — Ніна, узваж дзве порцыі хека... А можа, вам больш трэба? — да мяне звярнулася, і ўжо на «вы» — падзейнічала «кніга скаргаў».

— Не трэба больш...— І я ўжо не стрымаўся, мяне прарвала: — Дык вось, паважаная загадчыца. Вы мяне чужаком палічылі, бо не часта бываў тут... Не ходзім мы да вас на абед. Ваша пасрэдная сталоўка нас не задавальняе. Першае — малочны суп, капуста, суп з фрыкадэлькамі — заўсёды нясмачныя. Другое — і хек, і скумбрыя з бульбяным гарнірам, катлеты з макаронаю, тварожная запяканка — таксама не шэдэўры. У любым шалмане лепш гатуюць, чым вы тут, у ведамаснай сталоўцы. Дзе хвалёныя сібірскія пельмені? Дзе грачнёвыя бліны з маслам, смятанай ці салам? Дзе заўсёдная яечня з каўбасой?.. Я ўжо не кажу пра шашлык, пра смажаніну. Ганьба, вашы абеды абыходзяцца ў два рублі, а каларыйнасці ў іх і знаку няма — праз гадзіну кішкі марш пачынаюць іграць... Папярэджваю: прыйдзем якнебудзь усёй брыгадай і напішам у кнігу скаргаў такое, што вам і не снілася.

Я хуценька сунуў рубля касірцы ў руку і пакінуў сталоўку.

Прынёс, паклаў перад коткам рыбу, і ён пачаў няспешна сілкавацца. Паеўшы, адразу павесялеў — гарэзіць, блытаецца ў нагах. Я разаслаў спальнік паўз сцяну, і котка ўлёгся на яго, па-

клаўшы вусатую мордачку на лапкі, сцішыўся, але нечага раптам наструнiў вушы — усё роўна як нешта ўчуў. Ну так, у сталярку ўваліўся — бокам, нязграбна, нібы хто ўвапхнуў — галоўны інжынер, яго вялікасць Каралькоў. Зусім недарэчы ён тут і не ў час. Пэўна ж, па нашыя рукі і сілу прыджгаў — зноў нешта тэрміновае падваліла.

Гэты тыдзень Сінёў не вельмі нас тузаў — аберагаў ад пабочных работ, якія звычайна зводзіліся да пагрузкі ці разгрузкі транспарту: адны машыны вазілі на пілараму бярвенні, другія — даstaўлялі на базу з таварнай станцыі кантэйнеры з грузам, трэція — гаруча-змазачныя матэрыялы з нафтабазы. Учора мы толькі за даабеддзе разгрузілі два лесавозы з дошкамі-пяцідзесяткамі і загрузілі адзін «ЗІЛ» з доўгім металічным прычэпам пустымі балонамі ад газаэлектразваркі. Рабочых на базе, штатных, і без нас хапае, але ж Каралькоў такі — яму каб усё хутка рабілася: чуць што — аб'яўляе аўрал. І мы, уласна, зразумелі адно: быць на пабяганках у Каралькова — не вялікі гонар, таму не вельмі ўзрадаваліся яго нечаканаму паяўленню ў нашым прыстанку.

— У ружжо, хлопцы! — з ходу закамандаваў Каралькоў.— На падыходзе два «МАЗы» з цэглай... Хуценька збірайцеся.

Шчыгол як старшы спаважна выступіў наперад, сказаў:

— Чакайце, Васільевіч. Сёння я гаварыў з юрыстам і многае што праясніў для сябе... Значыць, так: патрабуем, каб афармілі нарады на ўсе аўральныя работы, што зрабілі мы за мінулыя два тыдні. Зразумейце нас правільна: мы — сезонні-кі, і за дзякуй рабіць непрывычныя.

— За дзякуй?.. А вы што, гуляць сюды прыехалі? — Каралькоў прайшоў і сеў на табурэт, стаў азіраць сцены сталяркі.— Хм... Але ж і адштукавалі бытоўку, не пазнаць. Засталося шпалерамі абклеіць ды ложкі паставіць — і чым не летняя гасцініца, а? — Бач, увачавідкі перамяніўся, падабрэў, палагаднеў яго голас.— За гэта вы малайцы проста, хвалю.— І тут яго чэпкі позірк спыніўся на распачатай скрыні з кансервамі.— У-у!.. Сінёву холку намылю.— Падняўся, грузна заха-

дзіў па сталярцы, палохаючы нашага котку.— Цяпер мне ясна, чаму ніводнага з вас ні разу не бачыў у сталовай.— Усміхнуўся.— І жонка мая ні разу не скардзілася на брыгаду Сінёва... Дык што, тушонку тут паясцё, а ў полі налоўленай рыбай ды ўпаляванымі звярамі-птушкамі карміцца будзеце? Не-е, гэты нумарок вам не ўдасца.

І Шчыгол, зноў жа, не разгубіўся, сказаў, што ходзім у «Вецярок», суседняе з базай кафэ, дзе заўсёды ёсць свежае піва, а ў пахваленай сталоўцы, дарма што яна і ведамасная, калі і ёсць што, дык, маўляў, толькі слабенькі чай ды аўсяны кісель. Саня пастараўся давесці, што на чай і на кісель, роўна як на гарэлку і віно, ён нават глядзець не можа, затое без піва, сусветнага напітку рабочых, не садзіцца за стол.

Каралькоў цярпліва выслухаў гэтыя яго сентэнцыі, падняўся і хацеў быў, падобна, развітацца з намі, ды Шчыгол, аднак, зноў нагадаў пра нарады, якія трэба афарміць:

— А ўсё ж, як з нарадамі, Васільевіч? Зацягваць нам не з рукі, бо не сёння-заўтра зматаемся адсюль.

— Ну добра... Вы сёння рабілі ўжо, адпачывайце. А наконт нарадаў гаварыце з Сінёвым, ён ваш непасрэдны начальнік. Гэта яго клопат.— І толькі й быў, змыўся, дзе і рухавасць узялася.

Ну й Шчыгол, ну й загінака! Збіў галоўнага з тропу, і цяпер, трэба спадзявацца, будзем пачываць на лаўрах — і сёння, і, вядома ж, у наступныя дні.

Мы ўжо думалі, што больш нас ніхто не патурбуе. Аж не — аб'явіўся Кружлік. Шчыгол, здаецца, больш чым хто нездаволены яго прыходам. Насцярожыўся і чакае. А Кружлік сеў на табурэт, узмахам караткапалай — правай — рукі закінуў на патылак пасму бледна-рыжых, у дробных кудзерах валасоў, густых на скронях і асабліва за вушамі, сказаў:

— Каралькоў хвалюецца, што вы тут без прыгляду...

— І прыслаў да нас няньку? — Шчыгол нахабна, з пахмурным прыжмурам вачэй пакасіўся на Кружліка і даволі запальчыва, узрушна спы-

таў: — То дзе ж тваe соскі, начальнік, ну?!. Устаўляй нам у раты соскі, а то зараз усе разам закугакаем.

— А мо лепш табе аднаму́ клізму ўставіць? — твар Кружліка сплюшчыўся ў самаздаволенай усмешцы.— Не думай, зух, я і на цябе ўправу знайду. Не такіх супакойваў.

Шчыгол на хвілю засярodзіўся: здаецца, шукае калі не жарт убойны, дык не менш убойную абразу. Але якраз у гэты час у дзверы далікатна пастукалі, і ён весела, тактоўна выгукнуў:

— Можна! — і быў на дзіва спакойны.

Зайшла Дуня. Нейкая зусім не падобная на сябе, нядаўнюю: засяроджаная, ціхманая, строгая. Пасля размовы з Сумарокавым яна, пэўна, выкінула з галавы ўсе свае крыўды і нездаволенасць, супакоілася і працягвала дзень у дзень хадзіць на складскія работы. Калі-нікалі, звычайна перад абедам, зазірала і да нас. Пастаіць у парозе, перакінецца словам-двума з Сінёвым, пасмяецца з досціпаў ды кампліментаў Шчыгла і шыбуе адразу ў сталоўку. Было, што разам з ёй і Сінёў выпраўляўся, і тады мне таксама карцела пайсці следам. Але гэтага я не рабіў.

І вось Дуня зноў у нас. Шчыгол паспрабаваў быў завіхацца вакол яе, сыпаць жарцікамі, ды яна ўраз асадзіла яго, сказала, што ёй не цікава слухаць балбатню ўсякую, пустую. Сінёва не было, і яна звярнулася да Кружліка:

— Марына Адамаўна паслала мяне сказаць, што Каралькоў дазволіў ёй на працягу ўсяго гэтага тыдня браць з вашай брыгады рабочага... На станцыю паступілі грузы, іх трэба перавезці і заскладзіраваць, а наш рабочы ў адпачынку.

— Любога выбірай, каго хочаш.— Кружліка як падмянілі: Дуня сваім візітам падняла яму настрой, выбавіла яго ад лішніх спрэчак з намі. Ён вясёла-ўзбуджаны стаў, пакладзісты — душа-чалавек, у дошку свой. Дальбог, аж нават падрос — тут жа, у нас на вачах, хоць і без гэтага аглобля даўжэзная, больш за два метры.— Ну, чаго стаіш, Асаўцова? Разгубілася... Забірай любога, пакуль я добры, не перадумаў.— Во чалавек — характарны, душэўны стан яго тут жа адбіваецца на тва-

ры: радуецца — вочы запальна іскрацца, масляняцца, перажывае — надброўе ўсё ў зморшчынах, пагляд цяжкі, пахмурны, вусны сцятыя... Менавіта такім вось сугнеем сноўдаў ён колькі дзён пасля таго як з'ядналі дзве брыгады ў адну, асобую, узмоцненую, і яму, значыць, замест таго каб самому ўзначальваць партыю, давялося падпасці пад руку Сінёва. А тут — не пазнаць чалавека. Прыняўшы бязгрэшна-велікадушны выгляд, ён зноў усклікнуў: — Не марудзь, Асаўцова, ну?..

Я зірнуў на Дуню, нашы позіркі сустрэліся, і яна сказала:

— На Бокуша нарад афармляйце, допуск — таксама,— і выйшла.

— От так, Бокуш, чуў? — усміхнуўся дагодліва Кружлік. Заўтра — да іх у склад. Глядзі, не прыгляніся Адамаўне. Знай, галоўны перад ёй на цырлах бегае, крыжы кладзе, бо яна не проста Адамаўна, а сябруе з яго жонкай, загадчыцай сталовай... А яшчэ Адамаўна — жонка Дыненкі, ардэнаносца-пашанаўца, пакуль адзінага на нашым прадпрыемстве, ясна? От яна, Адамаўна, загадае пакінуць цябе пры складзе — і тайгі табе не бачыць, як сваіх вушэй лапушастых.— Па ўсім відаць, ён настроіўся на вясёлую, узаемна-адкрытую гутарку, інтрыгуе: — Нейкая там Адамаўна, а ўсё можа...

— Ну во,— перабіў Кружліка Корнеў,— Адамаўна ўсё можа, а мы чакаем нябеснай манны, дарагі час марнуем, а за прастой нам не плоцяць.

— Лётнага надвор'я чакаем,— голас Кружліка пастражэў.— Не ўтрыруй.

Во як нават! Корневу спрабуе падсячы язык. Правільна. Ад Корнева ён чакае працягу яго заяўленай ветлівасці і пакоры. Дзівак, як ён памыляецца.

— Я не ўтрырую. Вуцёха прапануе ехаць сваім ходам, на машынах, то чаму б і не ехаць? Шмоткі ўсе на «газон», самі — наверх, а ўсё астатняе — на «КрАЗ»,— слушна даводзіць Корнеў.— Цераз пень-калоду ўсё тут робіцца, па прынцыпу: авіярэйс запланавалі — і баста, трава не расці.

— Воўк праўду кажа: пянькоў ды калод тут хоць гаць гаці, безліч,— азываецца Шчыгол.

— Не-е,— яшчэ больш ажыўляецца Кружлік.— Памылка ў тым, што з'ядналі дзве брыгады ў адну... Такой шоблай, як зараз наша, і самалётам не проста будзе выбрацца. Я выказаўся быў супраць аб'яднаных брыгад, дык і ўхапіў шчылбана па носе: Сінёву пяцёрку паставілі за арганізацыю праекта работ, а мне знізілі бал... Сінёў, значыць, адчувае час, разумее важнасць і перспектыву задання, а я — вузка мыслю, лакальна, так сказаць. Як бачыце, ісціна на паверхні: яму скажуць тое і тое рабіць — ён робіць. Скажуць не рабіць — ён не робіць. Ім лёгка кіраваць... Сінёў — робат. Ніколі ні ў чым не ўсумніцца. Таму і хваляць яго, медаль за доблесць адхапіў...— І да Шчыгла, які слухаў яго з насмешкай: — Ну, чаго лыбішся? Не тое хіба кажу?

— Гэта твая філасофія, начальнік, не для майго страўніка: люблю мяса, а тут — посніца, дыэта.— Шчыгол гасіць ухмылку.— А шчыра — думаю так: дзе Сцяпанавіч — там і маё месца. Сёння ён звольніцца — і я ні на дзень не затрымаюся ў брыгадзе, бо ведаю, што з табой прападзеш не за панюшку табаку, а з ім — цэлы-здаровы дамоў вернешся, без кілы, гы-гы-гы... І, канечне ж, з крабчыкамі ва ўсіх кішэнях, от.

— Стаж у яго, згодзен, салідны, вопыту яму не займаць, Сінёву...— Здавалася б, Кружліку няма ўжо чым крыць, але ён між тым прыводзіць яшчэ адзін довад: — Па-мойму, кіраўнік без належнай адукацыі, што гром без маланкі: грыміць, палохае, а які з таго толк?.. Не, што вы мне тут ні гаварыце, а для кіраўніка сем класаў — не багаж. Тым больш у нашай справе, нялёгкай, ды яшчэ з такімі чамадорамі, як вы.

— От іменна — чамадорамі,— зазначае Шчыгол, нейкі час маўчыць, нарэшце азываецца зноў: — Сабраліся недавучкі дый задаёмся... У аднаго — дзевяць класаў і дзесяты калідор, у другога — тое ж самае, у трэцяга — і гэтага няма, чацвёртага з інстытута выперлі з трэскам за паводзіны, залішне хітры, але прыкідваецца бараном пяты...— На мяне зірнуў: няўжо прачуў ужо, што я не толькі дзесяцігодку скончыў? — І тэхні-

кум твой, начальнік,— сказаў да Кружліка,— не ах якая акадэмія — азы навукі, пена.

— У мяне спецыяльнасць!..— наіўна, гарачліва выбухнуў Кружлік.

— Э-э — не-е...— лопнула цярпенне ў Гардуноўскага.— Я свае дзесяць класаў хоць зараз аддам за вопыт Івана Сцяпанавіча.— І да Міхалёва, якога ён лічыў самым адукаваным сярод нас: — Ты як думаеш, Толя? Што скажаш?

— Вопыт — усяму галава,— сцвердзіў Міхалёў.— Гэта неабвержная ісціна.

— Чуў, начальнік? — Шчыгол абыякава глядзеў на Кружліка і пасміхаўся.— Надта высока не задзірай нос, бо ўсё-ткі брыгадзір не ты, а Сінёў... Ці яго сем класаў, ці твой тэхнікум — розніцы няма. Ні ў кога з нас мазгі не абцяжараны навукай, жывём, дзякуй богу, лёгка, бяздумна і распусна, крабчыкі любім больш, чым уласных дзяцей... І ты, начальнік, не лепшы за мяне, дарма трымаеш сябе ў чорным целе, лішнія сто грамаў на людзях баішся выпіць. Жыві прасцей, часцей цалуй сваю жонку.

— Хай проста жывуць пашанаўцы нашы, перадавікі,— зларадзіць у адказ Кружлік.

— У-у, начальнік, дарма зайздросціш Сінёву.— Шчыгол, бы гусак, выструніў шыю, натапырыўся, прыняў форму пытальніка.— Сінёву медаль да твару. Канечне, ордэн таксама не зашкодзіць. Дыненка пры ордэне аж памаладзеў, жонка стала мацней любіць... А табе навошта такія ўзнагароды? У цябе жонка прыгожая, адналюбка, так? Не, што ні кажы, а бог сапраўды не роўна дзеле: табе дасталася адналюбка, мне, а Сцяпанычу — круцёлка ветраная...

— Важна, каб жонка не кампраметавала мужа, а ўсё астатняе — мура, блеф,— цынічна працадзіў праз зубы Корнеў, грабянуў растапыранай пяцярнёй па распушаных завітках даўгагрывай чупрыны,— учора мы хадзілі ў лазню да Брыціка, які жыве насупраць базы ў прыватным доме, мае сваю добрую лазню, і Корнеў такі, бач, вымыўся як след: ён любіць чысціню, акуратны.— Даўно вядома, што ў жонкі, як і ў чорта, праўды не дашукаешся.

— Сёння ранічкай, значыць, сутыкнуўся я з тваёй, начальнік, лебядзіхай... О-о, яна ў цябе царэўна, яй-бо. Крамяненькая ўся, авальненькая... М-м, пэ́рсік! — Шчыгол паднёс шчопаць да вуснаў, прыцмокнуў.— Я кампліменцікам стрэліў, дык яна фыркнула, крутнулася — і цок-цок, тук-ток... Абышла мяне, ганарліўка. І я перад ёй жабай выглядаў — от, праўда, не маню. Такую б Сінёву ў жонкі, недаступу, руплівіцу, адналюбку.

— Сань, навошта яму адналюбка-руплівіца? — У Корнева, як відаць, свой, арыгінальны падыход да жанок.— Яму проста разумная жонка трэба. Правільна я мыслю, Мацвеевіч? — звярнуўся да Кружліка як да аднадумца. І тут жа — рэзка-насмешліва: — Не веру, каб у такой каралевы не было караля... Ты ж, Мацвеевіч, на караля не падобны, так?.. А ён ёсць, ды яна з ім тайна сустракаецца, і не часта: ноч паблазнуюць — перадых на месяц. Цябе правядзе ў поле — часцей пачнуць сустракацца.

— Хм, тайна...— Кружлік пстрыкнуў кончыкамі пальцаў па варштаце, што замяняе нам стол.— Не ўжо, калі баба надумае што, то да яе хоць тайна хадзі, хоць адкрыта — ёй усё роўна... Жанчыны прасцей на ўсё гэта глядзяць.

Шчыгол спыніў на Кружліку свой выпрабавальна-даследчы, рашучы позірк, спытаў:

— Дык а ўсё ж, ёсць у Зінулі тваёй хахаль ці няма?

— А ты ў яе самой спытай.— Кружлік на дзіва спакойны — во муж, ну хоць бы дзеля прылічку зазлаваў, узбурыўся, дык і ні блізка: яму, відаць, усё роўна, як і што гавораць пра яго жонку.— Мне яна не спавядаецца, а табе, можа, усё выкладзе... Пацікаўся.

Шчыгол не зводзіць з Кружліка ўсё таго ж рашучага позірку і не ў вочы яму глядзіць, а некуды ніжэй падбародка, на коўцік. Гэта, відаць, падзейнічала — Кружлік набычыўся, у пагл̈ядзе нешта раптам змянілася: пастражэў, здаецца, запаліўся, набрыняў — нешта накшталт гэтага — пагардай, і такой, нібы Шчыгол зусім і не чалавек, а казюрка шэрая.

Толькі б не ўчынілі бойку, вельмі ж ужо ваяў-

ніча яны стаяць: адзін — порах, другі — агонь, сыдуцца — быць бядзе, праграміць выбух. А знешне — прыстойныя, рахманыя і такія прывабна-загадкавыя ў прыгожа пашытых геалагічных касцюмчыках (штармоўкі зелянкавага колеру), што здаецца, гэта зусім і не людзі з напятымі да крайнасці нервамі, а нейкія больш арганізаваныя істоты, госці з другой планеты...

Дзіва што, апратка наша добрая, нічым не горшая за вайсковую. І зручная такая ж, надзейная. Помню сябе навабранцам. Памыўшыся ў лазні, адзеўся, абуўся, выйшаў у двор, на пляц, і доўга цешыўся, прывыкаючы да формы, не пазнаючы знаёмых хлопцаў... Трэба ж, і блізка не падобныя, нічуць. І толькі недзе праз тыдзень мы пакрысе сталі набываць кожны сваю знешнасць, адметную: нехта пілотку набакір насіў, а нехта — на вочы насоўваў, так, што яна трымалася акурат на брывах; зноў жа — нехта гімнасцёрку, каб карацейшай выдавала, падкладваў пад папружку, боты ваксаваў густа, не шкадуючы гуталіну, халявы збіраў гармонікам — фарсіў, піжоніўся, а нехта — нічога гэтага не рабіў, затое пастаянна трымаў у нагруднай кішэні люстэрка і раз-пораз даставаў яго, употай азіраючы свой адлюстровак, моршчыўся ад таго, што вусы-няраслікі зусім не такія, як у старшыны — не будзёнаўскія...

І вось зноў мы, колішнія салдаты, перажывалі нешта блізкае. А ўрэшце, мужчына — заўсёды салдат. А нашага ўзросту — тым больш. Так, мы амаль што вайскоўцы і зараз. Адно толькі без пілотак і без пагонаў, без аўтаматаў — затое ў засцерагальных касках, з рыдлёўкамі, кіркамі, ламамі, сякерамі... Усё гэта наш асабісты шанцавы інструмент, нашы прылады працы. Праўда, сюды нас ніхто не прызываў — мы самі, па сваёй маладзецкай ахвоце з'ехаліся, так сказаць, камсамольцы-дабравольцы... Ну, канечне ж, ёсць сярод нас і камсамольцы. Ёсць. І не адзін-два. Корнеў і Гардуноўскі — гэтыя назваліся некамсамольцамі з-за боязі, што спатрабуюць ад іх камсамольскія характарыстыкі. Я ж не стаў раскрывацца па другой прычыне: звольніцца з работы звольніўся, а з камсамольскага ўліку не зняўся. Маёй віны ў гэтым

не было — Валька Шахноўскі, сакратар камсамольскай арганізацыі ПКБ, дзе я да гэтага працаваў, сказаў, што, як толькі ўладкуюся на працу і напішу яму, ён адразу ж і вышле маю ўліковую картку. Пакуль што я напісаў толькі адно пісьмо — бацьку, а Валька, мой лепшы сябар, недзе знябыўся па мне, хвалюецца, перажывае... Як ён упрошваў мяне, каб я не звальняўся, як злаваў, калі зразумеў, што ўсе яго ўгаворы марныя. Жора Каравага, начальнік патэнтнага аддзела, таксама быў за тое, каб я нікуды не ехаў. «Палудур, што робіш? Куды цябе гоніць?..— пры гэтым паводзіў сябе наіграна-шчыра, як акцёр-навічок.— Не зрывайся, на хлеб хапае — і лады, што яшчэ табе трэба? Сумна аднаму — прыжаніся на Аўдзеевічавай Наташцы. Яна мне адмовіла, а за цябе выскачыць, толькі пахадзі за ёй, не паскупіся на кветкі... Ёлуп, такую спакойную работу кідаеш — яна ж у цябе не бі ляжачага».

Пра Наташку Жора часценька загаворваў, з языка не спускаў, а я ўсяго толькі два-тры разы бачыў яе, калі прыходзіла да нас на вечар адпачынку. Прызнацца, яна мне зусім не прыглянулася: размаляваная лялька ў крымпленавых штанцах. Фёдар Аўдзеевіч, бацька яе, загадчык сектара, магчыма, і не супраць быў, каб я звярнуў увагу на яго дачку, бо таксама ўблагаў мяне застацца, нават паабяцаў дваццаціпяцірублёвую надбаўку да аклада. Так і сказаў: «Патрасём дырэктарскі фонд — нешта ж, думаю, вымеркуем. Кніжная душа, не ламай кар'еру, адумайся, вярніся на зямлю, хлопец».

Ды я нікога з іх не паслухаў — кар'ера мая хруснула, як крохкі сучок пад абцасам кірзавіка. Некаму іншаму дастанецца — а мо і дасталася ўжо? — пасада старшага інжынера, вядома, без дырэктарскай надбаўкі. Цёплае месца службоўца-канторшчыка ніколі не пустуе — аксіёма, і бедаваць па ім, слёзна плакаць наўрад ці варта: пагрэўся колькі гадоў я, то хай і яшчэ хто пагрэецца. Якраз, можа, дзякуй скажа, а дзіваком назаве — таксама не пакрыўджуся. Мне што — у мяне ўжо новы шэф. І які шэф — не канчаў хімфак універсітэта, як Фёдар Аўдзеевіч, не вымучвае канды-

дацкую, як гэта робіць усё той жа Фёдар Аўдзеевіч... Што й гаварыць, адносіны з падначаленымі ў майго новага шэфа па-свойску простыя, шчырыя, без ніякіх там навукова-заглыбленых віхляняў і разваг на тэму сусветнага пацяплення ў прыродзе і абвостранай патэнцыі ў свеце цывілізаваных хіпуг разбэшчанай Еўропы... А галоўнае — мой новы шэф, Сінёў, не падымае руку на дырэктарскія фонды, сваім падначаленым залатыя горы не абяцае, хаця, праўда, і не маўчыць пра тое, што, маўляў, усе тыя хлопцы, якія некалі рабілі з ім, даўно ўжо маюць, калі не легкавікі ўласныя, дык кватэры кааператыўныя — жывуць сабе прыпяваючы. Трапна б'е, не ў брыво, а ў вока: старайся, сезоннік, бо ты не бог, не цар-гасудар, задарма нічога табе не перападзе. Затое ўсё, што заробіш,— тваё. Проста і ясна, абяцанкі-цацанкі лішнія тут. Ужо нават дзеля таго, каб пабыць у падначаленні такога вось кіраўніка, як Сінёў, можна смела пакідаць утульны, камфартабельны Мінск.

Дзіва што, Сінёвым я асабіста задаволены. Ён падабаецца мне — і перш за ўсё як чалавек абыходлівы, чулы, шчыры, прынцыповы... І ў той жа час — складаны нейкі, глыбокі: як ні зазірай да яго ў душу — не адразу знойдзеш тое, чаго шукаеш, што вабіць.

Калі пачалася вайна, Івану Сцяпанавічу, тады проста Іванку, ішоў восьмы год. Яму назаўсёды ўрэзаліся ў памяць цяжкія дні акупацыйнага жыцця, паднявольнага. Двое братоў яго загінулі ў тую віхуру: Марку, старэйшага, якому было ўжо шаснаццаць, фашысты захапілі ў час аблавы на вуліцы і завезлі ў Германію, адкуль ён так і не вярнуўся, а дзесяцігадовы Юрка, сярэдні, залез з такімі ж, як і сам, падшывальцамі ў прадуктовы нямецкі склад, іх злавілі і ў той жа дзень усіх расстралялі... З чатырох дзяцей у Сінёвых ацалелі двое: ён, Іван, і малодшая сястра Паліна.

Род Сінёвых просты, працавіты. Бацька да вайны рабіў на сплаве, затым партызаніў і загінуў, ставячы на «жалезцы» міну. Маці жыве ў Віцебску, як і да вайны; пры ёй і дачка з мужам, з дзецьмі — двума хлопчыкамі. Там жа, у Віцебску, і жонка Сінёва, гадуе дачушку...

У Экспедыцыі нумар сем Сінёў працуе ўжо больш за пятнаццаць гадоў, мае шэраг рацпрапаноў, ведае таксама шафёрскую справу... А зрэшты, чаго ён толькі не ведае, сказаць цяжка. Майстар на ўсе рукі, самавук, ён пастаянна імкнецца ведаць як мага больш — жыве дзейсна, шырока.

Да прызыву ў армію жыў пры маці і наўрад ці пакінуў бы свой горад, калі б адразу, як вярнуўся са службы, уладкаваўся на работу з больш-менш прыстойным акладам. А так — пайшоў шафёрам на аўтабазу, машыну атрымаў старую, расхлябаную. Скат лопнуў на хаду, машына звалілася ў кювет. Сам ён — пашанцавала — не вельмі параніўся. Адляжаўся на бальнічным, а пасля — звольніўся. Праўда, нічога вартага паблізу не прышукаў — і з'ехаў у свет, ажно ў Нарыльску апынуўся. Адтуль — трапіў у экспедыцыю, сюды. Колькі гадоў рабіў штатным рабочым на базе, пасля скончыў курсы геадэзістаў-будаўнікоў і быў прызначаны памочнікам тэхніка. А там — справіў вяселле, атрымаў кватэру, неўзабаве і павышэнне прыйшло — у тэхнікі перавялі. І цяпер вось штогод узначальвае будаўнічую брыгаду, якую, як правіла, прыходзіцца камплектаваць з такіх вось, як мы, залётных птахаў-сезоннікаў, аматараў сініх далячыняў.

Сінёў, бадай, і сёлета, як і ў мінулы сезон, паехаў бы на Поўнач. Нарыхтаваўся ўжо, ды нечакана ўсё перайначылася: пабудова Байкала-Амурскай магістралі, назва якой на дзіва велічна і ўрачыста скандэнсавалася ў гэтых трох літарах — БАМ, унесла пэўныя карэктывы ў жыццё і дзейнасць геадэзістаў і картографаў Сібіры. У Экспедыцыі, як і ў шэрагу іншых падобных прадпрыемстваў, было спешна арганізавана некалькі зводных — узмоцненых — брыгад па будаўніцтву геадэзічных пунктаў і трыянгуляцыйных знакаў у раёнах БАМа. Брыгадзе Сінёва выпаў участак на збольшага абжытай мясцовасці, з добра ўезджанымі таежнымі дарогамі, пракладзенымі леспрамгасам, населенымі пунктамі — вёскамі і пасёлкамі, дзе, канечне ж, ёсць паштовыя аддзяленні з тэлеграфам і тэлефонам, і рацыя ў такім выпадку залішняя раскоша для брыгады. Парта-

тыўныя «Нетры» пад увагу не бяруцца. Іх якраз тры выдзелілі, дзеля таго каб трымаць сувязь паміж аб'ектамі. «Нетра» — рацыя лёгкая, зручная і даволі простая ў карыстанні: умееш правільна настройваць антэну, ведаеш патрэбную хвалю — і ты можаш лічыць сябе радыстам: дока, радыёвоўк у радыусе пятнаццаці кіламетраў.

Хоць Кружлік і не гнаў мяне ў склад, ды я не лёг спачываць — пайшоў. І якраз дарэчы аб'явіўся: памог разгрузіць два кантэйнеры з зімовай вопраткай. Асабліва прыгляннуліся мне паўкажушкі. Чорнага колеру, прыгожага крою, лёгкія, зручныя. Здаецца, каб сабе займець такі — нічога больш і не хацеў бы... О ліха! Няўжо прыкрая бацыла моды зачапілася і за маю душу? Хаця — не, не... Вінавата зусім не мода — проста ў мяне з'явілася натуральнае жаданне займець цёплую апратку, без якой тут, у Сібіры, калі толькі надумаюся застацца на зіму, не абысціся. Таксама не лішне б унты добрыя, з сабачага футра, набыць, яно і спальнік на гусіным пуху не зашкодзіў бы... Ах, які гэта выгодны спальнік — якраз для турыста: зматаўшы яго ў скрутак, можна лёгка засунуць у кішэньку рукзака. У такім спальніку — мара турыста! — можна на снезе спаць, сярод поля, адно трэба падаслаць цэлафанавы абрусік, а яшчэ лепей — надзімны матрац...

Марына Адамаўна ўвесь дзень амаль прападала на станцыі, і мы былі з Дуняй удваіх. Упарадкаваўшы ў тэхнічным адсеку склада нейкія мудрагелістыя штуковіны, укрываем іх брызентам. Прыемна рабіць побач з Дуняй. Калі гаворыш да яе — яна даверліва глядзіць у вочы, уважліва слухае, і, здаецца, нічога больш для яе ў гэты час не існуе, толькі ты, яе субяседнік. Пытаю пра штуковіны, якія мы толькі што схавалі пад брызент, Дуня адказвае:

— Гэта паратайкі. Імі зямлю адтайваюць, каб лягчэй было шурфы прабіваць.

— Дык няўжо і зімой капаюць?

— На Поўначы, дзе лета кароткае, без паратайкі, кажуць, немагчыма. У раёнах вечнай мерзлаты зямля такая ж цвёрдая, як і гранітная скала.

— Усё ты ведаеш...— проста так сказаў, дзеля жарту, а Дуня засаромелася, апусціла долу вочы.

— Інструкцыю прачытала — і ведаю,— пры гэтым яна нейк хораша і зусім дарэчы кіўнула галавой, і я шчыра зарадаваўся, прыняўшы гэты яе рахманы ківок за рэдкую, не ўсякай жанчыне ўласцівую непасрэднасць.

Зайшлі ў склад Каралькоў і Дыненка, даўнія дружбакі. Дыненка — такі ж самы кіраўнік геадэзічнай партыі будаўнікоў, як і Сінёў. У гэтым сезоне ён будзе рабіць з хлопцамі недзе аж на Саянах. Каралькоў з выгляду — грузны, прысадзісты, рухі запаволеныя, упэўненыя. Дыненка — наадварот: рослы, касцявы ўвесь, жылісты — мужчына ў саку, у росквіце сіл. Рухавы, нават трохі мітуслівы. Нядаўна ён пабыў за мяжой, у Эфіопіі. Колькі дзён назад заходзіў да Сінёва ў сталярку, расказваў пра гэту сваю паездку. Эфіопію ён увесь час называў Эпіофіяй, і калі яму сказалі пра гэта, апраўдаўся тым, што, маўляў, прывык так называць, само з языка злятае...

І вось яны ў складзе. Пакуль Дыненка выбіраў мясцінку, дзе можна было б прыткнуцца на перакус, атабарыцца, Каралькоў пахваліў мяне за тое, што я ўжо тут, лёгкі на пад'ём, памагаю, і гэтая яго пахвала, падобна, акрыліла больш Дыненку, чым мяне. Ён вярнуўся, Дыненка, з паўцёмнага кутка, дзе толькі што быў і пакінуў там на стэлажы пакунак, які трымаў да гэтага пад пахай, весела спытаў у Дуні:

— Скажы-тка ты мне, дзеўчынка, куды гэта мая неацэнная рэптылія змылася? — Рэптыліяй жонку сваю назваў, Марыну Адамаўну.

Дуня ўсмешліва прыжмурыла вочы:

— Марына Адамаўна не рэптылія... Яна залаты чалавек. А вы, Аляксандравіч, прынародна яе абразілі.

— Ах, не рэптылія?..— знарочліва здзівіўся Дыненка.— А я, грэць яе, не разабраўся... Дзякуй, краса-дзеўчынка, дзякуй за папраўку. Хм, а ўсё ж, дзе яна?

— На таварнай станцыі,— сказала Дуня.

— Цудоўненька — прывал, Васільевіч,— нараок з палёгкай выдыхнуў Дыненка.— Пашэн-

ціла нам. Мая залатая рэптылія, грэць яе, нерэптылія, знаеш, строга за мной сочыць, ох строга... Не разумее, што ўдарніку часам таксама хочацца выпіць. От і лучаю крадком ад яе перакуліць кілішак, а то і два-тры — пад настрой. З табой не бывае так?

— Са мной усяк бывае,— азваўся весела Каралькоў, кіруючыся за стэлаж.

— У мяне тут не абы-што, а ром эпіофскі...— услед яму гаворыць Дыненка, але сам не пайшоў за ім, затрымаўся, усміхаецца. І голасна, да Каралькова, які ўжо быў за стэлажом, у кутку склада: — Хацеў Сінёва пачаставаць, а ён, выходзіць, з тваёй ласкі знік некуды...— І да нас, прыцішыўшы голас: — А можа, зашчапіцца ўсё ж, а? — азірнуў мяне, кінуў: — Не данясеш Кружліку-ўслужліку пра гэты наш баль?

— А пры чым тут я? — Дыненка здзівіў мяне такой перасцярогай.

— Аляксандравіч, мы ж на рабоце...— папярэдзіла Дуня.— Можа, нам выйсці?

— Не-не, не трэба... Вінюся.— Ён адцягнуў шуфлядку стала, літаральна заваленага складскімі журналамі, узяў дзве шклянкі, два відэльцы і нож і, як вінаваты ўсё роўна, кінуў да нас шапатком: — Мы тут маленька пыл з насоў выдзьмем, так што — не лайце нас, калі што не так,— патрусіў подбегам за стэлаж, павёў гаворку там пра Шмаціна: — Сустрэўся мне Шмацін толькі што. Стаў і глядзіць на пакунак мой. А вочы ў яго, знаеш, рэнтген, праз упакоўку ўсё бачаць... Эх, я ногі ў рукі — і ходу. Заблытаў сляды, як заяц, забег у рэзідэнцыю Сінёва, а там — Кружлік. Нечага ўвесь чырвоны, як вараны рак, даказвае штосьці арараўцам сваім, спрачаецца... От з ім, чэсна, я не паехаў бы ў поле, нізашто. А Сінёў не ўмее адмаўляць — прахвоста ўзяў сабе ў намеснікі. Я казаў Шмаціну пра гэта, а Шмацін, бач, гне сваю лінію: кажа, што для яго, маўляў, усе роўныя, да кожнага трэба з павагай ставіцца, кожнага трэба выслухаць і зразумець... От ён, скажу, і да мяне паддобрываецца, хваліць, пакуль не раскалоў,— чуваць смех, лёгкі, вясёлы.— А знойдзе правіннасць якую, сустрэне мяне падпітага — не паглядзіць на

ордэн... Хаця — ён у нас арлан, высока ўзляцеў, а з вышыні яму мала што відаць,— зноў чуваць смяшок, добразычлівы, таварыскі.

— Ну, з гэтай яго вышыні, лічы, усё можна ўбачыць, калі добра паназіраць,— заўважае Каралькоў.

— Я ж гэта і кажу: ён і назірае,— азываецца Дыненка.— Не здзіўлюся, калі зараз заявіцца...

За стэлажом на нейкі час усталёўваецца цішыня.

— Лёшка, ты ідзі ўжо, я тут адна ўпраўлюся,— перайшла на шэпт Дуня.— Ідзі. А то праз гадзіну зачыняць сталоўку, без вячэры застанешся.

— А давай — разам? — прапанаваў я таксама шэптам.

— Не, я снедаю і вячэраю дома.— Дуня нечага як сумелася.— Плачу гаспадыні за стол асобна... Дык ідзі, праўда. Хопіць на сёння. Мы і так многа зрабілі — Марына Адамаўна, пабачыш, будзе хваліць цябе.

Як мы ні стараліся гаварыць ціха, ды нас пачулі за стэлажом.

— Ого-о!..— падаў голас Дыненка, рагатнуў.— Мяне, от, яна ніколі не хваліла... Слухай сюды, хлопец, не паддавайся агітацыі, не ўспрымай іх пахвальбу. Хочаш, я табе рабацёнку такую падбяру, што адразу на гэты іх склад забудзеш? Пачакай толькі.

Каралькоў:

— У-у, хай толькі скажа, што застаецца ў нас, пры базе, дык я сам для яго месцейка падшукаю... Зарабатнае, па тры-чатыры сотні ў месяц будзеш класці ў кішэнь — без каэфіцыента, чыстымі. Ды плюс каэфіцыент!

— Не слухай іх, Лёшка,— сказала Дуня.— Ці ж не бачыш? Яны мяне так уладкавалі, што цяпер во ніяк праз іх ласку ў тайгу не вырвацца...— і зноў ціха, амаль шэптам да мяне: — Ідзі, а то ў сталоўцы ўсё размятуць.

— З табой разам — пайду,— я, мусіць, пачырванеў ■ твару, засаромеўся — злавіў сябе на тым, што не хачу, каб Дуня заставалася ў складзе без мяне.— Мы ў буфет ходзім вячэраць... А час-

цей — у сталярцы чай кіпяцім, на плітцы. Тушонка ёсць, хлеб...

— У сталярцы? Бр-р-р...— Дуня, як ад холаду, уздрыгнула, цепнула плячыма.— Там жа прусакі. Я зайшла неяк, хацела вады папіць, узяла конаўку, а іх на дне — аж кішаць... Страх!

— Калі тое было?..— падаў голас Каралькоў.— Пасля дэзінфекцыі, якую хлопцы зрабілі, у сталярцы чыста.

— Не загінайце... Бачыла я тую чысціню,— Дуня ўсміхнулася, прыкрыла вусны далонькай. Стаяла яна ў праходзе паміж стэлажамі, велікаватая штармоўка была расшпілена, рукавы амаль да локцяў закасаныя.— Там жывуць натрэніраваныя прусакі, перад дэзінфекцыяй яны ўсе хаваюцца ў падмосце.

— Натрэніраваныя? — спытаў, смеючыся, Каралькоў.

— Іван Сцяпанавіч, калі адзін застаецца ў сталярцы, дык разуваецца...— дадае праз смех Дуня.

— Навошта ж ён гэта робіць? — здзівіўся Каралькоў.

— Як навошта? — Голас Дуні звонкі, такі, што аж рэха ляціць па складзе.— Прусакі яму пяткі чухаюць!

— Бакі можна парваць...— Дыненка заліўся сцішаным рогатам.

— Чуеш, да чаго твой блізкі сябар дакаціўся, чуеш? — усклікае весела Каралькоў.— З прусакамі знюхаўся.

Тут якраз Дыненка вызірнуў з-за стэлажа, паманіў рукой, сказаў:

— Ану-тка, маладзёж, загляньце сюды на хвілінку. Запрашаю.— Яго дабрадушная ўсмешка на ўвесь твар была прыязная і шчырая, такая ж, як і словы.— Зелле ў нас эпі... эфіопскае,— паправіўся.— Ну?.. Хуценька, без тармазоў.

Дуня:

— Аляксандравіч, вы не за тых нас прынялі. Мы гэткага зелля не ўжываем. І вам не раім у рабочы час,— яна працягла глядзела на мяне, нібы пыталася, ці згодны я з гэтай яе платформай наконт зелля.

— Рады за цябе, дзеўчынка. Разумна мысліш. Аднак жа, дазволь удакладніць,— Дыненка вытрымаў паўзу, усмешка знікла з твару.— У каго рабочы час, а ў каго — адно гультайства, расстройства нерваў... Не на рабоце я зараз. Цяпер мне — можна. А ў поле выедзем — там завяжу, ціска, на ўсе матузкі.

— Ой няпраўда, Аляксандравіч. Слабыя вашы матузкі — парвуцца ў першы ж дзень,— насмешліва сцвердзіла Дуня.

— Ты чуеш, Васільевіч? — Дыненка матнуўся за стэлаж.— Капіруе маю рэптылію, акурат! Маладзёж, дык вы катэгарычна супраць зелля адмаўляецеся?

— Адмаўляемся, Аляксандравіч,— Дуня весела пахінулася да мяне, шапнула: — А мо пакаштуеш рому?

Ну ж і хітруха — правярае, няйнакш, ці дападны я да спіртнога. І хоць я не супраць быў пакаштаваць эфіопскага рому, ды назнарок аднекнуўся:

— Не, не хачу... Сёння ж не свята, так? А я толькі па святах ужываю такое зелле,— усміхнуўся.

Дуня, відаць, не зразумела мой жарт — заспакоілася, ухвальна сказала:

— І правільна, Лёшка.— Глыбокі позірк яе заярчэў, зацепліўся.

Мы выйшлі за дзверы, шчыльна прычыніўшы іх: хай там, у складзе, Дыненка з Каральковым вырашаюць свае праблемы, а мы — свае. Я сказаў Дуні:

— Паеду зараз і куплю білеты ў кіно, на вячэрні сеанс... Які браць рад?

— Ану яго, кіно... Часу няма,— адмовілася Дуня.

Я панурыўся.

— Праўда, Лёшка. Я такая соня, што зараз бы вось легла — і тут жа заснула б... Дамоў прыйду, перакушу — і адразу ў пасцель. Уранні будзільніка не чую, гаспадыня пакуль раскатурхае, дык і снедаць няма калі... Не крыўдуй, схадзі адзін.

І ўсё ж, я не мог не пакрыўдзіцца на Дуню, развітаўся з ёй холадна.

З пісьма бацькі майго, Мікалая Сяргеевіча:

«...Нешта ж ты, Ляксейка, сынок, чыркнуў-пыркнуў, а пра сябе і сваю новую работу не напісаў толкам. І чаму гэта, скажы, адрас не пастаянны? Дык што, пісьмо маё, значыць, можа і не застаць цябе? Адно здзіўляе тут нас: сам ты, па сваёй ахвоце, паехаў у такі далёкі свет ці мо сілком прымусілі, а? Напішы, а то нас хвалюе твой нечаканы выезд. Няўжо табе ўдома работы мала? Надакучыў горад — на сяло едзь. З тваёй прафесіяй усюды работа ёсць. Я дык от так думаю: закарцела ўсё-ткі прастудзіцца зноў, бо дужа разагрэўся пры цяпле ды святле. Дык не забывайся, сынок, ахалоджвацца табе саўсім нельга, малым ты часта на запаленне лёгкіх хварэў — аж пяць разоў у бальніцы ляжаў. А ў тайзе цяпло якое? Як ні беражыся, а ўночы сцюдзёна спаць. Лес — гэта ж сырасць... Не-е, паспяшаўся ты зрывацца, няйнакш. Па-перша, трэба было ў бацькі ды маткі спытаць, параіцца з намі, а ты хапу-лапу — і бесталкова, не падумаўшы, сарваўся з добрага месца.

Сынок, Ляксейка, што ж у цябе за работа цяпер? Будзе, кажаш, БАМ недалёка ад вас? От і думайце бацькі, гадайце, куды іх сынок з'ехаў. Задаў ты нам задачку, да якой, відаць, я са сваімі сямю класамі не дарос. Падкінуў бацькам клопату і бяссоння. Але ж дзякуй, што хоць урэменны адрас сабшчыў. Мы тут сабралі табе пасылачку: сала два кіло, каўбасы, палянгвічку, часнаку і цыбулі троха... Ну — і гэтай самай, нашай хвірменнай. Першачок, што спірт. Але — толькі для сугрэву, а не для балаўства, паняў? Грэлку не выкідай, хай застаецца пры табе. Матка кажа, калі раптам астудзішся, крый божа, дык хоць будзе чым ногі сагрэць: вады на цяпельцы ў сваім кацялку ўскіпяціш — і кіпень у грэлку, да пятак прыкладвай дый спі сабе ў мяшку... Ці ён хоць троха цёплы, твой мяшок? На вацінy, мусіць, а?

Дома ў нас усё добра. Каця скончыла школу без троек. Але наравіца такая, якой свет не бачыў: нікуды не схацела пастyпаць, лянівіца. Такая ўбоіна, такая самадумка, што я з маткай не ў сілах былі ёй што зрабіць — ну не слухала нас ані. Засталася ўдома, значыць.

А што яна ўстроіла тут, выбрык які выкінула... Пісака, напісала ў газету, што жадае назаўсёды застацца пры сваім калгасе і што яе, значыць, нікалечкі не цягне ў горад, якім бы ён там ні быў, што б ёй там ні абяцалі, на каго б ні вучылі. А ў калгасе яна, значыць, не супраць рабіць любую работу: куды пашлюць — і ўсё ёй па душы... Так во распісала, а закончыла тым, што рада свайму выбару. У газеце яе пісьмо надрукавалі. І цяпер, ведаеш, амаль кожан дзень паштальёнка пісьмы прыносіць. Мала гэтага — уздумалі кіно пра яе рабіць, такое, каб па целявізары паказваць людзям. Аж утрох прыехалі з Мінску. Мучылі нас усіх гэтыя кіноўшчыкі. Цэлы тыдзень прабылі. Я ўсё ім пра сябе расказаў: як ваяваў, як раніла мяне... Матцы таксама давялося пра сябе расказваць, і старшыню калгаса таксама апыталі, не праміналі. Іх старшы смяецца ўсё са старшыні, кажа: «Дзям'янавіч, хто вас у старшыні выбіраў? Вам бы сама што ў арцісты падавацца — умееце трымацца перад камерай і фотагенічны». Знімалі ўсіх нас, а Кацярына не захацела. Пяць разоў падступаліся да яе, а йна ўсё рагоча ды вочы плюшчыць. Прыхмурыцца і зіркае на бароды кіноўшчыкаў, смяецца. І тады старшы іхні, Марк Яфімавіч, не вытрымаў і загадаў сваім збіраць манаткі. Толькі нарыхтаваліся ад'язджаць, а тут старшыня заходзіць, запрашае ўсіх да сябе, мяне таксама з маткай. Хлопцы яны маладыя, здаровыя. Як уселіся за стол, дык балявалі на дурніцу цэлыя суткі. Столькі ж, праўда, і адсыпаліся. Прадралі вочы — і гайда, змыліся. Так спяшаліся, што каробку з-пад плёнкі забыліся. Трасянуў я каробку тую, аж там нешта ёсць, барбаціць. Паказалі старшыні, дык ён кажа, каб не ўскрывалі, бо якраз, можа, у каробцы і ёсць тая самая плёнка непраяўленая, на якую нас знімалі. А матка твая смяецца дый кажа: «Дарма, Дзям'янавіч, паіў-карміў здымшчыкаў, дарма траціўся. Хоць ты і добры-красівы, а йны ж па целявізары ўсё роўна цябе не пакажуць без Каці... Мусіць жа, ім ты не дагадзіў нечым, бо Яўхімавіч гэты казаў сваім, каб цябе пустой камерай знімалі, не трацілі каб плёнку».

Такая от у нас была пацеха. Кацярына пасля

праверыла бляшанку іхнюю, кацёлку, а там — калода замусоленых карт. Цьфу! Хоць бы карты нармальныя, а то ж срамата адна — голыя бабы намаляваны... Распуста, ат!

Пра сябе што магу сказаць? Тупаю патроху ля двара. Купіў кавялуху, то з ёй зручней намнога. Пастухоўства, ведаеш, мяне падкасіла канчаткова — адкрылася на назе рана. Адзін асколак ужо выйшаў. Застаўся яшчэ адзін. Але ён пабольшы першага, слаба кратаецца. Айбаліт наш, Янушка, кажа, што арганізм лішняе аттаргае. Болі страшэнныя, сынок. Асобенна ўночы. Навярэдзіў нагу за лета, а зімой не так часта хадзіў, не кожны дзень памногу, нагрузку збавіў, таму от — так Янушка кажа — і зрушыліся асколкі. Знасіўся бацька твой, сеў грунтоўна на якар. Матка бядуе, што будзем сёлета без сена. А яно і праўда, прыйдзецца сёлета дакупліваць да таго, што палучым,— Каця з маткай пасуць статак бычкоў-адкормнікаў, нешта ж заробяць.

Быў жа я ў Змітрака... І ведаеш, ён паўгода ўжо як жыве адзін, не з Настассяй. Разладзіў, круцель, сям'ю. Пачаў твой старэйшы брат чамадорыцца: прадаў машыну, грошы распусціў, прагуляў. Дастукаўся, пустадомак, што яго за маральнасць з партыі выключылі... Аж во куды зайшоў. Звязаўся з нейкай журжай, круціў-муціў з ёй, пакуль грошы меў, а кончыліся грошыкі — яна ж і напісала, Эмачка тая яго, ненаглядніца-падушачніца, у райком... Бачыш, як дурняў вучаць? Ну, што ж было рабіць Настассі? Выраклася яго, прагнала з дому, і цяпер адна з двума хлопчыкамі засталася, дашкольнікамі. Нялёгка ёй... Нам трэба ўсім памагаць Настассі. Каб хоць у адной вёсцы з намі жыла, то прасцей было б і памагаць. А так — ну пабыў я ў яе, пабыла матка. Дзеці — у садзіку, сама на рабоце. Круціцца ваўчком — адна ўпраўляецца... Краснаполле які ні горад, а горад. Усядзьбіны сваёй няма, каровы няма, кабанчыка няма... Без уласнай гаспадаркі жыве. Што ў магазіне ўхопіць, то ў іх на стале. А ў магазіне ж і не заўсёды ўсё ёсць, што трэба,— разбіраюць, пакуль яна за дзецьмі ў садзік сходзіць...

Я тыдзень быў у яе, дык толькі й рабіў, што здаваў бутэлькі з-пад малака ды хадзіў па прадукты — хоць так памагаў.

І яшчэ адна навасць — вярнуўся на аседлае жыццё Пабойны Павел Карнеевіч, равеснік мой, разам сямігодку канчалі. Даслужыўся да падпалкоўніка, выйшаў на пенсію — і вярнуўся, цягне пупавішча, кут родны. Калгас будуе цагляны дом яму, над рэчкай, недалёчка ад таго месца, дзе некалі смалакурня была, помніш? Два сыны яго таксама вайскоўцы, а дачка, меншая, у Мінску жыве, інжынерам на «Інтэграле» робіць. Што ўжо там за «Інтэграл» такі, што Павел толькі й гаворыць пра яго ды пра дачку. Яна, кажа, дзяўчына відная, строгая... І яшчэ маладая, тваіх гадоў. Картачку паказваў — нічога дзеўка, праўду кажа. От было б старое, калі бацька жаніў, то ўзяў бы ты Ганну Паўлаву ў жонкі. А што? Яно ж і ў наш век воля бацькоў нешта значыць. Я так думаю: калі ўжо на якой шылахвостцы жаніцца, дык луччы хай па згодзе бацькоў, а? Марчыкава ж Ірка была тут нядаўна, прыязджала. О, яна цяпер такая, што з дуляй да яе не падступіцца, ганарліўка. Як жа — у Маскве вучыцца... Хаця ўжо, кажуць, скончыла вучобу. Ты, пэўна ж, перапісваешся з ёй і ўсё ведаеш...

Ну во, калі б гэта я мог столькі табе напісаць — не было ў мяне часу на такія пісьмы. А зараз — нага прымушае даўжэй за сталом затрымлівацца, і я сяджу во і пішу. Глядзі там, сынок, не пі гарэлку праз меру, не марнуй сябе. Здароўе — гэта ж тое самае шчасце. Ёсць здароўе — і ўсё пры табе ёсць. А яшчэ калі ў цябе не пусты качан, як у Змітрака нашага, а галава, дык ты да гэтага свайго шчасця-здароўя далучай і ўсё тое добрае, што ёсць у жыцці. Жытка ў нас адна, і зацямняць свой розум гарэлкай не геройства, а самагубства. Прашу цябе: трымай сябе сам у руках, не распускайся. Воля — яна, як вецер, па сіле таму, хто ўмее ўпраўляць сабою. Твая лодка ўзляцела на самыя высокія хвалі, і цяпер старайся толькі ўпраўляць ёю правільна, умела. Мне дык проста жыць стала — мая лодка прычаліла, я сваё адплаваў, усяго

нацярпеўся, наглядзеўся, і ўжо можна спакойна спачываць, бавячы час пры доме. Таму стаў на якар, зазямліўся...»

* * *

На ўзгоне барвяна-золкага, ядранага досвітку гадавалае ізюбраня (паляўнічы назваў бы яго шыльняком) пакінула падольныя аблогі палясоўя і ўзяло кірунак на Баргузінскі хрыбет, туды, дзе мінулай вясною ў гушчырні таежнага распадку, апоўначы, яно аб'явілася на свет і дзе як не да зазімку выгульвалася на пажыўным мацерыным малацэ ды сакаўных, гаркава-церпкіх і чуць саланаватых таежных травах.

Тупкая пакручастая сцежка спрабуе апеbecause агрузлую крушню замшэлых валуноў-гігантаў, але нечага на дзіва хутка забывае пра свой намер — крута заварочвае ўлева, кроіць напалам кругловіну маладога, яшчэ зусім кволага папаратніку, знячэўку выбягае на баравую палянку, спрэс усланую, акурат дыванам, мядзяна-белым ільсністым ягелем, тут жа хаваецца ў густы, калючы зараснік глогу, неўзабаве мякка спускаецца ў воглую куп'істую імшарыну, што аж гарыць уся ад яркамалінавага полымя багуновага квету, нарэшце, паката, улукаткі сягае расколінай угору, на пад'ём, неўпрыкмет шыецца па знітавана густым — не прабіцца — сланіку і, вольная, выбягае на чыстае, адольвае голы, без адзінага каліўца зеляніны пагорбак, па краях якога ў глыбокіх размоінах шарэе мясцінамі ацесліва-зляжалы, буравата-шэры снег.

Апынуўшыся ў зацішным распадку, ізюбраня недзе больш за гадзіну няспешна скубе пакуль яшчэ небагатую раннюю позелень тайгі, п'е з ручая амаль ледзяную ваду і зноў пасецца. Тут жа, у распадку, яно ўкладваецца на днёўку, спіць і ў сне бачыць сваю маці, маралуху. Здаецца, яна побач, пры ім, і яму ад гэтага добра і ўтульна ў тайзе...

Незамутнёнай, бруістай крыніцай віруе наўкол маладая сіла жыцця. Рахманы ветрык разгайдаў цяжкія суквецці чаромхавых прысад, пчаліным гудам звініць неаціхная мелодыя вясны — мелодыя абнаўлення і росквіту.

## 2

Міналі дні ў чаканні лётнага надвор'я. А яго не было, такога надвор'я. Не было ўжо для нас і пэўнага занятку. Усе нашы прылады працы напагатове — проста самі ў рукі просяцца. Як ні дзіўна, кожная з іх мне добра знаёмая. Што й гаварыць — дапатопныя прылады, разлічаныя на сілу і спрыт рук чалавечых. Вось некаторыя з іх...

Л о м. Па-брыгаднаму — карандаш. Адзін канец яго завостраны шылам, другі лапатачкай, акурат як у адвёртцы. Ламоў усіх шэсць — у кожнага рабочага свой.

Л а п а т а ш т ы к а в а я. Ці проста — рыдлёўка. Хлопцы лапатай завуць. Іх дзесяць. Ёсць яшчэ і ў запасе некалькі, але без тронкаў. Што ўжо што, а з рыдлёўкай, думаю, ніякіх складанасцей у мяне не павінна быць. Выбіраў яе сам, сам жа і даводзіў да ладу. Цаўё (тронак) зрабіў не бярозавае, а грабавае — не паломіцца, думаю, на сезон хопіць.

Ш у ф е л ь. Прылада працы — ух, робіць за двух! Менавіта з шуфлем можна браць болей і кідаць далей, пакуль зямля ляціць — старайся адпачыць. Шуфель мне таксама добра знаёмы і прывычны — я неаднойчы памагаў свайму гаспадару, у якога кватараваў, згружаць з машыны брыкет. У нашым звяне аж два шуфлі: адзін нармальны, а другі чамусьці з укарочаным цаўём. Вуцёха кажа, што так трэба, маўляў, прыйдзе пара — будзеш ведаць. Што ж, калі сам звенавы кажа так, то і няхай сабе, я не супраць.

М о л а т. Іх тры, на кожнае звяно свой. Праўда, ёсць і пры машыне адзін, на палову меншы. Гэты молат, меншы, Шумок заве кувалдай. Такім вось молатам-кувалдай, помню, да схочу давялося памахаць: будучы на вайсковых вучэннях, я, сержант, суправаджаў бензазапраўшчык, пасля пераправы цераз раку ўброд шафёр агледзеў, што між здвоеных задніх колаў панабівалася камянёў... Пакуль мы ачысцілі колы ад камянёў, дык і шафёр увапрэўся ад поту, і мне, яго памагатаму, хапіла. Вуцёха казаў, што молатам будзем трушчыць камяні. Але навошта іх трушчыць?

Кайло. Ці проста — кірка. Бачыць гэту прыладу працы — бачыў. А вось рабіць ёй ні разу не даводзілася. Кірка нечым нагадвае матыку, ад якой у маленстве я папанасіў мазалёў. Мне было недзе гадоў сем-восем, калі дзеду майму, Сяргею — ён рабіў тады леснікам,— выдзелілі на высечанай дзялянцы (палядках) аж за трыццаць сотак ляснога дзірвану з пнёўем. Я памагаў дзеду раскарчоўваць, а затым і матычыць палядкі. Іх мы пасля засеялі просам і грэчкай... З таго часу, прызнацца, і люблю прасяны малочны суп і грачнёвую кашу.

Тапор. Гэта па-брыгаднаму так. А для мяне — сякера. Нарадзіўся ў вёсцы, пражыў там васемнаццаць гадоў і амаль штодня меў да сякеры самае непасрэднае дачыненне. Карацей, з сякерай я на «ты». Канечне ж, не стаў яе тачыць наждаком, як гэта зрабілі хлопцы, бо, лічу, наждак калі і прыгодны для чаго, дык толькі для наводкі зубоў у ланцугу ад бензапілы. Якраз для гэтага мы і ўзялі яго. Я не паленаваўся — пайшоў у леспрамгасаўскую майстэрню (гэта недалёка ад базы, праз квартал) і навастрыў сякеру на звычайным тачыле, пясковым, і цяпер яна вострая — як брытва. Зрэшты, Сінёў зрабіў тое ж самае. Аднак мая сякера яму здалася ўсё роўна вастрэйшай, і ён пахваліў мяне за наводку. Корневу не спадабалася, што мяне пахвалілі, пачаў даймаць тым, што я, маўляў, выбраў сабе не тапор, а самалдыку: абух касаваты, вузкі, лязо залішне шырокае, аж выпірае наперад, з гарбінкай — копія капусны сякач. Да таго ж, ён, дзівак, узяў на сябе смеласць паправіць мяне, заўважыў, што калі ўжо гаварыць, то трэба правільна: не сякера, а сякіра... Што ён разумее, гэты Корнеў.

Мінулы тыдзень прайшоў, можна сказаць, весела і бесклапотна — мне нават падабалася, што нічым, апрача работ на складзе, больш не трэба займацца. І вось я таксама свабодны, як і хлопцы. Ніхто на мяне, вядома, ніякага нарада не афармляў — за так усё рабіў. Шэсць дзён. Марына Адамаўна, праўда, паставіла ўмову: калі я, вярнуўшыся з поля, прыйду да яе ў склад штатным рабочым, то мне тады і за гэтыя дні заплоцяць...

Дзівачка яна ўсё ж: не грашыма мяне завабіў склад, там — Дуня, я памагаў ёй. І толькі. Паступяць грузы — зноў памагу, калі будзе час.

Не ведаю, можа, пры якіх іншых абставінах бяздзейнасць і радавала б, толькі нам зараз не да радасці — бяздзейнасць пачала нерваваць. Сінёў падкінуў быў ідэю зрабіць пераносную растворамяшалку, мы літаральна за паўдня зрабілі яе — з бочкі, густа пафарбавалі кузбаслакам. Нарыхтавалі таксама і неабходных памераў труб, прываравыўшы да аднаго з іх тарцоў металічныя маркі з пэўным нумарам і магічна-прыцягальным словам з прапісных літар — ГУГК. Заадно парабілі сабе адменныя таежныя нажы, цесакі такія, што здалёк пакажы мядзведзю — збяжыць на край свету. Рэчы, прылады працы, правіянт і шматлікі іншы рыштунак — усё спарадкавана належным чынам, упакована, знесена ў адну кучу ў складзе адпраўкі, накрыта брызентам. Застаецца толькі падагнаць машыну, пагрузіцца — і на аэрадром, які, зрэшты, добра відаць з тэрыторыі базы. Самалётаў поўна там, вялікіх і малых. Праўда, лётае зрэдку ўсяго толькі адзін — кукурузнічак, а ўсе сучасныя лайнеры стаяць, бліскуча вабныя, загадкавыя, падобныя на дэльфінаў. Сярод іх недзе і нам прызначаны транспартнік.

Венька Шумок, шафёр, і Філат Кружлік, які таксама ведае шафёрскую справу, не бядуюць. Ім не трэба чакаць лётнага надвор'я — будуць сваім ходам дабірацца ў раён работ. На газончык-усюдыход умесціліся дзве бочкі бензіну, дзевяць скруткаў кашмы — кожнаму свой дыванчык для подсцілу пад спальнік (кашма не простая, а з вярблюджай воўны, спецыфічны пах якой адпужвае не толькі гадзюк ды вужоў, нават мурашак), гумовая лодка з драўлянымі вясельцамі і ручной помпай, сетка рыбалоўная, малаткі, молаты, рыдлёўкі, шуфлі... Машына напагатове ўжо, і заўтра досвіткам яна пакіне шырокі падворак экспедыцыйнай базы.

Апоўдні нас усіх паклікалі ў кантору, сабраліся ў кабінеце Каралькова, утульным, прасторным, светлым, дзе і распачаўся сход. Юрыдычна такі сход, брыгадны, неабходны — нам зачыталі

шэраг самых розных інструкцый і палажэнняў. Пасля выступаў Каралькоў. Недзе з паўгадзіны ён гаварыў, пахваліў Шумка за тое, што належным чынам падрыхтаваў да выезду ў поле машыну.

— Шумок Веніямін Арнольдавіч.— Каралькоў узяў са стала канверт, памахаў ім, як веерам, перад сабой.— Калі ласка... Начальнікам экспедыцыі вам аб'яўляецца падзяка з выдачай на рукі грашовай прэміі. Атрымайце.

Венька падышоў да Каралькова, узяў канверт і, дзівак, тут жа раскрыў яго і дастаў грошы, усяго адну паперку, але якую — сторублёвую! Ён быў прыемна здзіўлены, стаяў і ўсміхаўся — па ўсім відаць, не чакаў такой саліднай сумы.

— Шум, ты не радуйся вельмі, цябе падкупляюць! — крыкнуў яму Шчыгол.

Венька схаваў грошы ў кішэню, павярнуўся і моўчкі пакіраваў на ранейшае месца, сеў, не сказаўшы нічога ў адказ ні Шчыглу, ні «дзякуй» за прэмію.

— Іван Сцяпанавіч,— Каралькоў павярнуўся да Сінёва,— думаю, прадпісанне вадзіцелю не варта зачытваць.

— Не трэба,— пагадзіўся Сінёў. І да Шумка: — У цябе ёсць прадпісанне, атрымаў?

— Ёсць.— Шумок паволі, нехаця ўстаў, дастаў з кішэні чырвоную кніжачку, паказаў.— Засвоіў. І распісаўся.

— Добра, сядай.— Сінёў — вясёлы, на ўздыме. Затое Кружлік — пахмурны, насцярожаны.

— Ну, а што нам медыцына скажа? — звярнуўся Каралькоў да дакторкі.— Вольга Іванаўна, вам слова.

Падышла да стала мажная, сутулаватая жанчына ў белым халаце, здаецца, аж трохі сінявальным ад белізны, загаварыла на дзіва танюткім, акурат дзіцячым галасочкам:

— Скажу тое, што памятка па аказанню першай дапамогі пры няшчасных выпадках і захворваннях усё яшчэ не раздана рабочым... Заняткі праведзены, але гэтага мала.

— І што ж вам, паважаная Вольга Іванаўна, замінае раздаць памятку? — далікатна, але не без яхіднасці запытаў Каралькоў.

— Няма як размножыць... Машыністка даклад Шмаціну друкуе.

— Гэта не адказ,— абыякава махнуў рукой галоўны. Ён тут жа прайшоў да шафы, дастаў стос прыгожых, у сініх вокладках, невялікага памеру блакнотаў, такіх, як засунуць у кішэню, і выдаў кожнаму з нас па аднаму.— Пісаць ёсць чым?

— Ёсць,— пачулася адразу некалькі галасоў.

Каралькоў вярнуўся за стол, апусціўся ў крэсла, паклаў рукі на падлакотнікі і ўладна сказаў:

— Дыктуйце, Вольга Іванаўна, памятку — хлопцы заканспектуюць.

— І праўда, Васільевіч, так зручней будзе, калі кожны з іх запіша сабе ў блакнот...— І дакторка ўзрадавана засакатала: — Пры раненнях забараняецца прамываць рану вадой, ёдам змочваецца толькі скура вакол раны і накладваецца стэрыльная павязка; пры моцным крывацячэнні спачатку трэба прыціснуць пальцам артэрыю, па якой кроў паступае да раны, і тады пераняць канечнасць вышэй раны жгутом ці закруткай...

— Вольга Іванаўна,— перабіў дакторку Каралькоў, паблажліва заўсміхаўся.— Надта ж падрабязна... На больш істотным засяродзьцеся.

— У медыцыне ўсё істотнае,— ускіпела раптам дакторка.— Набярыцеся цярпення і, калі ласка, больш не перабівайце.— І да нас: — Запісвайце далей... Пры пераломе канечнасці накладваецца поверх адзення шынная павязка так, каб абломкі косці сталі нерухомымі. Пры адсутнасці падручнага матэрыялу, можна прыбінтоўваць зламаную руку — да тулавішча, зламаную нагу — да здаровай нагі. Пры вывіхах не трэба спрабаваць рабіць упраўленне, калі няма адпаведных на тое навыкаў, бо можна пашкодзіць сустаўную сумку; на пашкоджаную канечнасць абавязкова кладзецца халодны кампрэс. Пры апёках другой ступені (на скуры з'яўляюцца вадкасныя пухіры) трэба накласці на пашкоджанае месца стэрыльную павязку ці перавязаць чыстай хусткай, змочанай у растворы марганцавакіслага калію, пацярпеўшага часта поіць гарачым чаем. Пры цеплавым ці сонечным ударах (чырвань на твары, хісткая паходка, галавакружэнне) неабходна завесці пацярпеў-

шага ў цень, раздзець яго і абцерці халоднай вадой, на лоб і сэрца пакласці халодны кампрэс; страціўшаму прытомнасць не трэба ўліваць у рот ваду — яна можа зацячы ў лёгкія; калі пацярпеўшы не дыхае, трэба зрабіць яму штучнае дыханне. Выцягнутага з вады тапельца можна вярнуць да жыцця нават калі ён прабыў у вадзе параўнаўча доўгі час. З пацярпеўшага тут жа трэба зняць адзенне, нахіліць уніз галавой і выліць з дыхальных шляхоў і страўніка ваду, аслабаніць рот і нос ад пабочных прадметаў (штучныя зубы-пласціны, слізь, кроў, пясок), расцягнуць пояс і распусціць завязкі...

— Гы-гы-гы...— не сцярпеў Шчыгол, які, аднак, нічога не запісваў.— У мяне пытанне да вас: а калі ў пацярпеўшага фікса, то яе трэба выбіць? — Ён зірнуў на Вуцёху.

Вольга Іванаўна запыніла свой зацікаўлены пагляд на Шчыглу і працягвала дыктаваць:

— Штучнае дыханне можна рабіць рознымі спосабамі, з іх найбольш прыдатныя такія, як спосабы Шэфера, Сільвесцера, Калістава, спосабы «рот у рот» і «рот у нос»...

Побач са мной сядзеў Корнеў, ён шапнуў мне:

— Урачыха Шчыглом зацікавілася... Разгадае яго хітрасць — во будзе шуму, а?

— Не замінай.— Я збіўся і недзе і добры абзац прапусціў, не запісаў.

— ...пры ўкусах ядавітымі змеямі і насякомымі ўсе меры дапамогі, уключаючы і дастаўку ўкушанага ў лячэбную ўстанову, павінны быць неадкладнымі, бо яд паступае ў кроў вельмі хутка. У мяне ўсё.— Вольга Іванаўна прайшла і села непадалёк ад Шчыгла.

Каралькоў спытаў Сінёва:

— Іван Сцяпанавіч, маеце што сказаць?

— А што гаварыць? — Сінёў прайшоў да стала, ваяўніча цепнуў плячыма.— Пры кантрольным апытанні ўстаноўлена, што члены брыгады засвоілі і добра валодаюць практычна ўсімі магчымымі прыёмамі бяспечнага вядзення работ, дакладна ведаюць свае абавязкі ў працэсе вытворчасці і ў час перамяшчэння. Лічу, што да выезду

ў поле мы падрыхтаваліся як мае быць, усё гатова — хоць сёння можна ехаць.

Узяў слова Кружлік. Спачатку ён выказаў свае сумненні наконт выканання плана, які назваў яўна завышаным, пасля ўзбіўся на псіхалагічную сумяшчальнасць, так неабходную касманаўтам і якой нібыта якраз не стае нашаму разнашэрснаму калектыву, і доўга нёс ахінею пра маральны клімат у брыгадзе. У заключэнне, аднак, запэўніў кіраўніцтва, што асабіста ён будзе прыкладваць усе свае намаганні па *цэментацыі* калектыву. Так і сказаў, дзівак. І Шчыгол не стрымаўся, выгукнуў з месца:

— Во-во!.. Ясна цяпер, для чаго мы так спешна растворамяшалку рабілі.

Я назіраў за Вольгай Іванаўнай. Яна сапраўды вачэй не зводзіла са Шчыгла. Ёй спадабаўся ягоны жарт — усміхнулася куткамі вуснаў, кіўнула галавой, ацiхла. І тут падняўся Міша Вуцёха, захвоціўся таксама нешта сказаць.

— Я, канечне,— спакойна пачаў ён,— Кружлікавай цэментацыі не баюся. Мяне другое хвалюе: не можам мы больш чакаць ні дня, абы-што робім, а галоўная работа стаіць... Трэба машынамі дабірацца на месца, усёй брыгадай.

— Машынамі? — падняўся Каралькоў.— Машынамі не выходзіць, авіярэйс даўно аплочаны. Нават калі яшчэ тыдзень прыйдзецца чакаць, а то і ўсе два, будзем чакаць.

— Гэта бюракратызм! — зласліва, з адчаем выгукнуў Вуцёха.

Вольга Іванаўна здаволена пасміхнулася. Гэту яе ўсмешку не праміну́ў Каралькоў, заўважыў. Сумеўся, сказаў да Вуцёхі:

— Чаго вы так бурна, Вуцёха? — паправіў акуляры.— Не спяшайцеся, хай там хоць троху зямля прасохне... У Баргузінскай тайзе, калі хочаце ведаць, снегу поўна.

— А што нам снег? — не маўчыць, стаіць на сваім Вуцёха.— Ехаць трэба. Лета ў нас тут кароткае, як у аленя хвост, восень — дажджлівая і халодная...

— Спакойна, таварышы.— Каралькоў падняў руку, прайшоў да акна, адчыніў фортку, заку-

рыў.— Я ўпэўнены, па-першае, што план вы, канечне ж, выканаеце,— голас спакойны, нават узнёслы.— Галоўнае,— працягваў ён,— каб уся ваша ўвага была скіравана на калектыўнае вырашэнне неадкладных праблем — адзін за ўсіх, так сказаць, і ўсе за аднаго. І па-другое, я думаю, што план вашай брыгадзе ніколькі не завышаны — ён самы што ні ёсць рэальны. Справіцеся з ім датэрмінова — будуць прэміі, будзе належная пашана, а разам з ёй і матэрыяльная выгада. Не хаваю ад вас: маршрут не з лёгкіх. Вы будзеце весці рэкагнасцыроўку і пабудову пунктаў трыянгуляцыі 2 і 3 класаў у раёнах перасечанай мясцовасці, якая багата воднымі і забалочанымі перашкодамі, адгор'ямі, камяністымі заваламі. Перамяшчацца будзеце ў асноўным на аўтамашыне і пешым парадкам. Магчыма таксама выкарыстанне ўючных коней і верталёта. Як бачыце, трэба строга трымацца правілаў бяспечнай работы, быць узаемна паслужлівымі, уважлівымі, не пакідаць таварыша ў бядзе, без дазволу кіраўніка брыгады не адлучацца далёка ад палатак і аб'ектаў.— Гаварыў ён лёгка, гладка і ўсё нечага зіркаў на Вуцёху, кожны раз блізарука жмурачыся, папраўляючы акуляры.

Прэміі, пашана... Сінёву і Кружліку, пачуўшы такое, можна адразу ў скокі пускацца. А нам — сваё: канчатковы разлік з вылікам падаходных і халасцяцкіх падаткаў з усёй налічанай сумы, ну і цвёрды абяцанак прыняць на работу зноў, праўда, такую прывілею будуць мець не ўсе, а толькі сёлетнія ўдарнікі — у наступным сезоне ім зялёная вуліца!

Каралькоў парысаваўся перад намі каралём, пачаставаў курцоў цыгарэтамі з фільтрам, і мы — пачаўся спорны дождж — пабеглі да сябе ў сталярку. Усе сабраліся... Не, Шумка няма. Ён адразу з канторы падаўся на аўтобусны прыпынак — паехаў адсыпацца перад дарогай.

— Чарсцвяк!..— абазваў галоўнага Вуцёха.— Разыгрывае дабрака, а добрага ў ім — як у п'яніцы грошай. Таўстун віслапузы, пянёк!

Ну во. Ні Сінёў, ні нават Кружлік, якія толькі што паабяцаў кіраўніцтву займацца цэментацыяй

калектыву, на гэты «выкідон» Вуцёхі не звярнулі ўвагі, і Міша, усцешаны, расказаў нам, як прасіў Каралькова, калі той прылятаў да іх на Таймыр, а пасля вяртаўся назад амаль на пустым транспартніку, прыхапіць заадно і яго бочачку з засоленай сёмгай. Каралькоў рашуча адмовіўся, і дэфіцытная рыба прапала заніпто... Падумаць толькі, гаспадарлівы Вуцёха налавіў сёмгі, засаліў, а гэты пянёк, таўстун віслапузы, не даставіў бочачку ў аэрапорт, і Вуцёхаў стрыечны брат вярнуўся з аэрапорта ні з чым.

Злуе Вуцёха на галоўнага, зневажае яго. А за што, уласна? За тое, што Каралькоў не ўступіў з ім у хаўрус? Што ж, кожны з нас па-свойму сыходзіцца з людзьмі і кожны па-свойму, пэўна ж, ставіцца да іх: адзін глядзіць, скажам, на свайго сябра як на аднадумца, таварыша, другі — «сябруе» з ім дзеля карыслівасці, дзеля нейкіх асабіста сваіх выгод... Жыццё — яно на ўсё багатае, усяго ў ім удосталь, шкада толькі, што неаднолькава кожнаму ўсміхаецца на сяброў.

Ціха ляпнулі дзверы — зайшла Дуня. Дзіўна проста, толькі я падумаў пра яе — і яна тут як тут, у сталярцы, нерашуча затрымалася ў парозе, пытае ў Сінёва:

— Дык што, Сцяпанавіч?.. Без мяне паедзеце? — у голасе ноткі дакору і несхаванай крыўды.

Сінёў, чырванеючы ў твары, мусіў павініцца перад ёй, не забыўшы пры гэтым памянуць Каралькова:

— Даруй ты ўжо мне, добрая душа... Галоўны ўпёрся — і ні ў якую, не адпускае цябе з намі ў тайгу. Я тут — бяссільны.

— Не перажывайце, Сцяпанавіч. Я на вас не ў крыўдзе.— І да нас: — А вы, хлопчыкі, ох і папатрудзіцеся, паскачаце дроздзіка!..— сказала наўздзіў весела і ганарліва-незалежна, кальнула мяне позіркам і... выйшла.

Сінёў як сядзеў за сталом-варштатам, засланым картонам, так і застаўся сядзець, не паварухнуўся нават. А я не ўседзеў — вомігам вышмыгнуў вонкі, дагнаў Дуню, правёў да склада. Яна мне — ні слова, а я тым больш. Мы і развіталіся так, моўчкі,— позіркамі.

Як толькі я зноў аб'явіўся ў сталярцы, Сінёў зацікаўлена спытаў:

— Ну, яна там не вельмі пакрыўдзілася?

Шчыгол:

— Сцяпанавіч, каго вы пытаеце?.. Маткі-таткі, ды ён ёй — даю галаву на знос — і слова не сказаў, маўчаў ды, можа, чырванеў... От калі б на яго такую прафуру напусціць, як мая першая жонка, вопытную...

— Ну-ну, не фантазіруй,— прыструніў Сінёў Шчыгла, перадаў яму ад сталяркі ключ і, сур'ёзны, заклапочаны, стаў збірацца дахаты.— Запрашаю ўсіх вас на чай — паехалі! — прыветна пасміхнуўся.

— Не трэба нам чай, Сцяпанавіч,— грэбліва махнуў рукой Шчыгол.— Чаю ўсё роўна многа не вып'еш.

І праўда, калі б куды за горад выехаць усім разам, парыбаліць на Ангары ці ў тайзе пасядзець ля цяпельца — гэта іншая рэч, там можна было б і чайком пабалавацца, а не — мацнейшым чым. Кватэрай гарадской, якая б яна шыкоўная ні была, нас не завабіш, і мы дружна адмовіліся ад запрашэння.

Сінёў паманіў пальцам Шчыгла, той падышоў да яго, нецярпліва сказаў:

— Слухаю вас, Сцяпанавіч.

— Будзеш за старшага. Глядзі, не спаліце мне тут сталярку.

— Ды што вы — усё будзе люкс-шык-окейна!

— Не кажы гоп...— Сінёў вышчыкнуў з блакнота лісток, напісаў на ім свой дамашні адрас і нумар тэлефона — аддаў паперку чамусьці не Шчыглу як старшаму, а мне.— Калі што-якое — я дома.

— Бокуш за сувязнога?..— рот у Шчыгла да вушэй, губы тоненькія, як напятыя гумкі.— На пабежках будзе — гэта добра.

— Бокуш — мой камісар,— даволі выразна сказаў Сінёў.— Як толькі хто з вас пачне буяніць, адразу выйдзе і пазвоніць мне ад дзяжурнага. Ясна?

— Ясна, Сцяпанавіч. Але ён не выйдзе, мы яго прывяжам.

Усе засмяяліся, апрача Кружліка, які ў гэты момант стаяў ля акна і быў нейкі адчужаны, варты жалю — зусім не падобны на сябе ранейшага, нават учарашняга.

Сінёў неўзабаве сказаў яму:

— Не журыся, Філат. Усё будзем пароўну дзяліць — і славу, і няславу, і клопат... Трымай хвост пісталетам: поза бзыка — актыўная поза, бунтоўная!.. Дык што, пайшлі?

— Ды во, Зіну чакаю...— выраз твару яго па-ранейшаму кіслы, непрыветны.—Набраў тушонкі,— кіўнуў на руказак, што быў у парозе,— аднаму і не падняць,— прайшоў да руказака.— І праўда, чаго тут сядзець — пайшлі... Падмагні,— звярнуўся да Сінёва, узяўся за шлейкі руказака. Калі руказак быў у яго за спіной, кінуў мне: — Бокуш, прыйдзе жонка мая, перадай, каб дамоў ехала.

Сінёў тым часам гаварыў Вуцёху:

— Калі заўтра раптам пагода наладзіцца, абавязкова пазвані. А сама лепей — прыязджай пры ўсёй выкладцы,— і першы ступіў на выхад.

Кружлік — за ім следам, сагнуўшыся ў тры пагібелі пад цяжарам руказака з тушонкай.

Не прайшло і паўгадзіны — завітала ў сталярку Зінаіда Паўлаўна, Кружлікава жонка, маладая, рэдкай красы жанчына. Бадай, самае прываблівае ў ёй — гэта вочы, чуць раскосыя, вялікія, поўныя блакіту; валасы бліскуча-русыя, з цёмным шаўкавістым адлівам, густыя, сабраныя ў даўгую касу, нават залішне даўгую. Ніштаватая кабетка. Ажно не верыцца, што яна, такая выразная, па-добраму яркая, магла захапіцца Кружлікам, «цэментоўшчыкам» калектыву. Пашанцавала яму ў жаніцьбе — шчаслівчык!

Зінаіда Паўлаўна павіталася, але, не ўбачыўшы Кружліка, як разгубілася ўсё роўна, непаразумення спытала ў Вуцёхі, якога ведала, дзе яе муж. І Міша пераказаў ёй усё, аб чым прасіў Кружлік мяне. А я тым часам сядзеў маўкліва на сваім руказаку і стараўся калі не адкрыць, дык хоць злёгку «намацаць» закон, па якім падбіраюцца пары, складаецца сям'я. Сапраўды, нечым жа кіруюцца людзі, калі ўступаюць у шлюб, ці, можа, імі сама прырода кіруе?.. Ёсць над чым паламаць

галаву, ёсць. Неяк жа во красуня з красунь — вачэй не адвесці — пабралася з такім неўпадобай Кружлікам: рабы ўвесь, нават спіна і грудзі ў рабаціннi, бровы агняна-рыжыя, густыя, такая ж самая і чупрына, рыжая, густая і нечага заўсёды як мокрая, мядзяна-жоўтая... Неўпадоба, ды вось жа прывабіў Зінаіду Паўлаўну, запаў ёй у сэрца. А можа, тут зусім проста ўсё адбылося: яна, уражлівая душа, пабачыўшы абкарнанае вуха Кружліка і два ўкарочаныя, без верхніх сустаўчыкаў пальцы левай рукі, пранiклася павагай, пашкадавала нешчаслiўца?.. Магчыма. А што? Пры знаёмстве ён расказаў ёй, як малым сарваўся з лыжаў за стайкай — праваліўся ў вялікую снежную гурбу, дзе і прабыў паўдня. Калі б не малы мароз — акалеў бы там, а так падмарозіў вуха і пальцы, нават запаленне лёгкіх не схапіў. Зрэшты, Кружлік белабілетнік, у арміі не служыў, што таксама не гонар мужчыне. І ўсё ж — шчаслiўчык ён, няйнакш у сарочцы радзіўся.

Мне прыгадаўся Міколка, чатырохгадовы сын Кружлікаў. Учора ён быў з бацькам, заходзілі да нас у сталярку. Настойлівы малы, прачуў, што жыве ў сталярцы сібірскай пароды кот, дык закамандаваў, каб яму паказалі яго. Паглядзеў — і забраў бы котку да сябе, дамоў, але бацька не дазволіў. Дык вось гэты самы Міколка ўвабраў у сябе ўсё самае лепшае ад маці: і колер вачэй, блакітны, і нос, і вусны, і зубы-часнок, праўда, яны пакуль часовыя ў яго, малочныя. Між тым, у бацькі вочы шэрыя, невыразныя, нос чуць скрыўлены, даўгі, вусны тонкія, капрызліва-прыпухлыя, зубы няроўныя, густыя, аж налазяць адзін на адзін — і нічога гэтага не паўтарылася ў сыне, ну ні трошкі! То, мусіць, і праўда, прыгожае з непрыгожым — дае прыгожае? А што — лагічна: добрае ў жыцці перамагае!

Я звярнуў увагу на Шчыгла. Ён як запыніўся ля стала-варштата, так і стаяў незварушна і маўкліва, увесь час не спускаючы з Зінаіды Паўлаўны вачэй,— пажадна, сквапна глядзеў. Гардуноўскі з Корневым гулялі ў дарожныя шахматы і не звярталі на госцю ўвагі. Міхалёў чытаў, жыў кнігаю.

І вось яна, Зінаіда Паўлаўна, развіталася з намі, пайшла. Я напачатку не зразумеў, чаму пацямнела так адразу ў сталярцы, аж гэта Шчыгол засланіў сабою акенца — глядзеў услед Зінаідзе Паўлаўне да таго часу, пакуль постаць яе не схавалася за складамі.

— Джаконда!.. Фея! — узнёсла ўсклікнуў ён і ўсеўся на бітон, абапёрся рукамі на калені.— Самавітая, статная... А губкі якія ў яе, бачылі? Два ружовыя пухавічкі... А вочы?!. Хлопцы, вы звярнулі ўвагу на яе вочы? Яй-бо, зайшла, убачыла, што мужанька няма, так слёзы і навярнуліся... Нешчаслівая яна [illegible] Кружлікам. Апоўзлік, такую жанчыну марнуе, ах!..

— З табой, думаеш, яна шчаслівейшая была б? — Вуцёха таксама пачаў збірацца дахаты.— Чыя б авечка бляяла, а твая маўчала б — яшчэ невядома, хто з вас апоўзлік, а хто чалавек.

— Як — невядома?..— Шчыгол назнарок пакрывіў твар — нос чуць выцягнуўся, пацешна прыплюшчыўся і пахіліўся набок, ніжняя губа патанчэла і напалову зайшла пад верхнюю, капрызліва-вузкую, падобную на Кружлікаву — копія.— Воўчы гліст ён, а не муж. Хацеў, бачыце, усперці на жончыны плечы рукзак з кансервамі. Смех. Думаеце, чаго ён драпануў, не пачакаў яе? Сорамна стала.

— Ты, Саня, выступай, ды азірайся,— міралюбна параіў Вуцёха.— Данясуць — пакукуеш тады. Кружлік — не Сінёў, ён хваравіта ўспрымае падобныя жарцікі... Так што ўмей трымаць язык за зубамі,— і падаў яму руку на развітанне.

Шчыгол працягнуў усяго толькі ўказальны палец: кпліва спытаў:

— А падхалімаў ён любіць?..— счакаў, пакуль Вуцёха прасоўваў рукі пад лямкі, памог узваліць рукзак на плечы, дадаў: — Знаю, падхалімаў ён абагатварае, бо сам такі ж... Ну, Міша, будзь здароў і не чхай,— у дадатак тоўхнуў яго ў плечы.— Мая ўзаемная парада табе: не вельмі там перагружай жонку ўночы, гы-гы-гы...— забег наперад, адчыніў дзверы.— Моцнага ветру табе!

Вуцёха адмахнуўся ад яго — пайшоў лёгка,

спружыніста, хоць і быў яго рукзак нічуць не лягчэйшы за Кружлікаў.

Засталіся ў сталярцы адны навічкі, так сказаць, нядаўнія параднёнцы, аднаго поля ягады — тыя самыя лёгкія на пад'ём пералётныя птахі, якім захацелася пабачыць свет. Нас пяцёра, навічкоў: Толя Міхалёў, Саня Шчыгол (прызнаўся, што гэта жончына прозвішча, а так ён — Салдакоў), Пятро Гардуноўскі, Валодзька Корнеў і Аляксей Бокуш — гэта, значыць, я. І вось мы, нявопытныя рабочыя, з вопытным Вуцёхам, уласна, за нейкія там шэсць месяцаў павінны справіцца з адказным заданнем, якое ў звычайных умовах — з двума выхаднымі, пры васьмігадзінным рабочым дні і з такой жа колькасцю рабочых — разлічана роўна на год і чатыры месяцы. А мы бяромся ўправіцца за адзін сезон. Абсурд нейкі, няйнакш. А што, калі Кружлік і сапраўды мае рацыю?.. Не, я не магу не верыць Сінёву, які, між іншым, упэўнены, што калі як след пастараемся, дык усе работы скончым датэрмінова — за пяць месяцаў. Во аж як!

Сумуюць хлопцы, шукаюць за што б зачапіць рукі, чым заняцца, каб забавіць сябе да вечара. Я па-ранейшаму сяджу ў баку ад усіх і, падобна, сам сябе спрабую зразумець... Гэта ж, кінуў-рынуў усё, не пашкадаваў цёпленькага — наседжанага за два гады — месцейка ў ПКБ трэста «Хімрамбудмантаж», дзе займаў даволі бесклапотную пасаду рэдактара, прыводзіў да ладу косназыкія, часам далёкія ад навукі распрацоўкі хімікаў-рамонтнікаў, сярод якіх амаль кожны трэці нешта керпаў: адзін — вынаходзіў новыя растворы, ды аказвалася, што такія растворы былі ўжо састаўлены да яго і даўно забытыя навукай, другі — намагаўся стварыць марозаўстойлівы будаўнічы клей, скіроўваючы пры гэтым усю сваю мазгавую энергію на эпаксідныя смолы, трэці — усе гэтыя іх «вынаходніцтвы» крытыкаваў... Кантора піша, грошы ідуць.

Працуючы ў аддзеле інфармацыі, я, праўда, не вельмі часта бачыў на свае вочы «плады навукі» нашага ПКБ, нават абмінуў увагай пескаструмянёвы агрэгат, да якога было распрацавана і зроблена ў майстэрнях трэста спецыяльнае прыстаса-

ванне для высокамеханізаванага нанясення цэментна-палімерных раствораў і бетонаў. Праўда, разрэкламаванае прыстасаванне давялося пасля выпрабаванняў проста выкінуць на звалку, каб не муляла вочы прыезджаму начальству. Выкінулі, так. Інжынер-канструктар Бусёк памыліўся быў у разліках, і цэментна-палімерная маса замест таго каб пры дапамозе адцэнтрабежнай сілы вылятаць вонкі праз адводны шланг — грунтоўна прыліпала да сценак прыстасавання і ператваралася там у акамянелую цвердзь... Пра эпаксідныя смолы, якія амаль на кожнай старонцы ўпаміналіся ў рэдагуемых мною брашурах, і гаварыць не варта: усе яны, тыя смолы, для мяне і цяпер застаюцца загадкай — у чым іх розніца ад звычайнай смалы, сасновай, ці хоць бы такой вось, як тут, у Сібіры, смалы ад лістоўніцы, я так і не ўведаў... Ат, вялікі клопат.

Шчыгол, нібы адчуў усё роўна, што я заглыбіўся ў «навуковыя» мітрэнгі, дастаў з кішэні штармоўкі драбок смалы ад лістоўніцы, укінуў у рот і пачаў жаваць. Смала спачатку хрумсцела на зубах, але ён цярпліва разжоўваў яе, аж пакуль не стала мяккая і вязкая. Пасля ўзяўся нахвальваць смалу: маўляў, жуйка — на ўсе сто, прыемнага паху — хваёвага! — і да таго ж, калі верыць тубыльцам, папярэджвае шэраг захворванняў на зубы, на галаву, а ў дадатак — апетыт павышае.

Я паджартоўваю, падтакваю Шчыглу:

— І праўда, Саня. Не смала — божы эліксір, панацэя! Застаецца толькі прыдумаць змякчальнік, дадаць мёду ў яго ці цукру — і чым не жуйка?.. Такой жуйцы, смолавай, цаны не было б, у чарзе цісную ліся б мудрэй, як за ікрой паюснай.

Шчыгол пагаджаецца са мной. Пашчэнкі яго, здаецца, захадзілі часцей і прагавіцей.

Мне прыгадаўся Жора Каравага. Ён, зрэшты, таксама любіць жуйкі, хаця і не толькі жуйкі... Дык вось Шчыгол не так і далёка адстаў ад Каравагі. Так, яны нават знешне падобныя, Шчыгол і Каравага. Як адзін, так і другі бялявыя, канапатыя, аднолькава прыжмурваюць вочы, смяшок захліпісты, з'едліва дробненькі. Каравага, помню, калі хто пакажа яму з-пад крыса хламіду якую,

рыззё замежнае, тут жа пачынае таргавацца. Гэтая ж хвароба і ў Шчыгла — таксама аж млее ад прывазных ануч і цацак, усялякіх там джынсаў, джэмпераў, шкарпэтак, сарочак-газет, гальштукаў, рамянёў, спражак, запанак, магнітафонаў... Каравага, калі набыў сабе ў камісійным магазіне японскі магнітафон, дык насіўся з ім, як чорт [redacted] пісанай торбай (божа-божа, не скажы, не падумай — гэта ж цяпер ужо і торбы пісаныя ў модзе!). І нечага раптам маг яго сапсаваўся. Аднёс Жора магнітафон у майстэрню, шапнуў прыёмшчыку, што, маўляў, чырвонца лішняга накіне за хуткі рамонт, ды так сталася, што трапіў на зуха, якога чырвонцам не задобрыш. Жора і сам лічыць, што чырвонец — нішто, дробязь. Але не спадзяваўся на адпрэчку і тым не менш пачуў яе: яму адмовілі. Прыёмшчык насміхаўся з яго: «Японскі, значыць? «Soni»?.. Галубок, выкінь гэту цацку на сметнік. Прынёс бы якую там «Мрыю» ці «Дзясну» — другі каленкор, а японскі — гары ён гарам. Тут свае, айчынныя, не паспяваем да ладу прыводзіць, а ты мне японскі прыпёр ды яшчэ чырвонцам па нервах б'еш... Матай адсюль, дзялок, пакуль міліцыю не выклікаў!»

Каравага не паў духам — збыў-такі свой маг. І каму? Перакупшчыку нейкаму, падобнаму на цыгана, з якім пазнаёміўся ў рэстаране на Паркавай. Дзівак, за бясцэнак збыў як непатрэбшчыну: перакупшчык-цыган даў яму ўзамен балоневы плашчык, па тым часе надта модны, і шарыкавую ручку-дзіва — шыкоўную, на шэсць рознакаляровых стрыжняў, з рухомым каўпачком, у тарцы якога, зверху, гадзючым вочкам блішчала павелічальнае шкельца. За шкельцам, унутры каўпачка, былі ўманціраваны парнаграфічныя слайды, і Жора, глянуўшы на тыя слайды сп'яна, не стаў таргавацца — яшчэ і магарыча паставіў. Перакупшчык-цыган таксама аддзячыў — расчыніў шыкоўны дыпламат і выцягнуў два блокі англійскіх жуек, выробленых кампаніяй «Урыглі-Плімут». Англійская жуйка, бясспрэчна, смачнейшая за смалу, бо мае ў сабе цукар, сіроп з глюкозай і шэраг іншых сінтэтычных і натуральных прыпраў, але Шчыгол наўрад ці стаў бы хваліць замежную

жуйку, як, зрэшты, і ўсе іншыя прысмакі. Ён пераконаны, што пахваленыя капіталісты ядуць не вельмі каб і дабраякасныя прадукты, псуюць іх, падоўгу трымаючы ў халадзільніках. Адкуль усё гэтае ўзяў — я не выпытваў: капіталісты мяне менш за ўсё цікавяць.

Карацей, і Каравага, і Шчыгол — абодва вялікія прайдзісветы. Але — бяскрыўдныя, такія, якіх нельга ўспрымаць сур'ёзна ды, мабыць, і не варта. Каравага нізашто не надзеў бы тэніску самапашыву, якой бы мадняцкай яна ні была. А вось Шчыгол задаволены сваёй тэніскай гэтак жа сама, як і смалой ад лістоўніцы, затое ручку-дзіва пастараўся б абавязкова выкупіць — хадзіў бы следам і канькаў: «Прадай мне, ты!.. Ды прадай — сто рублёў даю. Мала? У-у, японскі гарадавы, яму ўжо сотня не грошы... Рана ж ты, крахабор, запанеў!» Помніцца, прыкладна так ублагаў Караваґу кінамеханік ПКБ Сёмка Блінкевіч, па мянушцы Камерсант, але, праўда, даваў ён за ручку не сотню, а ўсяго толькі пакамечаную дзесятку.

Шчыгол разаслаў спальнік на падлогу і лёг, нейкі час бедаваў, што ў ягонай «Спідоле» дачасна асела сілкаванне, пасля неўпрыкмет аціх.

Міхалёў уключыў святло. Учора я падсунуў яму раман кубінскага пісьменніка Мануэля Лопеса «Апошняя жанчына і блізкі бой», і ён вось захапіўся, чытае без перадыху. Гардуноўскі — гэты маракуе над нотным аркушыкам, развучвае нейкую мелодыю, а мо нават сам складае музыку, бо час ад часу нечага дужа натхнёна падымае галаў, заплюшчвае вочы і чуць прытупвае нагой... Як ёсць вялікі кампазітар, Моцарт нумар два! Корнеў пасля пройгрышу Гардуноўскаму ў шахматы быў заняты тым, што ўстаўляў пад плексігласавую закладку ў круглае, аздобленае алюмініевым абадком з драцяной ручкай люстэрка каляровую паштоўку з вядомым кінаакцёрам. Цяпер вось пазірае на паштоўку і пацяшаецца:

— Паглянь, Лёха, якая ў яго забаўная будка... От жа, а? Такі салідны чалавек, а губамі плямкне, чмыхне носам — і зала поўніцца рогатам... Талент!

Ці не хоча Корнеў мяне развесяліць? Нечага ж

во прыстае. Але наўрад ці ўдасца яму такое, бо зараз мне не да весялосці. Я займаюся самакатаваннем... Так, самааналізую сябе, нядаўняга. І, дзіўна, ну ні трошачкі не шкадую, што расстаўся са сваёй былой пасадай, з Мінскам. Ну проста ніякага клопату і хвалявання — спакой на душы, ціхата. Усё правільна. Няма мне ў чым раскайвацца, а тым больш няма за што асуджаць сябе: сумленне маё чыстае — не цягнуся да каструлі, якая пабольш і з гусцейшым наварам.

Лежачы на спальніках, усё яшчэ не разутыя, паклаўшы пад узгалоўе фуфайкі — хлопцы завуць іх целагамі, мы павялі гаворку пра грошы. Я ўжо не раз заўважаў, як Сінёў, расказваючы што-небудзь, нават нязначнае, падчас так націсне на рубель, так паверне размову, што нібыта ён у наш час, рубель, галоўны козыр прагрэсу. Але ж гэта і так, і не так, можна сказаць. Для мяне грошы зусім не з'ява, не падзея, а звычайная неабходнасць, патрэба. І толькі. Сказаў, значыць, пра гэта хлопцам, абмовіўся, што якраз не грошы пацягнулі мяне сюды, за трыдзевяць зямель, не доўгі рубель — і Корнеў, як апантаны — ашалеў чалавек! — адразу накінуўся на мяне, заціснуў рот далонню і так здушыў, што не прадыхнуць.

— За туманам прыкаціў сюды, за пахам тайгі?! — захліпаўся ён вантробным смехам.— Табе грошы не трэба? — і так папіхнуў мяне ў плечы, што мне аж забалела.— Ёлуп, псіх ненармальны, задавака... Люмпен-асёл! Бачылі вы яго? Грошы яму не трэба!

Не пазнаць хлопцаў апошнім часам, асабліва Шчыгла і Корнева — іх як падмянілі ўсё роўна, залатымі сталі: паслухмяныя, старанныя. Ну проста геніі паслугі! А ўсё — ён, Сінёў, пастараўся: Корнева доўгім рублём завабіў, Шчыгла саліднай сумай «купіў». Так і сказаў яму: «За сезон — пяць тысяч рэ чыстымі». І зараз вось, бадай, наш галоўны геній, Шчыгол, паціраючы далоні адна аб адну, узбуджана бліскае вачыма, голасна барытоніць:

— Эх-ма, браткі-бухарыкі, лафа пачынаецца, жытуха фартовая! Гэта ж і не снілася, не марылася такое: рэперы, туры, пункты трыянгуляцый-

ныя, знакі-вышкі... І чым больш мы іх адштукуем, тым паўней крабчыкамі кішэні свае накаптурым. Сенакос! Па пяцьсот-шэсцьсот за месяц — гэта ж нешта значыць, а? — і да Гардуноўскага, з падколам: — Пятро, і ты, можа, не па грошы прыехаў?

— Я? — Гардуноўскі паціснуў плячыма, вінавата зіркнуў у мой бок.— Ды мне б толькі электрагітару купіць...

— Электрагітару купіш. Яшчэ і на электрабрытву хопіць,— Шчыгол паблажліва ўхмыльнуўся.— І вось што, Пятро, абавязкова пашый сабе чорны фрак. На сцэну выйдзеш, упіліш бугі-вугі — і ўсе музчувіхі ля тваіх ног... М-м, што ні кажыце, а з пяццю кускамі няблага дамоў заявіцца — можна ўсю зіму ад Клаўкі не вылазіць.

— Саня, а хто яна такая, Клаўка? — весела, нараспеў спытаў Гардуноўскі.— Не жонка?

— О, потрах чортаў, сказаў, як у душу плюнуў... Жонка ў мяне медычка, патранажная сястра. Усёк? Патранажная. Кішэні мае патрошыць, гы-гы-гы... А Клаўка — гандлярка, піўным ларком загадвае. Кожнага мужчыну свайго рэгіёна асабіста ведае... Асоба! — Шчыгол пстрыкнуў пальцамі, падміргнуў.— Палачка-выручалачка. Дайшло? — азірнуў весела ўсіх нас, закінуў галаў назад, надзьмуў губы і пратрубіў: — Угу-у-у-у!.. Фартовая жытуха пачынаецца.— Жмурачыся, закрываючыся рукой ад лямпачкі, што вісела якраз над ім, устаў і пацягнуўся быў выкруціць лямпачку, ды Міхалёў не даў яму гэта зрабіць, прыгразіў:

— Поўху захацеў, Саня?!.— і зноў унурыўся ў кнігу.

Счакаўшы, Шчыгол хацеў быў закурыць, але і тут няўдача — я выхапіў у яго з рук пачак з цыгарэтамі, параіў:

— Выйдзі вон і там хоць да пасінення смалі.

— Ты, бульбаш недапечаны, аддай пачак, ну! — Прыўзняўся і сеў.— От жа... Го-го-го, гы-гы-гы...— загагатаў, бы гусак, моцна, весела.— Чуеце, хлопцы? Яшчэ адзін камандзёр праклёўваецца ў нашай кампаніі. Пагляньце вы на яго,— паказаў на мяне,— як выплюнуты Кружлік, толькі не рабы і не рыжы. А нос мы троха павернем.

— Ты што, магнітафон праглынуў? — акрысіўся на Шчыгла Гардуноўскі.— Калі ўжо ты супакоішся, балабон?.. Як студа якая дадзена чалавеку, няма спакою.

— Хм...— Шчыгол паволі павярнуўся да Гардуноўскага, прыжмурыўся.— Ну-ну, салага. Трох тыдняў няма, як сярод нас, а ўжо вякае... Ці не зарана, пеўнік, голас падаеш? Мы два месяцы сінеем, гы-гы-гы, пад уладай Сінёва — і маўчым. А ты па блату ўлез і чырыкаеш? Цябе з налёту ўзялі, а нас — прыпісацца прымусілі,— пацягнуўся да хрусту ў суставах, уздыхнуў і нечага раптам стаў перад Гардуноўскім на калені, звёў рукі далонямі адна да адной, прыклаў да лба і пакланіўся.— О наш прамудры Пётра, пачуй глас раба свайго: выстаў мне, калі ласка, на сон чаго-небудзь горка-саграваальнага...— закаціў вочы пад лоб, перахрысціўся і дробненька, на адной ноце забалбатаў: — Сляза божая, гаручая, пякучая, увайдзі ў маю кроў застаялую, ачысці яе ад злоснага, наноснага, шкоднага, наваротнага, залатушнага, заграбушнага...— І ціха, пакорна — як вінаваты: — Даруй мне, Пётра, я спатыкнуўся быў на твой чамадан, дык нешта там, па-мойму, разбілася — усё роўна як бутэлька ці слоік з варэннем... Правер. Калі што — віну прымаю, плачу за нанесены ўрон,— глядзеў на Гардуноўскага запытальна-ліслівa, пакорна — ну хоць ты ў яго вяроўкі ві.

Гардуноўскі перамяніўся ў твары, выгукнуў:

— Навошта табе мой чамадан быў?! Боўдзіла, не можаш, каб не напаскудзіць, табе ўсё праверыць хочацца...— прайшоў да стэлажа, дзе ўнізе, збоку, быў яго чамадан, а пад ім нешта праліта.— Разбіў, канечне ж...— і хуценька дастаў з нутраной кішэні скураны пулярэсік, а з яго — ключык, маленькі, храміраваны.

Шчыгол заварожана назіраў за Гардуноўскім, ухвальна ківаў галавой — як падахвочваў. Потым заўважыў:

— Правільна, Пятро, ключык — гэта ўжо сур'ёзна. Хвалю — адразу відаць гуцула, прышчэмістага гаспадара.

І праўда, здзівіцца ёсць чаму: ні ў кога з нас

не было такога забаўна-бліскучага ключыка на срэбным ланцужку. Штрых адметны ў абмалёўку Пятра: сімвал ключа — самы лепшы родавы знак прышчэмістага, як сказаў Шчыгол, гаспадара.

Хлопцы талопяць вочы на прыгожы, авальнай формы фібравы чамадан Гардуноўскага, нібы ўпершыню яго бачаць. Дайшло і да мяне нарэшце, дзеля чаго Шчыгол выплінуў з конаўкі астаткі вады пад чамадан. Я падумаў спачатку, што зрабіў ён гэты промах незнарок. Аж не — абвёў хлопца вакол пальца, падкузьміў як мае быць: нешта ж, мусіць, сапраўды каштоўнае ёсць у чамадане, калі на запорах. Міхалёў і той, бачу, адклаў чытво ўбок і таксама віжуе спатайка за Гардуноўскім.

Першае, чым здзівіў і ўзрадаваў нас прышчэмісты гаспадар, быў пляскаты, як ласта, вэнджаны лешч,— Гардуноўскі ўзяў за хвост сушаную рыбіну і лёгка шыбнуў ёй у Шчыгла, сказаў:

— Прыз за кемлівасць.

Другі залаз ягонай рукі вынес з-пад вечка чамадана пузаценькую «Пліску». Пятро агледзеў бутэльку — не разбітая, цэлая, узбаўтнуў. Пасміхнуўся, сунуў руку зноў пад вечка, памацаў яшчэ там нешта і зноў пасміхнуўся. Хацеў быў вярнуць «Пліску» назад у чамадан, глянуў на Шчыгла і пагразіў яму бутэлькай, затым кінуў яе Шчыглу, і той спрытна, як жанглёр, злавіў бутэльку адной рукой. Гардуноўскі замкнуў чамадан, праверыў, ці добра трымаюць замкі,— значыць, не ўсе прысмакі выклаў, нешта пакінуў і на другі раз. Практычны чалавек, запаслівы.

— А я, верыш, Пятро, спачатку думаў, што ў цябе нічога няма з прыпасаў, што чамадан твой пусты, без боегаловак,— Шчыгол падняўся са спальніка, падышоў да стала-варштата, паставіў бутэльку пасярэдзіне і пачаў сваім нажом рэзаць ляшча на порцыі.— Думаў, што ты, бедны-разбедны, на падсосе ўсю дарогу сядзеў, галадаў. А калі прачуў, што ў цябе тут ёсць нейкая «рука свая», усумніўся...

— Оцэ я такі дурны, каб галадаць,— Гардуноўскі паставіў на чамадан свой рукзак, падышоў

да Шчыгла і сеў на табурэт, стаў паджартоўваць Шчыглу: — Нават калі ты мне рот зашыеш, дык я ўсё роўна не буду галадаць.

— Правільна, ты не дурны, Пятро. Ты — вялікі разумнік, галава!..— дагодліва кажа Шчыгол і просіць цішком: — Нагніся да мяне, хутчэй...— і сеў насупраць, на другі табурэт.

Гардуноўскі нахіліўся, і Шчыгол нечакана смальнуў яму пякучага шчылбана якраз у надброўе. Гардуноўскі рэзка адхіснуўся назад, залаваў:

— Ты, аболтус!.. Гаварыць — гавары, а рукі ў ход не пускай. Жарну во ў нюхаўку!..— замахнуўся, але не стаў біць, адно прыгразіў: — У другі раз не буду папярэджваць — жарну, каб ведаў, на чым свіння хвост носіць.

— Што ты, Пятро, што ты... Гэта я правяраў цябе на запальчывасць: у гарачай вадзе купаны ці летнай. Ажно, бачу, цябе зусім не купалі, гы-гы-гы... Ты — ніякі, пусты, як вывернутая кішэня. Таму і звініш — і ўся музыка твая адсюль. А от чамаданчык твой — харош з усіх бакоў.— І да Корнева, які нечага раптам заперабіраў матузкі свайго рукзака: — Валодзька, выдай пахвалу Гардуноўскаму і яго чамаданчыку... Ну, паэт, выдай экспромт, а то я не ўмею.

— Куркулёў і іх чамаданы не ўслаўляю,— Корнеў дастаў з рукзака слоік джэму, кінуў кліч: — Эй, у каго што ёсць — выкладвай на стол, балявець будзем,— і да Міхалёва: — А ты, ціхоня, чым парадуеш?

— Нічым.

— Як гэта — нічым? — здзівіўся Корнеў.— Не строй з сябе кантужанага: зараз жа варушыся!.. Ідзі ў буфет — нясі пляшку «Мерле». Не прынясеш — раскрыю ўсе твае тайны.

— У цябе, Толя, тайны ёсць? — Шчыгол пагразіў Міхалёву кулаком.— Ты, мусіць, і праўда, уніз глядзіш, але далёка бачыш.

— Ды кіньце вы, няма ў мяне ад вас ніякіх тайнаў.— Пры гэтым ён хуценька дастаў з кішэні блакнот і нешта запісаў туды.

— О, бачылі, а?.. Зноў запісаў! — пацешна за-

турзаўся на сваім седале Корнеў, раздражнёна кінуў: — Стукач!

— Валодзька, ша! — рашуча асадзіў яго Шчыгол. Счакаў нейкі час, дадаў: — Не абражай чалавека,— і пасміхнуўся.— Толя сваёй любцы-галубцы піша... Словы каларытныя падбірае. Тыдні два таму назад я сам бачыў, як пісьмо адсылаў — тоўстае, што чамадан Гардуноўскага. А падпісаў так: «Веры Міхайлаўне Белышавай, асабіста».— І далей — не без іроніі, з падколам: — Каб напісаць такое тоўстае пісьмо, трэба належны талент мець, эпісталярны, от. І цярпенне.

Выпілі.

Шчыгол падсунуў бліжэй да Гардуноўскага газету з хлебам і смажанай сарожкай — рыбу гэтую прывёз з дому Вуцёха як пачастунак нам. Засмажана яна на алеі, перасыпана хлебнай, пацёртай на муку скарынкай. Рыбу-сарогу я ўпершыню бачыў і нечага не вельмі быў ахвочы да яе. Шчыгол заўважыў, што я не закусваю рыбай, звярнуўся да мяне:

— Лёха, калатні-ка рукзачок, мо выпадзе часначок... А заадно і сялянскай каўбаскі дастань хоць на зуб — дужа смачная яна, яй-бо.

Я дастаў з рукзака паўкольца сухой каўбасы і дзве галоўкі часнаку, пад руку трапілася была грэлка з першаком, але яе пакінуў на месцы — не ўсё адразу, і так ад пасылкі амаль нічога ўжо не засталося. Замест грэлкі — выставіў перад Шчыглом бляшанку з кавай, сказаў:

— Вось яшчэ што маю.

Шчыгол выхапіў у мяне з рук бляшанку і зацікаўлена-доўга пакручваў яе, разглядваючы. Не застрымаўся — адкалупнуў дзюбчыкам нажа закрыўку, прарэзаў фальгу і торкнуў насліненым пальцам у каву, аблізаў.

— У-у, ядрона вош, кофій растварымы! — шчасліва выгукнуў ён, падхапіўся, як учадзелы, пачаў апранацца.— Бягу... Вады свежай прынясу,— узяў пусты чайнік і выхапіўся са сталяркі.

Пабег ён, канечне, да Брыціка: у таго на двары калодзеж, вада ў ім не аддае ржавінай, як з калонак, якіх на тэрыторыі базы аж некалькі.

Назаўтра пасля снядання Сінёў завёў мяне ў

кантору, і мы ўселіся за стол пры расчыненым акне.

— Як сябе пачуваеш пасля ўчарашняга? — пагляд яго спакойны, цёплы.

— Ды я...— голас мой чамусьці дрыжаў.— Троху перабраў.

— А хто грошы вам даў на гарэлку?

— Мы без грошай — запасы патрэслі. Бацька мне прыслаў першаку ў грэлцы, у Гардуноўскага каньяк быў... А што?

— Ды гэта я ўсё ведаю,— усміхнуўся.— Бачу, не прывык ты да спіртнога, то ці трэба ўцягвацца?.. Ну й камісар,— паляпаў далонню мне па плячы.— Зараз ідзі ў сталоўку і капітальна парубай цёпленькага.— Дастаў пяць рублёў і сунуў мне ў кішэню штармоўкі.— Тут, лічы, як і на сенакосе: калі не ўцягнуўся — многа не выкасіш.

— Яно, ведаеце, з непрывычкі...— мне і праўда нядобра было, хацелася легчы.— Сухое віно я памногу піў... З Валькам Шахноўскім.

— І не п'янеў так, як учора? — хітра зіркнуў на мяне Сінёў.

— За вечар дзве бутэлькі выпівалі... П'янелі, канечне. Лёгка.

— От бачыш — лёгка п'янелі. Значыць, і Шахноўскі твой такі ж самы верабей, як і ты... А хто ён?

— Валька? Друг мой.

— Не, хто ён па прафесіі?

— Інжынер-хімік.

— Інжынер, кажаш?

— У-у, Шахноўскі — галава. Кандыдатам навук хутка будзе.

— У вучоныя меціць?

— Ён ужо вучоны. Прытым актыўны, адзін з таленавітых у нашым ПКБ.

— А ты хто ж там быў, у ПКБ?

— Я?..— падумаў.— Бібліятэкарам, а пасля — інжынерам...

— Слухай, выклікай сюды і дружка свайго, Шахноўскага. На пару вам будзе весялей, добрыя грошы заробіце.

— Не, Сцяпанавіч. Шахноўскі не паедзе. Ён хімію вельмі любіць.

— Сур'ёзны, значыць, у цябе сябар, хвалю. Вот і не парывай з ім, перапісвайцеся. А тут наўрад ці сыдзешся з кім... Трапіў ты, святая душа, не ў шаты рая... Глядзі, будзеш цямцяй-лямцяй — затруць, затопчуць. Зубы ім паказвай, зубы! Нахрапам, як і яны, бяры верх. Ты ж ва ўсім мацнейшы за іх, а тактыкі ў цябе ну ніякай... От і ўчора — яны проста спаілі цябе і насміхаліся... Мне Гардуноўскі пазваніў — маладзец. Прыехаў, заходжу ў сталярку, а ты і праўда лыка не вяжаш. Не помніш, як хваліў мяне, як я цябе спаць укладваў?

— Не помню, Сцяпанавіч...— мне было сорамна.

— І што цябе, хлопец, у такі свет кінула? Навошта табе ўсё гэта?

— Быў у нас вярбоўшчык, выступаў — агітаваў, каб ехалі ў леспрамгас... Я пагаварыў з ім, ён мне даў адрас экспедыцыі, казаў, што сам некалі рабіў ніверіроўшчыкам, Шмаціна ведае...

— Хто ж ён такі?

— Гаўрыкаў нехта.

— Ну так, быў такі, помню. А цяпер слухай мяне ўважліва: паколькі ты ў мяне за камісара,— падняў з падлогі свой паходны чамаданчык-саквояж, раскрыў, дастаў адтуль чырвоную папку і перадаў мне.— Ёсць работка для цябе, тое-сёе наконт выхавання. Людзей сваіх мы павінны добра ведаць. От прачытай, а тады і пагаворым.

— А што ў папцы?

— Прачытаеш — і ўсё зразумееш, без папярэдніх роспытаў.

Пісьмо, атрыманае ад Клундзік К. Б., і пісьмо Міхалёва да Веры Белышавай ляжалі ў папцы...

«Паважаны Начальнік геадэзічнай партыі!

Як дырэктар школы, дзе працуе маладая настаўніца Вера Міхайлаўна Белышава, прашу Вас (даруйце, не ведаю ні прозвішча Вашага, ні як зваць Вас) паўздзейнічаць, калі ласка, на свайго сезоннага рабочага Анатоля Міхалёва. Скажыце яму, каб выкінуў з галавы ўсё тое, на што ён так разлічвае... Яго пісьмо дасылаю Вам, прачытаўшы якое, Вы, спадзяюся, зразумееце ўсё правільна і

не адмовіце ў маёй просьбе... Пра гэта маё пісьмо да Вас Вера Міхайлаўна нічога пакуль не ведае — пасланне Міхалёва трапіла мне ў рукі выпадкова (Вера Міхайлаўна, відаць, па разгубленасці забыла яго ў класным журнале). Дзіва што, яна цяпер ходзіць прыгнечаная, і я проста абавязана памагчы ёй. Таму не здзіўляйцеся, што не яна сама, а я пішу Вам.

Міхалёў Ваш проста шантажыст. Мала таго што ён — гэта відаць з яго пісьма — хуліган (хто паверыць, што пабіў яе брата, прыняўшы яго за саперніка?), дык разыгрывае яшчэ і закаханага... І як піша?!! Хітруе Ваш Міхалёў, толькі гэтая хітрасць яго шыта белымі ніткамі. Калі б у яго быў хоць які-небудзь талент, то даўно б ужо выбіўся напаверх... Збіраецца пастулаць у Літінстытут, а калі і каго інстытут навучыў пісаць? Не, хай дзенебудзь у іншым месцы шукае сабе авечку, якая паверыла б яму, толькі не ў нашай школе...

Вера Міхайлаўна відная дзяўчына. Але яна не сонца — усіх, каму падабаецца, не сагрэе. Пра гэта Ваш Міхалёў-пісьменнік павінен таксама ведаць, бо ўжо каго-каго, а кавалера яна знойдзе па сабе, раўню.

Я вельмі прашу вас, паважаны Начальнік, зрабіць усё, каб Міхалёў не замінаў Веры Міхайлаўне ў працы, а тым больш у асабістым жыцці. Падумайце самі, калі ён сваю дарогу пакрывіў, то навошта ж чапіцца да людзей, якія не тое што сустракацца з ім не хочуць, але нават і чуць пра яго. Загадзя ўдзячная Вам —

Клара Барысаўна Клундзік».

Нішто сабе пісямцо... Дабрадзейка Клара, дырэктрыса, выхоўвае, як відаць, не толькі дзяцей, а і маладых настаўніц таксама... Нешчаслівец Міхалёў: такой занудзе трапіла яго пісьмо.

Але ж і правільна зрабіў Сінёў, што не стаў гаварыць з Міхалёвым, не паддаўся ўгаворам дурніцы Клундзік. Што мне параіць Сінёву? Відаць, трэба пакуль не засмучаць Міхалёва — авось Вера Міхайлаўна сама яму напіша?

Так, пачакаем...

Я і адзін раз, і другі прачытаў пісьмо Міхалёва.

«Незабыўная Вера Міхайлаўна!

І ўсё ж, Вы ёсць для мяне, ёсць! Я помню і заўсёды думаю пра Вас... А Вы помніце мяне?

На таварыскім судзе — успомнілі? — я з замілаваннем глядзеў на Вас і адчуваў сябе самым шчаслівым чалавекам, калі сустракаў Ваш запытальны пагляд. Не асуджальны, а менавіта запытальны... І вось, пішу Вам затым, каб сказаць, што вельмі хачу сустрэцца з Вамі. У мяне ёсць Ваша картачка, каляровая. Я «ўзяў» яе з Вашага альбома самавольна. Альбом паказала мне Ваша маці, таму не крыўдуйце на яе, яна не ведае, хто гэта зрабіў.

...А тады, калі мяне ледзь былі не прылучылі да ліку тых, каго мы падчас называем баластам, пазаддзем грамадства, мне, вядома ж, пагражаў пэўны артыкул крымінальнага кодэксу за тое, што я, як сказаў Валькавіч, сакратар камітэта камсамола, «парушыў пункт маральнага кодэксу — учыніў дэбош». Помніце, як кучаравіста ён закругліў: «Грамадзянін Міхалёў пакаштаваў забаронены плод, які аказаўся для яго атрутным, і цяпер грамадзянін Міхалёў павінен задумацца над двума пытаннямі: а) як яму далей быць? і б) ці пакіне ён пасля сябе хоць адну прыступку, па якой бы Сусвет мог падняцца ў сваім развіцці хоць на адну трыльённую міліметра?..»

Вы тады ўсміхнуліся з гэтай яго бяссэнсіцы і тым самым стрымалі мяне... ад новага глупства,— дальбог, я гатовы быў пабіць Валькавіча за яго такую «разумнасць», і тады б ужо маю справу абавязкова перадалі б у суд, а так — адбылося ўсяго толькі два выключэнні: адно — з камсамола, другое — з інстытута... Што й гаварыць, сурова пакаралі мяне, надта сурова!

Зараз я ўжо не той наіўны хлапчук, якім Вы мяне ведалі, але... і ўсё роўна той жа самы, бо паранейшаму кахаю Вас. Калі ласка, пераканайце мяне ў тым, што я абыдуся ў сваім жыцці без Вас — і я не стану больш турбаваць, зраблю так, як Вы мне параіце.

Калі б цяпер быў у адным горадзе з Вамі, то абавязкова хадзіў бы следам, высочваў бы кожны крок Ваш — зусім, як і тады, будучы ў Новасібір-

ску, займаючыся ў адным інстытуце, на адным факультэце, хоць і на розных курсах. Цяпер я заўсёды буду зайздросціць, што Вы скончылі мой любімы факультэт — біяфак. Шкадую, што адстаў ад Вас: чым хутчэй я за Вамі бягу, даганяю, тым усё больш і больш адстаю...

Успамінаю, як Вы разам з сяброўкай сваёй, Лінай Ойцік, узялі білеты на «Сунічную паляну» Інгмара Бергмана. Да сеанса заставалася недзе мінут дваццаць, і вы пайшлі на паштамт, купілі там польскі часопіс «Шпількі». Уявіце, што я з таго часу таксама чытаю гэты часопіс, але больш за ўсё я захапіўся польскай моваю і вывучыў яе. Калі быць шчырым да канца, дык ніхто іншы, а я прыслаў Вам пісьмо ад «пана поляка», які меў намер пазнаёміцца з паннай Верачкай і сябраваць вечна. Даў адрас свайго сябра, таксама студэнта, але Вы нічога закаханаму «пану» не напісалі, што мне таксама спадабалася.

А помніце, Вы гулялі з нейкім даўгагрывікам у парку, як раптам да Вас падышлі двое ў плашчах і адвялі даўгагрывіка ўбок, прыгразілі, каб не хадзіў за Вамі, і той проста бегма кінуўся з парку, а Вы засталіся адна. Калі б тады загаварылі з намі,— я стаяў чуць воддаль і чуў Вас,— калі б Вы загаварылі, не пакрыўдзіліся, паверце, ніякага б непаразумення ў наступны раз не было б... І на вакзале я стаяў блізка, але Вы мяне, можа, не вельмі помнілі ў твар, карацей, не звярталі на мяне ўвагі, і гэта мяне таксама выводзіла з раўнавагі, ды і на сябе я злаваў за нерашучасць... Я ламаў галаву, як загаварыць з Вамі. І тут падышоў нейкі хлопец, абняў Вас... Калі б я ведаў, што гэта родны брат Ваш, далёка б не так усё было б... Вядома ж, брат ёсць брат, ён не спалохаўся мяне. Нават першы нанёс удар, а калі мяне б'юць, я звычайна сплочваю тым жа. Я не чакаў, што ён выхапіць з кішэні нож. А гэта ўжо сур'ёзна, нож. Не помню, як я адымаў яго. Помню, што, калі падаспела міліцыя, нож у мяне ўжо быў. Мне заламалі руку, нож выпаў...

У тлумачальнай я нічога пра нож не пісаў, чый ён і як да мяне трапіў. Я ведаў адно: глыбока

пакрыўдзіў Вас, учыніўшы гэтую бойку. Таму ўсё ўзяў на сябе.

Перад Вамі, Вера Міхайлаўна, я шчыры, утойваць мне няма чаго. Прызнаюся: у мяне ёсць запаветная мара... Спрабую сілы ў прозе, але многае з таго, што напісаў, мусіў уласнаручна спаліць. Цяпер каюся — не трэба было гэта рабіць. Толькі ж на тое ў мяне былі свае прычыны — рэдактары, якім паказваў свае «опусы», як змовіліся ўсё роўна, дудзелі ўсе ў адну дуду: слаба ведаю жыццё, спрабую ісці ў літаратуру ад літаратуры... Карацей, наслухаўся парад і рынуўся ў наступ на самога сябе!

Помніце Новы год і Дзеда Мароза, які зайшоў у 202-гі пакой? Дык вось, той самы падарунак — медзведзяня з кошыкам цукерак, правільна? — дастаўся Вам ад мяне. Сяброўкі Вашы крычалі наперабой: «А нам што, нам?..» Ліна нават хацела бараду маю сарваць — так ёй цікава было паглядзець, хто ён, Дзед Мароз? А я адкупіўся ад дзяўчат адной цукеркай, якую ўзяла Ліна, і толькі й быў...

Усё гэта я ўспамінаю зараз для таго, каб Вы зразумелі мой душэўны стан, сапраўднасць маіх пачуццяў. Я не магу больш хавацца — гэта мая, лічу, самая непапраўная памылка, што адразу не падышоў да Вас і не раскрыўся... Вось яны ўсе мае «за» і «супраць», але сам я ўжо не ў сілах знайсці якое-небудзь пэўнае, а тым больш правільнае выйсце з гэтай недарэчнай сітуацыі. Памажыце!

Адчуваю, страціць Вас мне лёгка — выйдзеце замуж, і я застануся адзін, усе мае «жыццёвыя эксперыменты» акругляцца ў нуль. Лічыце, што гэты ліст — крык душы, мая адзіная просьба да Вас зразумець мяне правільна: віна мая ў тым перад Вамі, што я пакахаў Вас... Даруйце, але гэта так.

Перад тым як паехаць сюды, я пабыў у Вашай маці. Нічога ёй ні пра сябе, ні тым больш пра Вас не гаварыў. Пасля я напісаў нарыс, абласная газета яго ахвотна надрукавала. Можа, Вы пра гэта і ведаеце? То не здзіўляйцеся, нарыс падпісаны не маім прозвішчам. А. Прыступка — гэта мой часовы псеўданім, а дакладней — адказ Валькові-

чу... Да Вашай маці, Аўдоцці Маркаўны, ехаў я з адной мэтай: выпытаць у яе Ваш новы адрас. Як бачыце, выпытаў, але, праўда, школьны, службовы, так сказаць. Спачатку я не збіраўся пісаць нарыс, але, калі сталі гаварыць, калі пабачыў ордэн Чырвонай Зоркі і медалі, зразумеў, што не напісаць не магу... Ваенная перакладчыца, заслужаная настаўніца... Ды яна ж гераіня, Ваша маці!

Вера Міхайлаўна, разлічваючы на Вашу велікадушнасць, прашу паставіцца да майго гэтага пісьма прыязна. Зноў жа, гэта ўсяго толькі мая просьба... Я спадзяюся на сустрэчу, на шчырую размову нашу. Кажуць, самая прыкрая, амаль непапраўная загана ў чалавеку — гэта раўнадушнасць. У Вас жа такой заганы не павінна быць, бо Вы — настаўніца, вучыце дзяцей. А яшчэ — гэта ўжо асабіста для мяне — Вы той адзіны, бязмежна дарагі мне Чалавек, да сэрца якога вось ужо каторы год я шукаю запаветную сцяжыну... Дзе яна, дзе?

Праз колькі дзён, дакладна не ведаю, мы вылятаем у тайгу. Але калі напішаце мне на галаўную базу (адрас на канверце), то пісьмо Ваша, хоць і са спазненнем, я ўсё роўна атрымаю.

Dum spiro, spero — пакуль жыву, спадзяюся.

Шчыра, з глыбокай павагай —

Анатоль Міхалёў».

* * *

Ізюбраня перайшло на лёгкі трух. І не таму, што стамілася — утома яго не бярэ, хоць вось ужо каторы тыдзень амаль неапынна блукае па тайзе. На якія толькі сляды не набрыдала, безліч пахаў учула, але нідзе так і не выявіла запаветны пах слядоў сваёй маці, нідзе і знаку іх не знайшло. Нібыта яна, маці, так і засталася ў тых далёкіх прасторах, куды, ратуючы яго, дзіця сваё, ад немінучай бяды, звяла раз'юшаную воўчую гайню.

Маці... Спрытная, быстрая. Ах, як тады яна, у час небяспекі, лёгка ўзвілася ўгору, як затым хітравала: скочыла раз, другі, закульгала, нібы хворая,— знарок прыкінулася нядужна-слабай, нямоглай, каб ваўкі хутчэй паверылі ў нядоўгую пагоню,— прыпынілася на хвілю і, азірнуўшы яшчэ

раз тую мясцінку, дзе яно, ізюбраня, засталося ў траве, пайшла імклівым галопам, пайшла — бы на крылах ляцела... Воўчая гайня раз'ятраным цугам віхрылася следам.

Маці... Мо яе ўжо на свеце няма, маці ягонай? Мо не ўбераглася як? Не, такога не можа быць — яна жывая, яна ўцякла ад пагоні, ваўкі не дагналі яе! Жывая, так. І зараз, пэўна ж, усё яшчэ шукае яго, адзінае дзіця сваё. І неўзабаве знойдзе, бо нездарма лізнула яго ў лоб — наказала, каб без яе лішне не вытыркалася з травы, не рызыкавала.

Ізюбраня ўжо не адзін раз выкарыстоўвала матчыны павучанні. Нядаўна ледзь уратавалася ад мядзведзя, які, відаць, здалёк убачыў яго і хацеў пажывіцца. Мядзведзь надзвычай хітры драпежнік, спрытны — малому ізюбраняці ад яго нялёгка ўцячы, амаль немагчыма, заставалася адно: прыпасці да зямлі, зліцца з колерам травы і не дыхаць...

Ізюбраня акурат гэтак і зрабіла.

Мядзведзь узышоў на лужок, пахадзіў туд-сюд, запыніўся і колькі часу стаяў нерухома, нарэшце высачыў у купіне чмялёў, заняўся патрашыць іх няхітрае кубельца — з'еў салодкія соты, аблізаў лапу, якой даставаў кубельца, і ціхам пабрыў усцяж лужка, вызіраючы чарговы ласунак.

## 3

Здаецца, селі. Удала прызямліліся — зямля пад нагамі ў нас, зямля!

Мы ўсе жывыя-здаровыя. Праўда, за гэтыя дзве гадзіны лёту я, прызнацца, богвед як пералякаўся, чаго ні перадумаў, якіх толькі прыгадак не ўявіў... Трэба ж, ніколі не баяўся так вышыні, як сёння ў час гэтага пералёту. І, пэўна, вось чаму. Ужо калі сабраліся ехаць, пагрузіліся на машыны, старшыня мясцкома падсунуў бланкі, дзе было чорным па беламу напісана, што ў выпадку гібелі пад час работы ў экспедыцыі прадпрыемства гарантуе блізкім нябожчыка аднаразовую выплату ў суме трохсот рублёў. Хлопцы, як ні дзіўна, падмахнулі і гэты дакумент, а я ўстрымаўся, заздаваў: «Нішто сабе цыдулька — абражальная

усім сваім кайсацка-дзікунскім зместам. Трыста рублёў — і баста, увесь твой кошт, таварышок, ці як там цябе...»

І праўда, няхай бы ўжо такую змрочную паперчыну прафсаюзныя лідэры пад сукном дзе трымалі, давалі ёй ход толькі пры неабходнасці. Дык не ж, абавязкова падпішыся, засведчы сваю згоду на тое, што ацэнены ні больш ні менш як на трыста рублёў... Яўнае кручкатворства!

Сінёў не прыдаў увагі майму выбрыку: не падпісаў — і ўсяго клопату. Затое Курчавы, старшыня мясцкома — гэты выказаўся наўпрост: «Мода, знаеш, прайшла збіраць па рубліку на пахаванне. Жыццё — яно такое: сёння ты ёсць, а заўтра... Тайга — не цешчын сад». Занадта прадбачліва ўсё ў яго, н разлікам. І я, прызнацца, усумніўся ў прыстойнасці гэтага чалавека, падумаў, што, пэўна ж, такому вось зуху — хто ведае, можа, ён які-небудзь сучасны Чычыкаў? — нічога не значыць аформіць на кожнага з нас «пахаронку», нібыта мы загінулі, а грошы тым часам сабе ў кішэню пакладзе — чаго толькі не прыдумае тарбахват, каб уварваць дармовых грошай...

Але ж — мы на зямлі. Проста цудоўна селі, мякка, з на дзіва кароткай прабежкай.

Які ж гэта аэрадром? Смех. Замест бетонкі — жоўценькі пясочак, роўнае, расчышчанае бульдозерам, утрамбаванае і ўжо добра ўкатанае коламі самалётаў поле; пры ўсім гэтым не вельмі каб і вялікае. Не ўбач я ўсё сам, ніколі не паверыў бы, што на такую вось мізэрную лапінку можна пасадзіць сучасны самалёт-транспартнік, ды яшчэ н грузам.

Самалёт завярнуўся, чуць забраў управа і пакаціў краем аэрадрома, непадалёк ад службаў аэрапорта выруліў так, каб можна было груз распарадзіць у баку ад узлёткі. Аўтаматычна адкрыўся шырокі — багажны — люк. Яго квадратны прахон зеўраў якраз пад заднімі крыламі, і ўсе мы ў момант падаліся на святло, камлюкавата выкульваючыся на пясок.

Яшчэ густа віхурыўся шэра-жоўты пыл, балюча паколвала ў скронях, гнятлівым звонам стаяў увушшу гуд матораў, а мы ўжо, як неаб'езджа-

ныя жарэбчыкі, выпушчаныя са стайні, радаваліся жыццю, прасторы — і тая ўтрапёная насцярога, якой былі ахоплены ў самалёце да заміранне сэрцаў, спаўна выходзіла з нас праз дуронства.

Цікава, за які час мы выгрузім дзвесце труб, даўжынёю недзе каля чатырох метраў кожная, дыяметрам — каля пятнаццаці сантыметраў, трыццаць мяшкоў цэменту, бочку з кузбаслакам, васемнаццаць скрыняў тушонкі, скрыню цвікоў, тры скрыні вялікіх цвікоў, кованых, якія завуцца кастылямі. Апрача гэтага быў яшчэ і іншы скарб — некалькі вёдраў, наша самаробная растворамяшалка, два кухонныя складныя столікі і дзесяць такіх жа, складных, зэдлікаў — для кожнага едака свой (адзін запасны), пасудная скрыня, мяшок бульбы, прадбачліва ўзяты Вуцёхам.

Надвор'е і сёння не надта добрае. Лётчыкі палайваюць метэаролагаў за няправільныя даныя: маўляў, работнічкі, абы перадаць зводку, а тут — ледзь селі, два разы заходзілі на пасадку, пакуль не прабіліся праз воблачнасць... Пагаварыўшы так, яны нарэшце пагадзіліся на тым, што другім разам не стануць рызыкаваць. А сёння — сёння для сябе ж саміх стараліся.

Сінёў насцярожана слухаў іх бурклівыя развагі, нечага хмурыўся, пакутна, непрывычна, роўна зубны боль даймаў яго. Не стрымаўся — дастаў з кішэні штаноў пачак цыгарэт, нервова вышморгнуў адну, торкнуў у самы куток рота, чыркнуў газавай запальніцай — глыбока зацягнуўся раз, другі. Не выдыхаючы дым, узрушна кінуў лётчыкам:

— От як бы вы, летуны-стратэгі, у завею на лёд садзіліся? — ён гаварыў, і дым струменьчыкамі выбіваўся з рота: кароткае слова — струменьчык маленькі, рэдзенькі, доўгае — струменьчык гусцейшы і значна большы.— Каго б вы там, на Поўначы, лаялі?

— А мы не «там», як бачыце, а тут... Поўнач — не наша стыхія. Мы аддаём перавагу бетону і тады-сяды пясочку,— штурман тупнуў нагой, сцвердзіўшы тым самым, што менавіта такому вось, як гэты, цвёрдаму, укатанаму.— Тады-сяды — як сёння, напрыклад.— Праз невялікую

паўзу зноў паўтарыў: — Тады-сяды...— і нібыта назнарок стараўся засяродзіць нашу ўвагу на гэтым сваім «тады-сяды», нудотным і загадкавадвухсэнсоўным.

— А-а, даруйце, не ведаў,— Сінёў быў на дзіва заклапочаны нечым, але знешне спакойны.— Правільна. Значыць, каму што: аднаму — бетонка, другому — лёд, тралі-валі — і ў дамках!..— Ён паспешліва пыхкаў цыгарэтай.

Гэтая яго паспешлівасць была заўважана лётчыкамі. Пілот, цыркнуўшы праз зубы слінай, як бы папярэджваючы, фанабэрліва сказаў:

— Маэстра, у тваім распараджэнні не больш паўгадзіны,— і, счакаўшы, занепакоена звярнуўся да свайго напарніка: — Гена, а не падмануў ён цябе, Савосін твой? Не падвядзе пад манастыр?.. Тады, лічы, рызыкавалі за панюх табакі,— павярнуўся да Сінёва спінай, стаў пільна ўглядацца ў край хвойніку, адкуль выбягала дарога.

— Савосін не падвядзе... Ён такі: сказаў — зробіць. Слоў на вецер не кідае. Не турбуйся, без... гэтага самага не вернемся,— заспакоіў пілота штурман. Стаяў ён, штурман Гена, чуць зводдаль Сінёва, рукі трымаў у кішэнях карычневай скуранкі, яшчэ зусім новай, пры замку-«маланцы». Паглядваў на гадзіннік, разважаў: — Ён мае ў запасе яшчэ пятнаццаць мінут... Былы авіятар, думаю, час умее цаніць.

— Ну-ну...— пілот з капрызлівай мінай на твары рухава павярнуўся і пашыбаваў у будынак аэрапорта.

Гледзячы на Сінёва, хлопцы таксама смалілі. З усіх нас, выходзіць, адзін я не куру (дзіўна, раней над гэтым не задумваўся), адышоўся крыху ўбок, стаў азіраць наваколле...

Міні-аэрадром, які толькі што прыняў нас, быў на дзіва спраўна абнесены плотам у тры жардзіны. Плот новы, нідзе не парушаны, і, мусіць, дзеля таго ён, каб не забрыдала на тэрыторыю аэрадрома жывёла, якой тут надта багата,— Сінёў казаў, што амаль кожны гаспадар трымае аднагодвух бычкоў для адкорму, у статак іх не пускаюць, і ўся гэтая гавяда пасецца ў навакольнай тайзе без прыгляду.

За плотам, як ахапіць вачыма, гусцее нізкарослы хвойнік. За хвойнікам — з аднаго боку, таго, адкуль мы прыляцелі,— Байкал; з другога — тайга, за якой снежна, глыбаста шарэе-высіцца Баргузінскі хрыбет. Камяніста-пільчатыя стромы хрыбта абрывістымі сколамі спадаюць да паднож-жа, хаваюцца ў адхоннай гушчобе соснаў, лістоўніц і кедраў; там-сям раз'ятрана-крута цягнуцца ўніз глыбокія, як аграмадныя вадасцёкавыя жалабы — распадкі. Апоўдні ў сонечны дзень распадкі шалёна грымяць і віруюць бруіста-пеністымі патокамі ледзяной вады... Зноў жа, пра гэта мы пачулі ад Сінёва, калі пралятаюлі над тайгой, і ён не проста так расказваў, а назнарок, павучальна: маўляў, край тут суровы і разявакай быць не заўсёды выгадна. Выходзіць, што і цяпер, па вясне, і нават улетку пры самым добрым надвор'і небяспечна спыняцца на начлег блізка ад такіх вось распадкаў ці так званых «сонных» рэчышчаў — хоць, здаецца, і суха наўкол, трава зялёнее, а варта пайсці ў гарах дажджу, нават маленькаму, як праз гадзіну-дзве ўсе горныя рэчкі і ручаіны напоўнены, а там ужо і з берагоў выплёскваюцца: затопіць бівак, прачнешся — рэчаў няма, сплылі, і сам ты, як цуцык, увесь мокры, гнешся ў крук ад холаду...

Байкал усё яшчэ пад ледзяным панцырам, але ўжо многа дзе круглеецца глыбінна-чорных аплешын, ад якіх звіліста, пакручастымі сінімі жыламі разыходзяцца ў бакі лёдавыя трэшчыны: спачатку — шырокія, лодка можа прайсці, потым — вузейшыя, і нарэшце такія, што ледзьве ўгадваюцца.

Доўга, уражліва цягнуцца недарэчна хаатычныя набярэжныя нагарадзі — нібы хто сумысле, густа сыпануў па беразе Байкала запалкі. Але ж гэта не запалкі, калі іх так добра відаць з вышыні. Сінёў і гэты мой клопат зразумеў, растлумачыў: «Бярвенне и разбітых плытоў, выкінутае ў час шторму на бераг...»

Накурыліся хлопцы, пачалі разгрузку. Зрабілі з труб подсціл, каб затым, разаслаўшы брызентавы полаг, можна было складваць на яго цэмент. А пакуль — трубы. Сінёў шчыруе як мае быць,

спрытна, увішна, без мітусні, моўчкі. Здаецца, ён нічога і нікога наўкол сябе не бачыць, адно трубы: хапае іх па дзве, цягне з чэрава самалёта, падстаўляе плячо і ўподбежкі трусіць да абранай пляцоўкі.

Мы таксама стараліся, як хто мог, і Сінёў, канечне ж, быў задаволены кожным. А штурман, паранейшаму не вымаючы рук з кішэняў сваёй скуранкі-шыкухі, стаяў слупам і назіраў. Ну пайшоў бы куды, не мазоліў вочы... Нешта пагардлівае было ў гэтай яго паставе, панскае, піжоніста-паказное: нібы ён тут усемагутны, яму не пярэч, з ім не роўнічай.

Калі ўсе да адной трубы былі выгружаны, штурман, не мяняючы позы, спытаў Сінёва:

— Транспарцёрам будзеце карыстацца?

— А чаму б і не? — адчувалася, Сінёў па-ранейшаму злуе — не ўпадабаў лётчыкаў, пэўна, за іх абыякавасць да сваёй работы.

Але ж нечым і штурман усклапочаны, хвалюецца. І прычына гэтаму хутчэй за ўсё адна: знаёмец іх позніцца, нейкі Савосін... Ага, скончыліся ўжо тыя пятнаццаць мінут, што былі ў яго запасе. Мы выгрузілі ўсе трубы, узяліся за цэмент.

Да Сінёва, бачу, падступаецца штурман, заклапочаны, апанураны. Я чуць «прытармазіў» каля іх, стаў папраўляць на плячы важкі мяшок з цэментам, чую:

— Ды вы не шчыруйце так, не ператамляйцеся — адпачніце,— дагодліва і яўна прымірэнча прапанаваў штурман.

— Не ўжо, у дакументацыі агаворана паўгадзіны на выгрузку — управімся роўна за паўгадзіны,— Сінёў не раз і не два меў справу з авіягрузамі, ведае, што да чаго.— А пасля — хоць да вечара стойце...

Гардуноўскі са Шчыглом былі ў самалёце, кідалі мяшкі з цэментам на стужку транспарцёра, а мы адно ўпраўляліся здымаць іх і адносіць на разасланы брызент, складваючы адзін пры адным у роўны штабялёк.

Яшчэ заход, яшчэ — і самалёт апусцеў. Гардуноўскі падцягнуў на край люка белы ад цэментавага пылу брызент, так-сяк пераклаў напалам —

піхнуў нагой. Брызент упаў долкі. Удушліва-едкае воблака пылу на нейкі момант завалакло зеўру люка, адкуль, як з дыму, гэпнулі адначасова ўніз хлопцы. Аддыхаліся, узялі брызент за краі — паваліклі да мяшкоў. Мы дружна падхапілі брызент, распасцёрлі і ўкрылі ім штабялёк так, што ні дождж не зальe, ні вецер не раскідае; зверху і знізу брызент добра ўціснулі трубамі.

Як толькі пыл улёгся, Сінёў зазірнуў у чэрава самалёта і нечага стаў лаяцца:

— Работнічкі, маць вашу за нагу!..— павярнуўся і рэзка, уладна закамандаваў: — Ану — сюды, абодва! — Шчыгол і Гардуноўскі тут жа падбеглі.— Каму бочку з кузбаслакам пакінулі?! — спытаў не так злосна, як крыкліва.— Папярэджваю: за кожную забытую рэч буду вылічаць у трохкратным памеры. А не — пехадралам назад, шукайце...— і сам пабраўся ў самалёт, падкаціў бочку да краю, сказаў да Шчыгла: — Эй, ты... Шпак ці Шчыгол, ідзі бяры бочку, цяцера сонная! — І гэтак жа сама да Гардуноўскага: — Чаго глядзіш, давай і ты сюды, ну-тка!

Я абагнаў іх — першы падскочыў да люка, падставіў плечы, прыгнуўся — і бочка важка катнулася мне на спіну, чуць ніжэй шыі; аберуч хапіў яе за рубчыкі краёў, панёс. Сінёў агледзеў, што я адзін нясу бочку, скочыў долкі і з гневам наляцеў на Шчыгла:

— Бесталковы, скачаш, як блыха... Не замінай, маруда! — адпіхнуў ад мяне Шчыгла, вылаяўся.

А той усё роўна запабягаў мне наперад, таптаўся, паказваючы, куды ставіць бочку. Ззаду чуваць былі крокі Сінёва,— канечне ж, ішоў за мной следам, гатовы ў любую хвіліну памагчы.

— Хопіць — кідай!..— Сінёў запыніў мяне.— Кідай тут, не клёпак, не разваліцца.

Я адпусціў бочку, хітнуўся ўбок — і яна, вадзяна ёкнуўшы, глуха чмякнулася на пясок, якраз побач штабялька, укрытага брызентам. Шчыгол з Гардуноўскім, смеючыся, падкацілі бочку да скрыняў з тушонкай, якія былі па другі бок штабялька, увішна паставілі яе на канец брызенту.

— І гэта, па-вашаму, усё?..— спытаў задзірлі-

ва Сінёў.— Ну ж і работнічкі — адарві ды кінь, трасцу вам у бок. З такой культурай працы, якая ў вас сёння, толькі ў бракаробы ісці,— і рашуча, рыўком перакуліў бочку, паставіў яе правільна — адкрыўкай угору.— Прашу, паважаныя, так рабіць, каб пасля не перарабляць.— Падышоў да мяне, строгі, узрушаны.— Дык вот, зямеля, зарубі сабе на носе: яшчэ раз пакажаш такое «геройства» — і ты вольны казак... Мне трэба нармальныя рабочыя, не чокнутыя. Ясна?

— Ясна, Сцяпанавіч,— адказаў я.

— То-та ж,— Сінёў быў непадступна-строгі.

— Сцяпанавіч, хто ж гэта ўдарнікаў чокнутымі абзывае? — кінуў кепік Шчыгол.

— А табе, Шпак ты ці Шчыгол — мне ўсё роўна, трэба асабліва ўважлівым быць... Значыць, не ўбачыў бочку? — Сінёў здзекліва глядзеў на Шчыгла.— Маўчыш?

— Сцяпанавіч, дык у пеклі тым ад пылу нічога не відаць. Мы думалі...— але што яны з Гардуноўскім думалі, будучы ў самалёце, Шчыгол не паспеў сказаць, бо Сінёў перапыніў ягоную апраўданку, паставіў рубам пытанне:

— Хацеў ад мяне ўтаіць, што зрок дрэнны?

— Чаму гэта дрэнны? — насцярожыўся Шчыгол.

— А то я не бачу... Мяне на мякіне не правядзеш.

— Якраз і нядрэнны,— Шчыгол апануры́ўся, ціха дадаў: — Левае вока на ўсе сто працэнтаў бачыць, а правае — на ўсе сорак. Гэта хіба дрэнны? Нармальны зрок.

— Нармальны?.. А ўсё ж, як табе ўдалося ўрачыху нашу, Вольгу Іванаўну, абдурыць?

— Адкуль вы ўзялі гэта, Сцяпанавіч? — падцяў вусны Шчыгол, яшчэ больш занепакоіўся.— Не выдумляйце абы-што.

— Ты мне, хлопец, не віляй хвастом. На зрок Вольга Іванаўна звяртае асаблівую ўвагу, а тут...— і як да роўні: — Можаш не прызнавацца. Для маёй брыгады твой зрок не дэфект — абы спрыт у руках ды сіла ў целе былі. Словам, не лянуйся толькі, з добрымі грашыма дамоў паедзеш, не хлушу.

Шчыгол заўсміхаўся, ажыў:

— Ну — пранясло, ух!.. Страхі ўсе адпалі,— выцер потны лоб рукавом.— Знаеце, урачыха не разгадала мой манеўр: я чувака трохі падобнага на сябе падабраў — ён і прайшоў за мяне медкамісію... Усё проста. Ды вы, Сцяпанавіч, не турбуйцеся, не думайце, што я слабак... Фізічна я развіты, дужы,— паказаў на мяне.— Во такі, як і ён, адзін бочку лёгка панясу...

— Пустую,— падкалоў Корнеў.

— Ты, асілак!..— Шчыгол крутнуўся і сунуў Корневу пад самы нос кулак.— Панюхай і маўчы, потрах.

— Дык вот, работнічкі, хрэн і рэдзька, прашу заўсёды помніць,— пагляд Сінёва зноў пастражэў,— што ў адзіночку ніхто не павінен высільвацца. Ніхто! Памагаць адзін аднаму — святы абавязак кожнага.— І катэгарычна: — Парушальнікаў правілаў бяспекі буду гнаць з брыгады.

— Ды ўжо ж,— няпэўна азваўся Гардуноўскі, пазногцем мезенца старанна пракалупваючы залепленыя цэментным пылам вушы.— Так і сілікоз нядоўга прыхапіць.

Корнеў на гэта яму сказаў:

— На такой прыродзе не тое што сілікоз — радыяцыя, калі хочаш ведаць, не ў страх.

Корнеў — акураціст. Мяшкі насіў не ў штармоўцы, як мы, апрануў дажджавік з капюшонам і цяпер розніўся ад нас тым, што быў чысценькі, не запэцканы — усё роўна як не з нашай кампаніі.

Да мяне падышоў Шчыгол, хлэпнуў па плячы, усклікнуў:

— Ну, бульбаш, малаток!.. Гэта ж я падбег да цябе і чую: рып-рып, кр-р... Усе твае сустаўчыкі рыпяць, як нямазаныя пратэзы, а ты ўсё роўна ідзеш, цягнеш бочку. Глядзі, мацак, не вельмі шчыруй — Сцяпанавіч праўду кажа... Помні: двухбаковая грыжа мудрэй за горб, гы-гы-гы... З грыжай да бабы не падлазь, убрыкне.

— А ты, стратэг,— звярнуўся Сінёў да Шчыгла,— скажы мне, аднак: чаму ў цябе... дакладней, па якой прычыне слабы зрок? Пашкодзіў вока сам ці ад прыроды такое?

— А гэта, Сцяпанавіч, не сакрэт. Гэта, калі я

ў лакаматыўна-вагонным дэпо рабіў, падсобнікам, дык мне там перапала троху... За бегунка быў, пры майстру: тое прынясі, гэта падай... Раным-рана прыгналі ў рамонтны цэх цыстэрну з інгібіраванай салянай кіслатой. Ніхто на гэту кіслату ўвагі не звярнуў — чыгуначнікаў займала другое: былі сарваны накідныя балты і з гэтай прычыны люк шчыльна не закрываўся. Майстар паслаў мяне на склад па запасныя балты, а сам з газаэлектразваршчыкам пачаў зразаць старыя. І толькі я адчыніў дзверы, ступіў у цэх — якраз у гэты момант адбыўся страшнай сілы выбух... Усіх тых, хто быў ля цыстэрны, абліло кіслатою з галавы да ног, жах!.. А мне толькі адна капка пацэліла ў вока.

— Няўжо ўсё гэта, балабон, для эфекту прыдумаў? — недаверліва спытаў Сінёў.

— Лёгка, Сцяпанавіч, выдумляць, калі я цудам не адправіўся да Абрама на піва.— Шчыгол пахмурна звёў бровы.— Такое хіба прыдумаеш?.. Пакуль газаэлектразваршчык зразаў пакрыўленыя балты, у гарлавіне цыстэрны ўтварылася вадародна-паветраная сумесь. Яна і грымнула так.

— Ясна,— паспакайнеў Сінёў.— Сказаў бы мне зразу пра гэта, то і без падстаўніка ўсё ўладзілі б... Ты яму заплаціў, канечне, за такую афёру?

— Пляшку «Экстры» паставіў.

Сінёў пасміхнуўся, хітнуў галавой:

— Значыць, на нявопытнага напаў... Ёсць падстаўнічкі, што сотняй яго не залагодзіш,— і да Вуцёхі: — Даставай хлеб, каўбасу... Перакусім, а заадно і адпачнём.

— Кухар! — аклікнуў мяне Вуцёха.— Жыва — на адной назе! — да мяне!..— Я падышоў, і ён сказаў: — Ты газет, здаецца, накупляў, то дай сюды парачку — засцелем бочку,— і галасней: — Варушыся, кухар, ну! Твой дзень пачаўся ўжо.

— Газет накупляў, але яшчэ не прачытаў,— быў мой адказ яму.— Як вядома, газеты для таго, каб іх чыталі.

— Чуеце, хлопцы? — Вуцёха парыўна ўскінуў голаў і ўжо здзекліва, фанабэрыста: — Так дзела не пайдзёць, кухар... Не стой статуем, не мусолься на вачах — памагай, ну!..— Гэта ўжо самы звычайны загад.

Я зняў з сябе штармоўку, абтрос ад пылу і падыспадам уверх заслаў бочку. Вуцёха нічога на гэта не сказаў, і я ўзяўся памагаць яму, бо сапраўды, стаяць мне, кухару, не з рукі, трэба такі нешта рабіць.

З будынка аэрапорта выйшаў пілот і няспешна сунуўся здзірванелым акрайкам поля, паўз хвойнік, зрэдку нагінаючыся, зрываючы каліўцы сон-травы, што слепка сінела наўкол. Выбіраў добра развінутыя кветкі, рослыя, якіх, зрэшты, было яшчэ і не так багата. Калі праносіў паўз нас свой букецік і ўпэўніўся, што самалёт пусты, усміхнуўся, нічога пры гэтым на сказаўшы. Затое Сінёў пераможна кінуў яму ўслед:

— Выгрузку правялі ў тэрмін, за дваццаць пяць мінут. Ляціце, сокалы.

Амаль трухам падбег да Сінёва штурман, даў яму падпісаць нейкую паперчыну. Пілот тым часам зазірнуў у зеўру люка, аглядзеў заднія крылы, хвост. І вось нечага яны абое, пілот і штурман, ажывіліся... Па дарозе, з боку пасёлка пыліў матацыкл. Адна палавіна варот у загарадзі была аднесена ўбок, і матацыкл, чуць збавіўшы хуткасць, падкаціў да самалёта і спыніўся проста пад люкам. Лётчыкі павіталіся з матацыклістам за руку, а той, нібы ў адказ на іх увагу, скінуў з каляскі дэрмацінавую накрыўку. Там, у калясцы,— гэта было добра відаць,— стаяў алюмініевы бак літраў на трыццаць, зверху апавязаны белым абрусам, здаецца, поліэтыленавай плёнкай. Лётчыкі тут жа ўхапілі бак за дзяржакі, паднялі і паставілі ў самалёт. Штурман спрытна скокнуў у зеўру люка, пацягнуў бак далей. Неўзабаве люк закрыўся.

— Летуны амулькам запасліся,— выказаў сваю здагадку Сінёў.

Вуцёха, паціраючы рукі, дачасна радуючыся, падахвоціўся:

— Пабягу да іх — омуля папрашу... Хоць адну рыбінку, пакаштаваць.

— Збегай, калі ёсць ахвота прасіць,— не стаў адгаворваць Сінёў лёгкага на пад'ём Вуцёху, адно дадаў: — У крахабораў тых, думаю, зімой снегу не дапросішся.

Вуцёха трухам дабег да матацыкліста, павітаўся з ім за руку. Ён застаўся на месцы, ля матацыкла, а пілот з матацыклістам паволі прайшлі да трапа, пастаялі трохі і развіталіся. Пілот падняўся ў самалёт, усцягнуў трап, памахаў рукой і зачыніўся, гучна ляпнуўшы дзверцамі кабіны. Неўзабаве матацыкл загурчаў, запыхкаў густымі пучкамі сіняга дыму, і Вуцёха ў гэты момант прыторкнуўся, як варона на кол, на зад каляскі. Ён так і падкаціў да нас, трымаючыся аберуч за кола-запаску.

Матацыкліст з прагазоўкай заглушыў матор, гупнуў долкі і стаў вітацца. Падаў руку Сінёву, назваўся:

— Савосін,— ён быў у чорнай скуранцы з футравым — з нерпы — каўняром на ўсе плечы.

Сінёў таксама назваўся, затым паказаў кіўком галавы на бочку, запрасіў:

— Прылучайцеся да нас на абед... Чым багаты, тым і рады.

— З прыемнасцю,— бліснуў вачыма Савосін.— Вітаю вас і спадзяюся, што ў нашых багатых краях вы знойдзеце ўсё, па што прыехалі! — пафасна закругліў ён.

— Шукаць мы ў вас нічога не збіраемся,— у тон яму, жартуючы, сказаў Сінёў.

— Геолагі? — запытаў Савосін.

— Не ўгадалі, аднак,— сказаў Сінёў.— Геадэзісты.

— Мне, канечне, усё роўна — абы добрыя людзі...— Прайшоў да матацыкла, дастаў з каляскі пакунак, а з ім разам і бутэльку гарэлкі, вярнуўся да бочкі. Разгарнуў пакунак, узяў у рукі распалавіненага омуля — грамаў на чатырыста.— Пасолу, знаеце, учарашняга, але да стала ўжо можна падаваць,— і не без асцярогі, працягла-запытальна зірнуў Сінёву ў вочы — нібы спытаўся: давяраць табе, міл-чалавек, можна ці не? — сарваў корак з бутэлькі, прыўзняў яе, паказаў.— Вёз на ўсякі выпадак, думаў, лётчыкі пагрэцца захочуць, дык не, адмовіліся... У нас тут, знаеце, гарэлка рэдка ў магазінах бывае. Спірт ды пладова-ягаднае...

Сінёў сказаў мне, каб хуценька дастаў конаў-

кі, якія былі ў пасуднай скрыні, я пабег даставаць іх. Калі вярнуўся, то пачуў, як Сінёў гаварыў:

— Маласольны амулёк — гэта ж самы смак!..— ён трымаў у руках рыбіну, разглядваў яе.— Ніколі не бачыў, каб так разразалі — нават галаву напалам. Выходзіць, што ні край, то і свой метад засолу?

— А як жа — толькі так.— Павесялелы, Савосін запрашальна паказаў на горку амулёў, што ляжалі на разгорнутым абрусіку.— Хлопцы, частуйцеся, бярыце...— І ўжо калі мы з'елі чуць не па рыбіне, спытаў Сінёва: — І як? Скажаце мо, перасолены амулёк? Ай, можа, недасолены? Не-ек, гэтага на скажаце — пасолена ўмерна, самы раз,— спахапіўся, стаў разліваць гарэлку па конаўках.— Ваша здароўе, добрыя людзі! — паднёс конаўку да губ, задраў галаў, стаў піць. Востры кадык каленцам выступаў навырунак, пры глытках торгаўся ўніз-уверх і быў дужа падобны на нос Савосіна, такі ж тупы, ▪ шырокай дзюбкай. Выпіў, паставіў конаўку.— Эххх, фу-у-уф!..— крактануў апетытна.— У аднаго тут гэтымі днямі сетку аднялі — новую, капронавую... Ах, якая сетка была! Мала гэтага, дык яшчэ і аштрафавалі чалавека. Выходзіць, што для сябе няможна лавіць, а?.. Жывём у чорта на кулічках, а няможна рыбкай паласавацца, не даюць... Гадоў пяць назад тут, хочаце верце, а хочаце не верце, баразнілі Байкал і так і сяк. Бралі толькі ікру — растрабушаць, ікру выграбуць у бочку, а тушку омуля — назад у возера, на згубу.

— Гэтак нават рабілі? — не паверыў Сінёў.— Што ж гэта за людзі былі?

— Была тут арцель такая, прыезджая... Па дагавору рабілі... Значыць, ікру ў бочкі — і шытакрыта. Застукалі іх выпадкова — бочка ўпала з пагрузчыка, разбілася... Праверылі другія бочкі — ікра ў кожнай... От тады пралупілі вочы, убачылі, што гэта за арцель, прагналі з трэскам.

— Значыць, тушку ў возера — і канцы ў ваду?.. Крахаборы! — Сінёў не прамінуў увярнуць сваё любімае слоўца ды яшчэ і зубамі скрыгатнуў.

— Іменна так, крахаборы,— ахвотна пацвердзіў Савосін.

— Дык вы ловіце омуля толькі зімой, калі лёд, ці, можа, і ўлетку? — пры гэтым Сінёў кіўнуў галавой у бок Байкала.— Там без лодкі не вельмі разгонішся.

— Лодка ёсць, вядома... У мяне кацярок. Невялічкі такі, зручны — шырокі ў карме, устойлівы. З крыла самалёта скляпаў, сам,— выцер пальцы з чорнымі абадкамі на пазногцях аб крысо маёй штармоўкі, і гэта заўважылі ўсе; Вуцёха ад задавальнення аж вочы пад лоб закаціў, а пасля і сам гэтак жа зрабіў — і не тое што пальцы выцер, а нават губы.

Нахабнасць з боку Вуцёхі мяне проста вывела з цярпення, і я зласліва падумаў: «Ну ж пачакай, свінтух! Адыграюся і я на табе, улучу момант». А Вуцёха між тым здаволена, як кот, прыжмурыў свае вірлакі, вочы-лупацікі, падміргнуў мне, і гэта мяне зноў вымусіла назваць яго ў думках свінтухом, сказаў весела:

— Смачная рыба — омуль, царская!

— Правільна сказана,— зноў ажывіўся Савосін.— Была царская рыба, а цяпер — наша, а? Чаму б і не паласавацца?..— адкусіў омуля і стаў жаваць няспешна, засяроджана.— Заўчора вет рыла дужа, але не ўпустую боўтаўся, не ■ такам двору вярнуўся — натрапіў на ладны касячок самцоў. Калі б на самачак, то — у-у! — ікры, лічыце, неўпаед было б, а так — малока, парсюкоў далікатэс. Рыба царская, але, знаеце, рыбнагляд даймае-такі... Па восені мяне чуць былі не сцапалі. Не помню ўжо, як і ўправіўся запусціць свае «Віхры»...

— Два маторы аж? — здзівіўся Сінёў.

— Два. А на адным і не патыкайся на такі промысел — рыбнагляд дагоніць... Я, значыць, калі выходжу на аператыўны прастор, прывінчваю да кармы рухомы кранштэйн, чапляю на яго другі матор... Тут жа, на кранштэйне, і рэгулятар газу, ручка кіравання. Усё, як мае быць, на ўзроўні часу. І ўжо калі ўпілю на ўсю жалезку, то ўгнацца за мной цяжка,— ён быў задаволены, што мы ўсе слухаем яго.— Летам прастор, ноч — матка...— Ажывіўся, аж галавой заматляў — як конь, адганяючы аваднёў, ці, як па-тутэйшаму іх называ-

юць, пáутаў (гэтае слова я ўпершыню пачуў ад Кружліка, калі той расказаў пра харыусаў, якія, выходзіць, добра ловяцца іменна на гэтых самых паутаў).

Зноў выпілі, і Савосін, дзіўна, паводзіў ужо сябе між нас, нібыта сярод сваіх даўніх знаёмых. Прайшоўся, агледзеў наш груз. Нечага ўздумалася яму хваліць бітоны:

— Але ж і дабрэнныя флягі, умяшчальныя,— утаптаў нагою, мыском бота, рыбін хрыбет у пясок.— Навошта вам тры?

— Для пітной вады ўзялі,— тлумачыць Сінёў.

— Прадайце мне флягу — амулькам забяспечу на месяц.

— Омуль, безумоўна, рыба смачная. Як Міша кажа — царская. А харыус — яшчэ смачнейшая,— Сінёў пасміхаецца, жмурыць вочы.— Прапанова, канечне, спакуслівая...

— Магу харыуса налавіць,— заахвоціўся раптам Савосін.— Праўда, з гэтай рыбкай павалэндацца прыйдзецца — яна ў горных рэчках, на Іну трэба ехаць, там харыуса шмат... Дык па руках?— і падаў Сінёву пяцярню — шырокую, закаржэлую ад вады і ветру, з каротка-тоўстымі, у валоссі, пальцамі — заграбастая лапішча, мядзведжая.

— Прадаць не магу — казённая маёмасць. Ды і самім трэба,— у голасе Сінёва пракінулася раздражнёнасць, але ён трымаецца на дзіва паважліва перад Савосіным, не сячэ з пляча, ды і няма як: чалавек выпіць даў і закусіць.

— Так-так, цяпер вам трэба флягі,— не маўчыць Савосін, спрабуе ўсё-ткі ўтаргавацца.— А пасля сканчэння работ, думаю, адну можна збыць, а?

— Там відаць будзе...— неахвотна буркнуў Сінёў — па ўсім відаць, ён ужо і не рад сустрэчы з Савосіным.

— Складзяце акцік — і ўся канiцель,— не адступаўся Савосін.— Напішаце, што ў прорву якую сарвалася. Не мне вас вучыць — спісаць усё ў наш век можна... Не толькі флягу.

— Сцяпанавіч, а можа, абыдземся двума бітонамі? — Вуцёха клюнуў-такі на прапанову.— Пры добрым задатку, чаму б і не ўступіць, а?

— Сквапнасць фраера губіць,— нечакана і даволі ў час выказаўся Корнеў.

Ад каго іншага пачуць такія словы было б натуральным, а вось ад Корнева, можна сказаць, закончанага фраера, ніхто з нас гэтага не чакаў. І Сінёў падтрымаў Корнева:

— Хоць і вульгарна, затое ў самае яблычка, маладзец,— і як знак таго, што не падзяляе намераў Вуцёхі, дадаў: — Калі б ты, Міша, надумаўся спальнік свой загнаць, то я і слова не сказаў бы супраць. Спальнік новы, і лічы, больш за бітон каштуе — можна не адзін, а два месяцы амулька жэрці, а то і харыуса, так?

Савосін прыплюшчыў левае вока, слухае, нарэшце чмыхнуў праз нос, адступіўся ад бочкі: відаць, прыняў гэту строгасць Сінёва да Вуцёхі як жаданне спыніць торг, прамовіў гулліва, па-хлапчукоўску:

— Ды што вы, людзі?..— цыркнуў слінай на дол, памаўчаў нейкі час і ўжо як апраўдваючыся: — Я проста так, абы пагаварыць, а вы — усур'ёз мае словы прынялі,— падступіўся да Вуцёхі, загаварыў да яго: — А ты, хлопец, калі што-якое... Словам, мяне лёгка знайсці — першая вуліца ад аэрапорта: Байкальная, 5. Вымеркуеш час — заходзь. Пры жаданні-ахвоце і пабоўтаем разам, так сказаць: лавіся, рыбка, памногу і шыбка, а?.. У дзве сеткі — двайны ўлоў... Не ўмееш — навучу, пакажу і раскажу. Абы жаданне,— ён ужо даўно прыкмеціў нашу сетку ў дзіравым мяшку, не стрымаўся, падышоў і праверыў, ці новая.— От аж завідкі бяруць: і новая, і капронавая... Такой сетцы зносу не будзе.

— А ў нас хоць і ёсць афіцыйны дазвол лавіць рыбу для сваіх патрэб, ды наўрад ці будзе на гэта час,— заўважыў Сінёў абыякава, працягла паглядзеў на Вуцёху.

І тут самалёт, які ўсё яшчэ стаяў нечага, не азываўся, раптам узвыў сваімі магутнымі рухавікамі, і так, што аж пазакладвала вушы. Вось ён скрануўся з месца, выруліў на сярэдзіну ўзлёткі — пакаціў у самы яе канец, няспешна развярнуўся там, і, ахутаны густым мроівам пылу, знерухомеў на хвілю, і яшчэ больш пранізлівей за-

выў — грымліва, трубна, затым, лёгка гайдануўшыся, рыўком зрушыў з месца, гонка памчаў на ўзлёт...

Калі мінаў нас, то быў ужо адарваўшыся ад зямлі — гэтак, можа, метраў на шэсць-восем. Зблізку, з несхаванымі, непрывычна бяздзейнымі, непатрэбна лішнімі ў паветры шасі, ён выглядаў на дзіва нязграбным і недарэчна тоўстым.

Кватаруем мы, як ні дзіўна, у Савосіна. Зразумела, не набіваліся да яго на пастой — ён сам прапанаваў, калі даведаўся, што на колькі дзён мусім затрымацца ў пасёлку.

Гэтая ноч, праўда, для мяне была самая пакутная ў жыцці... Першая такая ноч. І чаму Савосін не паехаў на рыбалку — хоць бы Вуцёху звёз, і мне аднаму спалася б у ложку прывольна. А з Вуцёхам — пакуты, а не сон: храпе на ўсю хату, трубіць, як лось. Класічны храпун — самага цярплівага дойме. Ды каб жа толькі ад храпу ягонага пакуты: ён, бугай, спіць, хурхоліць носам і, пэўна ж, думае, што пры ім жоначка яго, бо так і ціснецца, чорт, лапае за грудзі, а потым яшчэ і нагу спрабуе закінуць... Дзе ж тут заснеш? Скаціўся з ложка, як учадзелы, раскатаў спальнік на падлозе, з галавой залез у яго і тады толькі заснуў...

Прачнуўся самы першы, на золку, надзеў трэнінг, кеды абуў — пабег у лес. Раніца выдалася на дзіва сонечная, але дужа ветраная, халодная. Зямля пасля ночы не прагрэлася яшчэ, асабліва ў лесе, вільготная. Маразоў ужо не бывае амаль па начах, ды нутраны холад, тая самая вечная мерзлата (пачынаецца недзе з паўтара метра і канчаецца пасля двух з паловай, а то і ўсіх трох метраў), дае пра сябе знаць. Ох і прыйдзецца нам патруднаваць, капаючы такі грунт.

Добра ў лесе! Лёгкім трухам бягу далей, спускаюся ў лагчынку. Паабапал дарожкі — густы сасоннік, зямля пад ім спрэс усцелена хваёвымі голкамі, так званым шыгаллем, і таму — як іржавая, аж ільсніцца: іржа пафарбаваная лакам, бясколерным. Сасоннік выцыбаўся ўжо — гонкі, стройны, без сучкоў, з кароткімі вяршалінкамі.

Выбягаю на гала. Хараство — скрозь, як акі-

нуць вачыма, буйна цвіце багун. Квет багуновы тут зусім не такі, як у нас — святочна-строгі квет, урачысты. Суквецці лёгкія, ярка-малінавыя, з пяці вялікіх пялёсткаў — акурат зоркі-пяцікуткі. Яны хвалююць, гэтыя зоркі вясны, уражваюць.

Недзе з паўгадзіны праверў у лесе. Мацыён атрымаўся цудоўны — лепшага не трэба.

...Надвечар прыехалі Кружлік з Шумком. Знайшлі нас хутка і лёгка, нават не заязджаючы ў аэрапорт, дзе мы павінны былі з імі сустрэцца. Атрымалася так: яны зазірнулі ў магазін, а там быў Корнеў...

Гэты іх своечасовы прыезд усцешыў не толькі Сінёва, але і кожнага з нас: значыць, заўтра будзем на месцы першых аб'ектаў. Хутчэй бы ўжо!

Каму адпачынак, а мне, кухару, турботы. Упарыўся, пакуль згатаваў на керагазе вячэру. Не згатаваў, а хутчэй змастачыў па прынцыпу цяпляп. Спрытна ўсё атрымалася. Нават падарожцы нашы, Кружлік і Шумок, не паспелі памыцца-пагаліцца як след.

Вуцёха купіў у Савосіна сем кілаграмаў вэнджанага омуля, склаў у скрынку, закупорыў, надпісаў і хацеў ужо быў несці пасылку на пошту, ды якраз вярнуўся з магазіна Сінёў, дастаў з чамаданчыка-сакваяжа дзве бутэлькі спірту і паставіў на стол.

— Сплоцім Савосіну тым жа,— сказаў ён загадкава.— Не люблю ў даўгу заставацца... Шкада, што не руска-горкая. Няма.

— Сцяпанавіч,— Вуцёха толькі што прыхаваў пасылку з омулем пад свой рукзак, падступіўся да стала,— а што, калі я «Крывавую Мэры» адцыбучу, наш фірменны, лепшы ў свеце напітак «ухзаймае-дух»?

Я насцярожыўся: што яшчэ за Мэры такая, крывавая? Гляджу на Сінёва, а ён гаворыць да Вуцёхі:

— І што ж табе не дае? — гаворыць сур'ёзна, без жартаў.— Адцыбуч,— і нібы апомніўшыся: — Чакай, а таматны сок ёсць?

— Ёсць. Прыхапіў з дому.

— Малаток,— Сінёў пахваліў Вуцёху.

Шчыгол:

— Сцяпаныч, а не здаецца вам, што малаток — замала для Вуцёхі? На ранг вышэй трэба браць, а то і на два: калун! — выдаў ён чарговы досціп.

— А ты — пад усе бочкі шпунт! — выгукнуў у адказ Вуцёха. І да Сінёва, падлізліва: — Вы б Савосіну сказалі, каб мыўся... Рубон ужо на стале, і пітво будзе гатова зараз.

Сінёў прайшоўся па верандзе, прасторнай, светлай, з круглым сталом у цэнтры, адчыніў акно і паклікаў Савосіна:

— Дзям'янавіч, закругляйцеся, прылучайцеся да нас вячэраць.

— Дзякуй... Я ж не скончыў паладку,— ён корпаўся ў матацыкле, які быў пад паветкай.— Вы, калі ласка, не чакайце, без мяне вячэрайце.

Вярнулася з работы жонка Савосіна — узрушаная, злая. Нечага і раз прабегла па двары, і другі. Сінёў выйшаў да іх, у двор, і як толькі не ўблагаў пасядзець з намі за сталом, пагаварыць, ды яны ні ў якую — адмовіліся.

Зайшоўшы ў хату, Сінёў зябка цепнуў плячыма, пацёр рукі і сказаў:

— Ат, без гасцей — прасцей.— Паглядзеў у акно, на Савосіна, ціха кінуў: — Гаспадарлівы чалавек.— І да Вуцёхі: — Бач, выбліскаў як матацыкл — лялька.

— Дайце яму «газон» наш, дык ён у яго з паўабарота будзе заводзіцца, не тое што цяпер...— пакосіў вочы на Шумка.— Шафёры-сезоннікі ўграбілі машыну за два гады.

— Не ерундзі, Міша, бо не табе пра гэта баіць,— расчэсваючыся, падступіўся да стала Шумок.— Пакалясіў бы гэты твой Савосін па бездаражы, як шафёры-сезоннікі калясяць, дык ад яго драндулеткі, можа, адзін руль і застаўся б у руках,— зларадна ўсміхнуўся і схаваў грабеньчык у кішэню.

— Вуцёха, канечне, не Савосін,— падключыўся да размовы Кружлік.— Ён купіць сабе коніка без парадоксаў — сельскі лімузін «Ніву», усюдыходзік. Чытаў я, што іх хутка пачнуць выпускаць. Дабрэнны легкавік.

— Не, Філат... Яму ўмяшчальная машына трэба, з кузавам — «УАЗік», грузавічок.

— Іменна так,— Вуцёха спакойны.— З красы не піць расы. Няхай легкавікі вам застаюцца, бо гэта машыны-лялькі, балонкі кучаравістыя... Катайцеся, куляйцеся. Вам — сваё, мне — маё.

— Яму ланцужнік-дварняк трэба, бульдог,— заключыў Шчыгол. Счакаўшы, насмешліва спытаў: — Міша, чаму ў цябе рукі дрыжаць, бы ў злодзея, а? Гы-гы-гы...

Вуцёха нейкі час зацята маўчыць,— падобна, шукае ў адказ, калі не жарт убойны, дык абразу. Але ж і праўда, відаць, трэба ўмець з аднаго літра спірту прыгатаваць два літры «Крывавай Мэры», і Вуцёха стараецца — з аптэкарскай акуратнасцю разлівае таматны сок і спірт у бутэлькі. Вось ён затыкае бутэлькі, бярэ адну [illegible] іх і пачынае старанна ўзбоўтваць. Ускінуў галаў, пасміхнуўся, сказаў:

— Чэрці цябе дрэнчаць увесь час — пляцеш, Саня, чамялу ўсякую... Лепш павучыся, як трэба напітак рабіць,— не злуе, аднак.— Усёк? Палова на палову — гэта і ёсць фіфці-фіфці. Памацай бутэльку — гарачая, рэакцыя адбываецца...

Шчыгол яўна шакіраваны гэтым яго «фіфці-фіфці» — замоўк, стушаваўся. Вось табе і Міша, быццам ён нешта ў англійскай мове цямрыць. З рускай не ў ладах, піша, як і гаворыць, [illegible] памылкамі, а тут — ведай, маўляў, нашых! — па-англійску сказануў. Да гэтага я чуў ад яго нямецкія слоўцы «абгэмахт», «фэрштэен», «гешэфт», а сёння новае выдаў... Паліглот наш Вуцёха!

Якраз і Гардуноўскі свае тры грошы ўткнуў:

— Хлопцы, а па-мойму, калі б Міша быў тут адзін, то пляшку спірцягі, дальбог, сабе закандаліў бы, а нам — цю-цю... Глыталі б гэту яго боўтанку напалам з вадою, без спірту.— Абняў Вуцёху за плечы, усклікнуў: — Эх, Міхаіл!.. Прыватны сектар зацягвае цябе ў мяшчанскае кубло. Амулька купіў... Я думаў — для ўсіх, а ты аб'ягорыў нас — падаў прыклад, як трэба паводзіць сябе ў дружным калектыве.

— Вэнджанага амулька захацеў? — Вуцёха з ухмылкай глядзіць на Гардуноўскага і ўсё роўна

як стрымлівае наплыў нечаканай радасці.— А гэтага во не хочаш? — Ён сунуў дулю пад самы нос Гардуноўскаму.

Сінёў стаяў насуплены, не перастаючы назіраць за Савосіным праз акно. Затым сказаў:

— Змяніўся ты, Міша. У горшы бок змяніўся... Нечым стаў на Савосіна падобны. А ўспомніка, які да жаніцьбы хлапчына быў, а? Не пад сябе гарнуў — пра іншых клапаціўся.

Вуцёха насцярожана лыпнуў вачыма, пахмурна звёў бровы — ён заўсёды так рабіў, калі яго пачыналі даймаць, набычліва ўставіўся на Сінёва. Нейкі час сядзеў так, засяроджаны, нарэшце выказаўся:

— Мы [redacted] ім, Сцяпанавіч, так падобныя — на адным сонцы анучы сушылі... А ўрэшце — гаспадарлівасць не загана. Паважаю такіх, як Савосін. Гэта моцныя людзі. Не з тых, што выюць, а з тых, што рыюць — гарбом уласным здабываюць хлеб надзённы.

— Моцныя, кажаш? — Сінёў кіўнуў у бок Савосіна.— Ды ён жа, гэты твой дабрадзей, самы што ні ёсць хапуга: дзе што можна ўхапіць — хапае, не вароніць. Бітон яму, бачыце, прадай... Крахабор!

— Абы не злодзей,— Вуцёха прыкметна ажывіўся.— А, бадай, ёсць і падабенства ў нас: мы, папершае, абодва Дзям'янавічы, [redacted] яшчэ — сібіракі, цывілізацыяй не збалаваныя, за магазіннай каўбаскай не ганяемся, бо сваю маем, сялянскую.

Кружлік, карэнны сібірак, нечага аж крутнуўся на ўслончыку, нецярпліва кінуў Вуцёху:

— От чаго-чаго, а сібірачага ў табе і блізка няма... Пройда, ты ж сам мне гаварыў, што з перасяленцаў.

Вуцёха:

— Ну, гаварыў... Маці з Магілёўскай губерні, бацька — тутэйшы, са старавераў.

— Яно і відаць, што і старым жывеш, і новым — і ўсё не так, сікась-накась,— Кружлік зноў крутнуўся на ўслончыку.

— Жыву проста: абавязацельстваў на сябе павышаных не бяру — навошта? За рэпутацыяй не ганяюся, хвальбы ў свой адрас не цярплю...— па-

рыўна ўстаў і ўсклікнуў: — Хопіць бібікі біць — пітво гатова! — Узяў нож і тыльным бокам ляза пастукаў па адной з бутэлек.— Вызваньвае, можна разліваць,— губы Вуцёхі зварухнуліся і шчыльна сышліся — дзве тонкія палоскі з белай наеддзю ў кутках.— Слінка цячэ — хочацца есці.

— А ты расслаб свой трыбух,— параіў Шчыгол і ўзяў ад яго нож, гэтакім жа макарам, як і Вуцёха, пастукаў па ўсіх бутэльках, звярнуўся да Гардуноўскага: — Пятро, дык скажы толкам: малінавы гэта звяк ці мо агрэставы які? Гы-гы-гы...— Не ва ўсіх бутэльках гатова пітво,— стукае.— У гэтай звяк не ўрачысты, глухі,— смяецца, нарэшце дадае: — Эх, і павячэраем зараз!.. І хуценька ў клуб, на танцы. Дзяўчатак тут — касой касі, як грыбоў. Закадру марцуню, пацешуся.

— Ад дзяўчатак у першы вечар адна пацеха: дуля з грымаком,— астудзіў ягоны пыл Карнееў.

— Табе, можа, дуля, а мне — пярына.

Я таксама ўзяў нож і пастукаў па бутэльцы. Сапраўды, як сказаў Шчыгол, звяк урачысты, малінавы... Ну во, каторы год быў у асяроддзі сапраўдных хімікаў, а не ведаў такога фокуса. І смех і дзіва: навучылі алхімікі. Зрэшты, слова гэтае больш важкім стане, калі — няхай нават і сілком — уціснуць у яго літару «к». АЛКХІМІКІ. Хаця — не, можна і прасцей: АЛКАШЫ... Якраз тое, што і трэба. Дакладней, відаць, і не скажаш.

...Вячэра ў самым разгоне. Я сяджу насупраць Вуцёхі. Ён налівае мне чарговую порцыю напітку «ух-займае-дух», ад якога патыхае незразумелай смердзю — усё роўна як паленай гумай, чокаецца са мной:

— Лёха, вып'ем цяпер за беларусаў-сібіракоў, а? Вып'ем!

Як не выпіць — выпіў, плечы мае ўскалыхнуліся, з вачэй пакаціліся слёзы. Хацеў дастаць бульбіну, але Шчыгол апярэдзіў — сунуў мне ў руку вэнджанага омуля.

Што гэта? Няўжо я аслеп і аглух? Хлопцы смяюцца, а я не разумею, чаго ім так смешна. Раптам Вуцёха, зямеля мой, каршуном налятае на Шчыгла, крычыць:

— Вуркаган, пасылку ўспароў, а?!.

Шчыгол рашуча адмахваецца ад Вуцёхі, гаворыць голасна:

— Няўжо не бачыш, ты?!. Напарнік твой акасеў, то няхай амульком закусіць... Ты ж яго любіш, толькі што кляўся яму ў гэтым. І шкадуеш амулька? Потрах чортаў, ніякай салідарнасці ў цябе да землякоў.

— Ы-ых-х!..— здушана выдыхае Вуцёха.— Вуркаган!..— Захмялелы, ён зноў пайшоў у наступ, цаляючы ўхапіцца загрудкі.— Не маеш права чужое браць!.. Ты за яго плаціў, а?! Плаціў?..— зачасціў адно і тое ж.

Шчыгол з сілай адштурхнуў ад сябе Вуцёху і прыгразіў:

— Цыц, макрагубы, нікшні! А то мігам фіксу выкарчую і здам на прыёмны пункт, гы-гы-гы...

— Рукі кароткія! — агрызнуўся Вуцёха, ухапіў пасылку і выбег на двор.

І пад гэты час якраз Міхалёў, Толя Міхалёў, заспяваў добра знаёмую мне народную песню:

Зорачка-пераборачка
Усё неба перабрала —
Каля месяца стала...

І як спявае! Амаль жаночым галаском, працягла, напеўна... Малайчына Толя!

Хлопцы запляскалі ў ладкі, загаманілі. Сінёў загадаў ім замоўкнуць — аж кулаком грымнуў па стале. Ён слухаў песню... А Міхалёў спяваў, дзяўчом залівауся:

Месячык мой міленькі,
Ці буду я такая ясная
Як ты?..

Гардуноўскі засяродзіўся, глядзіць некуды за акно, удалячынь — слухае натхнёна, усхвалявана. У Сінёва, бачу, слёзы навярнуліся на вачах. Затое Шумок, Кружлік і Корнеў — гэтыя па-сычынаму тупа талопяць вочы на бутэлькі, на закусь — і маўчаць. І толькі Шчыгол спрабуе падпяваць, хоць і не ведае слоў песні.

І вось Міхалёў скончыў спяваць.

— Ты глядзі-тка, а? — Шчыгол прыемна здзіўлены.— Бульбашская песня! — І да Сінёва: — Шэф, адкуль вы гэткага пеюна выпісалі?

— Усё адтуль жа,— смяецца здаволена Сінёў. Шчыгол да Міхалёва:

— Толя, хто цябе вывучыў гэтай песні?

— Маці... Яна часта спявала — і я запомніў. І яшчэ ведаю.

— Не разумею цябе, яй-бо. Нарадзіўся далёка ад Беларусі, а песні выштукоўваеш беларускія... Я дык ніводнай марыйскай не ведаю, дарма, што бацькі марыйцы. Мову ў школе не вывучаў, кніжак не чытаў — лішні клопат, непатрэбшчына.

— Кожнаму сваё...— пахмурыўся Міхалёў.— Затое ў цябе ёсць свой бог — транзістар.

— Правільна, я за прагрэс,— ахвотна пагадзіўся Шчыгол.

— Прагрэс, Саня, без роднай культуры — нішто...— Міхалёў засяроджваецца. Ён, як і заўсёды, спакойны, стрымана-памяркоўны.— А што да песні, якую ты назваў «бульбашскай», дык яна — славянская песня, і сам я славянін, беларус, і дзеці мае беларусамі будуць, унукі мае і праўнукі...

— Толя, дарагі, пераканаў — здаюся! — Шчыгол памкнуўся быў абняць Міхалёва, але тут жа адступіўся, замахаў рукамі — кінуў новы кепік: — Ну цябе... Яшчэ падумаеш, што падлашчваюся, гы-гы-гы...— І на дзіва лёгка прыкампаніўся да маўчуноў (Кружліка, Шумка, Корнева), наліў спачатку сабе, а потым і ім, моўчкі ўсе разам выпілі, і тады ён, Шчыгол, павярнуўся да Кружліка, пацешна стуліўся, пачухаў патылак і ціха, як не сілком, выціснуў з сябе: — Начальнік, пазыч пяцярык — да палучкі. Можаш у кандуіт свой занесці на рубель-два больш... Пазыч.

— Адстань, грошай табе ні капейкі не пазычу,— варухнуў брывямі Кружлік.— Ніколі ў мяне не прасі.

— Ну ж — ладна, Мікрабугор.— Шчыгол ведаў, чым дапячы: Кружлік балюча рэагуе на гэту мянушку, баіцца, відаць, каб не замацавалася за ім.— Я гэта запомню.

Кружліка ўсё роўна як укалолі — падхапіўся з месца, голасна кінуў Шчыглу ў твар:

— Не пагражай — не такім казлам рогі ламаў!

— Сам ты казёл, гы-гы-гы... Ды яшчэ камёлы.— Шчыгол усё на жарт звёў, і хлопцы —гучней за іншых Гардуноўскі — грымнулі выбухам смеху, дружна, гарэзна.

Хто яны, гэтыя людзі?.. Хм, сапраўды: хто?.. І сам жа я з імі сяджу за адным сталом. Хто мы? Як апынуліся тут? Хто такі Савосін?..

Неўзабаве спахопліваюся: ага, мы — будаўнікі-геадэзісты. Геадэзісты?.. А зусім жа нядаўна я хімікам-рамонтнікам быў... І не рабочым, як тут, а інжынерам-рэдактарам. І ў мяне быў добры, надзейны сябар Валька Шахноўскі, неразлучны мой друг, таварыш. Верны мне гэтак жа сама, як і я яму. Валька... Што ты цяпер там робіш? Чым і як жывеш?.. Ясна, па-ранейшаму гарбееш па вечарах усё ў той жа баковачцы ў прыватным дамку на ўскраіне Мінска, рухаеш навуку наперад. Так, рухаеш... Ты і мяне рухаў, Валька! Мы часта сустракаліся ў цябе. За вечар, можа, і выпівалі ўдвух бутэльку сухача, затое колькі было слоў... Праўда, разумеў я з таго, што ты гаварыў, далёка не ўсё, бо мне, гуманітару, нялёгка давалася сучасная тэрміналогія хімікаў. «Інгібітары?..» — няпэўна паціскаў я плячыма. А ты ў адказ: «Вось іменна! Інгібітары карозіі на аснове крэмнійарганічных палімераў (крэмнійарганічныя аміны і арганасілізаны) спрыяюць павышэнню каразійнай аховы пакрыццяў». Ці: «Фурылавая смала? Валька, а як і з чаго яе робяць?» І ты мне тут жа даваў ну проста вычарпальны адказ: «Фурылавая смала — ФЛ-2, скажам, атрымліваецца шляхам аўтапалікандэнсацыі фурылавага спірту, разам з малеінавым ангідрыдам...— Я ўціскаў галаву ў плечы, непаразумела глядзеў на цябе, а ты шчасліва ўсміхаўся. Так, ты быў на сёмым — сваім! — небе.— Скора, дарагі мой, ахнеш — пакладу табе на стол новую распрацоўку: «Фурфуралацэтонавы і поліэфірны палімербетоны і іх выкарыстанне ў хімічнай прамысловасці». Уяві толькі, такім палімербетонам не страшныя любыя агрэсіўныя вадкасці... Ну як? Чуў, кум, баса?»

Валька, ты адгаворваў мяне — не хацеў, каб я звальняўся. Але ж менавіта ты сагітаваў мяне перайсці ў сектар навуковай інфармацыі. Ты, Валь-

ка, угаварыў Фёдара Аўдзеевіча, загадчыка сектара, узяць мяне на пасаду старшага інжынера. Я — выйграў у зарплаце, затое повязь з маёй прафесіяй, дзеля якой вучыўся, парвалася. Я гэта адразу адчуў, і мне стала не па сабе. Магчыма, вярнуўся б назад, але на маім ранейшым месцы асела чарнавокая красуня Нэлачка Недашэўская, якая таксама мае дыплом бібліятэкара, толькі, праўда, тэхнічнага профілю — тое, што і трэба. Недашэўская пажадала застацца пры бацьках, у сталіцы, і ёй гэта ўдалося.

— Дзе ты зараз, Валька?.. Я тут — адзін... Сычы наўкол, сычы! — і лупянуў кулаком па стале.— Сычы!

— Ты гэта што — з глузду з'ехаў? — адхіснуўся ад мяне Шумок.— Не распускай нюні, кухар.

— Сумна табе, а?.. Вальку, значыць, дома пакінуў? — Корнеў пацягнуўся да мяне, тузануў за плячо, заплюскаў асалавелымі вачыма, усклікнуў: — Хлопцы, Лёха бунтуе — па бабе засумаваў.— І спачувальна, але не без насмешкі: — Не бядуй, знойдзем мы табе тут бабу... А Вальку сваю — забудзь.

— Падымайся,— Шчыгол учапіўся за мяне, пацягнуў з-за стала.— Руку давай, ну?!. Разам з намі на танцы пойдзеш, лады?

— Сабраліся — матайце,— Сінёў узяў мяне за падпашша і адвёў да канапы. Я лёг.

— А як жа з бабай, Лёха? — весела прадудзеў Корнеў у мяне над вухам.— Калі будзеш толькі спаць, то ўсё на свеце праспіш.

— Што я сказаў?! — тупнуў нагой Сінёў.— Матайце.

— Сцяпанавіч,— Шчыгол нерашуча падступіўся да Сінёва, схіліў перад ім голаў, умольным галаском папрасіў: — Дайце ў аванс чырвонца — і ўраз зматаемся... Можна і больш. У клуб сабраліся, а ў кішэнях — ні шыша, вакуум. Так сказаць, тарычэлева пустата,— выгляд глыбакадумны, ні смяшынкі на твары.— А без грошай згодна закона Гей-Люсака — я не гуляка, гы-гы-гы...

— Позна — усе лішкі раздаў,— лёгка ўхіліўся Сінёў ад просьбы Шчыгла.— Вуцёха трыццаць

рублёў выманіў, а цяпер і табе дай, а пасля і ўсім дай... Няма.

— Лагічна, веру,— і да Кружліка: — Вучыся, начальнік, як трэба пераконваць,— пасміхнуўся злосліва неяк, нядобра.— Скажы дзякуй, што я сёння ўсім задаволены... Калі б толькі недаеў ці, крый божа, недапіў — ты б, начальнік, круціўся перада мной, як шкурат на агні.— Шчыгол такі паспрабаваў быў узяць Кружліка за каўнер, але яго стрымаў Міхалёў — спакойны, паслужлівы і, здаецца, зусім цвярозы. Яны абняліся і весела выйшлі ў двор. Следам падаліся, таксама абняўшыся, Корнеў ■ Гардуноўскім.

— Нішто сабе выхаванне,— непрыязна ўхмыльнуўся Кружлік.— Напаіў падначаленых і разагнаў... А яны ў клуб заявяцца і бучу падымуць, пачнуць дзяўчат лапаць, а не — панажоўшчыну ўчыняць, пабачыш.

— Пабачу, Філат, пабачу...— Сінёў стаяў ля прачыненага акна і курыў.

Неўзабаве Кружлік з Шумком таксама некуды сышлі.

Па тэлевізары дэманстраваўся кінафільм — праз сцяну былі чуваць частыя выбухі і страляніна, і я ўспамінаў назву фільма і ўсё не мог успомніць. Знаёмы фільм, бачыў яго, і не раз бачыў, а ўспомніць не мог. І пасля, калі пачуў голас Шукшына-акцёра — ён у ролі чырвонага камандзіра, нават камісара, здаецца,— успомніў: «Даурыя». І кнігу ж чытаў... «Даурыя», правільна.

Хлопцы забылі на чай — ніхто так і не папіў, хоць я ваду ўскіпяціў і добрую заварку прыгатаваў. Пабеглі ў клуб, на танцы. І мне б трэба было ісці... Але я падняўся ■ канапы, сеў за стол і стаў чаяваць.

Сінёў здзівіўся:

— Табе ўжо лепей? — Стрымана-засяроджаны, стаяў ён ля акна і густа пыхкаў дымам. Твар яго быў выразна-пунсовы, пахмурны.— Эх ты, ад нейкага кактэйлю раскіс, а выпіў жа грамаў сто, не больш.— Пажартаваў: — Ну што, выдраў лысаму валасы, вызначыўся?

— Зраблю вывады, Сцяпанавіч... Сядайце, будзем чай піць,— мне было хораша ад таго, што

мог шчыра, адкрыта гаварыць з ім — як з роўным. Канечне ж, я тут жа паспрабаваў скіраваць размову ў тое рэчышча, па якому хацелася плысці,— пра Асаўцову нагадаў: — Дуня вельмі разлічвала на вас, верыла... А вы паабяцалі яе ўзяць з сабой — і не ўзялі. Не стрымалі слова,— я стараўся гаварыць так, каб у голасе выразна чуліся ноткі дакору і несхаванай крыўды, і мне здавалася, што менавіта так я і гаварыў: наўпрост, у вочы.

* * *

Пасля таго як ізюбраня засталося без маці, яно колькі часу блукала адно, пакуль усё ж такі не прылучылася да ізюбрынага статка, разам з якім, зрэшты, і правяло сваю першую, багатую на снег і завеі зіму...

Корму хапала, асабліва часта не рабілі пераходаў — звычайна затрымліваліся на адной балацявіне на тыдзень-два, а то і болей. Узначальваў статак важак — ізюбр гадоў шасці. Статак быў невялікі — усяго тры маралухі з дзецьмі-пагодкамі: дзве рахманыя самачкі з прыгожымі галоўкамі і адзін самец, у якога паўзверх ілба тырчалі два касцявыя, яшчэ не зацвярдзелыя як след спічакі — рожкі.

І вось яно, ізюбраня-сіротка, прыблудзілася да іх. Яго прынялі. З ім часцей, чым з астатнімі, любіў гарэзаваць і барукацца важак — па ўсім відаць, стараўся замяніць яму маці. Ён не так памагаў, як вучыў здабываць харч — разграбаў зляжалы снег, пад якім на пажоўклых каліўцах марошкі трапляліся часам духмяныя плады. Але больш за ўсё ізюбраня ўпадабала журавіны, пасля іх падоўгу не хацелася не тое што піць, але і есці...

Рогі ў ізюбра-важака кароніста-разгатыя, на пяць вілакоў — трывалыя, моцныя, такія, што калі ўпіраўся імі ў маладую асінку, дык лёгка ламаў яе ў камлі. Сакавітая асінавая кара, прамёрзлая, хрупасткая, была наўздзіў смачная ў завірушныя дні. Аднойчы ізюбраня таксама паспрабавала зламаць асінку — раз варсанула кволымі рожкамі ў дрэўца, другі... Разахвоцілася — і з разбегу так дзюбнулася лобам, ажно ў міжрожжы

запалымнела, агнём запякло — да няўцерпу. Пасля як ні матляла галавой, як ні совала рожкі ў снег, а боль не сунімаўся. Запрыкмеціўшы няладнае, ізюбр-важак у момант падбег і сваім сцюдзёна-шархоткім языком пяшчотна, як некалі маці, лізнуў яго ў лоб — зняў боль адразу.

## *4*

Наш першы па-сапраўднаму працоўны, а дакладней — штурмавы тыдзень у разгары...

Сінёў назнарок падабраў такі аб'ект, дзе па плану пункты нівеліроўкі прадугледжаны трохвугольнікам, так званым рэперным кустом, які, зрэшты, тым і зручны, што ўсе тры звёны знаходзяцца непадалёк адно ад другога, літаральна за некалькі метраў, і ўсе мы, навічкі, навідавоку: няўдалы рух любога з нас, нязграбны, залішне паспешлівы ўзмах ломам ці сякерай — усё прыкмеціць, нічога не праміне пільны на вока Сінёў, а не — Кружлік. Дый, трэба сказаць, Вуцёха таксама ўсякую маю няўпраўку — і не толькі маю — тут жа заўважае: чалавек ён уніклівы, кемны, прафесію геадэзіста-будаўніка асвоіў, бадай, на пяцёрку.

Папраўдзе, ніколі яшчэ ў сваім жыцці мне не даводзілася так высільвацца фізічна — штодня шчыруем амаль без перадыху, зацята, люта, з няшчаднасцю да сябе...

І ўсё ж — нам не пашанцавала, усім тром звёнам: прыкладна на трохметровай глыбіні з'явілася вада, хоць па разліках Кружліка, нашага аса-рэкагнасціроўшчыка, вады тут не павінна быць. Памыліўся Кружлік. Што ж, і такое бывае, усяго прадугледзець немагчыма, а тым больш разлічыць. Прыйдзецца пакінуць гэтую ўтульную лугавіну, сонечную і зацішную, і перамясціцца крыху далей на поўдзень, кіламетры за тры,— там, здаецца, узвышак. Карацей, заўтра досвіткам Кружлік падбярэ новае месца для размяшчэння рэпернага куста, а зараз... Зараз мне ні пра што не хочацца думаць — усё гудзе ўсярэдзіне, усяго мяне ломіць, а пальцы рук дык і зусім не магу выпрастаць. Навярэджаныя, ненатуральна растапы-

раныя, яны самі, міжвольна, гнуцца ў нязграбныя кручкі — і хоць што ты ім рабі, не слухаюць ані. Галоўнае ж, ніяк не зняць з іх напружанасці: здаецца, што ў руках лом і ты па-ранейшаму, як і ўдзень, бесперастанку дубасіш непадатна-закаржэлы — камень на камені — мёрзлы грунт. А між тым усе мы даўно ўжо ў спальніках, спачываем... Калі ўчора, нарабіўшыся, амаль ніякай стомы не адчувалі, адно, як і ў першы дзень, непрывычна ўзбуджаныя былі і, пэўна, [redacted] гэтай прычыны не маглі доўга супакоіцца, аціхнуць (баялі адзін аднаму ўсялякія былі-небыліцы, смяяліся), дык сёння, кладучыся спаць, ніводзін нават і словам не абмовіўся. Аж не верыцца: ляжым акурат адлупцаваныя ці ўшчэнт хворыя — і знаку не засталося ад учарашняга шалу. Фізічная праца, як я ўпэўніўся, нам тут не ў страх — гэта, уласна, тое, да чаго кожны імкнуўся і чаго нарэшце дасяг. Але гэтага, выходзіць, мала. Апрача ўсяго ёсць яшчэ і псіхалагічныя нагрузкі. Наша сённяшняя няўдача — адна з іх.

Цішыня ў палатках. Але наўрад каб хто спаў. Хаця Вуцёха — гэты, безумоўна, спіць, дыхае цяжка, [redacted] нарастаючым хлюпам у носе: як толькі павернецца на спіну — пачне храпці так, што хоць вушы затыкай. Падобна, што і Міхалёў з Корневым таксама спяць. А можа, і не. Можа, якраз кожны самім сабой заняты — ёсць жа, ёсць над чым паламаць галаву, ёсць над чым паразважаць. Міхалёў дыхае роўна і лёгка, а Корнева і зусім не чуваць — яго як і няма тут. Нічым сябе не выдае і Сінёў. Астатнія хлопцы ў другой палатцы.

Не спіцца мне, пакутую ў бяссонні. Трывожыць, не дае спакою неадчэпная думка: дзеля чаго ўся гэтая жыццёвая няпростасць з яе неразважна-напружаным гонам працы?

Але ж — чартаўшчына нейкая, дальбог: як толькі змружу вочы, сцішуся, так і пачынаецца неймавернае — кідаю зямлю, варочаю камянюкі-валуны, крышу іх молатам, а то і проста пнуся, высільваюся і ўсё ніяк не магу падняць валуна, нарэшце пасля некалькіх спроб, канечне ж, дзякуючы маёй упартасці (і гэта не проста прыгожае

слоўца!) усё ж так-сяк падладжваюся — падымаю валун і з рук у рукі перадаю Вуцёху, а ўжо той, наверсе, адкочвае яго як мага далей ад ямы, каб не сарваўся — барані бог! — дый не пляснуўся мне на голаў. Адзін валун, другі — невялікі перадых, а там — зноў апантана дзяўбу пракаветную цвердзь, скаваную адвечным холадам зямлю.

Ляжым упокат: з краю, якраз злева ад увахода ў палатку,— Вуцёха, побач з ім — я, затым — Міхалёў і Корнеў. Сінёў замыкае правы край. Тут жа пры ім і малакаліберная вінтоўка. Яна расчахлёная, патроны — у кішэньцы чахла, цэлы пачак. Вялікага пярэпалаху таежнаму звеῤу з такое зброі не ўчыніш, вядома, і ўсё ж, смалянуўшы зблізку, хоць бы нават і мядзведзю пад лапатку, можна быць упэўненым, што не да напады будзе яму: калі не займе дыхала, не акачурыцца калі — драпане наўцёкі, толькі й быў.

Стралок з Сінёва, як мы пераканаліся, выдатны: за трыццаць крокаў з першага стрэлу збівае з пня пачак запалак. Такое Кружліку не пад сілу, не тое што каму-небудзь з нас. Галоўнае тут — трэніроўка, а яшчэ і востры зрок, здаровыя нервы. Для геадэзіста-таежніка гэта, бадай, першаасноза ўсіх яго поспехаў і ўдач. І не дзіва, за час працы ў экспедыцыі на рахунку ў Сінёва шэсць мядзведзяў. Нямала. Апошнія два трапіліся на мушку не сказаць каб і выпадкова. Недзе за тыдзень да прыходу брыгады ў тое месца, дзе быў нарыхтаваны самы, здавалася б, надзейны лабаз, мядзведзі пастараліся знішчыць яго. Не проста рабіць такія лабазы: у тайзе рэдка дзе можна знайсці пасадачную пляцоўку для верталёта, не кажучы ўжо пра самалёт, часцей даводзіцца скідваць кантэйнеры з гаручым і прадуктамі проста на больш прыкметны арыенцір будучага маршруту. А тут — верталёт прызямліўся, Сінёў як след захаваў прадукты ў пячуру, заваліўшы ўваход гранітнымі сколамі і голлем, і менавіта гэты лабаз быў знішчаны: сухары, супы і кашы касалапыя пакаўталі разам з упакоўкай, адно пагрэбавалі цэлафанавым мяшком; з пяцідзесяці бляшанак тушонкі засталося ўсяго дзве, дый тыя

расплюшчаныя да непазнавальнасці. Дзіва што, ласунак для мядзведзяў трапіўся рэдкі і вельмі смачны. Хаваў яго чалавек. Але памыліўся, выбраў мядзведжую схованьпад час летніх навальніц... Сапраўды, людзі неўзабаве аб'явіліся, прынеслі мядзведзям-ласунам новы неспакой і турботы: смачным — да куржэння ў галаве! — пахам несла ад іх стойбішча. Мядзведзі не ў сілах былі вытрываць неадольнай спакусы і рызыкнулі зноў пазбродаваць...

На сходзе чэрвеньскага дня, духатліва-спякотнага, бязветранага, вяртаючыся з аб'екта, Сінёў, як заўсёды ўважлівы і асцярожны, здалёк угледзеў ля палаткі двух мядзведзяў. Пакуль тыя спрытна, як зладзеі, вытрэсвалі з пашматаных рукзакоў бляшанкі з тушонкай і акуратна, адну за адной, расціскалі ў лапах, старанна вылізваючы іх змесціва, Сінёў падкраўся зусім блізка... Расказваючы пра ўпаляваных ім мядзведзяў, ён з замілаваннем успамінаў свой паляўнічы карабін, які тады быў у яго. Каторы год валяўся карабін на зброевым складзе з пашчапанай ложай, ніхто не браў яго, а спісваць не спісвалі, бо новы яшчэ. Нечым карабін гэты прыглянуўся Сінёву. Узяў, самаручна ложу зрабіў, пафарбаваў бясколерным лакам... І — не мог нарадавацца ім, добры трапіўся, ручыла з ім Сінёву на звера. Аднак ляжыць той карабін недзе на камяністым дне Віцюя, іржавее. Так сталася, што ў час аблажных дажджоў бурлівая плынь перакуліла плыт, на якім Сінёў пераплываў раку. Рукзак, прывязаны да бервяна, ацалеў, а карабін — яго сарвала з пляча...

Не спіцца, аднак, вочы стаўма стаяць. Зрэшты, гэтак, здаецца, і лепей, калі вочы адкрытыя — хоць не вярзецца абы-што, не мірсціцца дзённая сумятня. Цікава, што зараз робіцца ў другой палатцы: хто спіць, а хто вось так, як і я, пакутуе? Падабраліся там, як на падбор, самыя адчайныя курцы. Узяць хоць бы таго ж Кружліка. Ён можа заснуць з цыгарэтай у роце. Уночы заўсёды трымае пад рукамі партсігар і газавую запальніцу. Тут жа, скрай яго лежыва, на кашме, і стрэльба. Яна не зусім новая, нават не спраўная. Стралянь,

праўда, страляе, але толькі з левага ствала — правы курок чамусьці не становіцца на ўзвод. Вуцёха кажа на стрэльбу так: двудулка. Дык вось да гэтай нашай двудулкі няма набояў. На базе не паклапаціліся, а тут з набоямі цяжка, няма ў продажы. Смех, маем толькі тры старых, зараджаных кулямі набояў. Да таго ж набоі гэтыя, мусіць, і непрыгодныя ўжо, латунныя вочкі капсулёў ад даўнасці пакрыліся густой пацінай — асечка можа быць. А між тым, калі Сінёў ездзіў у мясцовае лясніцтва па дазвол на павал лесу для нашых патрэб, пачуў там не вельмі каб прыемную для нас вестку: нядаўна мядзведзь задраў леснікавага каня, і не ўночы, а сярод белага дня. Кажуць, сёлета мядзведзяў тут значна пабольшала, трапляюцца нават шатуны: бамаўцы павялі наступ на тайгу і ўспудзілі звера, і цяпер ён шукае больш спакойнае месца, а заадно і збродуе. У лясніцтве параілі Сінёву займець сабаку, прычым — неадкладна. Так і сказалі: няхай не пародзісты будзе, не чыстакроўная аўчарка ці там лайка сібірская, а проста кундаль які, дварняк звычайны — усё ж супакойней будзе з сабакам, надзейней, бо ўсякі сабака, нават самы латруга з латруг, ваўка і мядзведзя заўсёды чуе здалёк.

Бясспрэчна, сабака нам трэба. Але ж — дзе яго ўзяць, нават таго ж латругу з латруг, які б здалёк чуў ваўка і мядзведзя? Купіць? У каго?.. А мо ўкрасці? Вуцёха, зрэшты, якраз і спадзяецца на такі варыянт (хто ж гэта купляе сабак?), забываючы, аднак, пра тое, што сюды мы прыехалі не на дзень-два і нават не на тыдзень, а пракантуемся, трэба думаць, хутчэй за ўсё да белых мух, прычым калясіць давядзецца па строга вызначаным маршруце, які праходзіць не толькі па тайзе, а і праз вёскі. Што ўжо што, а любы, хто пажадае сустрэцца з намі, асабліва той, каму прымудрымся нечым насаліць, адшукае нас лёгка, нават без дапамогі міліцыі.

Напачатку, калі, прызнацца, нічога не чулі пра здарэнне з лесніковым канём, усе пачувалі сябе даволі бяспечна, размовы пра мядзведзяў успрымалі як займальнае здарэнне ці як проста цікавы выпадак, вядома ж, без ніякіх там

мурашыных прабежак па спіне. У страха вочы вялікія, і мы цяпер стараемся трымаць свае навостраныя сякеры заўсёды напагатове, а ўночы і зусім кладзём іх пад узгалоўе, каб, што-якое, спрасонку не шукаць доўга: мядзведзь, кажуць, горай за чорта, з ім жартаваць рызыкоўна, асабліва з тым, які выракся зімовай спячкі і бадзяжнічае круглы год. Такі валацуга ў любой жывой істоце бачыць сабе спажыву, і таму перш за ўсё трэба бадзяг асцерагацца, бо менавіта яны нападаюць на жывёлу, а пры зручным моманце і на чалавека.

Ёсць яшчэ і мядзведзі-вегетарыянцы. Такіх, канечне ж, большасць. За лета і восень, кормячыся ягадамі, грыбамі і ўсялякай іншай расліннасцю, яны назапашваюць столькі тукаў, што хапае ім на ўсю доўгую зіму. А значыць, не трэба рупіцца на штодзённыя бадзянні — спяць сабе ў берлагах і ў маразы, і ў адлігі. Гэтыя санліўцы і ўлетку не вельмі ахвочыя да сустрэчы з чалавекам. Аднак чаго ў тайзе ні бывае. Мінулым летам у гушчобах Улючыкана нават і такі вось мядзведзь, вегетарыянец, напаў на людзей... Ягаднікі, муж і жонка, выйшлі з балота і, паставіўшы туясы з буякамі на беражок, памыліся і пачалі абедаць. Мядзведзь тым часам падкраўся да іх ззаду, паспіхваў аднаго і другога ў ваду — і давай ягады жэрці...

Што гэта робіцца са мной, няўжо так і не засну сёння?

Але ж і ціхата наўкол, спакой, адно, праўда, на возеры, якое ад нас, можа, метраў за восемсотдзевяцьсот — не больш, звонка, узахап крачуць качкі-крыжанкі ды зрэдзь, мабыць, пры ўзлёце ці пад час сваіх гульняў шумліва ляскочуць па вадзе крыламі.

Кружліка качкі гэтыя проста прыкавалі да сябе, прываражылі. Прызнацца, паляўнічы сверб і мяне ахапіў, не дае спакою. Ды і як можна быць раўнадушным, калі качак так многа зляцелася знекуль на гэта возера? Дзве-тры ўпаляваць — не дужа вялікі ўрон. Галоўнае, што ў нас на тое ёсць афіцыйны дазвол, дзе чорным па беламу ў цыдуле напісана, што «паляваць са збро-

яй дазваляецца толькі ў раёне работ і толькі тым членам экспедыцыі, хто пры сабе мае паляўнічы білет...». Паляўнічых білетаў у нас ні ў кога няма — не падумалі аб іх раней, такіх білетах. Ды Кружліка, праўда, гэта не турбуе.

Качкі на возеры вельмі асцярожныя, блізка да сябе чалавека не падпускаюць, ледзь што — шыюцца ў густы чарот альбо лятуць на суседні вадаём, а то і далей куды. Ужо да чаго Кружлік спрытны-настырны, але якое-небудзь рады ён так і не змог даць, ніводнай качкі не ашукаў, не ўпаляваў. Што ні рабіў — і поўзма краўся, і ў кустах стойваўся — марная трата часу. Два дні мы тут стаім, і ён увесь гэты час толькі й займаўся качкамі. І ўсё марна. Сёння ён спыніў свае памкненні, сахвоціўся. Я не прамінуў пажартаваць: маўляў, качкі хітрэйшыя за Кружліка. Хлопцы — у рогат. Кружлік якраз быў непадалёку і ўсё чуў. Падышоў да мяне і, канечне ж, псіхануў: «А ты сам, разумнік, тозаўку ў рукі — і гайда, прынясі хоць адну, для паказу». Хлопцы зноў у рогат. На гэты раз стрэлы іх здзеку лятуць у мой адрас: «Бокуш качку ўпалюе?.. Ха-ха-а!.. Гы-гы-гы... Слабак ён на качку. Яму перад носам яе пасадзі, дык і то не пацэліць...»

Я, праўда, і словам не абмовіўся, не выдаў свайго намеру не калі-небудзь, а заўтра ж, досвіткам, паспытаць паляўнічае шчасце. І зусім не скрадам, як Кружлік, і нават без тозаўкі — ёсць у мяне свая прыдумка на гэты конт, хоць, праўда, і клопатная. Вуцёха захапіў з дому ўсе свае сем шнуроў з капронавымі — колеру вады — адшнуркамі. Гэта самыя звычайныя вуды-закіданкі, але я замест грузілаў на кожны адшнурак прыладкаваў непадалёк ад кручкоў паплаўкі — шчэпінкі з сасновай кары. Прынады пастараўсяназапасіць самай рознай: і чарвей-дажджавікоў, і жучкоў-ручайнікаў, і слімакоў, і малюскаў розных — качыны далікатэс...

Ага ж! Не толькі мне аднаму не спіцца: Шчыгол з Гардуноўскім маўчалі-маўчалі — і во, пачалі і яны зюкаць міжсобку. Спачатку шэптам, а тады і ўголас. Рэй вядзе Гардуноўскі, расказвае пра Карпаты, пра гарадок Міжгор'е, што раскі-

нуўся па ўзбярэжжы ракі Бык, нра возера Сінягір. Іх палатка ўсутыч з нашай, і мне ўсё добра чуваць. Яны там удвух — Кружлік з Шумком на рыбалцы. Зрэшты, паехалі некуды ў свет, ажно на прыбаргузінскія азёры, а ўсё таму, што ім здаецца, нібы ў гэтых, суседніх з намі азёрах рыбы няма. Заўчора Корнеў з Шумком ноч прабоўталіся, злавілі трох акунёў і васьмісотграмовага шчупака, ды яшчэ нейкім цудам андатра трапілася ў сетку, захлынулася. Гэты раз Корнеў ужо не паехаў — за дзень ён дай бог як «нарыбаліўся» з ломікам ды рыдлёўкай у яме... Увогуле, ніхто нікога ехаць на рыбалку не прымушае: заманулася — рыбальце. Шумок з Кружлікам, канечне, выгуляліся за дзень, выспаліся ў ахвоту, то ім і на рыбалку не грэх з'ездзіць. Рыбалка — рыбалкай. Але ж і пасёлак блізка, леспрамгасаўскі. Увечары там штовечар дэманструецца проста ў парку кіно... Сінёў і нам не забараняеісці вечарам у пасёлак, але ж назаўтра ў нас на адпачынак часу не будзе. З намі ўгавор цвёрды: хто б дзе ні быў, куды б хто ні дапяў уночы, хай п'яны ён ці цвярозы, а ўранку каб роўна ў восем нуль-нуль быў на сваім рабочым месцы. Роўна ў восем. І каб не соўгаўся пасля, як сонная курыца, па аб'екце, а працаваў на поўную сілу. Карацей, ніякіх паблажак.

Чую, Шчыгол рагоча нечага, пасля ў сумненні выгуквае:

— Не можа быць, не веру!

— Можа! — пярэчыць яму Гардуноўскі.— І ўяві сабе, яно не толькі глыбокае, а такое ж, як і Байкал, сцюдзёнае... Улетку нават сцюдзянейшае за Байкал.

— Брэшаш,— стаіць на сваім Шчыгол.— Байкал увесь свет ведае, а Сінягіра твайго нябось і на картах няма, мусіць... На турысцкай афішцы намалявалі, а ўсур'ёз каб — і няма... Любіш ты, Пятро, выхваляцца.

— Кажу праўду!..— запэўнівае Гардуноўскі.— Пра Сінягір нават песня ёсць.

— Песня? — Шчыгол здзіўлены, але ўсё роўна не перастае даймаць Гардуноўскага.— Чаму ж я, аматар эстрады, не чуў гэтай тваёй песні?..

Я прыўзняў кашму, адгарнуў край палаткі — зрабіў дзірку, і нізавы ветрык дыхнуў мне росным халадком у твар. Хацеў пацвердзіць довады Гардуноўскага, што, маўляў, так, песня пра Сінягір сапраўды ёсць, і не благая песня, але стрымаўся — ну іх, няхай балабоняць, а я тым часам на возера схаджу. Ціха, у кулак, пракашляўся і хацеў ужо ўставаць, як пачуў:

— Лёха, Лёха!.. Не спіш? — голас Шчыгла, прыглушаны, узбадзёраны.

— А што? — ціха азваўся я, знерухомеў.

— Не лянуешся, то подзь да нас на хвілінку,— гэта ўжо Гардуноўскі сказаў.

— І часнаку захапі галоўку,— дадае Шчыгол шэптам.

— Калі завуць — ідзі, не адмаўляйся,— раіць мне Сінёў (ну во, шэф, выходзіць, таксама не спіць).

— Сцяпаныч,— голас Шчыгла жвавейшы стаў, галаснейшы і больш выразны,— у нас тут нештачка ёсць...

— Колькі градусаў ваша нештачка? — Сінёў асвяціў ліхтарыкам запясце левай рукі, дзе быў гадзіннік, здзівіўся: — Скора поўнач, а вам, хлопцы, не спіцца... Мяне пабудзілі.

— Не спіцца, Сцяпаныч, таму што нештачка наша не ў градусах, а ў працэнтах,— зноў голас Шчыгла.— У сарака, гы-гы-гы...

— Калі ў сарака-а, то чакайце гасцей,— і ён тут жа зазбіраўся на выхад: куфайку — наапашкі, боты — басанож... Пасвяціў ліхтарыкам у мой бок, здзівіўся: — Чаго не варушышся, Бокуш? Не ўпірайся, хадзем, калі запрашаюць,— і зноў да Шчыгла і Гардуноўскага: — Архараўцы, хоць грамаў па сто вымеркуеце нам?

— Бокушу і больш можам, а вам роўна сто, і не больш, цюцелька ў цюцельку, бо начальства не спойваем,— жартам басіў Шчыгол.— Паспяшайцеся, чакаць не будзем, кульнём самі — і ў адключку.

— Чуеш, Бокуш? — Сінёў стаяў перад выхадам з палаткі, крысо дзвярнога полага трымаў у руцэ. Хітнуў галавой, пасвяціў у кут, дзе спаў Вуцёха, сказаў: — Трэба во з іх прыклад браць, з

гэтай тройцы нашай... Бачыш, спяць. А ўсё таму, што стограмоўкай знялі дзённую стому. І мы, значыць, кульнём троха,— казаў так, але я не разумеў, ухваляе ён хлопцаў за стограмоўку ці асуджае, насміхаецца,— выключыў ліхтарык, праясніў свой пункт гледжання: — Лічы, надарыўся, можна сказаць, якраз такі выпадак, калі гарэлка не шкодзіць...— захапіў уцірку і падаўся вонкі.

Я так-сяк, похапкам, «аблачыўся» ў трэнінг, уссунуў на ногі кеды, стаў зашнуроўваць. Чую, Сінёў бразгае шпяньком умывальніка, ціха, асцярожна. Ага, значыць, і ён лёг не памыўшыся. Збаяўся таксама шэршняў (калі абсталёўвалі табар, я незнарок прыбіў умывальнік да сухой вярбы, вяршаліна якой была ўся ў дуплах, і ў адным з іх — сям'я шэршняў). Па вечару шэршні так былі ўзбунтаваліся, што нікому з нас не далі памыцца як след. І вось Сінёў рашыў цяпер, поначы мыцца. Не шкодзіла б і мне апаласнуць твар, ды я ўсё ж абмінуў умывальнік, палатку суседзяў — таксама...

Падышоў да возера — ціха наўкол. Цішыня, праўда, адносная. У жывой прыродзе цішыні як такой няма. А для мяне — цішыня, бо не чую ваяўнічага шуму машын, як у горадзе, залівістага гуду тралейбусаў ды скрогату трамвайных колаў.

Цішыня, так. Качкі, пэўна ж, пазашываліся ў чарот і не азываюцца, чуваць ім мяне добра, а можа, і бачаць нават.

Ночы на пачатку лета тут, як відаць, не надта цёмныя, асабліва апошнім часам, гэты тыдзень: месячык не сыходзіць з неба. Тубыльцы кажуць: вясёлыя ночы. І сапраўды, мабыць, вясёлыя, бо нездарма ж не спіцца — грэх спаць такой ноччу, вясёлай, сама што заблудзіцца з дзяўчынай дзе-небудзь на ўзрэччы...

Раскідаў шнуры паўз чарот, канцы іх папрывязваў да лазіны, сцішыўся і яшчэ нейкі час заставаўся на возеры, стаяў і слухаў. І ўспамінаў такія вось ночы, светлыя, вясёлыя — тады наўздзіў шчаслівыя для мяне, мае наіўна-юначыя ночы... Было каханне — і няма, сплыло некуды ўніз па рацэ, як і маладыя гады, вада змыла нашы — яе

і мае — сляды на шырокім плёсе Сажа, два бясконца доўгіх ланцужкі, меншы і большы, з якіх адзін раптам, меншы, рэзка аддаліўся ўбок, пакіраваў наўпрост па жаўцяку-пяску, згубіўся ў прырэчных травах. Не было кахання, не было яе? Яна — была. А зараз я — адзін. Пакуль яшчэ адзін... А мо ўжо другая, сапраўдная ЯНА, прыйшла да мяне, ды я проста не ведаю гэтага, не ведаю, хто гэтая ЯНА?.. Думкі міжволі скіраваліся на Дуню.

Якраз, калі я ўжо хацеў вяртацца назад, да палатак, учуў ля вады ў ракітніку нейкага звера. Падобна, капытны — усё роўна як лось, а можа, нават алень ці ізюбр, бо калі ён адольваў абрывісты ярок з камяністым дном, дык выразна чуўся сцішана-шархоткі постук капытоў. Як я ні прыглядаўся, але ўбачыць звера мне не ўдалося, бо ўсё прыбярэжжа было ахутана густым, расплывіста-цьмяным туманом, мройна-бялёсым, акурат як бы гэта было на недапраяўленым негатыве, адно калматыя шапкі кустоў выразна шарэлі на фоне азоранага неба.

Сінёў ужо засынаў, калі я вярнуўся з возера. Сказаў яму пра звера, а ў яго — ну ні грана паляўнічага азарту, ніякай зацікаўленасці. Ажно не верыцца, што ён, такі заўзяты паляўнічы, і раптам абыякавы да майго паведамлення. Сам жа, помніцца, гаварыў, што ўсяго ў тайзе будзе неўпаед: і рыбы, і мяса, і ўсялякай ядомай расліннасці, але ж калі гэта ўсё нам здабываць? Расліннасці яшчэ няма, так. А таго ж лася ці ізюбра-марала можна ўпаляваць нават з тозаўкай, калі пастарацца. Вуцёха вунь мясарубку з дому прыхапіў, возіць у рукзаку, не траціць надзеі ўволю, як ён кажа, ад пуза нажэрціся катлетаў уласнай гатоўкі. Якраз ён і дзяжурыць на кухні, сама што вызначыцца б яму...

Зрэшты, маё дзяжурства прайшло без прыгод — націскаў у асноўным на бульбу з тушонкай, і нараканняў, дзякуй богу, не было. Усе засталіся мною як кухарам задаволеныя. Вуцёха больш захапляецца кашамі, нават умее прыгатаўляць падліву — жанаты, сказана, чалавек, кулінарную справу ведае.

Шчыгол з Гардуноўскім усё яшчэ не спалі — у іх палатцы напоўніцу чадзіць ліхтар «Лятучая мыш». І чым толькі яны там, совы начныя, займаюцца? Зазірнуў — гуляюць у карты і ўжо не ўголас перамаўляюцца, а шэптам ды кіўкамі. Гуляюць на грошы, і цяпер ужо ім, трэба спадзявацца, няпроста будзе ўгаманіцца, а тым больш заснуць. Клюкнулі троху, абое на ўздыме.

— Лёха, дзе ты лынды б'еш? — не адрываючы вачэй ад картаў, спытаў Шчыгол.

— На возеры быў.

— Дык што? Заўтра ў нас свежына будзе? — Гардуноўскі адразу здагадаўся, чаго я хадзіў да возера.— Без лодкі шнуры закінуў?

— Без лодкі.

— Твая порцыя ў конаўцы там, на чамадане,— Шчыгол паказаў на Кружлікаў чамадан, засланы газетай, з пустой бутэлькай з-пад «Экстры» на ім, з конаўкамі, з успоранай кансервай тушонкі і ладным акрайцам хлеба. Я звярнуў увагу на этыкетку — кіеўская гарэлка. Гэта мяне здзівіла: які ўсё ж беражлівец Гардуноўскі, мне ў гэтым не радня.— Выпівай,— зіркнуў на мяне Шчыгол.— А можа, грошы маеш, то падсаджвайся, гы-гы-гы... Да капейкі аблапошу,— весела да Гардуноўскага: — Я — так б'ю, а ты?.. Ага, храпеш — то-та ж! І так, мілейшы, нехта з нас банкуе, а нехта глядзіць, як свінні боб цягаюць,— адрываецца на хвілю ад картаў.— Кажу табе, Лёха, храп — самая культурная і ціхая гульня, інтэлігенцкая. Вучыся, запамінай. Кадзіла казаў, што любы таежнік, нават самы зачуханы, павінен умець гуляць у храп.

— Храп?..— я ніколі нават і не чуў пра такую гульню, то навошта ж мне цяпер вучыцца — не карцёжнік я і ўжо не стану ім.— Як-небудзь пражыву і без картаў, без храпа.

— Гаворыш так, бо не знаеш, што гэта такое, храп.— Шчыгол на кані, вясёлы.— З віду хлопец ты ніштаваты, акультураны троху... Але ж праз год-два і ты станеш экстра-бічом, як Кадзіла, скажам. Кадзіла ж, знаеш, таленавіцейшы мастак, а толькі зглуміў свой талент заніпто... У-у, я адзін вечар пасядзеў з ім — страшны чалавек, чарніль-

шчык закончаны, ілье як не ў сябе. Дык вось, спакон веку ўсе інтэлігенты гулялі ў карты. Вінт, кінг, тысяча, храп... А чаму ты ігнаруеш карты? Знаю чаму: проста ты нядаўні вясковец, хуткаспечаны інтэлігент, бульбаш, гы-гы-гы...

— Дзякуй, Саня, за лекцыю,— кажу я Шчыглу.— Храп... Вуцёха вунь па-сапраўднаму рэжа ў храп, на ўсю палатку — ад возера чуваць, а вы тут маўчочкам, бы зладзеі...

— От гэта правільна, ён і ёсць злодзей,— Гардуноўскі кіўнуў на Шчыгла.— Яго ніяк больш і не назавеш — злодзей самы беспардонны. Шэсць рублёў было ў мяне, бярог, дык ён і іх ужо хапянуў. Гарэлку выйграў, грошы выйграў... Абшкурыў як ліпку,— прыслухаўся, уцяў голаў у плечы.— Ого-о!.. І праўда, Вуцёха ва ўсе дзіркі трубіць. Храпун ён, канечне, класны. Лежачы побач з ім, наўрад ці можна заснуць,— і параіў мне: — Да нас пераходзь, бо жыцця там няма, калі спаць не даюць.

— Пятро праўду кажа — перабірайся, месца тут, бачыш, хапае. У храп за адну ноч навучу, як во яго,— Шчыгол хлэпнуў Гардуноўскага па плячы, не без іроніі спытаў: — Думаў, значыць, што задарма вучу? Не-е, дарагуля, за так і скулка не сядзе — пачосу просіць. Грошы прадуў? Правільна. Храп — гульня з верталётам. А верталёт, сам знаеш, яшчэ як грошы любіць. Спытай-ка ў шэфа, навошта яму чэкавая кніжка. Не з намі ж разлічвацца чэкамі будзе, а з верталётчыкамі.— Ён яўна ўсцешаны гульнёй, Шчыгол.— Не бядуй, Пятро, сёння прайграў, заўтра — выйграеш. Не ў мяне, дык у яго во, у Лёхі, гы-гы-гы...

— Не ўжо, са мной нікому з вас не аблапіцца згуляць,— сказаў я назнарок весела, усё яшчэ трымаючы ў руцэ конаўку з гарэлкай. Адчуваю, што не вельмі прагну да спіртнога. Ат, не хочацца, то і не буду — самі няхай тут дапіваюць. Паставіў конаўку на чамадан і, сказаўшы «дабранач», пакінуў палатку.

Прачнуўся я не сказаць каб і рана — недзе а сёмай гадзіне. Магчыма, і даўжэй бы спаў, каб не сненні... Нейкі дзіўна-недарэчны сон сплёўся: нібыта злавіў ліса, а ён, хітрун, прыкінуўся нежы-

вым — назнарок прыкінуўся, каб я заспакоіўся і адвярнуўся, даў магчымасць яму ўцячы. Няма дурных — я прынёс звярыну ў табар, навязаў на шворку і пусціў да ліса гадзюку. Адкуль яна ўзялася, гадзюка, не помню ўжо. Ліс, ахоплены страхам, стаў нерваваццa, кідацца па крузе. Нарэшце перацёр шворку і ўцёк. А раз'юшаная гадзюка давай ганяцца за мной: куды я — туды і яна. Я ў палатку — і яна следам. Прачнуўся ў халодным поце. Дыханне ўзрушанае, сэрца ледзь не вырвецца з грудзей — бы ў загнанага. Нарэшце пачуў патрэскванне сучкоў на нашым бівачным вогнішчы. Усхапіўся, а ў палатцы толькі я адзін. Ну во — праспаў, не схадзіў на возера. Як жа там шнуры?

Кумільгам выхапіўся з палаткі, і выгляд мой быў, напэўна, як у першакласніка, які спазніўся на ўрок. Сінёў стаяў ля вогнішча і пазіраў на мяне так, нібы ён мой бацька, а я — самы лепшы сын яго, любімец. У паглядзе Сінёва, мне падалося, апрача ласкі было яшчэ і нейкае паблажлівае супакаенне. Якраз ён і пацвердзіў гэта словамі:

— Не перажывай — усё ў норме... Качкі варацца.

Мне, прызнацца, было сорамна за тое, што ўсё самае цікавае праспаў. Але ж, напэўна, будзілі, ды я не чуў. Хаця — не, Сінёў, відаць, назнарок не зачапіў мяне. Можа, якраз і хлопцам наказаў не шумець. Ён — усё можа. Ён тут гаспадар.

— Пабудзілі б...— сказаў я вінавата.

— Не было патрэбы,— Сінёў пасміхнуўся і ледзь прыкметна падміргнуў мне.— Галоўнае ты зрабіў? Зрабіў. Нават і больш. А я памог толькі,— кіўнуў у бок цяпельца: — Дзве клюнулі... Але затое дабрэнныя вуці, мацёрыя — амаль гускі.— У голасе яго адчувалася несхаваная добразычлівасць.— Давялося, праўда, скупнуцца, вада халодная — лёд. А тут, чую, і рыбакі вярнуліся. Каб раней, то і не лез бы ў ваду, на лодцы ўправіўся б,— ён паказаў на кусты глогу, на якіх былі развешаны рыбалоўная сетка і Шумкоў камбінезон, увесь мокры.— Сетка мокрая, а рыбы не відаць. Мабыць, усё гэта маскарад, па дарозе дзеля

блізіру ў азярцы памачылі, а самі не рыбу лавілі, а ў леспрамгасе на танцах былі... Яны могуць, гэтыя штукары.

За сталом, тым, што быў паблізу ад цяпельца, сядзелі ўчацвярых: Шчыгол, Гардуноўскі, Корнеў і Міхалёў. Яны чакалі сняданак. Пасміхаліся, час ад часу зіркаючы на Сінёва, але гаварыць нічога не гаварылі. І я зразумеў, што нехта з іх нечым такі правініўся перад Сінёвым, але не стаў выведваць — пачаў па просьбе Вуцёхі, кухара, заварваць чай, бо якраз закіпела вада. Сам Вуцёха завіхаўся ля кухоннага стала — крышыў цыбулю. Ён назнарок пацешна паводзіў носам у бок эмаліраванага вядра, што вісела на даволі моцным бярозавым казялку — якраз над самым агнём. Я падышоў да стала, узяў мяшэчак з цукрам.

Вуцёха:

— От так і дзейнічай, Лёха: сказаў — зрабіў!

Шчыгол:

— Мішка, ты не ўлічваеш аднаго, што на пусты курсак усякія там парады шкодзяць. Не сам я гэта выдумаў — жонка мая так лічыць, медычка.— І да мяне: — Сядай побач са мной, я цябе сёння люблю. А Мішка зараз нам — мне і табе — па левай качынай ножцы ўдружыць.

— Абавязкова па левай? — перапытаў Вуцёха.— Што за густы?

— Французы лічаць, што левая ножка тлусцейшая за правую.

— А ты хоць мыўся? — Вуцёха здаволена пасміхаецца.— Ідзі, капач, памыйся, шэршні супакоіліся ўжо.

— О не-е, сёння я не мыток,— Шчыгол скасавурана зірнуў на вярбу з шэршнямі.— Што, не ўдалося ўзбунтаваць іх самому, то хочаш, каб я за гэта зрабіў? — узлокціўся на плячо Міхалёва, зірнуў у каструлю з адваранай бульбай — Вуцёха толькі што паставіў каструлю на сярэдзіну стала,— патаптаўся і... сеў на той самы раскладны зэдлік, на які прапаноўваў Шчыгол сесці мне, з ім побач. Міша сеў — і проста класічна задраў ногі ўгору, валячыся на спіну. Па́даючы, ён зачапіў кірзачом за ножку стала і выбіў яе з гнязда. Ка-

струля, як з пакатай горкі, слізнула ўніз. Ужо ля зямлі я перахапіў яе — сам не ведаю, як і ўправіўся.

Фокус Шчыгла ўдаўся: шво на брызенце, што ўтрымліваў размах ножак, было распоранае, але брызент так-сяк падвярнулі, чуць прыхапіўшы ніткай, і Вуцёха, дарма што і ведаў пра гэту няспраўнасць, не заўважыў яе.

Шчыгол, чырванеючы ў твары, знарочліва гучна, нават ужо і залішне гучна, рагатаў, усякі раз пры выдыху цепаючы плячыма і неяк вантробна, па-аслінаму, ікаючы. Корнеў таксама душыўся ад смеху, праўда, ціха, стрымліваючыся, прыкрываючы рукой не толькі мясіста-вільготныя, шырокія губы, але і чуць раздвоеную дзюбку свайго сплюшчана-вузкага і нейкага з гэтай прычыны грубаватага носа, з добра прыкметнай гарбінкай адразу ж пад міжброўем і ўсё роўна як склеенымі, амаль незаўважнымі парэпінамі ноздраў.

— Ты, гіцаль, падстроіў?!.— не прыняў жарту Вуцёха.— Зна-аю, толькі цябе чэрці дрэнчаць, няўседня бярэ,— яго бялкастыя вочы аж слязіліся ад гневу, праціналі Шчыгла.

— Ціха, Міша, не бунтуй... Гэта табе не вэнджаны омуль, а ўсяго толькі жарт,— Шчыгол неўпрыкмет перамяніўся — нібы зусім і не ён толькі што рагатаў, не ён чырванеў і скалынаўся ад смеху.— Дапусцім, я падстроіў. Дапусцім. І што з гэтага?.. Не любіш ты, калі з цябе смяюцца, а сам жа майстар на ўсякія штукі,— неадрыўнапільны пагляд яго шэрых вачэй спыніўся недзе на падбародку Вуцёхі. Ідыёцкая звычка ў яго: размаўляючы, абавязкова будзе свідраваць цябе сваім пранізлівым позіркам — унурыць яго ніжэй барады, і зразумей, што ён вышуквае на шыі, што задумаў? — Узвінціш калі-небудзь во так — і, не тут кажучы, вырву я гэту фіксу тваю, пабачыш.

Ці то пагляд яго, ці гэтая пагроза, а мо што іншае нават, больш важнейшае, падзейнічала — Вуцёха, ссутулены, прыціхлы, пахіла пабрыў у палатку. Заўсёды абачлівы, лёгкі да ўсякіх свавольстваў, гэты раз ён яўна разгубіўся — апраставалосіўся, як сказаў бы сам жа.

Сінёў не хаваў перад намі свайго апякунства

над Вуцёхам: ледзь што-якое — тут жа ўступаўся за яго, не даваў у крыўду. Цікава, як зараз паставіцца да гэтага, можа, трохі і недарэчнага, але зусім бяскрыўднага жарту? Зараз ён можа так усё павярнуць, што не да смеху стане: чаго добрага, Шчыглу давядзецца кленчыць перад Вуцёхам, прабачэння прасіць. А што, дзеля Вуцёхі, самага надзейнага, самага вопытнага работніка, дзеля яго выгод і настрою цяпер, у самы ўзлёт работы, Сінёў можа ўчыніць разгон куды страшнейшы, чым шэршні. Аднак ён стрымаўся — і дзякуй богу.

Кемлівы, умудроны вопытам, прыдбаным якраз з такога вось, як наша цяпер, вандроўна-таежнага жыцця, кожны сезон сутыкаючыся з самымі рознымі характарамі сваіх падначаленых, пазнаючы іх, Сінёў, канечне ж, без асаблівых цяжкасцяў падцікоўваў у надыходзячым канфлікце менавіта той момант, калі яго, Сінёва, умяшанне як мага дарэчы. І цяпер, седзячы ў баку ад усіх на складным зэдліку, дымячы цыгарэткай «Прыма», і, здавалася, глыбока задуманы, ён раптам падняўся, рашуча кінуў недакурак і стаў расціраць яго ботам, час ад часу зіркаючы на Шчыгла.

А яму, Шчыглу, пальца ў рот не кладзі — адкусіць, маху не дасць: прыкмеціў у паводзінах шэфа перамену і тут жа нечага замітусіўся, як заяц, вакол паваленага стала, заабураўся на Вуцёху:

— Збег, схаваўся ў палатку... Хохам знайшоўся — прывык, каб за яго другія рабілі,— аднак мусіў сам брацца ўстаўляць ножку ў гняздо, яму тут жа кінуўся памагаць Корнеў. Удвух яны хутка замацавалі ножку і вярнуліся на свае ранейшыя месцы. Шчыгол у дадатак хітнуў галавой і сказаў: — Вуцёха наш да па́ры Мішку Касалапаму — стол раскідаў і збег...

— Канчай казырыцца!.. — не стрымаўся-такі Сінёў, прыструніў Шчыгла — надзейны ў Вуцёхі заступнік.

І Вуцёха, нібы чакаў гэтых слоў, выйшаў з палаткі. Думалі, бядуе, слёзы буйныя лье, а ён — вясёлы, усміхаецца нават. І добра, калі так. Але ж

і хітрун ён, Вуцёха: пераканаўся, што Сінёў паранейшаму гарой за яго стаіць — і супакоіўся. Акурат з вывіхам чалавек, капрыза. Трэба сказаць, гэтыя яго дзеўчанячыя вымудры пачынаюць ужо таго-сяго з нас, а мяне асабліва, раздражняць. Што ж атрымліваецца? Яму не пярэч, яму дагаджай — і ён будзе паважаць цябе. Проста ўсё, ніякіх глыбіняў,— на паверхні ляжыць, галяком, і сам ён, і яго філасофія. Чыста ўласніцкія прынцыпы: не пярэч — і ён да цябе ўсёй душой, ён табе ўсё раскажа і пакажа. Адно не пярэч, прызнай за ім першынство і, крый жа бог, не ўздумай зацьміць яго ў вачах Сінёва... Як ёсць натура ўласніка. І хоць Міша (нешта спачувальна-паблажлівае ёсць у гэтым «Міша» — нездарма і завём яго так) зараз усміхнецца, толькі ж у звілінах яго практычных мазгоў, думаю, цепліцца такая супярэчлівая спадзеўка: «Шантрапа вы ўсе, слабакі!.. Кароль становішча тут — я: як захачу, так усё і павярну, усё ў брыгадзе па-мойму будзе!»

Неяк Вуцёха сказаў мне, што павагу Сінёва заслужыў стараннай працай і што Сінёў слухае яго, бо ўсе парады ён дае заўсёды ў час і да месца, практычныя. Ды яшчэ, помніцца, адпусціў кепік у адрас Шчыгла, сказаў, што збяжыць гэты пазёр ад нас, не вытрымае, маўляў, фізічнай нагрузкі. А не збяжыць сам — Сінёў пратурыць, адно з двух. Але я ўпэўнены, што нічым не горшы Шчыгол за Вуцёху, нічым. І, канечне ж, нікуды Шчыгол ад нас не збяжыць. І чаго бегчы? Пакуль што нічога мудрагелістага ў нашай рабоце няма. Усё нам па сіле, усё даступна. Нават пачынаем патроху павышаць прадукцыйнасць працы, пільнуемся тэхнікі бяспекі.

Так, апрача ўважлівасці,— гэта, бадай, адзіная засцярога ад няшчасных выпадкаў,— мы павінны яшчэ быць спрытныя і ўвішныя. Нялёгка дзяўбці мёрзлы грунт, спрасаваны мільёнамі стагоддзяў, нязручна з шуфлем у вузкай яме — не павярнуцца ў размаху, дарма што амаль напалову цаўё ўкарочана. А пра камянюкі дык і ўспамінаць страшна — ад іх, дальбог, ажно падчарэўе трашчыць. З боем даецца кожны метр. Затое — і смех, і грэх, і пацеха — ніякіх складанасцяў,

ніякіх там штучак-driver з інжынернага боку. Проста ўсё, першабытна. Адно калі з ямы пагля-дзіш на неба, дык вясёлкі на бровах гарацы на ўсе сем колераў — знак доблесці нашай на ўзроўні сёмага поту!

Міхалёў з Гардуноўскім — гэтыя два зухі, дарма што маладыя-зялёныя, а ўсё ж нейк падладжваюцца так рабіць, што кожнага разу нас абстаўляюць, першымі заканчваюць свой аб'ект вось ужо каторы раз. Затым, пабраўшы прылады працы, ідуць да Шчыгла і Корнева — ім памагаюць. Сінёў, канечне, улічвае іх энтузіязм, ацэньвае норму выпрацоўкі акуратна, нават з працэнтамі нейкімі ў іх карысць, плюсавымі,— і хлопцаў гэта задавальняе, радуе, натхняе. На пабудове перадапошняга рэпера прагонку ствала яны правялі ўсяго за адзін дзень, а на другі, па абедзе, закруглілі ўсе астатнія работы. Гэта ўжо нешта небывалае. Энтузіясты, ударнікі!

Сёння, праўда, не ладзіцца ў іх. Вырываемся наперад мы. Вуцёха ціха радуецца: яго метода дае аб сабе знаць — ціха едзеш, далей будзеш. Сценкі нашай ямы роўненькія, нават гладкія. Здавалася б, і мацаваць не трэба. Да таго ж грунт даволі вязкі, гліністы. Двойчы, праўда, траплялася пласты жвіру-плывуну, і мы тут жа, пакуль яшчэ жвір сыры, не высах, мацавалі сценкі дошкамі з рубероідавымі пракладкамі. На танку едзь — не абваліцца такая яма. Увогуле, Вуцёха ні мне, ні тым больш сабе паблажкі не дае — робіць усё як след, капітальна. Ён, зрэшты, разумее, што менавіта па гэтай прычыне мы не ў перадавіках, не-не ды загаворвае пра тое, што, маўляў, да яго работы любы інспектар не прычэпіцца, нават сам Каралькоў, галоўны інжынер, а нашы хуткаспечаныя перадавікі абганяюць таму, бо дрэнна мацуюць ямы, не па інструкцыі. Вуцёха, канечне ж, мае рацыю. І праўда, рэперы нашы ўсе, як адзін, паказальныя, Сінёў ганарыцца намі.

Шчыруе Вуцёха, выкладваецца ўвесь. Нават калі мая чарга капаць, дык і то ён амаль праз кожныя пяць мінут зазірае ў яму — каб жа не скрывіў ствол, каб усё па-вуцёхаўску было, надзейна і знешне прыгожа. І ўсё ж апошнім часам

нам нечага дужа шанцуе — каторая ўжо яма запар, а вялікіх камянёў, такіх, з якімі б не ўправіліся самі, не вылузнулі б з адвечнага лона без пабочнай дапамогі, даўно ўжо не сустракаем, чаго, зрэшты, не сказаць пра звёны Міхалёва і Корнева. А сёння і ўвогуле камянюкі хлопцаў проста замардавалі, пайшлі часта, і такія — аднаму не падняць, молатам не разбіць. Крыўдуюць хлопцы на няўдачу. А Міхалёў да ўсяго гэтага яшчэ і дзяжурыць па кухні. Аб'ект іхні пры табары. Дакладней, табар пры аб'екце. І вось, сабраліся ўсе мы на абед, дзівімся, спачуваем, і, здаецца, нікога з нас сілком не загнаў бы ў іхнюю яму: чатыры камяні засталіся ў сценках — ёмкія, тырчаць шпілястымі гузакамі, замінаюць: хоць і замацаваныя, аднак, то й глядзі, што абрынецца каторы з іх уніз...

Сінёў, канечне, больш чым хто непакоіцца, папярэджвае Міхалёва і Гардуноўскага, каб залішне не рызыкавалі, уважлівыя былі, асабліва пасля абеду, бо сценкі сохнуць хутка і — чаго пад час такіх работ не здараецца — могуць не ўтрымаць камянёў, абсунуцца.

Каб не вельмі размахваць шуфлем, кідаючы зямлю з трохметровай глыбіні на выступ, які, трэба сказаць, дзеля гэтага і пакідаецца ў яме, Сінёў прыстасаваў звычайнае вядро, зрабіўшы ў ім усё так, што вочапка не за вушкі-прыпаі зачэплена,— ад цяжару гэтыя вушкі, бывае, абрываюцца,— а за жалезны акантовак. Дно вядра таксама як след умацавана накрыж перахопленымі драцінамі-вусілкамі, канцы якіх закручаны за акантовак.

Увогуле, Сінёў наважыўся для кожнага звяна зрабіць не толькі па такому вядру, а і па калаўроціку, з якім — ён упэўнены — работа пойдзе шпарчэй. Да першай кузні — і ўсё будзе змайстравана. А ў кузню нам абавязкова трэба: ламы, карандашы нашы, прытупіліся ўжо, трэба адцягваць.

Дык вось, калаўроцік. Прыдумак, канечне, не благі: хоць і малая, а ўсё ж такі нейкая механізацыя. Ды Вуцёха супраць, лічыць, што гэта лішні цяжар, калаўроцік. Без вядра, вядома, не абысціся, але ж выкарыстоўваем мы яго, як пра-

віла, пад канец — гэта, калі ўжо зусім немагчыма дастаць шуфлем да выступу. Праўда, маючы калаўроцік, не трэба будзе пакідаць у яме выступ, можна гнаць роўны ствол — шурфам. Але ж тады аднаму ўжо ніяк не ўправіцца, ды і на адпачынак не будзе часу, што якраз і блага. І вось, я таксама не вельмі ўжо га́люся на калаўроцік, хоць напачатку мне здавалася, што калаўроцік — гэта проста здорава, палёгка значная. Толькі ж мы і без калаўроціка прызвычаіліся — напераменку, няспынна шчыруем. Недахоп нашага метаду ў адным — двойчы даводзіцца кідаць адну і тую ж зямлю: адзін раз — на выступ, другі — з выступа наверх, вонкі. Але ж на пуп, вядома, не бярэш, зямля на выступе разрыхленая ўжо: узяў — кінуў, узяў — кінуў; ачысціў выступ — вылазь з ямы і адпачывай, а не — займайся зрубам, і ўсё гэта на сонцы, загараючы. Так працаваць лепей, калі з адпачынкам пачарговым. А з калаўроцікам — не вельмі адпачнеш: толькі паспявай круці ды напаўняй вядро зямлёю.

Сінёў мусіў і на гэты раз пагадзіцца з Вуцёхам, адмовіўся ад калаўроціка. Настойлівасць Вуцёхі яму спадабалася. І вось, абышоўшы аб'екты, ацаніўшы работу кожнага звяна, нас па-ранейшаму пахвальвае: маўляў, ствол вядзём проста выдатна, нідзе ні крывіны, ні камянёў-вісюлек, што і гарантуе ад абвалаў. І ўсё ж нечага ён не такі, як звычайна, чымсьці незадаволены. Ага, лічыць, што на мацаванне ямы зашмат расходуем дошак і асабліва цвікоў, а калі ўведаў, што і рубероіду патрацілі каля шасці метраў на гэту нашу апошнюю, з плывуном што, яму, дык аж нават лаяцца пачаў, запалохаў вылікамі:

— Да рубероіду дабраўся, а?.. Не-е, буду вылічаць, хопіць нянькацца!

Сінёва лёгка зразумець: як і ўсякі беражлівы гаспадар, стараецца эканоміць, таму і забараняе раскошнічаць, хаця Вуцёха як толькі можа ўпіраецца, кажа, што і надалей будзе прытрымлівацца інструкцыі, а гэтае дабро — рубероід ды ўсякія там цвікі-дошкі — не намераны эканоміць, бо хоча яшчэ жыць, дзяцей гадаваць хоча. Сінёў яму не пярэчыць:

— Жыві, гадуй сабе дзяцей, але помні, што беражлівасць — аснова асноў.

— Аснова асноў — чалавек! — запярэчыў Вуцёха.

Перапалкі вялікай не адбылося, канечне.

Сінёў пастаянна вышуквае больш выгодныя эканамічныя варыянты. І цяпер ён прапанаваў, каб замест рубероіду мы выкарыстоўвалі лісты бляхі, якія затым, пры засыпцы ямы, выцягвалі б назад. Слушная прапанова, Вуцёха тут жа ўхваліў: бляха, маўляў, не рубероід, не парвецца. А ўвогуле, залішне мы нічога не транжырым, проста стараемся рабіць усё адмыслова, па інструкцыі, як кажа Вуцёха. Ах, ну дзе той хоць бы і Шмацін? Хай бы прыехаў і паглядзеў — зафатаграфаваў бы хай наш аб'ект!

...А другой палове дня ачысцілі ад смецця і пустых кансерваў стаянку і зняліся — паехалі на новае месца. Але ж і дарожка — залезлі ў гразюку па восі. Давялося напілаваць падваг, паднялі машыну і ўсчалі буціць лясінамі ды голлем вокнішчы каляінаў. Вуцёха, каб далёка не хадзіць, убіўся ў прыдарожны чаромхавы куст з пышна-белым кветам і пачаў ссякаць галіны.

— Ты, кантужаны!..— Шчыгол падбег і даў яму замашнага кухталя.— Гэта ж чаромха.

— А мне ўсё роўна — чаромха ці бярозка,— працадзіў праз зубы Вуцёха, адкінуў сякеру ўбок і пайшоў у наступ на свайго крыўдзіцеля.

Шчыгол напусціў на сябе вінаватую міну, сказаў:

— Ды што ты, Міша?.. Супакойся. Пакрыўдзіў ты мяне, верыш? Я любаваўся гэтым красоццем, а ты да яго — з тапаром... За што? Прырода — не жонка, на другую не заменіш.

Здавалася б, ну і што такога, калі б Вуцёха ссек чаромху? Турысту настырнаму, можа, і выпадзе час палюбавацца яе кветам, а нам — толькі б машыну з гразі вытурзаць, зматаем вуды, і наўрад ці хто патрапіць сюды зноў. Аж не — пакінулі пасля сябе добры след: забуцілі грэблю, а яшчэ — за чаромху ўступіліся... І гэта, бадай, нешта значнейшае, большае за грэблю: не чэрствыя душы ў нас, не!

Праязджаючы вёскай, доўгай і на дзіва раскіданай, спыніліся ля пошты. Сінёў пайшоў званіць Каралькову. Справа ў тым, што мы ўсё яшчэ не ведаем, дзе падзелася наша бензапіла «Дружба». Магчыма, яе ў нас укралі. Хоць бы і той жа Савосін...

Вярнуўся з пошты Сінёў заспакоены, сказаў, што бензапілу мы проста не пагрузілі на «газон».

Кружлік адразу ж паспяшаўся абвінаваціць у гэтым Вуцёху:

— Міша грузіў... От і давер яму што, любімцу вашаму.

— Не каці бочкі на чалавека,— строга сказаў Сінёў.— Усе мы вароны.— І засмучана:— У Дыненкі вунь рабочы заблудзіўся. З маладых — Болат. У арміі снайперам быў, страляе ў дзесятку... Пайшоў з карабінам на паляванне — і каторы ўжо дзень няма. Пошукавая група ўзбілася была на сляды, ды паваліў снег, засыпаў сляды.

Трывожная вестка... Але ж — надвор'е паўсюль дрэннае. Во, на Саянах нават снег выпаў. Не маліна і ў нас тут, учора быў нейкі круцялюшны дзень — падняўся ўраганны вецер,— чорны вецер, тут кажуць, палаткі нашы тармасіў і так і гэтак, наравіў сарваць з калкоў, шалеў гадзіны тры запар, а калі змогся, яму на змену як з вядра лінуў дождж, загнаў у нашу палатку пастуха.

Скончыўся лівень, выйшлі мы з палатак і ахнулі: увесь той грунт, што я з Вуцёхам выкінулі наверх,— ладны гурбяк пяску-плывуну з дробнай галькай,— нейкім чынам зноў апынуўся ў яме. Ну во — стыхія падкінула залішняга клопату і працы.

— От жа, а? — запанікаваў Вуцёха.— Стараліся, жылле рвалі, а гэты праклятый ўраган усю нашу работу спляжыў у адзін мах.

— Не хоча, аднаха, каб вы тут ямы дэлалі, сэрдыцца,— з акцэнтам гаворыць пастух, жмурыць вочы — аглядае атару, якая ціхамірна пасецца непадалёку; там жа, пры атары, і яго засядланы буланы.

Атара вялікая, і Сінёў, пэўна, з цікавасці спытаў, колькі ўсіх авечак.

— Восэмсот, аднаха,— пастух стаяў побач з Сінёвым, каржакаватым, плячыстым, і вельмі ж ужо розніўся ўсёй сваёй паставай — нізенькі, шчуплы, ногі крывенькія, каленямі чуць развінуты ў бакі: адразу відаць, што чалавек змалку на кані, у сядле.

Такое ўчора было — за сорак кіламетраў ад толькі што заснаванага бівака. Даліна, дзе мы спыніліся, заліта сонцам. Нізка, над самым табарам павіс і трапеча крыламі — весела, голасна цюрлюкае жаўранак. Ці не радуецца нам?.. А што, можа, і так — радуецца, бо ёсць каму дарыць свой залівісты спеў: мы, людзі, слухаем яго!

Сінёў учыніў нам пад'ём роўна ў шэсць гадзін. Чаму так рана? Хлопцы яўна нездаволеныя, асабліва Вуцёха: гэта ж яго таксама разам з намі ўспаролі!

Праз дзесяць мінут мы ўжо сядзім кожны на сваім зэдліку-складану, нарыхтаваўшы шарыкавыя ручкі і блакноты, выдадзеныя Каральковым. Сінёў на дзіва сабраны, немнагаслоўны:

— Заблудзіўся ў тайзе — помні: цябе будуць шукаць, дзейнічай так, каб паскорыць пошук. Што для гэтага трэба, Гардуноўскі?

Пятро падняўся, абапёрся рукамі на край стала, кажа:

— Калі я страчу арыенціроўку, то першым чынам выйду на палянку і развяду дымнае вогнішча. Паклапачуся, безумоўна, пра харч, назбіраю ядомай травы, ягад... З ружжом буду — падам наш умоўны сігнал трыма пачарговымі стрэламі, інтэрвал — дзве мінуты... Праўда, калі набоі будуць,— усміхнуўся.

— А калі ні ружжа няма, ні запалак?

— Выйду да бліжэйшага возера ці ракі і на адкрытым месцы зраблю стаянку з апазнавальным знакам. Як толькі ўбачу верталёт або самалёт, пачну падаваць сігналы.

— Якім чынам будзеш сігналы падаваць? — Сінёў працягвае вышукваць слабое месца ў ведах Гардуноўскага.

— А я папярэдне махала зраблю — начаплю

на жэрдку споднюю кашулю, пачну размахваць... Мяне заўважаць.

— Залік прымаю,— выгляд у Сінёва ну амаль прафесарскі, яшчэ б акуляры на нос — і вучоны муж, акурат! Ён спаважна азірае ўсіх нас, нарэшце спыняецца на Корневу, паказвае на яго пальцам: — Ты — начальнік пошукавай групы. Як будзеш дзейнічаць?

— Што скажуць, тое і буду рабіць. Нічога не скажуць — завалюся спаць,— пасміхаючыся, паказаў на Шчыгла.— От з ім разам.

— Як гэта — спаць?!.

— Як і ўсе спяць, калі няма чаго рабіць,— разыгрывае дурня Корнеў.— Сон — панацэя душы і цела.

— Я сур'ёзна пытаюся,— пагляд Сінёва пастражэў.— Не здасі залік — да работы не дапушчу.

— А я думаў, вы, Сцяпанавіч, жартуеце. Сур'ёзна? Калі ласка: вы мне задалі правакацыйнае пытанне. Пошукавай групай могуць кіраваць толькі начальнікі партый або адказныя работнікі экспедыцыі. Начальнік нашай партыі — вы, адказныя работнікі экспедыцыі — Каралькоў, Шмацін і да іх падобныя.

— Груба, але — правільна,— ківае ў знак згоды Сінёў.— Хуценька нагадай абавязкі рэпершчыка.

— Рэпершчык займаецца разбіўкай пікетажа і падрыхтоўкай катлавана належнай глыбіні, манціраваннем арматурных каркасаў, пабудовай бетонных тураў, рэпераў і цэнтраў, знешне афармляе іх. Павінен ведаць як свае пяць пальцаў правілы бяспекі.

— Адказам задаволены,— Сінёў засяроджана глядзіць на Корнева.— А цясляр, скажаш, чым займаецца?

— Будуе і манціруе драўляныя геадэзічныя знакі рознай вышыні, устанаўлівае пераходныя пляцоўкі на ярусах, мацуе ўнутраныя піраміды і візірнае прыстасаванне, рамантуе старыя геадэзічныя знакі. Павінен добра ведаць асноўныя пароды дрэў, іх уласцівасці, элементы мацавання пірамід і геадэзічных знакаў, метады пад'ёму

асобных буйных дэталяў геадэзічнага знака на вышыню.

— Выдатна. Усім стаўлю залік,— заключае нарэшце Сінёў.— Ну і такая просьба да кожнага: без майго дазволу лагер не пакідаць, самавольна далёка ад палатак не адыходзіцца, пакуль як след не абвыкліся. Помніце, тайга навічкоў заманьвае ў свае шаты і карае... Тое ж самае і з Болатам здарылася.

Закурылі. Сінёў пачаў расказваць пра мядзведзя, які стаў яго першай ахвярай: ішоў, маўляў, яму насустрач і не ўцякаў, смела ішоў, і ён, Сінёў, стрэліў па ім... Забіў, а пасля шкадаваў звера, перажываў, што так бязглузда ўсё атрымалася: звёў нізашто звера.

Нарэшце захапіў нашу ўвагу Корнеў, пачаў выхваляцца сваёй зрокавай памяццю:

— Колькі разоў правяраў: надрукаваны тэкст два разы прачытаю — і гатова, вывучыў. З рукапісным, праўда, цяжэй. «Луку...» Баркова, помню, цэлы вечар зубарыў, так і не засвоіў. Рукапісны тэкст быў, почырк дрэнны. От чаму так, а? Зрокавая памяць развіта — толькі каб друкаваны тэкст.

Міхалёў не без зацікаўленасці спытаў:

— Маеш на ўвазе Івана Баркова — рускага паэта 18 стагоддзя? А што-небудзь другое, друкаванае, ведаеш з яго творчасці?

— Хм, падкузьміць задумаў? Не ўдасца,— Корнеў натхнёна ўскінуў галаў, стаў дэкламаваць: «Когда любовь меня жестокая палит, я всякой склонностью могу доволен быть...»

— Досыць, бо ўсё роўна ніхто з нас тут цябе не праверыць,— спыніў Корнева Міхалёў.

Корнеў настойліва:

— Не, а ты ўсё ж паслухай Гарацыя ў перакладзе Баркова, паслухай...

— Штой-та не чуў я такіх — ні Гарацыя вашага, ні Баркова,— усумніўся Сінёў, махнуў рукой, цепнуў плячыма.— Дзівак ты, Корнеў. Усякую лухту ў галаве трымаеш.

Корнеў бяскрыўдна:

— Сцяпанавіч, а пра Крылова што-небудзь чулі?

— Крылова ўсе ведаюць! — усклікнуў — і тым самым паказаў сваю дасведчанасць у літаратуры — Кружлік.— Мой любімы байкапісец.

— Дык вот ён, твой любімы байкапісец, злізаў у невядомага Баркова аж некалькі баек,— катэгарычна сцвердзіў Корнеў.

Дзіва што, Корнеў, відаць-такі, сапраўды нешта цямрыць у літаратуры. Я, напрыклад, не назаву зараз дакладна нават год нараджэння Крылова. А ён — няўжо назаве? І, каб пераканацца ў фенаменальнасці яго зрокавай памяці, спытаў:

— І што, скажаш, можа, калі нарадзіўся Крылоў?

— Калі ласка: год — 1769, другога лютага,— тут жа выпаліў Корнеў, чым здорава мяне і здзівіў, і абрадаваў: я адразу запаважаў яго. Ды, відаць, і не толькі я адзін.

Міхалёў:

— Валодзька, ты маеш на ўвазе байкі «Воўк і ягнё» і «Ліса і вінаград»? — выходзіць, ён таксама знаўца літаратуры.

— О, правільна! — усклікнуў Корнеў.— Нават у назвах падабенства поўнае. А хіба ж так можна? Гэта і ёсць плагіят.

— Ты глыбока памыляешся...— не пагадзіўся з Корневым Міхалёў.— Вучоныя падлічылі, што ў сусветнай літаратуры наогул існуе ўсяго толькі некалькі сюжэтаў. А што датычыцца баек Крылова, то ён напісаў выключна свае, арыгінальныя байкі, з новым зместам, думкамі. Ніякага тут плагіяту няма.

Сінёў:

— Пахвальна. Вы ў мяне як адзін, бачу, спраўна падкаваныя,— выгляд у яго перасмешніка.— Хоць бы і ты, Корнеў. Паглядзець на цябе збоку — акадэмік, ні ўзяць ні даць.

Шчыгол:

— От гэта правільна, Сцяпанавіч, як у сук уляпілі: узяць ад яго — нічога не возьмеш. А каб даць што, дык няма як — не зарабіў, гы-гы-гы... Такі прымітыўны, а ў Маскоўскі аж універсітэт паступаў, два разы стукаўся ў яго вялікія дзверы... Быў ужо і трэці раз сабраўся, ды ў армію прызвалі.

Сінёў усмешліва пазірае на Корнева, цікавіцца:

— І кім бы ты стаў, калі б паступіў і скончыў універсітэт?

— Сцяпанавіч, не сыпце соль на мае старыя раны,— не падае духам Корнеў.

— А ўсё ж?

— Адзін раз стаў бы гісторыкам, а другі — філолагам.

— Пінцюх, навошта табе ўсё гэта? Гісторыя, літаратура...— Шчыгол хітра жмурыцца.— Мяне паслухай, дзівак: у медыцынскі кіруйся — на гінеколага, гы-гы-гы... Прафесія — закачаешся.

Корнеў:

— Знаеш, Саня, як Дзідро пра такіх, як ты, сказаў?

— Я знаю, як пра цябе я скажу,— бадзёра выгуквае Шчыгол.

— Дзідро сказаў так: «Хто перастае чытаць, той перастае думаць». А ты, як я заўважыў, нічога не чытаеш. Значыць, жывеш бяздумна. Мая парада табе: набывай хутчэй акуляры і чытай, Саня, рэгулярна кнігі.

— Кнігі-фігі,— падхапіў Шчыгол.— Ты, Валодзька,— попка-дуралей, функцыянер з вузкафарматным ілбом. Збіраеш розныя выказванні, бо ў самога звілін бракуе,— глыбакадумна пачухаў сваю пастрыжаную нагала галаву, яйкападобную, прадаўгавата-вушастую, з масіўным ілбом — акурат малады бычок.— Свайго ў цябе — як у вужа блох, гы-гы-гы... Дакаціўся, што нейкая там Маня-ўдавіца высмейвала, казала, што ты ёй усё пра кнігі, пра кнігі... Заснула, прачнулася, а ты ўсё балабоніш, вершыкі чытаеш. Ну — яна і ўцякла ад цябе да мяне.

Корнеў пачырванеў да вушэй, канфузліва сказаў:

— Яна такая ж, як ты...

— Балбесіна, вурдалак запячурны, а што ж мне заставалася рабіць? Маладая-здаровая і адна...

Корнеў памуляў губамі, спытаў — папярэдзіў:

— Хочаш, каб я расказаў хлопцам, што адбылося затым? Расказаць?

— А навошта? — Шчыгол знаёма рагатнуў.— Далей усё ясна: ты мне перадач не насіў — у міліцыі я паводзіў сябе спакойна, не лез на ражон, сказаў ім, што сп'яна пераблытаў пакоі, лёг у ложак і заснуў... Мне паверылі і адпусцілі,— якраз на сняданак паспеў.

— Пераначаваў, значыць, у выцвярэзніку? — перапытаў Сінёў.— Відаць жа, добра п'яны быў, калі забралі.

— Я, Сцяпанавіч, пад настрой адзін паўлітру вып'ю і хоць бы цвык, стаю на нагах, помню ўсё... А той раз хапіў лішне... Не-е, у выцвярэзнік я больш не хадок. Мяне той раз, калі шчыра, богі падвялі — на радаўніцу піў, за упакой душы... Прычына ўважлівая, з гаспадынькай разам на могілкі хадзілі. Яе, значыць, муж — таго... год назад як разбіўся: урэзаўся ў стрэчны малакавоз. Церамок, гараж, разбіты «жыгуль» — усё гэта чакае мужчынскай увагі. І сама яна, баба, у самым саку, маладзічка не горш за Кружлікаву,— падміргнуў, кіўнуў у бок Кружліка.— Прапісала нас з адным разлікам, каб з двух некага аднаго прыручыць,— скасіўся на Корнева і асуджальна: — А гэты во самы Валодзька, звенавы наш, ударнік, клюнуў на яе закідончыкі — ну ні гонару ў чалавека, ні чэсці.

— Я — клюнуў? — Корневу аж чырвань у шчокі ўдарыла.— Ты заваліўся ў яе пасцель, а не я... Яна і выклікала міліцыю.

Кружлік:

— Усё правільна: лоўка яны ад цябе, заюды, збавіліся,— і да Корнева: — Хвалю за знаходлівасць.

Шчыгол як скіраваў на Кружліка свой пагляд, дык і вокам не міргне — глядзіць, абследвае, здаецца, шыю. Непрыемны пагляд.

— Ну, што там цікавае для сябе ўбачыў? — спакойна спытаў Кружлік.

— Коўцік мне твой не падабаецца,— пры гэтым на твары ў Шчыгла ні ценю ўсмешкі.

— Не зразумеў, праясні.

— Коўцік востры — і характар такі ж, вост-

ры, запальчывы. А ў цябе — без паўлітры не разбярэш: ці гэта зоб, ці коўцік, гы-гы-гы...— Ну во, жартам адпомсціў Кружліку за абразу. І супакоіўся, схадзіў у палатку і вярнуўся са «Спідолай», сеў, «Спідолу» паставіў на калені, уключыў — якраз патрапіў на грымлівы джаз, па яго разуменню, відаць, хіповы, мадняцкі, і тут жа, бы заведзеная лялька, стаў рытмічна прытанцоўваць мыскамі ботаў, цепаючы ў лад плячыма і пакіўваючыся ў бакі.— Я не чытаў Мані вершыкаў — уключыў вось так музычку і аля-ўлю!.. Наводжу яе на цэль, балдзею, прымаю кайф, а яе завідкі бяруць... Пасля, гляджу, цягне шампань, якую Корнеў нарыхтаваў, я разліваю — чару шампані ёй у руку, яна выпівае да дна, вочкі туманяцца, язык заплятаецца... А джазік грыміць, вылушчвае з яе мазгоў усё лішняе, вяртае ў першабытнасць... Яна, канечне, нейкі час імітуе нязгоду, спрабуе ўкусіць мяне за нос, але натыкаецца сваім агрэсіўным роцікам на мае прагныя губы... О'кэй, пайшло-паехала... А пасля — ты, ужо спакойны, уважлівы, гэтакі шыракагруды, загарэлы амбал, ласкава ўсміхаешся ёй, і яна, Маня, тая самая недаступа, што здала мяне ў выцвярэзнік, прабачліва, шчыра ўсміхаецца мне ў адказ... Жыццё — цярністы вянок, і той з нас, хто спалохаецца яго калючак, варты жалю. Так, на кнігі ў мяне проста не хапае часу. Унурышся ў кнігу, а маладосць міма цябе шусь — і праляцела, ніякага эфекту... Успамінаю чувіху адну, кнігаманку. Штораніцы ездзілі з ёй адным трамваем. Заходзіць у салон — каралева каралевай. Уступаю ёй, канечне, месца, яна сядае і адразу ж кнігу ў рукі, акуляры, як тэлескопы, на нос — і на ўсё забывае, на мяне ні позірку, да мяне ні слова. Як ні зырыўся на яе — не заўважае, гаротная, жыве кандыдатка ў векавухі кнігай, слепіцца, чытае. А некалі ж апомніцца, ды ўжо ніхто ёй месца не ўступіць,— і здзекліва да Корнева: — Табе, Воўк, такія мадамы падабаюцца, старыя іерогліфы?

Надвечар Кружлік павёз Сінёва ў аэрапорт — Сінёў мусіў сам ехаць па бензапілу. Па дарозе

назад Кружлік заверне ў той самы пасёлак, дзе знаходзіцца наша база, заснаваная ў збуцвелым, з дзіравым падстрэшкам хлеўчуку. Уладальніца гэтай дапатопнай будыніны — былая настаўніца пачатковых класаў, сямідзесяцігадовая Яніна Бельская, па бацьку — Леапольдаўна. Прадзед яе, нехта Вікторскі, быў высланы з Польшчы за непакорнасць цару-бацюшку аж сюды, у Забайкалле. Леапольдаўна не адна — пры ёй засталася ўнучка Феня, бацькі якой апошнім часам жывуць і працуюць у Селенгінску. Сама Феня пасля дзесяцігодкі паспела ўжо выйсці — выскачыць! — замуж, пабываць на Далёкім Усходзе, развесціся, вярнуцца назад і паўгода папрацаваць у кіёску «Саюздруку». Хата іхняя такая ж самая, як і хляўчук, старая, але затое прасторная і з раскошным падворкам, чым, зрэшты, і прыглянулася Сінёву. Мы, рабочыя, на гэтай сваёй базе былі ўсяго адзін раз — рамантавалі хляўчук. Фені пад той час не было дома — адпачывала недзе на турбазе...

І вось — яна, Феня, толькі што прыехала да нас у тайгу. З Кружлікам. Гупнула з кабіны, падышла да цяпельца — вясёлая, усмешлівая. Ніштаватая маладзічка, сучасная. Ёй недзе гадоў так за дваццаць чатыры, у джынсах і кароткім курціку наросхрыст, басаножкі чорныя, на платформе, пазногці на нагах густа пафарбаваныя: як падышла, дык першае, што мне кінулася ў вочы, гэтыя яе пазногці... Карацей, педыкюр быў наведзены спраўна, а вось манікюр, здаецца, не першай свежасці; прычоска — «запалачка» (Вуцёха шапнуў мне на вуха — сцвярджае, што зараз такія вось прычоскі самыя модныя).

Бадай, гэта і ўсё пра госцю. Нічога мы пра яе амаль не ведаем — гром з яснага неба, гэтая госця. Вуцёха адвёў мяне ўбок, да палаткі, ціха сказаў:

— Круцёлка яна, відаць... Не пабаялася прыехаць сюды на ноч гледзячы.

— А чаго ёй нас баяцца? Мы ж не дзікуны-людаеды,— і я тут жа ўбачыў, што госця якраз да нас кіруецца.

Падышла, павіталася:

— Добры вечар, хлопчыкі... Хто з вас Вуцёха?

— Я,— насцярожыўся Вуцёха.

— Праспявайце песню ці паскачыце — вам пісьмо,— яна паказала пісьмо, але не аддала, адно ўсміхнулася, ветліва, прыязна.

— Я не блыха, каб скакаць...— Вуцёха ўражана акругліў свае лупацікі, выхапіў у яе з рук пісьмо, вылаяўся.

Феня моўчкі павярнулася і пайшла да вогнішча, дзе былі Кружлік з Шумком і астатнія хлопцы; усе яны стаялі, толькі Шчыгол сядзеў воддаль на скрынцы з-пад тушонкі, курыў, ціхі, задумлівы.

Кружлік расказваў пра Болата, які, дзякуй богу, на трэці дзень, пад вечар, усё-ткі выйшаў да палатак. І ў тую ж ноч — во дзе было страху! — на брыгаду напаў мядзведзь: пашматаў крысо палаткі, пацягнуў спальнік на сябе, выцягнуў, стаў душыць Кадзілу. А той спаў з галавой у спальніку, ад камароў схаваўся, і мядзведзь не адразу дабраўся да яго. Прачнуўся Кадзіла, падняў галас... Усхапіўся Дыненка — і адным стрэлам улажыў мядзведзя. Аказалася, мядзведзь быў паранены — два разы стрэліў па ім Болат, не забіў. Акрыяў, узяў след і па следзе да палатак прыйшоў. Калі б нагнаў Болата, напаў бы на яго. Пашанцавала хлопцу.

Я спытаў Кружліка:

— Асаўцова там не збіраецца прыехаць?

Кружлік нечага аж уздрыгнуў, скорагаворкай прамармытаў:

— Яна мяне не цікавіць — гэта раз. А два — ёй тут няма чаго рабіць,— сказаў і адвярнуўся, нешта шапнуў Фені на самае вуха, тая ўсміхнулася і па-ранейшаму зачаравана глядзела на яркія касмылі вогнішча.

Морак прыкметна згусціўся, дзённая задуха спала. Недзе ў суседнім распадку пракугакала сава і сціхла. Праз нейкі час там жа, у распадку, застрашліва доўга яхкала лісіца: відаць, злавала на саву, якую ёй не ўдалося ўпаляваць.

Бязгучна падляталі да вогнішча лятучыя мышы, кажаны, мільгалі над нашымі галовамі — і

9 Зак. 1664

больш за ўсё над Феняй: яна была ў белай касынцы, што якраз і вабіла начных летуноў. Міжволі падумалася, нібыта і мы ўсе тут, хлопцы, такія ж вось кажаны: «ядзім» вачыма Феню, адно вабіць яна нас не снежнасцю сваёй лёгкай хусціны, а зусім іншым — гожай паставай, стрыманай усмешкай на дзіва прыгожых вуснаў, смелым паглядам і... проста тым, што яна жанчына.

Што ў Кружліка з ёй? Вунь як увіхаецца ля яе... Флірт? Часовы юр на базе пачуцця з першага позірку? Нешта з гэтага. Адно не захапленне, не віхурны ўзвей душы.

Божа-божа, я асуджаю Кружліка? А за што, уласна? Ну прыехала з ім Феня, то ж гэта і добра. Ды і дарэчы якраз: мы дамовімся з ёй, што будзе пакідаць для нас газеты і часопісы, грашовы задатак ёй дадзім...

Сядзім ля вогнішча, Кружлік расказвае, як ён мінулым летам у час пераправы цераз раку затапіў усюдыход, які так і не дасталі пасля.

— Напароліся на сасну-тапляк. Стойма, халера, затаілася на сярэдзіне ракі, і ўсюдыход бокам налез на яе, пахіліўся і, зачэрпнуўшы вады, забулькацеў на дно. А на Поўначы якое лета? Вада — лёд... Няма там лета ніякага! Мы як былі адзетыя, так і паплылі. Да берага метраў дзвесце, а то і больш. Няблізка. Ледзь дацягнулі. Глыбіня ў тым месцы шасціметровая.

— А ў нас тут гэтай вясной браканьеры пагналіся на машыне за гуранамі [1], уз'ехалі на лёд — і машына правалілася, пайшла на дно... З траіх — адзін толькі жывы застаўся, выбраўся на бераг... Машыну пасля паводкі ўжо даставалі. А вы — проста разявы,— папікнула Феня Кружліка.— Трэба ж было глядзець, куды плывяце.

— Сам жа я і глядзеў,— спрабаваў апраўдвацца Кружлік.— Сасна пад вадой была... Спрацаваў закон подласці.

— А што, і такія законы ёсць? — здзівілася Феня.

— Ёсць,— кіўнуў Кружлік і дадаў: — Няпісаныя.

---

[1] Г у р а н ы — ізюбры *(мясцовы дыялект).*

— Так сказаць, законы выпадку,— мусіў удакладніць Шумок.

— Якія вы ўсе тут законнікі,— гарэзліва азірнула нас Феня.— А вот я такія законы не прызнаю... У мяне свае законы, уласныя,— і нечага паморшчыла прыгожы лоб.

— Уласных законаў не бывае,— спакойна і даволі стрымана сказаў Гардуноўскі.

— Памаўчы, Пятро,— Шумок махнуў рукой.— З нас калі хто і валачэ што ў крыміналістыцы, дык гэта Шчыгол. Але ён чамусьці не ў гуморы сёння, маўчыць зацята.— І да Шчыгла, які сапраўды ўвесь гэты час цішком сядзеў усё на той жа скрынцы:— Саня, будзь ласкаў, раскажы нам пра ўласныя законы. Па-мойму, іх прытрымліваюцца толькі тыя, хто жыве нецікава, як набяжыць, ды жанчыны-векавухі, а?

Шчыгол і не падумаў азывацца.

— Вот і пагавары з ім.— Шумок развёў рукі, недаўменна паціснуў плячыма.— Заццяўся чалавек. А шкада, ён бы мог зараз вам такое, Фенечка, выдаць, што бакі парвалі б са смеху.

Феня ласкава звярнулася да Шчыгла, на «вы» нават:

— Аляксандр, вельмі прашу, раскажыце штонебудзь пацешнае. Я так даўно не смяялася. Ну чым вас задобрыць? Хочаце, пацалую? — памкнулася падняцца, ды Кружлік затрымаў, раўніва сказаўшы:

— Ды ну яго, задаваку...— і да Шумка:— Венька, раскажы, як суседаву хату падпаліў — такое не прыдумаеш.

— Хату падпаліў? — уражліва здзівілася Феня.

— Было...— падобна, Шумок разгубіўся, насцярожана паглядзеў на Кружліка.— Усё ты пра мяне вызнаў, Філат. Ажно дзіўна. Няўжо Каралькоў набаяў?

— А ты думаў...— твар Кружліка знаёма сплюшчыўся ў самазадаволенай ухмылцы.— Каралькову грэх не знаць пра свайго земляка — ён жа родам з тых самых мясцін, адкуль і ты. Гаварыў, што бацьку твайго добра ведае, маці...

Феня перабіла Кружліка:

— А хто такі Каралькоў?

— Галоўны інжынер, непасрэдны начальнік наш,— адказаў Кружлік.

Шумок:

— Я гаварыў з ім... Запрасіў у рэстаран — тую маю прэмію, сторублёвую, замочвалі. Сінёў не пайшоў, дык мы ўдвух былі... Расказаў пра дзеда майго, Амбросія, як ён парабкам у кулака Анціпа Капных служыў.

— Ой, Веніямін, давай пра дзеда,— Феня зацікавілася слухаць, дадала:— Будзе ў мяне сын — назаву Амбросіем, імя — ні ў адной газеце не вычытаеш.

І Шумок пачаў расказваць:

— Анціп Капных, кулак-міраед, хацеў са свету звесці майго пахана за тое, каб не заплаціць яму за парабкоўства. Знайшоў нейкую там прычэпку, хапіў нож — і шах!.. Парабак ухіліўся ад удару, выбег у двор. Анціп — за ім. Але стары ўжо, прыці ў нагах няма... Тут і Анціпіха, шчарбуля ніцая, выйшла са стайкі з даёнкай у руках, крычыць на парабка: «Ірад, бугай!.. Гэтак хызяіна майго ўходаў — дайся, чаляднік, зарэзаць сябе, ну?!» Тут парабак і зразумеў, што гэты хрыч стары, Анціп, напраўду яго зарэзаць сабраўся. Кінуўся ўцякаць — пераскочыў паркан і ў лес. Анціп за ружжо, сеў на каня — за ім. Стрэліў — міма...

Феня нецярпліва спытала:

— І ўцёк?.. А пасля ў міліцыю заявіў?

— Уцёк. Але ў міліцыю не заяўляў, пабаяўся. Анціпаў старэйшы сын у бандзе быў. Уночы часта дамоў заяўляўся... Кірэем звалі, адпеты вырадак — усё бацькава падабраў.

— Ну-ну,— падахвоціў Кружлік.— Раскажы — хто прыкончыў Кірэя і як, гэта цікава. Хай Феня паслухае.

— Харытоня, малодшы брат Кірэя, уляпіў яму кулю ў лоб,— Шумок захапіўся расказам.— У Харытоні нявеста была, Акся. Кірэй і захапіў іх, абодвух, вечарам ля стажка, на поплаве... Харытоню па харчы паслаў, а яе, Аксю, ля сябе пакінуў — як заложніцу... Калі Харытоня вярнуўся, ля стажка нікога не было... Ён — да Аксі

дамоў, і там няма іх... Ноч не спаў, хацеў ужо быў у лес ісці, шукаць сваю нявесту. Па абедзе Акся сама прыйшла, прыгнечаная, разгубленая, і кажа: «Мяне Кірэй згвалціў... Сказаў, што я цяпер жонка яго. Нікому не гавары гэтага, ён прасіў». І Харытоня нічога нікому не сказаў. Праз тыдзень падпільнаваў Кірэя, калі той прыходзіў уночы па харчы і памыцца ў лазні, выкраў бацькаў наган, што быў схаваны ў падпечку, і пусціў кулю ў лоб свайму брату — там жа, у лазні, голаму.

— Ой, на́нач такое чуць...— Феня калыхнула плячыма, вочы яе спалохана акругліліся.

Кружлік зняў з сябе штармоўку і паслужліва агарнуў ёй Феню, сказаў Шумку:

— А цяпер — пра хату, пра гэтага самага Харытоню... Мы слухаем,— абняў за плечы, чуць пахінуў да сябе і тут жа адпусціў — як правяраў, ці зазлуе Феня ад гэтай яго замашкі.

Феня:

— Веніямін, толькі ўжо, калі ласка, без забойстваў, а то мне боязна. Не засну...

Кружлік прыўзняўся, пасунуў свой зэдлікскладан бліжэй да Фені, сеў і ціха шапнуў ёй:

— Дык мы і не будзем спаць... У такую ноч грэх спаць.

Феня і гэты раз не прыдала ўвагі Кружлікавым памкненням, а Шумок вёў расказ далей:

— Наша хата і Харытонева — блізка стаялі, страха ў страху. От гэтага я тады не ўлічыў... Значыць, Харытоня па восені з тайгі не вылазіў, нарыхтоўваў кедравыя арэшкі. Ну і аднойчы нашага сабаку, Рэкса, падманам з сабою звёў, прывязаў ля дзвярэй у старожцы, а сам па каня, у вёску, прыйшоў. Калі зноў вярнуўся ў тайгу, глядзіць і вачам сваім не верыць: старожка разбурана, мяшкі з арэшкамі ўсе пашматаны, ад сабакі толькі ланцуг застаўся ды касмыкі шэрсці на ім. І вот за сабаку я рашыў адпомсціць. І як?.. Грабеньчык слюдзяны паstругаў, з коўдры ваты навыскубваў і стружанку гэту, слюдзяную, ватай абклаў, а споверх суравіцай абматаў. Атрымаўся тоўсты кнот-вяроўка. Замаруджанага дзеяння кнот. Выпрабаванне правёў — запальвае сало-

му... ну, можа, гадзіны за паўтары-дзве. Прыйшоў да Харытоневых мальцоў, а ў кішэні гэты самы кнот-вяроўка, самаробны, і сернікі. Харытоні дома не было — павёз арэшкі здаваць на прыёмны пункт. Я пасядзеў трохі — не церпіцца, выйшаў у сенцы, запаліў кнот і шухнуў проста на гарышча, закінуў. А там — труха... Вярнуўся ў хату і яшчэ пабыў троху. А тады ўжо і дамоў падаўся, спакойненька, просячы бога: «Запалі, запалі...»

— І хата згарэла? — Феня здзіўлена азірае Шумка, верыць і не верыць яму.

— Згарэла,— кіўнуў галавой Шумок.— Ветрана тады было...— запнуўся, нібы прыкідваючы: даказваць усё, да канца, ці не варта.— Мы сваю хату, аднак, таксама не ўратавалі...— развёў рукамі, цепнуў плячыма.— Які я па тым часе быў — пацан, у шосты клас хадзіў. Мог бы, як на сённяшні розум, і мудрэйшае што прыдумаць — трэба было даць хлеба з іголкай іхняму сабаку...

— Ды не, Веніямін, другое ты не мог прыдумаць...— Феня нечага засяродзілася, задумліва звяла міжброўе.— Ты хворы на піраманію... Хвароба такая ёсць — піраманія, прага агню. Адзін такі хворы, радыст, судна сваё ў акіяне падпаліў — так прагнуў вялікага агню. І сам жа, чорт, пасля кліч кінуў, першы падняў каманду на ногі... Медаль атрымаў за праяўлены гераізм.— Яна пільней узіраецца ў твар Шумка, і ён адчувае сябе ніякавата перад гэтым яе паглядам, уважлівым і неадчэпным.

— Божа літасцівы, што я чую!..— нарэшце такі азываецца Шчыгол, падняўся са свайго седала, падышоў да Шумка, нахіліўся над ім: — Ты часам перпетуум-мобіле не вынаходзіў? — у голасе несхаваны здзек, пагарда.— Не-е, мілейшы, пасля гэтага я з табой у адной палатцы не лягу спаць, ізвіні-падзвінься. Я думаў, ты проста так, для форсу загінаеш такую курду, а ты, выходзіць, сваёй ганебнасцю бравіруеш... Шум ты Шум, нічколькі не клапоцішся за сваю рэпутацыю, што ў галаву ўзбрыдзе — усё на язык кладзеш, без апрацоўкі.

Шумок пасміхаецца.

— Да лямпачкі мне яна, фіфа гэтая, рэпутацыя,— кажа ён.— Я такі, які ёсць. Жыву сваім розумам, не чужым. У героі, як Корнеў, не рвуся.

— А што? — Корнеў ганарліва ўскінуў галаў.— Я не лічу сябе адмоўным, так. Хоць і грошы люблю, выпіваю... І ўсё роўна не адмоўны. А чаму? Грошы — мая незалежнасць. З грашыма я не чарвячок на кручку, а шчупак!.. Праўда, абы-якія грошы мне не трэба, а толькі тыя, што сам зарабляю. Часам выпіваю. Але зноў жа — у меру і за сваё.

— Правільна, Валодзька, залатыя словы сказаў! — Падступіўся да вогнішча Вуцёха.— Я таксама не спадзяюся на прэміяльныя, хаця выпіць і надурняк люблю, абы хто пачаставаў — не адмоўлюся. Гарэлка — балаўство, і на яе, каб не трапіць у лапы нарколагаў, трэба глядзець несур'ёзна.— Міша вясёлы, на ўздыме,— да гэтага ён быў у палатцы, чытаў і перачытваў жончына пісьмо, якім, канечне ж, застаўся задаволены,— мільгам азірнуў Феню і на дзіва ласкава, прабачліва сказаў: — Фенечка, даруйце мне маю грубасць да вас, я пагарачыўся... Дзякуй за пісьмо,— і, не дачакаўшыся, што скажа Феня, спытаў Шумка: — Хата, значыць, згарэла, а што далей?

Шумок — дзівак ён усё-ткі — і на гэты раз з ахвотай сказаў:

— Прыехалі пажарнікі, акцік скалякалі — напісалі, што быў няспраўны дымаход... Харытоню аштрафавалі ў дадатак, а нам калгас як пагарэльцам грашовую дапамогу выдаў. Мы пераехалі ў горад, купілі палову дома наводшыбе, якраз над рэчкай, на беражку...

Феня амаль ва ўпор глядзела на Шумка. Гэта я даўно прыкмеціў: здавалася, нібы яна пазнае ў ім свайго даўняга жанішка, з якім пазнаёмілася аднойчы ўночы, пераспала, але ў твар добра не запомніла, бо пад раніцу ён збег (з такімі разважаннямі, бадай, нядоўга і цынікам стаць: божа, адвядзі ад мяне гэты грэх).

— Той радыст, казалі, вярнуўся з медалём дахаты, радуецца... Расказвае жонцы ўсё вось

так, як і ты, Веніямін, шчыра, падрабязна, смакуючы. Жонка слухае і не верыць... А праз месяц ён свой дом падпаліў,— Феня сумелася, нейкі час памаўчала, затым нерашуча параіла:— Табе, Веніямін, супрацьпаказана спіртное...

Цішыня нейкі момант, здаецца, такая была ля вогнішча, што аж у вушах звінела. Але толькі нейкі момант. Усе мы, як па камандзе, дружна, на ўсе глоткі заржалі так, што Феня аж прыгнулася і заткнула вушы пальчыкамі.

Нарагаталіся ў ахвоту, распалохалі кажаноў дый пачалі разбрыдацца па палатках. Напаследак Шумок сказаў Фені:

— Дзякуй, канечне, за параду, але гэтае ж самае мне ўвесь час і жонка далдычыла, за што і збег ад яе,— ён употай, каб Феня не бачыла, падміргнуў Кружліку, ускінуў руку і гучна пстрыкнуў пальцамі.— Пайду спаць, дабранач.

Неўзабаве ля вогнішча засталіся двое: Кружлік і Феня. Яны нязмоўчна ўсё аб нечым шапталіся, Кружлік ціскаў ёй рукі, блізка падсаджваўся, ды яна, смеючыся, хуценька адсоўвалася. Гэтай іх палюбоўнай забаўцы, здавалася, канца не будзе, і Міхалёў, залазячы ў спальнік, нездаволена, шапатком, выказаў свае адносіны да Кружліка:

— Нечым жа во паланіў авечку, зацікавіў... І не сорамна яму перад намі, жанаціку, так блазнаваць.

— Паланіў ён яе сваім абмарожаным вухам,— ускалыхнуўся ад смеху Вуцёха.— А ёй усё роўна хто — абы мужчына. Круцёлка — шкура гарыць, матузоў просіць, ды бацька далёка.

Міхалёў стрымана:

— Такая з каменнага сэрца іскру высеча, на ўсё забудзеш...

Край нашай палаткі яшчэ ўдзень мы прыўзнялі, каб не так даймала духата, і цяпер, схаваўшыся ад камарэчы пад марлевы полаг, я нібыта схавані ўсё бачыў, што рабілася ля вогнішча.

Трэба ж, Шчыглу заманулася купацца. Няхай бы днём, дык нечага ўночы прыспічыла. Ручаіна, што спадае з гор, якраз ля нашага табара разліваецца ў ціхае азерца, і Шчыгол з ходу бул-

тыхнуўся ў ваду, паплёскаўся колькі хвілін і вярнуўся ў палатку. І вось чую,— іх палатка сценка ў сценку з нашай,— Шумок гаворыць да яго, што, маўляў, і сам бы таксама скупнуўся б, ды не хоча мачыць трусы, а плаўкі дома забыўся, новых не купіў. Шчыгол не азываецца, аднак Шумок не адстае, чэпіцца смалой:

— Саня, дык я вазьму твае... Можна?

Шчыгол па-ранейшаму не рэагуе на просьбу Шумка.

— Эй, суслік, не начуй — прачніся,— Вуцёха тоўхае Корнева, лежыва якога за мною.— Ёсць навіна: у Шчыгла стрэс на глебе сэксу,— і галасна — да Шумка: — Венька, пашкадуй плаўкі, ты ж іх парвеш, калі на свой бабскі зад успяліш... Японскія ўсё-ткі, дэфіцыт. Наматай на вус: помні, калі Шчыгол маўчыць — бойся яго.

— Міша, ты прагаладаўся? — азываецца раптам Шчыгол.— Калі галодны, то праглыні свой язык і падавіся да заўтра.

Пачуўся блажлівы смяшок Фені, а следам і яе рахмана-какетлівы галасок:

— Веніямін, ідзі купайся без плавак — табе, хвораму, можна... А не — лопухам прыкрый божае месца,— і зайшлася гарэзлівым рогатам, затупала нагамі па зямлі.

Вуцёха таксама доўга смяяўся, пасля выгукнуў:

— Вы яму, Фенечка, каструлю падайце!..— а да нас — шэптам: — Ну й прафура — праз медныя трубы прайшла, точна.

— Кадра — клас,— вытыркнуўся з-пад полага Корнеў, захіхікаў.

— Асёл сапаты, не выпірай мызу,— Вуцёха даў яму пякучага шчылбана ў лоб.— Бачыў, цяльняшка пад кофтачкай, дзеўка — марская душа, джыу-джыцу нябось ведае. Амазонка!

— А ў мяне — трэці разрад па дзюдо і каратэ,— Корнеў зноў захіхікаў.— Прыёмчык уштучу — і твая амазонка са сваёй «джыцай» ля маіх ног...

Я не-не ды зіркаў у бок вогнішча: цікава было ведаць, застанецца Феня ў нас на начлег ці, можа, Кружлік адвязе яе ў пасёлак. Іх постаці,

асветленыя яркімі водбліскамі, відаць нібы ўдзень. Кружлік раскашуе — падкідвае ў вогнішча сушняк, назапашаны кухарам. Відаць, гэта напачатку і падняло Шчыгла, кухара, з пасцелі. Вось ён падступіўся, стаў паблізу ад Фені — у наапашкі накінутай штармоўцы, насцярожаны, на нагах — яго знакамітыя, з апушкай, скураныя тапачкі (пасля работы заўсёды расхаджвае ў іх па табары), спытаў яе:

— Што, фрау-мадама, весела?

— Ды з вамі тут, бачу, не заплачаш,— і насмешліва: — Ну ж і франт... Няўжо жончыны атопкі?

— Ты мне тут пагавары!..— нечакана пагрозна сказаў Шчыгол.— Уляпётвай-ка адсюль, пакуль не позна, ну?!

— А калі без пагроз? — Кружлік падняўся і заступіў сабой Феню, прыняў ваяўнічую позу: — Ідзі, Саня, акуніся яшчэ разок... Нам тут і без цябе добра.

— Без мяне не можа быць добра,— працадзіў праз зубы Шчыгол і саступіў убок, каб бачыць Феню. Кружлік нечакана-рэзка крутнуўся і лёгка папіхнуў яго ў плячук, прыняў стойку баксёра. Шчыгол неяк запаволена, як з неахвотай, двойчы садануў Кружліку кулаком чуць ніжэй грудзіны.— Атрымай, Філя, задатак. Мала будзе — уласнага морсу нап'ешся.

Ну ж і ёлупень гэты Шчыгол — такога беспадстаўнага выбрыку я не чакаў ад яго. Што з ім — ашалеў?

Кружлік паволі асядаў, курчыўся, хапаючы ротам паветра. Феня на ўсе вочы, спалохана глядзела на Шчыгла, шыракаплечага, глыбаста-суровага, упэўненага. Прыўстала і пачала адступаць, і Шчыгол, разгадаўшы яе намер, не даў уцячы — хапіў, абшчаперыў за плечы, чым і вывеў з шокавага стану, абудзіў у ёй злосць.

— Зэк стрыжаны! — з надрывам у голасе крыкнула Феня і паспрабавала вырвацца з яго абдымкаў.— Абалдуй!

— Фрау-мадама,— Шчыгол на дзіва спакойны, але па-ранейшаму неадступны, напорысты,— прашу не абражаць. Рыцар Свіное Вуха ў накаў-

це, і цяпер ты — мая... Не маленькая, трэба ўжо ведаць: пераможцаў не абражаюць — ім аддаюцца.

— Ах — так?!! — узвілася Феня і рашуча пляснула Шчыгла па шчацэ, вырвалася ад яго і ваяўніча застыла насупраць.

— У-у, тыгра... Абалдзець можна,— Шчыгол чуць адхіснуўся ўбок.— Хто ж так б'е? Твар — забароннае месца.— І груба, абразліва: — Ну, цыпа, тваё шчасце, што ты ўнучка Леапольдаўны, паважанай жанчыны. А то ўгаманіў бы — паскакала б!

— Не, фраер, раней чым ты мяне — я цябе ўгаманю! — Феня ганарліва ўскінула галаў.— Чмыр слабаразвіты, ты з усімі так — напралом?

— Хм...— асекся Шчыгол.— А ты — арыгіналка, рыцарка ў джынсах! — і ўжо амаль спакойна, памяркоўна: — Ён не варты,— кіўнуў на Кружліка,— каб з-за яго на ражно лезці.

— Псіх са знакам якасці, знай: такія, як ты, ідальга, для мяне не дэфіцыт.

— Дзева, бог з табой,— пайшоў на замірэнне Шчыгол.— Гэта я — ідальга?.. Ды я ўсяго толькі грэшны чалавек.— Ён ужо зусім, здаецца, не злы, робіць захады спыніць спрэчку, жартуе.

Аднак Феня ў ранейшай насцярозе, абразліва кідае:

— Табе, слюнцяй, да чалавека — як да месяца пяшком,— плечы яе рэзка цепнуліся.— Псіх... Абалдуй.

— Уціхні, лапка. Хопіць.

— Ты, капыт, дастукаешся, што чырвоныя безікі твае выдзеру!..— Феня зачапіла Шчыгла за жывое, і ён не стрымаўся — рашуча памкнуўся да яе, але яна скочыла ўбок, ухапіла ламачыну і замахнулася: — Падыдзі толькі — гвазданў па лабаціне!

Заварочаўся Міхалёў, высунуў з-пад полага галаву, пытае:

— Што гэта ў іх там?.. Лёха, чуеш? Распачынаецца бойка, трэба секунданты,— і я пачаў вылазіць з-пад полага, ды ён затрымаў, шапнуўшы: — Чакай, паглядзім, што далей будзе.

А Кружлік між тым, усё яшчэ пахапліва ды-

хаючы, трымаўся рукамі за жывот, стаяў перад вогнішчам наўколенцах і пацешна, быццам які набожны прышэлец, буда, клёваў носам у дол, матляў галавой — біў чалабітную агню. Шчыгла і Фені ля вогнішча ўжо не было — я прапусціў момант, калі яны зніклі. Канечне ж, Феня кінулася ўцякаць, а Шчыгол — няўжо напраўду паскуднае што задумаў? — пабег за ёю следам.

Тут ужо няма як марудзіць — трэба неадкладна затрымаць Шчыгла. Хаця — нічога кепскага ён не зробіць Фені, бо дзеўка яна зубастая, баявая, сябе ў крыўду не дасць. Ды і не такі працячок Шчыгол — ён хутчэй за ўсё рашыў запалохаць Феню, правучыць, каб у наступны раз не давяралася ўсякім стрэчным лавеласам, якім гэты раз аказаўся для яе Кружлік. Толькі так, бадай, і можна апраўдаць паводзіны Шчыгла. Але ці не дачасна я пачаў вышукваць яму апраўданне?

Ну так, неабходнасць кідацца ў пагоню адпала: не паспеў Шумок напаіць Кружліка вадой, як да вогнішча вярнуўся Шчыгол. Адзін тапак згубіў недзе, другі — трымаў у руцэ і жалкаваў па згубленым. Кружлік зацята маўчаў, затое Шумок распінаўся за двух:

— Свайго ўздумаў біць?.. Глядзі, і самба не паможа — от зараз мяшок уздзенем на галаву і такое мяла ўчынім, што ваўком узвыеш. Слабо, думаеш?

— Адзін ты мне нічога не ўчыніш.— Шчыгол грэбліва глянуў на Шумка, гэта азначала, што ён, Шумок, для яго — камар. Сеў на скрынку і даволі ціхамірна звярнуўся да Кружліка: — От так, Філя. Скажы дзякуй — на паўсілы біў. Гэта мой каронны ўдар — да рэшты абрываю дыяфрагму... А цябе, лічы, пашкадаваў — свой усё-ткі, з адной каструлі кашу ядзім... Чакай, а чаму ты контрпрыём не зрабіў? Я ж думаў, калі стойку прыняў, то гатовы, даваў магчымасць зрабіць контрпрыём. Няўжо, начальнік, самба для цябе — цёмны калідор? Калі так — даруй, слабачок, не знаў. Паслухаць цябе — усё на свеце бачыў, усё ведаеш, усюдыход затапіў і ў турму не сеў, а тут... Даруй.— Усміхнуўся паблажліва.—

Лічы, гэта была прафілактыка. А заадно і помста за тое, што ўсіх нас пад манастыр падвёў — у баб ператварыў, кухняй прымусіў займацца. Дык вот, хоць з мяне кухар і неважнецкі, ды ротам хаўкаць, як ты хаўкаў толькі што, наўрад ці буду калі — за сябе і сабе падобных змагу пастаяць,— склаў далоні ў рупар і, яўна жартуючы, весела пракрычаў: — Феня-я!.. Вяртайся, усё ціха-спакойна-а!.. Ау-у!..— счакаў нейкі час і зноў: — Я пажартава-аў — вяртайся-я!..

Мы зноў былі ўсе, апрача Вуцёхі, ля вогнішча, абкружылі яго. У Міхалёва ў руках электраліхтарык — яго незаменны «жучок». Ён зазірае Шчыглу ў вочы, цьмяна-шэрыя, трывожныя, як ноч, прамаўляе:

— Дзіўны ты, Саня... Як віхор, нечаканы, узрывісты. Ніяк цябе не разгадаць.

— Вінюся, Толя... Усяго, брат, не прадугледзіш. Я пажартаваў, а яна — рукі ў ход...— і да Кружліка: — Філат, навошта прывёз сюды гэту кліпсу? Сабе на пацеху? Думаў, будзеш ей тут блазнаваць, а мы дрыхнуць?.. Рыцар аб'явіўся: заманіў дурнуху ў сіло, а каб абараніць — слабачок... Нічога, яна пераражыве гэты страх, не маленькая, калі замужам была. У другі раз, можа, больш абачлівай будзе.

Мы ўтрох: я, Міхалёў і Гардуноўскі выправіліся на пошукі Фені. Агледзелі ўвесь прыазёрны зараснік, гукалі-клікалі — не азываецца маладзічка. Тапак Шчыглоў знайшлі, прынеслі, а Фені нідзе паблізу не было. Пакуль мы хадзілі, Шчыгол згатаваў чаю. Сам ён папіў чыфіру, а Шумок похапкам, апякаючыся, піў з конаўкі чай.

— Давай, Шум, не цягні рызіну, хутчэй дапівай, ды паедзем... Напалохалася, дзівачка, драпанула дай бог ногі, наўскач.

І праўда, Шчыгол з Шумком хутка, як пажарнікі па трывозе, селі ў машыну і пакінулі лагер.

Кружлік ваўкавата, як чужак, ні з кім не загаворваючы, пасунуўся ў палатку і заваліўся спаць.

...Шчыгол з Шумком вярнуліся назад досвіткам. Яны дагналі Феню ўжо на гравейцы. Яна

якраз руку падняла, папрасіла падвезці да пасёлка. Калі ж агледзела свайго крыўдзіцеля ў кабіне, насцярожылася, але, праўда, не пабегла ўцякаць, выслухала яго апраўданку і, зразумеўшы, што менавіта ён, Шчыгол, паклапаціўся за яе, а не Кружлік, супакоілася, нават сказала Шчыглу, каб заставаўся ў кабіне, не лез у кузаў: маўляў, у цеснаце — не ў крываце. Шумок на гэта парушэнне нічога не сказаў: каб толькі дагадзіць Фені, на ўсё гатовы — дзірка ў талоне не страх.

Шчыгол пачаў гатаваць сняданак, а Шумок усё не мог супакоіцца:

— З такімі баламуткамі можна лёгка ў мокрую гісторыйку ўліпнуць. Гэта навука нам.

Пасля сняданка ўсе разышліся па аб'ектах. Наш аб'ект недзе за кіламетр ад табара, якраз пры ўваходзе ў распадак, той самы, дзе ўночы кугакала сава і яхкала лісіца, і на карце ён названы Зялёным. Сапраўды, зелені ў ім багата.

Я толькі нарыхтаваўся быў спускацца ў яму, як Вуцёха дастаў з нагруднай кішэні пісьмо, затрымаў мяне і кажа:

— Верыш, Лёха, чорт ведае што — чыстая лірыка... Не пазнаю жонку — яна так любіць мяне, так любіць... Напісала во, чытаю — і аж плакаць хочацца. Паслухай...— і стаў чытаць:

«Добры дзень, любы татуля наш!

Спяшаемся паведаміць, што ў нас тут усё добра-спакойна. Хоць ты і не хацеў, але з хаты мы перабраліся на летнюю кухню, і Віталік вельмі задаволены такім перасяленнем. Пастаяннае праветрыванне і падтрымка належнай чысціні ствараюць ну проста казачны камфорт і ўтульнасць. Віталік з рэжыму не збіваецца. Ён проста малайчына ў нас. Прачнецца — і агукае. «У-у, агу-у... Та-та-а!..» — кліча цябе, настойліва кліча. Я доўга і цярпліва тлумачу яму на толькі нам зразумелай мове, дзе наш татуля, што робіць і калі вернецца двору...

Знаеш, увечары ён, сынок твой, яшчэ больш пацешны, чым удзень. Доўга гуляе, засынае пры святле настольнай лямпы, да якой усё спрабуе дацягнуцца ручкамі, каб памацаць — матылёк

твой сын! — і апячыся, і зайсціся ў плачы. Кажу яму, што гэта жыжа, што яна пякучая, будзе балець ручка. А ён, неслух, аж разяўляе роцік — здзіўлена і натхнёна глядзіць на лямпачку і так настойліва цярэбіцца з рук, што не ўтрымаць: патрабуе сваё! Увесь па настойлівасці татуля — ты, копія!

Міхасёк, паспрабуй зажмурыцца — і гэту карцінку лёгка і жыва ўявіш сам... Ну, уявіў?

Спіць ён са мною, але не да самага просыпу: уранку мыю пялёнкі, паўзункі, яны сохнуць, пачынаю сняданак гатаваць, а ён усё спіць, адзін. Стану клікаць: «Віталік, Віталік, кашка-малашка гатова, уставай есці!» І верыш, прачынаецца. І зноў за сваё: «Та-та-а...» Ты, канечне, не падыходзіш, і ён — у плач. Я сама бяру яго на рукі, угаворваю, ён не адразу, але змаўкае. Мыю ручкі яму, тварык — пачынаем снедаць. А тут і баба зазірае ў куханьку, ён просіцца да яе на рукі. Яна дакармлівае, а я — бягу на работу. Там што, на рабоце... Ты ж ведаеш — нялёгка. Брыгада наша паменшылася на трох чалавек: Люська Капыра замуж выскачыла — за ваеннага, звёз; Ада Траянава — у дэкрэт пайшла, грозіцца бязбацькавіча нарадзіць: яе ненаглядны Кольча-змей, прайдзісвет, падмануў — кінуў-рынуў усё і з'ехаў некуды, кажуць, туды, адкуль з'явіўся: у Мурманску цяпер, там у яго сям'я... Ну, а Вольгу Барозную — звольнілі нядаўна. Фарбай гандлявала, шпалерамі. Думала, што ў нас тут, як у горадзе, можна цягнуць матэрыялы і ўсё шыта-крыта будзе. Раз удалося, другі, а на трэцім — Галкоў, новы прараб наш, накрыў з палічным. І звольніў, бо зладзеяў, сказаў, у брыгадзе не будзе трымаць ніколі. Крута ўзяў, правільна... Ой, Мішок, работа тынкоўшчыцы нялёгкая, я магла б кінуць, як ты і казаў, але не кіну — падабаецца мне тут. Здалі ўжо тыя тры катэджы, якія ты хадзіў глядзець. Два засялілі, а трэці пустуе: чакаюць новага энергетыка з сям'ёй. На змену Ванькову. А Ванькоў у бальніцы зараз, кажуць, на правай назе вены закупорыліся...

Што гэта са мной? Нейкія ўсе невясёлыя на-

віны табе сабрала і пішу, дурніца. Але ж усё так і ёсць.

У нядзелю, заўчора, прыходзіла дзядзіна твая Алімпа Іванаўна. Прынесла Віталіку касцюмчык матроскі, навыраст, пачку вафляў і каробку цукерак. Гляджу, а яны з лікёрам... Не хвалюйся, я іх сама пажэрла — упілася, хоць песні спявай. Ты ж, відаць, часценька там у чарку зазіраеш? І я тут спрабую не адставаць ад цябе... Раўнапраўе ж!

Два дні гасцяваў мой бацька ў нас. Купіў Віталіку шапку летнюю. Прыгожая шапка — зялёная, і ўдоўжкі па ёй жоўтыя палоскі. Сынок твой цяпер, калі надзене шапку, ну як гарбузік. А так — яму трэба спраўляць цёплае адзенне: світэркі, кофтачкі... Гэта ведай, можа, дзе што і купіш.

Адгадай вот, чым ён зараз заняты, сынок твой? Думаеш, цукерачку ссе? Не. Ён думае — сядзіць на гаршку, як на троне (прывучаю да самастойнасці), а баба і дзед угодліва ўсміхаюцца яму, малойчыкам называюць...

Ой, прыйшла якраз паштарка. Пішы, чакаем. Любім цябе. Будзь здаровы і не забывай нас... Во, чуць не забылася: сны дрэнныя перастала бачыць. Але па-ранейшаму хвалююся за цябе — ад гэтага, мусіць, і ўсе страхі мае. Хутчэй бы ўжо наступала глыбокая восень, з дажджамі і замаразкамі... І мы тады з Віталікам у адзін такі дзень убачым цябе праз акно, расчынім перад нашым дарагім татулем шырака дзверы... Хутчэй, хутчэй прыходзь, халодная восень, выганяй з тайгі нашага татулю, якога вельмі-вельмі чакаюць мама Рая і сын Віталік. І яшчэ: пасылку атрымалі. Як гэта ты налавіў столькі омуля ды яшчэ і засушыў? Дзякуем за клопат. Не крыўдуй, што не адразу напісала — мне, каб сабрацца з думкамі, месяц трэба, вот я амаль столькі і збіралася. Твае — Р. і В.».

* * *

Браканьеры высачылі іх досвіткам з засады, пусцілі па чарнатропе сабак, дзвюх рослых лаек, і тыя пагналі статак усцяж берага. Важак бег

позаду, сачыў, каб сабакі не ўхапілі каго з пагодкаў. Нечакана ім напярэймы выхапіўся з кустоў крыты брызентам легкавік, з яго сполашна загрымелі стрэлы...

Важак з ходу скочыў да прыёмыша, свайго любімца, і ўраз саштурхнуў яго з крутога берага ўніз, на лёд. Слізгануўшыся, ізюбраня на дзіва ўдала прысела наўколенцы, падхапілася і з усіх ног папрастала да процілеглага берага. Было коўзка, а больш за ўсё замінала густая, як багна, сняжніца, што разлілася скрозь па рацэ. Ззаду аж заходзіліся ад брэху сабакі, грымелі стрэлы. Адзін раз па-над ім нешта з пранізлівым свістам прафурчэла і боўтнула наперадзе ў сняжніцу. Ужо ля берага ізюбраня азірнулася — ды так і знерухомела, здранцвела: якраз на сярэдзіне ракі біўся ў прадсмяротнай агоніі важак, далей за ім — шарэла нерухомай купкай маралуха, а крыху збоч ад яе, блізка, адна ля адной, тырчалі над сняжніцай прыгожыя галоўкі самачак-пагодкаў, ягоных равесніц,— яны былі параненыя і паміралі; трэцяга з пагодкаў, з рожкамі, валтузіў на беразе калматы сабака... Лёс астатніх маралух, пэўна, быў такі ж самы — сканалі ад першых жа стрэлаў яшчэ на сухім...

Легкавік паволі ўз'ехаў на лёд — і пайшоў, пайшоў, набіраючы гон, падымаючы бліскучыя веееры пырскаў. І быў ён ужо на сярэдзіне ракі, калі з яго зноў прагучалі запар два стрэлы. Важак торкнуўся мызай у заружавелую сняжніцу, аціх. Быў і наступны стрэл, трэці. Але грому яго ізюбраня не пачула — ён зліўся з пякучым болем у правым спічаку, пры гэтым голаў тузанула так, што аж забалела ў шыі. Ізюбраня спалохана ўскочыла на круты бераг, азірнулася зноў і... ужо не ўбачыла страшнага легкавіка, адно там, дзе ён толькі што гурчаў, зеўрала чорная вірлівая яма, у кругаверці якой, спалохана ўскідваючы рукамі, плёхаўся адзін з ганіцеляў...

Ізюбраня было ўжо недзе далёка ў лугах, калі да яго слыху данёсся неаціхна-жудлівы сабачы сквал.

...Усякі раз, калі прыгадваўся гэты чорны досвітак, ізюбраня паспешліва скіроўвала ў бліжэй-

шы хмызняк, стойвалася і доўга, засяроджана ўслухоўвалася ў сурова-вусцішную трывожнасць тайгі.

## 5

Апоўдні прыехаў Шмацін. Ягоны візіт не быў нечаканасцю — Сінёў яшчэ тыдзень назад, калі вярнуўся з горада, з бензапілой, сказаў, што Шмацін абяцаў наведаць брыгаду. І вось — аб'явіўся. Ды не проста так, а ▪ ініцыятывай — прыгнаў новенькую буравую ўстаноўку; прывёз два мяшкі бульбы-скараспелкі, дзесяць качаноў — таксама скараспелкі — капусты, паўмяшка цыбулі рэпчатай і сорак набояў для нашай «двудулкі».

Здаецца, больш чым хто быў здзіўлены гэтым Сінёў — ён не прывык, каб за яго нехта клапаціўся. Бульба ды капуста, цыбуля і набоі для стрэльбы — гэта, вядома, добра, усё якраз дарэчы. А вось з буравой устаноўкай Шмацін пралічыўся: хацеў дагадзіць, аж не ўдалося. Пра што Сінёў адразу і сказаў яму:

— Яўген Ігнатавіч, не трэба нам гэтая каралева. Яна пясочак любіць, а тут...— пасміхнуўся,— грубы для яе корм, пудовыя гранулы.

— Што, камення многа? Дык на тое ж і зямля — каменне ўсюды ёсць,— не губляецца Шмацін, бы не верыць усё роўна, хаця як не верыць, калі яма побач, валуны-падчарэўнікі ляжаць наўкол: адзін ▪ іх даставалі нават пры дапамозе машыны, тросам.— Махнём на тыя аб'екты, што ў даліне, і канец праблеме.

— Колькі тых аб'ектаў? — разводзіць рукамі Сінёў.— Мы ж іх амаль усе і парабілі ўжо. З даліны пачыналі, там грунт хутчэй адтайвае... Засталіся адно туры́, дык гэта ўсяго на тыдзень-паўтара работы для маёй капэлы, уручную.

— Ну во, а мы за два дні ўправімся. Усё ж не рукамі, а? — стаіць на сваім Шмацін.

І тады Сінёў выкладае свой апошні козыр:

— У такім разе, Ігнатавіч, напішы мне пісьмовае распараджэнне, каб пасля не папікалі на сходах, што я ўхайдокаў новую буравую ўстаноўку.

— Ты пра што гэта? Ды я сам буду выпрабоўваць яе.

— Выпрабоўвай, калі ласка, але, кажу, не пры мне і не на гэтым грунце, камяністым...

— Правільна, і без машыны ўправімся,— Вуцёха стаяў побач і, канечне ж, не мог не выказацца. Магчыма, ён і не шкадаваў машыну так, як Сінёў, другое яго хвалявала: баяўся, што механізацыя адмоўна падзейнічае на заработкі.— Знаем мы, як гэта ўсё робіцца: замацуеце за намі бурустаноўку, а ставачкі тут жа зрэжаце напалову. Устаноўку на валунах угробім, будзем уручную бузавацца — так ці не? — а ставачкі зніжаныя...— махнуў у адчаі рукой, паказаў у бок дарогі: — Прыкацілі вы, Яўген Ігнатавіч, сваім ходам, вот і вяртайцеся гэтак жа. Не трэба нам механізацыя. Мы і самі не ўломкі, нешта можам.

Шмацін, нават не зірнуўшы на Вуцёху, даволі строга сказаў:

— Тваё дзела, малады чалавек, такое: з носа кап — ротам хап... Дачаснае панікёрства!..— да гэтага ўсмешлівыя вочы яго пастражэлі. От цяпер яго позірк перакрыжаваўся з Вуцёхавым.— Баішся, значыць, што напалову стаўкі зрэжам?.. Бач, куды загнуў. Што ж, я хацеў як лепей, думаў, абрадую вас, тэмп работ паскорыцца. Аж, выходзіць, сам жа і вінаваты, паспяшаўся.

— Не толькі ж нам быць вінаватымі,— ветліва, але незалежным тонам дадаў Вуцёха.

— Замнога на сябе бярэш, таварыш,— заўважыў Шмацін і павярнуўся да Сінёва.— Заўтра ў дзесяць раніцы праведу кантрольнае апытанне ўсіх членаў брыгады па правілах бяспекі. Папярэджваю: хто мінімум не здасць — таму тут не месца.

— Толькі не палохайце, Яўген Ігнатавіч,— захадзіў паўз Шмаціна Вуцёха, узрушыўся.— Я не горш за вас ведаю ўсе правілы бяспекі, магу хоць зараз здаць гэты ваш мінімум ды і максімум таксама. А от за тое, што вы ў такую далячынь спецмашыну без патрэбы пагналі і гэтак жа, сваім ходам, назад прыйдзецца шураваць, будзь мая ўлада — звольніў бы вас.

— Уё-ёй-і!.. Ды ты грозны, бачу,— Шмацін, аднак, нікольк не зазлаваў, наадварот, прымірэнча маргнуў Вуцёху, спытаў: — Целаахоўнік Сінёва?

— Памочнік,— коратка кінуў Сінёў.

Шмацін шырока ступіў да Кружліка, які стаяў воддаль, хлэпнуў яго па плячы. Кружлік чуць пахіснуўся, адступіў назад. Шмацін назнарок папіхнуў яго ў грудзі, здзіўлена выгукнуў:

— Ну во — сцяна-сцяною, глыба!.. А я думаў, цябе лёгка з месца збіць. Аднак — цвёрды ў нагах,— азірнуў Кружліка зверху ўніз.— Дык чаго маўчыш? — спытаў з несхаванай нездаволенасцю, кпліва.— У тваім праекце фігурыруе буравая... Бярыся — ваюй за сваю ідэю, даказвай, пераконвай прыкладам.— Кружлік не азываўся, і Шмацін зноў да Сінёва: — Можа, ён тут у вас не намеснік ужо?

— Чаму ж — намеснік,— адказаў Сінёў.

— Лічыцца па дакументах,— падкалоў Кружліка Вуцёха.

Шмацін, не перастаючы запытальна глядзець на Кружліка, сказаў Вуцёху:

— Ён маўчыць, а ты, значыць, намеснічаеш, так? Стараешся за двух?

— Стараюся, бо не хачу маўчаць, калі бачу няправільнасць,— Вуцёха трымаўся даволі карэктна і незалежна, і гэтым мне ён падабаўся — не пазнаць Вуцёху.

Шмацін:

— Гэта няблага, калі рабочы заўважае няправільнасць. Я цябе хвалю. Ты — рэаліст, ведаеш, чаго хочаш, па што прыехаў. Толькі ж мне цікава пачуць, чаго ён хоча, намеснік? — падышоў да Кружліка, узяў яго за плечы, павярнуў да сябе — твар у твар.— Ну, гавары пра сваё набалелае. Пры ўсіх гавары, не маўчы... Кім не задаволены, хто гэты чалавек, гавары, ну?..

— У мяне — асабістае...— Кружлік, здаецца, сілком выпнуў з сябе гэтыя словы.

— Асабістае? — Шмацін аж троху выцягнуўся ўдоўжкі, асабліва ў шыі, крутнуў галавой.— Што ж, у такім разе ні я, ні калектыў тут ні пры чым. Хаця — пры добрым калектыве, а ваш, ду-

маю, такі і ёсць, добры, зладжаны калектыў, дружны, усё можна: і парадзіць, і ад дурнога адвадзіць... А то, можа, тут пагаворым, а? — выдзеліў назнарок «тут», маўляў, у полі, пры хлопцах, каб было на карысць справе.

— Кажу ж вам: асабістае ў мяне,— ухіліўся ад размовы Кружлік.— Абыдуся без парад і спачуванняў.

Шмацін:

— Калі кожны з нас пачне вось так пераносіць сваё асабістае на вытворчасць, будзе ставіць адно да другога ў залежнасць, то што ж атрымаецца: не паладзіў з жонкай — і ў кусты, на работу не іду, атрэсваю рукі? Па-мойму, дык якраз наадварот павінна ўсё быць: пад час сямейнай расхлябіцы і ўзаемнага непаразумення толькі ў рабоце і можна знайсці душэўнае супакаенне. Работа і час — пакуль што адзіныя лекары знерваванай душы.

— Не трэба, Ігнатавіч, гэта ўжо лекцыя.— Кружлік апусціў вочы, мыском бота катаў каменьчык — туд-сюд.

Шмацін нейкі час стаяў моўчкі, назіраў за Кружлікам, пасля звярнуўся да Вуцёхі, які сабраўся ўжо ісці некуды, можа, нават на спачын:

— А вось ты не ўцякай, ёсць размова.

— Пра што вам са мной гаварыць, Ігнатавіч? — пакрыўджана бліснуў вялікімі вачыма Вуцёха.— Маё дзела старана: з носа кап — ротам хап... З вамі я не хачу заглыбляцца ў душашчыпальныя размовы. А тое, што вы рашылі ставачкі абкарнаць — не сакрэт. Каралькоў з гэтай ідэяй каторы год носіцца, нябось загад падрыхтаваў і пад сукном трымае, так ці не?

— Не мерай-ка ты, хлопец, усіх нас на свой аршын,— узрушана кінуў Шмацін. Счакаў — і ўжо больш стрымана, але выразна: — Уласніцкі ён у цябе, твой аршын, задужа кароткі.

Сінёў і гэты раз узяў пад апеку Вуцёху:

— Ідзі, Міша, лепш дзелам займіся — пагавары з хлопцамі, падкажы, калі хто чаго не засвоіў... Словам, празандзіруй іх вытворчы багаж.

І праўда, Вуцёха як толькі адышоў убок, да сваёй палаткі, так і паклікаў нас, рабочых, да ся-

бе, сабраў у кружок, і мы недзе з гадзіну гаварылі аб правілах тэхнікі бяспекі. Пасміхаючыся, падджартоўваючы, Вуцёха разгарнуў карту, зазірнуў у яе — і ўчыніў Корневу экзамен:

— Раскажы нам, прафанам, пра гатоўнасць брыгады да лесапавалу, скажам, у 25 квартале на пляцоўцы 200 на 400 метраў,— зноў унурыўся ў карту, дадаў: — Мы знаходзімся зараз ва ўрочышчы Цёмны Кут.

Корнеў гатоў старацца — запусціў сваю катрынку, напеўна, без лагічных прыпынкаў, залапатаў:

— Лесаматэрыял для будаўніцтва трыянгуляцыйных знакаў і зрубаў да геадэзічных пунктаў, рэпераў і туроў, нарыхтоўваецца з дазволу мясцовага лясніцтва ў прысутнасці лесніка. Тэрыторыю ўчастка трэба папярэдне ачысціць ад небяспечных дрэў — гнілых, завіслых, сухастою. Усе інструменты, неабходныя для лесапавалу і ўборкі тэрыторыі, павінны быць спраўныя...

Адчувалася, што ўвогуле ведаем тое-сёе з гэтых правілаў, асабліва Корнеў. От яго і дамовіліся напусціць заўтра на Шмаціна, ён на любое пытанне адбарабаніць як па пісанаму. Корнеў, зрэшты, ахвотна ўзяў на сябе гэты абавязак, і Вуцёха скончыў заняткі, прапанаваў — што ён яшчэ можа прапанаваць? — згуляць у храп. Такія-сякія грошы ў хлопцаў былі і цяпер, можна сказаць, сталі як лішнія: выявілася, Шмацін прывёз і аддаў Сінёву недзе больш за тысячу рублёў, і, трэба спадзявацца, не абдзеліць кожнага. Карцёжнікі падаліся ў палатку, дзе не так даймаюць камары, уселіся там хто на чым і распачалі гульню...

А ўсё ж такі мы займелі сабаку — сучачку Гулю, двухгадовую вяртуху-няўседу. Забаўнае сабачанё: вушы старчма, хвост абаранкам, па баках — жаўтаватыя падпаліны. Калі б нехта з нас і захацеў вызначыць яе пароду, то гэта, відаць, немагчыма зрабіць, бо, здаецца, у Гулі і ад сібірскай лайкі нешта ёсць, і ад рускай гончай, і ад каўказскай аўчаркі... Ад усіх пакрысе ўзяла і хітрасці, і кемлівасці, і спрыту.

Я спусціў яе з ланцужка — хай прагуляецца. Кінуў наперад абструганую лясачку, і Гуля ахвот-

на і даволі спрытна прынесла мне яе назад. Я зноў, ужо далей, закінуў. На гэты раз Гуля не ўзяла лясачку ў зубы, адно падбегла да яе і стала. Дачакалася мяне — і зноў наперад. Сказаць, што Гуля неразумная, відаць, няможна — хутчэй яна ў дадатак да ўсяго яшчэ і сур'ёзная.

Я знарок захапіў з сабой бінокль — каб здалёк паназіраць, як Гуля палюе на суслікаў. А іх такі тут шмат, суслікаў. Гэта на дзіва пацешныя і даволі асцярожныя палявыя зверучкі. Куды ні паглядзі — і ўсюды адзін-два абавязкова стаяць на лугавіне — непаварушна, салдацікам, акурат вартавыя, выставіўшы пярэднія лапкі перад сабой, нібы трымаюць нейкую там сваю зброю. Гуля выдатна ловіць гэтых кемлівых спрытнюг. Палюе на іх так: выбягае з кустоў і лётма ляціць, лужком, у стан «салдацікаў». Тыя кідаюцца ўцякаць. Іх многа, і адзін, а то і два з сотні заўсёды не паспяваюць у час схавацца ў норку. Гуля хапае гэтых разявакаў... Больш проста, але не менш пацешна палюе яна і на саранчовую сібірскую кабылку, якой тут на дзіва шмат. Гуля высочвае гэтых насякомых проста на ляту, па гуку,— брынклівым, нудотным, што ідзе ад крылаў, і ловіць адразу, як толькі саранча сядае на зямлю. Увогуле ж, Гуля заўсёды ўвішная тады, калі галодная. Яна ніколі, як я заўважыў, не чакае снядацак ці абед, не спадзяецца, як мы, на кухара. Для яе тут — выгода поўная. Вось ужо і праўда: сабаку ногі кормяць.

Як мы набылі Гулю? Вельмі проста: праязджалі міма пакінутай кашары, спыніліся напіцца з калодзежа, і Гуля, радая людзям, выйшла да нас. Я паманіў яе, і яна далася пагладзіць, нават узяла з маіх рук пачастунак — цукерку. Не супраціўлялася, калі яе браў на рукі і садзіў у кузаў машыны...

Вярнуліся з Гуляй, можа, гадзіны праз дзве, не меней. На вячэру, канечне ж, спазніліся, і я распаліў цяпельца, паставіў чайнік на вуголле — чай люблю толькі гарачы. Макарона па-флоцку была яшчэ троху цёплая. Гуля адмовілася ад макароны, затое, праўда, выхлябтала ледзь не «паўмяча» вады. «Паўмяча»? Гэта Шумок зрабіў ёй арыгіналь-

ную «міску» — з дзіцячага гумовага мяча, прабітага, непатрэбнага ўжо, зрэзаў больш як палавіну і прыладкаваў краі да абадка з фары.

Шмацін з Сінёвым сядзелі за другім сталом, які быў вынесены аж на самы бераг горнай рачулкі, размаўлялі ціха, спакойна. Камарэча вілася наўкруг, але яны, пэўна ж, апырскалі сябе «дэтай», супрацькамарынам. Напачатку я не вельмі і прыслухоўваўся да іх сцішаных галасоў, пасля ўсё ж навастрыў вушы.

Шмацін:

— ...вытворчы графік апярэджваецца, а гэта — зарука таму, што калі ўсё так і далей будзе ісці, то з планам справіцеся.

— Хлопцы добрыя... Такіх дружных, скажу, яшчэ і не было ў мяне. Малайцы, заўзятыя рабацягі, і паводзяць сябе прыстойна, паважліва. А помню ж — у-у — такія субчыкі рабілі, што ім і «вышка» не ў страх. Адчаюгі. Адзін, значыць, прыкінуўся ягняткам, гэтакім прычумленым прасцячком, просіць-моліць: «Вазьмі, начальнік, з сабой у тайгу — хоць на адзін сезон вазьмі, выручы,— і чуць не плача, слёзы на вачах.— З жонкай развёўся — сабе другога знайшла... Завал, невязуха». Паверыў, узяў да сябе ў брыгаду. А ён, гадзёнак, збег з заключэння, чужы пашпарт падрабіў. Страшны быў з выгляду — абгарэў, і я, значыць, пашкадаваў яго.

Шмацін:

— Нагадай прозвішча ўцекача, нешта не помню.

— Правільна, той год ты якраз у партшколу паступіў, паехаў у Маскву, а мяне ў тэхнікі перавялі, на тваё месца, і я ўжо сам, без цябе, дакамплектоўваў брыгаду, з мясцовых узяў аднаго. Прозвішча яго Сулядаў. Ціхі, памяркоўны — залаты, здавалася, чалавек. Ён, зрэшты, і быў такі. У агонь і воду пасылай — пойдзе і ўсё, што скажаш, зробіць... І ўжо недзе пад канец сезону запрашаюць на Сулядава характарыстыку. Дык я такую выдаў, што сам ён, Сулядаў, калі прачытаў, то аж праслязіўся. Праз тыдзень так, пад вечар, прызямляецца ля нашых палатак верталёт. Сулядаў затрывожыўся, гаворыць: «Сцяпанавіч, гэта па

маю душу,— і стаў збірацца.— Я цяпер ужо не такі, як быў, а такі, якім вы мяне ўбачылі,— кажа мне так.— Заўсёды буду помніць вашу дабрату, не падвяду вас». Яго забралі, пасадзілі ў верталёт. Начальнік канвоя, старшы лейтэнант, здзіўлены: «Мы гэтага «ціхага» паўгода шукаем, з ног збіліся, а ён тут курортнічае сабе на прыволлі.— Зняў картуз, узмахнуў рукамі, размяўся і выдае такі жарт: — Вазьму во дый сам сюды збягу, буду хадзіць у вас за ад'ютанта, як Сулядаў, і гора не ведаць». Пайшлі мы з ім прагуляцца, і ён вось што расказаў пра Сулядава. Абгарэў, значыць, так: ехаў п'яны на матацыкле, руль падвярнуўся, і ён урэзаўся з ходу ў прыдарожны слуп, вывіхнуў руку, нагу зламаў. Але п'яны ж. Паякатаў трохі дый заснуў. Бензін з краніка ўвесь час, пакуль ён спаў, цёк яму на куртку. Прачнуўся, закурыў. Зрабіў некалькі зацяжак — іскра ўпала на крысо курткі, агонь ахапіў і яго, і матацыкл... А тут якраз праязджаў міма Фелікс Бычынскі. Спыніў трактар, хапіў вогнетушыцель і збіў агонь з чалавека, выратаваў ад яўнай гібелі, адвёз свайго будучага забойцу ў бальніцу. Пацярпеўшы страціў прытомнасць па дарозе — і не дзіва, апёкі атрымаў цяжкія, асабліва дасталася твару і рукам... Выйшаў з бальніцы Сулядаў пачвара пачварай, стаў піць яшчэ больш і прагавіцей. І дакаціўся да забойства — звёў са свету дваццацітрохгадовага равесніка свайго. Прыйшоў дамоў, павячэраў і пахваляецца жонцы: «Фелікса сёння накалоў. Ён бацю майго пакрыўдзіў — за прывозку двух прычэпаў дроў два чырвонцы спагнаў, ханыга. Хай цяпер паякоча, мо пакладзістым стане». Пачуўшы такое, захвалявалася жонка: «Як гэта — накалоў?» Яна пабегла да Феліксавай жонкі і выявіла, што тая за частыя п'янкі вытурыла Фелікса з дому. І не проста вытурыла, а добра аддубасіла ў дадатак. Фелікс заявіў на яе ў міліцыю, да заявы прыклаў як рэчавы доказ ёмкае палена, якое тут называюць с ц я г а м. Ім, гэтым сцягам, і быў учынены самасуд мужу за растрачаную на гарэлку палучку. У міліцыі судовую справу не сталі заводзіць. Гэта пакрыўдзіла Фелікса. Дзе ж справядлівасць? Ён сабраў чамадан і падаўся ў аэра-

порт, каб назусім пакінуць пасёлак. Дзень выдаўся хмарны, з дажджом. Самалёт не прыляцеў, і Фелікс пайшоў у гасцініцу аэрапорта — трохпакаёвую хатку [redacted] вузкім калідорчыкам і лаўкаю паўз сцяну. Сустрэў там Сулядава і незнарок, па прывычцы называць за вочы Смажонікам (яго празвалі так пасля пажару), аклікнуў: «А ты чаго тут, Смажонік?» Пагаварылі, пасля зайшлі ў буфет, узялі пяць бутэлек пладова-ягаднага і ўсё віно выжлукцілі ўдвух. Ідучы ў гасцініцу, Сулядаў выказаў крыўду Феліксу, што, маўляў, за прывозку дроў ён па сем шкур дзярэ з людзей ды яшчэ і абражае пасля... І тут жа, нядоўга думаючы, у знак помсты, садануў Фелікса завостранай на шыла адвёрткай пад левы бок. Фелікс збочыў з дарогі і ўпаў, а Сулядаў пабрыў дахаты...

Хлопцы, відаць, усё яшчэ рэжуцца ў карты — у палатцы галас, рогат. Чуваць пераважна голас Шчыгла. Сёння ён ну проста распеоразаўся — сыпле досціпы налева і направа, адкуль што і бярэцца ў яго.

Так, ён умее жартаваць, Шчыгол, і, можа, як ніхто [redacted] нас. Я ў гэтым, зрэшты, пераконваўся ўжо не раз. Неяк расказаў нам Корнеў анекдот пра гарбаценькую Зізі і здагадлівага Жана, які перад тым як сустрэцца вечарам з каханкай, загадзя, удзень, выкапаў ля плота ямінку... Расказаў — і аж самому няёмка стала: атрымалася непрыстойнасць, і толькі. Праз колькі дзён гэты ж самы анекдот выдаў на-гара Шчыгол, і ўсё ў ім было: і досціп, і вясёлы гумар, і настрой. Усё да месца, без пахабшчыны і абразы ў адрас шчаслівай Зізі і не менш шчаслівага Жана.

Зараз Шчыгол даймае Вуцёху (па ўсім відаць, Міша выбіў яго з гульні, абадраў як ліпку), які, дзівак, прачытаў яму сёння ў абед усе тры жончыны пісьмы:

— Заявіцца Міша-татуля па восені дадому, глядзіць, а ў яго ненагляднай Раісы-жоначкі жывот аж на нос лезе — аграмадны такі жывацішча з новым галавастым вуцяшонкам, гы-гы-гы... Міша разгублены, пачынае ліхаманкава падлічваць месяцы, тыдні, дні, сумняваецца: а раптам не яго работа? Рая, шчаслівая, падступаецца і цалуе му-

жа, кажа: «Падзівіся на мяне, ступішчу... Казала ж няможна, бо сама пара загрубець, а ты не паслухаў, настаяў,— бярэ яго далонь і кладзе трохі ніжэй пупа, гы-гы-гы...— Чуеш,— пытае ўзнёсла,— ножкай дрыгае. Відаць, зноў хлопец, бо ўжо цяпер такі ж настыра, як і ты, Мішок».

Заліваюцца хлопцы, а мне тым не менш хочацца да Сінёва і Шмаціна. Але ж да іх проста вось так, нязваны, не падыдзеш. І я схітраваў — абмінуў палаткі і кустамі выйшаў да ручая, гэта чуць ніжэй таго месца, дзе сядзелі за сталом Шмацін з Сінёвым. Тут іх стала, ля вады, на дзіва добра чуваць.

Сінёў:

— ...гарэлкай Буцяк заманьваў да сябе ў брыгаду, і да яго ахвотна ішлі. Забаронны прыём — гарэлка. А ён штогод ім карыстаўся. Во так, як мы цяпер тушонкі набралі, ён запасаўся гарэлкай.

— Што раўняць — ішлі да нас тады ў рабочыя крымінальнікі былыя ды адпетыя алкашы, гультаі-белаdensручкі...— Шмацін, падобна, наважваецца заглыбіцца ў гісторыю: што ж, паслухаю.

— Бралі такіх, бо з імі працей было,— не пагаджаецца з ім Сінёў.— А каб не разбегліся — стараліся гарэлкай завадзіць.

Шмацін:

— І гэта праўда. Аднаго кутузкай прыпалохаў, другога — напаіў да белай гарачкі... На тым і выхаванню канец. Спяшаліся, выхоўвалі па скарочанай праграме, каб не пазней як праз дваццаць гадоў убачыць гранічна новага чалавека — працавіта-сумленнага, фізічна-развітага, з багатым духоўным багажом, не сквапнага на чужое... У першы сезон я сам, як Буцяк, зрабіў: набраў гарэлкі, наперад грошы з кожнага вылічыў... Пакуль не выжлукцілі гарэлку, скажу, работы не было. Якраз гэты наш Кадзіла, герой сёлетняга сезону, яшчэ навічок тады, вырваўся ў вёску — пайшоў без дазволу. Дамовіўся з нейкай там самагоншчыцай, паабяцаўшы разлічыцца з ёй пасля, калі грошы атрымае, і тая, дурніца, аддала яму ўсю гарэлку — прыцягнуў поўны рукзак бутэлек. Зноў сталі баляваць. Мала. Пайшлі гуртам у вёску,

бражнічаюць там, на работу забыліся. А са мной хлапчына адзін застаўся, юнак, толькі школу скончыў. Ён мяне слухаўся, праўда. Пакінуў я хлопца гэтага пры табары, пайшоў таксама ў вёску — нешта ж трэба рабіць, вярнуць трэба хлопцаў да работы. Купіў тры бутэлькі спірту, а заўмагу сказаў, каб ён увёў у вушы хлопцам, што начальнік, маўляў, набраў спірту цэлы рукзак. Вярнуўся ў лагер, мы закончылі аб'ект і падаліся на другі. Адну палатку забралі, свае рэчы забралі і ўсе неабходныя інструменты — нагрузіліся як панесці. А ім запіску пакінулі, каб шукалі нас там і там. Дзень іх няма, другі... Заяўляюцца нарэшце. Галодныя, змораныя, але сустрэчы, бачу, рады. Тыдзень працуюць люба-міла, як шоўкавыя, а тады ўсё ж не вытрымаў адзін і стаў падбухторваць астатніх, каб мяне звязаць, забраць спірт і выпіць. Пад раніцу, чую, грабуцца, удвух, каб звязаць. А я лёг і не раздзеўся, боты таксама не зняў, знарок. Яны наваліліся на мяне, я аднаму ботам у лоб, другому ў жывот — раскідаў... Паказаў ім свае спрыт і сілу. Прыціхлі, не чакалі такога павароту, разгубіліся. А мой хлопец, памочнік, згатаваў добры сняданак, пасадзіў іх за стол, я выставіў гэтыя тры бутэлькі спірту. Глядзяць — вачам сваім не вераць, радуюцца. Думаюць, пачну зараз разліваць спірт і паддобрывацца да іх, упрошваць. А я не разліваю, маруджу. І тут Кадзіла нацэліўся ўхапіць бутэльку і ўцячы. Я — за бутэлькі і... на вачах у іх паразбіваў адна аб адну, а ім закамандаваў, каб збіралі манаткі і — на ўсе чатыры стораны... Крута ўзяў, але правільна. Адзін, праўда, змыўся. Ды назаўтра вярнуўся, паабяцаў, што выправіцца, будзе слухацца... І ніхто з іх больш ні грама не выпіў, пакуль не скончылі ўсе работы.

Сінёў:

— Ёсць, канечне, і сярод гэтых маіх арлоў ахвотнікі наступіць на корак. Ды іх мала, супраць калектыву, як ні круціся, не папрэш. Гэтым перш за ўсё і важна ўзбуйненне брыгады. Адчуваецца калектыў, яго моц.— Сінёў ажывіўся.— У мяне, ведаеш, ёсць гумарыст, музы́ка, паэт, празаік... Ды што гаварыць — цікавыя хлопцы ў брыгадзе, кож-

ны за душой нешта сваё трымае, адметнае. Карацей, змястоўныя, не пустыя. Узяць Бокуша. Вышэйшая адукацыя ў чалавека, а ён — рабочы, лічы, землякоп. І не па доўгі рубель прыкаціў — імкнецца чалавек зразумець сябе самога праз другіх, такіх жа, як і сам, а заадно і сусвет. З ім цікава пагаварыць. Неяк кажа мне: «Сцяпанавіч, успомніце ўсе свае жаданні ў маладосці, і вы здзівіцеся, што многія з іх ужо збыліся і астатнія,— кажа,— таксама здзейсняцца». Я ўсумніўся ў гэтым, дык ён стаў тлумачыць, што такой думкі быў вялікі Гётэ, а вялікія тым, маўляў, і вялікія, што ў галоўным не памыляліся ніколі. Бачыш, важна ў галоўным не памыліцца, і ён гэта ўсё разумее. За Асаўцову зрабіў мне прапясочку, прапануе выклікаць яе і даручыць ёй кухню... Сапраўды, кухня скоўвае нас.

Шмацін:

— Бач, як загаварыў. А навошта ж жараб'ёўку праводзілі?

— Хм...— нечага асекся Сінёў.— Кружлік укліні́ўся і ўсе карты пераtасаваў. Угледзеў маю сувязь з Асаўцовай, Каралькову набаяў... Ніякай сувязі ў нас не было і не можа быць.

— І правільна, не павінна быць. Асаўцова, думаю, таму і хінецца да цябе, што верыць, як бацьку... Глядзі тут, гайкі не расслабляй, будзь строгі і да сябе таксама.

— Не расслабляю гайкі. Але і падвінчваць іх таму-сяму не ў маіх сілах... Я пра Кружліка. І сёння — сышоў некуды і Шумка з сабою звёў. Адасобнічкі.

— Што пра Шумка скажаш?

— Як вадзіцель — не благі, за машынай глядзіць. Але нейкі барахольшчык, старызну ўсякую збірае, абразы калекцыяніруе... Бяру яго на пабудову знакаў, прылучаю да працы. Два знакі парамантавалі ўжо. Кружлік ухіляецца ад фізічных нагрузак. Яго грашыма не завабіш, ведае: сваё атрымае.

— А цяпер — пра сябе раскажы... Чым парадуеш?

— Пра сябе?..— у голасе Сінёва халадок капрызу.— Хваліцца няма чым...

Шмацін паблажліва:

— Эйш, завіхляў. Што, паслабку просіш? А ўспомні, успомні нашу размову перад адпраўкай сюды. Ну, пра што мы тады гаварылі, помніш, не забыўся?

— Помню, канечне. Але ж я нерашучы на гэты конт... У маім узросце, відаць, не варта пра гэта думаць. Які з мяне камуніст, сам прыкінь. Малаадукаваны, просты рабацяга... Ды і заблытаўся я ў чатырох саснах — усё яшчэ не бачу выйсця. Стаю на раздарожжы.

— З жонкай, значыць, ладу не будзе?

— Ніколі,— памаўчаў і дадаў: — Назад толькі ракі поўзаюць.

Шмацін:

— У такім разе — падавай на развод, няхай жанчына супакоіцца і жыве так, як ёй хочацца. Развяжы і ёй рукі, і сабе.

Сінёў згодліва:

— Даўно б ужо гэта зрабіў, ды яна грозіць, што ад аліментаў адмовіцца... І дачку не пакіне на маім прозвішчы. Праз год Святланцы дзесяць споўніцца. Паеду да іх, Новы год мы заўсёды разам праводзім... Святланка думае, што я ў добрых адносінах з маці, яна нічога не ведае.

Шмацін:

— Не ўскладняй сабе жыццё, Іване... Але — зноў жа! — рабі ўсё так, як падказвае сэрца, нікога не слухайся.

Сінёў:

— Дык я і не слухаюся.

Шмацін:

— Не лаві на слове. Вот скончыш работы, вернешся — і там ужо я табе спуску не дам, абяцаю. І каб нараканняў на ўзрост больш не чуў ад цябе. Вунь, Пятроўна наша, радыстка, не ўступае рацыі Асаўцовай, нават і блізка не падпускае... Ёй на пенсію пара, а яна строчыць заявы, каб хоць годзік далі яшчэ парабіць. Дзве скаргі напісала на Каралькова, абураецца, што ён прапанаваў ёй другое месца... Рэактыўная бабка — на сухім паліве работае.

Ат, пра Пятроўну нейкую, з якой пясок трусіцца, а ёй ударнічаць хочацца, не цікава слухаць.

Дзівачка яна, гэта Пятроўна. Шчыгол бы сёння, казаў, на пенсію пайшоў бы. Зайздросціць пенсіянерам, бо лічыць, жытуха ў іх царская: «казла» ў парку забіваюць, рыбку вудзяць, спяць колькі хочуць, а крабчыкі ўсё роўна цякуць у кішэню... Ён нават турбуецца, каб к таму часу, калі прыйдзе пара яму ісці на пенсію, не ліквідавалі гэту лафу...

Ужо добра змерклася, і калі я зайшоў у палатку, убачыў: Шчыгол спрабуе запаліць ліхтар «Лятучая мыш» і не можа. Вуцёха трымае ў руках пустую, з-пад аптэчкі скрыначку з чырвоным крыжыкам на вечку (парашкі, таблеткі, пластыры, вату і бінты ён сёння закапаў, бо ўсё адсырэла і папсавалася) і час ад часу падкідвае яе ўгору і ловіць. Шчыгол перастаў няньчыцца з ліхтаром, пасля нечага пасунуў яго ў бок ад сябе — і як забыўся на тое, што трэба святло. Я ўзяўся запаліць ліхтар, і Шчыгол, глянуўшы ў мой бок, стоена ўсміхнуўся. З чаго б гэты яго смех? Ага, укруціў, ахламон, кнот так, што той упаў на дно бачка. Міхалёў, убачыўшы такое, раззлаваўся, адклаў кнігу ўбок і ўзяўся наводзіць ліхтар. Перапала ад яго і Шчыглу, і мне заадно. Запаліў ліхтар, узяўся чытаць кнігу. І тут Вуцёха гучна пытае:

— Хлопцы, хто любіць чытаць пісьмы, прашу падняць рукі?

Лес рук. Гэта значыць, што ўсе мы любім чытаць пісьмы. Хаця — не, Міхалёў не прарэагаваў на заклік Вуцёхі. Але, відаць, апрача мяне, ніхто гэтага не ўбачыў.

— От і я люблю чытаць пісьмы, жончыны, канечне,— шчыра прызнаецца Вуцёха.— У мяне ёсць прапанова: давайце ўсе свае пісьмы будзем сюды во складваць,— ён зноў падкінуў скрыначку і злавіў.— Згода? — падміргнуў аднаму, другому — і, не хаваючы сваёй радасці, дадаў: — Мая Раюха піша такія задушэўныя пасланні, што не грэх і вам пачытаць, хай ляжаць тут.— Паклаў у скрыначку тры пісьмы ў аднолькавых — блакітных — канвертах, пафасна выгукнуў: — Эпісталярная бібліятэчка нашай брыгады заснавана! Хто хоча — чытай, захапляйся... але і свае ўсе пісьмы, будзь ласкаў,— паляпаў далонню па веч-

ку скрыначкі,— сюды таксама пакладзі... Мы так рабілі, калі я служыў у арміі. І ведаеце, некатарым хандрознікам памагала, яй-праўда.— Запыніў свой насмешліва-ўрачысты пагляд на Шчыглу, звярнуўся да яго: — Прылучайся, отрак, да культуры-літаратуры — і ўсявышнія,— паказаў у бок суседняй палаткі, дзе ўжо ўкладваўся на спачын Шмацін, а з ім быў і Сінёў,— даруюць табе ўсе грахі твае... Амінь.

Агульны смех, жарты.

Шчыгол пачувае сябе пераможаным, і гэта штурхае яго ў наступ на Вуцёху:

— Міша, а праўда, што твая малодшая сястра Галя аж у Мінску?.. Дзе яна там вучыцца? — пачаў ён здалёк і ўпэўнена. Дзіўна, які ўсё ж Шчыгол розны бывае — ну проста ўсякі, пад любы момант.— Даў бы ты адрасок Бокушу, хай яны пазнаёмяцца... Калі ў яе такія выразныя вочы, як у цябе, то хлопец з ходу закахаецца.

Вуцёха ганарліва ўскінуў галаў, сказаў:

— Па-першае, не Галя, а Гелена. Жыве яна ў цёткі Леакадзіі, а не ў якім-небудзь там інтэрнаце, без прыгляду. Вучыцца на другім курсе ў наргасе. Нікому з вас яе адраса не дам.

Шчыгол:

— У-у!.. Дык яна дарослая ўжо, студэнтка... А скажы, па бісектрысцы пісае, не?

Зноў рогат — і такі, што, здаецца, аж палатка ўскідваецца.

Вуцёха сумеўся, стаіць, як апараны кіпнем з ног да галавы, лыпае вачыма і — ні слова ў адказ. Я паспяшаўся заступіцца за свайго няхай і не блізкага, але ўсё ж земляка — паспрабаваў скіраваць размову ў іншае рэчышча.

— Хлопцы,— усклікнуў,— у каго «Разрыў-трава» Калашнікава? Я набыў кнігу не для таго, каб яна згубілася.

— У мяне,— у нос прадудзеў Шчыгол.— Але ж я яшчэ не пачынаў чытаць, гы-гы-гы...— Гэты яго заўсёдна-ўедлівы смех-рагаток здаўся мне да абразы брыдкім.

— Паберажы зрок на старасць,— сказаў я.— А то крабчыкі не будзе як палічыць.

— Хоць ты, бульбаш, не выступай... Я, невук,

сабраўся за сезон тоўсты ро́ман прачытаць, а маю ініцыятыву на карні сякуць. Дзе ж справядлівасць? — Шчыгол — такога з ім яшчэ не было — на дзіва паслухмяна падняўся, схадзіў у сваю палатку і вярнуўся з кнігай, шыбнуў яе мне.— Бяры!.. Не трэба яна мне пасля Шумковага «чытання», гы-гы-гы...

Я пагартаў кнігу — гляджу і вачам сваім не веру: недзе больш за паўсотню старонак выдрана.

— Хлопцы, што ж гэта вы, а?..— крыўда распінае мне грудзі.— Як жа так? Гэта ж добрая кніга, а вы — шматаць... Яе напісаў цудоўны пісьменнік.— Я гатоў быў рынуцца на Шчыгла з кулакамі і пачаць дубасіць любіцеля чыфіру і замежнай эстрады, ды ён апраўдваецца:

— Лёха, не я — дальбог!.. Гэта Шумок, калі разбіраў карбюратар, дэталькі на лісткі клаў, а тады праціраў... Я кнігу ў яго адабраў, а чыя — не ведаў... Корнеў памагаў Шумку...

А Корнеў сядзеў ля выхада з палаткі, курыў і пускаў дым у шчылінку. Пачуўшы абвінавачванне ў свой адрас, тую ж хвіліну ўскінуўся на Шчыгла:

— Ты!.. Брашы, ды не кусай. Недабачыў на адно вока, дык памаўчы, не ўзводзь напрасліну. Зух — з колам да мух.

Вуцёха аж рагатнуў ад задавальнення — са смакам, усцешана. Голасна ўсклікнуў:

— Правільна, Валодзька, так яго!.. Лічы, кончыліся твае пакуты — настройвайся на другога напарніка.

— Як гэта? — насцярожыўся Шчыгол.— Так, Міша, не жартуюць, гэта забаронны прыёмчык.

— А я і не жартую,— у голасе Вуцёхі пракінулася начальніцкая нотка.— Усё абгаворана ўжо: я — з табой, Корнеў — з Бокушам, а Міхалёў — з Гардуноўскім.

Корнеў прытушыў цыгарэту, падышоў і сунуў мне насустрач сваю загрубелую шырокую далонь, я — сунуў яму сваю, не менш шурпатую, парэпаную. Я пацісьнуў яго руку, ён — маю, і зарадаваўся:

— Дык мы, значыць, разам? Выдатна. Мяне такі варыянт задавальняе. Шкада, канечне, Саню

пакідаць: ён хоць і слабкі на пуп, затое на вочы завідушчы — як і Вуцёха, два боты з адной нагі.

Шчыгол хапіў Корнева за штаніну і паваліў на кашму. Барукаючыся, сталі жартам валтузіць адзін аднаго, дужыя, спрытныя няўломкі. Корнеў нарэшце падладзіўся і ўдала загнуў абедзве рукі Шчыглу за спіну, паклаў яго на жывот, а сам пераможна сеў зверху, запыхана дыхае і смяецца. Шчыглу нязручна так ляжаць, тварам уніз, і ён пачынае прасіцца:

— Хопіць, Воўк, здаюся — адпусці... Ой-ой, потрах, глядзі толькі за Маню не ўздумай помсціць — не паламай руку, баліць жа, ты-ы!..

— Каб хацеў паламаць — паламаў бы ўжо,— Корнеў, аднак, не адпускае Шчыгла, насмешліва спытаў: — Ну як, мае прыёмы больш эфектныя?

— Валодзька, не вінаваты я, чэсна, Маня сама цябе бартанула, ты ёй лішняга пра сябе намалоў... Адпусці, чуеш? — Шчыгол ляжаў спакойна, адно твар падняў угору, каб было як дыхаць.

Корнеў адпусціў, і Шчыгол, падымаючыся, нешта ўхапіў з кашмы і сунуў сабе ў кішэню.

— Саня, аддай мой ваенны білет,— тут жа спахапіўся Корнеў.

Шчыгол зарадаваўся:

— І не падумаю. Ты ў мяне цяпер на кручку, дэсантнік.— Да Вуцёхі: — Міша, патрымай гэтага кантужанага, я праверу, які ён дэсантнік... Вушы мне пратрубіў пра свае подзвігі, сталі кожную ноч дэсантнікі сніцца. Ды як? Здаецца, што я разам з імі лячу ўніз галавой у нейкую прорву, іхнія парашуты, бачу, раскрываюцца, а мой — не... Тузаю за калечка, а яно абрываецца. У халодным поце прачынаюся, так і не даляцеўшы да зямлі,— Шчыгол дастаў з кішэні ваенны білет Корнева, акуратна загорнуты ў цэлафан, разгарнуў, нешта там убачыў і расчаравана-запытальна выгукнуў: — Усяго толькі пятнаццаць скачкоў з парашутам за два гады службы?.. Балабон трэснуты, задавака, ты ж мне казаў, што ў цябе больш за сто скачкоў, не помніш? Казаў, нібы медаль за гэта атрымаў...

— Казаў,— лыбіцца Корнеў,— ну і што з таго? Табе можна пахваляцца, а мне няможна?..

Запісана пятнаццаць, а зрабіў сто з нечым, не было часу лічыць.

— Скачкі — з печы на палок,— заўважыў Гардуноўскі, і гэта ўзвесяліла Шчыгла. Мы таксама не засталіся ўбаку, і ў палатцы зноў ускінуўся рогат, дружны, здаровы.

Шчыгол тым часам перагарнуў некалькі старонак, наўмысна ўважліва паўзіраўся ў нейкі там запіс і зноў усклікнуў:

— І-і, божа-божа, я думаў, што Валодзька ў чыне прапаршчыка быў, а ён усяго толькі гвардыі яфрэйтар. Хаця — не, хвіліначку... Тут во, ніжэй, сказана, што за частыя самавольныя адлучкі з вучэбнага палігона ў суседнюю вёску разжалаваны ў радавыя, гы-гы-гы...

— Не мані — я дэмабілізаваўся малодшым сержантам,— Корнеў выхапіў з рук Шчыгла білет, схаваў у кішэню энцэфаліткі і зазбіраўся спачываць.

Шчыгол хацеў быў ісці ў сваю палатку, ды Вуцёха цыкнуў на яго:

— Куды нясе?!.— і спытаў ціха, паўшэптам: — Яўген Ігнатавіч яшчэ не лёг?

— Не лёг,— адказаў Шчыгол.— Апісанне аб'ектаў праглядвае, Кружлікаў почырк не чытэльны, дык нервуецца.

— Трэба цішэй, хлопцы,— Вуцёха азірнуў нас.— Раздурэліся, то каб не паплакаць заўтра.

— Не каркай,— папікнуў Шчыгол.— Ты вот скажы мне лепш, хітры-разумны, чаму зараз не хочацца спаць, а назаўтра спаў бы да абеду?

— Таму што ты, Саня, двуногі звер-шатун, які прывык уночы бадзяжнічаць, а ўдзень адсыпацца.

— Не, Міша, проста чалавек па прыродзе сваёй — вялікі лежань, санлівец: паеў — і яго на сон хіліць, прагаладаўся — зноў паеў, і зноў спаць... Некалі даўным-даўно, думаю, чалавек пераважна спаў. І ўсе, хто блізка ад яго былі, радаваліся гэтаму. От як мы зараз: начальства не спіць — і мы ў насцярозе...

— Цішэй ты!..— прасіпеў Вуцёха.— Пачуе Шмацін, дык заўтра на ўсіх нас адыграецца... Хто ж мог радавацца, калі ўсе, як ты кажаш, спяць?

— Малпы ўсякія там, анцілопы-пенелопы...— твар Шчыгла па-філасофску памудрэў.— А ў нас тут, лічы, усё робіцца якраз наадварот, так, каб чалавек як мага меней спаў — самая што ні ёсць патагонка: паснедаў — дзяўбі грунт, высільвайся, паабедаў — зноў угінайся да сёмага поту, павячэраў — і тады толькі выпадае шчасце пакімарыць, а яно не хочацца, гы-гы-гы...

Міхалёў:

— Дзівак-чалавек, ніхто ж цябе не прымушае высільвацца. Кідай, калі ласка, брыгаду — і на ўсе чатыры стараны... Гуляй.

— Як бы не так — грошы прымушаюць.

— Грошы? Навошта яны табе, грошы?

— Каб весела жыць!.. Не, Толя, што ні кажы, а чалавек — гэта ж акурат падняты ўзімку мядзведзь: аднойчы як пакінуў не ў час свой цёплы бярлог, дык і ходзіць усё, ненасытны, глядзіць-вызірае, дзе б што ўежнае зламзаць, што адразу праглынуць, а што прыхаваць на заўтра. Хто от яго падняў дачасна, навошта?.. Нецярпліўка яго падняла, жоначка! Іначай і не магло быць,— Шчыгол паваліўся на спіну, раскінуў рукі.— Эх, які-то быў спакойны чалавечышча, які мужчына, а?!.

Корнеў:

— Спаў і лапу смактаў. Таму і спакойны быў, і здаровы, і сілу меў дрымучую. А галоўнае — незалежнасць. За грашыма, як мы, не гнаўся на край свету, так?

— Мажа, і так, а можа, і не... Я от што, хлопцы, думаю: калі б не трэба было рабіць, прывучыўся б адзін раз у суткі есці, яй-бо. Паеў — дый на бакавую, у адключку. Ад сну ніхто яшчэ не памёр, сон — панацэя.

— Быў бы ты, Саня, вельмі разумны, калі б не быў такі дурны,— смяецца сцішана Гардуноўскі.— Самога сябе хочаш перахітрыць... Камсамольцам ты не пажадаў стаць, бо ніякай грашовай надбаўкі да зарплаты камсамол не дае, так? Прафсаюз, праўда, абмінуць не можаш, бо калі не будзеш яго членам ды захварэў — па бальнічнаму атрымаеш курыную сюсю дый тую не ўсю... Раскусіў я цябе: ты хочаш быць незалежным ад

грамадства, а ўсімі выгодамі карыстацца спаўна. Але ж так, Саня, не бывае.

Шчыгол:

— І фрукт жа ты, Пятро... Акурат памідор недаспелы.— Ён расшпіліў каўнер ярка-чырвонай, калі верыць яму, самай лепшай яго кашулі.— Выходзіць, ты, Пятро, чысценькі, а я ў палосачку? Я — зебра?

Гардуноўскі:

— Можа, і не ў палосачку, не зебра... Толькі душу тваю, лічу, не музыкай ажыўляць трэба, а прамываць час ад часу пеніцылінчыкам — яна ў цябе ў іржавінах.

— Крэтын ты, Гардуноўскі, і дэмагог,— спакойна трымаецца Шчыгол.— Усе мы тут сабраліся аднолькавай масці — шэрыя... І я, і ты шэры, і ён,— тыцнуў пальцам мне ў грудзі.— І не зайцы там якія-небудзь, а ваўкі, грашатнікі. Усім нам крабчыкі да зарэзу трэба. Усім.

— Саня, заблыталі мы цябе канчаткова. Відаць, даўно кайфаваў.— Гардуноўскі, як я зразумеў, спрабуе абрытаць любімага коніка Шчыгла — мову жарту, працягвае: — Што ж, паколькі я за кухара, то пайду зараз і ўскіпячу ваду, чайком напаю начальства, а цябе — чыфірчыкам. Кубкі са два хлабыснеш, можа, і ўхопіш яе вялікасць ісціну за хвост. У дурмане, як я заўважыў, ты кеміш больш-менш цвяроза.

— Ой, Пятро, не будзі ва мне першабытніка. Ісціна — не грошы. Пшык твая ісціна, голае месца. Ды яна і не трэба тут,— Шчыгол блажліва пацягнуўся.— Зараз бы, здаецца, Клаўку ў такі абхват зачарэпіў, што і не ўгледзела б, як нагнаў бы на яе стому. Паспалі б, а тады зноў... От гэта і ёсць мая ісціна.

Міхалёў здзіўлена:

— І ўсяго толькі?.. А з жонкай як жа — разлюбіў?

— Жонка само сабой.

— Збродлівы ты, Саня, кот памаўзлівы. А ўсё ад таго, што жывеш на павышаных абаротах не ў той бок.

— О, як у сук уляпіў!.. Гэта правільна ты заўважыў, Толя: на павышаных абаротах жыву, пра-

вільна! Ды я, прызнацца, калі б нават чалавек і спаў узімку, як мядзведзь, усё роўна не заснуў бы — сноўдаўся б шатуном па табарах, выбіраў бы прыгожанькіх пенелоп... Эх! — Шчыгол зноў пацягнуўся, але цяпер ужо да хрусту суставаў.— Толя-друг, мае абароты якраз такі правільныя, а от твае — не ў той бок. Дзівачына ты, інертная маса!.. Што яна ўжо там напісала такое, твая Белышава, не ведаю...— падняўся, сеў.— Не разумею цябе: як можна з-за нейкай там фраў-мадамы перажываць? Укінь, раю, пісьмо яе да Вуцёхі ў скрыначку і забудзь на ўсё, чуеш? На месцы Шмаціна я не павёз бы табе гэта пісьмо, яй-бо. Адаслаў бы назад, а не — парваў бы.

— Памаўчы, Саня... Памаўчы лепш, пра гэта не трэба,— узрушыўся не на жарт Міхалёў.

— Не бяры да галавы, Толя. Не зацiскай мне рот — я не магу маўчаць, калі бачу, што ты слабак з бабамі. Ты што — непаўнацэнны?.. Ды такіх, як твая Белышава, я сотнямі бачыў, у мяне іх было-перабыло... Яна ў цябе, па-мойму, флегма чыстай вады, русалка з тэмпературай крыві ніжэй нуля...

— Ды замаўчы ты, прашу,— Міхалёў пахмурна звёў надброўе.

Шчыгол устаў, нахіліўся над Міхалёвым, сказаў павучальна:

— Помні, кавалер: халодная баба, як правіла, жыве не сэрцам, а розумам. З першага позірку ніколі не закахаецца. Не верыш, можа? Кажу табе, што гэта так. Схіліць такую мегеру на ўзаемнасць няпроста: ні твая прыгожая кучаравістая чупрына з крутой лабацінай, ні правільны грэчаскага профілю нос, ні чароўная анёлская ўсмешка — ніщто неўпанараў ёй, бо чакае яна ад цябе толькі аднаго: п а к о р ы. Дакладней, абы загнаць цябе пад абцас, а востры дапытлівы розум твой, духоўная шырыня і ўсё такое — ёй да лямпачкі.

— Ад цябе, Саня, не збавішся проста так — уцякаць трэба,— Міхалёў паспрабаваў падняцца, але Шчыгол асадзіў яго, папіхнуў у плечы.

— Дык вот, даражэнькі. Белышава твая — я ўпэўнены ў гэтым! — іменна такая цаца. Убачыў-

шы цябе, яна адразу зразумела, што ты не лыкам шыты, не які-небудзь там цюля-мацюля, як Корнеў, а наравісты, з характарам — як і ўсе красаўцы-шатэны, як і яна сама. Убачыла цябе, значыць, і рашыла: прыгожы пеўнік, ды не па мне. І ўсё — вынесла, лічы, канчатковы прысуд. Дарма ты ўпёрся ў яе, як у кітайскую сцяну, дарма. Адступіся. Зразумей, дзівак, Белышавай тваёй... Цьфу!..— плюнуў.— Яна такая твая: адзін пень гарэў — другі грэў... Дык вось, ёй не муж-асоба трэба, а паслухмяны бабздзюль, з улюбёным паглядам кнырык, гы-гы-гы... Асоба — гаршкі лізаць! — Шчыгол зноў паваліўся на свой спальнік, хлэпнуў далонню сабе па лбе, спытаў насмешліва: — Ну?.. Правільна я мыслю, сучасна? — І да Гардуноўскага: — Эй, кампазітар, правільна я мыслю? — заўсміхаўся.— Вот-вот, лепш памаўчаць. Няма чым крыць.— І зноў да Міхалёва: — Заўваж, Толя, канкрэтных парад не даю — думай сам, як зняць з вачэй гэту шору любоўную, катаракту. Кладзіся спаць і думай. І помні: Шчыгол і без чыфіру ўмее ламаць ісціне рэбры. І ты, Пятро, думай, бо хоць ты і прыехаў каваць сабе творчую біяграфію, хочаш пазнаць жыццё ў яго ніжэйшым звяне, а толькі нічога ў цябе не атрымаецца: мазалі на руках — не вялікі гонар. Ломкарандашык — не смычок. Пакуль не развучыўся іграць — падавайся, братка, на які-небудзь вялікі завод ці камбінат, дзе ёсць сцэна,— дастаў хусцінку і асцярожна працёр хворае вока, куды, відаць, трапіў дым ад цыгарэты Корнева, які зноў закурыў.— А яшчэ — можна прымкнуць да якой-небудзь арцелі шабашнікаў,— ажывіўся, шэрацьмяныя вочы яго смяяліся.— Іх тут поўна, такіх арцеляў, ледзь не ў кожным калгасе нешта ўзводзяць: школу, клуб, аўчарню, свінарнік, мехмайстэрню, арашальныя арыкі... Дзіўна проста, чым мясцовыя людзі заняты? Пэўна, кіруюць, а? Гы-гы-гы... Дык вот, Пятро, шабашнікі — народ культурны, усе яны прыезджыя, пераважна армяне ды грузіны... Яны, канечне, цябе, як музыку, могуць прыняць у сваю суполку. Уклінішся да іх — і на ўсе беды забудзеш. Шабашнікі ўкалваюць, а ты іх гарачыя душы сваёй музыкай ахалоджваеш...

Неўзабаве Шчыгол і Гардуноўскі пайшлі ў сваю палатку, і адразу ж пасля іх заявіўся Сінёў, спытаў:

— Нагаварыліся?.. Ну й жарабкі!.. Чуючы ваш рогат, мне таксама хацелася смяяцца.

Вуцёха:

— Шчыгол даваў дыхту... Усё-ткі ён малайчына, а, Бокуш?

— Яно і ты не цяльпук,— пахваліў я Вуцёху, і ён, здаецца, застаўся задаволены пахвалой.

Аціхлі ўсе, угаманіліся. Я засяродзіўся і нейкі час думаў пра Шчыгла. Супярэчлівы ён чалавек, няроўны, а больш правільна — складаны, няпросты. Бывае падчас узрушны, па-прасцецку грубаваты, а больш — вясёлы, знаходлівы — слоў не пазычае і ў кішэню за імі не лазіць. Але ж і зорак з неба таксама не хапае, хаця ўсё яшчэ верыць у сваю запаветную зорку, зямную. Гэтая зорка — жанчына, безумоўна, закахаўшыся ў якую, ён нарэшце скажа: «Імгненне, запыніся!..» Так, ён усё яшчэ верыць у такое каханне, раптоўнае, вялікае, верыць шчыра — да наіўнасці; бадай, менавіта гэтай сваёй апантанасцю і падабаецца мне перш за ўсё. У астатнім — ён мой антыпод. Амаль такі ж самы, як і Каравага, як Вуцёха, як Кружлік, як... Ірына Марчык. Так, Ірына Марчык, колішняя валадарка сэрца майго і дум.

Сапраўды, ёсць нешта агульнае ў гэтых людзях. Што менавіта? Ды хоць бы іх слабасць перад уласным «Я», жаданне бачыць сябе толькі ў першых сярод першых, зайздросная рашучасць заводзіць знаёмствы з «патрэбнымі» людзьмі і тут жа рваць сувязь з тымі, няхай нават і блізкімі, хто перастае цікавіць.

Ірына Марчык... Зямлячка мая. (Стараўся не ўспамінаць пра яе, але ж, відаць, не лішне калі-нікалі і назад азірнуцца). Яе вёска і мая — побач, адно праз лужок і рэчку. Суседзі мы, у адной школе-дзесяцігодцы вучыліся. Упершыню пацалаваліся ў восьмым класе, і з таго часу я не меў спакою — шчыра кахаў Ірыну. Кахаў такую, якую прыдумаў сам, якой хацеў заўсёды бачыць яе. Пакуты... Няўжо сэнс кахання ў тым, каб штодзень сустракаць чалавека, гаварыць з ім, імкнуц-

ца да яго ўсёй душой, адчуваць сябе самым шчаслівым — і ў той жа час пакутаваць, бо ўсё было не так, як мне хацелася... Ірына ніколі не ўмела мяне слухаць, а мо проста не хацела? Кожны раз яна некуды спяшалася, нечым была ўсклапочана — карацей, рэдка калі яе ўнутраны стан супадаў з маім. Я заўсёды насцярожліва ставіўся да яе, а было, што і проста злаваў. Праўда, яна магла ў момант перамяніцца, тут жа паблажліва пацалаваць, абняць, зазірнуць у вочы, а не — сказаць: «Рэўнасць, любы мой,— сястра каханню... Ты злуеш? О! Ты самы шчаслівы чалавек, ты — любіш!» Я не разумеў яе ў такія хвіліны і аднойчы сказаў, што душа яе з падвойным дном, а сэрца каменнае. Але нават і гэтыя мае словы адчаю ніколькі не пакрыўдзілі яе, адно рассмяшылі...

Ірына заканчвае сёлета інстытут. Паліграфічны, у Маскве. На пачатку красавіка, вяртаючыся з дому, завітала праездам і да мяне ў Мінск, пазваніла... А я ўжо нарыхтаваўся ехаць у Сібір, на сваім рабочым месцы «адбываў» апошні дзень. Ужо меў грошы і вольны час і гатовы быў усяго сябе аддаць у распараджэнне дарагой госці. Ды яна пагрэбавала мною, калі даведалася, што я не стаў у чаргу на кватэру. Да гэтага Ірына апісала ўсіх сваіх замужніх аднакурсніц, якіх нібыта будуць размяркоўваць у тыя ж самыя гарады, дзе і іхнія мужы, а не — выдадуць дыпломы без накіравання... Як відаць, прывілеі замужнім відавочныя. Адсюль, пэўна ж, і з'явілася ў яе жаданне пабрацца са мною неадкладна, і клопат яе пра кватэру зразумелы: з каханым, кажуць, рай і ў будане, але няхай усё ж гэты рай будзе ў кааператыўнай кватэры з усімі выгодамі, і не ў якім там акрайным гарадку, а ў сталічным Мінску... Вот жа, а? Канчаткова расчаравалася ва мне Ірына — не апраўдаў яе спадзяванняў. Нерашучасць маю, пэўна ж, за нядбайства прыняла, за падман, пакрыўдзілася. А не спытала нябось, ці ёсць у мяне тыя грошы, каб заплаціць першы ўзнос за кватэру. Праўда, яна казала неяк, што бацькі выручаць будуць, галоўнае, забіць трывогу, але ж і ў бацькоў маіх наўрад ці ёсць такія грошы. Адкуль яны

ў іх, грошы вялікія?.. Пакрыўдзілася Ірына. На начлег спынілася ў гасцініцы, хоць магла і да мяне прыехаць: гаспадары мае адпачывалі якраз, у Сочы былі, і я пад той час займаў адзін увесь іх пяціпакаёвы асабняк з шыкоўнай верандай, за што, праўда, павінен быў рэгулярна, тры разы ў дзень карміць аўчарку любовенькім мясам, як сказала гаспадыня, двух сіямскіх катоў — пажадана свежымі карпікамі, ды яшчэ кветкі ў дамашнім дэндрарыі паліваць. Ірына назаўтра ж пакінула Мінск, і я нічога мудрэйшага не прыдумаў, як напісаць ёй, што неўзабаве, маўляў, пагаворым як мае быць пра «замужніх выпускніц» — паабяцаў быць неадкладна ў Маскве, наведацца.

Праз пяць дзён я сапраўды быў у Маскве. Знайшоў патрэбны мне інтэрнат, аднак Ірыну там не застаў чамусьці. Няўцерпа вялікая: як толькі атрымала маё пісьмо, так і пакацiла да сваіх бацькоў зноў, відаць, каб паперша з імі ўсё абгаварыць, а там заадно і маім старым трывогу ўчыніць. Нескладуха нейкая атрымалася: яна — за парог, я — на парог інтэрната. Пакінуў у дзяжурнай свой пашпарт, падняўся ліфтам на шосты паверх. Стукаюся ў пакой — адчыніла мне незнаёмая дзяўчына і адразу ж паведамляе: «Калі вы да Ірыны, то яе няма». Я маўчу, канечне. Затым даю «добры вечар», маню, што прыехаў здалёк, ажно з Якуціі, і хачу — да зарэзу трэба! — бачыць сваю стрыечную сястру Ірыну Марчык, і што я — Іван, адзін з яе братоў. Чую ўжо больш пэўны адказ: «Ірына дамоў паехала. Ёй жаніх пісьмо прыслаў, і яна паехала яго дома застаць і... да вяселля рыхтавацца».

Ну во, здаецца ж, я і словам не абмовіўся пра вяселле. А можа, другі хто ёй напісаў?.. Хоць стой, хоць падай — што хочаш рабі: сітуацыя камедыйная. Ды я пастараўся не ўпасці — трымаўся цвёрда на нагах.

Дзяўчына прапанавала распрануцца і, назваўшы мяне жаданым госцем, прыязна ўсміхнулася і запрасіла на чай. Я, безумоўна, прыняў яе запрашэнне, тым больш што і віно меў пры сабе, і цукеркі — сама што за стол. Яна нават не спытала, чаго я прыехаў у Маскву і ці надоўга — задаволі-

лася, відаць, тым, што назваўся стрыечным братам Ірыны. Уручыў ёй каробку цукерак, тую самую, што вёз на замірэнне з Ірынай. Узяўшы цукеркі, мая новая знаёмая шчыра падзякавала, расчулілася і стала знаёміцца:

— Чонга,— падала мне руку, і нашы далоні кранулiся адна адной.

Я сумеўся. Падумаў: «Што за імя — Чонга? Мілагучна-ласкавае, прыцягальнае — зусім, як і яна сама...

Пакуль Чонга рыхтавала на стол, я падшукаў да яе імя некалькі рыфмаў. Адна з іх — стронга — мне спадабалася, і я пажартаваў:

— Чонга — стронга.

— Стронга? А што гэта? — усмешліва спытала яна.

— Прыгожая рыба... Самая прыгожая, фарэль.— Я ўзяў дзяўчыну за руку, левую, прыціснуў да сваіх грудзей, якраз над сэрцам, і — што гэта са мной? — прадэкламаваў імгненна прыдуманы вершык:

Сэрца —
удары гонга:
Мне пасміхнулася
Чонга!

Чонга... Ірыніна сяброўка. І толькі. А я, калі глядзеў на каўнерык яе кофты, дзе была прышпілена зусім такая ж, як і ў Ірыны, брошка — бурштынавы жучок з чорнымі вочкамі, дык на хвілю ўявіў, што перада мною — Ірына... Добрая, усмешлівая, ласкавая, такая, якой я і хацеў заўсёды бачыць яе, якой неаднойчы снілася... Ну так, гэта яна, Ірына, тая самая, з маіх сненняў, цярнулася плечуком аб маё плячо, лёгка, даверліва... І я пацалаваў... Чонгу. Цяльпук, неўдалака!.. Зараз яна мяне вытурыць вон, зараз аплявушыць, зараз... Зарабіў жа! Аднак Чонга ніколечкі нават не пакрыўдзілася, наадварот, нібы і чакала гэты мой пацалунак: шырокі твар яе ажно засвяціўся ўвесь, і яна, жмурачы завільгатнелыя вочы, ціха спытала:

— А ты праўда — Іван? Не маніш?

— Я — Аляксей.

— А я ўсё роўна — Чонга,— апусціла вочы

долу, дадала: — Тваё фоткі бачыла ў Ірыны, пазнала цябе, калі ты назваўся Іванам — не ўмееш маніць.

Ну во, а я, дзівак, толькі зарадаваўся быў, што яна палічыла мяне Іванам, які жыве недзе ў далёкай Якуціі, працуе ў паляўнічым калгасе. Праўда, Іван гэты зусім не Ірынін стрыечны брат, а мой.

Пасля Чонга схадзіла ўніз і нейкім чынам узяла ў дзяжурнай мой пашпарт, вярнулася і, аддаючы яго мне, шчыра спытала:

— Аляксей, ты любіш Ірыну?

— Чонга, а ты яе сапраўдная сяброўка?

— Што ты, Лёшка! Я варагую з ёю,— нечакана адкрылася яна, але сказала ўсё гэта так, што я не зразумеў: праўду яна гаворыць ці проста жартуе.

— У такім разе, калі варагуеш, не будзем яе ўспамінаць: дзе двое — трэці лішні.

— Мне, канечне, усё роўна... Але ты не адказаў на маё пытанне,— Чонга, падобна, пакрыўдзілася.

— Скажы, ты верыш у каханне з першага позірку? — Я спрабую звесці ўсё на жарт і тым самым ухіліцца ад няпростай для мяне размовы.

Чонга сарамліва апусціла вочы, ласкава неяк, хвалюючыся, спытала:

— А як жа з тваім вяселлем?

— Вяселля, як бачыш, не будзе... Я звольніўся і еду ў Сібір. Ірына пра гэта ведае.

— А навошта ж ты яе ў зман завёў? — Чонга ў непаразуменні.

— Я напісаў ёй, што прыеду... і пагаворым, а яна — нешта сваё надумала, відаць.

Чонга... Пагляд яе раскосых вачэй уважліва-пільны, падатны. Здаецца, яна хоча мне нешта сказаць, ды ўсё адкладвае на потым, аддаляе гэтае сваё «нешта» і, мусіць, дзеля таго аддаляе, каб самой слухаць мяне. І слухала — засяроджана, пранікнёна, нібы мы даўно ўжо знаёмыя, блізкія адно аднаму. Пасля слухалі запісаныя на магнітафонную стужку песні Алы Пугачовай... Калі я даведаўся, хто Чонга па нацыянальнасці (спачатку думаў, што якутка, а яна — буратка), па-

прасіў, каб прачытала на роднай мове які-небудзь верш. Яна прачытала па памяці верш паэтэсы Цырэн-Дулмы Дандокавай. Сама ж і пераклала яго на рускую мову. Мне запомніліся радкі:

Я открыла тебе
сокровенные тайны свои и мечты,
потому что в судьбе моей — главное ты...
О, если б стать я
гордой орлицей смогла —
отдала бы тебе свои оба широких крыла.

Узрушыла мяне Чонга, азарыла...

Мы недзе толькі апоўначы спахапіліся, што позна ўжо. Я зазбіраўся ісці, рашыў: злаўлю таксі — і ў аэрапорт Дамадзедава. Аднак Чонга не выпусціла мяне з пакоя, паслала на Ірыніным ложку, пажартавала:

— Спі, мой бубэхэ́н, а-ю,— хітра ўсміхнулася.— «Сястра» застане ў сваім ложку — не крыўдуй.

— Бубэхэн? — перапытаў я.— Перакладзі.

— Дзіця малое.

Я чакаў, што Чонга пойдзе начаваць да сябровак, але нікуды не пайшла — замкнула на ключ дзверы і проста ў халаціку легла ў свой ложак, наказаўшы мне выключыць святло.

...Спаў я зусім дрэнна. Якое спаў — слухаў сцішана-лёгкае дыханне Чонгі! А яшчэ, дзівак, увесь час чакаў стук у дзверы: не хацеў, каб Ірына мяне застала з Чонгай, удваіх. А Чонга як пажадала спакойнай ночы, як аціхла, дык і не азвалася да раніцы.

У Маскве я ўпершыню быў, і Чонга не пайшла на лекцыі — стала маім экскурсаводам. Дзе мы толькі не пабылі — нават купаліся ў адкрытым басейне... Заявіліся ў аэрапорт позна ўвечары. Пакуль я кампасціраваў білет і атрымліваў пасадачны талон, Чонга цярпліва чакала ў транзітнай зале на лаўцы, спачывала ад дзённай мітусні. Нарэшце аб'явілі пасадку на мой рэйс. Чонга захвалявалася і сунула мне ў рукі лісток з адрасам, знаёма цярнулася плечуком аб маё плячо, узрушліва шапнула:

— Як толькі ўладкуешся —напішы... І я табе напішу. Шчаслівa!..

Нічога пэўнага я тады не паабяцаў ёй — хапіў чамадан і бегма кінуўся да самалёта...

І аж во дзе апынуўся — у Бурацii, на радзіме Чонгі.

Зрэшты, я сам выбраў гэты край. Каралькоў пры размове са мной назваў двух брыгадзіраў: Дыненку і Сінёва, сказаў, дзе іх брыгады будуць рабіць, і я папрасіўся да Сінёва, хоць да гэтага і ведаць яго не ведаў, як і Дыненку. Каралькоў тут жа пазваніў, і праз колькі хвілін у кабінет да яго зайшоў Сінёў: аказалася, яго я ўжо сустракаў на калідоры, нават чуў, як ён лаяўся з Каральковым, даказваў, што абы-каго ў брыгаду не возьме...

— Да цябе просіцца,— паведаміў Каралькоў Сінёву.— Што, можа, і яму адмовіш? — прыжмурыў вока, чакае. Тады дадае: — Якраз той, хто і трэба.

— Здароў быў,— Сінёў павітаўся са мной за руку.— Зямляк, беларус?

— Ды калі да цябе папрасіўся, значыць, нездарма,— Каралькоў падаў мне ліст паперы, сказаў, каб напісаў заяву.

Аформіўшы дакументы, мы пайшлі з Сінёвым у сталярку. Там спачатку пазнаёміўся з Вуцёхам, а затым ужо і ўсе астатнія хлопцы аб'явіліся: Шчыгол, Міхалёў, Корнеў (Гардуноўскі на колькі дзён пазней за мяне ўладкаваўся).

...Ну во, напэўна, я такі ўжо да кожнага з іх прывык, сахвоціўся імі, бо вось нечага ж успомнілася Чонга, нават ужо трывожыць мяне тое, што я, свінтух, не напісаў ёй, хоць і прасіла ж... І — рашыў, што заўтра ж ранічкай напішу, а Шмацін адвязе пісьмо ў пасёлак, укіне там у паштовую скрынку, і Чонга праз дзень-два атрымае пісьмо — балазе вёска яе, Ярыкта, не так і далёка ад пасёлка.

Я напісаў-такі Шахноўскаму. І ўжо добра часу прайшло, а ён маўчыць. Затое — божа, воўк у лесе здохне! — азвалася Ірына. Адрас мой, канечне ж, Валька ёй даў. Навошта ён гэта зрабіў, дзівак?

Пабачыўшы ў руках скрыначку з-пад аптэчкі, якую Вуцёха не выкінуў, возіць з сабой, мяне так

і падмывае ўзяць і апусціць туды, у скрыначку з крыжыкам, гэта Ірыніна пісьмо. Падумалася: «І нашым адносінам — канец, маё першае каханне перакрыжавана...» А што? Гэта сапраўды так, і няхай хлопцы не думаюць, што я хаваюся ад іх, скрытнічаю. Можа, і Міхалёў, прачытаўшы Ірыніна пісьмо, павесялее раптам, абадзёрыцца, а то зусім ужо замаркоціўся хлопец — самотны, зажураны.

Учарашняя Вуцёхава прапанова павісла, аднак, у паветры: яе прынялі ўсяго толькі як яшчэ адно дзівацтва, а вось я, можа, нават адзін з усіх,— бадай, гэта і ёсць так,— лішні раз пераканаўся ў тым, што не кожны з нашых жанацікаў можа вось так, як Вуцёха, прастадушна-шчыра пахваляцца непарушнасцю свайго сямейства.

— Міхась,— затрымаў я Вуцёху пасля сняданка.— А давай сюды сваю скрыначку,— падаў яму Ірыніна пісьмо.— Чытайце!.. Выношу, так сказаць, на калектыўнае абмеркаванне.

Вуцёха проста з рук вырваў у мяне пісьмо, збегаў па скрыначку, адкрыў і ўкінуў яго да сваіх, шчоўкнуў вечкам, зарадаваўся, што я падтрымаў яго прапанову. Хлопцы яшчэ ўсе былі за сталамі: хто чай дапіваў, хто ўжо курыў. Сінёва і Шмаціна яшчэ не было — як пайшлі некуды золкам, дык усё ходзяць, відаць, на аб'ектах недзе.

— Ну, хто хоча любое з гэтых пісьмаў прачытаць — налятай!..— Вуцёха наўздзіў вясёлы, нязвыкла-ўзбадзёраны.

Хлопцы ажывіліся, але толькі адзін з іх, Гардуноўскі, падахвоціўся чытаць. Канечне ж, Вуцёха ўзяў з яго слова, што і ён сам усе свае пісьмы ахвяруе ў фонд «эпісталярнай бібліятэкі». Пятро выбраў пісьмо, адрасаванае да мяне, азірнуў канверт, сказаў:

— На месцы зваротнага адраса бачу ўсяго толькі два словы: «Ірына Марчык».— Дастаў з канверта ліст, стаў чытаць: — «Вітаю цябе, мой недасяжны»,— запыніўся, счакаў, нарэшце насцярожана запытаўся: — Лёха, напраўду можна чытаць, не закрыўдуеш?

— Чытай ужо, не марудзь,— сказаў настойліва Вуцёха.

— Ай, няёмка... Не буду чытаць. I сваіх пісьмаў не дам.

Вуцёха забраў ад яго ліст, сказаў:

— Лепш я сам прачытаю, лады? — звярнуўся ён да мяне, затым пракашляўся і ўнурыўся ў ліст: — «Вітаю цябе, мой недасяжны АХЛАМОН! — Вуцёха выдзеліў лагічна гэта слова — у пісьме яно таксама выдзелена, вялікімі літарамі напісана ды яшчэ з клічнікам.— Хаця — не, ты нават не ахламон... Лясун цябе ведае там, хто ты цяпер ёсць.

Аляксей, не крыўдуй за абразу, даруй — гэта я так, відаць, ад злосці на цябе, нават не — хутчэй за ўсё ад зайздрасці... Трэба ўсё ж было парваць мне гэты лісток і пачаць нанава, ды навошта, калі я сапраўды падумала так і напісала, каб хоць словам прынізіць цябе... А толькі ж не ты, а сама я АХЛАМОНКА, сама!

I што? Смяешся нябось з мяне там, радуешся? Радуйся, ды не вельмі. Не думай, што я няшчасная, пакутую тут без цябе, плачу бялугай. Якраз усё наадварот: жыву на шырокую і нават больш чым спакойна і бестурботна, маё нядаўняе мінулае, верыш, ніколечкі мяне, ну ні на гран не хвалюе — роўна, як і ты... Ды і з чаго б ТЫ мог хваляваць мяне? Я ж не кахала ніколі цябе, між намі нічога не было блізкага і не магло быць. Рэдкія пацалункі твае проста ачышчалі, здымалі з мяне ўсе грахі мае, бо гэта былі пацалункі АНЁЛА. Скажаш, няпраўда? Усё праўда, Аляксей. I нічога я не выдумляю. Гэта сапраўды так. Я ўвесь час забаўлялася табой, як кошка мышкаю. Я, злая фурыя, інфантыльная сцерва, эгаістка, блудніца... I ты — да галавакружэння ўражлівы і правільны пай-хлопчык, камсамольчык, які, здаецца, толькі-толькі вылузнуўся з пялёнак... Як маглі мы, такія розныя, быць разам, як? Што магло паяднаць нас? Школа?.. Не. Узрост не той. А цяпер — што? Пасцель?.. Забудзь усё, забудзь наша маленства, юнацтва... Я ўжо дарослая, і ўсё тое даўно скончылася для мяне. Так, мы — розныя. Я дрэнная, дрэнная-нягодная. Праўда, я нечага ўсё спадзявалася — думала: выйду за цябе замуж — і стану іншай, чыстай, як і ты,

буду любіць толькі цябе аднаго. Думала так, ды па-ранейшаму была няверная табе... Меліяратараў помніш? Бáгуся, які ў нас на пастоі быў? Дык вось, на апошнюю сустрэчу з табой, тады, на плёсе, я прыйшла з ім. Ён застаўся на кручы, нерваваўся, махаў мне рукой, каб хутчэй ішла да яго, а я ўсё не магла цябе раззлаваць. Што ні гаварыла табе, як ні абражала, а ты закахана глядзеў мне ў вочы і нічога не разумеў. А мне так хацелася, каб ты псіхануў і пабег ад мяне — гэта было б здорава, Багусь хацеў гэтага. І я сама пакінула цябе — на крылах ляцела да Багуся, спяшалася ў жанчыны і ў той жа вечар стала ёй... Багусь... Трэба ж, нават прозвішча яго не помню. Багусь — і ўсё.

Божа, што гэта са мной? Навошта я табе ўсё гэта пішу, хіба ж так можна?.. Ат — можна! Паспавядацца трэба — хоць раз пашчырую з табой. Пры сустрэчы, магчыма, не змагла б, а ў пісьме, ды яшчэ апошнім, чаму б і не пасакрэтнічаць... Можна!

Дык вось. Я не сумую, не... Жору Каравагу ты, вядома ж, як аблупленага ведаеш. З ім я цяпер і жыву. З ім, гадам. Ён мой муж. Жыву — і не бядую. Ён задавальняе мяне ва ўсім. Праз твайго Шахноўскага мы пазнаёміліся, дзякуй яму і табе заадно — праз вас мне прываліла шчасце... Распісвалі нас у Палацы шлюбу, вяселле было магутнае — рэстаран «Нёман» грымеў усю ноч. Балдзёж паднялі на ўвесь квартал. Нашы шлюбныя ўрачыстасці прайшлі на ўзроўні часу, па-мадняцку. А вялікі аднадумец твой, Шахноўскі, упіўшыся, крычаў маладажонам прыкладна так: «Вы!.. Нікчэмцы, падонкі!.. Пасля вас я не пайду ў Палац шлюбу, не пайду! Вы апаганілі яго... Вас трэба на сметніку распісваць... Падонкі!» Нехта з гасцей, здаецца, сястра Жорава з мужам, выклікалі міліцэйскую машыну, і Валянціна забралі, адвезлі ў выцвярэзнік. Я хацела ўмяшацца, але Жора не даў, то і не стала ў першы ж дзень заядацца з МУЖАМ. Правільна зрабіла?

Увогуле, я цяпер іншая. Правільная і рахманая — такая, якой хоча бачыць мяне мой дражайшы. Так што, Аляксей, лічы, што мы з табой не

ведалі адно аднаго — няма колішняй тваёй Ірыны, няма, няма, няма...

Праўда ж, ты ненавідзіш мяне? Ведаю: ненавідзіш. І я рада гэтаму — усё заслужана, усё правільна!

Не здзіўляйся, што маё пісьмо знойдзе цябе — адрас выклянчыла ў Валянціна — праз Жору можна было, але не стала яго турбаваць. Ён на цябе злы, дарэчы. Пра Багуся я маўчу — на цябе ўсё валіць... Божа, ён такі дурань — і як мне з ім жыць?..

З Валянцінам мы сустрэліся і пагаварылі — шчыра, без булды, як кажа мой дражайшы. Пра цябе была наша размова. І я лішні раз упэўнілася, што нават калі б маё пакаянне вярнула мне цябе, то я ўсё роўна не змагла б стаць тваёй — я не вартая ўсіх тых пакут, якія ты цярпеў праз мяне.

Я плачу...

Ладна, хопіць румзаць! (Гэта я сабе так кажу.) У адным я зараз упэўнена: ты абавязкова будзеш шчаслівы, бо ты — сам носьбіт шчасця, сам...

Не ўспамінай мяне ніколі, не трэба. Ніяк не ўспамінай, добра?

Ірына».

* * *

Ізюбраня спынілася на днёўку ў прырэчным гусцяжы. Рака тут, у гэтай зацішнай лукавіне, сама што для пераправы — ціхаплынная, шырозна-разліўная, амаль як і пад час вясновай паводкі; прыбярэжнае дно паката-роўнае, без каменных завалаў і патырчак.

Летам у лугах асабліва неспакойна, нават небяспечна — надта шмат людзей з сабакамі і стрэльбамі, і трэба такі падавацца ў таежную глухамань. Раку надзейней будзе пераплываць поначы, бо ўдзень можна трапіць у бяду: затоіцца ў кустах на тым баку чалавек са стрэльбай, счакае, пакуль ступіш на бераг... Паварочваць назад? Позна будзе: стрэльба не воўк і не сабака, ад яе няпроста ўцячы, гэта ўжо ізюбраня добра ведае, ды яшчэ аднаму, не ў статку...

Колькі дзён назад ізюбраня бачыла чалавека, які паляваў на качак. Кожнага разу, калі чалавек

пачынаў красціся, качкі пахапліва ўзляталі. Аддаліўшыся, яны зноў падалі на ваду. Так працягвалася, аж пакуль качкі, узляцеўшы, усёй чарадой павярнулі назад — каб вярнуцца на сваё ранейшае месца. І калі, пралятаючы, яны апынуліся над чалавекам, той не ўпусціў моманту — спрытна, без якой-небудзь падрыхтоўкі ўскінуў стрэльбу... Прыазёрную цішу ўзарвалі два хлёсткія громападобныя ўдары. Ад нечаканага ўтрапення ногі ў ізюбраняці здранцвелі — як адняліся, і толькі пасля, калі прыгожы шызашыі качар мёртва ўпаў амаль побач, яно схамянулася, апрытомнела ўраз — сарвалася з месца і не спынялася да таго часу, пакуль не апынулася на глухім забалочаным астраўку.

## 6

Шчыгол пракаяўся: як гэта ён мог не ўзяць сюды, у поле, свае неацэнныя джынсы і жоўтую, з пан-аксаміту тэніску, пашытую па ўласнаму заказу ў лепшым атэлье свайго горада. Дурань, такія люксоўныя шмоткі ў нейкай там сталярцы пакінуў — як з глузду з'ехаў пад той час, дальбог. Быццам не ведаў, што людзі ўсюды жывуць, а значыць, і пафарсіць заўсёды будзе перад кім.

І тут, у абраным намі для базы пасёлку, які размясціўся ля падножжа Баргузінскага хрыбта ў зацішна-сонечнай упадзіне, таксама поўнымпоўна людзей, асабліва моладзі, а дзяўчат — процьма, бы рамонкаў на поплаве, збірай — усіх не збярэш. Гэта мы адразу прыкмецілі.

Знешне пасёлак на дзіва ўтульны і па-сучаснаму кампактны, радуе вока. Дамы пераважна драўляныя, і хоць не вельмі каб камфартабельнашыкоўныя, без паравога ацяплення і прыроднага газу, затое прасторна-дабротныя, амаль усе з шырокімі падворкамі і бучнай зелянінай садоў у гародчыках, на вільчыках — тэлеантэны, высокія, на трывалых металічных жэрдках; вуліцы без асфальту і тратуараў, але на дзіва чыстыя, без выбоін, і прамыя...

Чароўны, запаветны куток, дзе толькі і жыць. І людзі жывуць. Адны — ціха, у штодзённым кло-

паце, другія — буяна і бесклапотна. Здаўна тут жывуць і, пэўна, не здагадваюцца нават, што лепшага за гэтае месца, бадай, нідзе ім і не знайсці. Тым не менш — шукаюць. Такі ўжо век — вабяць вялікія гарады не толькі маладых, цягам цягнуць да сябе сваімі шматлікімі выгодамі і старых, карэнных жыхароў глыбінкі, і вёскі адна за адной знікаюць з зямлі.

Зрэшты, гэты пасёлак таксама не без выгод. Яны ёсць, выгоды. Няхай, можа, і не абы-якія, але ёсць. Першае, што кінулася ў вочы — гэта кінатэатр, сучасны, з шырокафарматным экранам, Палац культуры і вялікі, як стадола, рэстаран, побач з ім — двухпавярховая гасцініца, нядаўна пабудаваная, дзе ёсць нават і нумары-адзіночкі, люксы, у адным з якіх на два дні пасяліўся Кружлік: захварэў чалавек на пана, закарцела пажыць з выгодамі.

У пасёлак мы заявіліся недзе а другой палове дня. Схадзілі ў лазню, высцебаліся венікамі, папякліся ў ахвоту на палку — ну роўна гару з плячэй звалілі, лёгка цяпер, бадзёра ходзіцца, дарма што і ў ботах-кірзачах. Шчыгол, безумоўна, мае рацыю: сапраўды, калі б хоць на адзін вечар скінуць гэту нашу казённую абмундзіроўку, дык і зусім слаўна было б.

Суботнія дні мне заўсёды здаюцца доўгімі, а гэты — ну проста бясконцы. З непрывычкі, дык аж неяк не па сабе нават, што такой вось парой, светлай, калі сама што рабіць, мы гультайнічаем. Рукам не стае занятку: вольныя, яны — як лішнія ўсё роўна, як беспрытульныя, і мы пазасоўвалі іх у кішэні. Хаця — не, у Корнева і адна не ў кішэні, і другая: у правай — пачак цыгарэт, у левай — «жаночая ножка», самаробная храміраваная пад загар запальніца, акурат ножка, хоць панчошку нацягвай. Корнеў ганарыцца гэтай штуковінай, дзе трэба і не трэба напаказ яе выстаўляе. Зрэшты, ён і сам умее выстаўляцца. Хоць бы і цяпер — святочны ўвесь і блізка не падобны да нікога з нас, вызначаецца і настроем, і знешнім выглядам: штармоўка выпрасаваная, штаны навыпуск, і такія — рукі парэжаш аб складкі на калашынах, боты наваксаваныя, блішчаць. Паспеў

жа во начапурыцца — па ўсім відаць, на кані чалавек, душа на лірычнай хвалі, і яму сёння пашанцуе, праўда, калі толькі не атрымаецца так, як на мінулым тыдні з Кружлікам, якога п'яненькім у дым падабраў на дарозе ляснік, пасадзіў на свайго каня і, каб не ўпаў, прывязаў да лукі сядла, так і даставіў у лагер. Ды Корнеў — не Кружлік: не перабірае праз край, п'е ў меру. І ўсё ж сёння з ім мусіць нешта адбыцца, бо нездарма ён так прагне забаў — наўрад ці можна з такой беззважнай апантанасцю настройвацца толькі на шчаслівыя для сябе прыгоды.

Шчыгол раўніва зіркае на Корнева. Ён зайздросціць яму і, каб не выдаць сябе, зноў пачынае гаворку пра свае шмоткі, што, маўляў, калі б ён заявіўся сюды, на гэту плошчайку, пры поўным шыку-бляску, у джынсах і тэнісцы, у белых туфлях ды яшчэ пры шырокім, з наклёпкамі, поясе, то мясцовыя харашухі даўно б ужо абступілі нас шчыльным кругам...

Пакуль жа — ніхто нас не абступае, але гэтыя самыя харашухі, мясцовыя дзяўчаткі, так і шмыгаюць паўзбоч, не запыняюцца — ну проста як ведаюць усё роўна, што нам цяпер не да іх, бо мы ўсе пры грашах (Сінёў выдаў кожнаму на рукі роўна па тры сотні), а грошы — ёсць грошы: яны хоць і папяровыя, не залатоўкі, але, як і здавён, дзяруць кішэні і паляць душу — просяцца ў абыходак. Не да дзяўчат нам, не.

Ужо недзе з паўгадзіны тырчым, як статуі, на плошчы і ўсё ніяк не надумаем, куды падацца. У парк яшчэ рана, хай троху змеркнецца — Шчыгол лічыць, што прыцемкам зручней.

Плошча гэта невялічкая, уся добра праглядваецца. Збоч ад яе, па левы бок,— дарога-гравійка, па якой (гэта мы ўжо ведаем) можна на спадарожнай машыне заехаць на бліжэйшы адсюль участак БАМа. Тут жа, пад дзвюма высознымі лістоўніцамі размясціўся ярка пафарбаваны ў сіні колер з белым, бы казачны домік, кіёск «Саюздруку», дзе працуе Феня, унучка Леапольдаўны. Сёння, праўда, яе ўжо няма — паехала да сваіх бацькоў. Па краях плошчы, куды ні глянь, відны маляўнічыя транспаранты-палотнішчы з лозунга-

мі, планшэты з дыяграмамі росту і ўсялякімі эканамічнымі выкладкамі ў працэнтах, фота-вітрына. Усё гэтае разам ды яшчэ прыгожа, з густам афармленая Дошка гонару з партрэтамі перадавікоў ажыўляе плошчу, надае ёй святочнае аблічча.

Запаволена і зусім блізка ад нас «плывуць» дзве стракатыя хусцінкі. Дзяўчаняткі, зусім маладзенькія, здаецца, ці не школьніцы яшчэ. Не стрымаліся — захіхікалі. Корнеў аддзяліўся ад нашай нерашучай кампаніі, паспрабаваў запыніць іх:

— Харошыя-прыгожыя, хадземце закурыць дам,— паказаў бліскуча-яркі пачак і не менш бліскучую запальніцу.— Не пашкадуеце, такіх цыгарэт вы яшчэ не курылі — кубінскія, нядаўна з Гаваны.

Загінака ён, гэты Корнеў. Цыгарэты ў яго самыя звычайныя, «Байкал» мясцовай фабрыкі, адно пераклаў у пачак з-пад кубінскіх.

Шчыгол пачаў бурчаць на Корнева, сказаў, каб ён асабліва не праяўляў ініцыятыву, не настырнічаў так. Затое, калі ўбачыў, што дзяўчаты спыніліся, узбурыўся не на жарт:

— Ты, потрах!.. На саплячак не палюй,— і да дзяўчат, застрашліва тупнуўшы нагой: — Кыш адсюль, пісканяты, ну! І на танцах — чуеце? — каб духу вашага не было, не апярыліся яшчэ.

Дзяўчаты — і адна, і другая — запалохаў яго не ўспрынялі: тварыкі іх рахманыя і наўздзіў вясёлыя. У адной — прычоска кучаравістая, з грыўкай над вачыма, носік востры, чуць даўгаваты, бровы чорныя, густыя, вочы выразныя, і здалёк відаць, што таксама чорныя. Яна, чарняўка гэтая, якраз і захіхікала першая. І цяпер зноў прадае зубы — усміхаецца. Другая — пры акулярах, просценькіх, з тоўстымі шкельцамі, з коскай за плячыма, хоць і невялічкай, але гожай, з уплеценай стужкай — трымае чарняўку пад руку. На правым плячы яе — торбачка на доўгай вочапцы, палатняная, з махрамі. Дык вось яна, гэтая з торбачкай, і панукнула Корнева:

— Чаго марудзіш? Паабяцаў — частуй, мы не адмовімся.

І Корнеў сарваўся з месца — затупацеў да дзяўчат. Падбег, і чарняўка першая падала яму

руку, павіталася, а следам — і гэтая, з торбачкай што. Затым усе трое закурылі і ў адзін дух сталі аб нечым гаварыць і смяяцца. Ну во — праворны ўсюды паспее.

Шчыгол не чакаў такога павароту, удачлівы падыход Корнева да дзяўчат азадачыў яго, і ён апанурыўся, аж нейкі няпэўны стаў — бы падарожнік, які да гэтага ўвесь час арыентаваўся па сонцу, а тут раптам неба наглуха завалаклі чорныя хмары, і ён, збіты з панталыку, разгубіўся — не ведаў, у які бок падацца. Нарэшце прапанаваў:

— Чаго мы топчамся тут — гайда ў рэстаран!.. А ўжо адтуль, паддатымі, і на танцы можна.

— Не, Саня, зараз мы з табой, як і дамаўляліся, на пошту зазірнём.

Шчыгол мяне яўна не разумее: здзіўлена глядзіць, плюскае вачыма, чакае растлумачэння, бо ён нікуды са мной не дамаўляўся існі. Я ўжо даўно пераканаўся, што, калі хоць збольшага ведаеш нораў і звычкі чалавека, які табе ў нечым зайздросціць, яго, чалавека гэтага, зусім лёгка завесці ў зман. Зайздросцяць, звычайна, толькі таму, каго прызнаюць, у кім бачаць калі не ўдачлівага саперніка, дык шанцавітага калегу па службе, у якога і аклад вялікі, і жонка прыгожая, і дзеці-вундэркінды, і цешча памяркоўная. Зайздрасць бывае ўсякая, зрэшты, як і самі зайздроснікі. Шчыгол хоць і даймае мяне, што, маўляў, я занадта «правільны» і баюся жанчын, тым не менш сам шмат у чым мне зайздросціць. Але ён цярплівы зайздроснік, не звіхнуты. Ягоная зайздрасць не пераходзіць у злосць, і гэта мяне задавальняе.

Міхалёў:

— Лёха, а чаго на пошту?

— Саня сабраўся грошы жонцы паслаць,— я назнарок прыдумаў з грашыма, толькі што, з ходу, каб праверыць Шчыгла, як ён, галава сям'і, клапоціцца пра сваіх блізкіх — жонку і дачушку.— Гэта ж, каб хто мне сказаў, то нізашто не паверыў бы — аж дзве сотні з нечым хоча паслаць... Ну — заадно і я ім: сотню бацькам і братавай столькі ж.

— Я таксама маці парадую — упершыню...—

заахвоціўся Міхалёў.— Калі атрымае грошы — не паверыць, што гэта я прыслаў, яе блудны сын. Пабяжыць на пошту правяраць, пабаіцца, каб не аддаваць затым — яна ў мяне на гэты конт асцярожная.

Шчыглу, як відаць, спадабалася мая прыдумка з грашыма, і ён не выдаў мяне, не запярэчыў, але і не вельмі радуецца. Гардуноўскі — гэты заўсёды на баку тых, каго больш: значыць, ён таксама раскашэліцца дзеля маці, бо хворая, жыве з пенсіі... Паслухаеш яго, дык адно і думае пра маці.

Ужо на падыходзе да пошты выявілася, што ніхто з нас яшчэ ні разу не пасылаў сваім бацькам і блізкім грошай — ні рубля. З чатырох — ніводзін. Нават Шчыгол, жанацік, жонцы не пасылаў. Свінтух ён, аднак, той яшчэ, шалапут вышэйшай гільдыі, але ж і мы не лепшыя.

Шчыгол як усё роўна адгадаў мае думкі, папіхнуў мяне ў плячук, вылаяўся:

— А ты, потрах, ведай: лішніх крабчыкаў у мяне ніколі не бывае.— Жвава ўзбег на ганак, адчыніў расхлябаныя, на тугой спружыне дзверы, прытрымаў іх, прапускаючы мяне з Міхалёвым, затое як толькі ступіў на парог Гардуноўскі — адпусціў, і дзверы з сілай хвоснулі Пятра па спіне. Сам Шчыгол застаўся на ганку — не спяшаўся заходзіць, закурыў. Дамашні адрас Шчыгла я ведаў, таму запоўніў і ад яго імя бланк, суму паставіў, калі зыходзіць з нашых грошай, унушальную: 250 рублёў. Здаў спачатку свае два бланкі, і паштарка афарміла перавод. Паклікаў Шчыгла, але ён не разагнаўся на мой кліч. Тым часам афармілі пераводы Міхалёў з Гардуноўскім — яны па дзве сотні паслалі. Падышоў нарэшце Шчыгол, я аддаў яму бланк. Не чытаючы, Саня адлічыў дзесяткамі сто пяцьдзесят рублёў і разам з бланкам перадаў на афармленне. І заспакоіўся. Паштарка хуценька пералічыла грошы, прыўзняла іх, каб мы бачылі, патрабавальна сказала:

— Малады чалавек, з вас яшчэ сто рублёў.

— Ажно сто?.. Вы жартуеце...— Шчыгол павярнуўся да мяне, пахмурна прыжмурыўся і застыў у нерашучасці — здранцвеў.

— Што з вамі? — як напалохана спытала паштарка.— Вы сто рублёў не дадалі,— і закончыла паважліва, нават лагодна: — Вы мяне разумееце?.. У вас жа ёсць грошы.

Папрасі вось так, ласкава-ветліва, жаночым галаском, каб Шчыгол памёр — і ён памрэ. А тут — хоць кол на галаве чашы, не ўспрымае паштарку.

— Я не разумею вас.— Яна аж паднялася.— Запоўнілі бланк на адну суму, а даеце — другую, меншую... Нялёгка грошы дастаюцца, шкада расставацца?

— Лёгка-нялёгка...— прабубнеў Шчыгол.— Я, можа, не хачу залішне жонку сваю балаваць грашыма. Яна хоць і добра-раздобрая ў мяне, піша, што сумуе, маркоціцца ў адзіноце, ды я не веру — ні фікá ў гэтым яе словапусканні няма, усыпляе, квокша, маю пільнасць, а сама нябось прыглядзела там пеўніка з чырвоным грабеньчыкам на ўсю галаву, гы-гы-гы...

Жанчына нечага сумелася, кашлянула і села. Трэба ж, пасля гэтага яе «кхы-кхы» з прачыненых напята дзвярэй кладовай, што была троху ўбаку і ўся паўз сцены завалена пустымі скрынкамі для пасылак, выйшаў немалады ўжо міліцыянер, і першае, што кінулася мне ў вочы, дык гэта яго картуз з чырвоным аколышам — акурат грабеньчык, пра які нагадаў Шчыгол.

— Хто гэта тут разумнічае так? — спытаў міліцыянер даволі строга і незалежна, мільгам азірнуў усю нашу кампанію.

— Ды во, Іванавіч, хлопцы з тайгі завіталі... Адзін, відаць, пазнаёміцца захацеў, намеры нейкія ў яго да мяне,— паштарка бліснула гарэзна блакітнымі вачыма, затрымала позірк на Шчыглу.— Малады чалавек, улічыце, я далёка не равесніца ваша,— і да міліцыянера, які меў званне старшага лейтэнанта: — Шкадую такіх вось бадзяг... Падзічэюць у тайзе, вырвуцца да людзей, дык гатовы з бабулямі цалавацца...— пастукала ручкай па краі бар'ерчыка прыаконнага, засярodзіла ўвагу Шчыгла на сабе, нагадала: — Сто рублёў з вас, чуеце?

— Ды чую — не глухі,— Шчыгол пагразіў

мне кулаком, але так, каб не ўбачылі за перагародкай, дастаў грошы, адлічыў дзесяць дзесятак, аддаў паштарцы, дадаўшы: — Вазьміце, калі ласка, і не кукарэкайце.

Тая не пакрыўдзілася, адно здзіўлена лыпнула сваімі выразнымі вачыма, унурылася ў паперы. Міліцыянер падышоў блізка да яе і ўзлокціўся на бар'ерчык так, што быў нос у нос са Шчыглом. Паштарка гэта ўбачыла і ціха папіхнула міліцыянера ў бок, і ён адступіўся, узлокціўся на перагародку так, што чуць не напалову перавесіўся ў залу — назіраў за Шчыглом, падобна, нечым надта зацікавіўся.

Падаючы квіток, паштарка спытала ў Шчыгла:

— У вас, канечне, і дзеці ёсць?

— Не скажу — гэта мая прафесіянальная тайна, гы-гы-гы...— рагатнуў Шчыгол.— А вось калі б вы трохі маладзейшыя былі, ды мы пажаніліся, яй-бо, прышпіліўся б да вашай спадніцы і ні на крок ад вас.

— Божа, які вы несур'ёзны!..— шчыра ўсклікнула паштарка, пляснула ў ладкі.— А яшчэ ў знаёмцы набіваецеся.

— Я набіваюся? — Шчыгол ганарыста зазірнуў у акенца.— З бабулямі не цалуюся.

— Ну-ну, герой веку, пагавары мне тут!..— Міліцыянер нервова цепнуў плячыма, правая рука яго крадма пасунулася па перагародцы ў бок Шчыгла, які, аднак, гэты рух міліцыянеравай рукі ўбачыў адразу і адступіўся.— Пятнаццаць сутак калі пакукуеш у церамку за кратамі — і на БАМ забудзеш,— рух ягонай рукі спыніўся.— Авяр'янаўна,— звярнуўся да паштаркі,— гэта не бамаўцы... Тыя хлопцы больш сціплыя, а ў гэтых нахабства праз край плешча.

Міхалёў:

— Таварыш старшы лейтэнант, вы нас абражаеце.

— Я вас абражаю?..— захадзіў, рыпаючы новымі ботамі, міліцыянер.— Абражаю, значыць?

— Пра БАМ дрэнна гаворыце,— не маўчыць Міхалёў.— Мы напішам скаргу на вас.

— Скаргу?.. На мяне? — Міліцыянер чуць

прыгнуўся і стаў набіраць нумар тэлефона, падняў трубку, старанна падзьмуў у мікрафон, спытаў: — Салаўёў? — і тут жа распарадзіўся: — Тэрмінова Пятруню з Улзытуевым на пошту, з машынай! — Паклаў трубку і ветліва, быццам і не званіў нікуды, звярнуўся да нас: — Вы, таежнікі, хоць ведаеце, якое заўтра свята?

Мы ведалі, што заўтра Дзень моладзі, але нам ужо не да свята: Міхалёў паказваў мне знакамі, што, маўляў, трэба хутчэй зматвацца адсюль — з міліцыяй ён не жадае звязвацца.

— Уцякайце, хлопчыкі,— добрае сэрца паштаркі не вытрымала.— Тыя два мацакі калі налятуць, дык вас ужо не выпусцяць — павяжуць і ў выцвярэзнік запратораць. Уцякайце.

— Мы не п'яныя,— голас Шчыгла нерашучы.

Міліцыянер паволі пасунуўся паўз перагародку — кіраваў, здаецца, да дзверцаў, каб выйсці ў залу. На хвілю прыпыніўся і, паказаўшы на крэслы, якіх было ці не пяць у зале, уладна загадаў:

— Прашу, грамадзяне, сесці, а рукі — на калені... Што за людзі?.. Чужакі, калі пра свята моладзі не ведаеце. Зараз Пятруня з Улзытуевым крышачку патрасуць вас, цесакі з-за халявак павыпорваюць...

Гэта ўжо сур'ёзна, калі так: уліплі хлопцы ў крымінал. Я свой нож не ўзяў, Міхалёў — таксама, а ў Шчыгла і Гардуноўскага тырчаць з-за халяў калодачкі. Міліцыянер не правароніў — пільны на вока, жук, калі нават памер нажоў правільна прыкінуў. От пра такога ўжо не скажаш, што спіць у шапку — не спіць, вопытны.

Шчыгол кінуўся да дзвярэй першы — куляй вылецеў з пошты. За ім — Гардуноўскі, ірвануў таксама з усіх ног: відаць, калі стане кампазітарам, то гэтак будзе выбягаць з філармоніі пасля няўдачнага канцэрта. Міхалёў не пабег — пайшоў спакойна. А я — застаўся. Хоць і вагаўся да гэтага пасылаць ці не пасылаць грошы Шахноўскаму на аплату за мяне камсамольскіх узносаў, але рашыў паслаць: можа, хоць азавецца хутчэй. Запоўніў бланк на паўсотню, і паштарка, прыняўшы грошы, на дзіва хутка ўсё аформіла, падаючы ў акенца квіток, шапнула ўстрывожана:

— І вы ўцякайце...

Міліцыянер пачуў гэты яе шэпт, сказаў:

— Авяр'янаўна, ты і праўда сэрдабольная жанчынка... От гэтай рысы не заўважаў раней.

Паштарка з падколам да яго:

— Ой, Іванавіч, ты шмат чаго не заўважаеш — на жанчын у цябе зашораныя вочы,— усміхнулася.

Міліцыянер, гэты самы Іванавіч, да мяне:

— Застаўся, значыць? Самы смелы, так?

— Выходзіць, так,— адказаў я.

— Што ж, гэта не блага,— фальшывінка ў яго голасе знікла.— Я асабіста паважаю тых, хто не палохаецца міліцыі. Гэта добрыя, як правіла, людзі, сумленныя, справядлівыя.

Паштарка:

— Іванавіч, не замінаў бы ты мне, ішоў бы ўжо...

— А я ж не з такам прыйшоў — білеты ў кіно ўзяў. Кажуць, добры фільм — зарубежны: «Загнаных коней прыстрэльваюць». Наш з табою сеанс роўна ў сем. Не позні толькі, таму што і Светку запрасіў, і яна к сямі тут будзе.

— Зарубежныя фільмы ёй яшчэ рана глядзець,— сказала паштарка, глянуўшы на міліцыянера такім ласкавым позіркам, што калі б пабачыў гэта Шчыгол, у яго не вытрымала б сэрца.

— Пра коней — можна,— супакоіў яе міліцыянер.

— І ўсё роўна выйдзі адсюль, не замінай,— папрасіла ўжо больш строга паштарка.

— Ужо не замінаю.— Міліцыянер выйшаў з-за перагародкі ў залу, падышоў да мяне і спытаў: — Гэта вы тыя самыя хлопцы, мусіць, што ў Бельскай спыніліся?

— Тыя самыя,— адказаў я ахвотна, нават падумаў, што ён, аднак, маладзец, службу нясе спраўна, калі ведае, дзе мы спыніліся.

Міліцыянер:

— Як доўга будзеце ў нас?

— Да восені.

— А ў тайгу зноў калі?

— Паслязаўтра.

Міліцыянер падае мне руку, кажа:

— Будзем знаёмы — Красухін.

Я пацiснуў яго на дзіва маленькую, як жаночую, далоньку і таксама назваўся:

— Бокуш.

— Адкуль родам?

— З Беларусі.

— А я на Смаленшчыне нарадзіўся. Суседзі, значыць. І як — дзесяцігодка за плячыма ёсць, канечне?

— А што — не відаць?

— Дарагі ты мой, я ўсё бачу,— здаволена прамовіў Красухін, на «ты» перайшоў.— Халасты?

— Навошта гэта вам? — я прыглядзеўся да яго, дык не такі ўжо ён і пажылы: сарака гадоў няма.

— Хм, не мне трэба, а савецкай міліцыі.— Красухін паволі апусціўся ў крэсла і паказаў, каб я таксама садзіўся, бо ёсць размова.

Я сеў насупраць.

— Або-о, Іванавіч,— чуваць больш чым здзіўлены голас паштаркі.— Ты ж, здаецца, да мяне прыйшоў... Адпусці хлопца, не чапіся да яго.— І па-жаночы ўшчувальна, нават з лёгкім абурэннем: — Ці ж так можна: спачатку напалохаў, а цяпер апраўдваешся — пухавічком сцелешся... Дык гэтыя твае Пятруня з Улзытуевым не прылятуць?

— Пажартаваў я, Авяр'янаўна,— сумеўся міліцыянер,— у азарт увайшоў, з самакантролю збіўся... Ты прывыкай: я заўсёды на службе. Да цябе прыйшоў — і ўсё роўна на службе,— весела даводзіць Красухін. Па-змоўніцку, як даўняму сябру, сказаў мне пра паштарку: — Спачувае таежнікам, а на мяне — нуль увагі... Не разбіраецца ў людзях ані.

— А што мне людзі? — яна часта загрукала штэмпелем — тук-ток, тук-ток... Скончыла грукаць, сказала з усмешкай: — Галоўнае — цябе раскусіла: раўнівец страшны. Разагнаў хлопцаў, а за што? Ну і няхай бы той, каторы са мной заігрываў, трохі павывіхаўся, а ты — наляцеў... Пра грабеньчык у яго выпадкова зляцела, да слова прыйшлося... Не кавалер ты, Іванавіч, а хадзячы

сум з лысінай...— сказала і як спалохалася сваіх слоў, апраўдалася: — Даруй, сарвалася, ніяк не прывыкну да твае лысіны,— заўсміхалася, дадала: — А той, вастраслоў, жвавы... Бачыш, кажа, прышпілюся... Пажартаваў, а мне прыемна такое чуць. Душа ў яго добрая. З яго і міліцыянер добры атрымаўся б.

— Не-е, мая харошая, і яму, і тым двум зайчыкам, што збеглі з ім, у міліцыі няма чаго рабіць,— перайшоў на сур'ёз Красухін. І ўсё не перастае зіркаць на мяне — прыглядваецца, ацэньвае. Нарэшце ставіць пытанне рубам: — Дык як?.. Да самай пенсіі — у міліцыі, а?

Ну й штукар!

Але ж пакуль ён перамаўляўся з Авяр'янаўнай (хто яна яму — я ўсё яшчэ так і не зразумеў: калі не жонка, то палюбоўніца? а мо нават нявеста?), мне тое-сёе праяснілася, і запрашэнню паслужыць у міліцыі «да пенсіі» я не здзівіўся.

Красухін, здаецца, даў мне колькі часу на роздум — чакае. Я маўчу, бо ведаю: з мяне такі міліцыянер, як з яго самога... ну хто — бібліятэкар? Не, на бібліятэкара ён і блізка не змахвае — пакрыўдзіўся б, пэўна, калі б уведаў, што я намагаюся прыблізіць яго да бібліятэкара, стараюся знайсці ў ім нешта агульнае з сабой. Як па мне, дык ён — міліцыянер, і больш ніхто. Нікім другім не магу ўявіць яго — гэтаксама, як сябе міліцыянерам. Відаць жа, служба ў міліцыі абавязвае (канечне ж, абавязвае!), каб ты — хочаш ці не хочаш, а ўмеў падчас і рукі заламаць чалавеку, а таго-сяго, калі гэта небяспечны злачынца, і пісталетам прыпалохаць, а то і стральнуць па ім, назнарок параніць у нагу і затрымаць... Страляць я ўмею, калі быў у арміі, то па мішэнях трапна біў. А вось па фанернай фігурцы, як заўсёды, мазаў. І да гэтага часу не разумею, чаму так атрымлівалася. То які ж з мяне міліцыянер?.. Корнеў — вось хто, па-мойму, мог бы служыць у міліцыі. Шчыгла, самбіста, паклаў на жывот у адзін мах. А я — цямця-лямця, у арміі, помню, прымудрыўся быў чытаць кнігі на пасту. Стаяў неяк удзень, ля склада з палівам. Склад навідавоку. Зачытаўся — і трапіў старшыну на вока, ён пады-

шоў да мяне і чакае, пакуль я, вартавы, убачу яго. Відаць, доўга б ён чакаў, калі б не аклікнуў...

Я ўсміхнуўся — з сябе, вядома, таго салдаціка-першагодка, а Красухіну, відаць, падумалася, што з яго прапановы смяюся, бо неяк адразу ж насцярожыўся, узняў галаў — чакае, што зараз скажу нешта яму не ў лад.

— Прапанова ваша цікавая, і для мяне, прызнацца, зусім нечаканая...— спрабаваў унікнуць канкрэтнасці.— Міліцыя — гэта, бадай, надоўга яшчэ. Ёй трэба паўсядзённая ўвага, кадры моцныя трэба.

— Вот іменна,— падтрымаў мяне Красухін, напружанасць з твару спала.— На ўсёй зямлі запануе мір, арміі непатрэбнымі стануць, а міліцыі і тады будзе хапаць работы. Чалавек не вечны: нараджаецца, жыве і паміра́е. Бясконцы працэс, так сказаць. І дрэнны паміра́е, і добры. А пакуль і той, і другі жывуць — яны дзейнічаюць, змагаюцца за месца пад сонцам. А там, дзе чалавек дзейнічае, бывае, што і не ўсё так выходзіць, як бы нам хацелася.

— Так, вядома,— азваўся я.

— І на БАМе, скажу табе, ужо няўпраўка без міліцыі. Здавалася б, усе свядомыя, камсамольцы, а некаторым часам міліцыя трэба, спакойна жыць не ўмеюць. Свайго аддзялення на ўчастку няма пакуль, дык закідалі скаргамі наша. Не верыш?

— Чаму ж — веру,— сказаў я.— Сумленны чалавек спакойны тады, калі бачыць, што ўсе, хто жыве побач з ім, таксама сумленна жывуць, з працы сваіх рук, як і ён сам. А калі ён, сумленны, уражаны не менш нас з вамі, што з ім побач ходзяць і хуліганы, і хапугі-дармаеды, і рвачы?.. Адсюль, відаць, і скаргі. Я мяркую па сваёй брыгадзе — хлопцы розныя, надоўга не ўсякі зможа тут застацца. Мы таксама прыехалі па ўласным жаданні, хоць, праўда, і на адзін сезон, але ўсё роўна бамаўцы... Толькі, можа, другога эшалона, дапаможнага.

— Хм, разважаеш, як дзед, правільна.— Красухін задумана глядзіць на мяне.— Тыя, хто ехаў сюды па закліку сэрца — яны гонар БАМа. Залатыя людзі, рабацягі. А што? Добрае слова:

рабацягі, а?!. Несумненна, жыццё ў іх тут няпростае — бытавых умоў няма і не адразу будуць, гнус заядае... Бацькі далёка — паспавядацца няма каму. І той-сёй, з незагартаваных, не-не дый запявае лазара... Цыгарэты намачыў — нездаволены, кіно прывезлі, а ён раней бачыў яго — скарга, суп напалову з камарамі-мошкамі — зноў скарга... Дробязныя, але скаргі. Ясна, за што ні вазьміся — усё трэба з нуля пачынаць. Я два дні як адтуль, з участка. І што ты думаеш? Прывёз шэсць заяў на рэгістрацыю шлюбу.

— Бачыш, Іванавіч,— вызірнула з акенца Авяр'янаўна,— у іх там, выходзіць, не так, як у нас з табой... Мы тры гады ўжо ведаемся, а пабрацца часу няма.

— Калі ж яго і праўда няма...— жартам адкруціўся Красухін.— А цяпер я нарасхват: і тут і там... Гэты раз давялося гаварыць з Рамэо і Джульетай, якія не прагнуць шлюбу, хоць і спяць у абдымку... Ён маўчыць, значыць, а яна пакрыўдзілася на мяне, кажа, што, бачыце, вам не сорам пра гэта гаварыць, а нам не сорам спаць удваіх, бо так, удваіх, калі з ім, то мне не боязна ўночы. Узяў я іхнія пашпарты, думаю, трэба ўжо заадно і гэтых пажаніць, хай заяву напішуць, аж у яго, прахвоста, жонка ёсць, жывая-здаровая, і дзіця малое. Сямейны чалавек... Анкета — на ўсе сто, ударнік працы, а маральна — слабачок. Таксама праблемка, а?

— Цяжка іх судзіць, не будучы імі,— падае каторы ўжо раз голас Авяр'янаўна: у нечым, адчуваецца, Красухін правініўся перад ёй, яна троху ўзбуджаная.

Красухін злавіў гэту перамену, паглядзеў на гадзіннік, сказаў дагодліва:

— Закругляйся — роўна паўгадзіны засталося да пачатку сеанса.— І да мяне: — А давай і ты з намі, а?

— Дзякуй, бачыў гэты фільм.

— Пятруня ў захапленні, раіў паглядзець,— Красухін расслабіўся, сеў у крэсле вольна, паклаў рукі на падлакотнікі, ногі выцягнуў наперад, трохі збоч століка.

— Шкада, не пабачыў вашых Пятруню і Ул-

зытуева,— сказаў я стрымана.— Што ўжо там за яны, няўжо такія, што адразу вяжуць і ў кутузку?

— Такія,— гарэзна пацвердзіла Авяр'янаўна.

— Хлопцы як мае быць, надзейныя,— ганарліва сказаў Красухін.

— Вось я і хацеў глянуць на іх, а заадно і вас зразумець — знарок застаўся. А вы — усяго тольк разыгралі нас. Ну ўбачылі нажы, то і затрымайце, праверце, што за нажы.

— Гэта ўсё так, канечне. Але ж — яны вам, нажы, у тайзе трэба,— кіўнуў галавой Красухін.— Напалохаў, затое ведаю: на танцах з нажамі не заявяцца.

— Дзяшовенька разыгралі. Па-мойму, дык не той ужо час і, бадай, чалавек не той, каб яго запалохамі выхоўваць. Улічыце гэта на далейшае, таварыш старшы лейтэнант. Даўней дзяцей у школе білі, лінейкай — па лбе, і будзь здароў. Трымалі ў страху. Цяпер не б'юць. І што, дзеці горшыя сталі? Лепшыя!

— Не ўсе, шаноўны, не ўсе,— ажывіўся, заёрзаў у крэсле Красухін.— У-у, ёсць такія...

— Дык і міліцыянеры не лепшыя ёсць.— Я, сам не ведаю чаму, аж зазлаваў, пры гэтым пастараўся як мага з'едлівей ухмыльнуцца.— Часам і адукацыя не менш дзесяцігодкі ў чалавека, і званне належнае, а суровасці ў ім, незразумелай пыхі і непадступнасці — столькі, што на дзесяцярых хапіла б. Чаму так?

— Слухай, як цябе...— Красухін сумеўся, ва ўпор глядзіць на мяне. Твар яго як спацеў — блішчыць, шчокі густа схапіліся чырванню.— Бокуш,— успомніў-такі маё прозвішча,— хадзем да начальніка — зараз вось, а?..— і далей загаварыў шчыра, даверліва: — Зразумей, нам да дзесятага ліпеня трэба падабраць двух кандыдатаў у школу міліцыі, на курсы... А ты, бачу, здаровы, армію адслужыў — сама што. Якое званне — сяржант, прапаршчык?

— Малодшы лейтэнант запасу, састаў — палітычны,— адказаў я.

— Адукацыя, значыць... вышэйшая,— расчаравана заключыў Красухін, пакрыўдзіўся: — Так

бы і гаварыў... Бач, камісар аб'явіўся — выпытаў усё, ды яшчэ з прапясочкай.

— Не ўсё выпытаў,— усміхнуўся я.— Скажыце, а хіба гэтых двух кандыдатаў няможна было падабраць загадзя? — Я назнарок пацікавіўся, бо надумаў параіць Красухіну Корнева.

— Падабралі. З мясцовых. Добрыя хлопцы. Ды адзін на абласной медкамісіі зрэзаўся — шумы ў сэрцы, а другі, выявілася, сын былога паліцая... Нарадзіўся, вырас і не ведаў хлапчына, што бацька яго ў час акупацыі фашыстамі Украіны быў шафёрам на душагубцы, людзей атручваў... Пасля змяніў прозвішча, сюды прыехаў, уладкаваўся ў леспрамгасе трактарыстам, ажаніўся і ўвесь гэты час, пасляваенны, быў тут. Калі сын даведаўся, што яго бацька забойца, не вытрымаў — сеў на матацыкл, заехаў на Байкал, вены ўспароў і паплыў...— Красухін падняўся, усхвалявана захадзіў па зале.

І тут якраз убегла, задыханая, цыбатая дзяўчынка-падлетак, сарамліва кінула нам з Красухіным «добры дзень», усміхнулася — прайшла за перагародку, і я пачуў, як яна сказала да Аўяр'янаўны:

— Ой, мама, замок другі трэба — чуць справілася, думала, спазнюся.

Няма чаго замінаць добрым людзям — і я мусіў ісці. Цікава, куды матанулі хлопцы? Відаць, да сябе на базу, куды ж ім яшчэ «ўцякаць». Леапольдаўна недзе раздзімае самавар, а хлопцы наперабой расказваюць Сінёву пра незвычайныя прыгоды на пошце. І варта мне прамаўчаць, не сказаць, што міліцыянер пажартаваў, наўрад ці асмеліцца каторы з іх пайсці ў парк на вечар адпачынку, дзе апрача танцаў мае таксама адбыцца канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Перад тым як развітацца, я сказаў Красухіну пра Корнева, і ён з ахвотай пагадзіўся заглянуць да нас заўтра ўранні, сустрэцца з Корневым асабіста. Канечне ж, папрасіў мяне, каб я дачасна нікому з хлопцаў, а начальству тым больш, пра маё блізкае знаёмства з ім не гаварыў, а пра розыгрыш ягоны, які, зрэшты, ён ужо і сам назваў недарэчным, і не намякаў.

Сінёў не спадзяваўся, што мы так хутка вернемся. А калі ўбачыў, што ўсе гулёны, апрача трох: Кружліка, Шумка і Корнева, у зборы, прытым усе цвярозыя, проста дзіву даўся. Вуцёха спаў, і ён пабудзіў яго, тэрмінова сабраў нас і паставіў задачу на заўтра. Яна такая, задача: дарма што і Дзень моладзі, свята вялікае, але нам святкаваць няма калі — геолагі ўступілі (вядома за плату) на дзень, дакладней, на два рэйсы верталёт, і мы павінны выкарыстаць яго спаўна, не ўпусціць гэты момант. Трыянгуляцыйны знак будзе блізка ад пасёлка, рукой падаць, але затое на вышыні, калі зыходзіць з узроўню мора, недзе больш за дзве тысячы метраў, на строма-абрывістым, абветраным лабяку Баргузінскага хрыбта, ці, як сказаў Вуцёха, аж на самым вільчыку. З грузам на гэты вільчык без верталёта не дабрацца. Вышыня знака, праўда, усяго пяць метраў, і груз наш не надта каб вялікі: чатыры шасціметровыя стаякі, драўляныя (па метру ўвойдзе ў зямлю — забетаніруем для трываласці), дыяметрам не менш за дваццаць сантыметраў кожны; іх, канечне ж, стаякі гэтыя, а разам з імі і дошкі, перакладзіны-папярэчкі, жэрдкі прыйдзецца прывязаць тросам да шасі верталёта, а ўжо мех жарствы з пяском, цэмент, цвікі-кастылі, рыдлёўкі, сякеры, пілу-двуручку і іншую дробязь, накшталт рубанка, стамескі, ватэрпаса — гэта ўсё возьмем з сабою ў кабіну. Лесаматэрыял мы прывезлі з тайгі, з машыны назнарок не згружалі, адно скінулі сухастой — не менш трох кубаметраў. Сухастой — на дровы: з Леапольдаўнай Сінёў заключыў дагавор, і там у шостым пункце сказана, што за кошт экспедыцыі «будуць парамантаваны падворак, хлеў, пастаўлены новы плот ад вуліцы, а таксама нарыхтавана дроў для паліва не менш дзвюх машын». Заўтра Вуцёха папілуе гэты сухастой бензапілой, пасля пачне рабіць новы плот, а нехта з нас, той, хто застанецца яму памагаць, павінен калоць дровы і складваць іх паўз хлеў — сценкай, аж да самага падстрэшша. Карацей, заўтра ў нас будзе запарны дзень, і, каб добра адпачыць, Сінёў параіў укладвацца на спачын, не ісці ў парк.

— Устроім свята пасля свята,— жартуе ён.— Выедзем на прыволле, от там і пабалюем, а тут, пад наглядам нашай строгай міліцыі, не вельмі разгонішся — прастор не той, самі пераканаліся.— Мы былі ў другой хаце, якую Леапольдаўна называе святліцай. Дзіва што, яна і праўда светлая, уся добра затынкаваная, сцены роўныя, пабеленыя, бы ў гарадской кватэры, падлога з шырокіх дошак, яшчэ даволі моцных. Затое парог — увесь, да падлогі, сцёрты, шулакі паточаны шашалем, збуцвелі. Святліца перагароджана. Правую яе частку з адным акном на гарод — займае Феня. Левая палова, зала, з трыма вокнамі на вуліцу і двума на гарод, ніякай мэбляю не застаўлена, нават стала няма, затое захавалася паўз сцяну шырокая лава, жоўценькая ўся, добра выслізганая, нібы нядаўна зробленая. У пярэдняй хаце, першай, напалову меншай за святліцу, ёсць дзве такія ж самыя лавы, яны сыходзяцца ў покуці, дзе стаіць выдатнай работы кухонны стол, вялікі, чалавек на дванаццаць. Над сталом на моцным каваным круку, увагнаным у бэльку, на трох медных ланцугах вісіць вялікая газавая лямпа, якой Леапольдаўна недзе з пяцідзесятых гадоў, казала, не карыстаецца ўжо. Шумок замануўся быў зняць лямпу і паглядзець, а дакладней — больш ужо не павесіць яе на ранейшае месца, выкупіць, ды гэта яму не ўдалося: гаспадыня, як ён ні ўпрошваў, не дазволіла чапаць лямпу. Тут жа, у гэтай покуці, вывешаны і гожа агорнуты кужальным, вышытым прыгожымі ўзорамі набожнікам даволі-такі шыкоўны абраз, на якім, унізе, акурат пад напісаным маслам партрэтам строгай, бязгрэшна-задуманай маладайкі з сангвінічным тварам і чуць схіленай набок галавой — знак пакоры, выціснута золатам: «Пресвятая Дѣва». Абраз зроблены прадаўгаватай скрыначкай, усе чатыры ражкі яе акаваныя ў медзь і ўтрымліваюць шкло, што споверх рамкі з канаўкамі ўсцяж, беражкі гэтых канавак густа ўсеяны ўкрапінамі яханту і срэбра — кветкі. Шумок пра гэты абраз ні слова пакуль, хоць і жыве надзеяй займець яго. Ці не разлічвае, як і ўсякі самадзейны антыквар, на дапамогу Фені, думае, пэўна, задобрыць яе грашы-

ма: маўляў, маладая, абновы трэба... Карацей, ён ужо неяк выказаўся быў, што з Леапольдаўнай устроіць торг па восені, перад ад'ездам. А пакуль ён атрымаў адказ — нечаканы паварот ад варот...

Леапольдаўна па натуры і характару — бяскрыўдная жанчына, на вераб'я не замахнецца, затое не па гадах рухавая, памяркоўная і надта гасцінная. Але ж і гаварлівая — недзе блізка ў гэтым да Шчыгла, і таксама жартаваць любіць. З усіх нас яна, здаецца, толькі Шумка не ўпадабала, назнарок пазбягае з ім размовы. Яго няма — і вось нават села з намі чаяваць, наставіла розных гатункаў варэння і запрашае, каб абавязкова і адно пакаштавалі — малінавае, і другое — рабінавае, і трэцяе — шыпшынавае... І ўсё да Сцяпанавіча звяртаецца, штораз называючы яго добрым чалавекам:

— Ой, добры чалавек, я за вамі сёлета, як у бога за пазухай, анягож. І-і, хто ж бы мне ўсё гэта зрабіў? Зяць?.. Не-е, зяць — любіць узяць, а зрабіць — гады ў рады возьмецца за што, дык робіць, як мокрае гарыць. Саўсім жа ўжо не ездзіць, пакрыўдзіўся. І за што, пачуйце-ка, людзі добрыя... Гэта ж ён вучыўся ў Іркуцку на зверавода, пасля на звераферме рабіў, а цяпер зноў вучыцца, аспірант. Ну і заявіўся з начальнікам сваім да мяне сюды — падладзілі якраз на вясновы юрул...

— На свята, значыць,— падтакнуў, кіўнуў галавой Сінёў.

— А не-е, добры чалавек, не на свята... Юрул — гэта час, калі козы пераходзяць з таго боку хрыбта на гэты і разыходзяцца па тайзе для ацёлу. І зяць мой з дружком сваім, начальнікам, рукзакі і ружжы за плечы і гайда на лыжах па чарыме, закальцы снежным, у тайгу. Бачу, праз пяць дзён вяртаюцца, у санях коз набіта, цельных, цэлы кош з коптарам. Везлі іх у два кані. Палічыла — аж дванаццаць самак загубілі, душагубы. Божа-божа, мне хоць упрочкі бяжы, плачу, а яны ходаюць гэтых коз, трыбушаць і паследы спіртуюць, і трыбухі — таксама... Пасля скуры завезлі і здалі ў заготпункт. Хацелі ў рэстаран мяса здаць, а дырэктар агледзела, што козы цельныя былі, і так узбычылася, што нават міліцыя-

нера прыняла. А гэты начальнік, дружок, дакумент з пячаткай і подпісамі паказвае, дзе сказана, што козы трэба для навуковых мэт... Ну, мяса ў іх не прынялі, дык яны і давай варыць яго на тушонку. Паварылі, заставілі слоікамі ўсю хату, хацелі ў пограб знесці, дык я так разышлася, што ім хоць уцякай: «Забірайце,— крычу,— шклянкі ўсе гэтыя з-пад ног, а то вазьму чапялу і ўсё памазкачу. Усё забірайце! — І да зяця: — Думаеш, у цябе нервы — вяроўкі, дык і ў мяне такія?!. Зладу мне з табой няма — не прыязджай больш, на парог не пушчу!» А гэты яго начальнік, выкшталцоны такі, дагледжаны, круціцца паўз мяне, ублагае, а я ганю іх з хаты, лаю на чым свет стаіць. Яны, праўда, пайшлі на пошту, выклікалі верталёт, а вечарам, дзякуй богу, і выбраліся. Агледзела я пад сталом пяць слоікаў тушонкі, занесла ў пограб, дык і стаяць там...

— Я ў вас іх куплю,— сказаў Вуцёха.— Паўрубля слоік.

— А дзетачка, не трэба мне тваё паўрубля — так забірай,— уважліва паглядзела на Вуцёху.— Калі б, здаецца, паміраланз голаду, дык і то не стала б есці такую тушонку... Козычкі тыя, гаротніцы, і зараз уваччу стаяць, шкада мне іх,— уздыхнула.— Я ўсё люблю ў прыродзе, мне ўсё міла, усё ў ёй разумна... А вот не цярплю толькі адной птушкі — сізака. Якая ж гэта птушка, калі на дрэва не садзіцца, гнязда не ўе, а ўсё наровіць нагáдзіць чалавеку ды ўхапіць ад яго пабольш.

— Яніна Леапольдаўна, гэта ж бог хацеў зрабіць сізака божай птушкай, ды недарабіў...— Сінёў пасміхнуўся ў кулак — настроіўся, па ўсім відаць, на вясёлы лад.— Значыць, прагульваўся бог аднойчы па лесе. У ляшчыннік увайшоў, бача, многа арэхаў-зялепухаў. Непарадак — падзьмуў на ляшчыннік цёплым ветрам, выспеліў арэхі, далей тупае. І тут у яго з-пад ног — хлоп-хлоп-хлоп! — нешта вялікае і цяжкое ўзляцела. Ад улёку бог ажно прысеў, сэрца ледзь не разарвецца, тахкае, як шатун без падшыпнікаў. А тут зноў — хлоп-хлоп-хлоп!.. Пазнаў бог птушку — рабчык. Занепакоіўся: «Дзікая птушка — і вялікая? Ёй цяжка, такой». І зрабіў рабчыка малым.

Паколькі ў прыродзе нічога марна не прападае, бог рашыў астаткі рабчыка сізаку аддаць, а заадно дамашняй птушкай яго зрабіць, божай. Паклікаў сізака, а той не прыляцеў у час. Раззлаваўся бог і падзяліў астаткі ад рабчыка між баравых птушак — глушцу трохі дасталося, цецеруку, курапачу... Тут і сізак ляціць. Бог пытае ў яго: «Што ж ты, голубе, так позна?» Сізак надзьмуўся, адказвае: «Пшанічкі ўпаляваў у чалавека, пакляваў і прыснуў у падстрэшку». Бог выслухаў дый кажа сізаку: «Ну і туляйся па падстрэшках праз сваю ляноту — не быць табе божай птушкай... Не будзе ў цябе часу ні гнязда зрабіць, ні на дрэве песняў паспяваць».

— Вой жа правільна!..— усклікае Леапольдаўна.— Бяздомная птушка — апорхлая, захежалая і, як жабрак, усё ходзіць і вызірае, каб хто батона кінуў.— Паднялася (нечага ж во не сядзіцца Леапольдаўне), спытала: — Хто мне пасвеціць?

— Я магу,— ахвотна вызваўся Вуцёха.

— А мне во ён пасвеціць,— паказала на Міхалёва.— У яго, бачыла, і свяцілка ёсць,— узяла трохлітровы бітончык, выйшла ■ хаты ў сенцы. Міхалёў — за ёй, з кішэнным ліхтарыкам.

Вярнуліся яны з поўным бітончыкам мінулагодняга бруснічна-буяковага квасу. Міхалёў аддаў Вуцёху, завязаную шнурком, торбачку з тушонкай — усе пяць слоікаў. Як толькі Вуцёха ўхапіў торбачку, Леапольдаўна сказала яму:

— Тушонка не папсутая, карыстайся на здароўечка... Толькі не за маім сталом.

— Дзякуй...— без ахвоты выціснуў з сябе Вуцёха.— Я вам за гэта плот дабрэнны пастаўлю,— і выйшаў з торбачкай вонкі.

Леапольдаўна, частуючы нас квасам, спытала ў Міхалёва:

— Ну, бачыў, унучак, пограб?

— У-у, даволі арыгінальнае збудаванне! — узнёсла выгукнуў Міхалёў.— Каменнае і глыбокае — як бамбасховішча.

— А не звярнуў увагу на дзверы?.. Бачыў, яны ўроблены так, што праёма не відаць?..— І Леапольдаўна расказала нам даволі цікавую гісторыю.

Пяцёра чырвоных партызан, сярод якіх быў і старэйшы брат Леапольдаўны, Вацлаў, недзе з тыдзень хаваліся ў гэтым пограбе. Атрад Унгерна-барона ачапіў пасёлак з усіх бакоў, выйсця ніякага, і партызаны пакідалі сваіх коней ды бягом, гародамі, да Вацлава дамоў. Стары Леапольд, інвалід, хадзіў на дзеравяшцы, якраз дома аказаўся. Схаваў хлопцаў у пограб, а дзверы, дарма што і не ўсякі прыкмеціць іх, закідаў мяшкамі бульбы, якую не паспелі знесці ўніз, у засек. Знадворку каменны выступ, ход у пограб, быў завалены назапашаным на дровы сухастоем, і пра пограб белагвардзейцы нават не здагадваліся. На другі дзень яны пачалі рассяляцца па хатах. Не абмінулі і гэту, прытым спыніліся ў ёй на пастой два штабныя афіцэры, з якіх адзін быў нават з жонкай. Добра абжыўшыся, упадабаўшы гаспадара за яго гарэлку, афіцэры пачувалі сябе спакойна. Аднойчы апоўначы партызаны павязалі п'яных афіцэраў і іх дзеншчыкоў, пазатыкалі ім раты анучамі, не забылі, канечне, і пра гаспадара — яму таксама скруцілі рукі аборай, а ў дадатак знялі дзеравяшку і закінулі ў гарод... Самі ж засядлалі коней, пераадзеліся ў форму белагвардзейцаў. Вацлаву падышла форма жанатага афіцэра, які і росту быў ягонага, і троху з твару падобны, і яму давялося разыгрываць мужа — пасадзіў афіцэрыху перад сабой, а пятага партызана, што быў без каня і формы, навязалі на вяроўку — за сядло, ззаду, і павялі так праз увесь пасёлак, нібы на ўскрай лесу, на расстрэл. У канцы пасёлка афіцэрыха аблаяла вартавых: «Вы, марадзёры!.. З якой нагоды панапіваліся?.. Віця, Віця!..— Яе мужа Віктарам звалі.— Ты паглядзі — казакі п'янейшыя за нас з табой. О, мой капітан, ты сам п'яны, і казакі п'яныя... Не спаць, мой капітан!..— крычала яна, а «капітан» і сапраўды, як п'яны, хіліўся ёй на ўлонне і трымаў на ўзводзе наган. А яна не змаўкала: — Казакі!.. Зараз вы пачуеце, як я гэтага бальшавіцкага лазутчыка прыкончу... Сама!» У афіцэрыхі атрымлівалася ўсё так здарова і натуральна, што вартавыя нават пароль не спыталі. Як след ад'ехаўшыся, партызаны адпусцілі жанчыну, і яна магла б вярнуцца да свай-

го мужа, але не пажадала. Цяпер яна — суседка Леапольдаўны, Манеша, і сёння мы яе бачылі — сівенькая бабуля, даволі інтэлігентная, ахайная.

Сінёў пацікавіўся пра далейшы лёс Вацлава, і Леапольдаўна сказала:

— Гэтай вайной загінуў. У баях за Смаленск. Ён быў кадравы ваенны, камандзір... А тата з мамай — яшчэ да вайны памерлі. Замуж я выйшла позна, нарадзіла дачку ў трыццаць пятым годзе. Мужа з вайны не дачакалася — загінуў, пахаронка прыйшла. І ўвесь час удзвюх з дачкой жылі, у гэтай хаце. Зяць звёз дачку — адна засталася. Раней я ўсё магла, а цяпер ужо магата мая не тая, падбілася. Дзякуй богу, унучка пажадала са мной застацца, то памагае. Пабыла замужам, наглядзелася на мужа-круцяля, дык жыве ціха, ні з кім не ведаючыся.

Пабудзіла нас Леапольдаўна. Яшчэ толькі світаць пачало, а яна ўжо снедаць кліча. Такую б нам кухарку на ўвесь сезон!

— Адзін з вашых сярэдначы прыбег,— яна стаіць у парозе, паказвае на Корнева.— От ён, гэты... Хм, і ўжо не спіш, а? — да Корнева звярнулася.— З нявыспанага які ж работнік? — Да Сінёва: — Не-е-э, я такога валацужку не трымала б у брыгадзе. Можа, ён дзе з жуллём жыгаваў, нарабіў чаго нялюдскага,— працягла-ўважліва паглядзела на Корнева, усміхнулася: — Ай з дзеўкай быў?.. Маіць, Гальку Тугаевых заарканіў. Чорненькая смяюшка з грыўкай, так? Яна блізка тут, на нашай вуліцы...

Корнеў, нявыспаны, слухаў Леапольдаўну няўважліва і як не разумеў яе, адно час ад часу пазяхаў.

А Леапольдаўна расказвала пра Гальку:

— Ёй, каб выйсці замуж, трэба хоць месяц пабыць недаступнай. Ды яна не ўмее такой быць, бо тыя дзве рукі, што бог даў, каб хоць для прыліку бараніцца, адразу ж цягнуцца хлопцу на шыю, абшчапляюць... Дзеўка яна нецярплівая: спачатку цягне бахура да сябе ў пасцель, а тады ўжо спрабуе разабрацца ў ім. Прыезджыя быту ёй не даюць — маладая, прыгожая, прыкмячаюць здалёк.

От і тлумяць галаву, ліпнуць. А хай бы каторы з вас, урвіцеляў, ды ўбачыў яе не проста супольніцай на адзін вечар, а маткай сваіх будучых дзяцей. А яна прыгожых дзяцей народзіць...

— Хто ж вінаваты ў тым, што яна такая? — не мог змаўчаць Шчыгол.— Сама цаца добрая, калі прыезджыя ліпнуць. Хіхікалка.

— Такія во, як вы, бугаі, і вінаватыя,— Леапольдаўна паказала на Шчыгла і Корнева.— Вам і сёння нецалаваную каб, і заўтра, і паслязаўтра... А дзе ж іх столькі ўзяць, нецалаваных?

Шчыгол здаволена рагоча, затым прызнаецца Леапольдаўне, што яго першая жонка была менавіта такая вось, як і Галька гэта, нецярплівая: чуць ён, муж, адлучыцца куды, яна тут жа і цягне бахура да сябе... Ён, канечне, не стаў чакаць, пакуль нараджае яму дзяцей, адразу пасля таго як захапіў уночы з палюбоўнікам, падаў на развод, іх развялі, ды яна ўсё роўна аб'ягорыла: нарадзіла сына роўна праз восем з паловай месяцаў пасля разводу, запісала яго Салдаковым.

— І што ёй, такой, зробіш? — Шчыгол сваім расказам узрушыў Леапольдаўну не на жарт, і яна адразу, рашуча, прыняла яго бок, паверыла яму і, слухаючы, толькі галавой пакіўвала ў знак згоды з ім.— Пакуль халасцякаваў — не чапала. Думаў ужо, забылася. Зноў ажаніўся, дачка нарадзілася, Эдзітка. Жонкай не нарадуюся. А неўзабаве і кватэру атрымалі — двухпакаёвую. Толькі жыць. Ды аднойчы вечарам заяўляецца мая першая, звоніць, Каця адчыняе ёй, яны сустракаюцца, нешта там гавораць дзёрзкае, а тады і давай калашмаціць адна адну. Крычыць першая: «Пажыла, пакрасавалася — хопіць!.. Цяпер я з ім буду жыць, а ты — матай адсюль, ну!» — гоніць жонку маю, законную, з дому. Тут я і разышоўся, спусціў «госцю» з лесвічнай пляцоўкі без парашута, гы-гы-гы... А праз месяц — позва ў суд... З таго часу плачу аліменты на сына.

— Што ж,— спачувальна азываецца Леапольдаўна.— Хлопцу трэба бацька. Можа ж, ён твой якраз.

— Мой ці не мой, а ўсё роўна — мой,— смяецца Шчыгол.— Не пакрыўдзіў, прыйшлося па-

цясніцца — размянялі мы сваю двухпакаёвую: адзін пакойчык — нам, другі — ім... Хай жывуць.

Сняданак прайшоў весела.

Кружліка і Шумка ўсё яшчэ не было, і Сінёў паслаў Вуцёху па іх. Роўна к сямі гадзінам Вуцёха вярнуўся з Шумком, але без Кружліка, які застаўся святкаваць Дзень моладзі.

Ад'язджаючы на верталётную пляцоўку, Сінёў сунуў мне ў рукі лісток паперы, дзе зрабіў расклад выхаду на сувязь: першы сеанс — роўна ў дзесяць гадзін, другі — у дванаццаць, трэці — у пятнаццаць, чацвёрты — у васемнаццаць. Гэта абавязковыя сеансы, кантрольныя, апрача тых, якія могуць быць назначаны ў ходзе перагавораў. Я таксама хацеў трапіць на пабудову знака, але Сінёў загадаў застацца, назначыў мяне старшым. Нас трое заставалася: Вуцёха, Корнеў і я. Канечне ж, не гуляць-адпачываць. Мы павінны былі не толькі дроў нарыхтаваць ды плот новы паставіць, але недзе каля пяцідзесяці рэперных слупкоў пачасаць і кузбаслакам пафарбаваць. Работы на ўвесь дзень, і на загрузку верталёта мы не паехалі. Праз паўгадзіны, не больш, затарахцеў над пасёлкам верталёт, падняўся на вяршыню хрыбта і неўзабаве вярнуўся назад. У бінокль было добра відаць людзей, а трохі збоч ад іх трапятаў на адзінокай жэрдцы вялікі белы сцяг. Чаму белы? Леапольдаўна расказала, што гэта дзесяцікласнікі-выпускнікі ўстанавілі сцяг, але ён выгараў на сонцы і стаў белы.

Вуцёха ўзяўся пілаваць дровы. Мог бы і я гэта рабіць, ды ён, вялікі спец, баіцца, што сапсую бензапілу, мне не давярае.

Вярнуўся з верталётнай пляцоўкі Шумок, хацеў заехаць у двор, але Вуцёха паспеў загрувасціць увесь абшар падворка паўметровымі цурбакамі. Я з Корневым пачалі калоць гэтыя цурбакі. Шумок паставіў машыну блізка ля варот, зачыніўся ў кабіне і, пэўна, заснуў там.

Неўзабаве зайшла ў двор Манеша, суседка Леапольдаўны, колішняя афіцэрыха. Зрэшты, яна таксама, як і Леапольдаўна, былая настаўніца, вы-

кладала матэматыку. Адсюль і дружба іх даўняя, узаемная прыхільнасць.

Бензапіла ў Вуцёхавых руках то натужліва вые, угрызаючыся ў сухую драўніну, то лёгка тарахціць ухаластую. Нейкі час жанчыны назіраюць за ўвішным Вуцёхам. А ён і праўда ўвішны, сур'ёзны, засяроджаны — шчыруе як мае быць. Манеша падступілася да яго, зазірнула ў твар і пытае:

— Сынок, адкуль у цябе такі спрыт? — хітае ўхвальна галавой, дадае: — Ай жа і ўхватны — такі работнік цяперача рэдкі, не ўсякі так можа рабіць,— азірае нас, бліжэй падступаецца да Вуцёхі, кранае яго за плячо.— Гэта ж ты, сынок, быдта сабе робіш...

— Ёлкі-мяцёлкі!..— Вуцёха глушыць бензапілу, атрэсвае рукі.— Бабуся, прашу, адыдзіце трохy далей,— паказаў,— туды вунь, на чыстае... Бачыце, у мяне ў руках складаная тэхніка, стаяць блізка забараняецца.

Рыпнула брамка, і высокі парожак падваротні пераступіў знаёмы мне міліцыянер — Красухін. Ён павітаўся спачатку з намі, хлопцамі, затым падышоў да жанчын, павітаўся і жартам кінуў ім:

— Эксплуатуеце хлопцаў?.. А між іншым, паважаныя, сёння свята, людзі гуляць павінны.

Леапольдаўна:

— Вы, Іванавіч, самі гульма гуляеце, дык і хлопцаў маіх хочаце звесці? — стрымана ўсміхнулася, прыжмурылася.— Прыйшлі не ў час.

— Я да хлопцаў прыйшоў,— Красухін глянуў на мяне, я паказаў яму вачыма на Корнева, і ён на дзіва хутка сарыентаваўся: падышоў да Корнева і спытаў: — Корнеў?

— Так, Корнеў,— Валодзька разгубіўся: на мяне зірнуў, на Вуцёху, цепнуў недаўменна плячыма і патупіў вочы.

— Мне пагаварыць з вамі трэба,— ветліва сказаў Красухін.— Пройдземся?

— Ды я не супраць, але... адкуль вы ведаеце маё прозвішча?

Яны, Корнеў і Красухін, тут жа пакінулі падворак, і Леапольдаўна сказала да мяне і Вуцёхі:

— А ён такі, урвіцель гэты, нешта вытварыў... Ці не Гальку пакрыўдзіў як, а?

— Ды не, Яначка, бог з табой...— уступілася за Корнева Манеша.— Яна з гадзіну ўжо як у нас. З Палінай, унучкай маёй, сакрэтнічаюць... Нехта з вашых быў учора з імі: Гальку дамоў правялі, а з Палінай застаўся давідна... Затлуміў дзеўцы галаву... Паслалі мяне, каб я распытала пра яго.

— Ага, дык ты, мілка, у розгляды прыйшла? — Леапольдаўна адразу ж паспакайнела, пагардна зіркнула на Манешу.— Перадай Паліне, што прыйшоў Красухін і арыштаваў яго, павёў у міліцыю.

— Халасты ён, бабуся, не жанаты,— умяшаўся ў іх размову Вуцёха.— Калі што — я сватам буду, лады?

— Ды ўжо ж, дзетка... Ой, пабягу,— занепакоілася раптам Манеша. І яна, праўда, не затрымалася на падворку, пайшла.

Было роўна дзесяць гадзін, я ўключыў рацыю і адразу ж пачуў голас Сінёва:

— Слухай мяне ўважліва, Аляксей. Мы ўсё ўзялі, а на ваду забыліся, раствор рабіць няма як. Трэба не менш шасці вёдраў, і вы павінны неадкладна пераключыцца на дастаўку вады. Па два вядры на кожнага выпадае. Падумай, як будзеце дастаўляць, і далажы. Прыём.

— Сцяпанавіч, зараз я з Леапольдаўнай пагавару, хвілінку...

Леапольдаўна мяне не абрадавала, сказала, што каб зайсці пехам на вяршыню хрыбта, трэба не менш як паўдня затраціць. Школьнікі за паўдня ўпраўляліся. Тут якраз і Красухін з Корневым вярнуліся. Вуцёха, пакуль я размаўляў з Леапольдаўнай, перагаварыў аб усім з Сінёвым і загарэўся распрацоўкай плана дастаўкі вады на вяршыню хрыбта.

Я сказаў Сінёву, што гадзіны праз чатыры, прыкладна, вада будзе на вяршыні.

Сінёў — мне:

— Верталёт за намі прыляціць роўна ў 19 гадзін. Калі ваду даставіце к 15, то ўсе работы якраз управімся скончыць. Дзе Шумок, вярнуўся? Прыём.

— Вярнуўся, спіць у кабіне. Прыём.

— Пабудзі, хай дасць тры камеры цэлых, едзьце на рэчку і набярыце поўныя камеры вады. Гэта проста зрабіць: выкруціш ніпелі, а пасля зноў завінціш. Камеры з вадой, як вянкі, на шыю — і гайда. Усё зразумеў? Прыём.

— Зразумеў, Сцяпанавіч. Здарава прыдумалі. Прыём.

— Абавязкова захапіце чаго з сабой перакусіць. І каб у кожнага біклажка была з чаем. У мяне там з руказака дастань бутэльку мускату, па шклянцы дабаў у чай — такі напітак здымае стому ў дарозе. Дзейнічай. Рацыю не бяры, бо замінаць будзе. Размова скончана.

Вуцёха прапанаваў высыпаць з трох мяшкоў цэмент, заліць у кожны мяшок па два вядры вады, завязаць, паставіць у рукзакі — на плечы і ў паход. Мяшкі, хоць і папяровыя, але ў пяць рэдзяў, і не паспеюць размякнуць. Красухін паабяцаў даць нам брызентавыя ёмістасці, і Карнеў гатовы быў ужо ісці па гэтыя ёмістасці, з Вуцёхам не пагаджаўся. Калі ж я нагадаў пра камеры, яны ўсе тут жа адобрылі прыдумку Сінёва, і мы зазбіраліся на раку. Красухін улучыў момант і папрасіў мяне, каб заадно зняў з вяршыні сцяг і захапіў з сабой. Прызнаўся пры гэтым, што ад жыхароў пасёлка паступіла ў міліцыю скарга: маўляў, чаму лунае над пасёлкам белы сцяг? Вуцёха пачуў нашу размову і расказаў Красухіну, як нядаўна трое маладзёнкаў прыкацілі на матацыкле да хрыбта, разбілі палатку, весяліліся ноч, не давалі нам спачываць пасля працоўнага дня, а раніцою глядзім і вачам сваім не верым — над самай прорвай на скале чорнай фарбай напісана: «Тут былі Кірыл, Люся і Мефодзій. 5.VII.74 г.». Мы ўсе — туды, хацелі прымусіць, каб сашкрэблі надпіс, а іх і след прастыў, змыліся.

Вуцёха закончыў:

— Міліцыя наша на такіх пэцкалёў не звяртае ўвагі. А іх трэба сурова караць.

Красухін зацікаўлена азірнуў Вуцёху, з выклікам сказаў да яго:

— Дык табе, дарагі ты мой, і карты ў рукі...

Паступай у міліцыю служыць. Хадзем — пагаворым.

— Ды што вы, таварыш старшы лейтэнант?..— сумеўся Вуцёха.— Для міліцыі я занадта гарачы. Міліцыя — не мая стыхія.

— А ўсё ж? — Красухін не зводзіць з Вуцёхі позірку.— Не спяшайся адмаўляцца — такая прапанова адзін раз бывае ў жыцці.

Вуцёха спытаў у Корнева:

— І ты адмовіўся? Табе можна ісці ў міліцыю, не адмаўляйся.

— Сам ідзі, разумнік!..— Корнеў махнуў рукой і пабраўся ў кузаў следам за мной, сказаў Шумку: — Паехалі, няма часу на размовы.

І праўда, часу няма, і я сказаў Красухіну, што яго просьбу выканаю. Красухін апанурыўся, кіўнуў мне і паволі пайшоў усцяж вуліцы.

Шумок, перш чым паехаць, панасміхаўся з нас, даймаючы тым, што, маўляў, адзін раз яго, Шумка, не было — і ніхто не паклапаціўся пра ваду, ніхто не нагадаў.

Звычайна, калі няма Сінёва і Кружліка, кабіну займаў Вуцёха. Але ён не сеў з Шумком, залез да нас у кузаў. Шумок і гэта не прамінуў, зазірнуў у кузаў, сказаў:

— Ты, Міша, не крыўдуй... Дык праўда вочы дзярэ? То-та ж: без Шумка і Вуцёха не Вуцёха!

Я не адразу, але ўсё ж убачыў, што з суседскай хаты, з акна, назіраюць за намі тыя самыя дзяўчаты, да якіх учора прымкнуў Корнеў: Галка і Паліна. Яны ўсміхаліся, махалі рукамі, але Корнеў нечага стараўся не глядзець у іх бок, і тады Паліна расчыніла акно насцеж, высунулася і, прыязна ўсміхаючыся, аклікнула яго:

— Валодзя, зайдзі вечарам!..

Корнеў павярнуўся на воклік, памахаў прыветна рукой, кіўнуў — чым і абнадзеіў Паліну.

Набраўшы поўныя камеры вады, сталі прымервацца, як лепей іх несці. «Вянком», як сказаў Сінёў, сапраўды сама зручней, і мы, выехаўшы на машыне за пасёлак, да падножжа хрыбта, рассталіся з Шумком — патэпалі па сцяжыне ўгару, абмінаючы каменныя піраміды.

...Дасяглі вяршыні толькі а шаснаццатай гадзіне. Пакутны быў шлях, нялёгкі. Напачатку падатна-мяккія, не вельмі каб і цяжкія камеры ніколькі не палохалі, затое ўжо недзе на другой палове дарогі пачалі неўпрыкмет налівацца свінцом, цяжэць, і неўзабаве сталі такімі пакутнымі, няпростымі ярэмцамі, якіх свет не бачыў. Мы спрабавалі нават каціць іх, але дзе ж ты з камерай управішся: угору не ўніз, доўга не пракоціш. Ды і не зручна — завальваецца набок, сплюшчваецца, выслізгвае з рук,— ну жывая, і толькі. Але ж дабраліся-такі, пападалі на зямлю, ляжым. Хлопцы сабраліся на перакус. Сцяпанавіч пусціў па крузе сваю біклажку, пачаўшы з мяне. Я зрабіў колькі глыткоў — мускат, любімае віно Сінёва. Смачнае — райскае віно. Перадаў біклажку Вуцёху. Той добра пацягнуў. Корнеў таксама не скромнічаў. Затое ўсе астатнія такой прывілеі не атрымалі — ім засталося не больш як па два-тры глыткі.

Сінёў пасміхаецца:

— Лічыце, адзін глыток на такой вышыні роўны ста грамам...— і суцяшальна дадае: — Вечарам дабавім — у гонар свята можна, я тое-сёе прыхаваў.

* * *

Апоўначы ізюбраня неўпрыкмет пакінула распадак. Прадзіралася густым захламленым сланікам, баючыся трапіць на сцежку. Распадак быў небяспечны тым, што ў ім раскашавала расамаха. Гэтай пражэрлівай звярыне і ўночы і ўдзень няма ўшчунку. Хоць лапы ў яе кароткія, але зморы не ведаюць...

Расамаха натрапіла-такі на след ізюбраня, пачала пагоню і, падобна, не думае адставаць. Ёй, безумоўна, не ўгнацца за ізюбранём на сваіх крывых лапах, але ж гоніцца, спадзяецца на ўдачу.

Ізюбраня не стала перасякаць дарогу-гравейку — папраставала паўзбоч яе. Расамаха была, можа, метраў за дзвесце, не больш. Настырная трапілася, смелая — галодная, відаць.

Прасцей простага збавіцца ад яе: можна набраць хуткасць і ўцячы. Ізюбраня, аднак, не спя-

шаецца гэта рабіць — няхай расамаха ўходаецца як мае быць, далей адбяжыцца ад добра абжытага распадка...

Ізюбраня ўзбегла на гравейку і наддало ходу. Якраз пачуўся недзе ззаду натужліва-звонкі гуд машыны, а неўзабаве дзве яркія палосы асвяцілі палатно гравейкі так, што ізюбраня бачыла свой мітуслівы і надта доўгі цень наперадзе, гналася за ім з усіх ног і не магло дагнаць. Гэтае наіўнавясёлае спаборніцтва разгарачыла кроў, узбадзёрыла — ізюбраня імкліва, бы на крылах, ляцела па асветленай роўнай дарозе. Расамаха, канечне ж, адстала і цёпалася далёка ззаду.

Калі б не стрэчная машына, можна было б і не збочваць яшчэ. Ды святло яе фараў набліжалася хутка, палохала. Ізюбраня міжволі запаволіла бег, крута забрала ўправа і скочыла ўніз, на лужок, адбеглася прагала, павярнула і колькі хвілін трухам, між кустоў, рухалася насустрач задняй машыне. Нарэшце спынілася, замерла.

Палосы святла выхапілі з цемры строй белых прыдарожных слупкоў, асвяцілі расамаху — тая ўсё яшчэ пільнавалася яго следу, не зважаючы на машыну, што была ўжо зусім блізка... Праз колькі хвілін машына дагнала расамаху, з ходу падмяла яе і, рэзка затармазіўшы, спынілася. Ля машыны чуваць былі галасы людзей. Стрэчная машына таксама спынілася. Людзі пры святле фараў разглядвалі забітую расамаху.

...Ізюбраня засталося на лужку, пасвілася да самага досвітку. Калі пачало ўзыходзіць сонца і ранішні туман стаў паволі збірацца ў лагчынах, асядаць, ізюбраня зноў вярнулася да паднożжа хрыбта, у лісцёвыя зараслі хмызняку, выбрала зацішную ўтравелую мясцінку і ўлеглася на спачын.

## 7

Я спытаў у Сінёва, як ён трапіў на Поўнач, пад якім такім прымусам.

— Ну, па-першае, з-за грошай,— не стаў таіцца Сінёў.— Дэмабілізаваўся, а трэба ж апратку набыць? Трэба. Маці і сястры памагчы трэба?

Несумненна. Вот я і падаўся на заработкі... Ну, а другі бок медаля, канечне, такі: летуценнік я ўсё-ткі па натуры, змалку рамантыкай жыў. Начытаўся кніг... «Аліцет ідзе ў горы» двойчы прачытаў. Помню, ляжу ў ложку, сонца ў вокны свеціць, на шыбах карункі марозныя. Я гляджу на гэту зімовую фантазію і ўяўляю Поўнач, разважаю: «Мароз там крапчэйшы і карункі на вокнах, мусіць, яшчэ цікавейшыя і прыгажэйшыя...» У такую вясну дзядзька мой, Якаў, у водпуск з Поўначы прыехаў, у нас спыніўся. Якраз быў канец красавіка, дзядзька апрануты цёпла: футравая куртка, унты, шапка андатравая... Праўда, ён у першы дзень купіў сабе ўсё летняе, а цёплыя апраткі яго я надзяваў і хадзіў па двары — гуляў «у Поўнач».

Так-сяк-наперасяк скончыў сямігодку. Позва з ваенкамата прыйшла — на вайсковую службу трэба. Роўна тры гады адбарабаніў у арміі. Радыётэхнікам быў, абслугоўваў радыёўстаноўку. Пасля дэмабілізацыі сабраўся быў ехаць у Мурманск — хацеў на судна рыбалавецкае трапіць, паплаваць, грошы зарабіць. А тут — прысылае дзядзька Якаў пісьмо, пытае: «Ці не хочаш, пляменш, махнуць да мяне?» І, канечне ж, нагадаў, як я некалі гарэў жаданнем паехаць з ім, трызніў Поўначчу. Закончыў ён сваё пісьмо так: «Прыязджай, Іван, Поўнач — край цудоўны, здаровы, чысты. Тут, разумееш, грыпам не хварэюць... Прыязджай, пажывеш — сам усё ацэніш і пераканаешся, што я не маніў». І я цвёрда рашыў: еду ў Нарыльск, да дзядзькі Якава. Нарыльск — гэта, бадай, тое, што мне і трэба. Дзядзька мне там паможа з работай.

Дэмабілізаваўся, заехаў на колькі дзён дамоў. Маці — у слёзы, просіць: «Сынок, заставайся ўдома». Угаварыла — застаўся. Уладкаваўся шафёрам на аўтабазе. Парабіў з месяц недзе — аварыя. Паваляўся колькі дзён у ложку, акрыяў. І больш ужо не сеў на машыну. Сказаў маці, што паеду, аднак, да дзядзькі. Маці не стала адгаворваць, нават параіла, каб самалётам ляцеў. «Сядай,— кажа,— у Маскве на самалёт — і ў Нарыльск». «Не, мама, я лепш поездам. А з Красна-

ярска — параходам. Перасяку амаль усю Расію-матухну, Сібір пабачу. Затое назад — самалётам». Мяне сапраўды цягнула пабачыць белы свет, бо далёка ад дому нідзе яшчэ і не быў.

Паехаў. Да Краснаярска поездам стукацеў, а там — па Енісеі на параходзе плыў. Сутыкнуўся ў Краснаярску з двума вярбованымі — таксама ў Нарыльск дабіраліся. Бачу, прысталі нечага да такога ж, як і я, хлапца, чэпяцца — вымагалі, відаць, грошы. Адзін — гадоў пад сорак яму, з квадратнымі плячыма бамбіза, будка чырвоная, аж блішчыць. Укормлены бык, шырокай касці. І п'янаваты. Другі — маладзейшы троху, росту сярэдняга, стаіць і руку ў кішэні трымае. Я адразу скеміў: «Нешта ж там, у кішэні, ёсць: нож, а можа, кастэт». Прызнацца, не вельмі баяўся іх — па самба трэці разрад у мяне. Спартыўны быў хлопец, натрэніраваны, не тое што цяпер трухляк.

— Не кажыце, Сцяпанавіч. З вас такі трухляк, як з мяне нябожчык,— пакпіў Шчыгол.

— Ну, значыць, прыкінуў сілы,— далей расказвае Сінёў,— і рашыў, што з імі, дваімі, спраўлюся. Але ж і небяспечна: гэтыя боўдзілы могуць і нож у ход пусціць — шлункі выпусцяць і змыюцца... І ўсё ж заступіўся за хлопца. Ён, праўда, ад радасці і падзякаваць забыў — бокам-бокам і ходу, зматаўся з вакзала. А яны, значыць, селі мне на хвост і не адстаюць — пільна пасуць, віжуюць. Рашылі, пэўна, аддубасіць, заадно і кішэні пачысціць — усё маглі зрабіць. Ім, бачу, таксама трэба на гэты параход, што і мне. Я, аднак, трымаюся спакойна, не мандражырую. А пад рукамі — ну нічога. Нажа ніколі не насіў — заўсёды на свой кулак спадзяваўся. Гэта, канечне, добра, што смельчакую так, толькі ж рызыка вялікая. У сталоўку зайшоў, сеў за стол, і яны, субчыкі гэтыя, таксама тут — суседні стол, насупраць, занялі. Пазіраюць, як ваўкі ў піліпаўку, зубамі скрыгочуць — не падабаюся ім. І тут якраз падсаджваюцца да мяне трое хлопцаў. Загаварылі са мной, пазнаёміліся. Аж гэта — шахцёры, на Поўдні ў адпачынку былі, у Гагры. Працуюць, як я даведаўся потым, на рудніку «Талнах», блізка

ад Нарыльска. Сціпла перакусілі, сядзяць, кураць. Пасля сталі агітаваць мяне ехаць з імі, на руднік, але я адмовіўся — сказаў, што да дзядзькі трэба, чакае, і што ён, дзядзька мой, працуе ў аддзеле кадраў на рудніку «Запалярны», абяцаў памагчы ўладкавацца. А тыя двое бандзюкоў выпіваюць, не спяшаюцца пакідаць застолле. Я і сказаў, што яны хочуць пабіць мяне за тое, што не даў ім аднаго разяваку абабраць. Эх, тут адзін з шахцёраў падхапіўся, прайшоў паўз маіх праціўнікаў, а тады і гаворыць мне, даволі гучна, так, каб яны чулі: «Ханурыкаў гэтых бяру на сябе... Падобна, абое крымінальнікі.— І заспакоіў мяне: — Не бойся, ты цяпер наш».

Прыплылі ў Дудзінку. Порт. Марскія судны адстаяць. Цікава глядзець на іх — рамантыка! Адсюль ужо чыгунка — да Нарыльска. Якраз і наш поезд гатовы да адыходу. Білеты ўзялі, селі ў вагон — сёмы, помню, вагон. Едзем. За акном тундра. Скрозь толькі і відны карлікавыя бярозкі, трава ўсё адна і тая ж — пушыца. Мясціны балоцістыя, дзікія. Пейзаж непрывычны, а душа спявае — усё радуецца ва мне... Прыязджаем у Нарыльск. На франтоне вакзальнага будынка напісана вялікімі літарамі: «Поўнач — край дужых і смелых». Усцешылі мяне гэтыя словы, абнадзеелі. «Я ж таксама дужы і смелы,— радуюся.— Правільна, што напісалі так, вельмі правільна!»

Карацей, мяне гэты лозунг рашуча пераканаў: еду іменна туды, дзе больш за ўсё патрэбны — не па лёгкі кус хлеба, не лайдачыць. А калі часам пацярпець прыйдзецца — пацярплю, калі трэба будзе праз сілу дзе ўзяць — вазьму праз сілу: Поўнач любіць моцных душой і целам, пот і мазалі!

Спыніўся ў дзядзькі Якава. Жыву тыдзень. Агледзеўся трохі, кажу дзядзьку:

«Хачу на руднік, у забой,— а я ўжо ведаю, што на рудніку рабочыя немалыя грошы зарабляюць — па 600, 700 рублёў у месяц выходзіць. Пра гэта мне шахцёры яшчэ ў поездзе гаварылі.— Уладкавалі б мяне ў такі забой, дзе памногу зарабляюць».

Дзядзька адказвае:

«Дзе памногу зарабляюць — там небяспечна,— і спакойна так глядзіць на мяне, вывучае.— Я сам рабіў у забоі і ведаю, як там... Абвалы бываюць».

«А мне — усё роўна... Я не баюся абвалаў, паміраць не збіраюся,— кажу так, бо ўжо канчаткова пераконаны, што дабываць медна-нікелевую руду якраз па мне: нялёгкая работка, рызыкоўная, затое ж не абы-якая, мужчынская.— Паспрабую, а там — відаць будзе».

«Значыць, у забой? Цягам цягне?..» — хмурыцца дзядзька.

Бачу, ён незадаволены маім выбарам, але я на сваім стаю:

«У забой».

«Не, Іван, у забой табе рана. Парабі пакуль бетоншчыкам. Работа хаця і не складаная, ды нічым не лягчэйшая за тую, што ў забоі: будзеш гатаваць раствор і з бетоннай гарматы пустоты ім забіваць... Гэта, каб гара не правальвалася і не асядала. Пустоты — адкуль руда выбрана».

Стаў я рабіць пры растворамяшалцы. Выдалі мне форму, каску, ліхтар. Можна было браць гумовікі, але я ўзяў скураныя чаравікі — баяўся, каб раматус не прыхапіць. У шахту ўязджалі на ваганетках, клеці не было, бо шахта не на глыбіні — тунель вядзе ў чэрава гары, дзе мы, значыць, і забівалі пустоты... І як стараліся — на кожнага па 12 тон шчэбню выходзіла за адну змену! З агеньчыкам рабілі. Хлопцы прынялі мяне адразу, паверылі ў мяне, бо і праўда, я ніводнаму з іх фізічна не ўступаў. Месяц парабіў — палучка мая 400 рублёў. Задаволены. Рабочы дзень усяго толькі шэсць гадзін. Каву п'еш колькі хочаш. Ды якая кава — чорная, салоджаная, з малаком. Ну амаль як у казцы: кран адвінціў, кубак падставіў — налівай колькі хочаш, пі. Тут жа, у шахце. Кава, канечне, для таго, каб не стамляўся дачасна чалавек, каб сэрца нармальна гнала кроў. На поўначы ж недахват кіслароду. Ды я, праўда, нічога падобнага не адчуваў. Кіслароду з мяне хапала, дыхалася лёгка, як і цяпер вот. А некаторых пастаянна хіліла на сон. Здаецца, спаў бы і спаў. Акурат як Шчыгол наш,— усміхнуўся, запыніў

пагляд на Шчыглу.— Табе, Саня, на Поўнач супрацьпаказана ехаць, няможна. Калі тут сонпай цяцерай ходзіш, то там — на хаду засынаць будзеш.

— Гэта я, Сцяпанавіч, сонная цяцера? — закапыліў губу Шчыгол.— Ды я за такую абразу забастоўку ўчыню — не выйду на аб'ект, і баста. Вот паснедаем, лягу на бакавую — і да вечара мяне не кантуй...— смяшліва прыжмурыўся.— А што, кава сапраўды з крана бяжыць? Можна піць, колькі ўлезе?

— Колькі хочаш, столькі і прудзь. Але ж і яшчэ там адна кліматычная нязручнасць ёсць: бывае, што ўсё дзень і дзень... Я, праўда, і да гэтага прызвычаіўся: па гадзінніку ноч — сплю. І хоць бы што. Лёг і сплю. Будзільнік пратарахціць — падымаюся. Уцягнуўся ў работу, прывык. Працую, здароўе не падводзіць. Што яшчэ трэба? І, значыць, толькі так парадаваўся, а назаўтра... Няшчасце здарылася: трубы сарваліся, па якіх мы раствор выстрэльвалі ў штольні — у пустоты, значыць. Мацаванне не вытрымала... І як пайшлі яны асядаць, трубы,— жах! Усе тоўстыя, цяжкія. Шухнула гэта магістраль уніз — на мяне... Помню, аж іскры з вачэй пасыпаліся. Упаў, ляжу і адчуваю боль у жываце. Дзіўлюся сам з сябе: жывы?!. Падумаў: «Відаць, трубы не поўнасцю аселі на зямлю, іх нешта затрымала.— Зірнуў на трубы, бачу: адзін-адзінюткі тросік трымае ўсю гэту магістраль. Ён, можа, нават выпадковы тут, гэты тросік, замураваны быў у гранітную столь забоя для нейкай іншай патрэбы, а трымае вось, выратаваў мяне ад смерці.— Чаму ж я ляжу, чаго чакаю? Тросік гэты зараз парвецца...» Хуценька выпаўз з-пад труб, толькі аддыхаўся — чую: піў-у-у! — лопнуў тросік, магістраль з крэктам асела. Ой жа і спалохаўся я: знерухомеў і недзе каля гадзіны ляжаў непаварушна, стоена. І ўсё глядзеў на тросік, як ён пагойдваўся. Тут якраз і хлопцы знайшлі мяне, паднялі, далі кавы папіць. Дыхаць цяжка, правае плячо зайшлося ад болю... Але ў медпункт не пайшоў — і ніхто мяне за гэта не ўшчуваў. Брыгадзір кажа: «Што ж, цяжкую работу табе не пацягнуць — будзеш куляць

гармату». А гэта і праўда лёгкі занятак. Уступіў мне сваё месца Ціша Кіпарніцкі. Яму недзе гадоў так каля сарака васьмі ўжо было тады, але мы яго Цішам звалі, ласкава. Ён нізенькі, худзенькі — маленькі чалавечык, бяскрыўдны, заўсёды вясёлы... Стаў ён на маё месца, а я — на яго. Памяняліся: я перакульваў гармату, а Ціша шчэбень загружаў у чэрава растворамяшалкі. Ён сібірак, Кіпарніцкі. Помню, ён гаварыў замест «мне» — «імя». Палучалася так: «Імя бацька кажа: «Жаніся, сын, а то ўсе дзеўкі твае замуж павыходзяць». А я куравежуся, жартую: «Пахан, на кім імя жаніцца? На гэтай цыбалцы ў парцюху, Кацярыне Недапечанай? Яе фамілья несур'ёзна, а рукі ў randaўках, хочаш, каб яна імя randaўкамі ўсяго абсеяла?» Пацешны быў. Калі б зараз яго сюды, да нас, дык мы штовечара ржалі б, як жарабцы. Адкуль што і бралася ў яго. Затое брыгадзір — той маўчун зацяты, Лабачоў. Таксама сібірак. Раней ён ахоўнікам быў пры ваенізаванай ахове. Прайшоў чалавек агонь і медныя трубы. Цвёрдага характару, стрыманы. Ён і цяпер там працуе, і Кіпарніцкі з ім, гармату куляе... А я праз год перайшоў усё ж у забой — дамогся свайго.

— Сцяпанавіч, дайце мне адрасок — падамся да Лабачова,— заахвоціўся раптам Шчыгол.— Каву буду піць ад пуза — люблю каву. І з гарматкі той, з растворамяшалкай што злучана, бабахаць буду. А крабчыкі — у кішэнь, у кішэнь... Просьба: апішыце гарматку, што за яна? Не страшная, не? Вушы не трэба затыкаць, перапонкі не парве?

— Я ўжо казаў табе, Саня: такім, як ты, на Поўначы няма чаго рабіць. Забудзь, выкінь з галавы Поўнач. А пра гарматку слухай. Значыць, сама растворамяшалка на калёсах, а гармата падобна на вялікую скараварку. Вечка на ёй герметычна закрываецца, збоку заглушка ссоўваецца — і з аграмаднай сілай сціснутае паветра (кампрэсар пры ўваходзе ў шахту стаіць) выхоплівае з ёмістасці раствор і нясе па трубах. Шум страшэнны, трубы гудуць. А там, дзе раствор выплёскваецца,

агонь свішча — каменьчыкі б'юцца адзін аб адзін і высякаюць іскры...

— О-о — не-е!.. Калі агонь, то не хачу. Я ўжо адзін раз феерверк пабачыў, хопіць,— гасіць узнёсласць Шчыгол і зазначае: — Мне больш цішыня падабаецца, спакой.— Перавёў пагляд на Гардуноўскага, пакутна паморшчыў лоб.— От яму, кампазітару, сама што рабіць пры той гармаце — слых натрэніраваны да любых какафоній, гы-гы-гы... А я — сын прыроды... Мне па душы жончын шчэбет ды рулады салаўя!

— І Клаўку ў нагрузку,— дадаў Корнеў.

Агульны рогат. Шчыгол, аднак, не застаўся ў даўгу, тут жа сцебануў па Корневу:

— Ты, потрах, не перабівай, калі людзі гавораць,— грэбліва адвярнуўся ад Корнева, спытаў у Сінёва: — І што далей, Сцяпанавіч? Як вам на рудніку працавалася?

— Ну, раскажу адзін такі эпізод...— Сінёў засяроджаны, нават троху ўзрушаны — успаміны захапілі яго.— Значыць, я ўжо быў пад той час на суседнім рудніку — на тым самым «Талнаху», куды мяне хлопцы запрашалі. Горы Путаланы там, а сама мясцовасць, дзе руднік, называецца Хаерлах. Пасёлак Талнах. І руднік так назвалі. Жыў я ў пасёлку, у рабочым інтэрнаце... Ну, значыць, спускаемся ў шахту, сабраліся ў сваім забоі, брыгадзір кажа: «Хлопцы, хто хоча праверыць сябе на смеласць? У суседнім забоі, уверсе, засталася аграмадная глыба руды. Пакідаць яе неразумна — гэта ж дабро народнае... Праўда, фактар небяспекі ёсць, і немалы. Таму хачу, каб добраволец вызваўся».

А глыбу гэту пакінулі суседзі — пабаяліся, што абрынецца пры бурэнні — і канцы ў ваду. Суседзі, праўда, спрабавалі на доўгім шасце падкладваць пад глыбу ўзрыўчатку, ды глыбу не адпаліла. І наш брыгадзір рашыў зрабіць рыштаванне, узабрацца па рыштаванні пад самы казырок глыбы і забурыць дзіркі — шпуры для ўзрыўчаткі. Варыянт самы правільны, але дужа небяспечны. Баязліўцу, яснае дзела, на рыштаваннях не ўстаяць. Але ж чаго баяцца? На роўным месцы і то забівае — руда цяжкая, кавалак упадзе

на галаву і... чалавека няма. А тут трэба лезці пад казырок, які, можа, парушаны ўжо, ледзьве ліпіць. Словам, лезці пад аграмадны пласт руды боязна. Маўчаць хлопцы, няма ахвотніка. Брыгадзір падыходзіць да мяне, пытае: «Ну, Іван-навічок, можа, ты паспрабуеш?» Я падумаў і даў згоду: «Паспрабую». Брыгадзір дапытліва: «А ўправішся, не страшна?» А мне што яму гаварыць? Кажу: «Думаю, што ўпраўлюся, баяцца няма чаго». І ён назнарок мяне падбадзёрвае: «Ты — зробіш... Я толькі на цябе і разлічваў».

Узвялі рыштаванні. Забраўся пад самы рудны казырок, пачаў бурыць. Малаток адбойны цяжкі, важыць ажно 70 кэгэ. А трэба трымаць яго над сабой — нялёгка. І толькі я ў азарт увайшоў, прыбягае запыханы брыгадзір, загадвае: «Іван, спускайся ўніз! — Я злез, ён мне і кажа: — Камісія тут — нагляд за тэхнікай бяспекі... Убачаць гэту нашу гараду — аштрафуюць. Так што адпачывай, пакуль яны тут, не шумі. А я тым часам пастараюся правесці іх міма». Адпачываю. Гадзіну прасядзеў. Вярнуўся брыгадзір, паведамляе: «Агледзіны скончаны. Залазь і шуруй. Пастарайся да канца змены ўправіцца». А часу ўжо небагата засталося. Стаю на рыштаваннях, працую. Дошкі пяцідзесяткі чуць прагінаюцца пада мной. І тут, бачу, кавалак руды, такі — з вядро, пачынае адздзяляцца. Я рукой яго адпіхваю ўбок і сам адступаюся. Кавалак як шухне на рыштаванне — праламаў дошку і загрымеў уніз. Руда цяжкая, амаль уся з элементаў, якія называе табліца Мендзялеева. Значыць, забурыў я да канца змены аж семнаццаць шпуроў. Прывёў брыгадзір мне змену — яшчэ аднаго дабравольца, і той пасля мяне адзінаццаць шпуроў забурыў. Заклалі ўзрыўчатку, рыштаванні разабралі — і адпалілі глыбу. Вухнула так, што ўся руда адвалілася. Пасля гэтага мне павысілі каэфіцыент — і выходзіла ўжо то 1 к 7, то 1 к 8... Як і ўсім, хоць я і ў навічках хадзіў— Сінёў падняўся з зэдліка, размяўся трохі, паглядзеў на гадзіннік — і да Гардуноўскага, кухара: — Стаўляй, Пятро, гатоўку на стол... Што ў цябе там сёння?

— Самы надзейны наш звер — тушоначка не-

заменная, Сцяпанавіч,— Гардуноўскі заварваў чай проста ў вядры.— Міша, падымай курортнікаў... Мяне яны не прызнаюць, давай ты.

Сінёў:

— Правільна, хопіць ім дрыхнуць — падымай!

Вуцёха падышоў да стала, заваленага посудам. Сярод вымытых місак, конавак, лыжак і трох чайнікаў — на кожнае звяно свой — ляжала, абернутая ўверх дном, яшчэ не памытая бляха, на якой мы гатуем смажаніну і разаграваем тушонку. Ён ухапіў гэту бляху левай рукой, у правай трымаў вялікі кухонны нож, і з усіх ног пусціўся наўкруг палаткі, дзе, як сказаў Сінёў, дрыхлі Кружлік з Шумком, пачаў дубасіць ручкай нажа ў дно бляхі. Удары былі звонкія, брынклівыя.

— Начныя совы, пад'ём! — крычаў Вуцёха.— Аля-я-я! Ул-лю-ю! Хávаць, хаваць выпаўзайце!

— Ты-ы!.. Не бузі там, суйміся, асталопіна, ну! — сполашны голас яго вялікасці Кружліка грыміць з палаткі.— Перастань, чуеш?!

— Уля-я! Ал-лю-у!.. Совы начныя, ану вылятайце!.. Курортнічкі, мацъ вашу так!

Нібы з парылкі, выхапіўся вонкі Шумок. У трусах, у саколцы, босы. Заспаны, злы. Адняў у парушальніка цішыні бляху, кінуў яе проста перад сабой, на траву. Праз колькі хвілін паказаўся і Кружлік. Спаважны, непадступны — голы да пояса, у штанах і ўжо ў ботах, ялавых, з доўгімі халявамі.

— Мм... Кхэ-э! — пракашляўся ён і, счакаўшы, сонна прабурчаў: — Венька, дзе мой планшэт?

— Планшэт? — прыжмурыўся, нібы ад сонца, Шумок.

— Мой камандзірскі планшэт, кажу, дзе?!.— гаркнуў над вухам Шумка Шчыгол, і голас яго быў на дзіва падобны на Кружлікаў.

Мы ўсе засмяяліся, а Корнеў стаў на кола і зазірнуў у кузаў — пачаў, падобна, шукаць планшэт. Сам Кружлік стаў пароцца ў кабіне, нават пасядзенне адклаў — нідзе не відаць планшэта. Пачухаўшы грудзі, Кружлік гучна высмаркаўся ў насоўку і пайшоў да сябе ў палатку. Доўга там

шныпарыў, нарэшце аклікнуў зноў Шумка, але ўжо раздражнёна:

— Ты часам не запхаў да сябе ў рукзак?

— Трэба ён мне, твой планшэт,— Шумок, здаецца, пакрыўдзіўся.— У маім рукзаку і без планшэтаў хапае рэчаў.

Шчыгол:

— Абразоў сем ужо недзе ёсць, не?

— А табе не ўсё роўна колькі? — Шумок пачынае злавацць.

— Збірай як мага пабольш, а тады проста забудзеш рукзак, гы-гы-гы... Задам здасі машыну і ўсё ў ім патрушчыш,— даймае Шчыгол.

Пачалі снедаць. Елі моўчкі.

— Ну во,— парушыў цішыню Сінёў: ён глядзеў на Шчыгла так, нібы самы страшны грэх адпускаў яму — позірк госпада-бога.— З цябе, Саня, пачаў нараджацца новы чалавек — рабочы.

Шчыгол пахмурна звёў бровы, насцярожана прабурчаў:

— А я, па-вашаму, лайдак?.. Я заўсёды быў рабочым чалавекам, і ў шымпанзэ, прашу, не перарабляць мяне.

— Разумна, але не бачу логікі,— Сінёў чуць пахіліўся да Шчыгла, шапнуў: — Уношу папраўку: ты падобны не на шымпанзэ, а на птушку, пералётную. І не на шпака ці там шчыгла, як мне раней здавалася, а на шэранькую зязюльку: падклала яечка ў чужое гняздзечка — і пырх, палящела далей. Бесклапотная шэрая зязюлька.

Шчыгол і зусім узбурыўся, адкінуў лыжку як не на процілеглы край стала, і тая аж брынкнула аб міску, з якой сёрбаў Кружлік.

— Эй, ты гэта што? — Кружлік падняў галаў, усміхнуўся і дадаў дагодліва: — Плюй, Саня, на ўсё — беражы здароўе. Памрэш — нікому не трэба будзеш... як дым: быў, вочы людзям еў, а рассеяўся — і няма, чысціня.

— Сам, разумнік, памірай,— кінуў узрушана Шчыгол Кружліку. Затым — Сінёву: — Дык вот, Сцяпанавіч. Сюды я не перавыхоўвацца ехаў. Мая задача — работа, а ваша — налічаць мне правільна крабчыкі за маю работу. Не так, можа? Так усё, і ніякіх там выхаваўчых тонкасцяў! Пра-

шу не лезці да мяне ў душу... Каму яечка падкладваць, а каму не — тут я і сам не пралічуся. У чым іншым, а ў гэтым, паверце, мастак.— Нечага зарадаваўся, ажыўлена дадаў: — Не думайце, Сцяпанавіч, што мы ўсе тут бязрогія цяляткі, сысункі, і нас можна выхоўваць. Не спадзявайцеся, калі што — бадацца будзем, бадацца!..— калючы прыжмур вачэй і такая ж самая калючая ўхмылка.— Вам крыўдна, канечне, што тоесёе не заўсёды выходзіць так, як хацелася б, праўда ж? От была б тут Дуня Асаўцова, то, трэба думаць, пра зязюльку і не ўспомнілі б, яй-бо.

Сінёў хуценька дапіў чай, падняўся і выйшаў з-за стала. Я нават здзівіўся: няўжо змоўчыць? Не — нахіліўся над Шчыглом, пытае:

— Здаецца, гаворку зараз пра цябе вяду? Пра цябе. Дык вот, учора гаварыў па тэлефоне са Шмаціным, ён прасіў перадаць, што на цябе выканаўчы ліст прыйшоў... І не з Волжскага чамусь, а з-пад Ленінграда, з прыгараднага саўгаса, таго самага, дзе ты электрамеханікам рабіў — цяпліцы святлом забяспечваў, так? — падміргнуў Шчыглу.— Я вот пра што хачу спытаць: як гэта ты, Саня, такі весялун-урвіцель, прымудрыўся, жывучы з адной па закону, так сказаць, распісаны, трапіць у кабалу да другой? Гэта ж самае што ні ёсць раздваенне асобы.

— Не можа быць такога, Сцяпанавіч... Лухта, звычайная памылка.— Шчыгол нечага стуліўся ўвесь, нібы чакаў ад Сінёва замашнага ўдару ў каршэнь.— Няўжо мая першая назад махнула?

— Няхай бы памылка...— Сінёў няпэўна глядзеў на Шчыгла, верыў і не верыў яму...— Ат, усе няяснасці пасля разбіраць будзем, — пахмурна звёў бровы, засяродзіўся.— Дык, значыць, так. На мяне не сярдуй, хлопча. Душу тваю не стану чапаць. Праўда, ведаць яе ўсё роўна мушу, бо ў тайзе інача нельга.

— Што ж, і за гэта дзякуй, Сцяпанавіч,— Шчыгол не надта каб перажываў — быў ён паранейшаму бравы, вясёлы. Але гэта, па-мойму, яшчэ і ад учарашняга ў ім: яму ўчора здорава папашанцавала — сенсацыя сезона! — знайшоў за-

латую завушніцу, акурат археолаг-вучоны, вялікі спец па раскопках!

А сёння — мы толькі-толькі паснедалі, яшчэ не ўсе застолле пакінулі, як аб'явіўся на тэрыторыі бівака навуковы супрацоўнік мясцовага краязнаўчага музея. На матацыкле «Ява» прыкаціў. Пакінуў троху ў баку ад палатак матацыкл, упэўнена, як гаспадар, падышоў да нашага цяпельца, агледзеў, што Вуцёха ўсё яшчэ сядзіць за сталом, дапівае чай, сказаў яму:

— Хлеб ды соль!

— Сядайце за стол, добры чалавек. З дарогі і вам перакус не зашкодзіць,— малайчына Вуцёха, ветліва прывітаў госця.

І праўда, госць не адмовіўся — зняў кепку са скураным верхам і, узяўшы яе пад паху, сеў побач з Вуцёхам, прызнаўся:

— Чаю з прыемнасцю пап'ю.

Вуцёха зрабіў яму чаю, сабе таксама даліў — чаявалі разам. Сінёў стаяў убаку і назіраў. Мы ўсе таксама перасталі збірацца на аб'екты, зацікавіліся прыезджым. Вядома ж, пад той час ніхто яшчэ з нас не ведаў, што ён — навуковы супрацоўнік. Аказалася, навіну, што геадэзісты знайшлі завушніцу, разнёс адзінаццацігадовы сын настаўніка гісторыі — Паўлік. Учора ён паўдня правёў з намі, усё пахваляўся, што ў іх дома ёсць аж тры ломікі, і ўсе, маўляў, добрыя. Я падаў выгляд, што не паверыў яму, усумніўся, і тады Паўлік пабег дахаты і вярнуўся з ломам, сапраўды значна лепшым за нашыя. Лом я ўзяў сабе, а ўзамен аддаў Паўліку сваю трохсцержневую шарыкавую ручку. Надвечар Паўлік пачаставаў нас сырадоем — пяцілітровы бітончык мы распілі за адзін прысест. Я ўсё ж мусіў схадзіць да Паўліка дамоў. І праўда, і лом, і малако прынесены ім не без ведама яго бацькоў. Дык вось, Паўлік якраз і быў, калі ўсе мы сабраліся на абед і Шчыгол пахваляўся сваёй незвычайнай знаходкай. Ён сказаў бацьку свайму, а той — пазваніў у музей...

Сінёў падступіўся нарэшце да прыезджага, павітаўся з ім за руку. Тады і назваўся ён навуковым супрацоўнікам, павёў гаворку пра завушніцу.

— Нясі, Саня, сваю дарагую рэліквію,— сказаў весела Сінёў.— Паказвай.

Шчыгол, аднак, не скрануўся з месца, адно пачырванеў з твару і нечага заазіраўся па баках, нібы сабраўся ўцякаць. Насцярожана сочачы за прыезджым, скрануўся з месца, павярнуўся да Сінёва, сказаў:

— А вы, Сцяпанавіч, праверце дакументы... Ведаем мы такіх навукоўцаў, гы-гы-гы... Можа, ён проста скупшчык старыны, а не музейны работнік,— кіўнуў на Шумка.— У нас адзін такі музейшчык ёсць — дае мне за гэту знаходку сто пяцьдзесят рублёў... Завушніца, думаю, і большага варта, а? Залатая ж.

— Правільна разважаеце,— спаважна сказаў супрацоўнік.— Вось мой дакумент,— дастаў з кішэні пінжака пасведчанне і не Сінёву яго падаў, а Шчыглу, які аж нават сумеўся, але пасведчанне ўзяў і ўважліва прачытаў яго сам, а тады і Сінёву перадаў. Той адразу ж вярнуў пасведчанне ўладальніку.

— Нясі, Санёк, завушніцу,— Сінёў быў на дзіва ветлівы — такі ён заўсёды пры чужых людзях, незнаёмых, ды і не толькі пры людзях — ён, бадай, і ветлівы, і ўважлівы да чалавека заўсёды, толькі, праўда, да таго, каго паважае.

Шчыглу не трэба было ісці ў палатку — завушніца, я ведаў, была пры ім, у кішэні, але ён усё ж пайшоў і доўга поркаўся нечага ў сваім руксаку. Вярнуўся і аддаў завушніцу супрацоўніку. Той ашчадна ўзяў яе і неяк нават узнёсла-засяроджана паклаў сабе на далонь, час ад часу паварочваў, маўкліва разглядваючы. Нарэшце спытаў у Шчыгла:

— І колькі вы б хацелі за яе атрымаць? — пасміхнуўся.

— Не менш трох соцень,— ахвотна адказаў Шчыгол.

— Гэта бясцэнная знаходка, малады чалавек,— акуратна апрануты, пад гальштукам, супрацоўнік знешне выглядаў маладым, але яму было ўжо недзе далёка за сорак. Ён хоць і бурат па нацыянальнасці, але гаварыў чыста, без акцэнту.— Вы атрымаеце за яе, канечне, больш... Сло-

вам, такіх завушніц, як гэта, усяго некалькі... А ў нашым музеі будзе першая,— паглядзеў здаволена на Сінёва і аўтарытэтна, упэўнена: — Завушніца шамана. Думаю, ёй гадоў пяцьсот, не меней.— Аддаў завушніцу Шчыглу, а сам пакіраваў да матацыкла, адвязаў паходны чамаданчык ад багажніка, вярнуўся да стала, раскрыў чамаданчык — дастаў фотаапарат і чысты аркушык ватману. — Зробім фотаздымкі... — усміхнуўся Шчыглу, навёў на яго аб'ектыў фотаапарата, сфатаграфаваў раз, другі, сказаў: — Лічыце, вы трапілі ў гісторыю нашага краю... Паказвайце сваю знаходку, прыўзніміце яе трошкі. Так-так, о! Трымайце за падвеску,— і зноў колькі разоў пстрыкнуў затворам — фатаграфаваў зблізку.— А цяпер пакладзіце завушніцу на ватман, на сярэдзіну ліста.— Шчыгол паклаў завушніцу на ватман, адступіўся ўбок; ён азіраўся і ўсцешна лыбіўся, паціскаў непаразуменна плячыма — яўна падабалася яму быць у цэнтры ўвагі.

Схаваўшы фотаапарат у чамаданчык, супрацоўнік, мусіць, з паўгадзіны гаварыў з Сінёвым, пасля дастаў блакнот і запісаў патрэбныя яму звесткі пра Шчыгла, пры гэтым уручыў Шчыглу візітную картку з адрасам і двума нумарамі тэлефонаў — службовым і хатнім.

Як жа гэты «музейшчык» абрадаваўся, калі ўведаў, што магіла шамана не поўнасцю раскапана, а толькі яе ўзгалоўе. Тут жа запрасіўся на месца знаходкі.

Сінёў смяецца і кажа Шчыглу:

— Санёк, а раптам у шамана на руках і нагах залатыя бранзалеты былі?

— Бранзалетаў можам і не знайсці, а вось скураны пояс з залатымі ўкрапінкамі і спраўжкай павінен быць,— абнадзеіў супрацоўнік, і мне, дальбог, аж горача стала ад гэтых яго слоў.— Мяркуючы па завушніцы, шаман не з бедных... Пашанцуе, то адзін-два пярсцёнкі знойдзем.

Шчыгол уражана глядзіць на супрацоўніка, слухае. Вуцёха — гэты нечага як разгубіўся, твар густа пачырванеў, асабліва шчокі: пэўна, дратуе сябе за тое, што не здагадаўся пашукаць наўкол знаходкі як след. Давялося б, праўда, парушыць

інструкцыю — ствол ямы прыняў бы зусім іншую форму... Карацей, даў маху. Венька Шумок так-сама нервуецца, нават ужо і залішне — адпускае, не стыдаецца, у адрас Шчыгла мацюк за мацю-ком. І ўсё шэптам — шыпіць, як вуж:

— Ты, паўтара няшчасця!.. Навошта завушні-цу аддаў? — Яго шэрыя, акурат каціныя вочы не-чага ажно пашырэлі.— Свянцонае парася, ёлуп!

Спярша Вуцёха са Шчыглом скончылі работы па цэнтроўцы: устанавілі трубу з маркай, забета-ніравалі, даўшы раствору зацвярдзець, затым узя-ліся раскопваць сценку ямы ўшырыню. Увесь гэты час супрацоўнік стаяў побач, уважліва назі-раў. Зрэшты, мы ўсёй брыгадай былі тут жа.

Раскапалі «магілу шамана», перацёрлі пясок, можна сказаць, пальцамі, але нічога больш не знайшлі, адно час змарнавалі.

— Хлопцы, а куды вы чэрап падзелі? — на-рэшце спытаў супрацоўнік.— Я хацеў бы яго агле-дзець...— Ён толькі што змераў глыбіню, на якой быў захаваны шаман, здзівіўся: — Хм, тры мет-ры і дзесяць сантыметраў... Глыбіня занадтая,— задумаўся, зноў нагадаў пра чэрап: — А ўсё ж, дзе ён, чэрап, а?

— І праўда, дзе чэрап? — спытаў Сінёў у Шчыгла.

— Шумок забраў,— кіўнуў Шчыгол у бок машыны.— Бензінам абмыў, высушыў на сонцы і нітралакам пакрыў.

— Нават гэтак? — здзівіўся Сінёў, звёў над-броўе, заўважыў Шумка, які нечага поркаўся ў кабіне, паклікаў: — Шумок, давай сюды чэрап.— І ўжо бурклі́ва, нездаволена: — Барахольшчык... Ці не залішне на аднаго два чарапы мець, а?

Шумок завёў матор і паехаў — па чэрап, пэў-на ж. Мінут праз пятнаццаць вярнуўся. Чэрап шамана, карычнева-жоўты, густа пакрыты лакам, аж блішчаў на сонцы. Быў ён на дзіва маленькі, прадаўгаваты. Шумок перадаў яго з рук у рукі, пры гэтым сказаў супрацоўніку — хутчэй заявіў:

— Знайце: я не Шчыгол, у музей нічога не здаю...

— Вы, малады чалавек, лёгка паддаяцеся ўплыву заходнебуржуазных моднікаў,— пагляд

супрацоўніка строгі, у голасе металічныя ноткі.— Сёння калекцыяніруеце лапці, абразы, чалавечыя чарапы, а заўтра вас на што-небудзь мудрэйшае пацягне, так?

— Зусім і не так — за грошы, паважаны таварыш,— працадзіў праз зубы Шумок, нахабна заўсміхаўся.— Законаў я не парушаю.

— У яго такое хобі,— уступіўся за Шумка Кружлік, які быў сёння з самай раніцы пахмурны і негаваркі,— а вы, як я зразумеў, хіліце ў бок антыгуманнасці.

— От і я думаю: Шум калі пагарыць на чым, дык толькі на спекуляцыі,— кпліва заўважыў Шчыгол.— Кожны з нас тым рогам чухаецца, якім дастае,— сказаў наўздзіў развазліва, пагардна зазіраючы Кружліку ў вочы.— Нейкі шустрак планшэтку стырыў, а чухацца ты будзеш, начальнік, гы-гы-гы...

— Не абганяй падзей — на ўсё будзе час,— Сінёў пахмурна зірнуў на Шчыгла і тут жа распарадзіўся: — Вуцёха і Шчыгол застаюцца, а ўсе астатнія — на свае аб'екты!.. Хопіць блазнаваць — і так паўдня страцілі.

Магілу шамана між тым зноў пачалі абследаваць, пашырылі месца раскопак. Аднак — нічога больш не знайшлі, нават касцей ніякіх не выявілі. І супрацоўнік так разважыў: падобна, шаман быў крамольны, і яму за нейкую там правіннасць адсеклі галаву, прывезлі да хана-валадара, паказалі, што, маўляў, яго загад выкананы, і закапалі ў прысутнасці хана, таму і не зняў ніхто завушніцу — грэх рабаваць нябожчыкаў. Хавалі шамана так, каб разлучаная душа, цела і галава ніяк ужо не паядналіся зноў: душа высака ў небе, галава і цела ляжаць паасобку глыбока ў зямлі...

Забаўная гіпотэза.

Але ж як бы там ні было, а завушніцу ў Шчыгла супрацоўнік забраў, выдаўшы яму на рукі распіску, завераную натарыусам. Бланкі такіх распісак супрацоўнік возіць з сабою, застаецца адно запоўніць, а пасля распісацца таму, хто забірае знаходку, і таму, хто яе аддае, сведкам,— і ўсё. Пасля збярэцца аўтарытэтная камісія, уста-

новіць наяўны кошт знаходкі, складзе акт... Усё правільна, усё па закону. Шчыгол атрымае пэўную суму грошай, тры-чатыры фотаздымкі і выразку з мясцовай газеты. То чаму б ужо і чэрап гэтакім макарам не забраць ад Шумка? Вуцёха нагадаў супрацоўніку пра чэрап, але той адно пасміхнуўся і сказаў:

— Гэты чэрап не трэба музею... Калі знойдзеце чэрап маманта ці якой другой першабытнай жывёліны — выкупім.

Прачнуўся я ранічкай, недзе а пятай гадзіне — пабудзіў Кружлік, які толькі што вярнуўся з леспрамгасаўскага пасёлка, куды з'ехаў быў яшчэ ўчора вечарам, пасля провадаў супрацоўніка музея. Ездзіў адзін, без Шумка. Калі я выйшаў з палаткі, Шумок ужо быў ля машыны, уважліва засяроджаны, разгублены. Неўзабаве занепакоена спытаў:

— Філат, а дзе ж задні нумар? — сеў наўколенцы і нейкі час узіраўся ў тое месца, дзе быў нумар, нарэшце выказаў такое меркаванне: — Зламыснік нейкі пастараўся... А што, калі гэта міліцыянер?

Кружлік непаразуменна паціснуў плячыма, сказаў:

— Я не ведаю, дзе нумар... Планшэтка знайшлася, карты цэлыя...— і ён расказаў Шумку, што планшэтку забыўся ў буфетчыцы Лялі, з якою — гэта мы ўсе ведалі — вось ужо ці не трэці тыдзень ваўсю, як сказаў Шчыгол, круціў палюбоўны баявік.

Вінаваціць Кружліка як быццам і не было за што: выявілася, што ў пасёлак ездзіў не проста да Лялі, на пагулянку, а па прадукты. І праўда, прывёз ён аж сем буханак хлеба, тры добрых пукі пер'яў цыбулі і недзе каля пяці кілаграмаў ружова-рыжага і доўгага, як кармавы турнэпс, радысу. Сняданак, падумалася мне, будзе сёння на славу, але такім ён не атрымаўся: як Гардуноўскі ні выбіраў маладзейшую цыбулю, як ні стараўся на гэты конт, ад яе ўсё роўна аддавала саломай — старая цыбуля, не пераразаць нажом. Радыс — такі ж самы, шапукляк, дарма што і з

гарода нядаўна. Не памагла і смятана, якую ўчора купілі праз Паўліка — паўлітровы слоік. Аднак смачна ці не, а салату ўсё ж есці можна. Ды Кружлік раптам узбунтаваўся, стаў крычаць на кухара:

— Гуцул праклятьі, чаго ты ў салату напёр?! — Голас яго віскліва-рэзкі, грубы.— Нясмачная салата!

Што гэта сёння з ім? Ага, Ляля выкрыла ў падмане — увесь час, пакуль яны сустракаліся, ён тлуміў ёй галаву тым, што ўжо развёўся з жонкай, а ўчора яна, калі ўбачыла яго, не ўзрадавалася, а нечага ўся пабялела, віхурна выскачыла з-за стойкі — шпурнула яму пад ногі спачатку планшэтку, а следам і ягоны пашпарт... Пра гэта мне толькі што расказаў Шумок, ды я падумаў, што ён выдумляе, злуе на Кружліка за страчаны нумар. Аж не, відаць, усё гэта праўда. Дзівак, знайшоў дзе забываць планшэтку — у Лялі. Ды яна там яе ўсю пераграэсла... То навошта ж цяпер спаганяць сваю злосць на Гардуноўскім? Хаця — Пятро не вельмі збаяўся Кружлікавага бушавання, сказаў, што цыбуля, акурат як і Ляля-буфетчыца, старая, і што радыс таксама не маладзейшы за цыбулю, залішне доўгі і крывы — двойчы нясмачны. А тут яму і Вуцёха памог:

— Ён нам спецыяльна кармавога радысу прывёз — каб мы дужэйшыя былі, як валы,— падкінуў на далоні радысіну, якую толькі што падняў з долу, дастаў з чахла нож і разрэзаў яе напалам, усклікнуў: — Пабачце-ка толькі, хлопцы!.. Унутры ў ім вата, белая вата,— і да Шчыгла: — Купляй, Саня, акуляры, а я футарал для іх змайструю. Гэтыя во палавінкі абраблю як след, высушу, завеску ўстаўлю — і футарал, лёгкі, зручны. Галоўнае, парахні многа, акулярам мякка будзе,— смяецца, азірае разрэзаны радыс, нюхае.— Мылам смярдзіць... То які ж тут смак, Філат?

Кружлік рашуча адмовіўся ехаць на пабудову чарговага трыянгуляцыйнага знака, і Сінёў сказаў яму, каб памагаў Корневу, а мяне ўзяў з сабою. Мы зрабілі знак недзе больш як за паўдня. Хутка ўправіліся. І вось чаму: па-першае, знак не-

высокі быў, чатырохметровы, а па-другое, аж да самага голага ўзлобка Баргузінскага хрыбта, дзе канчаецца таежны гусцеж і пачынаецца перавал, ёсць добраўезджаная, спраўная дарога — яшчэ мінулым летам па ёй ваўсю калясілі леспрамгасаўскія машыны і трактары... Так, леспрамгасаўскія. Параскашавалі тут леспрамгасаўцы як мае быць — нагола выцерабілі вялікую дзялянку тайгі, забыўшыся нават семяннікі пакінуць. Дзялянка скрозь завалена лаўжамі сухога, як порах, сушняку, там жа, пасярод дзялянкі, стаіць як знак нядбайства і безгаспадарчасці сапсаваны трактар «ДТ», і наўрад ці ўжо хто вернецца па яго, ну а лаўжы, дзякуй богу, самі пагніюць... Тутэйшыя леспрамгасаўцы, як відаць, не вельмі прытрымліваюцца грозных інструкцый, якія заклікаюць да беражлівасці і клопату аб тайзе. Нядаўна мы на свае вочы бачылі аголеныя чувары [1] Баргузінскага хрыбта з пакінутымі там загубленымі лясінамі. Не чапаныя пасля высечкі, яны, абшалушаныя ветрам, трухлеюць, а спрытныя лесанарыхтоўшчыкі недзе ўжо ў іншым месцы, больш зручным, нішчаць стогадовыя сосны, кедры.

Нават Шумок, чалавек, якому, здавалася, не дужа рупяць праблемы аховы і захавання прыроды, і той, калі мы спыніліся на перадых і да нас падышлі грыбнікі, спытаў у аднаго з дзядзькоў:

— Скажыце, чаму гэта лес гніе? Столькі навалена, і ніхто не ўбірае.

Дзядзька адказаў:

— Наляцелі з бензапіламі, павалілі... Потым выявілася, што тралёўшчыкі не могуць працаваць на крутым схіле — небяспечна. Адзін трактар нават перакуліўся... От і гніе лес. Гвалтоўнікі-дрывасекі з'ехалі і на ўсё забылі.

— Ды іх жа, галавацяпаў, судзіць трэба! Згубіцелі!..— на чым свет стаіць лаяў Шумок нарыхтоўшчыкаў-лесавікоў.— Гэта ў кіно толькі ўсе яны клапатлівыя вялікія, абаронцы лесу, і такія, што хоць кожнаму па ордэну вешай... У га-

---

[1] Чувары — спадзістыя адхоны, густа пакрытыя лесам.

гетах толькі і чытаеш, што вінаваты турысты, маўляў, яны нішчаць лес, захламляюць, а тут што?..

У Шумка і пасля сытнага абеду настрой чамусьці не палепшыўся. Я думаў, што ён усё яшчэ ў крыўдзе на леспрамгасаўцаў, аж не — наракае хлопец на тое, што змарыўся вельмі, кажа, рукі гудуць, і такія сталі, што ўсё роўна як не свае. Пасля пачаў кідаць у адрас Сінёва папрокі, і галоўны з іх, бадай, такі, што нібыта яго, шафёра, выкарыстоўваюць не па назначэнню, і што ён, Шумок, не робат, не бязмоўны конь, каб высільвацца праз меру. Пад канец абуральна заключае:

— Больш і я не паеду, хопіць,— і пакрыўджана: — Працуй нароўні з вамі, а тады яшчэ і баранку круці?.. Не хачу такой ласкі. Сёння не проста рэйс быў, а пякельны рэйс.

Я не пагадзіўся з ім:

— Пякельны? Нармальны рэйс.

Шумок аж падскочыў, узбурыўся:

— Нармальны? Для цябе нармальны, бо ты ўсю дарогу ў саломе дрых. Камяністая дарога, няроўная, карэністая — і ўсё ўгару і ўгару. А назад — з гары... Як па мядзведжай сцежцы — на першай хуткасці паўзлі.

Дзівак гэты Шумок, трэба ж, знайшоў каму плакацца — мне. Ды ў мяне самога не толькі рукі гудуць, а і паясніца ломіць, спіна... І я сказаў яму:

— Хочаш, каб паспачуваў, то не гыркай, гавары спакойна — зразумею.

Шчыгол:

— Што, Шум, невясёлы?.. Ліха ўбрыкнула, а? Гы-гы-гы... То-та ж. Не ўсё табе панам хадзіць. На кухні не заняты, а што парабіў фізічна — станеш больш гарманічны, радуйся. Ад дзевак адбою не будзе, пабачыш. Толькі больш ужо не слухайся Кружліка, а то зноў праспіш усю ноч у гасцініцы. Мой табе запавет: не енчы, рабі спакойна — цярпі, не жалкуй на лёс.

Пачуўшы такі заклік да цярпення, Шумок з яшчэ большым імпэтам пачаў перагыркваацца з Сінёвым. І ўсё націскаў на тое, што, маўляў, яго

справа — машына, і толькі машына: ён, значыць, не рабочы і пабудовай аб'ектаў не жадае займацца.

— Яны во,— паказаў на мяне і Шчыгла,— няхай вылузваюцца са скуры, бо дзеля гэтага сюды прыкацілі. А я — шафёр: прывёз, адвёз — і адпачывай спакойна.

— Канчаў бы ты, хлопец, мазгі мне кампасціраваць,— асадзіў Шумка Сінёў.— Не перажывай, я ўсё прадугледзеў: не за так робіш, норма выпрацоўкі плюсуецца да твайго акладу таксама, дайшло?

І праўда, як толькі Шумок пачуў пра даплату, яго як падмянілі — палагаднеў, паспакайнеў, пачаў Сінёва толькі Сцяпанавічам называць і ўжо гатовы хоць зараз ехаць на будаўніцтва новага трыянгуляцыйнага знака, якой бы вышыні ён ні быў. Да таго ж — ідэя! — узяўся напілаваць з паваленага старога знака сухіх дроў, прывезці ў суседнюю вёску і выпаліць там лазню ды як след памыцца — па-чалавечы, а не так, як нядаўна мыліся, у рацэ, нахапок, халоднай вадою.

Канечне ж, Шумок не дзеля нейкіх там дроў і лазні загаварыў пра вёску — яму абрыдла паходнае жыццё, тайга. Яго пацягнула ў прывычныя з маленства ўмовы — у горад. І вось хоць вёска няхай, калі ў горад няможна, хоць лазня — абы аддуха для душы, разрадка. Пястун гарадскіх вуліц, заўсёднік рэстаранаў і кафэ, выходзіць, засумаваў, разладзіўся... Так, ён толькі ў горадзе можа жыць спакойна, бесклапотна — шырока, без душэўнай хандры, бо там ён, у горадзе сваім, бог! І калі б не цяга да грошай, якія ён любіць і стараецца як мага больш зарабіць,— даўно пакінуў бы нас. А так — церпіць, пакутуе, але церпіць.

Акрэсліўся, здаецца, і яшчэ адзін кандыдат у хандрысты — Кружлік, як ні дзіўна. Што з ім робіцца апошнім часам — мне цяжка зразумець. «Нечаканы разрыў» з буфетчыцай, падобна, канчаткова зблытаў яму карты. І вось ён запрасіўся дамоў на колькі дзён. Але ж гэта не значыць, што засумаваў па жонцы, па сыне — не, другое тут нешта, другое...

Назіраю за Кружлікам. Сінёў перадае яму

паперы, тлумачыць, на якую суму трэба закрываць нарады за першую палову ліпеня, а Кружлік зусім і не слухае яго — адключыўся ад усіх нашых спраў, заглыбіўся ў нешта сваё, асабістае...

Гардуноўскі совае яму ў рукі канверт, просіць, каб адвёз у горад пісьмо, лепей — адразу на паштамт. Кружліку такая просьба, канечне ж, да аднаго месца, і ён насміхаецца з Пятра:

— Гарыць хіба?.. Канец свету?

— Гарыць...— Гардуноўскі чырванее раптам, невыразна мямліць: — Тэрміновае пісьмо,— голас яго дрыжыць, пісьмо ў руцэ — таксама.— І аванс для мяне, калі ласка, вазьміце, Мацвеевіч,— дзвесце рублёў... Гітару пашукайце, калі можна — гавайскую... Астатнія грошы па вось гэтым адрасе вышліце,— падаў Кружліку сшытkавы лісток, спярэшчаны на другім баку нотамі.

Сінёў сказаў да Гардуноўскага:

— З гітарай, Пятро, такое дзела... Я прасіў Шмаціна — і ён паабяцаў мне, што дастане. Можа, купіў ужо,— і да Кружліка: — Калі Шмацін купіў гітару — прывязеш. А не — сам пастарайся абавязкова купіць.

Кружлік на гэта ў знак згоды кіўнуў галавой, а так — нечага ўсё ўглядаўся ў лісток. Нарэшце зразумеў, што адрасы аднолькавыя — і той, што на пісьме, і гэты, толькі што атрыманы, на лістку, спытаў:

— Дык Чобат Г. В. прымак, можа, айчым твой? — дапытліва ўставіўся на Гардуноўскага.— О-о!.. Гэта ж, мусіць, нават і не ён, а — яна?!. Скажы, Г. В. жонка, а?

— Для вас, Мацвеевіч, не ўсё роўна хто? Навошта вам? — Гардуноўскі насцярожыўся.

— І праўда — навошта? Ха-ха!.. Перакапаў,— і ўжо спагадліва, з паблажлівай ухмылкай: — Добра, і гітару куплю, гавайскую, і струн прыхаплю ў запас.

— Во-во, і струн...— Гардуноўскі аж заўсміхаўся ў знак згодлівасці Кружліка.— Буду вельмі ўдзячны вам.

Кружлік нечага зноў стаў азіраць ліст, але ўжо той яго бок, дзе былі ноты. Прачытаў на ўкраінскай мове, і нават даволі прыстойна:

— «Сигарето, сигарето,— синя стрічка нескінченна...» Хм, песня? І музыка, канечне ж, твая?

— Мая,— мусіў прызнацца Ґардуноўскі.

— Маладзец, Пятро. Куплю гітару,— схаваў лісток з адрасам у кішэню і пачаў азіраць канверт, нават паспрабаваў дзюбчыкам мезенца адкалупнуць заклееены рубчык.— У-у, замазаў грунтоўна і... неакуратна. Што, баішся, каб я не прачытаў? — ён няспешна пакручваў канверт, нарэшце зазначыў: — Не бойся, мне твае сакрэты не трэба. А вот почырк твой — кучы галля, а не словы. І памылачка закралася... Кампазітар павінен быць усебакова граматны і ўважлівы. Няўжо не ведаеш, што вуліца не Брата Казуліна, а Братоў Казуліных? — Кружлік здаволена парагтвае, ціха, уедліва, з разлікам прынізіць неўпрыкмет.— Трэба, таварышок, адрас перапісаць, а то засмяе цябе гэтая твая Г. В.

— Не засмяе,— Гардуноўскі, аднак, не зважае на заўвагу.— Ёй няважна, які адрас, абы пісьмы даходзілі...

— Ага, дык Г. В.—яна ўсё-ткі, та-ак,— і Кружлік зноў пачынае павучаць: — Калі гэта жонка, дык ты і пішы ёй проста, не «гэвэкай».

— Без парад абыдуся,— насупіўся Гардуноўскі.

— Дарма параду маю ігнаруеш,— пагляд Кружліка паласкавеў раптам.— Улічы, жанчыны не церпяць дробязяў, таму і заўважаюць іх, прычым часцей, як што глабальнае, значнае.

Шчыгол:

— От гэта праўда: дзіця прыстроіш — і хоць бы хны, а варта прыйсці на свіданку ў нячышчаных туфлях — закукарэкае, гы-гы-гы... Мая ж цяпер праз дзень пісьмы піша — во дагадзіў грашыма, а? Такое толькі Бокуш і мог прыдумаць, гы-гы-гы... Феня, канечне ж, не ўтрымаецца і заахвоціцца чытаць яе пісьмы, пачне вышукваць прычыну, за што яна мяне так любіць, а там — і сама па вушы ўтрэскаецца... Бабы — яны ж такія, як авечкі: калі адна: «Бя-я-я!», дык і ўсе за ёй: «Бя-я-я!..» — І ўжо весела, здзіўлена: — Дык ты, Пятро, жанаты?

— Ну, жанаты, а што? — ганарліва сцвердзіў і спытаў Гардуноўскі.

— Дундук, хто ж так рана жэніцца? — уклініўся ў размову Корнеў, страсянуў чупрынай, праспяваў: — Караблікі-і, параходзі-кі-і! Цяпер мне ясна, чаму ты па начах трызніш... Пра цыгарэту ўсё нейкую шэпчаш... Эх ты, Пеця-Петрачок, галава й два вухі!

— Не лезь у душу, адстань,— адмахнуўся ад Корнева Гардуноўскі.

Корнеў выструніў шыю і аж прысеў, гарачліва спытаў:

— А хто дамаўляўся — помніш? — са мной разам на Таймыр махнуць?!.— і, рэзка тыцнуўшы пальцам Гардуноўскаму ў грудзі, выкрыкнуў: — Ты, вантроб чортаў, ты! — І ледзь не ўрачыста, пафасна выклаў наступнае: — Дык вот. Даў слова — стрымай яго. Не будзь вілягам, цюцькам не будзь падваротным — нядобра гэта, несур'ёзна. І помні: пры вялікім каханні да жонкі— Таймыра табе не бачыць, як сваіх вушэй музычных. Хош вер, хош не вер, а жанчын я не горш за Шчыгла ведаю: тактыка ва ўсіх аднолькавая — прыманіць да сябе як найбліжэй, буську дасць, палашчыць, лыткай голай аслепіць, прытуліць дурную тваю лабаціну да сваіх зацапаных грудак, охне-ахне — і ты на кручку ў яе, цыгарэта раскурана... А там — пялёначкі-распашоначкі, кашка-малашка, начная вазачка, казачка, калясачка... І няма Пятрушы-забулдыгі, ёсць Пятруша-парцюша, які толькі і робіць, што трымаецца за бабскую спадніцу.

— Ты, плебей,— Шчыгол хапіў Корнева за каўнер, прыцягнуў да сябе і назнарок пагрозна прашыпеў яму ў твар: — Не адымай у мяне мой хлеб, бо жартаваць ты ўсё роўна не ўмееш, усёк? Злыя жарты — гэта абраза,— адпусціў Корнева, сеў побач з Гардуноўскім, на зэдлік, спытаў: — Пятро, ты сапраўды жанаты? І распісаны?

— Чаго вы да мяне ўсе адразу прысталі? — не пайшоў на шчырасць Гардуноўскі.— Я ж вам ужо сказаў: жанаты.

— Завал, калі так,— пачаў Шчыгол.— От я зараз і рад бы ў рай, ды чэрці не пускаюць. Ра-

зумееш?.. Яны пасуць мяне. Куды не ўцякаю ад іх, а яны знаходзяць і хэлік стараюцца намыліць.

— Хто — чэрці? — усміхнуўся Гардуноўскі.

— Каб жа чэрці — бабы...— сказаў выразна Шчыгол.— Зараз я зацяты аліментшчык, нікчэмец сямейны, цуда-юда і ўсё такое.— Ён прайшоўся паўз Кружліка, спыніўся і, зыбаючыся, стаў патупваць нагою.

— Чаго ківаешся, як п'яны рабін? — зняважліва кінуў яму Кружлік.— Па мардасе хочаш?

Шчыгол сунуў рукі ў кішэні штаноў, задзірліва закапыліў ніжнюю губу і, ступіўшы напаўсагнутай у калене правай нагой наперад, пачаў рытмічна прытупваць мыском кірзавіка. Тупаў так і прагна ўзіраўся Кружліку ў шыю, моршчыў лоб, жмурыўся. Нарэшце працадзіў праз зубы:

— Я цябе разумею, начальнік... Ляля сапсавала настрой,— яго востры, неадчэпны пагляд затрымаўся на коўціку, што вытыркаўся з-пад шэрага каўняра Кружлікавай вадалазкі, непрывычна святочнай, сінтэтычна-бліскучай, якую ён да гэтага ні разу тут не надзяваў, гэтак жа сама, як і новы карычневы пінжак, што вазіў у чамадане разам з карычневымі туфлямі на шыкоўнай платформе з падкоўкамі на мысках і шэрымі, з вельвету, штанамі-штроксамі, чуць завужанымі ў каленях.

Я недаўменна пазіраў то на Шчыгла, то на Кружліка і думаў, што калі б зараз вось яны счапіліся ў бойцы, Шчыгол, напэўна, паперша хапіў бы Кружліка за горла — акурат за коўцік. Хаця — не, Шчыгол зусім не хапае, ён — б'е, як сам казаў, абрывае дыяфрагму. Прызнацца, мне шкада было Кружлікавай дыяфрагмы, а сам Кружлік чамусьці гэтага не разумеў — не шкадаваў сябе: вочы яго выпраменьвалі гнеў; ён цадзіў праз зубы, Кружлік:

— Нарвешся на сваё, спаўна ўхопіш... За ўсё.

— Філя пасылае грозьбы? — працягвае насміхацца Шчыгол.— Філя, значыць, забыўся ўжо, як хаўкаў, бы рыба ў прыдуху... Ай і смешны будзе Філя, калі з яго вузкай, агіднай мардасы блін атрымаецца. Хочаш, павярну тваю мардасу на градусаў... э-э — на сто градусаў, хочаш?

— Канчайце выкабеньвацца! — Сінёў мусіў адцерці Шчыгла ад Кружліка, рашуча стаў паміж імі.— Будзе вольны час і ахвота — тузайцеся, а зараз — ціха! — Прытрымаў Шчыгла за плячук, троху нават зварухнуў з месца — як абудзіў, спытаў: — І чаму гэта — Філя, а? — і ўжо галасней, суровей: — Не выдурвайся, ты не адзін тут...— дастаў з нагруднай кішэні распіску, якую яшчэ ўчора аддаў яму Шчыгол.— Гэту тваю паперчыну магу вярнуць назад, і гарлапань тады на ўсю моц свайго гарляка,— перадаў распіску Кружліку, і той, прачытаўшы яе, сказаў:

— Не буду для яго палучаць грошы.

— Ты, Філат, таксама не кіпяціся,— не стрымаўся Сінёў.— Яго грошы — не нашы... Зарабіў.

— Мае, правільна,— павесялеў Шчыгол, ажывіўся.— Зарабіў.

— Ты-ы!.. Здаецца ж, зараз табе самае што памаўчаць,— сказаў строга Сінёў.— Рукі ў штаны — і сыдзі з вачэй на паўгадзінкі, ну?!.

— Змываюся, Сцяпанавіч. Бягу.

— Даўно б так, зух.

— Куды яму ў зухі — розумам вузкаваты ды і ў плячах не надта... Неданосак!

— Не лезь на ражно, Філат, прашу,— сказаў раздражнёна Сінёў.— Чаго ты раўняешся з імі? Трымай сябе ў руках.

— У руках сябе трымаць? — бомбай выбухнуў Кружлік.— Гэта... Гэта...— пачаў заікацца, маленькія вочы агняна заярчэлі — акурат як у разгневанага дзіка, дыханне пачасцілася.— Нікому з іх не збіраюся ўступаць!.. Былі ў мяне такія субчыкі.

— Ды супакойся ты, Філат,— папрасіў цярпліва Сінёў, пры гэтым махнуў Шумку рукой, каб заводзіў машыну.

— Спакойны я, Сця... Сцяпанавіч. І лічу, што зараз ім не трэба грошы...— памкнуўся быў ісці да машыны, але затрымаўся, дадаў: — Нядаўна ж выдавалі...— пакасіўся ў бок Шчыгла, які сапраўды спакойна пахаджваў зводдаль.

— Мы з табой, Філат, не ашчадная каса — іх грошы, іх воля,— Сінёў паважна глядзеў на Кружліка.— Я — не прыхільнік метады Каралькова.

— Не прыхільнік? — Кружлік здзівіўся, бо лічыў, што Сінёў дзеля таго толькі і жыве на свеце, каб дагаджаць начальству, Каралькову — таксама; ва ўсякім разе, ён заўсёды іменна так думаў пра Сінёва і гэтых думак не хаваў.— Дык што, методу Каралькова па баку?

— Ганебная метода, заганная. Сам быў рабочым і ведаю.

— Каралькоў, канечне, не анёл... У чым іншым ён можа памыляцца, а от наконт грошай — не гавары, Сцяпанавіч,— прыкметна паспакайнеў Кружлік.— Па яго методзе Дыненка працуе з людзьмі...

— Дыненку мне не памінай — у яго свая метода,— запярэчыў Сінёў.— Каралькоў лічыць, каб грошы рабочым не выдавалі ў час работ... А гэта значыць, што чалавек працуе, але ён сам не свой — чакае, каб хутчэй сезон скончыўся ды грошы атрымаць, а там... Там — па-чалавечы зажыву, думае. Ды выходзіць з гэтага яго «зажыву» пшык. Грошы атрымаў — поўныя кішэні, ура! Як тут не пашыкаваць? І шыкуе... Колькі дзён усе разам п'юць, сумесна, пасля — кожны паасобку, у шалманах, сярод баб-распусніц...

Кружлік ухмыльнуўся:

— Гэта ўсё не мне гавары, а во ім, навічкам,— кіўнуў у наш бок. Зрэшты, мы ўсе былі тут жа, слухалі, адно Шчыгол усё пахаджваў па лугавіне — ці не чарамшу збіраў, дзікую цыбулю.

— Ім жа я і гавару, ім! — Сінёў азірнуў нас і, відаць, застаўся задаволены тым, што ўсе мы на месцы, не разышліся нікуды.— Ад іх я нічога не хаваю. А што? Няхай тое-сёе і пра Каралькова ведаюць. От хоць бы і тое, што калі ён вяртаўся з поля, дык яго рабочыя пасля разліку два-тры месяцы пілі запоем... Ні ў іх новых касцюмаў, ні паліто — нічога: сакалы голыя, як калы. Бадзягі-пабірахі. Усю зіму пасля аціраюцца на чыгуначнай станцыі: дзе ўдасца што зарабіць, з таго і жылі... Было, што на цеплатрасах, у падзямеллі, начавалі. Міліцыя, помню, захапіла сямёрку такіх вось «адважных» зімавікоў, то сярод іх было чацвёра каралькоўцаў.

— Пры чым тут Каралькоў? — Кружлік, здаецца, супакоіўся ўжо, стаў памяркоўны, разважлівы.— Дыненка ж, кажу, не выдае грошы ў час работ.

— Дыненкам, дарагі ты мой, ніхто з нас не будзе. Правільна, не выдае. Але ён, як толькі заўважае, што нехта з яго падапечных пачынае папіваць, тут жа купляе яму білет туды, адкуль прыехаў, а грошы — пераводам: едзь, дома цябе твае грошы чакаюць... Гэтак робіць Дыненка. Ды і што тут памінаць Дыненку? Дыненка амаль у кожнага свайго сталага рабочага дома пабыў — паўсаюза аб'ездзіў. Затое ж у яго рабочыя — дай бог якія! Навічкоў адзін-два, астатнія ўсе — ветэраны, правераныя. З такімі — у агонь і ў ваду можна.

— Дыненка хваліць Сінёва, а Сінёў хваліць Дыненку...— калыхнуў плячыма Кружлік.— У мінулым годзе мае рабочыя, Кадзіла і Шломкін, усю зіму падраблялі на вакзале. Па-твойму, я ў тым вінаваты, што яны прапілі зробленыя грошы? Яны прапілі, а я вінаваты? Шломкін, гарачая галава, абакраў камеру хавання — і цяпер на «курасадні», то, можа, зноў я вінаваты?

— Не будзем шукаць вінаватых... Ты хоць ведаеш, як сёлета Кадзіла ў Дыненкавай брыгадзе апынуўся?

— Як?

— От бачыш, не ведаеш... Дыненка ішоў па рынку, чуе знаёмы голас: «Купляйце вярблюджую воўну! З вярблюджай воўны можна звязаць цёплы і носкі світэр... Вярблюджая воўна!..» Глядзіць, аж гэта Кадзіла пакупнікоў прымальвае. І Брыцік ля яго... Падышоў, пагаварыў з ім, усімі адрынутым, узяў да сябе ў брыгаду, трактарыстам. Рыхтаваўся на Поўнач, а пасля — кінулі і яго на бамаўскі ўчастак. У Дыненкі і Кадзіла чалавекам стане, не пойдзе больш у памочнікі да Брыціка, які скуплівае спальнікі на вярблюджай воўне, патрошыць іх, дастае воўну, мые, расчэсвае і прадае.

— Дык а пры чым тут я? — абараняецца Кружлік, чым якраз і выдае сваё раўнадушша да людзей, абыякавасць.

— Пры ўсім тым, што ўсе мы — людзі,— кажа задумліва Сінёў.— Грашыма не ўсякі ўмее правільна распараджацца. Грошы — спакуса, перад якой чалавек бывае часам бяссільны, асабліва бязвольны чалавек. Дык вось, грашыма Дыненка не толькі выпрабоўвае сваіх рабочых, але і выхоўвае іх; ёсць грошы — добра, няма — будуць... От і я за гэта, за такі падыход і погляд на грошы. Галоўнае — быць раўнадушным да грошай. А ў некаторых, можа, нават у большасці людзей, усё наадварот якраз: грошы — галоўны козыр, дзейны рычаг жыцця і шчасця. Па прынцыпу, так сказаць: ёсць грошы — ты кароль, няма — ты ніхто, драбяза.

— Калі чэсна — дык мяне адно турбуе, Сцяпанавіч: баюся, што захопімся празмерным выхаваннем і завалім план,— Кружлік капрызліва памуляў губамі.— Ты залішне шчодры на ўсё... Грошы трэба? Бяры, работнічак, грошы. Выхадны трэба? І выхадны ёсць. Шумку ў лазні папарыцца захацелася? Калі ласка, мыйся, саколік... Марная трата часу, якога ў нас, лічу, ні мінуты лішняй няма. Калі ўжо мы прыехалі сюды, дык трэба працаваць ад цямна да цямна, штодзённа. На тое ж хлопцы і сезоннікі. Цяпер няма калі адпачываць.

— Не, Філат,— Сінёў упарта-катэгарычны.— У самадзейнасць я не збіраюся гуляць... О! — ён падняў указальны палец угору.— Добра, што ўспомніў. Абавязкова пагавары з Асаўцовай, і, калі толькі яна не перадумала, няхай разам з табой і прыязджае сюды.

— А чым дрэнна хлопцы гатуюць? — Кружлік насцярожыўся раптам.

— Іх дзела — аб'екты, а кухняй няхай займаецца спецыяльна прызначаны на гэта чалавек. Карацей, прыедзеш з Асаўцовай — між намі, лічы, ніякіх непаразуменняў не было. Мір, павага і ўзаемнасць,— Сінёў ажывіўся, паглядзеў на гадзіннік, крыкнуў да Шумка: — Ну, чаго марудзіш? Заводзь машыну!

— Сцяпанавіч,— выйшаў з-за машыны Шумок,— дык я заадно ўжо і на заправачную пад-

скочу, так? Масла на зыходзе, тавоціку не шкодзіла б прыхапіць — таксама канчаецца.

— Правільна, хвалю,— сказаў узбадзёраны Сінёў.— Але ж і для сябе такой-сякой правізіі не шкодзіла б прыхапіць,— дастаў грошы, адлічыў дваццаць пяць рублёў, аддаў Шумку.— Хлеба купіш, цукру, сала... Добра было б грачнёвай кашы паесці, а?

— Грэчкі тут з агнём не знойдзеш,— сказаў пераконана Шумок.— У нас у горадзе няма, а тут...

— Во-во, у горадзе няма, а тут — ёсць,— Сінёў дастаў з чамаданчыка, таго самага, паходнага, дзе захоўвае ўсе дакументы, даведку з пячаткай, перадаў Шумку і зноў паглядзеў на гадзіннік.— Гастраном працуе да дзевяці вечара, паспееш. Пакажаш даведку дырэктару — ён ведае, я гаварыў з ім: для экспедыцыі адпусціць.

— Гэта правільна прыдумалі,— сумеўся Шумок.

— Алею бутэлек пяць прыхваці, каб было на чым рыбу смажыць,— падказаў Гардуноўскі.— І мукі прывязі — для падлівы... Калі будуць сухафрукты — бяры пабольш, кампоцікам пачастую.

— Ты запішы,— раіць Шумку Сінёў.— Забудзеш.

— Запомню і так,— пагляд Шумка нечага раптам мітуслівa заскакаў па кожным з нас.— А гэтага самага, Сцяпанавіч?.. Ну, што на «эс», а? Прыхапіць?

— Я не супраць, але... няма за што спірт купляць. Пацерпім. Вернецца наш пасыльны (гэта значыць, Кружлік) — тады і ўстроім выхадны, адзначым нашы вытворчыя поспехі... А яны ў нас, скажу вам, не благія.

Шумок:

— А мо скінемся, хлопцы?.. Што ў каго ёсць?

Сінёў:

— Даю траячку — на большае, даруйце, не маю права.

Вуцёха дастаў пяць рублёў, Міхалёў — рубель, я — апошнія два рублі, Корнеў — гэты нашкроб усяго толькі паўрубля, ды і тое драбязой —

поўная жменя медзі, Гардуноўскі — нічога не даў. Шчыгол доўга поркаўся ў кішэнях, нарэшце дастаў пятак, але пакрыўлены, з пазбіванымі гранямі.

— А гэта мой узнос,— пакруціў манету ў пальцах, прыўзняў над сабой, паказаў усім, звярнуўся да Шумка: — Бачыш, ты выкінуў, а я падабраў, выпраміў — грошы ўсё-ткі, не абы-што. Бяры гэты пятак, няхай яшчэ раз паслужыць нам.

І праўда, было аднойчы такое. Машына пярэднім колам напаролася на нейкую калючку, пэўна, на цвік. Шумку пад рукі ў той час нічога не трапілася, апрача пятака, які ён перагнуў і пасацілжамі прышчыкнуў ім зморшчак на камеры якраз у тым месцы, дзе была дзірка. Хоць і павалэндаўся з колам, пакуль да ладу давёў, але потым дабраўся-такі да табара як ні ў чым не бывала. Калі ж паказаў нам, якім чынам «ліквідаваў» пракол камеры, мы шчыра пазайздросцілі яго кемлівасці. Цяпер Шумок, куды б ні выпраўляўся, далёка ці блізка, заўсёды бярэ апрача запаскі, якая ляжыць у кузаве і замяняе нам лаўку, яшчэ і стары зілаўскі поршань з наглуха заплясканымі пальцавымі адтулінамі, а з ім, поршнем гэтым, ляжаць і два дашчаныя абрэзкі — прычындалле гэтае ён сам прыстасаваў для вулканізацыі камеры, сырая гума ў яго таксама ёсць.

Гардуноўскі не траціў час — напісаў распіску, як і Шчыгол, і аддаў Кружліку, і той нічога яму не сказаў — не пазнаць стала чалавека: ціхі, спакойны, памяркоўны... Перамяніўся чалавек, другі стаў. І мы — усе вясёлыя. Дзіўна проста, адбыўся нейкі нечаканы паварот у лепшы бок, калі можна так сказаць. Ну во, брыгадзір наш, Сінёў, умее без кулакоў і грозьбаў вырашаць самыя тонкія, складаныя пытанні ў адносінах між сваіх падначаленых. Так, ён працягвае фармаваць калектыў, у якім сама што ідзе прыцірка характараў, а гэта — няпросты працэс, шматгранны, складаны. Хоць бы і сёння: узмах рукі, два-тры словы — і свара спынена, прыглушана. Замоўк Шчыгол, перастаў ерапеніцца Кружлік... І хай бы толькі нехта з іх паспрабаваў заартачыцца, як бы ўраз увесь гнеў Сінёва абрушыўся б на «артача»... Умее

Сінёў гэта рабіць. І ні крыўды ні ў кога на яго, ні злосці. Сярод нас — ён проста свой, з ім нам — усё па плячы, па сіле любы план... А зрэшты, калі б гэта было не так, дык навошта ж тады мы тут?

А яшчэ добра і весела нам ад таго, што мы ўсе на выгодзе, што выдаўся месяц ліпень, амаль такі ж самы, як і чэрвень — сонечны, цёплы і без частых дажджоў, што наўкола нас — нечапаная чысціня і неаглядны зялёны прастор... І што мы, людзі, разумныя часцінкі ўсяго гэтага хараства, гэтай жывой радасці, бясконца вечнай і велічна непаўторнай, адчуваем сябе тут, на гэтых шматлікіх таежных сцежках, альпійскіх лужках і кручах Баргузінскага хрыбта, не ўсемагутнымі багамі-волатамі, а ўсяго толькі шчаслівымі хлапчанятамі.

Хто ты ёсць, чалавек? Разумная істота — і толькі?.. Бадай, так. Разумная дзеля таго, каб пастаянна жыло ў табе адчуванне, што сапраўдны гаспадар на зямным прыволлі зусім не ты, чалавек, са сваімі дробязнымі капрызамі, хваробамі і невырашальнымі праблемамі, а нехта іншы — Вялікі, Дужы, Вечны... ПРЫРОДА!

З пісьма Шахноўскага:

«...ці трэба было табе, Лёшка, забірацца ў такі далёкі свет, каб напісаць мне зусім будзённае, дзеля адчэпкі, пісьмо, у якім, мушу заўважыць, нічога мне не адкрыў, нічым забаўным не парадаваў. Як я зразумеў, дыяпазон душы тваёй — гэта вельмі трывожны сімптом! — пачаў катастрафічна звужацца... Назнарок не браўся табе пісаць, а тут — гэты перавод, грошы... Не, ты зусім там з глузду з'ехаў, дальбог. А ўрэшце, не бяруся судзіць, а тым больш кідацца ў развагі. Я ж нічога, уласна, не ведаю пра цябе і твае таежныя вандроўкі, тваё паходнае, як ты сам кажаш, гуляй-жыццё. Якой яна стала цяпер твая шырокая душа, які ты сам — нічога мне гэтага невядома, і ўсё таму, што ты — проста вялікі абібок (даруй).

Аднак скажы, што ўсё ж там з табой сталася? Няўжо і праўда часу няма на тое, каб сесці і няспешна, так, як мы — помніш? — гаварылі, напі-

саць мне пра ўсе свае навіны, пра свой штодзённы клопат: як і што ты робіш, хто побач з табой, чым жывеш, што радуе і засмучае... А я з гэтага твайго пісьма не ўбачыў ні цябе, ні нават твой почырк — ну як не ты пісаў! Уражанне такое, нібы ты хворы, нібы ледзь трымаў ручку, а мо з вачыма што?.. Чакай, ці не п'яны ты быў? О, матка боска, калі гэта і сапраўды так, то прапаў ты, станеш праз год-два бічом — былым інтэлігентным чалавекам... Чуеш? Не ўцягвайся ў разгул: парабі трохі, паглядзі на свет — і назад!

Ты пішаш, каб я зняў цябе з камсамольскага ўліку, а не даслаў мне адрас тамтэйшага райкома камсамола. І добра, што не даслаў, бо здымаць з уліку цябе не збіраюся — чакаю, што ты адумаешся і неўзабаве вернешся назад. Узносы плачу рэгулярна, з аклада 400 рублёў. Не перабольшваю? Так што не хвалюйся на гэты конт. І не крыўдуй на мяне, калі часам захочацца пакрыўдаваць.

Во, чуць не забыўся. Была, значыць, Ірына тут, у ПКБ нашым. Нахапілася да мяне на работу (першая наша сустрэча, апішу яе) і здзівіла зласлівай пыхай і абурэннем у твой адрас: назвала цябе спачатку донжуанам, потым лавеласам і пустамалотам. Пры мне парвала добрую вязанку тваіх пісьмаў і фотку, на адным кавалку якой я прачытаў: «...доўгую памяць незабыўнай Ірыне...» О свенты Езус, тваёй рукой напісана!

Калі б не Каравага — гэты гнюс, як ні дзіўна, заўсёды прыходзіць менавіта тады, калі ён не трэба, а пасля атрымліваецца так, што без яго якраз і не абышлося б... Дальбог, я проста не ведаў, як мне быць, пра што з ёй, тваёй незабыўнай, гаварыць. А Жора, значыць, калі зайшоў, усміхнуўся, дастаў з кішэні джэмпера бялюткую хусцінку, нібы загадзя прадчуваў гэты выпадак, і стаў выціраць ёй слёзы. Ірына адразу ж суціхла, а ён давай падбіраць шматкі пісьмаў ды кідаць іх у сметніцу. Здымак склаў, склеіў і здзівіўся, пазнаўшы цябе: «Ы-ы-і!..— віскліва, бы толькі што злягчаны парсюк, завішчаў,— то ж гэтага фраера я ведаю як аблупленага: бабнік! Няўжо па ім слёзы? О, богі! Злітуйцеся!.. Бокуш не варты вашых крыштальных слёз. Вы — царэўна... Няплак-

са! Супакойцеся, прашу вас. Ёсць царэўны-несмяяны, лягушкі ўсякія там, квакушкі, а вы — Няплакса! — і тут жа рашуча — другі раз даста-лося твайму здымку — парваў, дадаўшы: — Правільна, на шматкі яго, на драбнюсенькія кавалачкі».

Прайшло зусім мала часу — і твая «незабыўная» грунтоўна забылася на цябе. Во як! Чуў, кум, баса? То-та ж.

Даруй, канечне, за такія запозненыя навіны. Тут ніякае не перабольшванне, а проста самыя што ні ёсць упартыя факты. Прызнацца, хацеў не пісаць пра Ірыну ні слова, ды як гэта я, твой даўні сябар, змаўчу праўду? Не, такое не ў маіх сілах і не ў тваёй перспектыве. Таму ведай усё, што ведаю я: Ірына выйшла замуж. Яна павінна была табе сама ўсё напісаць, гаварыла са мной, і я даў ёй твой адрас. Напісала?.. Ага, дык я ўсё ж не скончыў пра той першы візіт. Значыць, Жора супакоіў Няплаксу, і мы ўтраіх — я, яна, Жора — былі ў «Журавінцы». Ледзь праніклі туды, але затое ж правялі час весела, адно шкада, не было цябе з намі. Значыць, колішняя прываба твая танцавала амаль кожны танец — і ўсё з Жоржыкам. У перапынку я навязаў быў ім тост за цябе, за тваё хуткае вяртанне, дык яна сказала, што ты для яе ўжо не існуеш... Во як!

Да ўсяго гэтага застаецца дадаць і яшчэ адну «дробязь»: яна тую ноч начавала ў Жоры... Назаўтра «жанішок» пахваляўся мне, — ты ж ведаеш, ён не можа не пахваляцца,— што Ірэнчык не параўнаць з Недашэўскай — зямля і неба.

Пасля вяселле было...

І цяпер Жоржык не спускае з языка с в а ю Ірэнчык. Ён захапіўся ёй, а яна — ім. Поўная ўзаемнасць! На дзіва рашучая, нечаканая ўзаемнасць. Шанцуе ж людзям — такое лёгкае знаёмства, такая хуткаплынь пачуццяў! Божа, няўжо і гэтак можна кахаць і быць шчаслівымі?

Пішу вось і ў душы радуюся,— а як жа, радуюся! — што ты, нібы гусак, выйшаў з вады сухі: лёс пашкадаваў цябе і не паслаў табе ў жонкі «незабыўную»... Вялікі клопат — абыдзешся пакуль і без жонкі. Жору — ты ж, здаецца, ве-

даеш? — ужо недзе пад сорак і без жонкі нельга, узрост, то і няхай ёй задаволіцца. (Ах, папуас ты гэткі, з якой асалодай я насміхаюся з цябе!) Скажы, ты на самай справе не супраць, што Ірэн пабралася з Каравагай? Што тычыцца мяне, дык я ўхваляю гэты іх экстра-шлюб. Жора мне прызнаўся неяк, што надта любіць, калі чувіха як след размалёваная: такая лахудра абуджае яго, кідае ў безразважны наступ. Помніш, ты казаў мне, што ўсё добра было б, каб толькі Ірына не курыла і не так густа «тынкавала» твар. Табе гэты яе «звіх» не падабаўся, а Жоржык на сёмым небе ад шчасця — густы, дружа, густы!

Што ж, даруем ёй, слабой істоце, усе яе непаразуменні з табой і пажадаем шчасця з Жорам Каравагай, калі толькі ён дачасна не сахвоціцца гэтак жа, як Нэлачкай Недашэўскай... Каб ты ведаў, Недашэўская таксама не бядуе — выскачыла за Сёмку Камерсанта, кінамеханіка... Чуў, кум, баса, а?

Вось, здаецца, і ўсе навіны. ПКБ наша штурмуе вяршыні навукі. Бусёк мусіў звольніцца. Яго ветліва папрасілі... І цяпер ён строчыць скаргі ва ўсе інстанцыі. Уяўляеш, развіў такую дзейнасць, што наўрад ці стрымае яго хто. Прарэзаўся ў чалавека сапраўдны талент!

Эх, Лёшка-Ляксей, ёсць прычына павесяліцца, ды няма мне тут з кім — маю на ўвазе цябе, таежнік. Чорт ты гэтакі, д'ябал,— я ж атрымаў кватэру-двухпакаёўку, у раёне Курасоўшчыны. Жыве са мной маці мая. А калі раптам прыедзеш ты, вернешся на кругі свая, дык адразу ж шыбуй да мяне — прыму кватарантам, лупіць буду кватплату па нуль капеек за месяц!»

* * *

Страшна ў тайзе аднаму, няўтульна ад празмернай насцярогі і пастаяннага адчування безабароннасці... Гэта ж нейкі шалудзівы ліс, драпежнік-птушкар, і той лучае пажывіцца маладым ізюбранём: прычапіўся і вось ужо каторы дзень сноўдае следам, віжуе — падбірае зручны момант для нападу.

Ізюбраня адразу разгадала лісаву хітрасць, але

не дае знаку, чакае, як стане далей паводзіць сябе гэты нязваны апякун: відаць, на соннага паспрабуе напасці, знянацку. Хоць ён, ліс, і самаўпэўнены, смелы-разумны, але ж не надта ўжо і страшны, ды і не вельмі які мацак — дарма спадзяецца на лёгкую спажыву, не быць гэтаму.

І праўда, ліс адразу ж актывізаваўся, калі ўбачыў, што ізюбраня ўлеглася на спачын. Стаіўшыся за шыпшынавым кустом, ён доўга, цярпліва чакаў, пакуль здарожанае ізюбраня — усё разлічыў! — не ўспіцца як след. І затым ужо бясшумна пакінуў схованъ — падпоўз зусім блізка, заставалася адно скочыць і прагна ўпіцца ікламі ў павабную шыю ахвяры... І пралічыўся — ізюбраня не спала: імклівы рывок насустрач — і два пярэднія капыткі, вострыя, як пікі, з лёту жарнулі лісу ў грудзіну, ды так, што аж рассеклі скуру... Шакіраваны нечаканым ударам, ліс кульнуўся на спіну і нейкі час ляжаў нерухома. Калі ачнуўся і ўбачыў, што ізюбраня зноў нарыхтавалася да рыўка, вомігам усхапіўся і, выпрастаўшы злінялы, як дубец, хвост з белай апушкай на кончыку, махнуўся ўбок і знік у густой высокай траве.

## 8

Мы ў здзіўленні: такая вялікая вёска, нават з некалькімі пакручастымі вуліцамі і завулкамі, а ні калодзежа, ні калонкі нідзе не відаць.

Спыніліся, спыталі ў маладжавай сустрэчнай жанчыны з веласіпедам у руках, дзе можна набраць пітной вады. У адказ чуем: вада тут вельмі глыбока, ажно за сто дваццаць метраў, і, значыць, яе пампуюць з глыбіні; у вёсцы ёсць аж два пункты па выдачы вады за плату: два вядры — паўтары капейкі.

Мы смяёмся: во, рака амаль пад бокам — і якая рака, Баргузін! — а ваду трэба купляць. Але ж, мусіць, вада гэткая, глыбінная, вельмі смачная. Слухаючы жанчыну, пацвельванні хлопцаў, я чамусьці падумаў пра тое, што даўней, канечне ж, пілі тут рачную ваду — кожны сабе вазіў у бочцы, і гэта быў вялікі клопат, нязручнасць: як-ніяк, а рака ад вёскі кіламетры за тры,

не менш... Венька Шумок падрабязна распытвае, дзе ўсё ж самы блізкі пункт, каб доўга не шукаць, і жанчына з веласіпедам цярпліва тлумачыць яму, жмурыць свае раскосыя вочы, прыкрываючы іх далонню ад сонца. Хто яна, цікава: тунгуска? буратка? ці нават манголка? Ведаю, жывуць тут розных нацыянальнасцей людзі, а вось хто гэтая жанчына — дакладна вызначыць не магу, збівае з тропу хоць бы і тое, што валасы яе не чорныя, а русыя. Метыска? Сапраўды, калі прыгледзецца, дык ёсць у ёй і нешта славянскае.

— Ехайце прама, а тады — налева, а там і вадапункт, чуць мала-мала ад пошты,— прыхінае да сябе веласіпед і ўжо дзвюма рукамі паказвае, як нам трэба ехаць, у які бок.

Я перагнуўся цераз борт, навастрыў вушы — лаўлю кожнае слова. Мне надта цікава чуць і бачыць тубыльца, ды яшчэ жанчыну. Шчыгол і Гардуноўскі — гэтыя назнарок, дзеля жарту, прыспешваюць Веньку: не марудзь, маўляў, хутчэй вязі да вады, а то задыхаемся ад смагі.

— Я вас так зразумеў: адразу за поштай — завулак? — перапытвае Венька, корчыць з сябе няўцямца.

— Правільна, так,— жанчына пазірае то на Веньку, то на нас, паказвае карабок з запалкамі, дадае: — Вогніва ёсць, а таба́ку куплю сваю — хай магазін адчыняць... А вы, аднаха, дайце мала-мала, курыць хачу.

Гардуноўскі шэпча мне на вуха:

— Відаць, ад іх перадалася мода курыць і да нашых жанок... Яны тут кураць і п'юць бязбожна — нездарма і спірт свабодна ў продажы.

Шчыгол сарамліва ўгінае галаў, хаваецца за борт кузава — яму падалося, што жанчына пачула Гардуноўскага. Ціха, з дакорам ён кідае Гардуноўскаму:

— Памаўчы, прашу... І знай: не таму тут спірт прадаецца свабодна, што памногу п'юць. Проста на складах зімой гарэлка замярзае, а спірт не. Усёк?

— Халадна тут, суровы край. Спірт для сагрэву,— умяшаўся ў размову Міхалёў, і яго ўдакладненне, па-мойму, слушнае.

— Нягож, так я і паверу,— не пагаджаецца Корнеў.— Проста паблажка ім дадзена, тутэйшым людзям,— косіць вочы на жанчыну, злараднічае: — У нас паміраць будзеш, дык усяго сто грамаў якіх па рэцэпту выпішуць, выкупіш, а спірт, халера, з эфірам. Для банькаў ды кампрэсаў — харош, прыгодны, а глынеш — вочы на лоб лезуць.

— У іх тут жыццё-маліна, дабра гэтага, спірту, купляй колькі хочаш, абы грошы,— Гардуноўскі таксама перавесіўся цераз борт, стаў назіраць за жанчынай.

Венька ваўсю разыгрывае гжэчнага кавалера, падаў жанчыне змяты пачак «Прымы». Жанчына ўзяла толькі дзве цыгарэткі — пачак вярнула назад, падзякавала.

— Бярыце-бярыце, у мяне яшчэ ёсць.— І ў доказ таго, што не хлусіць, ён выцягнуў з кішэні такі ж самы пачак, але больш скамечаны, паказаў: — Во, хопіць з мяне... Бярыце, калі ласка, усе, з пачкам бярыце.

Жанчына ўзяла цыгарэты, зноў падзякавала. Пры гэтым цёпла пасміхнулася.

— Вы, аднаха, добрыя людзі...— шчокі яе глыбяцца прыгожымі ямінкамі, агеньчыкі ў вачах, здаецца, разгараюцца ўсё больш і больш.

— От гэта праўда, паважаная, правільна: мы і праўда як адзін тут, добрыя, анёлы, так! — усклікае Венька.— І ўсе халасцякі...— пры гэтым як не да пояса высунуўся з кабіны, стаў на падножку.— Жывяце далёка?

— Адсюль, аднаха, не відаць,— жанчына закурыла, прагна зацягнулася.

— А то — сядайце, падвязу да самае хаты,— Венька паказаў на сядзенне: маўляў, у кабіне паедзеце. Тут жа падаў знак Вуцёху: пасунься, дай месца чалавеку.— Калі ласка, сядайце ў кабіну, а веласіпед — у кузаў... Сядайце!

— Не-е, Курганіха наша і за лес, за луг цягнецца... Вялікая.

— А ваша хата дзе стаіць? — падобна, Венька не проста жартуе, а прадбачліва выпытвае, далёка глядзіць наперад — хоча ўведаць адрас жанчыны, каб пры выпадку — чаго не бывае! —

можна было да каго завітаць і ў Курганісе. А што? Ён — шафёр, яму пехам не хадзіць: сеў і паехаў. Да таго ж не так ужо і шмат тут вёсак. У Курганіху яму, пэўна ж, не раз яшчэ прыйдзецца наведацца. Хоць бы і ў магазін.— Ну, паказвайце, дзе ваша хата — падвязу да самай брамкі.

— Хата?..— асцярожна перапытала жанчына.— Хата мая навошта вам?

— Каб доўга не шукаць...

— Не-е, мая хата не трэба вам,— яна сарамліва апускае вочы.— Мама ў мяне злая многа...

— Дык жа мы вам сухіх дроўцаў прывязём. Цэлы кузаў! — пайшоў на хітрасць Шумок.

— Хош, батыр, маме дагадзіць — вязі дровы,— здалася нарэшце жанчына.— Прыязджай... Я мала-мала чакаць буду,— гожы прыжмур вачэй і ўсмешка, шчырая, паўнашчокая.— За дровы каньяк будзе на стале, саламат згатую, мяса...

— І-і-а-а! — дураслiва, па-аслінаму ўсклікнуў Шумок.— Ды я самагонцы рад буду, не трэба мне каньяк,— скочыў з падножкі, дзякуе жанчыне, ласкава пагладжвае ёй руку — па ўсім відаць, прыняў запрашэнне ўсур'ёз.— А дровы — прывязу, многа дроў, цэлы кузаў. Сухіх, сасновенькіх... Дык дзе ж ваша хата, а?

— Там,— паказала жанчына ўсцяж вёскі,— направа, з краю... Самалёцік на вільчыку.

— О — дзякуй, дзякуй,— спяшаецца Венька.— А зваць вас як?

— Пасля скажу,— шчыра ўсміхаецца жанчына.— Не ўсё зразу, батыр.

— Венька, потрах!..— крычыць нецярпліва Шчыгол.— Не марнуй час — паганяй.

І машына зноў запыліла вуліцаю, непрывычна шырокай для вёскі, пустэльнай — нідзе ніводнага дрэўца збоч вуліцы, нідзе ніводнага калодзежнага жураўля.

Мінуўшы пошту, павярнулі ў глухі завулак, збочылі і спыніліся ля бярвенчатай шасцікутнай вежы з конусападобным дашкам. На шыльдзе — словы: «Водаадпускны пункт». Трохі ніжэй, якраз пад шыльдай, зеўрае маленькае, як у піўным ларку, акенца. Збоч яго, злева, вытыркаецца з квадратнага прарэзу ў сцяне гафрыраваны шланг-

рукаў, канец якога прутка звісае ўніз. Зямлі не дастае.

Мы дружна пасаскоквалі долкі, скінуўшы заадно і тры нашыя бітоны. Заданне такое: запасціся вадой, купіць у магазіне хлеба, алею, крупы, макароны — і хуценька назад, на свой бівак, які заснавалі ўчора непадалёк ад Курганіхі, кіламетраў за пятнаццаць недзе. Блізка — калі на машыне, вядома.

— Цэ, хлопцы, збудова, скажу вам, нагадвае калыбу.— Гардуноўскі азірае водаадпускны пункт. Вось ён падступіўся да шланга, мацае яго і зазначае: — Калі б не ось цэ цурубалка, то і калыба. Акурат,— запульсавала ў душы чалавека нацыянальная жылка.

— Калыба? — Шчыгол, вядома ж, упершыню чуе гэтае слова, пытае: — Што такое гэта калыба?

— Тое ж самае, чым твая хахуля загадвае,— Гардуноўскі цмокае языком.— Лічы, ларок піўны, вясковы бар. Толькі зрублена калыба не з такіх тонкіх бярвенцаў, як гэта халупа, а са смярычкі... Калыба — прасторная, ажно на восем кутоў будыніна, пасярод — жароўня, а ў столі — дзірка, куды выходзіць дым. Шашлычная з півам. Дайшло?

— Даехала...— Шчыгол паціснуў плячыма, падступіўся да акенца і зазірнуў у яго, выказаўся: — Хм, чаго толькі людзі не прыдумаюць.

Гардуноўскі зняў тым часам шланг з кручка, а я ўхапіў бліжэйшы бітон і, адкінуўшы набок круглае, з гумовай пракладкай вечка, падставіў пад шланг. Вада тут жа шухнула ў гарлавіну бітона, хлюпка зацурбоніла ў дно, захлекатала.

Шчыгол нейкі час глядзеў у акенца і пасміхаўся, затым весела спытаў:

— Эй-і, хто ў цераме жыве?

— Цібе чо, бяляш? — голас дзявочы, праўда, чуць грубаваты; дзяўчына, адчуваецца, вострая на язык.

Шчыгол страшэнна не любіць, калі яго хто абзывае, а тут — што гэта з ім? — нават і ўвагі не звярнуў на тое, што яго «беляшом» ахрысцілі.

— Шкляначку, калі ласка, дайце нам — вады пап'ём,— ён, канечне, пакрыўдзіўся за абразу,

але выгляду не падае, хітруе. Нешта ж будзе зараз — пайшоў на збліжэнне, узлокціўся на вузкі брыж падаконнічка. Бач ты яго — з бухты-барахты не кідаецца ў наступ, асцярожнічае. Зняў кепку і, бы веерам, замахаў перад сабою.— Божа-божа, рыжая сама, аж гарыш, а дражнішся. Нядобра дражніцца, паважаная, непрыгожа. Дык пачуй, лапуня, скажы: няўжо хто ўсердзіў цябе, разнерваваў, а? — сунуў кепку ў кішэню ватоўкі, прыгладзіў далонню не больш як сантыметровыя тычкі валасоў, дадаў: — Папрасі мяне — і я абараню ад любога крыўдзіцеля, яй-бо.

— І ты ж такі самы прыставала, як і ўсе,— голас з акенца ўжо не сказаць каб і грубы, але яму па-ранейшаму не бракуе калючай насмешлівасці.— І хто ж гэта цябе так, як барана, абкаціў? Што, з калоніі нядаўна? Ці ў знак таго пастрыгся, што жонка з другім знюхалася, жыццё безлюбоўнае настала, пустое?.. Раганосец — адразу відаць.

Ну во, Шчыгол дастукаўся: нават ужо ў лік раганосцаў залічаны. Гэта новае нешта. А ўрэшце, з ім і такое можа стацца — жанацік жа! Таму вялікай памылкі тут няма: дзе гарантыя, што яго жонка, Каця, якая каторы ўжо месяц маркоціцца ў адзіноце, захоўвае шлюбную вернасць?

— Лапуня, ты будзь ласкавейшая: калі прашу не дражніцца, то і не дражніся. Гэта — раз. А другі раз, чуеш, дай шкляначку, прашу. Яй-праўда, паміраю ад смагі,— не губляецца Шчыгол, нейкім цудам церпіць, знаходзіць выйсце і словы — адступае, так сказаць, з глыбокай разведкай.

— Паміра-аеш?.. Штой-та не відна па табе,— ціхі смех у дадатак.

Шчыгол прасунуў галаву ў акенца — і ўражліва, зайздросцячы, прымаўляе:

— У-у, ядрона вош, ды ў цябе тут камфорт!.. Нават тапчан ёсць. Жытуха!

— А што ты думаў!

— То не цягні ката за хвост — дай, мая залатая, шкляначку. Не адкажы, выручы,— не адступае Шчыгол, нібы нельга проста з-пад шланга напіцца, без шклянкі.

— Бедненькі, напраўду піць хочаш? — голас дзяўчыны ўжо і зусім не пазнаць — спачувальна-ласкавы стаў, мяккі.— Няма ў мяне шклянкі, разбілася мая шклянка, як і лёс мой... Вот — бяры, можаш выпіць, калі не грэбуеш,— і Шчыгол атрымаў распачатую бутэльку піва, але без наклейкі, і адразу ж прыпаў губамі да рыльца — глок-глок-глок, прагна стаў піць.

— О, божачкі!..— смех з акенца льецца ну проста вясновым ручаём, і такі ласкава-пераліўчаты, сакавіта-бруісты, прызыўны, што ажно дзіўна: наўрад ці здольны адзін чалавек выштукоўваць такія пераліўы, а калі і здольны, то што ўжо за ён там? І раптам — гром з яснага неба на маю галаву: — Эй, раз-зява!..— з акенца вытыркнулася агняна-рыжая шар-галава, рашуча страсянула завіўкай: — Вада, знай, не дармавая, прашу не разліваць!

Выходзіць, вінаваты я? Ну — так, правароніў, вада палілася цераз край гарлавіны. Але ж хто ведаў, што бітон так хутка напоўніцца? Значыць, не толькі Шчыглу — мне таксама дасталася ад гэтай рыжай бестыі. Я шапнуў Міхалёву, які памагаў мне:

— Шчыгол аднадумку сустрэў... І ён, і яна — аднолькавыя,— і падсунуў пад шланг наступны бітон.

— Эй, лапуня, не лайся з намі — мы ж цудоўныя хлопцы,— чую, кажа Шчыгол.— Ты от яго аблаяла, а ён, ведаеш, з вышэйшай адукацыяй, гы-гы-гы... Да таго ж і любоў няўдалая ў яго была.

— Яно і відаць: любоў няўдалая, бо сам няўдалы,— насмешліва гучыць з акенца. І тут жа — яшчэ насмешлівей: — Ну от, што ты, бяляш, п'еш, што смокчаш? А можа, я не піва падсунула, а?.. Ха-ха-ха-хо-хо-го-го-о... Ратуйце мяне, ох!

— Як — не піва? — Шчыгол на хвілю адносіць бутэльку ўбок: паглядзеў на святло, узбаўтнуў.— Піва! Люксоўнае піва, эстра-клас, халодненькае, як з маразілкі. Дзе вы тут дастаяце такое? Няўжо заводзік свой?

— Учора на кукурузніку падкінулі, з Улан-

Удэ. Самалёт на БАМ ляцеў, ды матор заглух, сеў на нашым полі, пшаніцу памяў. Піва здалі ў магазін — так што няпланавае.

— Абы-што на БАМ не павязуць — піва вышэйшага гатунку,— Шчыгол падміргвае ёй, дадае: — Выручыла, лапуня, дзякуй табе, радасць мая. Скажы, што мала «дзякуя», і я расцалую твае белыя ручкі-ножкі — хоць зараз,— зноў прыставіў бутэльку да губ, стаў піць частымі глыткамі, спяшаючыся.

Для нас, канечне, дзіўным было пачуць, што піва ў гэтых краях рэдкасць і што завозяць яго сюды пакуль адзіным транспартам — самалётам. Гардуноўскі — такі ж самы ахвотнік да піва, як і Шчыгол,— падступіўся, таўхануў Шчыгла пад локаць, сказаў:

— Ты ж не жлукці ўсё — мне пакінь,— пры гэтым мільгам зірнуў у акенца, шырока ўсміхнуўся: — Дзень добры, зямлячка!

— Адкеля такі земеля? — у голасе дзяўчыны дапытлівая рахманасць.

— З Украіны,— не стаў маніць Гардуноўскі.

— Земеля — прышый кабыле хвост,— выбухае з акенца, чуваць залівісты смех.

— Ты!.. Асцярожней на паваротах,— Гардуноўскі бліжэй падступіўся да акенца.

— Яй-ёй-і, напалохаў вельмі!

— Напалохаю...— Гардуноўскі моршчыць лоб, хмурыцца, а тым часам з акенца ляціць новы здзек у яго адрас:

— Няма табе чым палохаць — па носе бачу, ха-ха-ха-хо-хо-хо...

— Ну, кіса, і язва ж ты,— Гардуноўскі прымірэнча лыбіцца, жартліва грозіць пальцам, нарэшце выхоплівае з рук Шчыгла бутэльку і дапівае астаткі піва. Здаецца, ён аж падабрэў. Усміхаючыся ўжо як мае быць, на ўсе зубы, дастае аднекуль з кішэняў цукерку, працягвае ў акенца і пытае ў дзяўчыны, настойліва прытым:

— Хочаш «Мішку касалапага»? Ну, хочаш?

— Ратуйце — паміраю... Мне толькі касалапых не ставала! — і прыцішана, супакойна: — Звяжыся з табой — клопату не абярэшся. Чаго добрага, прымусіш кожан дзень галушкі варыць...

Ха-ха-ха-хо-хо-хо-хі-і... Урэдны ты, бачу, і пражорлівы. Нябось жрэш-прэш, як у бочку бяздонную, а ўсё роўна худы, вычах у шчэпку,— зноў на момант вызірнула з акенца, заўважыла Шумка ля машыны, Вуцёху і Корнева, кінула ім: — А вы — эй, хмыры! — чаго піва не просіце?

— Знікні, ведзьма рыжая! — пагразіў Шумок кулаком, сеў у кабіну, Вуцёха — за ім, гучна ляпнуў дзверцамі. Корнеў пабраўся ў кузаў.

— Ну што, малеча,— дзяўчына глядзіць на Гардуноўскага,— выходзіць, аднаму табе я спадабалася, а? У хахалі набіваешся? — рагатнула і дадае, бы свайму даўняму знаёмцу, які, аднак, не апраўдаў нейкіх яе спадзяванняў: — Па-мойму, ты, калі і здольны, дык на распал толькі, а на большае што — слабкі, духу не хопіць, — і зноў смех, прыцягальна-пажадны, блажлівы.

— Чокнутая...— Гардуноўскі нават пальцам пакруціў ля скроні, адступіўся ўбок — па ўсім відаць, яму ўпершыню трапілася на вочы такая вострая на язык, няхай, можа, і залішне ўжо грубаватая дзяўчына.

Затое Шчыгол проста трыумфаваў, раз-пораз кідаў кепікі:

— Што, Пятро, не тая фаза? Знайшоў перамычку, а яна пад напружаннем?.. То-та ж! Не лезь на ражно, анёл ты наш непаголены,— падкалоў Гардуноўскага з той прычыны, што ён рашыў адпусціць вусы і каторы ўжо дзень не галіўся.

— Ха-ха-ха-хо-хо-хі-і...— няўціхна бруіць-клякоча з акенца.— Ну й чувакі, без парашкоў атручваеце,— і галасней: — Ой, мама родная, ратуй мяне, не магу... Ой!

Пакуль мы закідвалі напоўненыя бітоны ў кузаў, Шчыгол перайшоў на шэпт, галава яго па самыя плечы схавалася ў акенца. Не чуваць і дзявочага рогату.

— Паехалі? — гучна спытаў Венька з кабіны.

Я адказаў, што ўсё гатова — газуй! Машына кранулася з месца, павярнула і стала ўжо набіраць гон, але Шчыгол паспеў-такі нагнаць нас. Як толькі ўкуліўся ў кузаў, задыхана паведаміў:

— Даваў рубель — не ўзяла, чартоўка. Сказала, што першы раз ссуджвае нам ваду бясплат-

на,— ён па-змоўніцку падміргнуў мне і зусім сур'ёзна, не жартуючы, пачаў разважаць наконт жаночай вернасці — нібыта жонка яго недзе знайшла ўжо сабе «тэленомуса», раскашуецца, то, бадай, і яму тут — гэта значыць, Шчыглу,— няма чаго адмаўляцца ад божай ласкі.— А што, а? Кадра — фартовая, габарыты блізкія да стандарту,— здаволена пасміхаўся Шчыгол.

— Не кажы,— цепнуў плячыма Гардуноўскі.— Бой-шалава.

— Ат, па Хомку і шапка,— прымаўкай адказаў і, падобна, гатовы быў заспакоіцца Шчыгол, ды Гардуноўскі з'едліва спытаў:

— Саня, а ты звярнуў увагу на яе сцёгны?.. Яна ж цябе за адзін вечар вывухрыць так, што і на хруст крабчыкаў забудзеш.

— Укормленая цёлка — такую і ў танцы не закружыш, і ў пасцелі не зацалуеш,— здаволена лыбіцца Шчыгол.— Па мне, кажу. Эх, музычку ўпілю — і аля-ўлю!.. Прыкмецілі? Яна на цязе якраз — увесь твар хаценьчыкамі ўсыпаны.

— А татуіроўку ты бачыў на руцэ, прачытаў? — працягвае даймаць Гардуноўскі.

— Прачытаў... Прыстойная наколка, правільная: «Любоў трэба заслужыць!» Хіба не так? — Шчыгол паварочвае твар па ходу машыны, стрэчны вецер хіліць зламаны брыль ягонай кепкі ўніз, засціць вочы; ён чуць ускідвае галаў — брыль узлятае ўгору, агаляе светла-русыя, выгаралыя на сонцы шматкі броваў і шырока-пакаты лоб. І зноў да Гардуноўскага:— Я ёй сустрэчу прызначыў... А што? Адно аднаго вартыя — хаф на хаф, так сказаць,— харобрыцца Шчыгол.— Яна — ніштаватая дзеўчына, акуратная. Абы-каго, мурзу, да пітной вады не прыставяць — гігіена перш за ўсё: як у горадзе, так і тут, у вёсцы.

Гардуноўскі падцінае вусны, прамаўляе голасна:

— Божа-божа!.. Ды ты ж, Саня, мудрэй за энцэфаліта,— і аж прыгнуўся ад здушанага смеху, хапіўся рукамі за бакі жывата.— Памаўзлівы кот!

— Ну-ну, жаўтароцік, не выступай,— твар Шчыгла, здаецца, увесь свіціцца ад задаволена-

сці.— Дарэмна, Пятро, ёрнічаў так перад ёй — шчырасць тваю яна за падман прыняла. Улічы, дзевяноста пяць працэнтаў жанчын — такія.

Гардуноўскі аберуч напяльвае вязаны, акурат жаночы, берэт ажно на вушы, стульваецца і замаўкае: у лесе вецер халодны — едзем якраз нізінай, збоч напаўзалітага вадой балота.

Мы ўжо добра такі нарабіліся, хоць і прыйшлі на аб'ект не ў восем, як заўсёды, а толькі а дзесятай гадзіне.

— Лёха, стаўляй лесвіцу! — грыміць з ямы голас Корнева.— Перакур. На прагрэў іду.

Апускаю лесвіцу — чатырохметровую дошку-саракоўку з набітымі па адзін бок планкамі-папярэчкамі — і падтрымліваю яе, пакуль Корнеў карабкаецца з ямы. Нейкі пахмурны ён сёння, усё роўна як нечым устурбаваны. Без кашулі ў яме быў, нават без майкі? Як маленькі, дальбог. Нібы не ведае, што так і прастудзіцца можна... Але ж дарма што працаваў голы — узмакрэў як мае быць, пот цурком бяжыць па твары.

— Глядзі, не рызыкуй вельмі,— кажу яму.— У яме холадна — тая ж самая маразілка, а ты — галяком... Прастудзішся.

— Не бойся, прастуда мяне абыходзіць,— атрэхвае з рук прыліплы пясок.— У яме — холад, а тут — духата. Мінус на плюс — мінус. Заканамернасць такая, думаю, толькі на карысць — загартоўка сапраўдная. Баяцца ветру трэба. От калі пройме мокрага — завал, двухбаковы храпун забяспечаны,— паглядзеў на гадзіннік.— Во шуруем, а? — здзівіўся.— Гэта ж больш двух метраў прагналі — што значыць лёгкі грунт, падатны. Калі паднаціснем, дык можам да вечара і слупок паставіць.

— Не радуйся загадзя — дурная прыкмета,— ахаладжваю Корнева.— Грунт, канечне, падатны, без камянёў, але ж нешта пражылкаў глеевых зашмат, ракушнік трапляецца часта. Можам вадзяного выкапаць — няйнакш было тут некалі возера.

— Ты пра ваду не думай,— пасміхаецца Корнеў.— Не расхаладжвайся, а то ў яме і без гэтага

холадна.— І ўжо сур'ёзна, не без клопату: — Падобна, вада сапраўды недалёка ўжо... Давай не мацаваць яму. Грунт надзейны, без плывуну.

— Можна і не мацаваць,— пагаджаюся з Корневым, хаця і не без асцярогі: — А як быць, калі раптам Сцяпанавіч нахопіцца?

— Пакуль ён нахопіцца, дык мы, кажу, слупок укапаем. Не бойся, у мяне вопыт ёсць... Думаеш, чаму мы вас абганялі? Таму што яму амаль не мацавалі. Праўда, трэба ў тэмпе рабіць, на заўтра дакопку не пакідаць, бо сценкі падсохнуць за ноч і могуць абцячы.

— А як жа інструкцыя?

— Не будзь расцяпай, паменш глядзі на ўсякія там інструкцыі — больш пражывеш і цікавей... Герояў працы не было б, калі б усе выконвалі інструкцыі ды розныя там прадпісанні. Інструкцыя адымае дарагі час, пасяляе няверу ў сябе. Запомні, калі хочаш трапіць у перадавікі, прымай мой метад: прагрэсіўны — раз, эканамічны — два. За што Сінёў лае Вуцёху? За дошкі, якія той усё рэжа і рэжа на мацаванне. Тры дні затрачвае на адзін рэпер. А мы — за паўтара ўпраўляліся, так? Вуцёха, вялікі спец, не ўлічвае фактар часу, ясна? От на гэтым кані мы і абгонім яго зноў, ні ў чым не саступім!

Я разумею Корнева: сапраўды, трэба ўсё рабіць разумна, разважліва, і, канечне ж, зыходзіць трэба з абставін. Вось і цяпер, дакапаемся да вады — нічым справу не палепшыш, адзінае выйсце: гэту яму вымушаны будзем засыпаць, а недзе паблізу выберам вышэйшую мясцінку і пачнём занава капаць... Корнеў, бадай што, мае рацыю: не варта мацаваць яму. Як правіла, другі раз мы рэдка калі памыляемся, бо «вадзяная» яма — гэта ўжо самы што ні ёсць арыенцір: ведаючы ўзровень падземных вод, сарыентавацца ўжо вельмі проста. На ўсе тры звяны такіх вось непрадбачаных «арыенціраў» — ажно шэсць. Гэта нямала. Праўда, на мяне з Вуцёхам толькі адзін з іх прыпадае. Але то была наша першая яма. А так — Вуцёха ваду нюхам чуе. Карацей, ён рэдка калі не выпраўляў «прывязку да мясцовасці», зробленую Кружлікам. У Корнева ж —

тры «вадзяныя» ямы, і цяпер ён, канечне ж, пабойваецца, не хоча павялічыць лік. Адно што, як ён кажа, «навару» няма, а потым — гэта проста марная трата часу і сіл.

Воддалек, можа, з кіламетр ад нашага бівака (ад аб'екта — не больш трохсот метраў), якраз за выпасам, які, пэўна ж, увесну ўвесь залівае вадою, шарэе цаглянымі грудамі — усё, што засталося ад хат — котлішча былой вёскі. Там-сям скіраваны ў неба збуцвелыя шчоглы калодзежаў. Зруб аднаго з іх, таго, з якога мы ўчора бралі ваду, не раскіданы і амаль яшчэ новы, шчогла таксама новая і розніцца ад астатніх тым, што на ёй боўтаецца не надта каб і доўгі вочап з металічнай зашчапкай для вядра.

— Вочап кароткі — студня неглыбокая,— істіна, можна сказаць, сама зляцела з маіх вуснаў.

Корнеў пахапліва пыхкаў цыгарэтай, адкашліваўся, а тут раптам знерухомеў, вочы ўражана акругліліся, бровы папаўзлі ўгору.

— Эх! Ну чаму ты раней гэтага не заўважыў?!.— вось ён кінуў цыгарэту і пачаў на чым свет стаіць лаяць Кружліка: ён такі, і гэтакі, і разгэтакі.— Не-е, на яго спадзявацца — тое ж самае, што ад Шчыгла чакаць смачны абед,— заключыў і нечакана спытаўся: — Як думаеш, ён вернецца? Міхалёў запэўнівае, што не вернецца ўжо.— І, не пачуўшы ад мяне нічога, зноў паказіў бочкі на Кружліка, які ўсё яшчэ не вярнуўся ў брыгаду.— Спец вялікі, ездзіў, размячаў — і ўсё абы з рук... Самога і след прастыў, а нам цяпер жылле рві, высільвайся па-пустому.

Я маўчаў. Канечне ж, Кружлік рыхтаваўся загадзя пакінуць нас (Міхалёў, здаецца, блізкі да ісціны), бо каторы дзень запар калясіў з Шумком па маршруце, пазначаючы месцы будучых аб'ектаў,— так сказаць, прывязваў да мясцовасці. «Прывязваў» даволі слабым вузлом... Вядома, калі б мы адразу агледзелі, што калодзежы ў гэтай вёсцы, пакінутай і ўжо амаль усёй разваршанай, неглыбокія, то, безумоўна, аднеслі б свой аб'ект куды-небудзь далей, на ўзлобак. Там, праўда, на ўзлобку, могілкі, але дзе-небудзь з краю можна прыторкнуцца. Ды — чаго не бы-

вае! — будзем спадзявацца на лепшае. Адно што ўжо не спыніш работы — больш за палову ямы выкапана. Бадай, з гэтай прычыны мы нават цешым сябе тым, што бываюць жа, зрэшты, і выключэнні, на гэты раз, можа, і пашанцуе нам.

Прамерзлы пласт вечнай мерзлаты паддаецца толькі лому, і я бяру з сабой у яму той самы лом, што прынёс мне Паўлік — гэты лом цяжэйшы за нашыя, зручны. Корнеў нахіліўся над ямай, пажартаваў:

— Калі раптам праб'еш мерзь і заявіцца вадзяны — гвазданi яму ломам па кумпале,— відаць, назнарок павярнуў размову на жарт, каб дачасна не расхалоджвацца. Насцярожана-загадкавы пагляд яго брывастых, заглыбленых у вачніцы вачэй спыніўся на сценцы ямы.— Не вельмі размахвайся тут... Я адлучуся — праверу дакладную глыбіню калодзежа, гэтага, што бліжэй да нас.

— Прыхапі з сабою чайнік, вады прынясі.

— Ёсць вады прынесці! — Корнеў, забразгацеўшы вечкам чайніка, выліў астаткі чаю і пайшоў.

Я застаўся адзін. Аднаму на аб'екце, асабліва калі ты ў яме, працаваць катэгарычна забараняецца — так сцвярджае інструкцыя па бяспецы. Выходзіць, трэба, каб за табой нехта пастаянна прыглядваў, быў побач. Сапраўды, мала што можа здарыцца... Бывае — і даволі часта — на наш табар, калі толькі агледзяць (на аб'ект — таксама), лётма лятуць каровы і, напаўшы, усё, што трапляе ім на вочы, стараюцца з'есці, зжаваць, зваліць, абярнуць... Заўчора ранічкай, калі ўсе мы спалі яшчэ, досвіткам, бычок-валацуга, адкормнік, нахапіўся і зжаваў чырвоную — мадняцкую кашулю Корнева, і Валодзька чуць быў не ашалеў ад злосці на бычка — гнаў яго, беднага, [illegible] кіламетр, б'ючы ўсім, што траплялася пад рукі, нават рыдлёўкай запускаў, за што Сінёў як след вылаяў яго. Апасацца кароў, канечне ж, трэба. І вось чаму. Могуць набрысці статкам на аб'ект пад час работы, дый шухне каторая ў яму...

Я пачынаю сачыць за агнянымі пырскамі, якія амаль пры кожным удалым дзяўбку зыркім

веерчыкам выпырхваюць з-пад завостранага кончыка лома — усё роўна як салютуюць, і, дальбог, хоць гэтым усцешваюць, падбадзёрваюць. Няма іскраў — міжволі ловіш сябе на тым, што змарыўся ўжо. І тады зноў — адкуль і сілы бяруцца! — лом пачынае спрытней хадзіць у руках, мёрзлыя камякі зямлі глуха шлэпаюць па злёгку завільгатнелых сценках ямы. Нарэшце спахопліваюся: якраз жа пад такі час, калі сама што ўходзішся, кажуць, і падпільноўвае небяспека, бо перастаеш кантраляваць свае дзеянні. Толькі што, прызнацца, і са мной нешта падобнае адбылося: выкінуў з ямы ладнаваты камень, а ён адскочыў ад вядра — і зваліўся назад у яму, бацнуў мяне па галаве так, што я не помню, калі і прысеў — ажно кругі ў вачах пайшлі, млосна стала. Добра, што ў касцы быў... Хаця — гуз усё роўна ўсхапіўся, і каска цяпер замінае, балюча муліць, ды я цярплю, не здымаю яе.

Што гэта? Чаму раптам пацямнела ў яме?

Хвіліну-другую намагаюся ў здагадках, але неспакой расце, і я хутчэй адчуў, чым здагадаўся, што за мной нехта назірае зверху. Узняў галаў — у прахоне ямы твар чалавека, шырокі, немалады, з прыжмурам раскосых вачэй; густая шчотка вусоў яршыста паварушваецца.

— Эге-эй-і!..— з-пад вусоў бліснулі на дзіва белыя зубы.— Атын мала-мала ёсць? — усмешка на твары прыязная, шчырая.— Ёсць атын, а?

І рад бы адказаць чалавеку, але ж я не зразумеў яго пытання. Атын? А што яно, слова гэтае, азначае? Праўда, ужо тое, што госць прыязна ўсміхаецца, заспакойвае — трэба ж, адной усмешкі дастаткова, каб паставіцца шчыра да незнаёмага чалавека.

— Золата шукаеце? — зноў азываецца вусач.

Збольшага я ўжо разглядзеў яго. Толькі твар, канечне. Вочы раскосыя, чорныя ў зрэнках, і там, у глыбіні зрэнкаў, трымціць-іскрыцца агняны агеньчык прыязнасці, аздоблены ўсмешлівай хітрынкай; бровы амаль белыя, як снег, які толькі што выпаў; вусы — сівыя, з адметнай жаўцізной, і гэта гаворыць аб тым, што ён курэц. Хутчэй за ўсё гэта бурат. Відаць, так. З мясцовых

людзей. І атын — золата... Што ж, буду цяпер ведаць. Павярнуўшы брыль каскі назад — каб зручней было глядзець угару, пытаюся:

— А хіба ў вас тут і золата ёсць?

— Капалі даўней, але, праўда, мала-мала да хрыбта. Я таксама, калі дурны быў, капаў...

Нейкі дзівак гэты дзядзька. Трэба ж, калі ён «дурны быў»,— сам прызнаецца,— капаў золата. А цяпер, выходзіць, не дурны, а разумны, бо ўжо не капае... Хм, своеасаблівая логіка. Я стаў гадаць: хто ён, гэты вусаты прышэлец, чаго тут ходзіць? І, бадай, дзеля таго, каб спыніць работу, пагаварыць з госцем, спытаў яго:

— Золаташукальнікам рабілі? — спытаў, але, відаць, не так, бо госць мой як не пачуў мяне — нечага раптам замітусіўся наўкол жарала ямы: хоць бы не абшаснуўся ды не грымнуўся на мяне. Ён тут жа ўгодліва прапанаваў:

— Я памагу табе, зараз памагу,— і хуценька спусціў у яму вядро, сказаў: — Насыпай поўнае.

— Што вы — не трэба. Я сам упраўлюся,— зірнуў угару — баяўся ўсё ж за свайго новага памагатага: калі сам не ўпадзе ў яму, то вядро мне на галаву спусціць — адно з двух. Зноў жа — паслугі выпадковых людзей таксама забаронены інструкцыяй. Зараз мне якраз і трэба сказаць яму, каб цягнуў вядро назад, але ж не зразумее — пакрыўдзіцца чалавек. Ды і навошта адпрэчваць таго, хто самахоць прапануе дапамогу? Дзядзька, відаць, ён добры.

Я спехам накідаў у вядро большых камлыжак, тузануў за вяроўку — гэта, каб цягнуў вядро. У адказ чую:

— Не жартуй са мной — насыпай поўнае, не цыркайся.

— Памногу не цягаем — вядро слабое,— сказаў я і зноў тузануў за вяроўку.

І праўда, на гэты раз вядро лёгка, не чапляючыся за сценкі, пакалыхалася ў неба. А праз якую хвіліну яно зноў павісае нада мной, і ўсё той жа прыемны, акурат жаночы галасок чуецца зверху:

— А знаеш, юнаш, вусы я адпусціў, каб не прымалі мяне за жанчыну,— усміхнуўся, нешта

там яшчэ буркнуў сабе пад нос — і гучна, насмешліва: — Нагарнуў зямлі якраз столькі, колькі я маладусе сваёй у кош насыпаў, калі золата капалі... Болей насыпай: не жанчына я, чуеш? Хачу памагчы табе!

— Памагчы? І час у вас ёсць?

— Пакуль атара блізка — ёсць. Удвух лягчэй будзе, спарней.

Ага, значыць, ён пастух, аўчар. І, канечне ж, рады, што сустрэў новага чалавека. Трэба, можа, вылезці ды пагаварыць з ім, прапанаваць закурыць, калі Корнеў не забраў цыгарэты.

— Мне пакуль і аднаму не цяжка — з такой глыбіні зручна на выступ кідаць зямлю. Вядром карыстаемся тады, калі да выступу шуфлем не дацягнуцца,— я ўсё ж мусіў спыніць работу.

— Дык ты, юнаш, не золата шукаеш, а?

— Золатам не займаемся.

— А я дзіўлюся, чаму зямлю не прамываеш... І дарма — золата ў нас тут ёсць. Трэба, каб спецыяліст па вышуку золата пры табе таксама быў,— разумна даводзіць ён.

— Не ўсё адразу. Нам карта трэба, дакладная.

— Карта-а? — здзівіўся ён.— Няўжо карты ў вас няма?

— Ёсць. Але яна старая.

— Э-э, ваша, можа, і ўстарэлая,— скептычна ўсміхнуўся,— а ў ваенных, думаю, карты самыя дакладныя ёсць.

— То ж у ваенных... Мы сваю зробім, лепшую, і нам вайскоўцы толькі пазайздросцяць,— я таксама пасміхнуўся.

— Дык вашай канторы, знацца, абы нешта рабіць, абы сродкі дзяржаўныя пераводзіць, так? — пастух дапытліва глядзіць на мяне: нічога не скажаш — не пастух, а самы што ні ёсць міністр фінансаў, клапатлівец без партфеля!

— Не, не так гэта ўсё. У наш час, лічыце, дзеля «абы» ніхто нічога не робіць — усё прадугледжана планам.

— А-а, дык гэта вы, мусіць, бамаўцы?..— Ён зноў нагнуўся над ямай — то й глядзі, што абрынецца ўніз.— Гэта пра вас людзі кажуць, што бамаўцы паявіліся, работы нейкія вядуць?.. Магілу

шамана раскапалі і на яе месцы слупок чорны паставілі... Слупок той ваш нехта назнарок знёс.

— Нічога, мы яшчэ адзін паставім, а таго, хто знёс, аштрафуем на пяцьсот рублёў,— выгукваю весела і ўпэўнена, маўляў, і сапраўды хай думае, што мы аштрафуем зламысніка. Мыском бота зграбаю надзёўбаную зямлю ў грудок, нахіляю вядро і гарну ў яго ўвесь грудок. Тузаю за вяроўку, кажу: — Больш не падавайце вядро — перакур.

Тое, што гэты выпадковы прышэлец, пастух, прыняў мяне за бамаўца, мне, канечне, спадабалася. З нас, можа, адзін Вуцёха застаўся б да гэтага раўнадушны. А ўрэшце, Вуцёху як ні называй, дык яму, думаю, усё роўна. Аднойчы ён пры ўсіх выказаўся, што асабіста яго зусім не цягне ў тыя мясціны, дзе многа людзей, бо там, дзе вялікі калектыў, і энтузіязм вялікі, а рубель, маўляў, сярэдненькі... Ат, Вуцёха і ёсць Вуцёха: які сам, такія і песні яго, развагі. Яму б толькі ўласны рукзак як мага паўней напхаць, а ўсё астатняе — трава не расці. Учора, напрыклад, хлопцы ездзілі рыбу лавіць. Трапілі ў сетку дзве андатры і захлынуліся там. Хлопцы прывезлі нежывых звяркоў напаказ, а Вуцёха нават як след і разгледзець не даў: хуценька здзёр шкуркі, пасаліў і, загарнуўшы ў цэлафан, схаваў падалей у рукзак. Потым узяўся быў патрашыць тушкі, хацеў засмажыць, ды Міхалёў сказаў, што андатру не ядуць, бо яна з сямейства пацукоў. Вуцёха сплюнуў і закінуў тушкі ў кусты. Дзіўна, прыгадаўшы Вуцёху з андатрамі, я ўспомніў, як ён пахваляўся, што ўмее гатаваць такі шашлык, што пальчыкі абліжаш... А што? Вазьму зараз ды і пацікаўлюся ў пастуха, ці можна будзе купіць барана, ці прадасць? Хаця ж, праўда, атара не ягоная — калгасная. І ўсё ж, трэба, відаць, вылезці з ямы дый пагаварыць з чалавекам вока на вока — купля-продаж, як вядома, справа далікатная. Я папрасіў падаць мне лесвіцу, і госць адразу ж выканаў маю просьбу, сказаўшы пры гэтым:

— А ў нас, помню, замест лесвіцы звычайная сукардычына была — ацярэбленая яловая вяршалінка.

Павітаўся з пастухом за руку. Корнеў, выходзіць, не забраў цыгарэты — ляжаць на ягонай штармоўцы разам з сернікамі,— запальніцу дастае з рукзака толькі па святах. Я прапанаваў закурыць, і госць узяў пачак, вытрусіў на далонь цыгарэтку, закурыў. Затым перакуліў вядро дупком угору, сеў і прывычна торкнуў пальцамі ў брыль доўга ношанай, запотненай кепкі — ссунуў яе з ілба, спярэшчанага маршчынамі, сказаў:

— Мы тады натрапілі ўсё ж на золата...— дапытліва зірнуў на мяне, нібы спытаўся, ці жадаю я паслухаць, як прываліла ім шчасце.— Самі колькі ні гналі шурфоў — ані залацінкі, пуста. Пачалі шукаць старыя ды там шныпарыць. Адзін паглыбілі, пакорпаліся — пуста. Другі ачысцілі, дзён пяць затрацілі — зноў няўдача. А ў трэцім... чалавечы шкілет аказаўся. Прыціснуты валуном быў. Якім чынам валун у яму папаў — хто знае. Можа, на краі шурфа ляжаў ды землетрасенне пачалося, то катнуўся ўніз, а можа, у сценцы дзе застаўся ды абрушыўся... Неяк жа здарылася бяда. Відаць, што чалавек у сваю ліхую гадзіну ў адзіноцтве быў, ніхто яму не памог, ніхто не пахаваў нават... Знайшлі мы ў шурфу металічную біклажку, заржавелую, быў там і берасцяны туясок, разлезлы. У туяску, знацца, ляжалі наган-сямізараднік, самаўзвод, і прыгожай формы, помню, шкляны штофчык. Завінтка ў ім уся ў арнаменце, сярэбраная, і на ёй, зверху, слова выгравіравана — «КУМ». Штофчык цяжкі, зацьмеў увесь, і не відаць, што ў ім. Я сперш падумаў, што патроны. Аж не — больш чым напалову залатога пяску там. Во! За тое, знацца, што пахавалі непрыкаяную душу, нам і аддзячыў бог.

— А самі вы хоць колькі намылі золата?

— Намылі? Нават і таго не спажылі, што ў штофчыку было...— Я прыкмеціў, што госць мой не вельмі налягае на цыгарэту: як зацісне яе між пальцаў, так яна і дыміць ледзь-ледзь, толькі, відаць, дзеля таго каб не патухла, раз-другі лёгенька смактане, раскурыць, і досыць.— Ага. Знацца, адзенне ўсё патлела, але скураное яшчэ захавалася — боты, папружка... І я ўстанавіў прыкладна, што ляжаў шкілет гадоў гэтак з

пяць — недзе ў дваццатым загінуў чалавек. Нялёгка прырода расстаецца са сваімі багаццямі, за проста так не ўзяць іх. Прапала ў нас ахвота золата шукаць. Кажу сваёй маладусе: «Няхай яно спрахне, такое золата, каб за яго гінуць». У мяне, праўда, стрэльба мелася, але ж усякага звера ў тайзе поўна. Ды не так звера, як людзей... Страшна стала. Сам сабе думаю: «Гэтага валун прыціснуў, а нас могуць бандыты якія прыкончыць. А то і мядзведзь нападзе». І не сталі рызыкаваць, вярнуліся ў свой улус, расказалі пра ўсё — пра наган знойдзены, пра туясок, пра біклажку, а пра штрофчык з золатам маўчым. І гэтак праз тыдні два прыходзіць да нас жанчына — руская, яшчэ зусім маладая, прыгожая. Просіць паказаць ёй знойдзеныя ў шурфу рэчы. Паглядзела... Я пачаў расказваць, як мы ўсё гэта знайшлі. Яна слухала, слухала, а тады — у плач. Пра штофчык спытала... Аддалі мы штофчык і золата ў ім — усё, колькі было. Ухапіла яна гэты штофчык ды як загалосіць!.. Паплакала, пагаравала — сунялася: колькі ні плач, а слязьмі гору не паможаш. Тры дні яна ў нас была, памінкі зрабіла па мужу. Пасля я магілку паказаць узяўся, ды як ні шукалі — не знайшоў таго месца... Значца, а слова тое, «КУМ», не проста слова — гэта першыя літары ініцыялаў нябожчыка, мужа яе, Кургуза Усціна Мінавіча... Жанчына,— Паліксенай яе зваць,— расказала нам пра свой нялёгкі лёс. Яе, дачку станічнага атамана (станіца Курганіха, цяпер гэта вя-лікае сяло, туды ссялілі ўсе неперспектыўныя навакольныя вёскі), упадабаў падпаручнік аднаго з атрадаў барона Унгерна, выкраў і верхам на кані завёз далёка ў тайгу, у глуш, дый не вярнуўся больш у атрад. За лета агоралі хату, паставілі так, што, будучы нават паблізу, цяжка агледзець яе. Побач — азерца горнае, за азерцам — узвышак, роўнае плато з альпійскім лужком. І трава-трава — у рост чалавека. Ручай спадае з гор, поіць лужок і азерца. Ніжэй — цясніна, зарослая густым сланікам, баярка-ягада наўкруг, абляпіха, смурода... Багаты куток.

— Няўжо яна і цяпер там жыве, Паліксена?

— А што ёй? Жыве — прывыкла... Лясні к

Буйдар часта бывае ў яе. Казаў, што крэпкая бабка, палюе на собаля — за сезон добрыя грошы зарабляе... У-у, Паліксена не сядзіць складма рукі — лася прыручыла, у сядле ездзіць, верхам.

— Лася прыручыла? — ну як тут не здзівіцца — ніколі ж такога не чуў, каб хто-небудзь лася прыручыў ды яшчэ і верхам ездзіў на ім.— Відаць, не лось то, алень, можа?

— Ара́? — назваў пастух аленя па-свойму.— Не-е, у тым жа і штука — лася прыручыла! У сані запрагае, і так, верхам, ездзіць. Скажу табе, яна не жанчына, а ведзьма лясная,— усцешаны тым, што здзівіў і зацікавіў мяне, ён далей вёў расказ: — А ўрочышча, дзе яна жыве, завецца так: «Ведзьміны Мётлы».

— Дзіўная назва...

— Э-э, лес, знацца, таксама хварэе. Хварэе, бо ён жа, лес, таксама жывы: расце, хварэе, памірае... Як і чалавек. У тым месцы, дзе жыве Паліксена, паўсюль каўтуны на соснах — хвароба нейкая, знацца. Калі глядзець здалёку, дык каўтуны падобныя на мётлы. Ды гэта не мётлы, а проста хвоя так згушчана. Не адна галіна, а, знацца, як бы дзве-тры ў адну зблытаны. Адсюль — як мётлы ўсё роўна. От Паліксена і жыве сабе ў тым урочышчы. Лес хварэе, а ёй ні хвароба не ў страх, ні мядзведзі. Жыве адна ўвесь час, бабылкай. Заявіцца ў магазін у Курганіху, а то і далей куды праедзе, у пасёлак, накупляе пораху, шроту, таго-сяго з прадуктаў — дый зноў у тайгу, на выгоду... Калі я дачку сваю, Сэсэг, замуж выдаваў, то і Паліксену запрасіў на вяселле. Дык не прыйшла. А дзён праз дзесяць — перавод на трыста рублёў палучае Сэсэг. Ад каго — ні слова. Ну, я да Паліксены, знацца. У зяця «Масквіч», мы ехалі, дакуль можна было, а там — пешшу. Да ўрочышча дайшоў, знаю, што недзе ўжо блізка хатка яе, шукаю, а знайсці не магу. Гадзіны две кружыў — ледва адшукаў... Ага, Паліксена частуе чаем з малаком, грыбамі. А я дакараю яе, чаму, знацца, на вяселле дачкі маёй меншай, Сэсег, не прыехала. Не забыў і пра грошы спытаць: «Ці не ты гэта, Паліксена, тры сотні на імя Сэсэг прыслала?» Маўчыць, ні слова ў адказ. Хмурыць бровы і маўчыць. Так

і вярнуўся нічога не вызнаўшы... А то яе грошы, яна прыслала,— і змоўк.

Падобна, госць мой змогся ўжо, выгаварыўся. Што ж, расказ яго цікавы. Нават узрушыў мяне — як мае быць узрушыў. Дзівачка, чаго ж яна, Паліксена-гаротніца, па тым часе яшчэ маладая жанчына, не вярнулася ў сваю станіцу адразу пасля таго, як даведалася, што муж яе загінуў у шурфу? Здаецца ж, нішто ёй не замінала пакінуць таежную глушэчу, вярнуцца да людзей... Якраз пра гэта я і спытаў пастуха. Бадма — так ён назваўся мне — тут жа растлумачыў:

— Сперш яна думала, што Усцін жывы... Ды, можа, калі золата збываў, заарыштавалі як, а там — выведалі, што ў Унгерна служыў, пасадзілі. З гэтай прычыны і не спяшалася зрывацца, чакала мужа. Калі ж дачулася, што ў шурфу знойдзены чалавечы шкілет, дык і затрывожылася: «То яго, Усцінавы, косці...» І як у ваду глядзела, не памылілася. Усціна яна любіла вельмі, шчаслівая з ім была.

— І дзяцей яны мелі?

— Дачка была. Памерла ў малым узросце.

Мы так захапіліся размовай, што і не заўважылі, як падышоў Корнеў.

— Дзень добры,— павітаўся ён з пастухом, а ў мяне трывожна спытаў: — Што, да вады дакапаўся? — і зазірнуў у яму.

Пастух падняўся з вядра, таксама зазірнуў у яму і тут жа выказаў сваё меркаванне наконт ґрунтавой вады:

— Знацца, вада адразу пасля трох метраў тут,— сказаў ён, думаючы, што нам якраз і трэба вада, што дагадзіў паведамленнем сваім.

— О — не, дзядзька, не палохайце нас вадой,— Корнеў стаў на дошку, што ляжала акрай ямы, дастаў з кішэні рулетку-дзесяціметроўку, распусціў і памераў глыбіню.— Два дзевяноста.

— Правільна,— азваўся пастух.— Яшчэ мала-мала падзяўбіце — і вада будзе. Тут усюды вада пасля трох метраў.

Корнеў пачухаў патыліцу і нягучна сказаў:

— У калодзежы таксама з трох метраў... От жа ўліплі дык уліплі,— і амаль роспачна, безвы-

ходна: — Што, Лёха, будзем далей капаць? — глядзіць на мяне запытальна.

— Да лесу прыблізьцеся — там вада з шасці метраў,— раіць пастух Бадма і гэтак жа, як нядаўна Корнеў, ступіў на тую ж самую дошку, што ляжала паблізу ад ямы, прайшоўся па ёй — акурат хлопчык, зноў падступіўся да ямы.

Я тым часам наблізіўся да Корнева і шапнуў яму пра шашлык: маўляў, зручны момант барана купіць, і Корнеў тут жа зацікаўлена спытаў пастуха:

— Баця, барана нам прадасцё? — наўпрост спытаў, без лішніх слоў і захадаў.

— Хоць і двух,— быў адказ.

— Атара нябось калгасная? — у вачах Корнева бліснула хітрынка.

— У мяне тут сваіх пяць авечак і тры бараны... Двух бараноў магу прадаць.

— Двух не двух — аднаго можам купіць. Колькі просіце?

— Сорак пяць рублёў за меншага. За большага — пяцьдзесят пяць,— ён назваў цану адразу і так прывычна, нібы толькі й чакаў гэтага моманту, каб назваць цану.— Ну, а калі прыглянецца сярэдні — яго не прадам.

— У-у, дзядзька, так і разбагацець можаце,— і чуць павысіўшы голас: — Нешта ж дарагаватая ваша бараніна?

— Якая ёсць,— пастух варухнуў брывямі.— Бараны ўкормленыя, рослыя.

— Чым такая бараніна, дык лепей ізюбра ўпалюваць ці лася...— Корнеў трымаў цыгарэту ў кутку рота і, каб не даймаў дым, чуць жмурыў правае вока.— Тут у вас можна разумна жыць, абы не ляніцца — мяса дармовае бегае.

— Дармовае мяса, дзетка, горла дзярэ, на ім доўга не працягнеш,— даволі проста, ветліва і на дзіва дасціпна выказаўся пастух.

Корнеў насупіўся, выплюнуў цыгарэту і паспешліва сказаў:

— Лады... Пагаварылі — і разышліся. Хаця — не, баця, стоп. Апошняе пытанне: як знайсці вас? Далёка-блізка адсюль?

— Летую на кашары...

— Баця, мы — геадэзісты, любім дакладнасць: назавіце каардынаты,— бравіруе Корнеў, цярэбіць напраскі, не вельмі ўнікаючы ў псіхалогію, не зважаючы на ўзрост субяседніка.— Кашара ваша далёка адсюль?

— А во так,— паказаў у бок былой вёскі,— па дарозе, што на паром вядзе, праедзеце кіламетраў пяць, а налева — кашара. З дарогі відаць. Там і знойдзеце мяне вечарам.

— Не сёння-заўтра — чакайце,— сказаў Корнеў, надзеў каску і няспешна пабраўся ў яму. Адтуль гэйкнуў: — Гэй ты, Лёха!.. Канчай там — забірай лесвіцу. Паспрабуем вадзянога гнаць!..— грымеў з ямы яго густы барытон.

Пастух Бадма апярэдзіў мяне — крутнуўся, падскочыў да ямы і даволі ўвішна ўправіўся з лесвіцай, аднёс яе ўбок, паклаў. Пасля катнуў мыском кірзавіка камень, зірнуў на мяне спадылба, спытаў:

— Ён твой начальнік?

— Начальнік — куды пашлюць,— я назнарок сказаў на поўны голас, каб пачуў Корнеў. Між тым падумаў: «А і праўда, ён — дынамічная натура, сама што ў начальнікі». Зноў прапанаваў пастуху закурыць, той адмовіўся і, калі мы троху адышліся ад ямы, сказаў мне:

— Прыязджай ты сам на кашару — сустрэну як самага дарагога айлшана [1]. Сэсэг саламат згатуе... Брынза ёсць, кумыс... Араку [2] будзем піць,— прыязна ўсміхнуўся, шчылінкі яго вачэй знаёма павузелі.— Прыязджай,— і падаў мне руку на развітанне, кіўнуў у бок ямы: — Без яго прыязджай,— і пайшоў, лёгка, спружыніста-пахапліва.

Я стаяў і думаў аб тым, што расказ пастуха Бадмы пра Паліксену будзе помніцца мне, калі не заўсёды, дык надта доўга. Ды і сам пастух Бадма, добры чалавек, спадабаўся мне.

— ...маць-перамаць!.. Лёха, хутчэй лесвіцу давай, ну! — спалохана крычаў Корнеў, і нешта там, у яме, шыпела і плёхкала.

---

[1] Айлшан — госць *(бурацк.)*.

[2] Араку — малочны слабаалкагольны напітак *(бурацк.)*.

З чаго б такі крык? Што здарылася?

Я зазірнуў у яму — аж вунь што там: з прадзёўбанай ломам адтуліны, як з брандспойта, пругка б'е вадзяны струмень, а мой напарнік, закрыўшы рукамі твар, ціснецца, як малое дзіця, у куток.

Я вомігам сунуў у зеўру ямы лесвіцу, і Корнеў, трымаючы ў адной руцэ лом і малы шуфель, у момант выхапіўся наверх. Ягоны твар быў падобны на выбелены кужаль, плечы дрыготка пацепваліся.

— Бач, плешча як?.. Во дае!..— гучна, узбуджана грымеў голас Корнева.— Цэлы фантан.

Я смяюся, пытаю:

— Што, вадзяны напалохаў?.. Забыўся ўгрэць яму па кумпале, а?

Корнеў сеў на перавернутае пастухом Бадмам вядро, закурыў. Зацягнуўся раз, другі, падняўся і зазірнуў у яму — здрыгануўся ўвесь, цепнуў плячыма. Пасля зноў усеўся на вядро.

— Мінералка...— аблізаў губы.— Саланаватая на смак,— раз пыхнуў цыгарэтай, другі. Пусціў прыгожае кольца дыму, хукнуў на яго, і яно лёгка катнулася, паплыло ўгору.— Цьфу,— сплюнуў і сказаў:— Амбец бы мне тут, каб не ты.

— Не згушчай фарбы.

— Ды дзе ўжо там,— пагляд Корнева ўсё яшчэ мітусліва-неспакойны.— Змалку вады баюся. Плаваю — як тапор, толькі з булькамі.

Што я чую? Выходзіць, гэты наш акураціст, хлюст-задавака, слабачок той яшчэ — не ўсё і яму па плячы... То які ж ён дэсантнік, калі нават плаваць не ўмее?

Мы стаім перад ямай і, усклапочана-ўзрушаныя часовай няўдачай, зацята маўчым. Вада ў яме кіпіць, віруе. Споверх кружаць лупатыя, як каровіны вочы, блакітна-празрыстыя, з сонечнымі бліскаўкамі вадыры.

...Прыйшлі на бівак. Сінёва не было, і мы яшчэ больш зажурыліся — шкада марна патрачанага часу. Неўзабаве вярнуўся з пасёлка — з базы — Сінёў. Прывёз тры мяшкі цэменту, каля дзесятка дошак-сараковак для мацавання ям, рулон рубероіду, дзве скрынкі тушонкі, поўны мех хлеба і

ўсялякіх іншых прадуктаў. Галоўнае ж — не забыўся на «чытво», паклаў перада мною даволі-такі ладную вязанку газет і часопісаў. За гэту «ношу» ён заплаціў недзе каля васьмі рублёў, і Вуцёха вылаяў нас за неразумнае транжырства грошай. Шчыгол падтакнуў яму і стаў нахабна чапіцца да мяне:

— Што, Лёха, атупець баішся сярод нас? Ці, можа, разумовую працу з фізічнай збліжаеш?..

Я мусіў прамаўчаць, бо і сам недзе пераканаўся ўжо, што, бадай, немагчыма зблізіць, параднiць разумовую працу з фізічнай, асабліва такой, як наша — працай рабочага-геадэзіста. Здаецца, тады — ну, правільна, той раз, калі я ўпершыню прывёз газеты і часопісы, Шчыгол заклікаў мяне жыць проста, не вельмі тузаць псіхіку і сабе і сваім блізкім усялякай драбязою. Параіў, дзівак, чытаць Талстога. Ды яшчэ і зазначыў, што, маўляў, Льва Мікалаевіча мала чытаць — трэба жыць па яго пісанні! Пры гэтым нагадаў такія словы Талстога: «Калі ты ў нястачы — працуй, калі ў турме — думай, калі разбагацееў — вызваляйся ад багацця, ачышчайся...» І нават пракаменціраваў іх — на свой лад, вядома: «Усёк, што да чаго тут, даходзіць? Здарава, праўда ж? От я і стараюся жыць па запавету Льва Мікалаевіча. Цяпер — працую. Быў у выцвярэзніку — думаў. А зараблю грошы — пачну ачышчацца спірытусам. Неблагі цыкл, а?»

Трэба сказаць, Шчыгол застаецца верны свайму прынцыпу — зусім не чытае мастацкай літаратуры. Затое са «Спідолай» не расстаецца, апошнія паведамленні слухае пастаянна, а больш за ўсё музычныя праграмы для тых, хто не спіць, асабліва ганяецца за Біч Бойзламі — калі ўдасца злавіць апоўначы іх праграму, дык аж шалее ад радасці, не спіць сам усю ноч і нам замінае. Але і ён плоціць за газеты і часопісы. Праўда, не адразу на гэта пагадзіўся. І не так лёгка, як, скажам, Міхалёў, які, здаецца, радаваўся больш, чым хто, калі ўбачыў літаратурныя выданні. Міхалёў — кнігаман страшны. Чытае ўсё, да апошняй старонкі. Ранічкай прачнецца, прыпадыме край палаткі, высуне галаву са спальніка і чытае. Дзеля гэ-

тага кладзецца спаць рана, засынае хутка і спіць моцна, як спартанец. Пасля Міхалёва — раскашэліўся Кружлік, следам за ім — Корнеў... І чарга ўстанавілася. Сінёў афіцыйна дазволіў таму, хто аплачвае чарговы забор газет і часопісаў, уласнай персонай садзіцца да Шумка ў кабіну і — у пасёлак. Як правіла, у такія дні за «фінансіста» працуе на аб'екце Сінёў.

І вось ён, Сінёў, паклікаў мяне, папрасіў, каб я паліў яму на рукі (рукамыйнік дзесьці забылі пры пераездзе). Адышліся ў бок ад палатак, і Сінёў як не шэптам, ціха кажа:

— Прывёз тут пісьмо табе... Тоўстае надта — ад нейкай Нумбаевай, з Улан-Удэ,— запытальна зазірае мне ў вочы.— Хто яна такая? Дзе ты паспеў пазнаёміцца з ёй?..— пагразіў мне пальцам, дастаў з бакавой кішэні пінжака сапраўды такі пульхны, як аладка, канверт, махнуў ім перада мной, сцвердзіў: — Добрае нешта... Радуйся.

— Дзякуй, Сцяпанавіч,— сказаў я і тут жа адчуў, як запульсавала ў скронях кроў.— Я з ёй раней быў знаёмы — у Маскве сустракаліся...

З пісьма Чонгі Нумбаевай:

«...Я, здаецца, сур'ёзна ўтрэскалася ў цябе. Бачыш, што на сэрцы, тое і на паперцы... Не ўмею прызнавацца ў каханні... Нейкая несур'ёзная я. А што гэта так — слухай вот. Вярнулася я тады ў інтэрнат і адразу ж палезла ў Ірынін альбом. Пасля і пісьмы твае расшукала, прачытала. Нават пашкадавала, што мала іх. А мала таму, што Ірына цэлы стос з сабой забрала... Ой, а што пасля было, калі прыехала Ірына з Мінска,— Садом і Гамора! Як стала шматаць твае пісьмы — жах, парвала ўсе, фоткі — таксама. Але ж і многа было іх у яе, пісьмаў тваіх і фотак, а я — не ўсе знайшла. Добра, адну фотку, тую, дзе ты ля дуба стаіш і ўсміхаешся,— яна непадпісаная якраз,— сабе ўзяла, на памяць... Лічы, табе пашанцавала, для пачатку я пакуль задаволена ёй, і табе не трэба высылаць. Затое як толькі атрымаю ад цябе ц ё п л а е пісьмо, вышлю ў адказ сваё фота, згодзен?

Лёша, і ўсё ж я вымушана была не прызнацца Ірыне, што ты прыязджаў. Не магла ёй сказаць

гэтага, бо яна лаяла цябе самымі брыдкімі словамі, якія толькі ведала. А ў яе іх, думаю, больш, чым у нас з табой разам. Не здзіўляйся, гэта так. Глядзі ж, калі надумаеш пісаць ёй (хто цябе ведае, а раптам напішаш?), дык не прагаварыся — няхай твой прыезд будзе нашай тайнай з табой... Прыязджаў ты да мяне. І гэта хоць і выпадковасць, але выпадковасць прыязная. Я верыла, што сустрэну Цябе, я ведала, што Ты ёсць недзе. Я чакала вялікае, чыстае, светлае... І яно, гэтае вялікае, светлае, чыстае — Ты. І цяпер я — твая, твая, твая, і больш нічыя. А Ты — мой. Мой!..

За Ірыну асабліва не пераживай, ёй ужо не да нас. Душу яе паланіў нейкі там Жора, якога я жартам празвала Каўрыжкай. Ён прыязджаў да Ірыны, і я дзве ночы начавала ў Алькі, сяброўкі сваёй. Алька — масквічка, замужам. У яе двухпакаёвая кватэра, кааператыўная, пасаг бацькоў. Словам, я часта бываю ў Алькі, але пра гэта другім разам. Дык вот, Ірына, «сястрычка» твая, перад абаронай дыпломнай распісалася з Каўрыжкай. А ён у знак удзячнасці за яе згоду на шлюб дамогся ёй новае накіраванне — у Мінск. Вот і ўсе праблемы. Ірына атрымала тое, чаго і хацела... І пакуль ты будзеш калясіць па тайзе, яны трэцяга Каўрыжку прыдбаюць, а ты, гаротнічак, вернешся ў Мінск адзінокім (не, не быць табе адзінокім, нікуды я цябе аднаго ўжо не адпушчу!» і будзеш хадзіць ценем па слядах сваёй «сястрычкі»...

Лёшка, пішу табе абы-што... Але ж, успомніка, успомні, як прасіў мяне, каб я, калі ёсць што расказаць пра «сястрычку», не таілася і расказала каб. Было такое? Прасіў! Ты ж тады — помніш? — спачатку з языка не спускаў яе, «сястрычку» сваю, якая цяпер Каўрыжкай стала. Гудзеў і гудзеў у мяне над вухам — ну як чмель усё роўна. Была не я перад табой, а ўсё яна, яна, яна... Падумаць толькі, ты мяне колькі разоў называў Ірынай. Асляпіла яна цябе, гарэў ты, як свечка!

Я **ведаю** Ірыну... Далёка не такая яна, якой уяўлялася табе. (Слухай, а можа, ты па-ранейшаму закаханы ў яе?) Ты ўсё тады мне пра яе, пра яе, а я табе назнарок другое: не прападзе, маўляў, яна, у агні не згарыць і з вады сухая выйдзе...

Я насміхалася з цябе, а ты ўсё глядзеў на мяне, а бачыў яе...

Лёшка, я рада, што ты азваўся нарэшце. Дзякуй табе за ўсё: праз цябе я сябе зразумела!

Ну во — зноў не тое пішу, не тое... Нецікава чытаць, праўда ж? Пацярпі — сустрэнемся, то ўжо нагаворымся як след, пра ўсё пагаворым, пабачыш, табе цікава будзе са мной — гэта я абяцаю. Толькі сустрэчу нашу ты павінен падрыхтаваць: пішы мне кожны дзень, ну — няхай праз дзень, але каб пісьмы твае былі цёплыя, шчырыя, праўдзівыя, ласкавыя... У сто разоў лепшыя за тыя, што пісаў Ірыне. Во, бачыш, якія перспектывы адкрываюцца перад табой. Так што — не падводзь.

Лёшка, ці любіш ты дзяцей? Мне здаецца, ты павінен іх любіць, бо ты яшчэ сам дзіця, дальбог. Не крыўдуй за параўнанне. Ты, безумоўна, добры хлопец. Чысты — нават святы! Я больш чым упэўнена, што ў цябе яшчэ не было блізкай сувязі з жанчынай. Я гэта зразумела — ты хваляваўся, не спаў... Але ж і я не спала... Мы з табой — веру! — аднолькавыя, чыстыя. А вось «сястрычка» твая, Ірына... Ну, як табе сказаць? У яе былі хлопцы... Яна тут часта не начавала дома... Словам, ты мяне разумееш. А цябе яна... берагла для замужжа. І была ўпэўнена, што толькі пажадае — і ты яе, толькі яе — навекі!.. Запаснічок. Божа, што цябе чакала — бр-р-р, аж страшна. Спачатку я шкадавала Ірыну, думала, што яна проста даверлівая да хлопцаў, шчырая перад імі — адсюль, думала, і ўсе няўдачы яе. Пасля — маці яе прыехала да нас у госці, і я тое-сёе праясніла для сябе. Зразумела я, што Ірына страшная лгуння, яна нават перад маці няшчырая. Канечне ж, маці бачыла ў ёй, сваёй разумніцы дочы, усё тое, што й хацела бачыць, але Ірына ўжо ніяк не магла быць такой, якой здавалася маці... Недзяўчынай стала яна ў васемнаццаць — сама казала, а маці па-ранейшаму лічыць яе цнатлівіцай, непадступнай... Яна і цяпер, калі была тут, не раз усклікала: «Ну — не!.. Каб мая Ірка ды ўжо з хлопцамі вадзілася? Не-е, хай скончыць інстытут, а там відна будзе». Помню, падалося тады ёй, што Янка, сяброўка Ірыны (Янку мы ўсе Цюлькай празвалі),

адмоўна ўздзейнічае на дочу яе. Канечне, Янка разбітная дзеўка, курыць, выпівае, гаворыць усякія непрыстойнасці. Яна той раз прыйшла да нас пад мухай. Ірыніна маці слухала яе, слухала, а тады і давай ушчуваць, сарамаціць. Тут Янка і ўскіпела: «Я вам, Марфа Восіпаўна, не падабаюся, так? А ў вашай дачушкі картатэка пабольш за маю!..» Каб я не стрымала Янку, дальбог, да скандалу дайшло б. Ірыны, праўда, не было ў пакоі пад той час. А Марфа Восіпаўна нічога, відаць, не зразумела пра картатэку. Жанчына яна вясковая, малаадукаваная. Як чалавек — мне вельмі спадабалася. Жыццё ў яе нялёгкае. Муж п'е, прызналася нам, што нават і пабівае часам. Яна яго і на пятнаццаць сутак у міліцыю здавала. Але ж і працаўніца — гаспадарку адна, можна сказаць, трымае. Ірыне пасылкі штомесяц слала. І як, думаеш, Марфа Восіпаўна адказала Янцы? А вот як: «Ды бачу, бачу, што вы тут усе адна ў адну — і курыце, і ў карты гуляеце, і гарэлкай не грэбуеце...» А Янка дапоўніла яе: «І прыгожых хлопчыкаў любім!»

Словам, Марфа Восіпаўна калі ад'язджала, дык папрасіла, каб я прыглядвала за яе Ірышкай. Гэта я, значыць, павінна была за Кобрай прыглядваць (даруй, сарвалася: мы Ірыну так ахрысцілі — Кобра!) у той час, калі яна, апрача як дзіцяткам, ніяк больш мяне і не клікала. Зласліва так, пагардна: «Дзіцятка». З Янкай хаўруснічала, усё пра сябе ёй расказвала, а тая — мне... Адным словам — Цюлька. Гэта праўда. Ненавіджу як адну, так і другую. Ведаў бы ты, Лёшка, як я радуюся цяпер, што не буду бачыць іх замусоленыя і заўсёды насцярожаныя маляваныя мордачкі... Ненавіджу іх! Яны, разумееш, хацелі зрабіць мне подласць. І як? Пасля ад'езду Ірынінай маці, недзе дні праз два,— здаецца, так, я пазнаёмілася з хлопцам. Ён спадабаўся мне. Ты бачыў яго на фотцы, мы з ім ля кінатэатра «Байкал» стаім, помніш? Нечым Муса нават блізкі стаў — я шчыра паставілася да яго... А «нацкавала» яго на мяне твая «сястрычка», Кобра, якая цяпер Каўрыжка. Дык вот, як мне стала вядома пасля, яна яго ўвесь вечар улагоджвала, каб звярнуў на мяне

пільную ўвагу, гаварыла так, што я — тая якраз, каго ён і шукае: яшчэ нікім не цалаваная... Муса не верыў ёй, бо яго тэорыя простая: дзяўчына з інтэрната — лёгкіх паводзін дзяўчына, кадра на адзін вечар, і чыстае, светлае пачуццё ёй і не сніцца ўжо. Я спецыяльна не парвала гэту фотку — няхай будзе як напамін пра чалавечую подласць, бо ўжо на другі дзень пасля першай нашай сустрэчы з Мусой, вечарам, мне давялося змагацца з подласцю, абараняць свой гонар... І толькі праз тыдзень Цюлька расказала мне пра іх змову. Бачыш, не адразу, а калі пераканалася, што «неотразимый» Муса пацярпеў фіяска.

Гэтага, думаю, хопіць. Больш ужо не хачу ні чуць пра іх, ні ўспамінаць. Давай, Лёшка, забудзем, што яны такія ёсць — не было, не ведаем мы іх, не бачылі ніколі!

(Мама кліча вячэраць... Крычу ёй: «Іду, мама!» — хаваю пісьмо, а раптам прачытае хто?)

...Павячэрала. Бацька «глядзіць» тэлевізар, мацi ўсё яшчэ на кухні, а я зноў зачынілася ў сваім пакоі. Хацела перачытаць, што напісала, але наўмысна не зраблю гэтага: баюся, што калі прачытаю, дык адразу ж і парву ўсё і больш ужо так не напішу.

Пра што гэта я?.. Ага, спытала ў цябе: ці любіш ты дзяцей? Дык вот, я паважаю тых мужчын, якія л ю б я ц ь дзяцей. Лічу, што гэта самыя добрыя мужчыны. А ёсць жа — вырыш? — такія, для якіх стаць бацькам — кара нябесная. Такі Юрка, Альчын муж. Яна цяжарная, а Юрка, гад, не хоча, каб у іх было дзіця. Жывуць ужо больш двух гадоў, разам жывуць, а што надумаў... Па-мойму, далей ім жыць і не цікава ўжо без дзяцей. Алька гэта разумее, таму не можа прыняць Юркаў цынізм. А ён адно і знае: «Дзеці, канечне, кветачкі, вяршыня любові... Ды я не альпініст, баюся вяршыняў». Алька нервуецца, абяцае вытурыць яго вон, а ён, эгаіст пракляты, яхіднічае: «Не думай, адзін не буду». Я колькі разоў размаўляла з Юркам, спрабавала даказваць, што гэтак нельга жыць, а ён, верыш, клянецца, што любіць толькі Альку, што дзеці аддаляць адно ад аднаго... Не каханне, а сэрцаедства нейкае, праўда ж?

У маёй сястры (яна старэйшая за мяне на пяць гадоў) ёсць сын — Сенечка. Яму два годзікі ўжо. Я з ім блізка не ўсё лета правяла. Прызнацца, чакала тваё пісьмо ў іх вёсцы — адрас табе дала сястрын. Яна і жыве ў той самай Ярыкце. Вёска невялікая. Ад горада кіламетраў сто будзе, калі не больш. Я і курсіравала: то ў горад заяўлюся, пабуду дзень-два, а тады — зноў у вёску. І ўсё марна. А ўчора сястра прыехала і дае мне тваё пісьмо... І не адступілася, пакуль не прачытала ёй. Крыўдуеш? Не крыўдуй, яна ў мяне добрая. Ад яе ў мяне сакрэтаў няма.

Ага, пра Сенечку хачу табе расказаць. Які ён? Пацешны бутуз. Калі ўцякае ад мяне, а я за ім бягу, дык бачу яго поўненькія шчочкі... Уяўляеш такога хлопчыка? У сястры муж рускі, валжанін. А сын — увесь мама. Здавалася б, ну як тут не крыўдаваць тату? Тата — гэта Міця, муж сястры. Ды ён не крыўдуе. Ён рады, што Сенечка на маці падобны. А калі я сказала Міцю, што таксама не за бурата выйду замуж, дык ён смяецца і раіць мне, каб абавязкова мой будучы муж пабачыў Сенечку, бо напачатку можа расчаравацца, калі раптам і ў яго народзіцца сынок і блізка не падобны на бацьку...

Ой, Лёшка, з глузду я, пэўна, з'ехала — што я табе пішу? Не прымай ты ўсё гэта за праўду. Гэта мае мроі, мары... Я дазволіла сабе адзін раз такое — пішу ўсё, што лезе ў галаву. А перачытваць усё роўна не буду, не стану! Пасля, калі ты захаваеш пісьмо, пры сустрэчы дасі мне яго прачытаць, добра? Во ўжо дзе чырванець прыйдзецца?

Яшчэ трошкі пра Сенечку. Верыш, ён ужо спрабуе гаварыць. Але пакуль яшчэ не рашыў, якую мову выбраць. Бацька з маткай гавораць і на рускай, і на бурацкай (цябе таксама вывучу нашай мове!), а Сенечка на раздарожжы — глядзіць на бацькоў, слухае і маўчыць. Ён сказаў усяго адно толькі слова... Звычайна, дзеці пачынаюць лепятаць «мама», «тата», «баба», а яго першае слова — «шолмас». Гэта значыць, д'ябал. Во які наш Сенечка!

Стоп, Лёшка, ідэя! А што, калі я прыеду да цябе ў тайгу? Хочаш? Зараз вось збяруся і заўт-

ра ж у Баргузіне буду, а там — аўтобусам да вашага пасёлка, да той самай станіцы Курганіха, пра якую ты цікава напісаў. Хоць адзін дзень пабуду з табой, адну гадзінку. Лёшка, ну дазволь мне прыехаць — так хочацца ўбачыць цябе! Верыш, дастаткова адзін раз глянуць на цябе... Зазірну ў твае вочы — яны чыстыя, светлыя,— помню іх, помню! — і мне ўсё будзе відаць: такі ты, якім я цябе адчуваю зараз, ці ўжо іншы стаў?..

Лёшка, дай тэлеграму — і я прыеду, тут недалёка. Нам 15 жніўня трэба з'явіцца на занятко — практыка ў нас. Але я спазнюся — няхай, затое ўбачу цябе... ЦЯБЕ, Лёшка! Ды яшчэ ж да заняткаў амаль два [illegible] нечым тыдні — паспею, не спазнюся...

Лёшка, я кахаю цябе, чуеш? Па-сапраўднаму — моцна! А яшчэ — улічы: я — адналюбка, і ты мяне цяпер бойся. Ты абудзіў мяне ад сну, узрушыў маю гарачую кроў... Такая ўжо наша парода: калі кахаць — дык аддана, на ўсё жыццё! Ведай гэта. Пачуццё маё — вулканічная кіпучая магма. Сэрца маё — гаючы горны аршан...

Ой, відаць, зноў я не тое пішу, не тое... І ўсё ж, Лёшачка, толькі шчырасць твая — шчырасць і ўзаемнасць! — можа задаволіць мяне. Пішы, не лянуйся, інакшай начарую на цябе ўсіх драпежных звяроў баргузінскіх, і яны не дадуць праходу табе... Таежны ШОЛМАС, пра якога нагадаў Сенечка, будзе штоночы сніцца табе, і ты не вытрымаеш насланых мною пакут і аднойчы ўцячэш [illegible] тайгі — і не ў Беларусь сваю, а да мяне...

Ды не палохайся ты — не бойся шолмаса. Мой шолмас добры. Працуй там старанна. Паводзь сябе прыстойна. І заўсёды — чуеш? — думай пра мяне, увесь час думай і помні, чакай нашу сустрэчу. Калі сасніш мяне злой і страшнай, значыць, ты бачыў шолмаса...

У Маскву вылятаю 10-га раніцай. Пісьмо тваё спадзяюся атрымаць не пазней 8 жніўня.

Слухай, калі ж нам сустрэцца? На Кастрычніцкія святы, можа? Ты за гэты час ужо з тайгі, бадай, выберашся, і мне будзе прасцей шукаць цябе... А лепей ты да мяне прыязджай!

Чонга».

* * *

Патыхнула дымком. Ізюбраня замарудзіла бег, зрабіла запар колькі разгоніста-шырокіх скачкоў і нечакана апынулася на ўскрайку лесу...

Апанаванае сонечным святлом і лёгкімі павевамі ветру, знерухомела: перад ім буяла ў шматлікіх красках альпійская лугавіна, на процілеглым баку якой, між камлістых кедраў і лістоўніц, шарэла пахілая хатка з раскошным падворкам. Празрыста-блакітны, бухматы дым верацёніста клубіўся паўзверх даху; ягоны мяккі пах, і блізка не падобны да здушліва-едкага, трывожнага куродыму палаючай тайгі, быў на дзіва прыемны і, здавалася, супакойваў, залагоджваў, здымаючы полаг спрадвечнага страху перад агнём.

Ізюбраня наважылася падысці бліжэй да падворка і ўжо зрушыла з месца, ды зноў супынілася ў нерашучасці...

Дым над ціхамірнай хацінай павoлі рассейваўся, туманіста чэз у чарнізне кашлата-мройных вяршалін, знікаў, і можна было бясконца глядзець на яго пакручасты, жывы слупок і гадаць: што за патрэба змусіла чалавека займець сабе менавіта такую вось, а не якую іншую «капцілку», навошта яна яму і дзеля якой карысці?

Цікаўнасць перамагла — ізюбраня наблізілася да хаткі, спынілася. І як жа яно было здзіўлена, калі ўбачыла на падворку невялікі гурт авечак і лася — мажнога, укормленага...

Лось стаяў у прахоне расчыненых напята дзвярэй пахілага хляўка і няспешна піў з кадоўба ваду.

## 9

Надвечар хлопцы разам з Сінёвым паехалі ў Курганіху — сёння там у клубе кіно. Я з Гардуноўскім засталіся пры табары. Гардуноўскі трохі прыхварэў — на шыі ў яго ўсхапілася скула, і ён прыклаў да болькі абшалушаную з маладой хвойкі (казаў, можна і з бярозкі) верхнюю плёнку, забінтаваў шыю і, каб не ссунуць павязку, стараецца не надта круціць галавою, пазірае на мяне

спадылба, ваўкавата. Увогуле, зараз ён нейкі зусім непадобны да сябе ўчарашняга, неспакойнага, троху дзівакаватага летуценніка.

Неўзабаве мы разгаварыліся, і Пятро шчыра прызнаўся мне:

— Я, ведаеш, пазашлюбны сын, зачаты ў Ялце... Так сказаць, любоў з першага позірку, зблізкэнне з першага вечара. Аць-тва — і сынок гатоў! — нахмурыўся зноў і нейкі час сядзеў маўкліва.

— І цябе гэта вельмі хвалюе? — спытаў я нафзнарок весела.— Дзівак, каханне з першага позірку — самае палкае і жаданае... Ты не асуджай бацькоў, бо сам можаш іх паўтарыць... І не адзін раз.

Гардуноўскі закурыў, колькі разоў зацягнуўся і паклаў цыгарэту на край стала, ціха сказаў:

— Паўтарыў ужо... Ганора піша, што цяжарная ад мяне.— Дастаў новую цыгарэту, зноў закурыў.— З маці, дзякуй богу, усё добра, прыступы адступілі... Відаць, я выклікаў у яе астму. З'ехаў — і прыступы адступілі.

— Эх!.. Зайздрошчу табе, Пятро: прыедзеш дахаты, а там, глядзіш, і бацька ўжо. Лепш не прыдумаеш. Сям'я!.. Побач жоначка клапатлівая, гаспадынька рахманая.

— Яна ўсяго толькі на адзін год маладзейшая за мяне,— Гардуноўскі міжволі ўсміхнуўся.— Але, верыш, такая варона белая, нявопытная блазнючка — ну быдта ніколі ні з кім і не знаёмілася, быдта першы раз апынулася адзін на адзін з хлопцам...— І я пачуў ад яго даволі псіхалагічную гісторыю, дакладней — споведзь.

Модна адзеты, прычапураны, рослы, з пэтламі аж па самыя плечы, ён адразу ёй спадабаўся (пра гэта яна п а с л я сказала яму), і ўсё, што гаварыў да яе, слухала ўважліва, як заваражаная, літаральна з усім пагаджалася, пацешна, з унутраным бляскам вачэй, туманліва мройных, глыбокіх, згодна пакіўвала галавой, радуючыся — гэта ён і сам пэўна ведаў! — ад таго, што такі пекны (яе словы) хлопец размаўляе з ёй...

Ён сабраўся на турбазаўскія танцы, і Ганора якраз апынулася ў яго: шукала кватэру, пазвані-

ла — і ён адчыніў ёй. Калі ўбачыў перад сабой дзяўчыну, цыбатую, чуць, можа, ніжэйшую за яго, што, зрэшты, і кінулася ў вочы як дадатнае ў ёй, запрапанаваў зайсці. Яна, вядома, спытала, ці трэба кватарантка. Ён узнёсла прабасіў: «Го-о, на лаўца і звер!..— І ўзрадавана, ухвальна: — Мама такую от жырафу ў штроксах якраз і чакае...— Трэба ж, без ніякага цырымону жырафай назваў — гэтак ён правяраў яе характар: калі не пакрыўдзіцца, не ўспыліць, сцерпіць, то няхай застаецца, а ён тым часам і надалей не будзе няньчыцца з ёй. Ну, канечне ж, не пакрыўдзілася. Адно пачырванела чуць ▪ твару — як разгубілася. Што ж, калі не пакрыўдзілася, то сказаў ёй зусім так, як даўно знаёмай: — Не стой за парогам, заходзь...— і нават за руку ўзяў — наўмысна так зрабіў, каб не перадумала, нахабнавата правёў да сябе ў пакой.— У гэтай во келлі будзеш жыць. Яна, лічы, твая. Уступаю добраахвотна. А сам, пакуль мама ў бальніцы, пажыву ў яе пакоі...» Здаецца, яна захвалявалася, у вачах — трывога. Спытала: «Што з маці?» Ён завагаўся: праўду казаць? Хм, навошта ёй праўда? Сумеўся, адчуў, што гаварыць трэба так, як ёсць на самай справе — яна ж шукае прытулак сабе... І расказаў, што маці яго доўгі час пакутуе на астму, ужо на пенсіі, хоць яшчэ і не пенсійнага ўзросту — сорак сем гадоў толькі мае. Затым сказаў, што сам ён сабраўся да маці ў бальніцу,— зманіў, вядома,— і калі, маўляў, яна, госця, не супраць, то — калі ласка, можна разам пайсці. Яна на дзіва лёгка пагадзілася, і з яго вуснаў зляцела — само, па звычцы, вырвалася — любімае слоўца «шантаклера»: гэтак ён Наташку Аноп называў, каханку сваю, пад той час, калі быў нездаволены ёй. Ганора, канечне ж, прапусціла міма вушэй гэту яго буркату, яна планавала сваё: чамадан і сетка засталіся на аўтавакзале — у дзяжурцы пакінула, бо камеры захоўвання няма, а бальніца па дарозе якраз, але трохі далей за аўтавакзал, і, значыць, вяртаючыся, забяруць рэчы яе...

Так усё і было. Яны наведалі хворую, і тая засталася здаволеная сынам — мусіць, уявіла бог-

вед што, падумала, можа, што з нявестай сваёй прыйшоў... Магла ж так падумаць? Магла. Інача́й з чаго б, калі пачула, што Ганора будзе кватараваць у іх, яшчэ больш зарадавалася, не запярэчыла, пагадзілася адразу: хай застаецца, а яму, сыну, сказала: «Калі надумаўся, то можаш ехаць — паспытай волі, пабядуй, то, можа, і матка дабрэйшая будзе». Вось і зразумей маці: Наташку, калі пабачыла першы раз, без крыку-шуму выставіла за дзверы, папярэдзіўшы, каб круцёлак такіх больш не вадзіў да сябе, а гэтай пстрычцы цыбатай — поўны давер і павага... Дагадзіў маці там, дзе зусім і не спадзяваўся.

Несучы важкі, быццам з камянямі,— ажно раздаўся ў бакі,— чамадан, ён час ад часу ўпотайкі пазіраў на Ганору і — чаму б гэта? — нейкі момант злараднічаў з таго, што яна, хоць і Ганора, ды ганарыцца, маўляў, ёй няма чым: нос дарма што прыгожы, але для дзяўчыны залішне даўгаваты і неразумна востры — сарочы нос. Неўзабаве спахапіўся — час, аднак, наладжваць і нейкія кантакты, бо як ні насміхайся, а яму цяпер не прагнаць Ганоры — падпала, так сказаць, пад апеку маці, якая цяпер недзе ўжо думае — пэўна ж, думае! — як пра магчымую нявестку... Таму і пагадзілася так хутка ўзяць на кватэру. Таму!

Ды варта было зноў прыгадаць Наташку, як бадзёрасць ураз апала: Наташка ж абяцала прыйсці вечарам, пасля танцаў. Яго аж у пот кінула ад гэтай прыгадкі, і ён занепакоена падумаў: «Як на гэты яе візіт паглядзіць Ганора-кватарантка? — І нечакана сам для сябе заключыў: — Як хоча, так і глядзіць няхай... Не жонка ж».

Між тым пошчак абцасікаў адбіваўся ў яго вушшу выразнай суладнасцю гукаў. О, гэтыя гукі!.. Ён спрабаваў адставаць, кідаў ацэньваючыя пагляды на Ганору — і ўсякі раз прызнаваў, што фігурка яе проста цудоўная: стройная, статная, і што наогул яна, Ганора, на дзіва вабная, гожая дзяўчына. І не «жырафа» зусім — рост яе такі, які ён ухваляе ў прынцыпе, бо нават калі і «платформы» абуе, дык не будзе вышэй за яго. А вось Наташка — правільна, самая што ні ёсць жыра-

фа. Затое, праўда, з твару прыгажэйшая за Ганору. Зрэшты, яна ўся прыгожая, Наташка, бляск. А гэтая... Ён чуць прыпыніўся, крадма зірнуў на Ганору, падумаў: «Чаго прыехала сюды? Ды адкуль — аж з самога Кіева...— І асуджальна: — Дурніца, такі горад пакінула». Хацеў ужо быў спытаць, што прымусіла яе перавесціся на завочнае аддзяленне юрфака (пра гэта яна маці сказала), дзе збіраецца тут працаваць, як пачуў:

— Адпачнём, можа? — усміхнулася, сарамліва, усё роўна як вінаватая, што ён нясе яе цяжкі чамадан, а яна з лёгкай сеткай шпацыруе побач, дэманструючы сваю перад ім статнасць, ды яшчэ прапануе адпачыць.— Ужо ж няма куды спяшацца.

Ён мала што быў не ляпнуў ёй, што яму на танцы трэба, ды стрымаўся ўсё ж. Адзначыў, што голас яе прыемны, мяккі — грудны голас, па-дзіцячы ласкавы. Паставіў чамадан і нечакана злавіў сябе на тым, што яму хочацца пацалаваць яе... А што? Прыгорне зараз да сябе і пацалуе — балазе яна не Наташка, услончык не трэба падстаўляць, каб дацягнуцца да вуснаў. Праўда, з Наташкай да ўслончыка не даходзіла — яна сама цалавала яго... І заўсёды прынародна, пад час танца. Гэта ж парадокс, смяхоцце: танцуючы з ёй, ён пастаянна торкаўся тварам у яе пышныя грудкі. Наташку гэта ўзрушвала, відаць. Было, што яна аж вочы зажмурвала, пажадна тулілася да яго... Аднойчы ён узяў яе з сабою ў паход, два тыдні былі разам, елі з аднаго кацялка, спалі ўпоцёмкі ў ягонай маленькай палатцы. Тады яна, дзібачкі ў ягонай маленькай палатцы. Тады яна, дзівачка, расказала яму пра сваё першае каханне, дадаўшы праз слёзы: «Цяпер ты, Пецця, усё пра мяне ведаеш... Я ўся перад табой, якая ёсць. Палюбі мяне — і стану вакханкай тваёй, рабыняй». У яго аж вочы на лоб палезлі, калі пачуў пра «вакханку-рабыню». Словы гэтыя напалохалі. Нейкі час ён проста не ведаў, як быць далей. Пабрацца з Наташкай не мог, бо не кахаў яе. Жыццё без кахання — дым без агню... І ён неўзабаве знайшоў выйсце: прыкінуўся прасцячком, якому да шчасця — як грэшніку да раю. Ды Наташка, страшная рацыяналістка (жыве эфектна, адным

днём: што будзе заўтра — ёй да лямпачкі!), гатова была душу з яго вытрасці, жыцця ад яе не было, сфакусіравала ўсе свае чары на ім, усю жаночую хітрасць і энергію — усё на яго: не давала спакою ні ў кіно (як толькі выключалі святло — лезла да яго з пацалункамі), ні на танцах (выпендрывалася перад ім увесь вечар — чаравала пластыкай рухаў, бліскаючы загарэлымі лыткамі і лакіраванай скуранай міні-спаднічкай), ні ў сталовай (выйдзе з кухні, дзе рабіла пасудамыйкай, стане паўзбоч і, пакуль ён есць, вачэй з яго не зводзіць), а было, што нават у бухгалтэрыі сутыкаўся з ёй. Бухгалтарка-балбатуха, такая ж самая салоха, як і Наташка, вызначалася тым, што ўсё ведала не толькі пра сваіх, штатных работнікаў, але і пра ўсіх адпачываючых. А што да мужчын — дык рэдка з кім не хадзіла ў лес па грыбы-ягады ці на рэчку купацца: і старых, і маладых не цуралася. Яна якраз і падбадзёрвала Наташку: «Во гэты хлопец — па табе, дзева: і страйны́, і сур'ёзны, і не круцель. Упусціш — нідзе ўжо такога са свечкай не знойдзеш». Ён, інструктар па турызму, пакідаў бухгалтэрыю, часам недааформіўшы як след належныя дакументы, вёў групу ў горы і там адчуваў сябе як у бога за пазухай — адпачываў душой і сэрцам... Зноў вяртаўся на базу — і рад бы адцерабіцца ад Наташкі, ды не мог. Ён ці пачуў ад каго, ці вычытаў дзе, што ўсё якраз наадварот: не хлопец бярэ дзяўчыну ў жонкі, а дзяўчына сама выбірае сабе мужа. Хто прыглянецца, той і трапляе да яе пад абцас. Наташка выбрала яго... Але ж ён нешта прыдумае: падасць заяву, упросіць дырэктара, каб адразу звольніў — і памахае Наташцы рукой: адзью, дарагая, бывай!..

— Дык, можа, хопіць адпачываць? — пачуў ён за сабою, якраз над вухам. Павярнуўся: чый гэта голас? Ага, кватарантка азвалася. Што ж гэта ён так? Нібы і не разам з ёй стаяў — не бачыў яе, не чуў...

Зрушылі з месца. Яна апярэдзіла была яго, тады нібы адумалася і пайшла побач, і ён пачаў зноў назіраць за ёй. Глянуў на нос — залішне доўгі ён у яе, не жаночы. Але... менавіта гэтай

сваёй нежаночасцю і прыцягвае, скіроўвае на сябе ўвагу. Ну так, прыцягвае. І, дзіўна, адчуў: такую ён можа пакахаць, можа... І зноў захацелася пацалаваць яе.

Ён адамкнуў дзверы, сказаў ёй, каб затрымалася на ганку, а сам — шмыгнуў у хату, і колькі часу яго не было. Пасля ў хаце загучала музыка, неўзабаве і ён, Пятро, урачыста паўстаў у прахоне дзвярэй — трымаў перад сабою на бялюткім набожніку паўбохана хлеба, на якім, зверху, было насыпана солі.

— Вітаю вас,— звярнуўся да яе гэты раз на «вы»,— паважаная Ганора...

— Вікенцьеўна,— падказала яна, ступіўшы на ганак, пасміхаючыся, прымаючы ягоны жарт за прыемную для яе з яго боку нечаканасць.

— Вітаю вас, паважаная Ганора Вікенцьеўна...

— Чобат,— зноў падказала яна, але на гэты раз прозвішча сваё.

— Вітаю вас, паважаная Ганора Вікенцьеўна Чобат... Гардуноўская! — Падміргнуў ёй і ўжо не шкадаваў ветлівасці: — Спадзяюся, што, пераступіўшы парог гэтай гасціннай хаціны, вы... ты будзеш самая шчаслівая ў свеце,— перадаў ёй хлеб-соль, шапнуўшы на вуха, ціха, бы па сакрэту: — Даруй, сонца маё, што сустракаю паўкараваем: чым багаты — тым і рады,— і як толькі яна, смеючыся, узяла ад яго хлеб, ён тут жа пацалаваў яе, зазначыўшы, што, маўляў, звычай патрабуе, каб і яна зрабіла тое ж самае ў адказ. Падставіў шчаку, чуць падаўся да яе...

І яна — дзіва-дзіўнае! — і знаку не падала на крыўду, чмокнула яго ў шчаку, адламала кавалачак хлеба, памакнула ў соль і стала есці.

...А праз тыдзень — развітальны вечар, на якім былі толькі ён з Ганорай. Незвычайны быў для яго вечар, нечакана шчаслівы... Ён цалаваў Ганору — і не сустракаў пярэчанняў і нязгоды, адно бачыў яе знямела-сполашны пагляд, разгублены і нейкі як сарамлівы, рухі леныя былі, замаруджаныя — нібы хто скаваў усе члены яе. Яна і сама не ведала, што адбылося з ёй, адкуль гэткая падатная неразумнасць, бязвольнасць — бы на-

марач найшла, усё роўна як п'яная стала, хоць і не дакранулася да спіртнога...

Назаўтра ён пакінуў Міжгор'е. Сядзеў у аўтобусе, сцяўшыся, маўкліва. На чыгуначнай станцыі соўгаўся па пероне, пакуль і не прыбыў цягнік. Месца дасталося ў купэйным вагоне, спрабаваў заснуць, але сон не ішоў: перад вачыма ўвесь час стаяла яна, Ганора, далёка не падобная на Наташку, зусім іначшая. Колы вагонаў спявалі яму песню адчаю, першыя словы якой былі: «Не так, не так, не так...» Сэнс іх быў яму добра зразумелы і блізкі. Ён шэптам прамаўляў іх, а горла сцінала крыўда за самога сябе: не так ён жыў дагэтуль, не так паводзіў сябе, не так глядзеў на свет... І наогул, усё ў яго не так было да Ганоры, не так, не так!.. Ён ведаў ужо, што не здрадзіць Ганоры, ведаў, што яна — яго лёс. Ён чакаў яе, доўга чакаў — і сустрэў. Яна прыйшла сама, прыйшла, бо не магла не прыйсці: чакаў жа! Ён паабяцаў ёй вярнуцца — і вернецца. Яны абавязкова будуць разам. І хай абураюцца ўсялякія там сексолагі — чуў, ёсць і такія,— што гэтак, маўляў, непрыстойна, каб адразу, з першых дзён знаёмства — у пасцель... Хай называюць гэта разбэшчанасцю, хай што хочуць гавораць!..

Учора ён атрымаў ад Ганоры пісьмо. Распячатаў канверт, а там — апрача пісьма яшчэ і аркушык навошчанай паперы. Разгарнуў і здзівіўся: верш!

Хто яму калі пісаў вершам? Наташка? Не. Яна зусім не пісала... Першая палова была знаёма яму — гэта словы песенькі-экспромта пра цыгарэту, якую ён спяваў Ганоры пад гітару. Далей — няўжо Ганора сама дапісала? — было наступнае:

На столі жура зітхає
В сигаретнім целофані.
Ти скури її до краю...
Нашу ніч згадай останню!..

Песня!.. Шчымлівы матыў яе гучыць настойліва, неадрыўна ад слоў — гэтых слоў, новых, з новым сэнсам. «О-о!.. Помню нашу ноч, помню!» — узрушыўся ён. У скронях тахкала, пульсавала кроў, на вочы навярнуліся слёзы: глыбокі, узвы-

шаны сэнс кожнага слова балюча раніў сэрца. Беласнежны аркушык трымцеў у ягоных руках. Выразным, чуць, можа, залішне прадаўгаватым літарам было няцесна, нават прасторна ў словах, але ніводная з іх не стаяла паасобна — усе яны лёгка, чуйна датыкаліся, чапалі адна адну, і яму здавалася, што гэта яны спяваюць, літары, што яны жывыя і менавіта іх спеў ён так выразна чуе...

Схаваў аркушык у нагрудную кішэню і доўга, няўцямна глядзеў на ўрачыстую веліч Баргузінскага хрыбта, на яго абветраныя гальцы, падобныя здалёк на вялізазныя купалы, падстрэшшы якіх, часта дзе абрываючыся, строма спадалі ўніз. Купкі дрэўцаў-карлікаў на пакатых краях раснадка нечым нагадвалі літары, што рассыпаліся раптам па напалам прагнутым — акурат распадак — аркушыку паперы, разбегліся, але суладнасць іх спеву — ён гэта добра чуў! — заставалася ўсё тая ж, першапачатковая.

Вярнуліся хлопцы з Курганіхі апоўначы. Вясёлыя ўсе, здаволеныя. Выходзіць, пабылі яны не толькі ў кіно, а і на танцах. Той-сёй з іх нават поспех меў. Шчыглу больш чым каму пашанцавала — два разы быў запрошаны «рыжухай» на «дамскі вальс», Міхалёў — усяго адзін раз. Вуцёха вызначыўся тым, што скакаў барыню з прыпеўкамі, за гэта яму доўга апладзіравалі. Венька да скокаў не дайшоў — ён больш пільнаваўся падабнай маладзічкі Тані, той самай жанчынкі, якая паказвала нам дарогу да водаадпускнога пункта і якую ён частаваў цыгарэтамі. Корнеў у доказ таго, што таксама не лыкам шыты, прачытаў свой новы верш і нібыта так пафасна і ўзнёсла, што лепш за Еўтушэнку. Я не даў яму веры, і Корнеў тут жа выструніў шыю, закаціў вочы пад лоб і на дзіва эмацыянальна, прачула «праспяваў»:

Алеет Баргузинский хребет
В закате упрямого дня...
Кометой проносится молодость
Моя и твоя!

«Ну во, «упрямый день» — гэта ўжо і няблага, бадай. Для Корнева — дасягненне, рост. Відаць,

было б няправільным адгаворваць хлопца ад вершаў — няхай складае, калі на тое ёсць ахвота і час.

Месца стаянкі гэты раз выбрана на дзіва ўдала — вятрыска здзімае камарэчу і машкару, так званы гнус, і за цяпельцам, пакуль Гардуноўскі спавядаўся, мы не глядзелі. Нядаўна палымнеўшае вуголле зацягнулася лёгкай, ружова-матавай плёнкай адгару.

Быць у тайзе і вось так, як мы зараз, не мець клопату ад гнусу, на час забыцца пра яго — гэта, бадай, і ёсць калі не шчасце, дык нешта блізкае да яго. Не звяры-драпежнікі тут больш за ўсё даймаюць — самыя нецярпімыя адносіны ў нас да звычайнай мошкі. Божа, куды толькі гэты страшнейшы за смерць мікракрывасмок не пранікае, асабліва калі ты працуеш і ўвесь потлівы: шыецца пад раменьчык гадзінніка, уядаецца ў шыю па краі каўняра...

А ўсё ж, для чаго яны ў прыродзе, камарымошкі, сляпні-авадні ды мухі? Якая ад іх карысць і каму?

Сінёў сцвярджае, што без гэтых самых насякомых не было б ні рыбы ў азёрах і рэках, ні шматлікіх гадаў, жаб, ні нават некаторых птушак... Бясспрэчна, гэта ўсё так. Але ж думаецца і вось што: камарэча існуе перш за ўсё дзеля таго, каб нерваваць чалавека, не дае затрымлівацца яму доўга ў тайзе, а яшчэ — развейвае яго ўвагу і засяроджанасць, даючы тым самым магчымасць таежнаму зверу ў час заўважыць прыйшлу і пазбегчы небяспекі, уцячы, а не — выгадна напасці самому.

Увогуле, у тайзе пазбавіцца ад гнусу немагчыма, да яго, відаць, трэба проста прывыкнуць. Прывыкнуць — і не звяртаць на ўкусы ўвагі, цярпець. Адзінае выйсце, так. Накамарнікамі мы, прызнацца, не карыстаемся — не станеш жа есці ў накамарніку, а працаваць — тым больш. Гэтая прыдумка, накамарнік,— выгода для турыстаў. І толькі. Я, напрыклад, зрабіў са свайго накамарніка «кошык», лёгкі, зручны (збіраў у яго шчаўе, маліну, смуроду, а ўчора — грыбоў укоптар прынёс, пераважна махавікоў ды лісічак; некалькі

рыжыкаў трапілася, я іх спёк на агні і з'еў). Шчыгол з Корневым выкарысталі былі свае накамарнікі яшчэ мудрэй — экіпіраваліся ў іх і паваліла старую дуплястую лістоўніцу, дзе вяліся дзікія пчолы. Бітон мёду выграблі з дупла, аднак спажыць увесь мёд не давялося — нахапіўся нечакана знаёмы пастуху Бадму ляснік Буйдар і рэквізаваў мёд разам з бітонам ды яшчэ і штрафам гразіўся. Вядома, калі б хлопцы не насвінячылі так, як гэта яны зрабілі, а прыбралі лістоўніцу, замаскіравалі пень, то ўсё, трэба думаць, абышлося б ціха, не стаў бы ляснік шукаць зламыснікаў. А так — знайшоў: як ехаў на кані, так адразу ж і скіраваў да бітона з мёдам, дзе роем кружыліся пчолы... Пасля Сінёву нялёгка было вярнуць бітон назад,— вядома, пусты.

Хлопцы тым часам павялі гаворку пра Таню і яе дзетак — трох сыноў, з якіх большанькі, васьмігадовы Армен,— сын сонечнай Арменіі, шасцігадовы Іванес — таксама сын, але ўжо не менш сонечнай Грузіі, а трохгадовы Тараска — зноў жа сын, самы меншы, і яго бацька аднекуль з Кубані... Ніякіх аліментаў Таня не атрымлівае ад бацькоў, гадаваць дзяцей ёй памагае старэнькая маці, яшчэ, праўда, даволі цвёрдая ў рухах жанчына, матунгуска. Яна вельмі любіць сваіх унучкаў і марыць пра ўнучачку. Па ўсім відаць, мары яе неўзабаве мусяць здзейсніцца — Таня не супраць і ўнучку ёй нарадзіць.

— Арменія, Грузія, Кубань... А за Сібір прыйдзецца табе, Шум, пастарацца,— даймае Шчыгол Шумка. Вось ён прысеў наўколенцы ля цяпельца, дзьмухае на вуголле — сабраўся падагрэць чай (прагаладаліся хлопцы, гатовы ваўка з'есці).— Толькі ж ты, Шум, не напартач: зрабі старой унучачку, не пакрыўдзі, гы-гы-гы...

Я ўлучыў момант і нагадаў Сінёву, каб ён вярнуў Міхалёву яго пісьмо да Белышавай,— канечне ж, разам з «цыдуляй» дырэктрысы Клундзік. Мы прайшлі ў палатку, Сінёў дастаў з чамаданчыка папку, адтуль — знаёмы мне канверт, аддаў і сказаў:

— Добра, што нагадаў... Сёння самы зручны момант — пасля танцаў... Спытае, чаму адразу не

аддалі, то не мані, скажы ўсё так, як і было: не хацелі дачасна растраўляць, трывожыць залішне.

За чаем я назнарок сеў побач з Міхалёвым, шапнуў яму, быццам мне даўно вядома, што паён спрабуе сілы ў прозе і што я хацеў бы з ім пагаварыць.

Міхалёў нечага аж занепакоіўся — хуценька дапіў чай і папрасіў мяне прагуляцца.

Трохі адышліся ад палатак, і ён спытаў:

— Як ты здагадаўся, што я пішу?

— Ты сам сябе выдаў... Вось,— я аддаў яму пісьмо.— Яно ў Сінёва ў чамаданчыку ляжала ўвесь гэты час... Словам, вучоная бабёжка ўсумнілася ў табе як у чалавеку.

Міхалёў тут жа дастаў з кішэні «жучок» і пад яго няроўнае святло і частае жыжыканне ў момант прачытаў пісьмо Клундзік. Прачытаў і рашуча пашматаў яго, кавалачкі паклаў на далонь і здзьмухнуў.

Я сказаў яму на гэта — жартам, вядома:

— Ну і дзівак... Трэба было Вуцёху ў скрыначку ўкінуць.

— Так думаеш? — асуджальна спытаў ён, нават раздражнёна.— Калі б ты Ірыну Марчык кахаў па-сапраўднаму, то не паклаў бы яе пісьмо ў скрынку... Прабач, але ты здрабніў сябе гэтым.

— Так думаеш? — усміхнуўся я.— Любіць і не быць любімым — гэта чыстае донкіхоцтва... Залішняя трата пачуццяў.

Міхалёў адламаў галінку вербалозу і стаў адбівацца ад машкарэчы, якой таўклося наўкола нас процьма, столькі, што гаварыць не было як — сляпіцай лезла ў вочы, забівала нос, рот, вушы...

— Выйшлі з зоны ветру — і, бачыш, што робіцца?..— І я прапанаваў: — Шыбуем да палатак.

Павярнулі назад.

Прыйшлі на бівак — хлопцы ўжо ўлегліся на спачын. Мы ціха, каб не ўчуў Шумок, схаваліся ў кабіну, зачыніліся. Вось так, у кабіне, мы аднойчы размаўлялі ўжо. Тады Міхалёў папрасіў расказаць пра Белдзяржуніверсітэт імя Леніна — яго цікавіў журфак. А зараз, відаць, ён мае сам у нечым адкрыцца мне. Ну так — прызнаўся, што яшчэ ў школе, самастойна, вывучаў беларускую

мову і што першыя творы, якія прачытаў у арыгінале, былі раман Івана Мележа «Людзі на балоце», аповесць Васіля Быкава «Альпійская балада» і апавяданні Янкі Брыля... Уключыўшы святло ў кабіне, Міхалёў дастаў з нагруднай кішэні курткі даволі тоўсты, зроблены з агульнага сшытка блакнот, абгорнуты цэлафанам, стаў гартаць. Ну, канечне ж, блакнот гэты я неаднойчы бачыў у руках Міхалёва. Усякі раз, як толькі хто пачынаў цікавае што расказваць, ён даставаў гэты свой блакнот і тое-сёе з пачутага занатоўваў. Не ведаю, ці заўважалі гэта хлопцы, а я заўважаў, бо ведаў, што ён — «пісьменнік». Помню, навастрыўшы сякеру, я пажартаваў, што, маўляў, дзьмухнуў на камара, а той на лязо — і яго напалам... Міхалёў занёс і гэты мой жарт у блакнот.

Як я заўважыў, у Міхалёва блакнотаў ды ручак шарыкавых ажно некалькі. А яшчэ — ён неяк адразу, сёмым чуццём умее ацэньваць кнігі, нават не чытаючы іх. Шмат кніг перабярэ, пагартае, а купіць адну-дзве, а то і зусім ніводнай. Сам ён чытае заўсёды раніцою, да сняданка. І звычайна лежачы. Ён і пісаць так прызвычаіўся, лежачы. Да таго ж не вельмі любіць, калі яго перабіваюць — застаюць за гэтым заняткам... Зрэшты, ён лёгка ранімы, Міхалёў. Знешні спакой яго, як правіла, зманлівы — у душы віруе бура, сэрца нямее ад крыўды, а ён цярпліва будзе маўчаць, нічым сябе не выдаючы, адно шчокі чуць пабляднеюць ды ў паглядзе ўсё роўна як неспакою пабольшае, трывогі-смутку, а каб рашучай злосці — не. І цяпер вось, гартае блакнот, а душа ягоная, адчуваецца, гарыць, чакае спагады... А можа, і не спагады зусім — проста сяброўскай увагі.

— Пакуль Венька не вытурыў нас з кабіны, прачытай што-небудзь,— папрасіў я.

— Выбіраю больш-менш завершанае...— пасміхнуўся, сумеўся.— Гэта ўсяго толькі накіды... Нешта накшталт празаічных допісаў.— Чытае:

«Якой пробы іх душы?

Сям'я інтэлігентаў: бацька — інжынер-хімік, маці — дацэнт медыцынскага інстытута, аўтар шэрага брашур па вірусалогіі, дачка Святлана — студэнтка, біёлаг, захапляецца лімналогіяй.

Аднойчы мне давялося быць у іх госцем. І, трэба сказаць, жаданым. Гэта можна было заключыць хоць бы па тым, як маці, а пасля і бацька нечага так дружна ўзяліся расхвальваць сваю адзіную дачушку, што я міжволі насцярожыўся і нават пачаў назнарок вышукваць у ёй хібы. Праўда, чым пільней прыглядаўся, тым усё прываблівей станавілася Святлана: яна і красуня, і разумніца, і працаўніца... Дзяўчына — сама што ў жонкі!

Я гатоў быў у той жа вечар прапанаваць ёй руку і сэрца, дарма што ведалі мы адно аднаго, можа, усяго які тыдзень, не больш, ды неўзабаве размова перакінулася на срэбра і золата, металы, якія апрача шэрага іншых уласцівасцей маюць нібыта і яшчэ адну, бадай, самую галоўную — гаюча ўздзейнічаюць на страўнік,— так сцвярджалі Святланіны бацькі, людзі навукі і высокага вытанчанага густу. Тут я не ўтрымаўся і, як Пíліп з канапель, вытыркнуўся з даволі недарэчным, далёкім ад навукі пытаннем:

— Каб жаваць іх, металы гэтыя, то, мусіць, зубы сталёвыя трэба, а?

— Дзівак!..— парыўна ўсклікнула Святлана, прыўзняла над сталом чайнік і калатнула — нешта ў ім глуха ляснула.— Лыжка срэбная там, тонкая стала — як паперка.

На ўсе вочы глядзеў я на Святлану і — дзіва! — упершыню, здаецца, бачыў яе такой: вышэйшай пробы золата на зубах, на руках, на вушах, на шыі... А ў страўніку, значыць, срэбра?.. Пацеха!»

Міхалёў нерашуча павярнуўся, упёрся правым плячом у спінку сядзення і сарамліва, як вінаваты, глядзіць на мяне, чырванее — акурат школьнік, нават спацеў.

Помніцца, пад час нашай першай сустрэчы ён страшэнна пакутаваў ад пякоткі. Я параіў жаваць нашча корань явару. Пажаваў колькі разоў — і пякоткі як не было. Явар памог. Пасля гэтага ў мяне з ім наладзіліся прыязныя адносіны, але, праўда, пры зручным выпадку, здавалася, ён заўсёды стараўся лесціць мне, і рабіў гэта прадумана, неўпрыкмет, што мяне, прызнацца, і

азадачвала, абурала. Цяпер я разумею, канечне, ён зусім і не лесціў, а проста паважаў мяне як земляка, за плячыма якога інстытут, і не тэхнічны, а менавіта той, які і сам не супраць быў скончыць,— гуманітарны.

— Толя, для пачаткоўца — няблага, дальбог,— кажу я здаволена.— Можна друкаваць.

— Так думаеш? — Міхалёў усхвалявана хітнуў галавой.— А з боку мовы як?

— І з боку мовы, па-мойму, нармальна. А вось з вымаўленнем у цябе не ўсё добра: падвойнае «н» гучыць невыразна, зычны гук «р», ведай, у беларускай мове заўсёды цвёрды... Добра, далей чытай, слухаю. І не перабівайся.

І ён ахвотна пачаў чытаць:

«Эцюд без назвы.

Пазнаёміліся яны ці не дванаццаць гадоў назад, будучы ў падшэфным калгасе на сельгасработах. Удзень рабілі ў полі, капалі бульбу, а ўвечары хадзілі ў клуб на танцы, у кіно. Перад тым як расстацца, можа, паўдня блукалі па лесе, гаварылі, марылі... І ўсё.

Вярнуліся ў горад. Мінуў тыдзень, другі... Месяц. Так сталася, што хоць і дамаўляліся сустрэцца, ды нечага не сустрэліся. А пасля — і зусім, здаецца, грунтоўна забылі адно аднаго: ён абзавёўся сям'ёй, яна — таксама...

Аднак лёс нечакана звёў іх, далёка ад свайго горада звёў, у гасцініцы. Сэрцы прынялі сустрэчу жадана, прагна — зліліся ў адзіны бунтоўны парыў...

Наіўнае, блазенскае імгненне — зыркі водбліск запозненай узаемнасці».

— На ўзроўні, Толя, і гэты абразок,— зарадаваўся я, стаў узбуджана ціскаць Міхалёва за плечы, віншаваць.

Міхалёў прыкметна ажывіўся, голас яго пагучнеў:

«Жуж-вуж...

Старшыня-хапуга, Гаўрыла Жуж, загнаў «налева» стог калгаснага сена, адонне спаліў.

Праз колькі дзён калгаснікі чытаюць артыкул у раённай газеце за подпісам: «Г. Жуж, старшыня калгаса «Пад'ём». У артыкуле выказваецца мер-

каванне, быццам калгасны стог падпалілі пастухі, грэючыся, ці паляўнічыя...

Не год і не два спатрэбілася калгаснікам, каб выкрыць кіраўнічага махляра. Выкрылі, прагналі з калгаса. Адзін з калгаснікаў прадбачліва сказаў пра былога старшыню: «Чалавек ён шанцавіты, гэты Жуж-вуж, не сядзе ў турму, выкруціцца». Сапраўды, не прайшло і тыдня, як Жуж узначаліў райзаготкантору. Праз год з нечым яго зноў выкрылі і прагналі. Канечне ж, без суровых спагнанняў, без штрафаў і суда. Бедавацъ і на гэты раз не давялося: адзін добры знаёмы прышукаў яму ў абласным цэнтры самае што ні ёсць цёплае месцейка — Жуж узначаліў гарадскую лазню!

...Цяпер ён афармляе дакументы на пенсію. У хадайніцтве адпаведных органаў, дасланым у камісію сацыяльнага забеспячэння, галоўная ўвага скіроўваецца на тое, што тав. Жуж доўгі час паспяхова працаваў на адказных кіраўнічых пасадах, у тым ліку чатыры гады запар абіраўся старшынёй калгаса».

Міхалёў зноў узяўся гартаць свой блакнот. Спыніўся, здаецца, на апошнім запісе, усміхнуўся, сказаў:

— Паслухай гумарэску,— унурыўся ў блакнот, стаў чытаць:

«Нос алкаголіка.

Да дваццаці гадоў ён быў нармальны, затым падазрона пачырванеў, асабліва дзюбка.

У трыццаць пяць — з'явіліся на дзюбцы сінія абводы і крапінкі, нібы хто пырснуў вадзяністае чарніла.

У сорак — стаў бляклы, з чырвона-сіне-чорным адлівам, ноздры густа пакрыліся сеткай ненатуральна шэрых, цьмяных пражылкаў, якія нагадвалі мудрагелістыя карункі...

У сорак пяць гадоў і шэсць месяцаў — нечакана пажаўцеў і быў амаль такі ж самы, як і ўвесь твар нябожчыка — колеру толькі што адгаблёваных смольных дошак для труны».

— Няйнакш Кружлікаў нос! — я ледзь стрымліваюся ад смеху.— Навошта ж ты яго такім маладым у труну загнаў?

— Для эфекту,— пасміхаецца Міхалёў, цярэбіць блакнот, пакручвае яго і так і гэтак.

Я звярнуў увагу на тое, што адно крыло вокладкі ў блакноце выдае больш таўсцейшым. Падумаў: «Мо там фотка Белышавай?» Папрасіў паказаць блакнот, і Міхалёў адразу ж аддаў мне яго. Не чакаў я такой згодлівасці, таму назнарок павольна ўзяўся правяраць спрат, нарэшце акуратна разгарнуў плёнку і ўбачыў пад ёй блакітны канверт, дастаў і пачаў уважліва разглядваць. Канверт быў падпісаны. Міхалёву. Почырк роўны, каліграфічна строгі. Зваротнага адраса не было, але і без гэтага я здагадаўся, што пісьмо ад Белышавай — тое самае, што прывёз яму Шмацін.

— Бачыш, я цікаўны... Хуценька забірай, а то прачытаю і аддам Вуцёху ў скрынку,— пажартаваў.

— А што — і прачытай... Табе можна, даяраю.

— А фотку Белышавай пакажаш?

— Пакажу, але другім разам,— няпэўна паабяцаў Міхалёў.— А пісьмо — прачытай...

Пісьмо займала роўна старонку — ні больш ні менш. Сшыткавы лісток быў не выдраны, а, відаць, адрэзаны пад лінейку.

«Дзень добры.

Я проста не разумею Вас, Анатолій, хоць забіце мяне — не разумею. Вы недарэчна смешны і па-дзіцячы наіўны з гэтым сваім выдуманым каханнем да мяне, пра якое так горача і апантана напісалі. Вы і сапраўды заблудзілі — не каханне гэта ў Вас, а ўсяго толькі міф, абсурд, уяўнасць... Дакладней, нешта ■ гэтага.

Але дапусцім, Вы сапраўды закахаліся ў мяне. Ну і што? Няўжо я павінна радавацца з гэтага і ў ладкі пляскаць?.. Вы мяне кахаеце, а чаму я Вас не кахаю? Хто ў гэтым вінен?

Так, я шчырая перад Вамі, аднак, паверце, мне і пасля Вашага прызнання не хочацца распачынаць перапіску — навошта абнадзейваць і абяцаць? Я не бачу ў гэтым ніякага сэнсу... Ваша каханне да мяне — банальная, дрымучая дапатопшчына. Адумайцеся, Міхалёў! Не будзем заводзіць адно аднаго ў зман, усё гэта лішняе.

Так, я добра помню той час, не забылася. Дзяўчаты называлі Вас маім ц е н е м, насміхаліся і з Вас, і з мяне... І вось Вы зноў працягваеце чыніць мне непрыемнасці. Нядаўна дырэктар школы гаварыла мне пра Вас. Я шакіравана — няўжо Вы ёй нешта пісалі таксама? Хаця — я ў гэта не веру, відаць, яна нейкім чынам прачытала Ваша пісьмо, бо яно некуды знікла і ў мяне зараз яго няма.

Паверце, Анатолій, як магу, імкнуся зразумець Вас, але ў мяне нічога з гэтага не атрымліваецца. Ну што Вы за чалавек? Тут, як мне здаецца, нешта адно з двух: ці Вы ярка выражаны максімаліст, якому ва ўсім трэба толькі перамога, а пасля — трава не расці, ці, як французы кажуць, Вы — enfant terrible (анфан тэрыбль) — чалавек, які сваімі дзівацкімі паводзінамі і — даруйце — бестактоўнай непасрэднасцю міжволі ўскладняе і сваё жыццё, і жыццё тых, хто акружае яго, на каго ён паклаў вока.

Ну як можна запабягаць насустрач кожнаму, хто некалі Вам няхай нават і прыглянуўся нечым? Не рабіце гэтага. І помніце: нам, жанчынам, больш па душы мужчыны-героі... Так, героі! А вы далёка не герой. Вы — хутчэй легкадумны мітусліве, і толькі. Смеху варта, гэта ж за год з нечым, як вы ўбачылі мяне ўпершыню, не змаглі нават падысці і пагаварыць. Праўда, я і тады сказала б Вам, каб не сноўдалі за мной, не віжавалі... А ўрэшце, прызнаюся: я — уявіце, Толя! — не хачу нікога, хачу жыць адна, чуеце? Адна. Ніхто мне не патрэбен, ніхто: ні Пятроў, ні Сідараў, ні Міхалёў... Даруйце.

Як я зразумела, Вы захапляецеся латынню. Будучаму літаратару (я прачытала Ваш нарыс, ён мне спадабаўся), трэба думаць, не зашкодзіць латынь. Што ж, як і Вы, я таксама мушу звярнуцца да гэтай агульна прызнанай моўнай казуістыкі: «Est modus in rebus» — усяму ёсць канец... Здаецца, так?

І толькі не крыўдуйце на мяне, бо, думаю, няма за што.

Бывайце.

В. Белышава».

* * *

У тайгі свае законы, свае сакрэты-неразгадкі, прамудрасці і звабы: як і горная рака, забаўляючыся плыўцом, наровіць зацягнуць яго ў шматлікія віракруты, памерацца з ім сілай, праверыць на знаходлівасць і спрыт, так і яна, тайга, лашчыць, чаруе ізюбраня — заваблівае ў свае страхатліва-вусцішныя пракавечныя шаты, у іх вужачую халадынь...

Асцярожнае, чуйнае, гатовае да любых нечаканасцей, шыбуе ізюбраня добраўследжанай і, здаецца, бясконцай сцяжынай. Лёгка, звычна — у два-тры скачкі — адольвае перасохлыя рэчышчы, якіх тут завельмі багата, і ўсе яны нешырокія, усе з высевам дробнай абкатанай галькі ў перамешку са жвірыстым пяском, усе спярэшчаныя раўчукамі-вымоінамі пад час навальнічных ліўняў. Ізюбраня ўсё часцей і часцей прыпыняецца, аціхае і, глыбока ўдыхаючы ёлкае, настоенае на хвоі паветра, насцярожана стрыжэ вушамі, азіраецца па баках. Яму карціць ужо, каб як найхутчэй даведацца, што ўсё-ткі за яна, гэтая дзіўная сцяжына-набрыда, хто прайшоў па ёй, калі не ўчора досвіткам або ўдзень, дык хто сёння пройдзе, пасля яго: чалавек? драпежны звер? ці нехта з аднапляменцаў?

Настрыніўшыся, ізюбраня сцішваецца — і слых яго ловіць сакатліва-залівісты, неаціхны шчэбет арэхаўкі. Збочыўшы са сцяжыны, убок, туды, дзе можна было надзейна схавацца ў густым кусцістым ліпняку, ізюбраня стойваецца, замірае і доўга, цярпліва ўзіраецца ў мройную ранішнюю шэрань цясніны, што зеўрае наперадзе, куды якраз і заварочвае сцяжына, спадаючы ўсё ніжэй і ніжэй...

Не пайсці наперад ізюбраня ўжо не магло — хацелася піць, а сцяжына, пэўна ж, вядзе да вады. І яно пойдзе, адшукае ваду, але, праўда, не зараз — уночы.

Ізюбраня ўлеглася ў густой траве на днёўку.

## 10

Вярнуліся з аб'ектаў завідна, памыліся нахапок і толькі ўселіся вячэраць, як Сінёў аб'явіў заўтрашнюю нядзелю, другую ў жніўні, выхадным днём. Зрэшты, гэта ўсяго трэці наш выхадны, так сказаць, афіцыйна дазволены, законны, і мы ўдзячныя за такі клопат Сінёву.

Не ведаю, як будуць праводзіць гэты выхадны хлопцы, а я — пайду на паляванне, балазе і дзічыну наглядзеў: вяртаючыся з аб'екта, мы з Корневым набрылі на ладны выпладак рабчыкаў, і цяпер у мяне адно ў галаве — знайсці выпладак, папаляваць.

Нядзеля для кухара — радасны ўздых. І вось чаму: заканчваецца дзяжурства па кухні, апошні дзень. Гэты раз радавацца павінен Шчыгол, затое мне радасці мала — з панядзелка іду на чарговы круг кухоннай «тарантэлы». І заўтра, бадай, сама што мне прагуляцца. Адно трэба займець зброю. Хаця — нават калі Сінёў і запярэчыць, не дазволіць узяць тозаўку, я ўсё роўна пайду — не тырчаць жа мне ўвесь дзень на біваку ды глядзець, як хлопцы рэжуцца ў храп. А ўсё яно будзе менавіта так — ручаюся, яны і гэты выхадны за картамі правядуць.

Падышоў да Сінёва, кажу, што бачылі з Корневым чародку рабчыкаў. Націскаю, вядома, на тое, што рабчыкаў шмат і зусім блізка, не трэба перціся ў свет. Загаворваю пра тозаўку. Сінёў не супраць палявання, больш таго, і сам з ахвотай прайшоўся б са мною, ды заўтра ён мусіць выпраўляцца ў горад — трэба ж нешта з Кружлікам рабіць: паехаў чалавек, і ўжо больш трох тыдняў няма, адсутнічае па невядомай прычыне...

І праўда, што з Кружлікам?

Учора Сінёў званіў Каралькову, і той расказаў, як паводзіў сябе Кружлік, калі зайшоў да яго ў кабінет: кінуў на стол ахапак папер, вылаяўся і больш ні слова яму не сказаў — ляснуў дзвярыма і толькі й быў. Выявілася, што ён атрымаў на сваё імя каля дзвюх тысяч, пакінуў таксама распіску на імя жонкі — гэта для канчатковага разліку... Адбілі тэлеграму яго бацькам —

няма і там. У бацькоў няма, дома няма, у брыгаду не вярнуўся... То дзе ж ён?

— Сцяпанавіч, а ўсё ж... Як з вінтоўкай? — я не адступаюся ад Сінёва, дамагаюся свайго.

Сінёў:

— Ты гэта сур'ёзна з паляваннем?

— Прайдуся...

— Рабчык надта ж малая птушка, упаляваць яе няпроста,— Сінёў падняў пустую бляшанку з-пад кансервы, што валялася ля цяплянішча, адышоўся метраў, прыкладна, на пятнаццаць, начапіў бляшанку на шпіль зламанай хвойкі — якраз донцам у наш бок. Ідучы назад, стаў прабіраць Шчыгла: — Ну й кухар, развёў мухаферму... Што, ямку выкапаць цяжка? — І строга, як загад: — Зараз жа ўсё закапай! — зайшоў у палатку і вярнуўся з тозаўкай. Уручыў мне тры патрончыкі, пахмурыў бровы і сказаў: — Умова простая: два разы пападзеш у донца — твая тозаўка на ўвесь дзень і пачак патронаў у прыдачу, прамажаш — забудзь на паляванне.

Шумок зірнуў на мяне, злорадна ўхмыльнуўся. Вуцёха і Корнеў таксама навастрылі вушы. Карацей, хлопцы сталі маўкліва назіраць за мной, чакалі, што я правалюся. Сінёў, як мне падалося, таксама не верыў у мае «стралецкія» здольнасці: па ўсім відаць, ён быў цвёрда ўпэўнены, што прамажу. Затое, калі я ўсе тры кулі паклаў адну ля адной, праўда, не ў цэнтры донца, а па краі, злева, ён узрадаваўся, здаецца, больш за мяне.

— Сцяпанавіч, а калі я ўсе тры кулі пацэлю, то і мне можна будзе на паляванне ісці? — спытаў зацікаўлена Гардуноўскі.

— Калі ўсе тры, то і ты пойдзеш... Але ў наступны выхадны.

— Дык што, мне разам з Бокушам нямож-на? — вочы Гардуноўскага знерухомелі.— А раптам мядзведзь на яго нападзе?

— І праўда, чаму Бокушу такі гонар? — Корнеў нечакана зачырванеўся ў твары, і так, што паднясі запалку — загарыцца.— Мы ж удвух рабчыкаў выявілі... І я з ім пайду!

Вуцёха рагатнуў, скіраваў позірк на ногі Корнева, сказаў насмешліва:

— Пагляньце, хлопцы, якія качэргі ў гуся гэтага...— і нечакана раптам гнеўна, строга: — Не табе, шкрэд, па тайзе бадзяцца — усіх звяроў распалохаеш. Ты ж, калі ўночы грабешся з палаткі, дык напралом прэш, рукі-ногі нам паадтоптваў, касталом. Учора сваімі рэзгінамі сорак пятага памеру зачапіў мой бот і на дождж выцяг — повен бот вады наліло... Малым, відаць, з каня не злазіў — не ногі, а чорт ведае што.

— З каня?.. Гы-гы-гы...— знаёма рагатнуў Шчыгол.— Ён на бочцы ўрокі вучыў.

Здавалася б, такі дасціпны жарт, а нечага вось нікому з нас не лёг на душу, бо не да жартаў, на Шчыгла мы злыя... Ён, кухар, схібіў: засыпаў вермішэль не ў кіпень, а ў халодную ваду. Атрымалася куламеса брыдкая. Чым такое варыва яго, дык лепей тушонкі з'есці насухама з хлебам ды чаем запіць.

Першы ўзбунтаваўся Вуцёха — дэманстратыўна адсунуў міску ўбок, наліў чаю, сербануў... Твар яго нечага аж перакрывіўся ўвесь, на вачах навярнуліся слёзы. Ён гэтак жа дэманстратыўна адсунуў і чай ад сябе, сярдзіта ўскіпеў:

— Чыфіршчык пракляты, наркаман!

Шчыгол не затрымаўся з адказам — разважліва, з дакорам спытаў:

— І чаго табе, чмыр, не хапае? Малака савінага? Дык пачакай, заўтра Бокуш падстрэліць саву, прынясе, а я падаю, гы-гы-гы... А мо чыфірчыку даць? — ён толькі што засыпаў у літровую конаўку з кіпнем паўасьмушкі чаю.— Будзеш піць чыфір, а?

Вуцёха маўчыць — сядзіць, не кранаецца з месца, адно час ад часу зіркае на Сінёва, які толькі што сеў за стол, насупраць, пачаў наразаць хлеб.

Шчыгол тут жа абслужыў Сінёва — прынёс поўную міску вермішэлі з тушонкай, чыстую конаўку, чайнік, масла ў літровай эмаліраванай каструлі, апраўдаўся:

— Мая гатоўка, можа, і не вельмі смачная, затое каларыйная.

Сінёў засяродзіўся над «гатоўкай» Шчыгла, пакаштаваў, зморшчыўся.

— Абы-што... От жа, абармот, толькі прадукты папсаваў,— пасунуў да сябе салонку, сыпануў у міску добры шчопаць солі, памяшаў.

— Вы, Сцяпанавіч, цыбулькай прыкусвайце — вітаміны,— Шчыгол паклаў перад Сінёвым абшалушаную цыбуліну.— Купілі б барана, то і я вызначыўся б — згатаваў бы барановы бок з кашай, гы-гы-гы...

Сінёў весела азірнуў усіх нас, спытаў насмешліва:

— Дык чаго надзьмуліся, як вераб'і ў дождж? Ешце. Вы ж, помню, аднадушна прагаласавалі, каб самім варыць... Хаця — не, двое было супраць: Бокуш і Міхалёў.— Павярнуўся да мяне: — Аляксей, як глядзіш на тое, каб заўтра барана купіць?

— Як згаладалы воўк гляджу! — рашуча сказаў я.

Усе засмяяліся, загаманілі.

Сінёў дастаў грошы, адлічыў шэсцьдзесят рублёў і аддаў мне, сказаў:

— Так і быць — купляй... Калі ўтаргуеш — нават двух можна. Бяры двух, расплоцімся пасля, калі я вярнуся. Трэба добра паесці свежаніны, а то апошнім часам некаторых з нас ужо і жанчыны перасталі цікавіць,— зірнуў на Шумка, які і праўда без Кружліка нікуды ўжо амаль не выязджаў адзін па вечарах, нават у Кurганіху, да Тані.— Веніямін, заўтра з Бокушам едзеце да пастуха Бадмы... У другой палове дня выбірайцеся,— і няспешна, з неахвотай стаў есці вермішэль, выбіраючы найбольш тушонку, хрумстаючы цыбуліну ўпрыкуску.

Вуцёха нецярпліва:

— Сцяпанавіч, вы чай пакаштуйце,— паднёс чайнік, наліў Сінёву ў конаўку.

Сінёў глынуў чаю, здзівіўся:

— Салёны?..— І да Шчыгла, смеючыся: — Апупеў ты, кухар, ці што? Няўжо над вядром плакаў?

— І над вядром плакаў, і над каструлямі...— Шчыгол, здаецца, упершыню за ўвесь час спахмурнеў.— Прападзі яно пропадам, такое кухарст-

ва! Зямлю капаць у сто разоў лягчэй і цікавей, чым кухняй займацца.

— Ну — маладзец, Саня, хвалю!..— чуць схіліў голаў, зарадаваўся Сінёў.— Значыць, і гарэлку туды ж, у пропад?

— Гы-гы-гы...— зіркае Шчыгол спадылба.— Сцяпанавіч, дык не п'е ў наш час толькі сава, бо ўдзень спіць, а ўночы магазіны зачыненыя.

— Сава, кажаш? — Сінёў працягваў запытальна глядзець на Шчыгла.— А я ўжо грэшным дзелам падумаў, што сухі закон і ўводзіць не трэба, аж не — трэба.

— Сухі закон?..— Шумок узняў голаў, знерухомеў.— Як гэта? Навошта? Мы ж не каланісты, можа? — дыхаў ён чамусьці пахапліва, узрушана: ці то злосць яго ахапіла, ці яшчэ якое ліха.

— Дык і перад сном няможна? — Шчыгол таксама ў непаразуменні.— Па грамульцы, каб не варочацца ў люльцы?

— З панядзелка спіртнога і паху не павінна быць,— Сінёў, бачу, на дзіва катэгарычны — упершыню ён такі.— Ні я не п'ю, ні вы... Сухі закон у брыгадзе. Ясна?

— Ну — чулі, ахламоны? — раптам зласліва спытаў Шумок.— Дастараліся?!. От так: спачатку — кось-кось, а тады — у аглоблі. Даўся запрэгчы — цягні, муругі, воз і ні ў дугу,— захіхікаў.

Шчыгол:

— Сцяпанавіч, а чыфір можна ўжываць?

— Ужывай... Але з прыдурам трэба канчаць. У наступны раз глядзі, што сыплеш у чайнае вядро: соль ці цукар.

— Дык хіба я адзін тут вінаваты? Гэта ж, во ён, Шумок, у аднолькавыя мяшэчкі ссыпаў і соль, і цукар...— стаў апраўдвацца Шчыгол, чым і наклікаў гнеў Шумка.

— У-у, флюгер, падлізнік!..— пагляд Шумка асуджальны, цяжкі.— Для ўсіх ты добры, кожнаму дагаджаеш — адразу відаць: без цара ў галаве жывеш.

— Не вешай, Веня, лапшу на чужыя вушы. Якраз, можа, гэты самы твой цар і замінае табе правільна жыць,— з'едліва і даволі рашуча заключыў Шчыгол.— Лацвей табе на ўсім гато-

вым — рукі ў бокі і на шпацыр, загараеш, а тут хвіліны свабоднай няма, за куст і то спяшацца трэба...

Падышоў Корнеў, торкнуў пальцам у скроню Шчыглу, сказаў:

— Санёк, у тваім іржавым фідзеры ўсе вольты пераблытаны. Хочаш — пачыню, а?.. Не бойся, я таксама быў электраманцёрам, валаку тое-сёе.— Корнеў апошнім часам трымаецца Шумка, заўчора яны разам на рыбалку ездзілі: удалая была рыбалка — налавілі цэлы мех рыбы, перадалі кухару, Шчыглу, а ён гэтай іх рыбе ніякай рады не даў: паўдня паляжала на сонцы і пратухла.— Задарма пачыню, чуеш?

— Адчапіся, чыншчык,— нязлосна сказаў Шчыгол.— Я хоць з вольтамі, а ў цябе нават і вольтаў няма — вакуум...

Гардуноўскі падняўся з-за стала, падышоў да вогнішча, узяў чайнае вядро за вочапку, аднёс убок і перакуліў — выліў пасолены чай на траву, набраў з бітона свежай вады, павесіў вядро на казялок і, паціраючы рукі, весела выгукнуў:

— Эх, зараз такое полымя зашугае, што ўсе кажаны злятуцца да нас!..— Кінуў на вуголле бярэма сухіх паленцаў, сеў наўколенцы — раз-другі пахапліва дзьмухнуў на вуголле. Сушняк адразу ўзяўся полымем. Гардуноўскі падняў голаў — вочы слязліва туманяцца, твар ярка чырванее ад водбліскаў.— Рамантыка!.. Жыццё-раздолле. Будзе хоць што ўспомніць, ёлкі-палкі.

Сінёў перакусіў збольшага і заставаўся нязрушна сядзець за сталом. Ён быў засяроджана-задуменны, апануранны. Нарэшце сказаў да Вуцёхі, які гэтак жа сама, нязрушна, сядзеў насупраць яго:

— Напаткаў я ўчора ў пасёлку жанчыну адну — у піянерскім лагеры шэф-кухарам рабіла... Пагадзілася быць у нас за кухарку.

— А Дуня? — міжволі вырвалася ў мяне.

— Дуня?..— Сінёў сумеўся.— Яна ўзяла адпачынак і з'ехала некуды... Можа, дамоў, а можа, яшчэ ў якое месца. Каралькоў, праўда, сказаў, што нібыта Кружлік ёй даў усе нашы каардынаты, збіралася да нас ехаць... Ці не махнула вольная птушка на БАМ?

Вуцёха ўзбурваецца раптам:

— Пстрыкаўка!..— і тут жа спакайнее, спагадліва дадае: — Хаця — і яе зразумець няцяжка: вучылася на радыстку, размеркавалі, прыехала, а ёй — сюрпрызік: перасыпай, дзеўка, нафталінчыкам шмоткі...— Твар яго нечага перакрывіўся — як ад прыступу апендыцыту ці яшчэ ад якога нутранога болю, пагляд нядобра пастражэў.— Толькі Каралькоў і можа такое прыдумаць.

— Задача такая, хлопцы,— Сінёў падняўся.— Да першых халадоў мы павінны ўсе землякопныя работы скончыць. Зрубы і слупкі пасля будзем ставіць, а цяпер — паўтараю! — уся ўвага землякопным работам. Ясна? Так што заўтра адпачывайце, а там — без выхадных... І разумеецца, без спіртнога.

Сінёў верыць у нас — і гэта паддае нам ахвоты і азарту, а сілы хапае ў кожнага — уга колькі сілы!

...Міхалёў паклікаў мяне пагуляць — прапанаваў забрацца на скальны выступ хрыбта, які ўсё яшчэ быў асветлены сонцам. Я прыкінуў на вока адлегласць і адмовіўся, сказаў, што далёка, завідна не ўправімся вярнуцца назад. Міхалёў не запярэчыў і стаў разважаць пра рабочых-сезоннікаў: маўляў, людзі гэта асаблівыя, рупліўцы тыя яшчэ, да працы прагныя — цягам цягнуць, высільваюцца ад цямна да цямна...

Сапраўды, развагі яго слушныя. Так, без сезоннікаў экспедыцыі не абысціся ніяк. Ну хто захоча калець у палатках зімой, ды яшчэ праз кожныя два-тры дні (хаця — не, зімой пад час завеяў ды маразоў на пабудову геадэзічнага знака часу больш пайшло б) пераязджаць з месца на месца? Жыць яно, канечне, можна, а вось мёрзлую зямлю дзяўбці за мізэрную — не было б і сотні — зарплату наўрад ці пагадзіўся б хто ў такіх умовах. А мы, сезоннікі, прыехалі ў свет і, бач, нават спадзяёмся на больш-менш прыстойны заробак. І правільна спадзяёмся, бо ведаем: гэта ўсё імена так і будзе.

Міхалёў сунуў мне ў рукі свой — ужо новы! — блакнот, сказаў:

— Не ўсё, але тое-сёе начыста перапісаў... Пастарайся заўтра прачытаць, почырк разборлівы. Дазваляю крэсліць.

Я ўзяў блакнот, схаваў у кішэню штармоўкі, пажартаваў:

— Настраляю рабчыкаў, сяду дзе-небудзь у зацішку і буду чытаць Міхалёва — эўрыка!

Прачнуўся ад нейкага дужа вялікага хвалявання. Не адразу расшалопіў, што са мной, чаму і навошта прамаўляю радкі:

Самотна думаю пра нашае расстанне
Няўтольнай адзіноты горкі круг...

Напружваю памяць: нешта ж і далей было? Што?.. Стараюся ўспомніць — і не магу, і з гэтай прычыны — ну, так, з гэтай! — усхваляваны, устрывожаны вельмі. Трэба ж, мне ў сне прыдумаўся верш, стаў запісваць яго ў блакнот Міхалёва і... прачнуўся. Ад верша засталіся ў памяці ўсяго толькі два радкі... Божа-божа, няўжо вось так і нараджаюцца паэты?

Выйшаў з палаткі.

Наўкол ядраная цішыня. Раніца, праўда, пахмурная, але гэта не палохае мяне: нават калі зараз і дождж ліне, пярун ударыць — усё роўна сыду ў тайгу, ніхто не затрымае.

Машыны, бачу, няма ўжо на табары — Шумок павёз Сінёва на аэрадром: першы рэйс недзе а сёмай гадзіне раніцы. Зараз яшчэ толькі палова шостай.

Гуля санліва паднялася, запабегла мне наперад, чакае.

— На месца!..— ціха шапнуў ёй, і вочы яе ўраз неяк зласліва паярчэлі, упарта ўставіліся на мяне.— Ты мне замінаць будзеш. Заставайся дома.

Гуля, аднак, не пажадала варочацца на сваё месца, і я мусіў начапіць яе на ланцужок і прывязаць да калка палаткі.

...Густы бор. Сосны адна ў адну — меднаствольныя, высозна-гонкія. На іх вяршалінах, здаецца, і трымаецца неба. Тут, у гэтым бары, знайшлі сабе прытулак рабчыкі. Мясціна хоць троху і пакатая, затое на дзіва роўная, чыстая, без камянёў і за-

валаў. Кружу, шукаю птушак і чамусьці не знаходжу. Узбіўся на дзялянку густога рабінніку з арэшнікам напалам. Зарадаваўся, думаў, арэхаў нарву, ды арэшнік пусты, а ягады рабіны яшчэ жоўтыя ўсе, кіслыя.

Але ж і прыгожы бор!

Хораша, спакойна і ўтульна ў ім. І зусім не страшна. Ды я амаль і не гляджу наперад, не азіраюся па баках, адно час ад часу прыпыняюся і, задраўшы галаў, падоўгу стаю, дзіўлюся на магутныя і, здаецца, вечныя, неўміручыя лясіны... Так, неўміручыя!

Не параўнаць гэтыя сосны з тымі, што ў парку Чалюскінцаў, у Мінску,— шэрымі, самотнымі, з засохлымі вяршалінкамі... Сосны-гаротніцы, няйнакш. Мусіць, таму і не любіў я хадзіць у той парк, бо заўсёды пачуваў сябе там ніякавата, трывожна нават — як сярод нешчаслівых людзей. Я быў упэўнены, што сасна пакутуе ад шуму горада, чэзне ад выхлапных газаў і курадыму з камінoў заводаў і фабрык. І не памыліўся: нядаўна прачытаў аб гэтым грунтоўнае даследаванне. Выходзіць, сасна, як і чалавек, адчувае боль, рэагуе на дрывасека з сякерай, цяжка пераносіць адзіноту... Наводшыбе ад бору яе, адзінокую, гнуць сіберныя ветры, ламаюць, крышаць перуны, ад таго і касабокая ўся, няpослая — нялёгка ўстаяць адной супраць стыхіі, цяжка змагацца за месца пад сонцам. Зусім як і чалавеку, акурат.

Дзіўна, чым далей заглыбляюся ў гусцеж лесу, тым соснаў становіцца ўсё менш і менш. Зачасцілі, праўда, лістоўніцы, таўшчэзныя, асабліва ў камлі, і сукаватыя ў вяршалінах, ды яшчэ елкі-веліканы, з голлем аж да самай зямлі.

Цямней зрабілася ў лесе, вусцішней, і я ўжо хацеў быў павярнуць назад, як выйшаў на вузенькую, добра вытаптаную сцежку. Пастаяў, паазіраўся. Зрабіў свой знак — паклаў корч папярок сцежкі — і рушыў у напрамку хрыбта. Сцежцы, вядома, абрадаваўся. Усякая сцежка — зарука таму што, ідучы па ёй, не зблудзіш: калі што — павярнуў назад і зноў апынешся там, адкуль прыйшоў. Гэтым і заспакоіўся, а больш — натхніўся.

Мінаючы камяністыя глыбы-маналіты, сцежка наўздзіў доўга і аднастайна цягнецца на пакаты ўзгорак, нарэшце заварочвае ў цясніну, поўную зялeніва, цяністую, на дне якой буркліва струменіць ручай. Падбадзёрліва-лёгкі халадок мяжуецца тут нязвыкла-гнятлівай, застрашлівай цішынёй, і я не-не ды ўсё ж апасліва азіраюся па баках, штохвілінна правяраючы баявую гатоўнасць сваёй не так ужо і надзейнай зброі.

Пасля, калі трохі абвыкся і збольшага агледзеў крутыя, каменнымі выступамі сцены цясніны, паволі падышоў да ручая, лёг грудзьмі на мурожны схіл берага і напіўся. Нічога не скажаш — смачная горная вада, чыстая — крышталь. Галоўнае, хутка праганяе смагу.

Калі ў таежнага падарожніка, павучаў Сінёў, ёсць які-небудзь посуд для пітной вады, яго трэба заўсёды трымаць поўным як вока. Добрая парада, слушная. У мяне такі посуд ёсць — біклажка паходная, алюмініевая, у чахле. Яна, праўда, з учарашнім чаем, тым самым, што гатаваў Гардуноўскі, але стары чай, калі верыць усходнім гурманам, гэта амаль тое ж самае, што і атрута. То навошта ж мне атрута? Хай будзе ў біклажцы крынічная вада, свежая, халодненькая, тым больш ручай гэты — іначай і быць не можа! — выцякае з якога-небудзь падземнага аршана, і зведаць такую ваду, гаючую, не лішне.

Выплеснуўшы на мурог астаткі крута заваранага чаю, апаласнуў біклажку, апусціў у ручаіну. Празрыста-чарадзейная — жывая! — вада абмывае мне пальцы, халадок прыемна аддае ў сэрца, бунтуе кроў. Хараша!

Завінчваю накрыўку, чапляю біклажку на рамень — побач з паляўнічым нажом яе месца, на поясе. Халодзячы бок, біклажка чуць правісае — можна ісці далей. Але...

Што гэта наперадзе там?

Высака, амаль перад самай вяршыняй пагорка, на дне эліпсападобнай вышчарбіны ў расплывіста-зыбкіх цьмяных водсветах мільгацяць шэрыя, з выгінастымі доўгімі шыямі нейкія варухлівыя здані. Іх многа, і ўсе яны адной масці —

шэрыя; рухі плаўныя, з лёгкай грацыёзнай спаважнасцю — акурат збоішча кобраў!

Аднак жа адкуль ім тут быць, кобрам, у гэтай спрадвечна сырой каменнай пячуры?

— Хто та-ам?!! — міжвольна злятае з маіх вуснаў.

Абуджаны ўласным голасам, я тут жа пачынаю дакараць сябе: маўляў, да каго звяртаюся, дзівак-чалавек, навошта? Перада мною ж, пэўна, самы што ні ёсць міраж, мроя, нікога ў цясніне няма, апрача мяне.

— ...А-АМ!..— нечакана гулка раўнула нада мной.

— Хто-о-о?!! — склаўшы далоні рупарам, я назнарок крыкнуў гучна і працягла.

— ...О-О-О!.. — разгоніста-доўга ляціць па цясніне.

Яшчэ і рэха не ўляглося, як у стане шэрых зданяў усчалася сумятня. Узрушліва-сполашнымі ўзмахамі шырозных крылаў (вунь хто там — птушкі!) яны, устураныя мною, развейвалі лёгкія сухмаркі ранішняга туману і, падымаючы вясёлкавыя веееры пырскаў, адна за адной, пахапліва і на дзіва лёгка ўзляталі. Выразны, пранізліва-пругкі посвіст шалясцеў па цясніне.

Паляўнічы азарт імгненна кінуў мяне да забытай на мурагу тозаўкі, але ўзяць яе напагатоў не давялося — мітуслівыя птахі нечага раптам крута забралі ўлева і, набіраючы вышыню, даволі спрытна і ўдала абміналі шматлікія пільчатыя патырчакі адгор'яў, за якімі прызыўна яснявеў край незахмаранага неба. І ўсё ж некаторыя птахі не-не ды чыркалі кончыкамі крылаў па гэтых патырчаках, і тады іх след значыўся збітымі пёркамі...

Гусей не стала відаць, і я, супакоены, ускінуў тозаўку на плячо і паволі рушыў наперад, туды, адкуль толькі што, напалоханыя маім крыкам, яны падняліся. Не адразу, але ўбачыў усё ж — нарэшце! — блакітна-мройную брынь горнага возера. Між крутых сколаў эліпсападобнай ямы-вышчарбіны яно здавалася цьмяным, як запацелае люстэрка. Нешырокая срэбная стужка вадаспада без назойлівага шуму і плёскату ціхамірна спадала ўніз, на скальны выступ, шырылася і зноў спа-

дала, але ўжо на абымшэлы, запенены па краях акругла-прадаўгаваты валун, які быў да паловы ў вадзе, што разлілася ў неглыбокае, гэткае ж, як і валун, прадаўгавата-акруглае азерца, чыстае, спакойнае, з пясчаным дном і адхонным травяністым берагам.

Адсюль, з гэтага азерца, і пачынаў свой імклівы бег сцюдзёна-празрысты ручай. Тут і сыходзіліся тры звярыныя — а то чые ж яны? — пуцявіны: адна з іх, гэтая, па якой я прыйшоў, скончылася; другая, што па левы бок, нягледзячы на строму, карабкаецца ўгару, акурат да возера вядзе, на якім, мабыць, адпачывалі пералётныя дзікія гусі; трэцяя, па правы бок, больш торная і шырэйшая, роўна, амаль без спадаў і паваротаў, без каменных завалаў і апоўзняў прастуе ўсцяж па цясніне. Яе добра і далёка відаць, і мо з гэтай прычыны я не надта раздумваў, па якой з іх мне ісці — выбраў правую...

Праз колькі часу адчуў: цясніна прыкметна пачала вузець, і калючаму, абы-як зблытанаму голлю шматлікіх кустоў стала няўтульна, цесна. Проста збоч, можна дастаць рукой, вісяць ярка-чырвоныя кучмы пладоў глогу і жаўтабокай шыпшыны. Пакаштаваў на смак і адно, і другое. Глог не спадабаўся. Затое больш спелыя плады шыпшыны нават паспрабаваў абіраць, але неўзабаве ахвота прапала — калючыя шыпы да крыві ранілі пальцы. Глыбокія — цыганскія — кішэні курткі (дакладней, гэта не ўся куртка — толькі брызентавы верх яе [illegible] мультановай падбіўкай, без ватняй уцяплёнкі і футравага каўняра) я рашыў запоўніць лепш кедравымі шышкамі, якія, праўда, яшчэ зеленаватыя і дужа смольныя, але іх трэба пячы на цяпельцы — печаныя арэшкі на дзіва смачныя...

Паскараю крок, бо хачу паспець на абед, нават калі прыйдзецца адну-дзве гадзіны затраціць на збор шышак. Пашанцуе адразу, як выйду з цясніны, знайсці плодны кедр, дык часу няшмат затрачу, бо шышкі ўжо налаўчыўся збіваць. Яно, вядома, маючы спецыяльны колат, ды яшчэ калі ён на доўгай жардзянай прыстаўцы, скалынаць кедр працай простага: лупянуў колатам як мага

вышэй па ствале — і шышкі градам сыплюцца долкі... А ўрэшце, мне колат і не трэба — абыдуся і без яго. Я ж, уласна, не нарыхтоўшчык. Калі які кілаграм назбіваю — і досыць: замест колата выкарыстаю гранітную камлыжку, ад удару якой па дрэве дзве-тры шышкі ўпадуць, а каб градам сыпаліся — не трэба, лішняе.

Намацаў у кішэні курткі капронавы шнур, які захапіў з сабою, канечне ж, дзеля таго каб чапляць на яго паляўнічы набытак. Пасмяяўся з гэтай сваёй наіўнай мары на ўдачу, назразаў кучмаў глогу і зрабіў з іх пры дапамозе шнура вянок, абвіў ім шыю (хлопцы ўбачаць — трэснуць ад зайздрасці!) у гонар таго, што не ўпаляваў ніводнага рабчыка!..

Іду далей.

Неспадзявана позірк мой запыніўся на нязграбна-крывенькай сасонцы, што акурат вісіць над сцяжынай, цудам трымаецца ў нешырокім расколе, напоўненым пяском. Чуць ніжэй — яшчэ адзін раскол, і таксама з зямлёй, спрэс зацярушанай шыгаллем. Магчыма, я не звярнуў бы ўвагі на гэты, другі, зямны астравок на скале, калі б не было там адзінокай кветкі, шэрай, невыразнай, падобнай на палын, з белымі, акурат парасончыкі, суквеццямі; сцябло кветкі асадзіста-кароткае, з вузкімі, прадаўгавата-вострымі лісцінкамі, чуць расхінутымі ў бакі...

Зблізку б паглядзець — што ўсё ж гэта за кветка, адкуль яна тут узялася? Пэўна ж, самасейка, вецер прынёс з бліжэйшай альпійскай лугавіны адно-адзінае семка, яно прарасло, выцыбалася ў раслінку і зацвіло, радуецца сонечнаму прыволлю. «Мо гэта эдэльвейс такі? — раптам падумалася мне.— Эдэльвейс, чуў, не проста знайсці — яго немагчыма ўбачыць, бо расце пераважна над кручамі-прадоннямі». Ад гэтай здагадкі нечага аж зарадаваўся — па-дзіцячы, наіўна. Заазіраўся наўкола, пачаў прыкідваць на вока, каб як-небудзь ускарабкацца на скалу.

Толькі ж як гэта зрабіць?

І праўда, як? Знізу строма амаль уся гладкая, самы што ні ёсць адшліфаваны граніт, без адколаў і трэшчын. Наўрад ці можна дастаць гэту дзіў-

ную кветку без лесвіцы. Ды і навошта яна мне, кветка? Хіба толькі дзеля таго каб пакласці ў блакнот Міхалёва, захаваць, а пасля даведацца, як яна ўсё ж называецца. Мо сапраўды гэта эдэльвейс, і тады, як сцвярджае мясцовае паданне, той, хто знаходзіць яго, разам з ім знаходзіць і сваё шчасце... «Хм, няўжо і я блізкі да СВАЙГО шчасця?..» — гарачліва варухнулася ў галаве.

Раўніва, бездапаможна пазіраю на строму цясніны. Дакараю сябе за тое, што ў час навучання ў інстытуце дарма, дзівак, не запісаўся ў секцыю горнага турызму, члены якой колькі разоў ездзілі на трэніроўкі ажно на Каўказ. Нечаму ж іх там вучылі, а я, невук, стаю вось у нерашучасці перад нейкай стромкай, і ў думках адно толькі: лесвіцу б сюды, такую, метраў так на пятнаццаць-дваццаць даўжынёй, пажарную...

Падступаюся бліжэй да скалы — і мяне кідае ў страх: дзіва-дзіўнае, скала глыбна вісіць нада мной, здаецца, во-во абрынецца, расцісне мяне. Ды і хто я тут? Вядома ж — пясчынка... Я, чалавек, у параўнанні хоць бы і з гэтай скалой — малюсенькі каменьчык, пясчынка, так! І гэта зусім не прыніжае мяне і нават не засмучае, адно кідае ў развагі, запыняе.

Выбіраю ў зацені мясцінку, утульна ўсаджваюся на гранітны выступ і дастаю блакнот Міхалёва. З нейкай незнаёмай мне да гэтага зайздрасцю ўглядаюся ў спісаныя старонкі. На першай з іх, якраз у цэнтры, акуратна выведзена: «Нататкі». Унізе на гэтай жа старонцы, чуць справа «А. Міхалёў».

Перагарнуў лісток, чытаю:

«Мы жывём на Зямлі. Мы штодня вітаем Сонца. Зямля і Сонца — вось тыя два незаменна-адвечныя рухавікі, энергія якіх і спарадзіла прыроду, энергія якіх і сёння надае ходкі гон жыццю...»

Ну й Міхалёў! Што гэта ў яго — няйнакш уступ да філасофскага трактата? Бач, не пра людзей піша, а пра Сонца — здалёк, значыць, бярэ, шукае сваю тэму ў Сусвеце...

Наступны запіс:

«Падчас мы сутыкаемся з такімі пытаннямі, не ўлічваць якія проста не маем права, бо гэта

надзённасць наша і яна патрабуе неадкладнага вырашэння. Пастаянны пошук, пульсацыя думкі... Гэта, бадай, і ёсць наш шлях у дасканаласць, наш будучы ўзлёт, вопыт. Прамарудзіў сёння — заўтра ты здрабнелы душой, ахаладзелая сэрцам пасрэднасць».

А тут што? Здаецца, пакуль яшчэ адно пробліскі думкі, яе пункціры, пошук сэнсавай высновы... Звычайны дзённікавы запіс, а сам па сабе цікавы, безумоўна.

Далей чытаю:

«Ля ўвахода ў буфет разбітная цыганка ўхапіла бравага салдаціка за рукаў мундзіра, адвяла ўбок і пачала варажыць яму. Служывы заспакоіўся і пакорна слухаў яе балбатню.

Я прайшоў паўз іх. Убачыўшы на грудзях у салдата камсамольскі значок, не стрымаўся, каб не пасарамаціць ахвотніка да варажбы:

— Ты ж камсамолец, салдат! Не ганьбуй сябе і вайсковую форму.

Цыганка рашуча штурхнула мяне ў плячо і пачала несці ў мой адрас усялякае глупства, прыпраўляючы кожнае больш-менш разборлівае слова адборнымі мацюкамі.

Засаромлена-нясмелы, уражаны, салдат нейкі час моўчкі перамінаўся з нагі на нагу, пасля кінуў цыганцы:

— Цікай адсюль, хлюндра, ну!..

Цыганка аж вочы вытарашчыла — не чакала такой абразы ад яшчэ нядаўняга сарамліўца-ціхоні, і, замест таго каб сказаць яму брыдкое штонебудзь — а яна на ўсё здатная! — спатрабавала рашуча:

— Заплаці!

Салдат здзіўлена хітнуў галавой, дастаў з кішэні металічны рубель і кінуў цыганцы проста ў яе далонь-лодку.

— Дзякуй, касацік,— крутнуўшы спаднічкай так, што аж вецер узняўся вакол, цыганка падалася на выхад.

Салдат аглядзеўся па баках, падышоў да мяне і папрасіў закурыць. Я даў яму цыгарэту, сам таксама закурыў.

— На пабыўку? — спытаў салдата.

— Дэмабілізаваны... Адслужыў сваё.

— А мне, даруй, падалося, што нядаўна прызваны, калі перад цыганкай здрэйфіў.

— Ды ну яе... Прыстала каростай.

— Ясна, змаладушнічаў.

— Пры чым тут маладушнасць? — шчокі салдата ўраз пачырванелі.

— А што ж тады? Хацеў даведацца, што цябе дома чакае?

Салдат яшчэ больш сумеўся і, панурыўшыся, прызнаўся:

— Не дамоў я — да дзяўчыны еду... Завочна пазнаёміліся.

Ну во — ён да дзяўчыны-завочніцы едзе, а я куды? Уцякаю ад самога сябе?.. Але ж яшчэ ніхто ніколі ад сябе не ўцёк. І я таксама не ўцёк. А так хацеў вырвацца наперад, столькі патраціў энергіі і сіл, аднак нічога ў мяне не атрымалася. Яно ж і праўда, хто калі сам сябе абагнаў?..

Уночы вусцішна тут. І не дзіва, мора побач, наўкол ні душы — прыгранічча. Праўда, гэтае «наўкол» невялічкае, мажа, з паўкіламетра ўсяго, а далей, за вінаграднікамі, раскінуўся ў лагчыне рыбацкі пасёлак. Яго агінае бруіста-пеністая рачулка і ўпадае ў мора. За пасёлкам гараць агні начных ліхтароў аўтабазы, адзін з шафёраў якой на абсталяванай пад маразілку «Калхідзе» і падкінуў мяне з вакзала сюды, у гэты слаўны куток набярэжжа, а салдат застаўся чакаць рэйсавага аўтобуса — яму трэба ў сяло Парубайлы.

Новую палатку маю, колеру хакі, амаль не відно ў зяленіне акацый. Бераг пакаты, травяністы, і толькі метраў дзесяць-пятнаццаць ад вады жаўцее сухі пясок... Пляж проста цудоўны!

За паўдня ўволю накупаўся, трохі нават папёкся на сонцы. І вось — ноч... Стаіўся, слухаю мора. Здаецца, сябе таксама чую. Спрабую заснуць, аднак не спіцца. Нарэшце зразумеў прычыну бяссоння: я ж не вячэраў, ды і абеду амаль не было — у прывакзальным буфеце выпіў шклянку кавы ўпрыкуску з закаржэлым беляшом. На тым і скончыўся мой абед. Вось табе і маеш: як паясі — так, выходзіць, і выспішся.

Каб пазбыцца голаду, цешу сябе тым, што заўт-

ра, маўляў, схаджу ў пасёлак, накупляю прадуктаў і, вярнуўшыся, згатую на цяпельцы каралеўскі сняданак... Што й гаварыць, за трое сутак дарогі — не малы час — я добра такі вымерхаўся. Самалётам ляцеў — галадаў. Поездам ехаў — таксама галадаў. Вагон-рэстаран, можна сказаць, для блізіру толькі, паесці як след, са смакам, не паясі: халаднік — баланда, засіўленая смятанай, зацярушаная крутым жаўтком, катлеты — запечаны хлебны мякіш, які, перад тым як трапіць на патэльню, паляжаў побач з мясам. Спытаў, чаму так слаба кормяць, на гэта афіцыянтка адно пасміхнулася, сказала:

— Мы самі рэстараннага нічога не ядзім, усё з дому бяром, сваё...

Нават так бывае? Ну і ну — нечуванае нядбайства з боку дарожных харчавікоў. Самае што ні ёсць раўнадушнае, абыякавае стаўленне да пасажыра. І ўсё гэта кашчунства чыніцца на фоне знешніх выгод: прасціны, уціркі, часопісы, газеты, купэ на чатырох, радыё — спі, чытай, гуляй у шахматы... А есці — паясі пасля, калі пакінеш поезд.

Ат, лепей не думаць пра яду, а тым больш пра нейкіх там дарожных харчавікоў-тарбахватаў...

Спакой, ціша. І я ў гэтай цішы — сам-насам. Я — і час, я — і мора, я — і сонца... Трэба напісаць Веры, запрасіць сюды. А вось прыедзе?!. Заўтра ж напішу, заўтра... Не, не, не... Яна сюды не паедзе!

Божа, што са мной? Дзе мая рашучасць нарэшце — трэба ж было да гэтага даўно сустрэцца з ёй, пагаварыць... Асмялеў вось, калі апынуўся на краі зямлі...

Неаціхна-ўз'юшаная плескатня прыбою блытае думкі, збівае з тропу. Хвалі наплыўна плёхаюць, пеняцца, шархотліва перакочваючы з месца на месца акругла-гладкія каменьчыкі, і, аслабелыя, запаволеныя падатным, як вата, пяском, у бяссіллі адступаюць назад, каб праз якую хвіліну зноў гэтак жа сама наплываць і пеніцца.

Сон па-ранейшаму не ідзе, адно думкі, бы лёгкія аблачынкі, плывуць і плывуць — хутка, незапамінальна: былі — і няма, былі — і няма...

Неўпрыкмет сцішваюся, і так, што нават чую, здаецца, яшчэ не прамоўленыя словы свае, якія некалі ўсё ж такі скажу ТАБЕ: «Адна ты ў мяне — адна-адзіная на ўсё жыццё. Табой жыву, помню цябе...»

Цепліцца ў душы кволая спадзеўка на радасць».

Ну во — захапіў Міхалёў сваім апісаннем. Цікава чытаць. Але ж і далася яму Белышава — гэта ж проста ні на хвіліну з ёй не расстаецца ў думках. Зрэшты, яна цудоўна яму напісала — далёка не развітальнае пісьмо. Здаецца, Міхалёў напісаў ёй таксама, зноў...

Перагарнуў старонку — чарговы запіс, ужо азагалоўлены:

« З людзьмі гаварыць трэба.

Рэйс адклалі на няпэўны час. Пагодка, як кажуць піжоны, не шэпча — туман, морась.

Сяджу ў транзітнай зале аэрапорта. Па левы ад мяне бок прыстойна апранутая бабуля ў санлівай знямозе клюе носам. Мне ж — не спіцца, не дрэмлецца, клопат не дае спакою: еду ў свет як у капейку... па капейку. Сінёў, якога выпадкова сустрэў у Новасібірску і пазнаёміўся з ім, абнадзеіў, даў адрас экспедыцыі — і вось выклікаў мяне ён тэлеграмай...

Бабуля заварочалася, глянула ў мой бок — і нечага ўраз ажывілася, сон яе развеяўся.

— Куды едзеш, сынок? — пасунулася бліжэй да мяне.

— Па туман, бабуся... У тайгу да мядзведзяў.

Прыняла мой жарт прыязна, заўсміхалася і ўжо ласкавей:

— Таежнічаць?

— Адгадалі.

Слова за слова — разгаварыліся. І неўзабаве я пераканаўся, што яе «таежнічаць» мае свой адзіна канкрэтны сэнс: збіраць у тайзе лекавыя травы. Ва ўсякім разе, менавіта так разумее гэтае слова зведаўшая жыццё сібірачка.

— Дык няўжо і ты, сынок, на дохтура вучышся?

— Не, бабуся, я пакуль не вучуся... Але буду вучыцца, абавязкова буду. Праўда, не на доктара.

— А ў мяне, знаеш, такая, як ты, унучка... Яшчэ два гады — і скончыць вучобу, цірапеўтам будзе. Яна, от, каторае лета таежнічае, лякобу збірае...

— Лякобу? — здзівіўся я, бо ўпершыню чуў гэтае слова.

— А ча? Узяць хоць бы, от, абляпіху... Карысная ягада,— у пацвярджэнне галавой кіўнула: маўляў, іменна так, карысная.— Захоўваць яе проста, саўсім як і жураўліную ягаду... Прырода, дзетка, утойлівая, абы-каму, стрэчнаму-папярэчнаму, набрыдзе якому сакрэтаў сваіх не раскрые, з хопу-налопу нават зелля ад прастуды не знойдзеш, а пра жэньшэнь-корань і думаць неча. Жэньшэнь, віць, такі: ад злога чалавека ў зямлю ўвойдзе, а добраму напяродкі забяжыць...

— Вы сказалі пра сакрэты...

— Ага, сказала. І што ж тут не так?

— Які сакрэт, дапусцім, мае тая ж абляпіха?

— І не сакрэт — тайну! Пасадзі-тка абляпіху на гародзе абы-як — і ягад не будзе.

— Ну?..

— Ну — гну, дуга будзе! — усклікае бабуля весела.— Абляпіха, віць, сямейна жыве, палюбоўна: адзін кусток — ён, другі — яна...

Доўга мы размаўлялі. Чаго толькі не пачуў я ад гаварлівай спадарожніцы. Выходзіць, малако ўзімку можна замарожваць, і яно не пракісне на працягу месяца. Замарожваюць і ягады — буякі, напрыклад. Канечне ж, і буякі карысная ягага — спрыяе рабоце сэрца...

Во сустрэў чалавека — не бабуся, а цэлая скарбніца мудрасці. І трэба ж, калі б сама яна не разгаварылася — усяго гэтага, можа, і не ўведаў бы ніколі».

І праўда, Міхалёў сустрэўся з цікавай бабуляй, каларытнай. Творча папрацаваў. Будзе, дальбог, з хлопца толк, толькі б не расчараваўся дачасна.

«Мучукта.

Кружлік пахваляўся, як ён пасля заканчэння работ на Таймыры, залетась, застаўся на колькі дзён у свайго каюра — нібыта дзеля таго, каб пахадзіць з ім на паляванне, пасабаляваць у ахвот-

ку... Жонка каюрава гады два ўжо як памерла, і ў хаце гаспадарыла Мучукта, адзіная дачка каюра, якой тым годам споўнілася семнаццаць. Маладая гаспадыня прыглянулася Кружліку, і ён ёй — таксама, бо нездарма ж дазваляла такія-сякія вольнасці ў адносінах да сябе. Яна хацела, каб гэты «малады дзядзька» застаўся пры ёй назаўсёды, а ён, выходзіць, аднаго ад яе дамагаўся — блізкасці... Былі такія хвіліны, калі Мучукта сама і цалавала яго, і абдымала, і, здаецца, на ўсё з ім гатова была... ды ўсякі раз, як толькі яны ўсчыналі палюбоўную валтузню, прачынаўся каюр, бацька Мучукты, і нездаволена крэкчучы, злазіў з печы, сунуўся ў парог, чэрпаў з кадушкі ваду і няспешна, з перадыхамі, піў, пасля запальваў сваю старую люльку з калінавым муштуком, браўся на печ і ўжо не спаў да раніцы — курыў і курыў... І яны, Мучукта і Кружлік, чалавек са свету, прыціхлыя, знясіленыя чаканнем, ціхамірна засыналі ў адной пасцелі.

Кружлік прачынаўся, калі сняданак быў ужо на стале, гатовы. Снедалі яны ўсе разам, размаўлялі, смяяліся — было падобна на тое, нібыта ён, Кружлік, ужо іх сем'янін, свой чалавек. Усё ішло менавіта так, як і было ім разлічана. І ўсё ж ён спяшаўся, рашыў паскорыць свой ад'езд — спаіў каюра, а сам устрымаўся піць, хоць да гэтага рэдка калі лажыўся спаць на цвярозую галаву. Каюр заснуў хутка, і сон яго быў моцны, з храпам і свістам. Кружлік ціха аклікнуў Мучукту. Яна ахвотна азвалася, і ён спрытна, як звер, пакінуў сваё лежыва і перайшоў да Мучукты ў шырокі ложак, завешаны ад хаты паркалёвай шырмаю, улёгся ўтульна, як пры жонцы, і, стойваючы дыханне, стараўся быць асцярожны ў рухах — усё рабіў так, каб не выдаць свайго рашучага намеру. Дзяўчына падатна гарнулася да яго, а тады і зусім прытуліла сваю поўную шчаку да яго шчакі. Ён быццам і чакаў гэты момант — груба павярнуў яе на спіну... Уражаная такой бесцырымоннасцю, Мучукта пругка сцялася ўся, памкнулася выбіцца з-пад яго, уцячы да бацькі на печ, але ён быў наўздзіў моцны і ўвішны — як клешч прыляпіўся і рве, шматае ўсё на ёй...

Які ж галас падняла яна, які крык! Нябожчык і той, пэўна, ажывіўся б, а сонны чалавек, дарма што і п'яны, канечне ж, не мог не прачнуцца. Кружлік, напалоханы крыкам Мучукты, яшчэ і ў спальнік свой не схаваўся, як перад ім паўстаў з сякерай у руках разгневаны каюр.

— Вон з хаты, шайтан! — размахваючы сякерай, крычаў ён.— Блудзі тайга, памірай, шайтан!

Каб не ўмяшалася Мучукта, наўрад ці ўдалося б Кружліку затрымацца ў хаце. А так — дачка нешта сказала бацьку па-свойму, на дыялекце са́ха, і той суняўся — кінуў сякеру пад лаўку, усеўся за стол... І быў на дзіва разважлівы і памяркоўны — і з Мучуктай, і нават з ім, Кружлікам, нібыта зусім і не злаваў толькі што. Яны ўсёй тройцай выпілі, закусілі. Мучукта ўзяла Кружліка за руку і, не зважаючы на бацьку, павяла за шырму... Абодва леглі ў ложак.

Нейкі час каюр працягваў сядзець за сталом, курыў. Пасля патушыў святло і зноў пабраўся на печ. Як толькі заснуў, у Кружліка аж пад сэрцам зашчымела — Мучукта прычына гэтаму, яна! «От цяпер — уламаю,— думка варухнулася груба, памаўзліва.— І заўтра ж — на самалёт, завеі скончыліся...»

Здаецца, ён адно падумаў так, ні слова не сказаўшы ўголас, ды Мучукта нейкім чынам пачула, зразумела сэнс і ход ягоных думак.

— Заставайся тут, Філат, нікуды не едзь — і я ўся твая буду,— агарнула яго твар цёплымі далонямі, горача дыхаючы, шаптала далей: — А пакуль ты мой госць — я не ўся твая... Заставайся, не едзь. Паслухай мяне... Твая радасць — тайга, твая хата — наша хата, тваё шчасце — я, Мучукта.

— У мяне ж сям'я — жонка, сын. Яны чакаюць мяне.

— Ты жонку не любіш... Ты мяне любіш.

— Не, Мучукта: я жонку люблю... І ты мне па сэрцу прыйшлася. Гэта праўда. Не абманваю цябе.

— Не едзь... Будзем разам сабаляваць, грошы многа ў нас будзе. Зінаідзе і сыну пасылаць будзем — ім ад цябе нічога больш і не трэба ўжо.

Я чытала яе пісьмо — не любіць цябе Зінаіда. Яна чужая табе. І ты ёй чужы... Ты — мой.

— Дзе пісьмо?!.— Кружлік парыўна ўсхапіўся, сеў, хацеў быў закурыць, але Мучукта прыцягнула яго да сябе, сказала спакойна, шчыра:

— Злое пісьмо было, з праклёнамі... І я парвала яго, каб ты не перажываў, спаліла. Яно мне не спадабалася, злое пісьмо.

— Што ты нарабіла?!.— ускіпеў Кружлік.— Заўтра ж еду, хопіць!

Мучукта як не чула яго — працягвала гаварыць:

— Вы розныя... Вам трэба далёка быць: аднаму — там, другому — тут... Ты будзеш тут, са мной. Ты — мой, і я цябе ўсяго разумею. А Зінаіда чужая... Вы адно аднаму — чужыя.

— Гэта ты чужая... Не маеш права чужыя пісьмы чытаць, тым больш знішчаць!

— Дрэнных пісьмаў не павінна быць,— ціха сцвердзіла Мучукта.— Што ж, калі сабраўся — едзь. Толькі помні: у цябе ёсць Мучукта. Яна тры гады будзе чакаць, а не вернешся за гэты час — другой стане, цябе пракляне.

— Ідзі ты!..— Кружлік ледзь быў не вылаяўся, падняўся і стаў збірацца ў дарогу.— Клясці вы ўсе ўмееце...

Раніцою Мучукта правяла яго да самалёта.

Яна ўвесь час маўчала, і што ён ёй ні гаварыў, не пачуў у адказ ні слова».

Прызнацца, да гэтага — ёсць грэх, ёсць! — я не вельмі каб і сур'ёзна ставіўся да літаратурных памкненняў Міхалёва. Мне здавалася, што ўзяўся ён за пяро ў парыве душэўнага ўзруху, разлічваючы менавіта пісьменніцтвам прывабіць да сябе ганарліўку з вышэйшай адукацыяй — Веру Белышаву. Але ўсё гэта — і дзякуй богу! — не так. Умее Міхалёў разважаць, аналізаваць — амаль як і вопытны літаратар адбірае трапныя факты, дэталі і эпізоды непасрэдна з жыцця, нават з жыцця нашай брыгады. А вось я — я ўсё яшчэ дрэнна распазнаю людзей, тых нават, з якімі жыў побач. Пацвярджэнне гэтаму хоць бы і Кружлік (пра Ірыну Марчык і ўспамінаць не варта). Так, я не

зразумеў Кружліка, не разгадаў яго да канца, а Міхалёў — глыбока пранік у мітуслівую душу лавеласа, высвеціў усе цёмныя закуткі ў ёй і шчылінкі. Зінаіда Паўлаўна, выходзіць, нездарма на развод падала, не проста так, ад моды. Відаць, здорава такі даўся ў знакі мужанёк за шэсць гадоў сумеснага жыцця, калі рашылася на такое — развод... Відаць жа, і дома піў запоем, як і тут. Недзе перад ад'ездам ён выказаўся быў так у адрас Зінаіды Паўлаўны: «Яна ў мяне, знаеце, алмаацінка... З гарачых краёў шчабятуха, сонца любіць. А тут за шэсць гадоў не магла прывыкнуць да працяглых зім і кароткага лета, спадзявалася, што я не вытрываю яе буркаты і мы пакінем Сібір — паедзем да яе бацькоў (адна яна ў іх, мязённіца), а я заявіў ёй нядаўна, што нікуды зрывацца не намераны — не хачу! От яна пасля гэтага і замітусілася, бы клапіха перад запалкай. Гм, мне што — няхай едзе, я прывык тут жыць, без тайгі я не магу... Сы́нам ёй нечага мяне папікаць — аліменты буду спраўна плаціць, і, дзякуй скажа няхай, не малыя. А што? Яна, можа, знарок выскачыла за мяне, каб пасля развесціся, вярнуцца дамоў і жыць з маіх аліментаў».

Што-небудзь іншае пачуць ад Кружліка я, зрэшты, і не спадзяваўся. Мяне і зараз, прызнацца, не вельмі турбуе тое, што яго няма з намі. З'ехаў (няўжо да Мучукты?) — і няхай, з планам мы і без яго ўправімся, выканаем усе работы. А вось што да Зінаіды Паўлаўны, дык я ўпэўнены: яна не марнатраўка, не. Жыццёвы шлях яе роўны, без выкрутасаў. Пасля дзесяцігодкі скончыла курсы чарцёжнікаў, папрацавала год і ў час свайго першага адпачынку ў Місхоры пазнаёмілася з Кружлікам. Пасля, калі яны пабраліся, ён уладкаваў яе па спецыяльнасці ў цэх картографаў. Нарадзіўся сын, Міколка... А пачаліся згрызоты, сямейнае несуладдзе, Зінаіда Паўлаўна знайшла ў сабе мужнасць адмовіць Кружліку, і цяпер, трэба думаць, яна ўжо не зробіць памылкі ў выбары новага спадарожніка — жыццё з Кружлікам пад адной страхой многаму яе навучыла.

Наступны запіс у блакноце Міхалёва:

«Сцяпаныч і хлопцы...

Што я, уласна, ведаю хоць бы і пра Бокуша? Амаль нічога. Скрытны, негаваркі. Нарадзіўся ў вёсцы, недзе на Магілёўшчыне. А можа, якраз у тым самым раёне, Чавускім, дзе і бацькі мае нарадзіліся? Вёска бацькоў была невялічкая, стаяла на беразе ціхаплыннай рачулкі, назва якой Раста... Трэба ж, я, сын, ніколі не бачыў той самай Расты, на беразе якой прайшло маленства маіх бацькоў. То які ж я беларус?.. Сорам!

Такі ж самы і Вуцёха. Маці яго таксама беларуска. Праўда, Вуцёха адзін раз быў на яе радзіме, у цётак, якіх у яго ажно тры...

Назіраю за Сцяпанавічам. Падобна, настальгія ў чалавека, маркоціцца, сумуе ў далечыні ад роднага кутка. Як бы там ні было, а сцяжыны маленства клічуць... Таму, мусіць, і стараецца скамплектаваць брыгаду «землячкоў». Не хапае «землячкоў» — не цураецца тых, хто хоць нейкае дачыненне меў да Беларусі. У Шчыгла — жонка беларуска, аднекуль з-пад Калінкавіч, і ён, Шчыгол, праведаўшы, што Сінёў паблажліва ставіцца да беларусаў, назваўся спачатку беларусам, а калі яго залічылі ў брыгаду — адкрыўся: маўляў, жонка беларуска, другая, а сам ён — марыец. У Шумка — брат жыве ў Беларусі, у Мазыры. Корнеў нарадзіўся ў Волжскім, затое служыў у дэсантных войсках на тэрыторыі Беларусі. Гардуноўскі таксама духоўна блізкі да кожнага з нас, яго характар псіхалагічна адпаведны характару беларуса. Хоць бы і Бокуша. Яны, зрэшты, сябруюць. Знешне нават нечым падобныя: амаль аднолькавыя чупрыны — русыя, такія ж, русыя, і бровы — лёгкія мяцёлачкі, кучмастыя, выразныя; вусны — поўныя, спакойныя... Бокуш, праўда, на галаву ніжэй ростам, прысадзісты, як палявы дуб, такі, пра які кажуць: каржакаваты. Калі Бокуш стрыманы, дык Гардуноўскі — больш раскаваны, дазваляе жартаваць з сябе, але, праўда, не ўсім — толькі Шчыглу. Затое Кружліка — цярпець не мог, увесь час ігнараваў яго. Яно і Бокуш гэтак жа сама ставіўся да распараджэнняў Кружліка. А вось Сінёва, Сцяпаныча нашага, абое любяць, паважаюць. Асабліва Бокуш, які, думаю, Сінёву таксама прыглянуўся. Так, прыглянуўся. Адной-

чы, укладваючыся спаць, Бокуш пытае ў Сінёва: «Сцяпаныч, вот вы са Шмаціным сябруеце, так? А што вас яднае?..» І Сцяпаныч ахвотна павёў расказ: «Даўно мы сябруем... Упершыню пазнаёміліся на рудніку «Талнах». Начальнік змены, помню, кажа мне: «Пойдзеш, Сінёў, са Шмаціным... Ёсць там стары забой, а ў ім дабрэнны пласт руды застаўся — слабакі з брыгады Мурбаева пакінулі, інструкцыю па тэхніцы бяспекі спраўна выканалі». Я спытаў яго: «А хто ён, Шмацін?» Адказвае: «Узяўся памагчы табе... З вышэйшай адукацыяй хлопец, прасіўся ў забой ды ў забой, рабочым, яму адмовілі — прапанавалі пасаду інжынера па тэхніцы бяспекі. Залічылі ў штат, і ён выпрабавальны тэрмін праходзіць... Уважлівы будзь — рудны пласт дастаць няпроста, а больш за ўсё нязручна, забой нешырокі, трыногу трэба вузкую рабіць, высокую — няўстойлівая будзе. Звяртаюся да цябе, бо маеш вопыт...»

Ну, мы і пайшлі з ім. Удвух. Змайстравалі з дошак трыногу, пляцовачка атрымалася маленькая, як стаць аднаму. Залез я на гэту пляцовачку і пачаў бурыць. Шмацін унізе, трыногу прытрымлівае, назірае. А я бурыў-бурыў, бачу, стаіць інжынерык якраз пад глыбай. Спыніў бурэнне, кажу яму, каб адступіўся далей, не стаяў так. Ён адышоўся, і я зноў пачаў бурыць. Не прайшло і пяці мінут, як добры кус глыбы шухнуў уніз, упаў якраз на тым месцы, дзе толькі што быў Шмацін. Пабялеў ён, прыхінуўся спіною да трыногі, кажа: «Ну, Іван, дзякуй... Ты мяне, дружа, ад смерці ўратаваў. Павек цябе не забуду».

Вярнуліся з забою. Шмацін напісаў заяву і, бачу, у кантору падаўся. Звольніўся і з'ехаў з рудніка. Недзе праз год напісаў мне — запрасіў да сябе... І мы з ім цэлую сямігодку будавалі геадэзічныя пункты і знакі. Словам, па сёння працягваем служыць геадэзіі».

Вось яно як — вузельчык яны моцны завязалі, дружба між імі даўняя — мужчынская».

Схаваў блакнот у кішэню курткі і, каб — крый божа! — не згубіць яго, старанна зашпіліў гузік. Міхалёў мяне канчаткова пераканаў у тым,— пра гэта, зрэшты, і буду з ім гаварыць,— што яму не

трэба ўжо зацягваць з вучобай: на наступны ж год няхай паступае калі не ў літінстытут, дык ва універсітэт,— канечне ж, у адзін з нашых, беларускіх. Па-мойму, ён такі, Міхалёў, што ўсё, да чаго імкнецца, абавязкова здзейсніць — і, несумненна, з Белышавай сваёй наладзіць адносіны...

Падняўся [illegible] гранітнага выступу, выйшаў на сцяжыну. Куды ні глянь — хараство, прастор. І — усё тая ж вусцішнасць, пастаянная прысутнасць нечага звышрэальнага, адвечнага, святога...

Звярыных набрыдаў значна паменела ў цясніне, сцежка стала невыразная, нарэшце і зусім знікла. З чаго б гэта? Можа, што ўжо зусім блізка выхад [illegible] цясніны, і звяры назнарок не трымаюцца сцежкі, збочваюць і асцярожна, хаваючыся ў сланіку, тулячыся паўз сцены цясніны, неўпрыкмет мінаюць вузкае і менавіта з гэтай прычыны небяспечнае месца?

Так, цясніна канчаецца ўжо. Наперадзе мройна сівее змешаны з лістоўніцамі і соснамі кедроўнік, стройны, прыгожы.

Засакатала, зачачэкала арэхаўка — птушка гэтая заўсёды, як толькі адчуе небяспеку, заўважыць звера якога ці чалавека, дык не сціхае, пакуль той і не пакіне яе вотчыну. Менавіта так адбывалася ўсякі раз, калі выпадала нам бачыць арэхаўку. Зрэшты, я ўжо ведаю, што корміцца яна, арэхаўка, пераважна кедравымі арэшкамі, дзюба яе моцная, доўгая і вострая; у роце гэтай таежнай рупліўкі, казаў Сінёў, ёсць нават мяшэчкі-камеры, куды яна назапашвае арэшкі, якія потым закопвае ў зямлю. Па вясне, як правіла, арэхаўка на шмат якія сховы свае забывае, а то і проста не знаходзіць — і арэшкі застаюцца ў зямлі летаваць, прарастаюць...

Ці ж гэта не дзіва? Птушка — сейбіт, захавальнік тайгі!

Я лаўлю сябе на тым, што каб гэтак вось, як пра арэхаўку, ды пра кожную птушку, пра кожнага звера чалавек хоць трошкі ведаў з таго, ШТО яны, птушкі і звяры, ДАЮЦЬ прыродзе, як і чым звязаны з ёй і паяднаны між сабою, то наўрад ці стаў бы ён, чалавек, паляваць дзеля таго

толькі, каб наталіць свой спрадвеку прагны на прысмакі страўнік. А гэта ж — ён нават і на арэхаўку палюе, так. Кружлік некалькіх звёў...

Раптоўна зямля хіснулася пада мной — няўжо землетрасенне? — і тут жа выслізнула з-пад ног: я праваліўся ў нейкае цёмнае прадонне. Калі б не рэзкі, пякучы боль у правай ступні, магчыма, і ўстаяў бы, не ўпаў, а так — не змог утрымацца, паваліўся на правы бок, а ў дадатак яшчэ і выцяўся скроняй аб нешта цвёрдае: у вачах мітусліва замільгацелі, заскакалі чырвоныя зайчыкі... Апынуўся я ў дужа сцюдзёным і, хоць вочы выкалі, цёмным скляпенні. Паспрабаваў падняцца — запякло, забалела ў правай ступні, і я не змог падняцца. На дне ямы, выявілася, аказаўся абрэзак аполка, а ў ім — як хто назнарок падстроіў — тырчаў вастрыём угару ржавы цвік, на які я і напароўся, праткнуў ступню навылёт. І ўсё ж я хутчэй інстынктыўна, чым свядома, сеў, ірвануў прыліплы да падэшвы аполак і з сілай шыбнуў яго ад сябе, і ён упаў на нешта мяккае, не грукнуў аб сценку ямы, аб падлогу. Мне падалося, што ў гэтым мядзведжым берлагу нехта ёсць, і я ўзяў тозаўку наўзгатоў і колькі часу насцярожана ўзіраўся ў шэры паўзмрок скляпення. Сонца хоць і ў зеніце недзе ўжо, аднак праблёскаў яго тут не відаць амаль — цягнуцца ўсяго толькі некалькі цененькіх жылак паўз краі дашчаных шаляў, што шчыльна закрываюць — закупорваюць! — прадаўгаватую зеўру ямы.

Збольшага разабраўся-такі ў абстаноўцы: вакол мяне як папала, роілам, звісаюць і ляжаць долках пакарабачаныя вільгаццю палосы кары, што паадхлупала ад плах. Пасвяціў запалкамі — пераканаўся, што гэта сапраўды лоўчая яма-пастка, і зроблена, трэба сказаць, адмыслова, надзейна. Усе чатыры сценкі яе абстаўлены плахамі, якія і ўнізе, і ўверсе змацаваны між сабою кавальскай работы скобамі; дно таксама вымашчана плахамі. Памеры ямы-касткі даволі ўнушальныя: глыбіня недзе каля чатырох з нечым метраў, даўжыня — прыкладна метраў на пяць, не менш, шырыня — больш за паўтара метра... Самы што ні ёсць мядзведжы карцэр, у якім чалавеку

доўга не працягнуць: не загнешся ад холаду — голад даканае.

Ціхата наўкол — ні гуку, ні шолаху. Пачуццё насцярогі знікла, і я зноў паспрабаваў падняцца — не сядзець жа склаўшы рукі, трэба шукаць нейкае выйсце. Ды як падняўся — так і сеў тут жа: шалёны боль працяў мяне ўсяго, галава пайшла кругам... Лёг на спіну, знерухомеў. Колькі часу ляжаў так, нерухома. Трохі ачомаўся, сеў і рашуча, не зважаючы на страшэнны боль, зняў бот. Аслабаніў нагу ад густа набрынялай крывёю анучы, адчапіў з тозаўкі раменьчык і ціска, да болю, аперазаў ім нагу чуць ніжэй калена. Рана перастала крываівіць, і я перавязаў яе насоўкай. Аднак заспакоіцца ўжо не мог: неаціхны, з наплывамі боль паліў, як агнём. Калі б такое няшчасце здарылася са мною дзе-небудзь ля ручаіны, то нізашто не ўтрымаўся б і, здаецца, насуперак медыцыне «збіў бы» гэты пякельны агонь вадою...

Цягнула легчы, але на прамёрзлых плахах не вельмі наляжыш — ураз прастудзішся, і я наабдзіраў кары, згарнуў яе ў прадаўгаваты, уздоўж ямы, грудок, разраўняў — зрабіў подсціл і, усё яшчэ не здымаючы жгута, лёг на спіну. Боль неяк адразу адхлынуў, пацішэў, а потым і зусім знік. Ну так, не чуваць болю... Добра гэта ці блага?

«Самае дзіўнае, што мне зусім не баліць,— сказаў ён.— Толькі так даведваюцца, калі гэта пачынаецца.

— Няўжо зусім не баліць?

— Нікольki...»

Ну во — прыгадаліся «Снягі Кіліманджара» Э. Хемінгуэя. Што гэта за напамін?.. З чаго б яна мне, такая прыгадка?

Мяне ажно ў пот халодны кінула — якая ўсё ж будзе недарэчнасць, калі, не тут кажучы, і са мной здарыцца тое ж самае, што з Гарры... Зрэшты, Гарры, відаць, назнарок пазбягаў прамаўляць уголас слова «гангрэна». Ён баяўся яго, бо і сапраўды яно, слова гэтае, нязвыклае на слых,— здаецца, нават такое ж брыдкое, як пацук, страшнае і, як і ўсякае ліха, мае свае разнавіднасці: сухая гангрэна, вільготная (гніласная), газавая...

Божа, чаго толькі не памірсціцца пад час міжвольнай слабасці. Але ж нічога дрэннага — упэўнены! — са мной не здарыцца. Не можа здарыцца... Не! Мала я ў дзяцінстве, бегаючы басанож, прабіваў ногі на ражны ўсякія, іржавыя цвікі і асколкі, збіваў да крыві калені і рукі — і ніякай інфекцыі. Медыцынай, праўда, засведчаны такія выпадкі, калі чалавек паміраў пасля ўколу звычайнай іголкі (бацька Маякоўскага). У мяне ж — не іголачны «ўкус», а навылёт прадзіраўленая ступня, самая што ні ёсць скразная рана... Як прадухіліць інфекцыю і чым? Што рабіць, што?

«...гіена завыла так гучна, што яна прачнулася і ў першую мінуту не магла зразумець, дзе яна, і ёй стала страшна. Яна ўзяла кішэнны ліхтарык і асвяціла ім другі ложак, які ўнеслі, калі Гарры заснуў. Яна ўбачыла, што ён ляжыць там, пакрыты сеткай ад маскітаў, а нагу чамусьці высунуў з-пад сеткі, і яна звісае з ложка. Павязка спаўзла, і яна баялася паглядзець туды.

— Мола,— паклікала яна,— Мола, Мола! — Потым крыкнула: — Гарры, Гарры! — Потым гучней: — Гарры! О божа, Гарры!

Адказу не было, і яна не чула яго дыхання».

Што гэта са мной? Ніколі не думаў, што вось так, як зараз, змагу некалі сыпаць цытатамі з Хемінгуэя. Трэба ж, зрокава помню амаль усё апавяданне, з абзацамі і знакамі прыпынку.

«Ад страху так бывае, ад страху!» — здаецца, нехта як нада мной усё роўна застрашліва сказаў гэта мне, і я мусіў тут жа ўладна загадаць сабе: «Супакойся!»

Зноў памкнуўся падняцца, але рэзкі, пякучы боль скаваў мае рухі, і я, спатнелы, знясілены, лёг, як і да гэтага ляжаў, на спіну. Супярэчлівы настрой авалодаў мною: ад таго, што чую па-зверску люты боль, мне стала весела раптам... Святая наіўнасць, я радаваўся ад таго, што ніякія, значыць, тканкі, а тым больш нервы не адміраюць, калі чуваць боль. Аднак радасць мая была кароткай — праз колькі хвілін я ўжо шкадаваў самога сябе, баяўся памерці ў гэта праклятай пастцы.

«Ды не памрэш ты, лоб, жывы будзеш, жы-

вы!» — зноў прагучаў той жа голас, але ўжо з насмешкай, і мне стала сорамна, я пазнаў гэты голас — ён мой, уласны.

Уліп я, здаецца, капітальна: трапіў у нерат, што ні ўзад ні ўперад. І зараз самы раз панасміхацца з сябе, што я, зрэшты, і раблю: «На рабчыкаў пацягнула? Далікатэсаў захацелася?.. Паспадзяваўся на лёгкую ўдачу — от і выкручвайся цяпер, абалдуй, варушы мазгамі, дзейнічай, пакуль не выбіўся з сіл».

Але ж і праўда, акурат у пекла трапіў, дзе калі чаго і не стае, дык гэта катла з кіпячай смалой. Дапусціць такі промах мог толькі прафан з прафанаў. Пачынаючы следапыт, нявопытны таежнік і той, здаецца, здагадаўся б, што, калі сцежка знікла, значыць, нешта няладнае наперадзе — якраз, можа, паблізу дзе, на падыходзе да гэтай лоўчай ямы, і шыльда ёсць, на якой сказана, што наперадзе пастка... А я напралом пёрся, усё прамінуў — мяне зачабіла дзівосная птушка арэхаўка... Яна ж, мусіць, папярэджвала, падавала знак, каб не быў такі бяспечны, каб спыніўся і агледзеўся, збочыў са сцяжыны, абмінуў пастку. Я не зразумеў трывогі арэхаўкі, за што і пакараны.

Няма мне апраўдання ўжо нават і ў тым, што так безразважна — без харчу — выбраўся ў тайгу. Сказаць, што вельмі спяшаўся, дык не ж: усё абдумаў і ўзважыў, не забыўся ўзяць біклажку з чаем, нож, запалкі, леску з трыма запаснымі кручкамі, куртку апрануў на выпадак дажджу... Што ж бы ўжо і хлеба лусту сунуць у кішэню, не зашкодзілі б і адна-дзве цыбуліны, кансерва. А я нічога гэтага не зрабіў, пра яду забыўся — проста не надаў належнай увагі словам Сінёва: «Ідзеш у тайгу на паўдня — правізіі на тыдзень бяры». Прапусціць міма вушэй такую слушную параду, ігнараваць яе — тое ж самае, што пайсці самахоць на заўчасную згубу... О, божа, ратуй мяне, шалапута няшчаснага!

Падвёў я хлопцаў... Купіў і барана і авечку — адно грошы знёс!.. Во задам клопату Сінёву — сапсую і без таго невясёлы настрой. Прыедзе, а тут яму — сюрпрызік: «ЧП — Бокуша няма, пра-

паў...» Ясна, не да работы будзе, пачнуць шукаць мяне, дзеля гэтага, вядома ж, верталётноймуць. Ды што ён зробіць, той верталёт, калі я, як барсук, сяджу на глыбіні некалькіх метраў у добра замаскіраванай яме-пастцы, зробленай няйнакш як на мядзведзяў? Ну прахлябешча над цяснінай, пачую рокат ягоны — і толькі, уся мая радасць. Марная трата часу і сродкаў — верталёт не прамінуў бы, калі б я дзе-небудзь на палянцы быў, пры цяпельцы дымным, а тут — наўрад ці хто знойдзе мяне: спадзеўка на тое, што паляўнічы, уладар гэтага, канечне ж, браканьерскага збудавання, не сёння-заўтра прыйдзе і вызваліць, не вельмі ўсцешвае, разлічваць трэба толькі на самога сябе. І ўсё ж, мушу прызнацца: мне яшчэ пашанцавала, магло быць і горш. Сапраўды, ну што б я рабіў у гэтай чортавай лядоўні, калі б не апрануў куртку? Акалеў бы ўжо, няйнакш. Ды што куртка? Без нажа — гэта ўжо так! — я нізавошта не выбраўся б... А так — выйсце ёсць. Памойму, адно-адзінае пакуль: трэба набрацца цярпення і перарэзаць нажом адну з плах — знізу, пад скобамі перарэзаць. Не было б у гэтым скляпенні падлогі, якая таксама надзейна ўмацавана, паспрабаваў бы выразаць толькі тыя мясціны, дзе ўбіты скобы — намнога хутчэй управіўся б.

Дзіўна, я ўжо трымаюся нават больш чым спакойна, упэўнена, адчаю і знаку няма: Сінёў вернецца толькі заўтра вечарам, то ці ж мне столькі часу сядзець тут? Не-е, выграбуся адсюль да таго, як мяне пачнуць шукаць!

Холадна ў яме, няўтульна. А тут яшчэ рана дыхту дае — баліць, аж няма як цярпець. Зняў жгут. Кроў ужо не так, як раней, а ўсё ж сочыцца, насоўка ўся мокрая. Трэба зрабіць перавязку... Зноў жа, бінт і вату не прыхапіў на ўсякі выпадак, ёду таксама няма — от і рабі перавязку...

Мне прыгадаўся ляснік, аднавясковец, сусед наш. Яго падпільнаваў на абходзе браканьер, злы чалавек, падстрэліў у нагу. Можа, і зусім хацеў забіць, ды прамазаў, параніў толькі. Небарака недзе больш двух сутак поўз дадому. Дык вось ён тады, ляснік, бараніўся так ад гангрэны: разрадзіў набой і порах змяшаў са жменяй зямлі, на-

церушыў серы ад запалак, затым усё гэтае месіва запаліў. Порах і сера згарэлі, засталася закураная і злёгку гарачаватая зямля, якой і прысыпаў рану.

Нешта падобнае і ў мяне атрымалася: навыкалупваў нажом са шчыліны, якую лёгка адшукаў між плахамі, зямлі, папярэдне падсушыў яе ў далонях, разрадзіў, праўда, не адзін патрончык, а недзе каля дзесятка — не лічыў, запалак таксама не шкадаваў, і, перамяшаўшы ўсё гэта, высыпаў на прыклад вінтоўкі (ляснік выкарыстаў вечка партабака) і запаліў... Прысыпаў рану як мае быць, на бінты — майку падраў, а ступню, каб не даймаў холад, ухутаў у кашулю і ўсю гэту кулдосу шнурам абкруціў. Ну во — цяпер, бадай, можна і за работу брацца.

Чыркнуў запалкай, паглядзеў час — роўна пятнаццаць гадзін. Якраз абед, і хлопцы, пэўна ж, усаджваюцца ўжо за сталы (пасля ўчарашняга канфузу Шчыгол, трэба думаць, смачна ўсё згатаваў) і нейкі час бяскрыўдна перагыркваюцца міжсобі, пасля нехта з іх — Гардуноўскі ці нават Міхалёў — спахопліваецца і загаворвае пра мяне. Пачуўшы маё прозвішча, Шумок, канечне ж, узбурваецца за тое, што пазнюся, адпускае ў мой адрас самыя адборныя мацюкі — ён гэта ўмее рабіць. Шчыгол заклапочана зіркае на гадзіннік і прамаўляе сваё: «Ну й Бокуш, потрах чортаў!.. Гэта ж ён назнарок позніцца — ігнаруе мой абед».

Не, лепш не думаць пра яду... Хаця — падсілкавацца і мне не шкодзіць — харч такі-сякі маю: цэлую жменю шыпшыны і поўны амаль капялюш глогу. Толькі ж да шыпшыны і глогу нечага зусім не цягне. Зараз бы ў адну руку ўзяць хлеба кусьмень, як у нас на вёсцы кажуць, а ў другую — малака кварту,— дзіўна, я заўсёды, калі прагаладаюся як след, толькі і думаю пра хлеб з малаком.

Есці ўсё ж хочацца, і вельмі. Здаецца, аб'явіся тут зараз, у гэтым скляпенні, сам чорт — жыўцом бы яго праглынуў, адразу, за адзін прысест. Але чорт, як відаць, не такі разявака, як я, лоўчыя ямы абмінае. Уцешыўся, аднак, тым, што папіў з біклажкі вады, прагнаў смагу.

Ну і дзянёк выдаўся — наўздзіў недарэчны, каварны (запомню назаўсёды гэту нядзелю, першую ў жніўні!): наколькі пачынаўся ўрачыста і радасна, настолькі пакутным і да чорнага змрочным стаў а другой палове.

...Нялёгкі для мяне дзень, катаржны — каторую ўжо гадзіну запар рэжу плаху, пяклуюся, а ў галаве адно: «Як хоць там хлопцы? Не падумалі б чаго дрэннага пра мяне — я ж не вінаваты...»

Шчырую без перадыху над плахай, адно час ад часу, каб не дранцвела параненая нага, надаю ёй новыя позы. Нож прытупіўся ўжо, на далонях усхапіліся чырвоныя пухіры, ды я не зважаю на іх — толькі б аслабаніць плаху ад мацавання, а там — нараблю на ёй папярэчных нарэзаў, пастаўлю наўскос і, як па лесвіцы, выберуся наверх. Хутчэй бы!

Здаецца, калі б зараз паназіраў хто за мною,— ну, скажам, пры дапамозе схаванай кінакамеры, як цяпер модна рабіць,— дык мог бы, чаго добрага, падумаць, што я знаходжуся тут даўно, абжыўся, звыкся з абставінамі і што, канечне ж, сам, па сваёй волі залез у гэты бярлог. Карацей, варта было б да ўсяго вядучаму дадаць, што чалавек, які зараз на экране, маўляў, не проста так, выпадкова сюды трапіў і, каб развеяць сум, нешта робіць паціху, прабаўляе час,— не, ён лечыць радыкуліт холадам... Зрэшты, у наш супярэчлівы век усё магчыма, і наўрад ці ўсумніўся б хто ў такім метадзе. Пракруціць такую, прыкладна, перадачку па тэлебачанні, назваць дакладна каардынаты цясніны — і на працягу ўсяго лета сюды валам валілі б хранічныя радыкулітыкі, акурат як да таго цёплага аршана, што непадалёк ад Курганіхі... Мы былі там нядаўна і бачылі, як людзі ў загадзя выкапаных варыўнях-лёхах, голыя, сядзяць па вушы ў пеністай вадзе, грэюць косці, а заадно і прастуджваюць іх. Вада ў аршане, канечне ж, цёплая, нават гарачая, пара так і валіць, але ж за некалькі метраў ад аршана зямля сырая, наўкруг зона вечнай мерзлаты...

Ну во — голад ужо адступіў. І нага не баліць, рана супакоілася, не торгае. Але ж і змарыўся, ушчэнт выбіўся з сіл. Затое рэзаць засталося, мо-

жа, на адзін замашны цюк сякерай, не больш. Лёг адпачыць і... прыснуў. І снілася, быццам Сінёў прыехаў з горада з Дуняй, і яна прывезла той самы чорны паўкажушок, які мне спадабаўся, калі мы парадкавалі на складзе цёплую вопратку. І я, здаецца, апрануў паўкажушок, а ў ім зусім і не цёпла, наадварот, яшчэ халадней стала. Я — да вогнішча, грэюся і не магу сагрэцца, зуб на зуб не трапляе, дрыжыкі бяруць. І тады я лёг, а хлопцы давай кідаць на мяне ўсё, што мелася з вопраткі — ватоўкі, курткі, спальнікі распластаныя, кошмы. Вось і Шчыгол, жартаўнік, выскаляка, бачу, узяў Дуню на рукі і нясе ў мой бок, гыгоча. А яна, Дуня, і рада, не выбіваецца ад яго. Паднёс — і кінуў яе, і якраз жа на хворую нагу. «Ой-і!..» — я не стрымаўся, голасна крыкнуў і... прачнуўся. І працягваў енчыць ад сапраўды няўцерпнага болю ў ступні. Енчыў і курчыўся — вельмі балела мне, да няўцерпу. Увушшу стаяў нейкі нязвычна-назойлівы шум. Я перасіліў сябе і ацiх. Не адразу, але даўмеўся-такі, што гэта сыпаўся зверху, з шаляў, высахлы пясок, шархацеў па кары.

Рука мая мімаволі пацягнулася да тозаўкі. Паволі, бясшумна падняўся з падсцілу, прыпёрся левым плячом да сценкі ямы, скіраваў тозаўку ў процілеглы ад сябе бок, туды, адкуль выразна чулася нечае ўзрушанае, пахаплівае дыханне. З'явілася жаданне стрэліць на ўсякі выпадак: а раптам які небяспечны для мяне звер уваліўся, дзік або мядзведзь? Аднак стрымаўся, падумаў: «А можа, гэта я сам дыхаю так?..» І праўда, калі б такі звер, драпежны, апынуўся побач са мною, то не таіўся б, не стаяў палахліва ў кутку ямы — з ходу рушыў бы ў наступ на мяне, выявіў бы адразу сябе.

І раптам мне прыгадаўся сон... Я затрывожыўся, у момант адвёў рулю вінтоўкі ўбок, ціха, стоена паклікаў:

— Дуня?..— Я хваляваўся, гарэў жаданнем сустрэцца з Асаўцовай, чакаў яе, верыў, што прыедзе — і вось, яна такі прыехала, дамаглася свайго і, канечне ж, пайшла з хлопцамі шукаць мяне... Я ўжо ўпэўнены быў, што зараз пачую яе

голас, і больш гучней паклікаў, выразней: — Дуня... Ты?!. — стаіў дыханне, замёр.

Адказу не было.

Расчаравана ўздыхнуўшы, з неахвотай і болем у сэрцы мусіў вярнуцца ў яву. Прыслухаўся — ўжо нічога не чуў: ні чужога пахаплівага дыхання, ні назойлівага шорхату пяску. Знясілены, лёг на подсціл, каб не заплакаць, моцна зажмурыў вочы...

Можа, паўгадзіны так ляжаў, а то і больш. Нарэшце ўзлокціўся, намацаў біклажку з вадой, напіўся і нават троху, праз сілу, замарыў чарвяка глогам і шыпшынай. Зручна ўсеўшыся, павастрыў нож аб ствол тозаўкі, і работа пайшла, здаецца, барзджэй: плаха сырая, разбухлая — хоць і марудна, але паддаецца ўсё ж. Гэты раз на дзіва хутка змарыўся, зноў лёг адпачыць. Можна было б паспаць гадзіну-другую, бо ўсё роўна ж поначы нікуды не пойдзеш, ды яшчэ з такой нагой, але спаць я ўжо не мог, не хацеў — рупіла адно: хутчэй выбрацца адсюль, хутчэй!

І я такі праз колькі часу ўправіўся з плахай — перарэзаў яе, нават зрушыў убок. Зямля знаёма зашархацела па кары, насеялася мне на рукі, за каўнер. Я надумаў паглядзець, як яна, плаха, трымаецца ўверсе, што там за скаба і як доўга мне прыйдзецца тузацца. Разрадзіў тозаўку, склаў некалькі запалак разам і ўторкнуў іх у дзірачку ствала, запаліў і падняў агонь... Не абрадаваўся — скаба тоўстая, увагнана глыбока ў сярэдзіну плахі, і каб сарваць яе, папацець як след давядзецца.

Запалкі дагарэлі, у яме стала цёмна.

Каб зручней было, я, апіраючыся на тозаўку, падняўся так-сяк, учапіўся за плаху аберуч і, стоячы на адной назе, стаў з сілай расхіствацца ў бакі. Плаха рыпела, зямля цуркамі сыпалася на мяне, а я ўсё гайдаўся з боку ў бок, адпачываў і зноў гайдаўся, аж пакуль плаха не сарвалася і не дзёўбнула завостраным, як аловак, канцом якраз побач з маёй нагой, здаровай, пахілілася і ледзь не паваліла мяне. Я цудам перасіліў яе, утрымаў, і яна легла на сценку ямы, у куток,— адхонна, акурат лесвіца, як мне і трэба. Я паду-

маў, што, можа, і без папярэчных нарэзаў абыдуся; гэтак жа, як і раней, асвяціў плаху. Кары на ёй ужо не было — аб'ехала ўся, і цяпер я добра бачыў, што гэта напалам расшчэпленая вяршаліна лістоўніцы, на ёй шмат сукоў, і, зрэшты, большасць з іх абсечаны абы-як,— значыць, ёсць за што зачапіцца назе. А скаба, выходзіць, засталася ў пласе, што таксама няблага, ухаплюся за яе рукамі...

Агонь ужо затухаў, калі я апусціў тозаўку, але яго нняяркае святло знячэўку выхапіла з цемры фігурку нейкага звера. У гэты ж момант звер нечага заперабіраў нагамі, і яго капыткі гулка затукалі па драўляным насціле.

Казуля?

Кабарожка?.. Хаця — у кабарожкі іклы, знешне яна страшная, нагадвае чорта, а гэтая звярына прыгожая, падобна, што маладое...

Ізюбраня?

Я зноў засвяціў сваю «пераноску» і на колькі мог прыблізіў агонь так, што звярка стала добра відаць. Няма сумнення — трапіла да мяне ў напарнікі маладое ізюбраня. Яго поўныя адчаю вочы насцярожана глядзелі ў мой бок, а ўся пастава была гатовая да рашучага скачка: ізюбраня сапраўды чуць падалося наперад, напружана сцялася — і не зварухнецца. Я добра бачыў яго тонкія рожкі. Яны яшчэ не поўнасцю збавіліся ад скуры, якая дзе-нідзе калматымі махорчыкамі звісала наўкруг. Адзін з рожкаў, правы, быў напалову ссечаны, што адразу кінулася мне ў вочы. Гэта ўзрушыла мяне, выклікала спагаду да маладога зверука, і я сказаў:

— Не бядуй, дурненькі... Я выратую цябе!.. Не заб'ю, не.

У яме зноў стала цёмна, і я ўжо больш не турбаваў ізюбраня — начапіў тозаўку на раменьчык, узяў яе на плечы, захапіў біклажку і нож — аперазаўся поясам і паспрабаваў лезці... Тут жа і з'ехаў назад. Хуценька скінуў і другі бот, зноў пабраўся на плаху, абеbecause, моцна абдымаючы яе, баючыся саслізнуць уніз. На дзіва хутка дасяг скабы, адной рукой, праваю, ухапіўся за яе. Адпачыўшы троху, пабраўся далей. Калі цвёрда,

усёй падэшвай здаровай нагі (анучка ссунулася і ўпала) стаў на скабу, паспрабаваў паволі, запускаючы пальцы між плах, падымацца. Нарэшце галава торкнулася ў шалі, і яны лёгка падаліся ўгару. На мяне дыхнула цёплым паветрам, тайгой. Я спрытна і чэпка падцягнуўся на руках, выкаціўся з-пад шаляў і адпоўз убок, аж за сцяжыну, павярнуўся на спіну...

Неба поўнілася зоркамі, агняна зіхцела, смяялася. Я глядзеў у яго бясконцую бездань і таксама смяяўся — шчыра, шчасліва, як малы. Пасля гэтак жа сама шчыра і доўга плакаў і нічуць не саромеўся сваіх слёз.

Збіраўся распаліць цяпельца і абагрэцца, але нечакана заснуў і спаў, пакуль і не развіднела, не ўгрэла сонца. Пабудзіла мяне ўсё тая ж арэхаўка. Яе пранізліва-настойлівы сокат быў гэты раз як насмешлівы, трывогі і знаку ў ім не адчувалася. Недзе побач з арэхаўкай траскатаў дрозд, ценькалі сініцы, зводдаль, на краі цясніны, тугукаў дзікі голуб.

Без мыліцы я не мог ісці і мусіў зрабіць яе — выразаў звычайны кій з развілкам. Нагу ў калене сагнуў, прасунуў у развілак, прайшоўся — ісці можна. Прыклыпаў да пасткі, стаў аглядаць. Замаскіравана яна проста цудоўна — дзёран споверх шаляў, зялёная траўка на ім, і нават абрысы сцежкі відаць!

Я лёг на жывот, націснуў рукой на шалі — адзін канец, гэты, на які націснуў, падаўся ўніз. Прытрымаў яго, зазірнуў у яму. Ізюбраня ўсё ў той жа пільнай насцярозе, незварушна, стаяла на ранейшым месцы, у кутку ямы.

Я паспрабаваў быў сарваць шалі з перакладзіны-восі, каб у яме стала святлей, але што ні рабіў — ніякай рады шалям не даў, адно ссунуў троху дзёрну, і шалі цяжэйшым канцом апусціліся ў яму. Ну во, цяпер ужо ў пастку ніхто не трапіць, яе добра відаць здалёк. Але ж, праўда, ізюбраня таксама відаць зверху. Ды гэта не страшна, няхай. Драпежны звер у яму не палезе, ад чалавека засцерагу ізюбраня запіскай. Выдраў з блакнота Міхалёва чысты ліст і напісаў друкаванымі

літарамі на ім: «Ізюбраня не чапаць!.. Хутка вярнуся. Бокуш». Начапіў запіску на шалі.

Брыду па цясніне назад, туды, адкуль прыйшоў, так і не дасягшы кедраў-веліканаў. Метраў праз сто, не болей, спыняюся і адпачываю, выціраючы рукавом пот з ілба і шчок. Навярэдзіў нагу як мае быць, і боль ачнуўся, стаў даймаць усё больш і больш. Гэта мяне толькі заспакоіла: чую боль, значыць, усё ў норме. Ура!

Паціху клыпаў, засяродзіўшы ўсяго сябе на тым, каб зручней ступаць, каб толькі не спатыкнуцца, не аступіцца. Наўкол сябе нічога ўжо не заўважаў, затое сцяжыну бачыў добра, абмінаў кожную ямінку, нават самую нязначную. Канечне ж, забыўся і на загадкавую кветку на стромай сцяне цясніны. Стала добра чуваць вадаспад, і я міжволі паскорыў крок і ўжо не спыняўся, пакуль не ўбачыў бурапеннае азерца з валунамі. Цясніна тут зноў была шырокая, сонца зіхка высвечвала шпілястыя патырчакі адгор'яў, пранізвала дужымі ранішнімі промнямі наўздзіў срэбна-зялёныя варухлівыя паясы вадаспада.

Папіў вады, набраў у біклажку, пастаяў колькі часу. Рашыў падняцца да возера і налавіць на сняданак рыбы — вудка ёсць, а вудзільна зрабіць няцяжка. Нажыўку, вядома ж, найду: чарвей не будзе, конікаў у траве налаўлю, а не — саранчовай кабылкі шмат.

Не ішоў — поўзма гробся на строму. На краі цясніны аддыхаўся, зноў стаў на «мыліцу». Абмінуўшы каменныя нагрувашчванні, выйшаў на нядаўна выкашаны лужок з копамі і, уражаны ўбачаным, спыніўся: злева віднеўся праз рэдкія кусты высокі густы плот-частакол. Зарадаваўся, захваляваўся — няўжо вёска? — і як не ўподбежкі, колькі хапала сілы, пачыкільгаў да загарадзі. Кусты расступіліся раптам, і я ўбачыў шырокі падворак і старую хатку ў засені кедраў. Ад падворка пачынаўся і цягнуўся праз увесь палетак шырокі клін буйнамяцёлкавага, ацяжэла-наліўнога аўса, ужо, бадай, добра выспелага; астатнюю плошчу абнесенага плотам палявога абшару займала бульба...

Я ўжо быў непадалёк ад хаты, метраў, можа, за дзвесце-трыста, як агледзеў на плоце мядзведжыя задзіры — глыбокія пісягі ад кіпцюроў. Скрозь паўз загарадзь поўна свежых дзічыных слядоў. Відаць, таежныя ласуны наведваюцца сюды ўночы — авёс і бульба прыцягваюць іх, непакояць. Але як ні ўглядаўся, авёс нідзе не паклычаны, бульба не пакапана — ні мядзведзі, ні дзікі, падобна, не дасягаюць сваёй мэты.

Хата зусім ужо блізка. Я сунуся паўз плот, прачыкільгаю, часта прыпыняюся. Ужо добра праглядваецца ўвесь падворак, у адным кутку яго прымыкае да сценкі хлява жардзяны загончык ці не з пяццю авечкамі, сярод якіх на першым плане стаіць у ваяўнічай насцярозе баран і пільна глядзіць у мой бок.

Нечакана з расчыненых напята сенцаў выхапіўся калматы сабака, чорны, трохі меншы за авечку, спыніўся пасярод двара і стаў брахаць, час ад часу зіркаючы на вокны хаты. Брахаў ён, мне падалося, без асаблівага азарту, лена — проста даваў знаць гаспадару, каб выходзіў сустракаць прышэльца, які ніякай небяспекі не нясе ў хату, бо не крадма цікуе, а ідзе наўпрост ды яшчэ і кульгае. Неўзабаве на голас сабакі выйшла з хаты жанчына. Яна адразу заўважыла мяне, спынілася на ганку, няголасна кінула:

— Абыдзіце хату... Варотцы тут во, з гэтага боку,— паказала рукой на дашчаную брамку, якую мне ўжо было добра відаць.

Сабака спыніў брэх, матнуўся да брамкі, прачыніў яе сам і, абабегшы хату, даверліва паўстаў перада мною. Смяльчак ён усё-ткі, сабака гэты, не пабаяўся, дарма што і пры зброі я. Асцярожна абнюхаў мяне, вільнуў хвастом і саступіў убок. Я правільна яго зразумеў: даў госцю зялёную вуліцу.

— Дзякуй за давер, добры сабака,— сказаў я і пакіраваў у абход хаты.

Жанчына сустрэла мяне ля брамкі, узяла спачатку за руку, потым — за падпашша, ступіла на сходні ганка, спытала:

— Параніліся?.. Як жа гэта вы? — Так-сяк пры яе дапамозе я падняўся на ганак, сеў на лаў-

ку; яна адступілася чуць убок, дадала: — Павечару ўчора ехала з Курганіхі, дык мяне запынілі хлопцы, геадэзісты, сказалі, што рабочы не вярнуўся з тайгі... Бядуюць... Прасілі, каб я памагла шукаць... А вы, дзякуй богу, самі прыблукаліся.— І насцярожана, па-змоўніцку, перайшоўшы адразу на «ты»: — Толькі ж во што, хлопец, паабяцай мне, што нічога пакуль не скажаш сваім пра Дуню...

— Дуня Асаўцова ў вас?! — радасна ўсклікнуў я.— Дуня тут?..

Жанчына нявесела:

— Тут, у мяне... Хворая яна.

— Дуня — хворая?..— Мне стала горача раптам, млосна, закружылася ў галаве, і, здаецца, каб жанчына не падтрымала, то ўпаў бы.— Дуня... Што з ёй?..— Я хваляваўся.

— Крупознае запаленне лёгкіх... Троху ўжо ачуняла, дзякуй богу, тэмпература спала... Восем дзён блукала па тайзе, блудзіла... Выбілася з сіл, знайшла яе ў непрытомнасці... Ач пачуў сабака мой, прывёў да яе. Ён і цябе, бачыш, пачуў першы.

— Дуня ў вас, тут?!.— я ўсё яшчэ не верыў, баяўся ачуцца, памыліцца, таму і перапытваў. Уявіў Дуню — і мне проста нецярпелася ўбачыць яе.— Яна тут, Дуня?.. Асаўцова?

— Дзе ж ёй быць?.. У мяне яна, жыва-здарова,— голас жанчыны пагучнеў — прыемны голас, голас добрага чалавека.— Прасіла расказаць начальніку, Сінёву, што яна ў мяне, а я не расказвала. Учора заехала, а начальнік у горад паляцеў... Толькі, я думаю, не трэба расказваць — хай яна добра паправіцца.

— Дык вы назнарок абыходзілі нас?

— Абыходзіла,— жанчына сумелася.— Не хацела, каб лішне турбавалі хворую... Я ўмею лячыць, травы ведаю. Ды і дакторку два разы прывозіла ўжо, уколы сама рабіла... Ёй няблага тут — усім давольная. А як вы параніліся, што з нагой? — зноў на «вы» перайшла.

— Прабіў ступню...— І тут я здагадаўся, што пастка, у якой мне давялося пабыць, пэўна ж, ёй і належыць, жанчыне гэтай, і наўпрост, хоць ні-

быта і жартам, але папракнуў: — Чабулдыхнуўся ў вашу лоўчую яму, а там цвік быў у аполку... Чакаў мяне.

— А госпадзі!...— Твар жанчыны заліўся чырваннню.— Ну во — трэба ж...— вымавіла як не ў адчаі.— Кожны дзень правярала, а ўчора не змагла — у Курганіху ездзіла.

— Значыць, ваша збудаванне?..— здаецца, я нават зазлаваў.— І вы маеце на яго афіцыйны дазвол?

— Жыву тут — гэта і ёсць дазвол,— на дзіва спакойна і ўпэўнена адказала яна.— Дзікі траплялiся, алені, казулі, кабарожкі, зайцы... Гэты раз наструніла на кабарожку. Мяса кабарожае — у-у, цалебнае, для Дуні якраз...— неяк ураз ажывілася, нават усміхнулася.— Рабіла на мядзведзяў. От яны — хітрыя, абыходзяць пастку, ніводзін не ўваліўся...

Я перабіў яе:

— У мяне да вас просьба: там, у яме, засталося ізюбраня... Калі ласка, не забівайце, аслабаніце і выпусціце — хай жыве.— Дастаў грошы, тыя, што Сінёў на пакупку барана даў.— Для Дуні мяса я куплю: прадайце нам адну авечку,— падаў ёй грошы.

Грошай яна не ўзяла, стрымана ўсміхнулася, сказала:

— Кажаце, гуранчык злавіўся?.. Упершыню... А як жа — яго выпушчу. Гуранаў у нас не так і багата. А кабарожкі — гэтых развялося... Я гляджу, каб рысь падоўгу не затрымлівалася тут. Рысь — галоўны знішчацель кабарожак. Мінулай зімой я ажно трох рысяў упалявала.

Я зноў сваё:

— Дык вы, калі ласка, выпусціце ізюбраня. Самі не зможаце, то хлопцы прыйдуць і дастануць. Я прашу вас...

— Сынок, схавай грошы — у мяне грошай поўна і без тваіх,— усміхнулася,— дзіўная нейкая: і на «вы», і на «ты» звяртаецца.— Не хвалюйся — дастану гуранчыка і выпушчу, без хлопцаў,— пагляд цёплы, шчыры.— Ласёнак быў во так злавіўся, ножку павярэдзіў... Прынесла яго двору, у хлеў зачыніла. Паправіўся калі, то вы-

пускала, заводзіла далёка ў тайгу, а ён кожан раз назад прыходзіў, сам. Так і застаўся, вырас — і цяпер мне служыць.— Яна мацней, як да гэтага, узяла мяне за падпашша, сказала: — Хадзем ужо ў хату, хадзем... Пагляджу, што ў цябе з нагой... Не бойся — вылечу тваю больку. Я ўмею лячыць.

Так-сяк прайшлі сенцы, бо мыліцу пакінуў на ганку. Я сам адчыніў дзверы ў хату, пераступіў парог і паклікаў:

— Дуня?!. Асаўцова!

Жанчына ўвішна абагнала мяне і схавалася за шырмай, а я застаўся стаяць у парозе, трымаючыся за вушак.

— Дуня, знайшоўся ён... Знайшоўся! Да нас выйшаў... сам!

— Лёшка! — усклікнула радасна Дуня. І затым — ціха: — Паліксена Архіпаўна, падайце халат... Ой, і люстэрка... Падымуся,— і зноў да мяне, гучна, узнёсла: — Лёшка, няўжо і праўда — ты?.. Чую твой голас — і не веру, думаю, мне сніцца... Адкуль ты? Як сюды трапіў?.. Пачакай, я зараз выйду.

А Паліксена Архіпаўна (дык гэта яна тая сама Паліксена, пра якую мне расказваў пастух Бадма?) буркліва, як маці:

— Нялёгка яму чакаць — параніўся чалавек...— І як не лётма выхапілася з-за шырмы, усадзіла мяне на ўслон і адразу ж узялася «разбінтоўваць» ступню, асцярожна прытрымліваючы нагу свабоднай рукою. Агледзеўшы рану, здзіўлена, ураджаная, спытала: — Чым жа гэта ты прыклаў? Зямлю паліў, ці што?..— расцёрла ў шчопці набрынялую крывёю і падобную на высахлую гліну прысыпку.— Хм, не прыкарэла да раны... Хто цябе навучыў гэтак рабіць? — І ўсё зіркала на мяне знізу ўверх, лавіла мой позірк, які быў, канечне ж, скіраваны на шырму: я няўцерпна чакаў, калі ж выйдзе Дуня.— Ай не чуеш? — жанчына ўсміхалася.— Хто, пытаю, навучыў зямлёй паленай рану прысыпаць?

— Тут не толькі зямля — порах і сера ад запалак...— я мільгам глянуў на рану і аж скалануўся: уся ступня была ў сухіх крывавых пацёках.

— Пацярпі трошкі, пацярпі...— Паліксена Архіпаўна паднялася, прайшла да стала, што быў у парозе пры акне, якраз насупраць печы, узяла кухонны нож і стала вастрыць яго аб цагляны брыж загнета — раз цярнула, другі, трэці: шырх-шырх-шырх.

«Ну — не! Калі ты, цётачка, надумала з такім нажом у рану лезці, то ж я магу і не дацца,— хоць і не сур'ёзна падумаў, жартам, а ўсё ж насцярожыўся не на жарт.— Навошта ёй нож? Што яна хоча рабіць ім?»

Ні слова больш не сказаўшы, яна ўхапіла з-пад лавы белую эмаліраваную місу і амаль як не трухам выбегла з хаты. Я паспрабаваў быў прасачыць за ёй праз акно, ды якраз у гэты момант выйшла з-за шырмы і паўстала перада мною Дуня: знаёмы цужок вяснушак на носе-кірпе, пахмурная насцярожанасць міжброўя, замілаваная прыжмуранасць вачэй...

Як ні ўзіраўся ў яе, а не падобна было, што яна цяжка хварэла — твар здарова свежы, румяны, з лёгкім загарам і... усё такі ж, як і раней, адухоўлена ўзнёслы, засяроджаны — амаль як і пры нашым расстанні, калі я заскочыў на хвіліну ў склад. Рукі яе тады, адна і другая, помню, церабілі ражок квятастай хусцінкі, завязанай пад бараду — «хаткай».

А цяпер... Якая яна цяпер? І цяпер, здаецца, усё ў ёй ранейшае, нават гарусоўка тая ж, адно не завязана, а накінута на плечы. Разам з тым і нешта новае з'явілася, адметнае: трывогай і радасцю поўніцца глыбокі пагляд яе, хваляванне і ўзбуджанасць выяўляюць рукі, хоць яна і трымае іх свабодна, далонямі настрэч і чуць сагнутымі ў локцях. Рахманасць і дабрыня, ашчада, рупнасць і ўвага — усё ў гэтай яе паставе, тут уся яна сама!

Колькі часу мы глядзелі вось так, адно на аднаго, маўкліва і даверліва, аддана, не магу сказаць. Помню толькі, калі ў хату зайшла гаспадыня, трымаючы місу перад сабой, Дуня сядзела побач са мной на ўслоне, і я супакойваў яе, прасіў не плакаць, а яна ўсё роўна плакала — ніяк не магла суняцца.

— От жа — сказана, дзеўка,— як бы між іншым кінула гаспадыня, добрая Паліксена Архіпаўна, падакарала: — Сустрэліся — і дзякуй богу. Не плакаць — радавацца трэба!.. Або-о, Дуня, чаго разрумзалася, а? Досыць, не смяшы нас... Хопіць.

Дуня і праўда неўзабаве аціхла, паклала руку мне на плячо. Тым часам Паліксена Архіпаўна зноў апусцілася наўколенцы перада мной, паставіла на падлогу місу, накрытую зверху чыстым абрусікам.

«Што гэта? У яе руках усё той жа самы нож?..» — Мне аж холадна стала, і я рэзка адвёў нагу ўбок, неасцярожна адвёў — боль працяў мянем ўсяго, і так, што ў вачах пацямнела.

Дуня таксама затрывожылася, схілілася і стала назіраць за рухамі Паліксены Архіпаўны.

— Вады яму дай... Хуценька, ну! — строга распарадзілася «дакторка». І да мяне: — Ціха ты, брыкун, не тузайся — пацярпі... Баліць? Зараз не будзе балець, не будзе... Гэта ж во каўбушок авечы, а ў ім — траўка таежная, цалебная...— Яна павалі, уладна прыўзняла маю нагу і апусціла яе ў нешта прыемна-цёплае, мяккае. Спытала тут жа: — Ну як? Цёпла назе? Во так і сядзі...— І да мяне нарэшце дайшло, што ў місе авечы шлунак, яна прапарола яго нажом, усунула туды маю ступню, прадбачліва зноў укрыўшы місу абрусікам.— Каўбушок астыне, рану прамыем траўкамі-зёлкамі — і ўсё, праз тыдзень бегаць будзеш.

Дуня стаяла перада мною з конаўкай вады, рука яе прыкметна дрыжала. Паліксена Архіпаўна забрала ад яе конаўку і аднесла назад, у парог, паставіла на суднік, сказала:

— Самавар распалі, чаю нагрэй... І накармі, бо ён жа, мусіць, галодны, а? — Зірнула ў мой бок.— Гаварыце тут, радуйцеся... Збегаю ізюбраня выпушчу,— узяла вяроўку, што вісела ў парозе на круку, і выхапілася з хаты.

# ЭПІЛОГ

Шчасце — гэта быць з прыродай,
бачыць яе, гаварыць з ёй.

*Л. Талстой*

Каторы ўжо год мы жывём у Баргузінскай тайзе.

Мы — гэта не толькі я з Дуняй ды Паліксена Архіпаўна. Дружны калектыў наш, сямейны калектыў, папоўніўся за гэты, не сказаць каб і вялікі час, аж на дзве душы: Дуня нарадзіла мне сына і дачку. Арцёмку ўжо — якраз во на Кастрычніцкія святы, 7 лістапада,— споўнілася пяць годзікаў, Аленцы — трэці пайшоў. Арцёмка з твару — копія маці, затое Аленка ўсё маё падабрала, нават радзімка на шыі ёсць, як і ў мяне акурат.

Растуць наступнікі нашы, радасць і ўцеха, а мы — смеху варта! — усё яшчэ не аформілі свой шлюб, не зарэгістраваліся ў сельсавеце: пашпарты чысценькія, амаль як і душы іх уладальнікаў, як вада ў Жураўі-возеры, як паветра ва ўрочышчы Ведзьміны Мётлы...

Невыезна жывём, аседла. Заможна і бясхмарна.

Нядаўна перасяліліся з пахілай, урослай у зямлю хацінкі ў новую, светлую і — хоць у футбол гуляй — прасторную пяцісценку з рускай печчу і грубкай-ляжанкай. Маем добры прысядзібны ўчастак, з пасекай і дзвюма цяпліцамі пад агуркі і памідоры, карова ёсць, дзве казы, пабольшала апошнім часам авечак, гусей, курэй... Канечне ж, без Паліксены Архіпаўны наўрад ці мелі б гэта — яна ўсяму завадатар. Служыць ёй верай і праўдай усё той жа сахаты, Бучуй, які, зрэшты, паранейшаму і ў плузе ходзіць добра, і ў калёсах, і сядла не цураецца, але, праўда, запрагаць даецца толькі Паліксене Архіпаўне. Мяне і блізка не падпускае, так і целяе ўбрыкнуць, прытым не заднімі нагамі, як гэта робіць конь, а — пярэдняй, правай: выкідвае яе тырчком, даволі рэзка і нечакана — навылёт праткнуць можа. Прызнацца, я пабойваюся яго. Па мне, дык з радасцю завёў бы каня, ды Паліксена Архіпаўна як толькі льга аба-

раняе Бучуя, любімца свайго. Ужо другі раз прыязджаў навуковы супрацоўнік з ласінай звераферты, падрабязна запісваў расказы пра характар і звычкі Бучуя, сцвярджаў, што лось — такі звер, які цяжка адамашніваецца, а гэты, маўляў, проста феномен. А яшчэ супрацоўнік (наіўны чалавек) упрошваў мяне ўгаварыць Паліксену Архіпаўну аддаць ласях на звераферму. Помню, ён нават даказваў, што ў Бучуя нібыта асаблівыя гены (выключэнні такія бываюць!) і што можна будзе вывесці новую пароду ласёў, якія лёгка адамашніваюцца.

Бясхмарна жывём мы тут, суладна. І, канечне ж, з перспектывамі на далейшае. От ужо, што праўда, то праўда — з перспектывамі. І адна з такіх нашых перспектыў, бадай, самая надзённая: Дуня зноў нарыхтавалася ашчаслівіць мяне... Па ўсіх яе падліках яна мусіць нарадзіць недзе акурат пад новы год. Сёння ў нас — 17 лістапада, зіма самая сапраўдная, з мяцеліцамі і маразамі!

Так, зіма...

На дварэ сцюжна і завейна, а ў нашай хаце — рай, цяплынь... Лета! І ў гэтым ЛЕЦЕ — жоначка мая, Дуня, расцвіўшая кветка, я гляджу на яе і не магу нарадавацца: сэрца ўзрушана шчаслівай трывогай.

Арцёмка і той здзіўлены з такой незвычайнай перамены ягонае маці. Але ён па-свойму здзіўлены, па-дзіцячы.

— Мама,— разважліва кажа ён,— твой жывоцік і за мой большы, і за татаў, і за бабусін... Ты дужая, праўда ж?

— Праўда, сынок, праўда. От скора пайду ў тайгу і адбяру ў мядзведзяў хлопчыка... Хочаш брацікa?

— Хачу.

— Ну во — будзе ў цябе брацік.

— Ты, мама, адна не хадзі ў тайгу, бо мядзведзі страшныя,— уражліва кажа Арцёмка.— Разам з татам лепш,— і паспешліва: — А хто мядзведзям дзяцей дае?

— Яны іх самі знаходзяць.

— У тайзе?

— Ага, у тайзе... Пад елачкамі.

— Раскажы, мама, як ты мяне адабрала ў мядзведзяў.

— Як?.. Ішла па лесе, глянула на палянку, аж усе вялікія мядзведзі спяць на сонейку, а іх дзеткі-няўседкі, малыя мядзведзікі, турзаюць цябе за ручкі, крыўдзяць...

— Яны дрэнныя, малыя мядзведзікі?

— Не, сынок, усе малыя, мядзведзі і людзі, добрыя... Мядзведзікі прымушалі цябе гуляць з імі, а ты хацеў спаць і плакаў... Ну, я за цябе — і ўцякаць. Мядзведзікі паднялі лямант, пабудзілі дарослых. Тыя кінуліся ўслед за мною, ды я ўжо далёка адбеглася, і яны не дагналі мяне. А тут якраз і татка твой вярнуўся з Курганіхі, убачыў цябе, радуецца, што такі добры сынок у яго паявіўся.

Арцёмка задаволены расказам маці, бярэ з акна кедравую шышку, пытае:

— Мама, а чаму шышка раз'ёжылася так? Паглядзі, яна на мядзведзіка падобна, праўда ж?

— Раз'ёжылася так, бо высахла,— Дуня ўзяла ад Арцёмкі шышку, ціха стукнула ёй па стале.— Паглядзі-тка, сынок, якія з яе арэшкі-пацешкі выпалі, бачыш? Бяры малаток і паразбівай іх, дастанеш смачныя-прасмачныя ядзерцы.

Арцёмка пачаў разбіваць малатком арэшкі, а Дуня ўзялася карміць Аленку. Тая ўсё з'ела, але ўзвар заўпарцілася піць, адсунула шклянку ўбок.

— Гэта што за фокусы, Алена?

— Там, на донцы на самым, жук,— Аленка грэбліва торкнула пальчыкам у яблычную семку, якую было відаць праз шкло.

— Бацька, ты хоць трошкі пасарамаці сваю дачку — нязнайкай расце, яблычную семку жукам называе.

Я ўзяў шклянку, маргнуў Аленцы і выпіў узвар, семку таксама з'еў. Аленка гэтага і хацела — здаволена смяецца і тут жа выдае сябе:

— Бабуля мне ліманаду, казала, прывязе. Узвару вашага не хачу, а ліманаду нап'юся от пастолькі,— паказала на шыю.

— Якая ты ў нас!..— Дуня пакінула застолле, пачала прымаць са стала посуд.— Думаеш, бабуля Паліксена адной табою і будзе займацца? Не-а,

галубка, я скажу ёй, каб не дужа песціла цябе. Накладзіста за паўсотню вёрст ліманад вазіць... Падумаеш, ліманадніца! Не спадзявайся, не дам у крыўду бабулю.

— Я і на Бучуя спадзяюся. Ён дужы. Бабулю хутка возіць... Мне ўчора бабуля сказала, што прывязе ліманаду — і прывязе. Мы з ёй шушукаліся, а вы не чулі... І лялю мне купіць бабуля, от!

— Ляляў у цябе і так многа.

— І яшчэ адна будзе — барыня-сударыня!

— Эх, дочка!..— Мусіў і я абнадзеіць Аленку.— Снегу больш падпадзе, то я таксама ліманад буду прывозіць, на аэрасанях.

— І марожанае?..— радасна акругліла вочы Аленка.— Многа-многа марожанага! Будзём з Арцёмкам марожанае есці... Бу-удзе-ем е-есці-і маа-ро-ожа-анае-е!..— аж заспявала яна.

— Слухай ты яго, дочка. Бацька твой з гэтымі аэрасанямі ўсё лета праняньказаўся і зіму пранянькаецца. Знайшоў сабе цацку,— здзекліва кажа Дуня, а ў вачах — дабрыня, ласка, замілаванасць,— і забаўляецца — як няма другой работы яму.

— Няпраўда, маці, няпраўда: сані, лічы, гатовыя ўжо!

— Ну, можа, Сінёў і памог, а сам бы ты не даў рады.

— Якраз такі сам!

— Ага ж, сам. Добра рабіць, калі Сінёў і матор прывёз, і ўсе кранштэйны, і вінт...— прыжмурылася.— Мяне дзівіць адно: ну вот за што ён цябе так любіць, Сінёў?

— А ты нібы і не здагадваешся? За што... Калі не здагадваешся, то магу сказаць.

— І скажы.

— Сінёў за тое мяне абагаслаўляе, што збавіў яго ад цябе.

— Ты не жартуй, я — сур'ёзна пытаю.

— А я — сур'ёзна таксама. Падумай: яму лёсам наканавана была Зінаіда Паўлаўна, так? Дзе ён мог з ёй сустрэцца? Калі?.. Памог Кружлік, якому дзеля гэтага трэба было ехаць у Місхор, пазнаёміцца там з Зінаідай Паўлаўнай, жаніцца з ёй, развесціся...

— Дзіця нарадзіць,— пасміхнулася Дуня.

— Правільна, дзіця нарадзіць. Як бачыш, бог ці чорт, але толькі ж нехта з іх тысячу пар лапцей стаптаў, пакуль звёў у адну сям'ю Івана Сцяпанавіча і Зінаіду Паўлаўну. Так?

— Дапусцім.

— А што атрымалася б, калі б ды яшчэ ты ўмяшалася ў гэты іх няпросты варыянт?.. Ты мая, лёсам мне наканаваная? Рашуча заблытала б усё, аддаліла б нашу сустрэчу... Яно ж, канечне, я таксама не сядзеў бы, як святы ўгоднік на прызбе, і пакуль ты расчароўвалася б у Сінёве, я тым часам раскашаваўся б дзе-небудзь на пярынах Чонгі Нумбаевай...

Дуня нечага раптам узрушылася — агеньчык рэўнасці заіскрыўся ў вачах, сказала:

— Не памінай мне Чонгу!.. Ніколі больш не памінай, прашу.

— Чаму гэта?

— Сам знаеш чаму.

Я, канечне, назнарок прыкінуўся няўцямцам, сказаў:

— Чонга для мяне... ну — як для цябе Сінёў.

— Як для мяне Сінёў? — шчокі ў Дуні заружавеліся, агеньчык у вачах паярчэў.— Я з ім не начавала ў адным пакоі, як ты начаваў з Чонгай... Ды ён і не такі гуляй-вецер, як ты... І пісьмаў я не пісала такіх, якое яна табе напісала, а ты старанна зберагаў... Усё ў цябе з ёй было, усё... Толькі ты віляеш, баішся прызнацца. Каб не было, то навошта б ёй расшукваць цябе тут? Турыстка... Нахабніца яна! Думала, прыедзе — і можна будзе ў лесе паблудзіць на пару... Аж не ўдалося.

— Не ўдалося, бо гэтага ні я, ні яна не хацелі.

— Так і паверу — не хацелі... Я адразу здагадалася, калі яна толькі на двор узышла, па што прыехала... Каб не Сінёвы — іх пасаромелася, не стала перад імі цябе няславіць — выперла б я такую госцю памялом! — Дуня разышлася як мае быць.— Ну вот скажы, што не нахабніца яна? Колькі дзён круцілася, шукала між намі шчылінку, думала, пралезе, а тут — не-е... Дружалюбкай прыкінулася, клапатлівкай. Напішы, каб не слала кнігі, не трэба нам яе кнігі.

— Якраз такі н а м — трэба кнігі. І пакуль маці яе працуе ў бібкалектары, я спакойны: кнігі да нас будуць паступаць раней, чым у нашу сельскую бібліятэку... А ўрэшце, як разумець цябе? Успомні, ты ж сама адваліла ёй аж дзве сотні на кнігі, а цяпер адмаўляцца? Не, Дунятка, кнігі — мая прафесійная слабасць... Я ж бібліятэкар, не магу без кніг. І на Чонгу не крыўдуй — яна дзяўчына што трэба,— пасміхнуўся,— з вялікай літары!

Ну так, гэтае маё кароннае «Дунятка» падзейнічала станоўча: жончын пагляд знаёма зацепліўся, вусны кранула прымірэнчая ўсмешка.

— Я веру табе... Мне падабаецца, што ты так думаеш пра яе. Але ўсё роўна не хачу, каб яна зноў тут калі-небудзь аб'явілася.

— Нават з законным мужам?

— Была ў сабакі хата...

— Навошта ж так груба, Дуня?

— Наадварот — ветліва.

— Гэта не ветлівасць... Гэта прыкрая, застаялая рэўнасць.

— Як хочаш разумей.

— Охо-хо-о...— я глядзеў на Дуню і ўсміхаўся.— Рэўнасць — тая ж самая хвароба, зацяжная, можа, нават невылечная.

— Ой-ой... Айбаліт аб'явіўся!..— рассмяялася голасна Дуня, аклікнула Аленку: — Паглянь, дочка, на татку свайго: бачыш, які ён?

Аленка насцярожылася, спытала:

— Які, мама?

— Вельмі сур'ёзны.

Алена і сама ўраз зрабілася сур'ёзная, паківала пальчыкам у мой бок:

— Татуля, не крыўдзі маму,— хітнула галоўкай, сказала патрабавальна: — Хачу бабулю сустракаць — хадзем, татуля, да возера.

— І я з вамі! — Арцёмка тут жа пачаў апранацца.

— Мама, памажы мне валёнкі надзець, шубачку надзець, шапачку надзець, вязёначкі...— лепятала Аленка, прытанцоўваючы.

— Збірайся, маці, і ты на прагулку! — закамандаваў я, падступіўся да жонкі, абняў.

— Ідзіце без мяне, мне не хочацца,— аднекнулася Дуня.

— А калі нам без цябе нецікава і сумна? Праўда, дзеці?

— Праўда, татуля, праўда! — Арцёмка паспеў абуцца, апранаў кажушок, спяшаючыся.

Валёнкі, канечне ж, пераблытаў: правы — надзеў на левую нагу, левы — на правую. Я ўзяўся яму памагаць, Дуня — Аленцы.

Выправіўшы дзяцей, пачалі самі апранацца.

Выйшлі.

Паволі сеяўся снег — толькі што пачаўся. Марозу амаль не было, ветру — таксама. Дзеці ўбачылі нас і падаліся да возера, каб адтуль, зверху, назіраць за сцяжынай, што ўецца ўсцяж па заснежанай цясніне. Гадзіну будуць чакаць, дзве — усё роўна дачакаюцца, убачаць бабулю сваю здалёк, загукаюць, загалёкаюць радасна.

— А ведаеш, Чонга і Кружлік —аднаго поля ягады,— вярнулася да ранейшае размовы Дуня, толькі ўжо і Кружліка ўспомніла, і не мімаходзь, а прылучыла да Чонгі, тым самым прынізіўшы яе.

— Так думаеш?

— Проста яны не патрабавальныя да сябе... Гэтым і падобныя. Каб сышліся — шчасліва жылі б.

— Як сабака з кошкай... Хаця Чонгу ■ кошкай грэх параўноўваць. Лічы — агаварыўся.

— Не агаварыўся, не выкручвайся: сказаў, як і думаў.

— Кажу ж, агаварыўся. Чонга — летуценніца. Яна шчырая, бескарыслівая натура.

— Я ж і кажу: каго-каго, а круцёлку гэту добра ведаеш.

— Чонгу не адзін я ведаю. І ты яе добра ведаеш... Ат, пра яе не будзем. Давай пра Кружліка лепш.

— А мне ўсё роўна пра каго... Хоць і пра Шчыгла, пра Гардуноўскага, пра Корнева...

— А што? Чаму б і не ўспомніць — добрыя хлопцы. Жывуць нялёгкім вандроўным жыццём. Гардуноўскі з Ганорай аж на Дзіксане апынуліся... Праўда, маці яго памерла...

— Чакай, а нехта ж яшчэ быў?..— задумалася Дуня.

— Вуцёха быў.

— Не, апрача Вуцёхі... Той, што на зямлю сваіх продкаў вярнуўся.

— Толя Міхалёў.

— Бачыш, зямляк, а маўчыць, нічога не піша.

— Відаць, няма пакуль чым хваліцца... Слухай, а давай усё ж пра Кружліка, а?

— Ты мне лепей скажы, пра якую гэта Мучукту Сінёў гаварыў? Ты што, бачыў яе таксама?

— От Мучукты мне не давялося пабачыць... Гэта другая жонка Кружліка. Нарадзіла яму блізнят, абрадавала.

— Як бы і мне так падладзіцца? — усміхнулася Дуня.— Не баішся? У маёй цёткі былі блізняты. Так што — і я магу блізнят нарадзіць.

— Хоць і тройню — утрая рады буду.

— Ну во, а я ўсё не рашалася. Дзякуй за натхненне.

— Дунятка, бачу, нам з табой толькі й жыць тут, у Ведзьміных Мётлах, у пракаветнай глушы... Вялікія сем'і цяпер у Еўропе не модна заводзіць. То, можа, яна нам і не трэба, Еўропа? Заснуём на базе метэастанцыі сваю вёску і назавём яе якой-небудзь Бокушаўкай ці... Асаўцамі. Згода?

— Аляксееўкай лепш,— тоўхнула плечуком у маё плячо Дуня.

— А мо проста: Дунятка?

— Што нам варажыць? Ужо ж ёсць назва: Жураўе... Метэастанцыя «Жураўе» — афіцыйна, па дакументах. І на карце так.

— Што нам карта? Скажам Сінёву — ён па старой дружбе выправіць на «Дунятка». Абы твая згода.

— Кінь дурное,— і Дуня махнула рукой, зачапіла незнарок мне па шапцы, і шапка ўпала. Я не стаў падымаць: як ішлі, так і не спыніліся.— У Мінску ты, канечне, фарсіў бы вось так, без шапкі... Уяўляю, што гуляем мы з табой і дзецьмі па Ленінскім праспекце.

— Прабач, але такое не магу ўявіць, бо з табой я не прагульваўся па Мінску. Ды і чаму я павінен такое ўяўляць? Я не з тых, каго радуе

перанаселенасць, перамашыненасць, загазованасць і тэ-дэ і тэ-пэ... Магу, канечне, уявіць мінскіх дзяўчатак і незамужніх жанок з туманам і паволокай у вачах — сумуюць, гаротніцы, ад таго, што ўсе больш-менш прыстойныя мужчыны, не п'яніцы, захапіліся камфартабельнымі лімузінамі, а пра іх, халастух, забылі...

— Што, няўжо завідкі бяруць? Яны, значыць, лімузінамі занятыя, а ты іх каханкам спачуваеш? Рыцар!.. Ужо вунь лысець пачаў, а ўсё халастухі ў галаве... Баравік стары, каму ты трэба?!.— Дуня залівіста рагатнула, дадала:— От станеш зусім лысы, як калена, тады і ў Мінск можна будзе ехаць. А не — да нас, на Нярусу... Не рака — казка!.. І лес побач, такая ж вось тайга.

— І ў Мінску пабудзем, і на Нярусе рыбку палові́м — хай толькі дзеці падрастуць. А шчыра — мяне ўсё яшчэ ў сваю Стрыжанку цягне — клічуць сцежкі маленства. Баюся, што прыедзем, а яе ўжо няма, вёсачкі маёй... Аднесена ў неперспектыўныя.

Дуня спынілася, азірнула наваколле, узнёсла сказала:

— Ты паглянь толькі, Лёшка, як тут у нас цудоўна!.. А хата якая?! Харомы цэлыя! А работа?.. Улічы, не так ужо многа метэастанцый на БАМе. Мы з табой прыкметныя людзі, патрэбныя БАМу... А галоўнае — не забывай: гэта ж родны куток нашых дзяцей!.. Самае дарагое для іх месца на зямлі, запаветнае... То няўжо я пакіну гэты куток? Ды нізавошта!

— Не забывай, неўзабаве прыйдзе такі час, калі дзецям у школу трэба.

— Прыдумаем што-небудзь. Да трох класаў можам самі вучыць, а потым — у школе-інтэрнаце будуць.

— Ніхто табе не дазволіць самой вучыць.

— Дазволяць... Я так думаю: калі ўжо абжыліся, дзяцей займелі, то і будзем тут жыць. Не трэба мне раскошныя гарадскія харомы на дзесятым ці на якім там паверсе, не хачу лёгкага жыцця... Хаця — і гэта, наша жыццё, не лічу цяжкім. Суровае — так.

— Праблемна думаеш, па-сучаснаму. Згодзен

з табой, Дунятка: лепшага месца і не трэба шукаць. Мне падабаецца тут.

Падбегла Гуля, яна трымала ў зубах маю шапку.

— Дзякуй, памочніца,— я ўзяў ад яе шапку, надзеў. Гуля радасна скокнула перада мною, крутнулася і патрусіла да дзяцей.

— Гуля разумее цябе, здаецца, лепш за мяне...

— Яна і цябе разумее, і дзяцей... Не ўяўляю, як бы мы без яе былі. З ёй нічога ў тайзе не згубіш — знойдзе і прынясе... Я табе не расказваў? Гэта ж, калі мы скончылі работы і сабраліся ад'язджаць, дык Вуцёха чуць быў не звёў яе са свету — футра спадабалася яму. Я ўзяў Гулю на павадок і ўжо не адпускаў ад сябе, пакуль і сюды не прывёў.

— Які ты ў мяне ўсё ж задавака!..— Дуня жартам тоўхнула мне ў грудзі рукою, аступілася.

— Асцярожней, маці.— Я ўтрымаў яе, прытуліў да сябе і пацалаваў у шчаку — якраз між шаўкавістых завіткоў, што выбіліся з-пад сабалінай шапкі-даўгавушкі і струменілі прыцягальны рамонкавы пах.— Ты мяне любіш?

— Не чапіся, адстань.

— Любіш?.. Ну, гавары.

— А ты?..— Дуня гарэзна глядзела мне ў вочы; таемна-прызыўная смяшлівінка кранула куткі яе поўных вуснаў — і падалося, нібы мы зноў вярнуліся ў сваё першае лета, незабыўна-прывольнае, бясконцае лета нашай маладосці.

**Масарэнка А.**

М 31 Баргузінскае лета: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 350 с.

У пер.: 1 р. 40 к.

У рамане расказваецца пра рабочых-геадэзістаў, якія працуюць у адным з раёнаў БАМа.

Аляксей Вокуш, галоўны герой твора, шукае сваё месца ў жыцці. Яго вабяць далячыні, тайга, нязведанае. Ён не губляецца перад нялёгкімі дарогамі, не збочвае з абранага ім шляху.

Прырода суровага сібірскага краю і людзі, з якімі давялося сумесна жыць і штодзённа працаваць ад цямна да цямна, рамантыка таежных вандровак, без чаго ўвогуле немагчыма прафесія геадэзіста,— усё гэта пакідае ў душы героя непазбыўны след.

М $\frac{70303-040}{М\ 302(05)-82}$ 14—82

ББК 84 Бел 7

Бел 2

*Александр Герасимович Масаренко*

***Баргузинское лето***

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар М. М. Ваданосаў.
Мастак Г. Р. Малышаў.
Мастацкі рэдактар А. І. Труханава.
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч.
Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 1250

Здадзена ў набор 15.05.81.
Падп. да друку 28.12.81. АТ 07720.
Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 2.
Гарнітура школьная. Высокі друк.
Ум. друк. арк. 17,16. Ум. фарб.-адб. 17,36. Ул.-выд. арк.
17,77. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1664. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР
па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне
імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.